## ПЕСНЯ ПРА НЁМАН

Музыка *Нестара Сакалоўскага*
Словы *Анатоля Астрэйкі*

*Ой, Нёман, і слава, і песня*
*Народа майго і зямлі,*
*Магілаю ворагам цеснай*
*Не раз твае хвалі былі.*

*Рака наша слаўная Нёман,*
*Чысцейшая чэрвеньскіх рос,*
*Хто мар не ўплятаў у твой гоман,*
*Табе хто пашаны не нёс.*

*Ой, Нёман, ой, бацька наш родны,*
*Як сонца, як дзень дарагі,*
*Садамі цудоўнай Радзімы*
*Твае расцвілі берагі.*



# Бацька наш Нёман

*вершы*
*апавяданні*
*нарысы*
*эсэ*





Мінск
«Юнацтва»
2001

## *«ЯК СОНЦА, ЯК ДЗЕНЬ, ДАРАГІ!..»*

*Прырода... Без яе мы не можам пражыць і дня. Колькі дзівосных хвілін дарue яна нам у любую пару года: зімой і вясной, летам і восенню. Мы зачароўваемся прыгажосцю яе лясоў і палёў, лугоў, азёраў і рэк.*

*А рэкі — сапраўдныя артэрыі, якія сілкуюць сваім жыватворным бальзамам усю прыроду Беларусі. Без іх нельга ўявіць нашы прасторы — палі, лясы, лугі, дубровы... Дняпро і Прыпяць, Бярэзіна і Вілія, Дзвіна і Нёман... Ім асаблівая пашана, бо яны — як візітныя карткі нашай краіны.*

*Але тое, што выдавецтва «Юнацтва» распачало выпуск кніг пра рэкі Беларусі і першае месца аддадзена Нёману, невыпадкова. Ён мае поўнае права на яго. Гэта наша адзіная вялікая рака, якая бярэ выток на зямлі Беларусі, а менавіта, на Мінскім узвышшы, непадалёк ад Узды. І на працягу каля 500 кіламетраў цячэ па тэрыторыі нашай рэспублікі — Мінскай і Гродзенскай абласцей, а затым амаль столькі ж — па Літве, аж пакуль не ўпадае ў Балтыйскае мора.*

*Нёман... Хто яго толькі не ўслаўляў, не складаў яму песні! З сівой даўніны і да нашага часу прысвячалі і прысвячаюць яму свае творы паэты, празаікі, кампазітары розных краін і народаў.*

*Тут, у гэтай кнізе, чытач пазнаёміцца з імі.*

*Але ж Нёман — не проста рака, якая цякла, цячэ і будзе цячы па Беларусі. Ён — сведка многіх падзей, што прайшлі па нашай зямлі, асяродак, дзе жылі знакамітыя людзі свайго часу. І гэта, варта адзначыць, добра адлюстравана ў зборніку.*

*І дзе на свеце ёсць такая,*
*Як Нёман, рэчанька другая?*
*. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .*
*У воду войдзеш — шчасце раю,*
*Я шчасця большага не знаю... —*

*так выдатна сказаў Якуб Колас у паэме «Новая зямля».*

*М. І. РУСЫ, міністр прыродных рэсурсаў*
*і навакольнага асяроддзя Рэспублікі Беларусь*

## Уладзіслаў Сыракомля

# НЁМАН АД ВЫТОКАЎ ДА ВУСЦЯ

Мабыць, не будзе абыякавай для ліцвінскага чытача «Манаграфія ракі Нёман ад яе вытокаў да Коўна»*, якая папярэднічае перапрацаваным і адрэдагаваным «Нататкам падарожжа на віціне з Коўна ў Крулявец». На нашу думку, неабходна ахапіць усю карціну Нёмана з яго тапаграфіяй, гістарычнымі ўспамінамі і накідамі пра мясціны, па якіх ён плыве.

Мне хацелася зрабіць больш дакладную этнаграфію наднёманскіх жыхароў, апісанне зямлі, па якой ён плыве, з пункту гледжання геалогіі і земляробства, даць дакладную характарыстыку тутэйшага гандлю, апісаць старыя замкі, раскапаць хоць пару курганоў, змерыць вышыню пагоркаў і глыбіню вады, — адным словам, звярнуць увагу на кожную падрабязнасць, кожную дэталь, якіх тут мноства. Аднак сваю задумку цалкам адолець я не змог: некалькі кніжак, некалькі ўлас-

---

* Гэта частка працы вядомага беларуска-польскага паэта Уладзіслава Сыракомлі (Людвіка Кандратовіча), якая называецца «Нёман ад вытокаў да вусця» і выйшла на польскай мове ў 1861 годзе ў Вільні. Да нашага часу яна не перакладалася. На беларускую мову пераклаў яе Пятро Стэфановіч, і ўпершыню змяшчаем тут. Змяшчаем незвычайна: кожнаму з чатырох раздзелаў кнігі папярэднічаюць адпаведныя параграфы «Манаграфіі...» У. Сыракомлі, так, каб чытач змог параўнаць апісанне Нёмана і мясцін на яго берагах беларуска-польскім паэтам, зробленае амаль 150 гадоў назад, і творы сённяшніх аўтараў пра славутую раку.

Звяртаем увагу на некаторыя ўласныя меркаванні У. Сыракомлі наконт вытоку Нёмана і іншыя месцы. Часу прайшло шмат, і гэта ўжо гістарычны матэрыял.

ных успамінаў — гэта быў увесь мой зыходны матэрыял. Яго я сумленна выкарыстаў і за славутым аўтарам **«Новых Афін»**, ксяндзом Бенедыктам Хмялёўскім паўтараю: «Не закідваю сеткі на сірэны і кіты, не атоесамляю марскіх бажкоў Нептуна і Тэтыду, але макнуўшы пяро ў мора, апішу табе, чытач, наш **Нёман** дакладна, каб ты пачэрпнуў грунтоўныя веды.

## § 1

Даўняе ваяводства, а сённяшняя Мінская губерня — гэта калыска нашага Нёмана. У Ігуменскім павеце, недалёка ад вёскі **Даўгінавічы**, з балотаў і лясоў выплывае рэчка **Лоша**. Яна хутка расшыраецца да велічыні нашых сплаўных рэчак трэцяй катэгорыі. У лёгкіх паваротах, амаль проста, як страла, прабегшы дзве мілі ў паўднёвым кірунку, яна крута бярэ на захад, потым ад вёскі Кручкі, падмацаваная ручаём, рэзка ідзе на поўнач і захад ажно да вёскі **Пясочнае**.

## § 2

Тут з правага боку, недалёка ад вёскі **Прысынак**, у яе ўпадае невялікі ручэй, які выплывае з балотаў, і, праплыўшы пару міляў і падсілкаваны вадой рэчкі Усы, ледзьве малой рэчкай назваць можна.

Гэта і ёсць наш ліцвінскі **Нёман**!

І нягледзячы на тое, што Лоша большая, і плыве даўжэй, Нёман, злучаючы з яе плынню свае сціплыя воды, забірае ў яе прозвішча, надае ёй сваё і плывуць яны разам да мора пад сумеснай назвай Нёман.

## § 3

Увесь час плывучы ў паўночна-заходнім напрамку пару міляў, Нёман дасягае мястэчка **Магільна**, якое было калісьці маёмасцю Пацаў, потым нясвіжскіх уладальнікаў — цяпер налічвае каля 750 жыхароў. Тут у

1235 годзе адбылася памятная перамога Рынгольда, вялікага літоўскага князя, над рускімі князямі — друцкім, кіеўскім і ўладзімірскім.

## Анатоль Астрэйка

### Пачатак Нёмана

Малая, здаецца, крыніца,
А вычарпаць нельга да дна.
Шапоча над ёю ігліца,
Ратуе ад спёкі сасна.

Прыходзяць ласі і лісіцы
Звярынай сцяжынкай сюды.
Ніколі лясная крыніца
Для іх не шкадуе вады.

К сасне прылятаюць сініцы,
З замшэлых ялін глухары
Сцюдзёнай вадой асвяжыцца
З крыніцы, што ў нашым бары.

Крынічка спявае, смяецца
І рада між звонкіх сасён,
Што к ёй у люстэрка глядзецца
Прыходзяць бярозка і клён.

А з той невялікай крыніцы,
Як нітачка праз хмызнякі,
Струменьчык вясёлы бруіцца —
Пачатак славутай ракі.

## Уладзімір Кісялёў

# ЯКІ ЁН, НАШ НЁМАН?

Чым за морам віно піць,
лепей з Нёмана вадзіцу.

*Беларуская прымаўка*

Беларусы па праву ганарацца рэкамі Дняпром, Заходняй Дзвіной, Прыпяццю, Сожам. Аддаючы належнае іх велічнасці і непаўторнасці, мы памятаем, што яны толькі «транзітныя» — іх вытокі за межамі Беларусі. З вялікіх нашых рэк на тэрыторыі Беларусі атрымалі «нараджэнне» хіба толькі Нёман, Бярэзіна ды Вілія. Самая ж вялікая сярод іх — Нёман. Нёман для беларуса тое ж, што Волга для рускага, Днепр для ўкраінца, Вісла для паляка.

Пра Нёман, у тым ліку і пра яго частку ў межах Мінскай вобласці, можна гаварыць як пра раку — ўвасабленне лёсу беларускага народа, як пра раку — помнік, раку-сведку. Невыпадкова Нёман справядліва суадносіцца з усім нашым нацыянальным, з беларускай Бацькаўшчынай.

А калі гэта так, то павінен быць у нас недзе і свой «Валдай». На карце не цяжка адшукаць месца вытоку Нёмана — гэта Уздзеншчына. Тут ён зараджаецца, набірае моц і, пакідаючы межы раёна, нясе свае воды да Стоўбцаў і далей на Гродзеншчыну. Але ж не будзем забываць: пачатак ракі-працаўніка, карміцеля, песенніка, воіна — на Уздзеншчыне. А. Якімовіч небеспадстаўна адзначаў, што менавіта ўздзенская зямля дае Нёману свае нескупыя дары, маладую сілу. Без гэтай жыватворнай сілы не разліўся б ён так магутна і шырока на зялёных прасторах Гродзеншчыны і Літвы.

З Беларускай энцыклапедыі ўдакладняем, што Нёман — адна з асноўных рэк Балтыйскага басейна, мае даўжыню 937 кіламетраў (120 міль, ці 841 вярсту), з іх на беларускі працяг прыходзіцца 459 км (49 працэнтаў). Агульная плошча вадазбору — 98,2 тыс. кв. км, з

якіх на тэрыторыю нашай рэспублікі прыпадае 35 тыс. кв. км (35 працэнтаў).

Пачынаецца Нёман адным са сваіх вытокаў — Нёманцам або Неманцо́м — у 52 км на паўднёвы захад ад Мінска ля вёсачкі Верх-Нёман. Упадае ў Куршскі (раней — Кураньскі) заліў Балтыйскага мора на захад ад г. Савецка (былога Тыльзіта). Сілкаванне ракі змешанае, у першую чаргу снегавое.

Рака дае прыстанішча многім відам каштоўных рыб: акуням, плоткам, ляшчам, ліням, карасям, стронгам, галаўням і інш. Нёман у сярэднім і ніжнім цячэннях — месца нерасту рэдкіх парод рыб Балтыйскага мора. Сюды заходзяць для адкорму і пераходу ў іншыя рэкі і азёры вугор, мінога, сіг, судак...

А зараз некалькі слоў пра паходжанне назвы ракі. Нёман — гэта беларуская назва. Такі ж корань маюць і ўсе вытворныя ад асноўнай назвы: Нёманец, Занёманец, Верх-Нёман, Наднёман. Па-руску гучыць Неман (раней Немен ад польскага варыянта назвы ракі).

У палякаў рака завецца Niemen, у немцаў калісьці Memel (па дакументах — Memole), у літоўцаў — Niemonas, Niemunas.

Старажытная лацінская назва Нёмана — Chronus — Chronius — Chronon — паходзіла ад грэчаскага слова, увасабляючага час.

Паходжанне назвы ракі беларускі даследчык-географ В. Жучкевіч тлумачыць балтыйскім naminis — г. зн. дамашні, «наша рэчка». Некаторыя аўтары раней назву ракі звязвалі са словам нямы, г. зн. ціхі, маўклівы. Сапраўды, у межах Мiншчыны гэта даволі ціхая і спакойная рака.

Слоўнік геаграфічны спасылаецца на паданне, згодна з якім назва ракі ўзнікла ад імя выхадца з Італіі (?) Нямона (Немона), які першым вывучаў раку і прайшоў яе ад вусця ўверх па цячэнні. Натуральна, мясцовай мовы ён не ведаў, г. зн. быў нямы.

Польскамоўны часопіс «Каласы» («Kłosy»), які выдаваўся ў мінулым стагоддзі ў Пецярбургу, трактуе паходжанне назвы ракі ад слова «niema» — «няма». Менавіта тут на яе вытоку пры супадзенні Усы і Лошы кожная з рэчак пераставала існаваць, даючы пачатак новай

рацэ і новай назве — Нёману: іх болей няма. Гэта тлумачэнне трэба ацэньваць як мясцовае.

Рускі даследчык А. Пянькоўскі лічыць, што ў аснове беларускай назвы ракі ляжыць стараславянскае слова немыть, г. зн. нешырокі. А беларускі навуковец А. Рогалеў сцвярджае, што слова Нёман складаецца з дзвюх частак: адмоўя не- і каранёвай часткі -ман. Па яго версіі значэнне кораня -мен, -ман — «маленькі, тонкі». Адсюль процілеглае паняцце Нёман — «не маленькі».

Ёсць меркаванне, што на аснове назвы ракі ўтварылася слова «немень» — «мяжа, рубеж». Нёман сапраўды з даўніх часоў выконваў ролю мяжы, якая падзяляла ўсходніх славян, беларусаў ад заходніх славян, балтаў. Акрамя таго, у межах дзяржавы ён быў на значнай частцы натуральнай граніцай паміж намесніцтвамі, губернямі, ваяводствамі, паветамі.

Ад язычніцкіх часоў Нёману аддавалася Божая пашана, у яго гонар былі збудаваныя святыні. Адно з капішчаў знаходзілася ў Літве паміж Мяркіне і Алітусам (Мерачам і Алітай) ля вёскі Неманайце. Менавіта тут высадзіўся той казачны Нямон, які даў назву рацэ і сам быў далучаны да сонму багоў. У ваколіцах Неманайце шмат старажытных магіл-курганоў. У літоўцаў існуе паданне, што яны паходзяць ад нашчадка самога Нярона — Палямона, які прыплыў у вусце Нёмана пасля падзення Рымскай імперыі.

Характарыстыка воднага рэжыму ракі ў многім вызначаецца асаблівасцямі кліматычнай зоны на яе вытоках. Міншчына ўваходзіць у пераходную кліматычную зону ўмераных шырот, г. зн. клімат яе ў значнай ступені вільготны, спрыяльны для развіцця лясоў, а значыць, і для сілкавання вытокаў Нёмана. Снег тут ляжыць каля 112 дзён і калі ён растае, то ў вусці назіраецца другая, так званая «руская» паводка.

Вышэй адзначалася, што вытокам Нёмана з'яўляецца Нёманец, які бярэ пачатак ля вёскі Верх-Нёман. Супадзенне назвы ракі з назвай вёскі не выпадковае, яно толькі пацвярджае месца былога вытоку. Па карце відаць, што вёска гэта ляжыць на паўднёвых схілах Мінскага ўзвышша ў 6 км на паўночны захад ад населенага пункта Лошы.

Па іншых ранейшых запісах выток Нёманца быў у 4 км на паўночны усход ад вёскі Забалацце і мясціўся на ўзвышэнні 194,4 м над узроўнем мора. У летапісе XVI ст. гаворыцца аб «Новогородской державе, над Немном лежащее», якая прасціралася «ад Вилни аж до жродел Неменовых, где ся за Копылем пять миль починается». Усе гэтыя звесткі з большай ці меншай ступенню дакладнасці адпавядаюць рэчаіснасці.

З Тапаграфічнага апісання Мінскай губерні, зробленага ў Мінску ў 1795 годзе: «Нёман арашае намесніцтва (Мінскае) і дастаўляе звыш суднаходства жыхарам гэтых месц велізарную колькасць рачной лоўлі.

Пачатак свой мае з лугавых месцаў ад рачных крыніц, якія знаходзяцца паблізу вёскі Даўгінаўкі, уваходзячай у Мінскі павет, і працякаючы невялікую частку яго, роўна як і паветаў Слуцкага і Нясвіжскага, з якіх у першым спалучаючыся пры вёсцы Крывічы з ракою Лошай, складае пачатковую аснову сплаўкі ў невялікай колькасці лесу, якая праходзіць побач мястэчкаў Пясочні, Магільны, Мікалаеўшчыны, Новага Свержаня і Стоўбцаў, ад якіх да сяла Жукава Барку складае паміж гэтай і Літоўскай губернямі мяжу...

Па гэтай рацэ за галоўную прыстань у Мінскай губерні палічыць можна з вышэй апісаных пасяленняў мястэчкі Стоўбцы і Новы Свержань, хоць суднаходства ў полую ваду прасціраецца можа вышэй; ад іх адпраўленне бывае на суднах, якія завуцца віцінамі і шугалеямі, differently рознага сорту тавараў...»

Па іншых старых даведніках вытокам Нёмана таксама лічылася рачулка Нёманец, якая выцякала з былога ўладання Яна Завішы ў Кухцічах, затым упадала на землях маёнтка «Над-Нёман» у дзесяць разоў большую за яе раку Усу. Па другіх звестках рэчка выходзіла з лясоў Ігуменскага павета бліз вёскі Даўгінічы (Даўгінава).

Паводле Слоўніка геаграфічнага, рака «выцякае з балоцістых лясоў Ігуменскага павета ля вёскі Дагінічы альбо Далгінічы ў ваколіцах вёсак Забалацце і Боркі. Праз 21 вярсту шляху ў паўднёва-заходнім накірунку прымае з левага берага раку Лошу, а праз адну вярсту далей пад мястэчкам Пясочным — з правага берага раку Ушу (Усу). Абодва гэтыя прытокі перавышаюць Нёман

пры сутоцы з ім як па даўжыні, так і па паўнаводнасці, і таму ўласна належала б лічыць Ушу (Усу) за пачатак Нёмана».

Для вывучэння ўзроўню вады ў Нёмане ў граніцах Расійскай імперыі ў 1876 годзе былі наладжаны водныя назіранні і з 1 студзеня 1877 года распачаты пастаянныя замеры. Устаноўлена было 15 назіральных станцый, з іх першага класа ў Стоўбцах, другога класа ў вёсцы Каладзіно, двары Мар'іна і інш. На станцыях першага класа назіранні праводзіліся ўвесь год тры разы ў дзень, на станцыях другога класа толькі ад лёду да лёду адзін раз на дзень.

А. Кіркор пісаў, што Нёман, які ў часы язычніцтва карыстаўся боскімі пашанамі, выцякае з балот і лясоў Ігуменскага павета і працякае ў Мінскай губерні каля в. Магільна...

У Геаграфічна-статыстычным слоўніку Расійскай імперыі пра Нёман пісалася, як пра выдатную раку, якая атрымлівае пачатак у Ігуменскім павеце і працякае ў Мінскай губерні на працягу 89 вёрст. У яе ўпадаюць Лоша, Уса, Уша, акрамя гэтага Тур'я, Мытвіца, Молчадзь.

Звернемся да іншых дакументальных крыніц. Па даваенных абследаваннях Нёманец — гэта маленькі ручаёк, даўжынёй каля 25 км і водазборнай плошчай у 121 кв. км. Гэту частку ракі можна лічыць вярхоўем. Каардынаты кропкі вытоку ракі 53°24′ паўночнай шыраты і 27°19′ усходняй даўгаты. Памеры нёманскага басейна па прамой ад вытоку да вусця складаюць каля 450 км.

Да 1939 года Нёман працякаў у межах СССР усяго на палове сотні кіламетраў. Астатняя частка ракі прыходзілася на тэрыторыі Польшчы, Літвы і Германіі. Пасля далучэння Заходніх абласцей Беларусі і Прыбалтыйскіх рэспублік у граніцах Саюза было ўжо 95 працэнтаў плошчы басейна Нёмана. Але каля 113 км ракі яшчэ адносіліся да Германіі. Да 1939 года дзяржаўная граніца СССР перасякала Нёман на 874 км ракі (ад вусця) і праходзіла ў 5 км ад вёскі Мікалаеўшчына (з боку СССР) і ў 15 км ад вёскі Магільна. Граніца часткова праходзіла па самой рацэ.

Верхняя частка басейна Нёмана дэталёва вывучалася ў 1933—1935 гадах. Былі сабраны звесткі агульнага характару аб глыбіні, шырыні, скорасці цячэння, мастах, бродах, пераправах і г. д. Для назірання вады былі створаны вымяральныя пасты на Нёмане ля вёскі Яршы і на рацэ Лоша ля вёскі Мрочкі. Перад вайной быў выдадзены падрабязны даведачны матэрыял «Неман и его бассейн». Дадаткова вяліся даследаванні вярхоўяў Нёмана ў канцы 1940-ых гадоў пры распрацоўцы праекта меліярацыі гэтай зоны.

Для сярэдняй і ніжняй частак Нёмана ўласцівы шматлікія водмелі з камяністым, закіданым валунамі дном. Рака месцамі цячэ сярод высокіх прыгожых стромкіх берагоў. Цячэнне бывае хуткае. Часта сустракаюцца лавы — валы пяску ў вадзе, рапы — жвірова-глiністыя водмелі, салы — камяністыя і жвіровыя водмелі.

Суднаходства на Нёмане было ненадзейнае, нягледзячы на неаднаразовае ўрэгуляванне, пачынаючы ад Жыгімонта Аўгуста, ад часоў якога прамыскі харунжы Мікалай Тарло са Шчакарэвічаў ачышчаў сваім коштам раку ад камянёў. Рака ж прадаўжала заставацца небяспечнай.

У 1553 (4?) годзе вядомы еўрапейскі паэт-лацініст Шротэр у выдадзенай у Кракаве «Песні пра Нёман» выказаў пахвальную думку аб рацэ як важным водным і гандлёвым шляху. «Што мае Захад і Усход добрых купцоў, якія плённа служаць дзяржаве, вялікая заслуга ў гэтым свабоднага і раскутага Нёмана». У паэме ён усхваляе прадпрымальніка Тарло, які выконваў работы па паглыбленні і расчыстцы ад камянёў берагоў і русла Нёмана, па разборцы парогаў, такім чынам прычасціўшыся да росквіту роднага краю. Шротэр ушаноўвае нягучную прыгажосць беларускай прыроды, глыбіню «марознага» беларускага краю, акружанага з усіх бакоў непраходнымі лясамі.

Работы па расчыстцы былі прадоўжаны ў 1771—1775 гадах спецыяльнай камісіяй. Былы выпускнік Віленскай езуіцкай акадэміі Францішак Мелiконт Нарвойш па даручэнні вучонага магната падскарбія Антонія Тызенгаўза заняўся ў 1770 годзе ачысткай Нё-

мана і ў тры гады паспеў яе выканаць ад Гродна да Румшышак (каля Коўна). Магутнымі выбухамі, якія сатрасалі ўзбярэжжа Нёмана, было падарвана каля трох мільёнаў буйных камянёў. Затым Ф. Нарвойш быў назначаны прафесарам вышэйшай матэматыкі, працаваў ва універсітэце.

Пазней інжынер Лісоўскі вывучыў і апісаў Нёман у яго суднаходнай частцы. Ён выканаў новы праект урэгулявання ракі ад Стоўбцаў да пруской граніцы. Але гэты праект, як і праекты Жалязоўскага, Фалькане і інш., не быў здзейснены.

У канцы мінулага стагоддзя русла ў асноўным было вызвалена ад пнёў, асобных камянёў і дрэвавых завалаў.

Па меры расчысткі русла павялічваліся грузавыя перавозкі. Аднак затым, з будаўніцтвам чыгуначных дарог, роля рэк як транспартных шляхоў пачала зніжацца. Асабліва гэта дачынілася вярхоўяў Нёмана, дзе працягвалася толькі плытагонства, ды і то ў час вясенніх разліваў.

У перыяд найбольш шырокага выкарыстання рака Нёман лічылася суднаходнай ад вёскі Новы Свержань, але практычнае суднаходства магло ажыццяўляцца толькі ў моманты высокага ўзроўню вады, г. зн. у вельмі абмежаваныя часы.

З Тапаграфічнага апісання Мінскай губерні ад 1795 года: «Абедзве гэтыя ракі (Вілія і Нёман) пры галоўных прыстанях, як то Вілейскай і Сталпецкай, шырынёю ў сярэднія воды бываюць не болей трыццаці сажань, глыбінёй ад двух, трох і да чатырох аршын, у полую ж ваду разліваючыся па нізінах Нёман пры Стоўбцах да трох і Вілія пры Вілейцы да дзвюх вёрст, хоць у некаторых месцах і агорнутыя пасрэднай вышыні палогімі гарамі, у іншых цячэнне маюць даволі хуткае; перашкаджаючых да суднаходства па гэтай губерні месц у полую і сярэднюю ваду не маюць».

Па Нёмане — «божай дарозе», як звалі раней рэкі, плытагоны вялі ў далёкія краіны згоны бярвенняў. Плыты абганяліся суднамі. Для суднаходства па Нёмане ўжываліся: ладдзі рознага роду, баркі і паўбаркі (якія неслі на сабе да 2000 пудоў), баты альбо галеры (да

2500 пудоў), байдакі (да 5000 пудоў), стругі (да 7000 пудоў) і віціны (ад 9000 да 12 000 пудоў).

Паміж Коўнам і прускай граніцай, а таксама паміж Гародняй і Друскенікамі, курсіравалі паравыя судны.

Стоўбцы і Новы Свержань адыгралі значную ролю ў гады Крымскай вайны. Сюды ў той час з'явіліся каля 20 прамыслоўцаў I гільдыі. Тут перагружаліся прывезеныя хлеб, лён, пянька і далей адпраўляліся па Нёмане (у той час яшчэ чыгункі тут не было).

Сёння рэгулярныя транспартныя зносіны выконваюцца на працягу ракі ад вусця да горада Масты, г. зн. на 600 км. Даўжыня суднаходнай часткі Нёмана ў межах рэспублікі каля 75 км.

Пра Нёман даволі многа напісана. Першым даследчыкам ракі стаў наш вядомы паэт і пісьменнік Уладзіслаў Сыракомля (Л. Кандратовіч). Так сталася, што свой першы знакаміты верш «Паштальён», двойчы перакладзены з польскай на рускую мову і Я. Лучынам — на беларускую, ён напісаў на мясцовы сюжэт у фальварку Залуча на Нёмане (цяпер Стаўбцоўскі раён). Менш аднак вядома, што ён здзейсніў падарожжа па Нёмане, якое потым апісаў у выдадзенай у 1861 годзе ў Вільні кнізе «Нёман ад вытокаў да вусця» («Niemen od źródel do ujscia»). Гэта невялікае, вельмі змястоўнае і цікавае выданне.

Спасылаючыся на літаратуру сённяшняга дня адзначым, што ў Літве ў 1970 годзе была выдадзена на літоўскай мове ў палепшаным афармленні кніга пра Нёман вядомага літоўскага пісьменніка Чэслава Кудабы «Kur Nemunas teka» («Дзе цячэ Нёман»). На яе 132 старонках выкладзены цікавы матэрыял у выглядзе падарожжа па гэтай рацэ. Да 29-ай старонкі (разам з уступам) ідзе апавяданне аб нашай Міншчыне.

Праз усе творы, прысвечаныя рэкам, ад самых старажытных часоў праходзяць у той ці іншай ступені філасофскія роздумы. Людзі здавён імкнуліся знайсці рэальны зямны аналаг-вобраз увасаблення важнейшай катэгорыі, якая вызначала жыццё, — часу. У іх уяўленні час выступаў нябачным патокам, які захоплівае за сабой усё на свеце і ніколі не вяртае назад. Таму бег рэк

атаясамліваўся з бегам часу. Выдатнае параўнанне, выдатнае падабенства! Яно перажыло стагоддзі і тым не менш захоўвае сваю значнасць і паэтычнасць у наш запрагматызаваны час, калі мы гэтыя самыя рэкі ўжо навучыліся-такі паварочваць назад.

Адначасова ў старажытных час — гэта семя, якое вяртаецца ў парадзіўшую яго зямлю.

Слова час увайшло ў многія творы пісьменнікаў, паэтаў. Напрыклад, радок з верша сучаснага паэта У. Папковіча:

Сплывае час —
Імклівая рака...

Але ж якое дачыненне маюць гэтыя адступленні да нашай ракі Нёман? Вобраз Хронаса-часу і яго ўвасабленне — бег вады — сыходзяцца разам у нашай нацыянальнай рацэ, старажытным Нёмане.

Наш мудры і вялікі Нёман у старажытнасці зваўся Хронасам! Аб гэтым адзначае ў сваім васьмітомным Геаграфічным апісанні Клаўдзій Пталамей (II ст. н. э.). На так званай «радзівілаўскай» карце, выдадзенай у XVI ст. у Амстэрдаме, наш Нёман мае падвоеную назву Chronon-Niemen. Выканаў карту гравіраваннем у сваёй майстэрні Гесэль Герытс. Надпіс на карце паведамляе, што яна была складзена і выдадзена пры садзеянні і пад наглядам на сродкі Мікалая Радзівіла, нясвіжскага князя па празванню Сіротка, аднаго з найбольш адукаваных людзей свайго часу.

У кнізе «Нёман ад вытокаў да вусця» У. Сыракомля ўсклікае: «Гэта Хронас для старажытных, гэта наш Нёман!»

Дык вось... Хронас — час, Нёман — Хронас, рака часу...

Звяртаючыся да Нёмана, мы часта завем яго адвечным. Прыгожы эпітэт, але рака гэта існавала не заўсёды. Тэрыторыя Беларусі, як сведчыць у сваёй навукова-папулярнай кніжцы «Геалагічнае мінулае Беларусі» акадэмік АН Беларусі, ураджэнец Уздзеншчыны А. С. Махнач, за геалагічнае летазлічэнне Зямлі неаднаразова пакрывалася марáмі і ледавікамі.

Добра аформленых рэчышчаў тады не было. Рэкі падзяляліся на мноства рукавоў, якія часта мянялі сваё месцапалажэнне.

Толькі на працягу апошніх 10 тыч. гадоў ландшафты Беларусі прымаюць сучасны выгляд. У апошнія 4 тыс. гадоў утварыліся тарфяныя балоты. Рачныя даліны пашырыліся, левы схіл паўночных рэк стаў пакаты і расцягнуты, правы — круты. У познеледавіковы час Нёман «перапільвае» Балтыйскую граду і атрымлівае выхад да Балтыйскага мора.

Вытокі Нёмана «ўрэзаліся» ў басейн вадазбору Дняпра, перахапілі яго прытокі. З часу пасляледавікоўя малюнак рачной сеткі моцна змяніўся. Так Нёман забраў прытокі вярхоўя Прыпяці, ракі Случ, «адабраўшы» іх у раку Усу. Шчара забрала шэраг рэк у Ясельды.

На працягу пасляледавікоўя паступова ў большасці раёнах Беларусі ўзніклі паселішчы чалавека. Пашыраецца рыбалоўства, і людзі пачынаюць узводзіць па берагах рэк пастаянныя забудовы. 5,5 тыс. гадоў назад з'явіліся гліняны посуд, кераміка. Людзі навучыліся шліфаваць і свідраваць каменныя прылады. У неаліце на вярхоўях Нёмана ўжо жылі паляўнiча-рыбалоўныя плямёны з агульнай мовай.

Потым сюды прыйшлі продкі славян. Больш за тысячу гадоў назад, у час вялікага перасялення народаў, тэрыторыя Беларусі запоўнілася славянскімі плямёнамі: крывічамі, дрыгавічамі, радзімічамі і інш.

У сярэдзіне I тысячагоддзя да н. э. на тэрыторыі Беларусі пачынаецца земляробчы перыяд.

Аб гудах (гутах) — суседніх з літоўцамі ўсходніх славянах — упамінаюць Пліній Старэйшы, Тацыт і Пталамей. Апошні пісаў у 60-ых гадах II ст., што гутоны (гудоны) жывуць на ўсход ад Віслы, ніжэй венедаў і прыбалтыйскіх фінаў, і называў іх «малым народам» (племем). У Плінія побач з Віслай упамінаецца вялікая рака Гутал (Гудал), якая ўпадае ў мора. Магчыма, што ў яго так зваўся тады Нёман. З захаду па ім у Беларусь прыйшлі крывічы. Прыстанішча яны абралі на поўнач ад Наваградка. Гэта адзін з першых «астравоў», дзе пачыналася славянства і гісторыя беларускага народа. Месца нёманскіх вытокаў, цяперашняя Уздзен-

шчына, знаходзілася якраз на мяжы крывічоў і дрыгавічоў.

Асіміляцыя балтаў крывічамі, дрыгавічамі і радзімічамі стала рашаючым фактарам станаўлення беларускага этнасу.

Нёман доўгія гады заставаўся натуральнай мяжой паміж славянскімі народамі і пруска-нямецкім рыцарствам. У чэрвені 1656 года «Царем Алексеем Михайловичем велено в Минске острог подкрепить служилыми людьми, а об приходе немецких людей поставить на заставе реке Немону служилых людей из русских и поляков, которым можно верить и от которых шатости не чаять, и тем заставным людям приказать накрепко, чтобы воинские люди через реку Немонт к Минску безвестно не пришли и уезду не повоевали».

Па нашай зямлі бясконцы лік разоў праносіліся войны. З даўніх часоў зямля Наднямоння перапоўнена ваеннымі пахаваннямі, курганамі-магіламі. «Курганы шмат чаго нам гавораць», — сказаў паэт. Нам трэба вучыцца гэтай адвечнай мове, каб зразумець веліч і трагедыю тых далёкіх часоў.

Але кожны раз жыццё зноў вярталася ў гэтыя мясцы. Людзі заставаліся людзьмі, нязменна захоўвалі добрыя адносіны, мяккі гасцінны характар.

Цяжкая гісторыя мінулых часоў на нёманскіх берагах знайшла адлюстраванне ў мастацкіх вобразах, захавалася ў памятных месцах і гістарычных назвах.

Яшчэ з 1859 года на Васільеўскім востраве ў С.-Пецярбурзе «прапісаўся» Нёманскі завулак, які хавае гэту назву і сёння. На барэльефе Аляксандраўскай калоны, скіраваным у бок Зімняга палаца, размешчаны дзве фігуры, уяўляючыя рэкі Віслу і Нёман (памяць аб фарсіраванні гэтых рэк рускай арміяй у час праследавання Напалеона). Гэтай жа тэме прысвечаны медальён у выкананні В. Глінкі.

У Маскве ў раёне Валакаламскай шашы ёсць Нёманскі праезд. Гэта новая вуліца, забудаваная вялікімі шматпавярховымі гмахамі. У іх жывуць — берагуць свой «нёманскі» адрас — дзесяткі тысяч масквічоў.

У Кіеве таксама ёсць Нёманская вуліца (вулыця Неманська), ціхая і невялічкая вуліца працоўных людзей.

На ёй найбольш усяго дамоў узорнага парадку. Відаць, назва яе да нечага абавязвае.

Дзіўнае пачуццё ахоплівала мяне, калі я блукаў на далёкіх ад нашай зямлі нёманскіх вуліцах. З кім бы я ні гаварыў, усе з павагай і пашанай ставіліся да свайго нёманскага адрасу, мяркуючы, што ён не падвержаны кан'юнктуры.

А ў Мінску? У нейкай паўсотні кіламетраў ад вытоку свяшчэннай ракі не знайшлося месца нёманскай памяці...

Ушаноўваўся Нёман і ў даваеннай Польшчы. У аматара гістарычных даследаванняў беларускага Панямоння А. Госцева з Гродна давялося ўбачыць паштоўкі даваеннага часу на нёманскую тэматыку.

Сёння Нёман, той жа Хронас — злучае час, падзеі, людзей, тое, што мы ўяўляем як сінтэз мінулага, сучаснага і будучага — непарарыўнасць жыцця.

Невыпадкова гэтай з'яве — увасабленню праз рэкі повязі часоў — аддавалі належную ўвагу творчыя людзі — мастакі, пісьменнікі, паэты. Многія з іх нарадзіліся на вытоках гэтай ракі. Няма, напрыклад, чалавека, душу якога не кранула б мужная і пяшчотная мелодыя «Песні пра Нёман» вядомага беларускага кампазітара, хормайстра, збіральніка фальклору — Нестара Сакалоўскага.

Ад нас залежыць, ці будзе ўслаўлена наша адвечная і заўсёды маладая рака. Для гэтага пройдзем не спяшаючыся па яе берагах, пранікнемся яе веліччу, павагай да тых, хто жыў, жыве і працуе тут. Падумаем, што ж аб'ядноўвае такое незвычайнае паняцце — Надняe монне?

## Цішка Гартны

## ДА НЁМНА

Эх ты, Нёман-рака!
Ці ты думаў, ці сніў,
Як слязу мужыка
У свае воды лавіў;

Як стаяў над табой
Сын нядолі худы
І над цёмнай вадой
Спяваў песні нуды, —

Што надыдзе пара —
Знемажэнне міне,
Адраджэння зара
Над народам бліснe?

Што з балючых грудзей
Беларусі дзяцей
Над табой загудзе
Песня вольных людзей?

*Капыль, 1909*

## Алесь Гурло

## МОЙ КРАЙ

Край мой там, дзе рэчак хвалі
І плюскочуць і плывуць, —
Што далей — да новых даляў
Мяне клічуць і завуць.

Край мой там, дзе шэпчуць сосны,
Шумяць волаты-дубы...
Гэты шэпт і шум галосны
Усяму свету кажуць быль.

Край мой там, дзе поўны колас
За паклонам б'е паклон,
І жняі шчаслівы голас
Заглушае сэрца звон.

Край мой там, дзе каля хаты
Аж да неба ўзняўся сад;
Там, дзе хлопцы і дзяўчаты
Апяваюць згоду, лад.

Край мой там, дзе Нёман льецца
Срэбра-плыннай паласой,
Там, дзе ўсё, усё смяецца,
Шчасцем хваліцца, красой!

*1921 г.*

## Пятро Глебка

# РАКА НЁМАН

Дзесьці ёсць і твой пачатак,
Безупынная рака,
Дзе ні моста, дзе ні кладак,
Дзе ні лодкі рыбака.

Абмінаючы карэнне
Пустазелля і лазы,
Там цякуць твае струмені
Ціхім поцекам слязы.

Потым вырваўшыся з багны
На зялёны чысты край,
Кропля з кропелькаю прагна
Спалучаюцца ў ручай.

Працавіты і руплівы,
Дзень бяжыць ён і другі
Цераз пушчы, цераз нівы
На прасторныя лугі...

## Антон Бялевіч

## РОДНЫ КУТ

Ты жывеш у сэрцы, родны кут.
Нарадзіўся тут і вырас тут;
Сцежкамі тваімі пераплёў
Я сваё маленства; салаўёў
Слухаў між дуброваў і гаёў.
У раздум'я час і ў час тугі
Бачу цябе, край мой дарагі;
Бачу твае сінія лугі,
Чую, як рачныя берагі
Звоняць сталлю кос цалюткі дзень.
І далей, далей мяне вядзе
Сцежка па алешніку за вёску.
Жніўных песень чую адгалоскі;
Чую, як калоссямі жыты
Шастаюць пад ветрам. Залаты
Пыл плыве на твар, на вейкі мне.
Родны кут! У думках ты і ў сне.
Бачу, як вавёрка на сасне
Мыецца. Ледзь вецер шалахне, —
І запахне смолкая жывіца.
І са свежым подыхам крыніца
Каля ног выкручваецца стужкай.
Родны кут! Вось тут мяне ты гушкаў
У лубянцы жніўнаю парою.
Гадаваўся разам я з табою,
Піў прахладу Нёмна вечарамі,
Дыхаў я тваімі туманамі,
Дарагі наднёманскі закутак!..

## Алесь Махнач

## ДЗЕ ВЫТОК НЁМАНА?

Шмат легенд складзена пра Нёман. Давайце прыгадаем адну з іх.

...Даўным-даўно, тысячы гадоў назад з-пад вялізнага каменя, дзе б'е крыніца, нарадзіўся славуты асілак. Яго назвалі Нёманам. Жыў сярод лясоў дрымучых, лугоў шырокіх. Прыгожы, працавіты. Прыродзе, і людзям, і ўсяму жывому дабром плаціў. Па суседству жыла Лоша. Гультаяватая, ляжала ў цяньку, сабою любавалася. Нікому ад яе не было ні радасці, ні карысці. Лоша часта заглядала да свайго суседа. За маўклівасць называла яго Неманцом.

Цяпер ніхто не ведае, што Нёману прыглянулася такая красуня. Адно вядома — было вяселле. Гуляла на ім уся радня жаніха: і Сула, і Уса, і Уздзянка, і Шчара... Каго толькі тут не было! Пілі, балявалі, маладым шчасця ды добрай долі жадалі.

Скончылася вяселле, пачаліся будні.

Зноў Нёман не ведаў ні дня, ні ночы. Паіў, карміў, туліў усіх, хто да яго гарнуўся: і чалавека, і звера, і птаха, і рыбу, і жыўнасць усякую. Цешыў сваім люстэркам водным прыбярэжныя лясы, палеткі, лугі, на сваіх магутных грудзях насіў чоўны, ганяў плыты.

Не раз запрашаў на шырокі прастор і сваю красуню ненаглядную. Толькі тая заставалася абыякавая, халодная да ўсяго, па-ранейшаму не хацела падзяляць нягоды і радасці свайго волата.

Не па душы было такое жыццё Нёману. Аднойчы цёмнай ноччу кінуўся ўпрочкі. Стараўся замесці след: дзе пад поплавам прабяжыць, дзе, для перадыху, вынырне плёсам, тоняй, азярцом, а затым зноў схаваецца. І толькі там, дзе цяпер Забалацце стаіць, асілак у адкрытую пайшоў да мора.

Прачнулася Лоша, а Нёмана няма. Пачала даганяць уцекача, ды не ў той бок кінулася. Па далінах ды па нізінах бегла. Ажно сіл не ставала, дый не ведала, куды далей падацца. Гукала-клікала на дапамогу, але ніхто не прыйшоў — ні Пціч, ні Бярэзіна, ні Свіслач... Толькі Выня паспачувала гору сваёй сяброўкі. Выбеглі яны ўдзвюх да груда пясчанага, дзе сягоння Пясочнае, і ўбачылі: Нёман праз долы і лясы дарогу сабе пракладае. Хвалямі горкіх слёз кінулася Лоша ў абдымкі да свайго асілка: адчула, што жыць па-ранейшаму, ды яшчэ адной заставацца, не варта — счэзнуць можна. Пачала да-

памагаць Нёману. З цягам часу і людзі не абмінулі яе стараною: паблізу пачалі будавацца. Так нарадзіліся вёскі Лоша, Мрочкі, Пераваз, Сасноўка, Рачыца, Пясочнае.

Нёман ніколі не забывае родныя мясціны. Кожную вясну, кожную восень дажджлівую вяртаецца да маці сваёй — крынічкі, якая цячэ з-пад вялізнага каменя. Вяртаецца сюды, каб сустрэцца са сваёй Лошай, са сваёй маладосцю...

Гэтая легенда жыве на Уздзеншчыне і па сённяшні дзень.

Да нядаўняга часу ў маім родным Забалацці не губляла свайго гучання і прымаўка «Шукаць у балоце Нёман». Яна часта ўжывалася ў гаворцы аднавяскоўцаў, калі тыя хацелі падкрэсліць свайму субяседніку штосьці заблытанае, дзе цяжка знайсці канцы якой-небудзь справы. Для чалавека з нетутэйшых мясцін прымаўка незразумелая. Цікаўны папрасіў бы тлумачэння: адкуль яна ўзялася? Вытокі гэтай прымаўкі не так даўно, на маёй памяці, можна было ў спякотнае лета адшукаць у забалацкім балоце, дзе гублялася рэчышча Нёмана, што ішло пасля да самага Балтыйскага мора. І прападала яно за нейкія 117 крокаў ад невялічкага мастка. Яшчэ ў 1951 годзе, да прыходу сюды меліяратараў, я адмераў тыя крокі.

У першыя пасляваенныя гады, калі ў родным калгасе загадваў Прысынкаўскай сельскай бібліятэкай, я збіраў прыказкі і прымаўкі. За які-небудзь год сабралася каля трох тысяч запісаў. З кароткай газетнай заметкі пра іх даведаўся Генадзь Іванавіч Цітовіч, будучы народны артыст СССР.

Генадзь Іванавіч звярнуў увагу на прымаўку «Шукаць у балоце Нёман», зацікавіўся: дзе запісана, што азначае? Я расказаў. І пацягнуў чалавек мяне на балота: захацелася на ўласныя вочы ўбачыць месца, адкуль узялася прымаўка.

Непадалёку ад Забалацця мы збочылі з шашы Валяр'яны — Узда ў бок вёскі Боркі, адмералі па балоце 117 крокаў «ад невялічкага мастка, пад якім бяжыць ручаёк», і раптам гэты ручаёк згубіўся ў густоўі лазы, алешын, ракіты, чорных парэчак. Доўга тупалі, блука-

лі, прыглядаліся пад ногі, расхіналі разак-асаку, шукалі Нёман, нібы іголку. Некалькі разоў перамервалі нагамі балота ўпоперак ад Саўкавага лесу да поля, а рэчышча нідзе не было — быццам пад зямлю праваліласяя.

Генадзь Іванавіч падвёў вынік:

— Маюць рацыю тыя, хто сцвярджае: «Нёман пачынаецца непадалёку ад вёсак Забалацце і Боркі».

— Не, памыляюцца вучоныя і геаграфічныя карты, — даводзіў я. — Сапраўдны выток рэчкі — на тэрыторыі Лашанскага сельсавета, непадалёку ад пасёлка Верх-Нёман.

— Дзе ж тады рэчышча? Яно павінна ісці далей... — стаяў на сваім мой спадарожнік.

Сярод травы я адшукаў вузкую стужку цёмна-зялёнай разак-асакі. Стужка вужакай вілася па балоце.

— Вось тут, пад поплавам, ідзе далей рэчка. А нараджаецца яна вышэй, — тлумачыў я. — Там і крыніца ёсць, з якой выцякаюць Нёман і Лоша. Толькі вясною і ў дажджлівую восень можна ўбачыць іх калыску. Варта кінуць у крыніцу жменю сухіх травінак — яны павольна зробяць круг і паплывуць: адны ў Нёман, другія — у Лошу. Улетку крыніца перасыхае. Застаецца сухое, патрэсканае глінішча. Побач, нібы на грудочку, як вартавыя, яшчэ некалькі крынічак, але яны адасоблены ад асноўнай і ў сухое лета таксама высмягаюць. Адшукаеш іх адразу па зялёных купках высокай травы, што прыкрывае перасохлыя вытокі. Мне даводзілася там бываць, гутарыць са старымі людзьмі пасёлка Верх-Нёман. Ад іх і пачуў пераказаную мной легенду. Толькі легенда заканчвалася так: «А той камень вялізны, з-пад якога біла крыніца, даўно пад зямлю праваліўся».

Мы ішлі паверх Нёмана, які бруіўся недзе ўглыбіні, схаваўшыся пад мяккім травяніста-тарфяным покрывам. Часам даводзілася збочваць да вузкай палоскі мурожнага лугу, за якім пачынаўся шырокі палетак збажыны — Нёман раптам выглядаў з-пад зямлі азярцом, шырокім плёсам і перакрываў нам дарогу. Не прайшлі і кіламетра ад Забалацця, а такіх вадзяных прагалаў налічылі з паўдзесятка. Да некаторых

было цяжка падступіцца. Гэта тыя плёсы, праз якія пралягло падземнае рэчышча. Вада была халодная, дно жвірыстае, усланае каменнямі. Берагі на зыбучых плаўнях калыхаліся пад намі, нібыта мы ступалі на паралон, які, здавалася, з кожным крокам усё ніжэй і ніжэй апускаўся пад нагамі ў халодную рудаватую ваду. Месцамі плаўні былі рваныя на ладныя кавалкі чорна-багністых залысін. Яны ляжалі без травы, спрадвечная твань выступала закіслым чорным цестам. Па дрыгве ішлі з асцярогаю, бо калі трапіш у такую «залысіну» і не паспееш адразу ж учапіцца рукамі за кустоўе альбо траву — прапаў... Роўнядзь вады халодных плёсаў месцамі была размалявана жоўтымі гарлачыкамі, траплялiся і белыя — гэта лілеі, іх вялікія круглыя лісты, лежачы на вадзе, нагадвалі паліваныя зялёныя сподкі. Левы бераг некаторых плёсаў, парослы чаротам, падступаў аж да самага лесу, тамсям ля самай вады на кволых купінах-плывунах стаялі карлікаватыя алешынкі, апаясаныя рэдкім лазняком.

Ва ўрочышчы Старына, дзе падземная рачулка, агінаючы Саўкаў лес, збочвае да вёсі Гушчын, мы выйшлі да невялічкага азярца.

Ля азярца, дзе вада цяплейшая, паветра было настоена водарам разнатраўя. Я ўспамінаў сваё дзяцінства, калі з бацькам прыходзіў на гэтыя плёсы і возерцы ў рыбу. Сеткай-таптухай лавілі ладных шчупакоў, акунёў. Траплялiся карасі, уюны, пячкуры... Успомніў і пра двухпудовага сома, якога, па расказах бацькі, мой дзед Лукаш зла віў у возерцы ля самага Забалацця. Але гэта было на пачатку 20-х гадоў...

Нёман на сваім шляху не даваў раскапусціцца рознай лазе, алешніку, ракітніку. Бывала, у вялікую паводку з карэннем вырываў кустоўе і гнаў яго з вадою. Затое астатнія забалацкія балоты былі амаль усе ў дзікай непраходнай лазе. Гэта было царства ваўкоў, аваднёў, сляпнёў, вужак... У піліпаўку завые адзін воўк — і пачынаюць яму падпяваць з суседніх лазнякоў адзін, другі, трэці...

— Ідзіце, дзеці, паслухайце ваўчыны канцэрт, — іншы раз позним зімовым вечарам казалі нам бацькі.

Яшчэ да калектывізацыі людзі спрабавалі талакою высякаць лазу, капаць канавы і каналы, каб даць нейкі сцёк вадзе. Але вады не меншала, і на месцы высечанай лазы праз год вырастала новая, яшчэ больш густая.

У 1952 годзе меліяратары спрамілі рэчышча магутнай тэхнікай і праклалі шырокі магістральны канал. Ён увабраў у сябе і падземнае рэчышча Нёмана з яго плёсамі, тонямі, возерцамі. З балот схлынула вада, былі раскарчаваны лазнякі. Зроблена, трэба сказаць, усё гэта без навуковай асновы.

* * *

Прайшло шмат гадоў. І ўвесь гэты час не пакідала думка: што сталася з крынічкаю, адкуль бяруць пачатак Нёман і Лоша? У іх жа вярхоўях пойменныя балоты асушаны, раскарчаваны, створана цэлая сетка меліярацыйнай сістэмы. Магчыма, назаўсёды засмягла тая крынічка і ля яе ўжо ніколі не сустрэцца Нёману са сваёй Лошай...

Заўсёды, калі праязджаў аўтобусам міма вёскі Пырашава, хацелася сысці на прыпынку. Адгэтуль усяго нейкія тры кіламетры да пасёлка Верх-Нёман, за 400 метраў ад якога знаходзіцца тая самая крынічка.

Хвалююся. Амаль праз трыццаць гадоў зноў вярнуўся сюды, да славутай крынічкі. Дзе ж яна?

Вунь прыкметна бруіцца ручаёк насустрач. Гэта — Нёман. Крыху далей праз канал — новы бетонны масток на знаёмай палявой дарозе, што з пасёлка вядзе ў лес на Цялякава. Раней мастка не было, і славутая крынічка струменіла амаль ля самай дарогі. Раптам бачу: пад мастком ручай бяжыць у другім напрамку. Гэта ўжо Лоша! Вяртаюся назад. Праз крокаў дваццаць, у чыстым прагалку вады заўважаю павольную кругавую плынь, якая ледзь прыкметнымі рыскамі хваль разыходзіцца ў розныя напрамкі канала. Вось ён, сапраўдны выток Нёмана і Лошы! Крыніца жыве, бруіцца нават сярод спякотнага лета!

«Да пабачэння!» — кажу ў думках на развітанне вечна юным Нёману і Лошы. «Да пабачэння!» — гавару крынічцы — іхняй калысцы.

Пасля гэтага атрымаў я па падпісцы другі том выдання кароткай энцыклапедыі. Тэкст яшчэ пахнуў свежай друкарскай фарбай. Адгарнуў старонку, прачытаў пра Нёман: «Пачынаецца пад назвай Неманец са Стаўбцоўскай раўніны каля пас. Верх-Нёман Уздзенскага раёна...» I пра Лошу таксама: «Пачынаецца каля пасёлка Верх-Нёман і цячэ ў Уздзенскім і Капыльскім раёнах...»

Узаконена, нарэшце, сапраўднае месца нараджэння вялікай беларускай ракі і яе прытока Лошы.

Летам 1995 года ў горадзе Узда праходзіла міжраённая канферэнцыя на тэму: «Рака Нёман: гісторыя і сучаснасць». Удзельнікі канферэнцыі Уздзенскага, Стаўбцоўскага і Капыльскага раёнаў непадалёку ад пасёлка Верх-Нёман адкрылі памятны знак — камень-валун з металічнай таблічкай. На ёй адліты словы: «З гэтых мясцін, пад назвай Неманец, бярэ свой пачатак славутая рака Нёман». Побач пасадзілі тры дубкі — удзячнасць людзей — трох суседніх раёнаў, па якіх плыве ў сваім вярхоўі рака.

## Анатоль Астрэйка

## НЁМАНУ

Трапечуцца белыя хвалі
I коцяць жарству і пясок,
Што з берага, з гор адарвалі
Выпадкам ці, можа, знарок.

Свае ўсе пагоркі і долы,
Балоты, лясы, гарады
Ты хваляй, як песняй вясёлай,
I песціў і лашчыў заўжды.

I вечна да працы ахвочы,
Не спіш ты ні днём, ні ўначы,
I вецер спяшыць апўночы,
Каб хвалям тваім памагчы.

Аб бераг высокі і роўны,
Жарсцвяны і ўкрыты лазой,
Не стукаеш, граеш чароўна
Блакітнаю хваляй сваёй.

**Уладзімір Кісялёў**

## НАМ ЗАСТАЛАСЯ СПАДЧЫНА...

Цяпер нам час завітаць у гістарычны, эканамічны і адміністрацыйны цэнтр — горад Узда. Ён месціцца на паўночным захадзе ад геаметрычнага цэнтра тэрыторыі раёна на перакрыжаванні важных дарог Шацк — Магільна і Негарэлае — Капыль.

Тут у нас будзе магчымасць адпачыць, узважыць убачанае і зведанае, а таксама дапоўніць яго дакументальнымі і статыстычнымі звесткамі, зноў вярнуцца хоць на час у далёкую і блізкую гісторыю.

Некалькі абагульненых дадзеных аб раёне. Утвораны ён быў 17 ліпеня 1924 года. Паверхня раёна пераважна раўнінная. Яго тэрыторыя знаходзіцца большай часткай у межах Стаўбцоўскай раўніны. Плошча раёна 1,2 тыс. кв. км. З захаду на ўсход яго памеры каля 80 км, а з поўначы на поўдзень — каля 70 км. Цэнтр раёна сёння — Узда. У 1999 годзе ў ім пражывала 9,6 тыс. жыхароў.

Горад Узда размешчаны на рацэ Уздзянка (прыток Усы), за 22 км на поўдзень ад чыгуначнай станцыі Негарэлае на лініі Мінск — Баранавічы. Аўтамабільнымі дарогамі злучаны з Негарэлым, Нясвіжам, Капылём і з аўтамабільнай дарогай Мінск — Слуцк.

Паселішча Узда вядома па дакументах з сярэдзіны XV ст., прычым аб ім гаворыцца як аб даўнім феадальным уладанні, у сувязі з чым можна з поўнай падставай лічыць, што гэта паселішча існавала і раней.

З дакументаў Літоўскай метрыкі вядома, што ўнучка аднаго з уладальнікаў Узды — Васіля Корсака —

Анастасія Андрэеўна выйшла замуж таксама за прадстаўніка рода Корсакаў — Глеба Астаф'евіча.

Сучасная Міншчына як бы засланіла Міншчыну мінулых тысячагоддзяў. Аднак, калі ўгледзімся ўважлівей у рэшткі помнікаў археалогіі, то зразумеем, якая на самой справе жыве побач даўніна.

Дакладна невядома, калі і адкуль узнікла назва Узда. Даследчыкі паясняюць яе па-рознаму. Адно з тлумачэнняў выводзіць яе са слова «вуздэчка» (частка коннай збруі) і звязвае са старажытнай легендай. Другое тлумачэнне назвы Узда выводзіцца са старажытнага літоўскага слова «узла», што азначае насціл праз балота — грэблю. Трэцяе тлумачэнне звяртаецца да татарскай мовы і звязвае яе са словаўтварэннем «паселішча на рацэ Уса» (па-татарску Ус-да). Мае месца і яшчэ адна трактоўка, звязаная са старажытнай назвай абарончых умацаванняў, якія будаваліся ў XIII—XVI стагоддзях на ўскраінах Русі для абароны ад набегаў качэўнікаў. Вядома, што ў другой палове XV стагоддзя пры Маскоўскім князю Івану III такія ўмацаванні, пабудаваныя ўздоўж рэк Акі і Угры, насілі назву «Вялікай Узды».

У той жа час назва горада паходзіць несумненна, ад назвы ракі, на якой ён стаіць. Цяпер назва ракі — Уздзянка, раней яна была — Узда. Уяўляе сабой зменшаную форму той жа асновы, што і Уса (прытокам якой з'яўляецца). Адбылася трансфармацыя Уса — Усда. Не выключана агульная сувязь Узда — Уса — Уша.

Мясцовыя паданні звязваюць назву ракі і горада перш за ўсё з непасрэдным значэннем тэрміна «узда», «вузда», «вуздэчка». Ветэран вайны і працы Канстанцін Кароль, былы старшыня гарпасялковага савета, перадаў нам адну з такіх легенд. Нейкі татарскі военачальнік (верагодна — Койдан) у даўнія часы, перабіраючыся праз раку, выпусціў нейкім чынам у ваду апраўленую золатам дарагую аброць. Рака ў тыя часы была глыбокай і поўнаводнай. Прымусіў ён мясцовых жыхароў шукаць прапажу ў вадзе. Але як людзі не стараліся — некаторыя нават патапіліся — аднак аброць так і не знайшлі. Раку пасля гэтага сталі зваць «Вуздой», «Уздой», пазней «Уздзянкай», а разам з ёй і размешчанае на яе берагах пасяленне.

Яшчэ адзін варыянт падання: «Пад Койданавам (цяпер Дзяржынск) беларусы разбілі татар, а сам татарскі хан Койдан збег з поля бітвы. Але беларусы дагналі яго там, дзе цяпер Узда, і цяжка паранілі. Падаючы з сядла, Койдан схапіўся за узду (вуздэчку) свайго каня і сказаў: «Вось дзе мяне сустрэла смерць».

Сваю версію найменню горада даў Ф. Бельскі. Ён лічыў, што пад згубленай вуздэчкай трэба разумець гібель поблізу гэтых месц военачальніка Койдана-хана і яго бліжэйшага акружэння. Яны кіравалі мясцовым насельніцтвам з дапамогай умоўнай вузды, як коннік кіруе сваім канём. Згубіў кіраванне — згубіў аброць.

Акрамя таго, ён перадае яшчэ адну легенду, якую чуў у гады маладосці ад старых сялян вёскі Забалацце, — яна пераходзіла з пакалення ў пакаленне. Безназоўная да гэтага рака атрымала назву ад імя маладой дзяўчыны — нявесты маладога князя, пляменніка вялікіх князёў Кіеўскага і Тураўскага, якая патанула ў гэтай рацэ ў час купання спякотным летнім днём. Узрушаны князь, пакуль ішлі пошукі, кідаўся па беразе і клікаў сваю каханку па імені. Толькі на наступны дзень дасталі цела тапельніцы з-пад карчагі. Пасля здарэння ў памяць сваёй нявесты — дзяўчыны з сялянскай сям'і — князь загадаў назваць раку яе імем — Уздой (памяншальнае — Уздзянкай), а пасяленне — Уздой.

Сам жа Бельскі лічыць, што слова Уздзянка ўзнікла ад спалучэння уш-донка. «Уша» — гэта правая. На самой справе Уздзянка левы прыток Усы. Аднак людзі, рассяляючыся, ішлі не ад вытоку, а ад вусця. З такога накірунку гэта будзе правы прыток. Адсюль пайшлі назвы Вуша, Уса, Уша. «Дон» — гэта старажытная славянская назва воднага ложа, русла, дна. Раку, якая па дне даліны ўпадала ў Усу, назвалі Ушдонкай. Першапачатковая назва трансфармавалася ў Уздзянку і засталася за ракой. Затым была прысвоена пасёлку-прыгараду — Уздзянцы. Ён жа далей сцвярджае, што калі князь Васіль-Васько ў XI стагоддзі атрымаў ад Вялікага князя Кіеўскага воласць на гэтых землях, то сказаў: «Дзяўчына стала жонкай, Ушдонка будзе Уш-

дой». І сталі зваць раку Ушдой, Вушдой, Вуздой, Уздой.

І зусім неверагодныя легенды перадаюць мясцовыя жыхары. Быццам бы праз Узду ў свой час праязджала царыца Кацярына II. Месцы тут былі глухія. Пры перацягванні карэты праз гаць на адным з коней парвалася аброць. Вырашылі спыніцца. Мясцовыя жыхары — татары — за ноч, пакуль царыца адпачывала, зрабілі новую вуздэчку, умела аздобілі яе золатам. У знак удзячнасці царыца іх шчодра адарыла і загадала надалей лічыць шляхтай. Да гэтага часу ходзяць чуткі, што ў Уздзе недзе захавалася кніга ў скураным пераплёце з адпаведнай граматай царыцы. Таму ў былыя часы ўсе мясцовыя татары абавязкова залічвалі сябе да шляхты. Ну, а мястэчка па выпадку такой царскай міласці назвалі Уздой. Дададзім, што гэтыя, бытуючыя ў асяроддзі мясцовых жыхароў версіі, не маюць ніякай гістарычнай асновы.

Вельмі даўно ў гэтых мясцінах пасяліліся людзі. Яшчэ ў IV—III тысячагоддзях да нашай эры тут ужо існавала так званая Нёманская культура. Ёсць звесткі, што ад III ст. да нашай эры тут пражывала насельніцтва балцкага паходжання. У VIII—IX стст. па рэках чарнаморскага басейна сюды прыйшлі дрыгавічы, якія асімілявалі абарыгенаў.

Вядомы гісторык і этнограф А. Кіркор пісаў, што ўзбярэжжы Нёмана з іх мнагаводнымі прытокамі захавалі шмат дагістарычных помнікаў, якія сведчаць аб заселенасці Беларускага Палесся з глыбокай старажытнасці. У непраходных лясах налічваюцца тысячы магільных курганоў, рассеяных у розных месцах групамі, курган на кургане, па некалькі соцень.

Кожны курган у Беларусі ўзводзіўся над адным памерлым. У магілах болей за ўсё жалезных прадметаў, затым з бронзы, ёсць бусы. Нямала магіл каменнай эпохі. Іх узрост 800—1000 гадоў.

Найдаўнейшых гарадзішчаў таксама вельмі многа як месц пасяленняў, мясцовых вечавых сходак, судзілішчаў, ахвярапрынашэнняў, збораў у выпадку нападзення ворага. Яны былі ператвораны з часам у замкі і замковішчы.

# ВЁСКА МАГІЛЬНА

Вёска Магільна — адно з самых старажытных, вядомых па пісьмовых крыніцах, беларускіх паселішчаў. Гісторык М. Чарняўскі даказвае, што, бадай, нідзе на Міншчыне не знойдзена так многа слядоў жыцця першабытнага чалавека, як на вярхоўях Нёмана. Паміж вёскамі Магільна і Мікалаеўшчынай археолагамі выяўлены сляды каля трох дзесяткаў паселішчаў каменнага і бронзавага вякоў. Тут ледзь не на кожным сухім грудзе пасярод поплаву або на краях прырэчных тэрас у даўнія часы размяшчаліся нашы далёкія продкі.

Перад вёскай Магільна ўздоўж ракі раскінулася вёска Замосце. Сапраўды, ад дарогі Магільна — Узда яна стаіць з правага боку за мастом.

Каля Кутца, Замосця знойдзены рэшткі паселішчаў з часоў неаліту (10—7 тыс. гадоў назад). Тут былі сабраны крамянёвыя нажы, скрабкі, наканечнікі стрэл.

Цэлыя групы пасяленняў часоў неаліту знойдзены непадалёку ад Кутца, Сверынава, Магільна. Сляды неалітычнага чалавека захаваліся і на паўднёвай ускраіне Прусінава, дзе знойдзены рэшткі жытла, прылады працы, чарапкі глінянага посуду — вострадонных гаршкоў з арнаментам.

На тых жа пясчаных грудах людзі жылі і ў раннім жалезным веку. Пад Прусінавым у верхніх пластах неалітычнай стаянкі знойдзена шмат ганчарнай керамікі, а каля Магільна вялікі сярэдневяковы могільнік. На жаль, яго знішчылі разам з размешчаным там замчышчам — помнікам XIII—XVI стст.

У гісторыі гэтай вёскі, як у люстэрку, адбіліся ўсе складанасці беларускай зямлі перыяду ранняга сярэдневякоўя. Знаходзячыся ў выгадным геаграфічным становішчы, параўнальна блізка ад гарадоў Нясвіжа, Міра, Навагрудка — Магільна было не раз месцам жорсткіх бітваў у бясконцых княжацкіх памкненнях. Пасля нейкай з такіх боек на месцы паселішча засталося папялішча. Там, дзе калісьці жылі і працавалі людзі, у IX—XIII стст. падняліся курганы, рэшткі іх захаваліся да нашых дзён. Яны асабліва вызначаюцца ў паўкіламетры на захад ад вёскі Магільна ў сасновым урочышчы

Лэнгі. Тут выяўлена цэлая кургановая група каля дзесяці кургацоў, помнікаў археалогіі эпохі IX—XIII стст.

Людзі зноў вярталіся на былыя месцы. У паўнаводным Нёмане і раскінутых ля яго азёрах у дастатку вялася рыба, а ў лясах — дзічына. Адбудаванае паселішча народ назваў «Магільна».

— Але, канешне, — сцвярджае ўраджэнец гэтай вёскі, знаўца даўніны, доктар гістарычных навук Леанід Лыч, — паселішча існавала яшчэ задоўга да гэтага. Людзі тут з'явіліся ў эпоху каменнага веку. Паблізу вёскі Магільна, ва ўрочышчы Замчышча, археолагі выявілі гарадзішча, якому не меней двух з паловай тысячагоддзяў. А ў XIII—XIV стагоддзях тут стаяў замак — сядзіба феадалаў, а побач ў ім быў пасад-вёска. Замак належаў старажытнаму магнацкаму роду Пацаў. Згодна пісьмовай крыніцы — «Літоўскай метрыкі» — замак меў добрыя ўмацаванні: роў, вал і вежу з брамай-варотамі, да якой вяла брукаваная дарога. Пры земляных работах тут знаходзілі старажытны посуд, цэглу, вырабы з жалеза (цвікі, нажы), пячную кафлю са слядамі расліннага арнаменту. За межамі замка, на поўнач ад яго размяшчалася слабада — паселішча рамеснікаў і земляробаў. Пазней Магільна перайшло да Радзівілаў і складала з ваколіцамі частку Нясвіжскай ардынацыі.

Першае ўпамінанне аб Магільне даходзіць яшчэ да XIII стагоддзя, дакладней да 1235 года (па другіх звестках да 1284 года). Яно звязана з бітвай паміж войскамі вялікага князя літоўскага Рынгальда і паўднёварускіх князёў, на баку якіх выступілі і татара-мангольскія заваёўнікі.

Магільна адзначана ў аўтарытэтных крыніцах: «Іпацьеўскім летапісе», «Хронікі Літоўскай і Жамойцкай», і «Хронікі Быхаўца».

Згодна з «Хронікай Літоўскай» бітва пад Магільна адбылася ў 1284 годзе. Прыводзім апісанне яе па «Хроніцы Быхаўца»: «І згаварыліся паміж сабой князі рускія пачаць барацьбу супраць вялікага князя Рынгальда, маючы намер сагнаць яго са сваіх вотчын, рускіх гарадоў, перш за ўсё Святаслаў Кіеўскі і Леў Уладзімірскі і Дзмітрый Друцкі. Сабраўшыся, усе трое са сваімі палкамі пайшлі супраць вялікага князя Рынгальда.

І ўзялі тыя князі рускія на дапамогу сабе ад цара Заволжскага некалькі тысяч татараў. І князь вялікі Рынгальд сустрэў іх на рацэ Нёмане ля Магільна і быў з імі бой люты, і біліся паміж сабой вельмі моцна, пачаўшы рана раніцою і да самага вечара. І памог Бог вялікаму князю Рынгальту, які разграміў князёў рускіх і ўсю сілу іх і орду татарскую нашчэнт, і сам, атрымаўшы перамогу, з вялікай весялосцю, здабыўшы золата і срэбра і шмат скарбаў, вярнуўся дахаты і жыў шмат гадоў у Наваградку, і памёр, а пасля сябе пакінуў на Наваградскім княжанні свайго сына Міндоўга».

Рынгальд пад Магільна выступаў з аб'яднаным войскам: з арганізаваным рыцарствам Літвы і Жамойці. Жамойцкае войска ішло наперадзе, літоўскае — з правага боку, а атрады наваградцаў — па цэнтру. Па некаторых крыніцах наваградскі князь Рынгальд пасля вяртання ў Наваградак «уробил трех сынов, да нет ведома каковое дело из этих сынов было». Па іншых звестках, Рынгальд пасля бітвы вярнуўся ў Наваградак і там памёр, не пакінуўшы нашчадкаў: «умре без плоду, тут ся доконал род княжати римского Полемона».

У некаторых летапісах паведамлялася, што паўднёварускія князі загінулі ў гэтай бітве, тады як па асноўнай версіі яны збеглі з поля бітвы і прыбылі ў Луцк.

— Перамога Рынгальда над татара-манголамі, — сцвярджае Л. Лыч, — мела вялікае значэнне для вызваленчай барацьбы славянскіх і іншых народаў, у тым ліку для будучай перамогі ў 1380 годзе на Куліковым полі.

З часоў другога падзелу Рэчы Паспалітай, з 1793 года, Магільна ўвайшло ў склад Расійскай імперыі як мястэчка, цэнтр воласці Ігуменскага павета. З XIX стагоддзя Магільна — уласнасць князёў Вітгенштэйнаў.

У 1929 годзе ў мястэчку ствараецца калгас, які вызначаўся высокімі прыбыткамі. Тут была пабудавана новая сямігадовая школа, а перад вайной і бальніца, у якой працаваў нават зубны ўрач. Дзейнічалі Народны дом і дзіцячыя яслі. У школе, якая затым перайшла ў сярэднюю, вучылася 337 дзяцей.

Непадалёк ад Магільна, на правым беразе Нёмана ля дарогі Узда — Магільна, дзейнічаў да 1939 года вялікі лесасклад з лесазаводам, ад якога ў перадваенны час

пастаўляўся лес на экспарт. Адсюль вузкакалейная чыгуначная лінія ішла да Комалава на магістральнай чыгунцы Мінск — Негарэлае непадалёк ад Коласава. Шырокую падвоеную каляю не дазволілі будаваць палякі — усё ж яна лічылася прыгранічнай ракаднай дарогай.

Пасля верасня 1939 года пабудовы, механізмы і чыгунку перавезлі на новую граніцу, у Ломжу. Туды перавялі на першы час і многіх людзей. Пасля пачатку вайны яны дабіраліся як маглі на радзіму.

Пры сплаве многа лесу затаплялася. Кажуць, адзін руплівы чалавек з дапамогай самаробнага трактара выцягваў яго з Нёмана і збудаваў з яго добрую хату.

У час вайны ў ваколіцах Магільна разгарнуўся партызанскі рух.

У памяць аб ахвярах мінулай вайны ў Магільне ўстаноўлены помнік. У клубе калгаса «Нёман» ёсць мемарыяльная дошка, на якой імёны герояў — васемнаццаці камсамольцаў, удзельнікаў Лаўскага бою.

Сёння Магільна — цэнтр сельсавета і калгаса «Нёман». Тут размешчаны лясніцтва, сярэдняя школа, сепаратарны пункт, узведзены будынкі дзіцячага садуясляў, двух-, трох, і васьмікватэрных дамоў. У 1951 годзе пабудаваны вялікі мост праз Нёман. Ёсць клуб, паштовае аддзяленне, аддзяленне ашчаднага банку, прадуктовы, гаспадарчы, кніжны магазіны і інш. У сярэдняй школе праходзяць сустрэчы з цікавымі людзьмі, у першую чаргу выхадцамі з Уздзеншчыны.

Шмат таленавітых людзей выйшла з Магільна! На тэрыторыі сельсавета нарадзіліся пісьменнікі Ілья Гурскі і Алесь Пальчэўскі, дактары навук гісторык М. Я Шкляр і географ А. Х. Шкляр.

Навуковая адоранасць — сямейная рыса дзяцей жыхаркі Магільна Яўгеніі Сямёнаўны Лыч. На працы доктара гістарычных навук Леаніда Міхайлавіча Лыча я ўжо спасылаўся. Генадзь Міхайлавіч Лыч — доктар эканамічных навук, акадэмік АН Беларусі, заўчасна адышоўшы ад нас Анатоль Міхайлавіч Лыч быў эколагам, кандыдатам навук, загадчыкам лабараторыі АН Беларусі.

Гісторыя Магільна хоць і нялёгкая, але вельмі адметная і значная. Таму цяпер трэба прызнаць непрадуманай, паспешлівай і зусім неабгрунтаванай замену гістарычнай назвы вёскі «Магільна» на «Нёман», здзейсненай у 1979 годзе. Чаму? Сцвярджалася, што яна немілагучная.

Час ішоў, але ў побыце выкарыстоўвалася ранейшая назва. Жыхары Магільна па-ранейшаму звалі сябе магільнянцамі. Логіка пазбаўлення ад усяго, што звязана з тэрмінам магіла, у імя больш спакойнага і шчаслівага жыцця стала логікай падману. Яна была скіравана на сцвярджэнне новых штучных і ў многім змройных стэрэатыпаў, на парванне адвечнага ланцугу жыцця. «Перахрышчэнне» прызнавалася толькі людзьмі, якія не мелі на гэтай зямлі каранёў.

Так ці інакш, жыццё прывяло да адкрытага пратэсту і патрабаванняў вярнуць былую назву вёсцы. У 1989 годзе адбыліся два бурныя сходы, якія вылiліся ў амаль аднадушную падтрымку гістарычнай назвы. І 6 сакавіка 1991 года Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР былая назва — Магільна — вернута вёсцы. Сельсавет, школа, бальніца і інш. — па-ранейшаму носяць назву нёманскіх.

## Анатоль Астрэйка

* * *

Уздзянка, Нёманец і Лоша,
Вакол — мурожныя лугі...
Якая тут была раскоша,
Як смачна пахнулі стагі!

Дубы над Церахам, палянкі
І Нізаўскі, Падсацкі бор,
Надзей юначых пагулянкі,
Для салаўёў такі прастор.

Забыць у старасці не ўмею
Тваіх гаючых мудрых чар.

Я з кожным годам маладзею
Ад успамінаў і ад мар.

Наднёманне, мой край блакітны,
Цяпер я твой не часты госць.
Калі ж якая справа клікне —
Я еду зноў у маладосць.

Ля Нёмна сіняга спынюся,
Прыйду на звонкую Вусу.
Ад іх я песень набяруся
Людзям на радасць і красу.

І з імі буду я журыцца,
Што кімсьці ссечаны гаі,
Што ўжо не рэчка ў лозах ніцых, —
Тур'я і Лоша — ручаі.

Іду пяшком з Узды на Копыль.
Вялізны мост па-над ракой.
А на былым балоце копы
Адменнай пахнуць муравой.

**Алесь Марціновіч**

## БЫЛЬ КОЛІШНЯГА МАЁНТКА

### (Якуб Наркевіч-Ёдка)

Наднёман... Назва крыху нечаканая, хоць нічога дзіўнага ў ёй няма. Яна лішні раз пераконвае, што народ ведае, якія назвы даваць тым ці іншым населеным пунктам. Тут жа, на самай мяжы цяперашніх Узденскага і Капыльскага раёнаў, славуты Нёман яшчэ толькі набірае ходу. Ёсць ён ужо і, па сутнасці, яго як быццам няма.

Пачаўшыся з Нёманца, што губляецца ў балотах Узденшчыны, ён зліваецца з Лошай, пасля прымае ў сябе

воды Ушы і кіруецца ўпэўнена ў далейшы шлях, які, як вядома, вядзе да самага Балтыйскага мора. Наднёман — гэта над самым Нёманам. І сапраўды, колішні палац Якуба Наркевіча-Ёдкі знаходзіўся на правым, узвышаным беразе ракі, бо левы — палогі, нізінны і звычайна ранняй вясной затапляецца.

У пачатку XIX стагоддзя маёнткам валодаў Атон Ануфрыевіч Наркевіч, які належаў да старадаўняга шляхецкага роду, пачатак якому паклаў лідскі баярын Марцін Ёдка. Атону Ануфрыевічу належалі многія землі ў былых Ігуменскім і Слуцкім паветах. Яго ўладанні яшчэ больш павялічыліся, калі ён ажаніўся на Анэлі Эстка, бацькі якой аддалі дачцэ ў пасаг маёнтак Турын (цяпер гэта вёска у Пухавіцкім раёне). Хутчэй за ўсё ў Турыне ў маладой сям'і і з'явіўся 9 студзеня 1848 года на свет першынец, якому далі імя Якуб, які пазней стаў вядомы, як ...«электрычны чалавек».

Шкада, але пра першыя крокі Я. Наркевіча-Ёдкі няма пэўных звестак. Ды і ўвогуле, жыццё яго не адзін дзесятак гадоў як бы знаходзілася па-за межамі афіцыйнай навукі і толькі нядаўна вернута з небыцця, дзякуючы намаганням вядомага краязнаўцы, ураджэнца Уздзеншчыны Уладзіміра Кісялёва. А кніга пра Я. Наркевіча-Ёдку выходзіла ў Парыжы яшчэ ў 1896 годзе!

Пачатковую адукацыю будучы вучоны хутчэй за ўсё атрымаў дома. Вучылі яго запрошаныя на дом настаўнікі, а таксама маці Анэля Якаўлеўна, якая была чалавекам усебаковаадукаваным і развітым. У сваіх захапленнях яна аднак аддавала перавагу музыцы. Гэта не магло не аказаць уплыву і на выхаванне сына. Іграць на фартэпіяне Якуб пачаў яшчэ ў маленстве, а калі яго аддалі ў Мінскую губернскую гімназію (скончыў яе ў 1865 годзе), заняткі гэтыя прадоўжыў. І не толькі іграў. Праявіў сябе і як кампазітар, знаўца музыкі. Па некаторых звестках, ён нават вучыўся ў Парыжскай кансерваторыі. Магчыма, і так, адно можна сказаць дакладна, што пасля заканчэння гімназіі Я. Наркевіч-Ёдка шмат падарожнічаў па Еўропе, даючы прыватныя канцэрты.

Калі ў 1868 годзе пасля падарожжа вярнуўся ў Расію, вёў курс тэорыі музыкі ў жаночай Марыінска-Ярмолаўскай школе. Праўда, рабіў гэта па сумяшчальніцтву, бо асноўная пасада была — службовец I разраду Маскоўскага дваранскага сходу.

Жыццёвы выбар у нечым зроблены. Заставалася толькі аддаць перавагу нейкаму аднаму занятку. Я. Наркевіч-Ёдка, як быццам, спыніўся на музыцы. Прынамсі, калі чарговы раз паехаў за мяжу, не забываўся павышаць сваё майстэрства менавіта ў гэтым кірунку. Ды і калі пачаліся падзеі Парыжскай камуны, таксама жыў за кошт урокаў музыкі. Хоць ёсць звесткі, што ў тым жа Парыжы вучыўся на медыцынскім факультэце Сарбоны, перад гэтым наведваў лекцыі ў Інстытуце медыцыны ў Фларэнцыі. Даследчыкі не адмаўляюць і заняткаў Я. Наркевіча-Ёдкі ў навучальных установах Вены.

Усё гэта, праўда, меркаванні ды меркаванні, якіх нельга не прымаць пад увагу, бо далейшае жыццё Якуба Атонавіча паказала — у медыцыне ён быў зусім невыпадковым чалавекам. У фізіцы — таксама. Тут ужо самая вялікая загадка — адкуль гэтыя веды па ўсім, што звязана з электрычнасцю? Самаадукацыя? Відаць, адпадае, не да гэтага было Я. Наркевічу-Ёдку за мяжой, калі і так клопатаў хапала. Хутчэй за ўсё веды па фізіцы атрымаў падчас навучання ў Вене. Магчыма, і зусім нядоўга была гэтая вучоба, але ж, не будзем забываць, што Якуб Атонавіч усё схопліваў, як кажуць, на ляту.

Калі ў 1872 годзе паўстала пытанне аб яго вяртанні ў Расію, не імкнуўся жыць у вялікім горадзе. Вырашыў канчаткова — яго месца на Беларусі. Тады ж і з'явілася жаданне прысвяціць сябе навуцы. У маёнтку Атонава (сёння вёска Сінячова ў Капыльскім раёне) пабудаваў метэаралагічную станцыю, якую пазней перанёс у Наднёман, дзе і сам стала пасяліўся. Быў ужо чалавекам жанатым — упадабаў Алену Пясляк з суседняга маёнтка Мохарты. З'явіліся і дзеці...

У Наднёмане і набылі размах навуковыя эксперыменты. Балазе, умовы тут былі надзіва спрыяльныя. На беразе Нёмана знаходзіўся палац. Узведзены яшчэ ў XVII стагоддзі ў стылі ранняга барока, ён пасля

перабудоўваўся, рэстаўрыраваўся. Даводзілася ўсё да ладу і тады, калі галоўным гаспадаром стаў Якуб Атонавіч.

Дагледжаная сядзіба, радавалі вока пабудовы. Цэнтральная частка дома была двухпавярховай. Над будынкам узвышалася 27-метровая вежа, на якой Я. Наркевіч-Ёдка размясціў антэну. Падвал жа дома нагадваў навуковую лабараторыю якога-небудзь навукова-даследчага інстытута. Тыя з вучоных, каму давялося пабываць у Наднёмане, не хавалі захаплення ні ад самога палаца, ні ад лабараторыі.

Свае шматлікія доследы Якуб Атонавіч праводзіў пры дапамозе так званай шпулі Румкарфа. Прыбор гэты названы па прозвішчу нямецкага вучонага, які сканструяваў яго ў 1852 годзе. Пры дапамозе гэтай шпулі лёгка пастаянны ці пераменны ток нізкага напружання ператварыць у пераменны ток высокага напружання. Для сілкавання прыбора Я. Наркевіч-Ёдка выкарыстоўваў гальванічныя элементы. Вядома, прымаў захады, каб вопыты праходзілі бяспечна. Хоць, як сведчылі тыя, каму давялося пабываць у яго лабараторыі, далёка не ўсе запрошаныя на эксперыменты, згаджаліся прымаць у іх удзел. Асабліва палохала тое, што ў час вопытаў чуўся моцны трэск электрычных разрадаў, з'яўляліся яркія ўспышкі святла.

Праводзячы шматлікія эксперыменты, устанавіў, што ва ўздзеянні электрычнасці на чалавека, як і трэба было чакаць, ёсць пэўныя заканамернасці. Ведаючы іх, можна электрычнасць выкарыстоўваць пры лячэнні розных хвароб. І не толькі пры лячэнні, а і для прафілактыкі, прадухілення асобных з іх. Прыйшоў і да такой важнай думкі, што ў прыродзе ўсё здольна назапашваць электраэнергію і адначасова вылучаць яе ў навакольнае асяроддзе. Чалавек у гэтым жывым і замкнутым ланцугу не выключэнне. Думку занатаваў у адным са сваіх артыкулаў: «Увесь свет акружаны і напоўнены электрычнасцю. Кожны чалавек — гэта па сутнасці электрычная машына, якая, з аднаго боку, выпрацоўвае электрычнасць (адзін яе від — жывёльная электрычнасць) і аддае яе ў навакольнае асяроддзе, а з другога боку, паглынае электрычнасць (другі яе від —

атмасферная электрычнасць) з навакольнага асяроддзя. Такім чынам, у арганізме чалавека адбываецца пастаянны абмен паміж двума відамі электрычнасці і прытым у кожным стане паасобку напружанне электрычнасці ў арганізме рознае».

Наркевіч-Ёдка не задаволіўся тым, каб даказаць, што чалавек здатны выпрацоўваць электрычнасць. У эксперыментах ён пайшоў далей, адштурхоўваючыся ад першапачатковых, зыходных вынікаў. Якуб Атонавіч пачаў рабіць электраграфічныя здымкі, выкарыстоўваючы дзеля гэтага фотапласціны. І не толькі адбіткі раслін атрымліваў, вывучаючы будову іх сцябла, лісця. Эксперыментаваў і над рознымі ўчасткамі чалавечага цела.

Тут якраз і напаткала яго адкрыццё. Высветлілася, што малюнак, які адбіваўся пры гэтым, рэльефам сваім залежаў ад таго, здаровы чалавек ці хворы. На адлюстраванне ўплываў і душэўны стан пацыентаў. Значыць — Я. Наркевіч-Ёдка не хаваў радасці — электраграфічны метад, апрабаваны ім, у далейшым можна з поспехам выкарыстоўваць для дыягностыкі хвароб. Каб загадзя даведацца, што чакае чалавека наперадзе, дзе яго падсцерагае небяспека.

З вынікам даследаванняў неўзабаве пазнаёміў камісію спецыялістаў Пецярбургскага інстытута эксперыментальнай медыцыны, членам якой і супрацоўнікам якога з'яўляўся. Пра іх расказаў і на навуковай канферэнцыі, праведзенай Пецярбургскім універсітэтам. Пра адкрыццё электраграфічнага метада дыягностыкі хвароб дружна загаварыла прэса, аднёсшы яго да «нараджэння новай навукі». Але яшчэ да гэтага, у 1890 годзе, Якуб Атонавіч пачаў рэгістраваць навальнічныя разрады пры дапамозе ... «радыёпрыёмніка». Канечне, прыбор, асноўнай часткай якога з'яўлялася звычайная тэлефонная трубка, назваць так можна ўмоўна. Тым не менш, разрады фіксаваліся, ды і не на малой адлегласці. «Радыёпрыёмнік» улоўліваў іх у межах да 100 кіламетраў.

Як вядома, у такім кірунку вёў свае работы і знакаміты А. Папоў, які 7 мая 1895 года упершыню прадэманстраваў прыбор для рэгістрацыі навальніц па

электрычных разрадах. Дзень гэты ўвайшоў у гісторыю, як Дзень радыё (на Беларусі цяпер — Дзень работнікаў радыё, тэлебачання і сувязі). Але А. Папова ведаюць усе, пра Я. Наркевіча-Ёдку чулі, на жаль, адзінкі...

Несправядлівасць лёсу — нічога не скажаш! І наша нацыянальная абыякавасць, нежаданне парупіцца, каб у гісторыі менела і менела «белых плям». Што да самога Я. Наркевіча-Ёдкі, дык ён зусім не пра славу думаў. Як і кожны чалавек, па-добраму апантаны, па-сапраўднаму ўлюбёны ў справу жыцця, жыў навукай, цалкам аддаваў сябе ёй. Новыя доследы прыносілі найвышэйшае задавальненне, даследчыцкая праца станавілася патрэбай кожнага дня. Безумоўна, кіравалі ім і чыста навуковыя інтарэсы. Жаданне гэтае заканамернае. Ды і ўсё ж часцей Якуб Атонавіч дбаў і аб практычным прымяненні сваіх адкрыццяў. І лячэнне хворых у санаторыі «Наднёман» — не адзінкавы таму прыклад. А адкрыў ён яго ў 1892 годзе, каб лячыць, як гаварыў сам, слабагрудых хворых.

У 1892 годзе і настала «нараджэнне новай навукі». Вынікі, атрыманыя неўзабаве, пераўзышлі ўсе чаканні. У сваіх эксперыментах Я. Наркевіч-Ёдка ніколькі не памыліўся. Фатаграфічная пласцінка ставілася эмульсійным блокам да скуры хворага пад трэцім пазванком. Да яе набліжалася спецыяльная кандэнсатарная трубка, што ўяўляла сабой звычайную шкляную прабірку з падкісленай вадой, у якой размяшчаўся металічны электрод. Чым больш занядужаў чалавек, тым слабейшым назіраўся адбітак на пласцінцы. Падчас жа вылечвання хворага, пры чарговых здымках, пласціна засвечвалася, павялічваўся паток іскраў і адначасова узрастала іх інтэнсіўнасць.

Значыць... Спачатку Якуб Атонавіч і паверыць не мог, што гэтае смелае яго меркаванне пацвердзіцца. Аднак, сказаўшы «а», мусіў гаварыць і «б». Нічога не зробіш, навука патрабуе ахвяр. Ён чакаў. Страшным было чаканне, але без гэтага абысціся не мог. Правільнасць яго высноў мог пацвердзіць толькі ... мёртвы чалавек.

Праз які тыдзень знайшоўся бедалага, уратаваць якога, нягледзячы на ўсе намаганні, не ўдалося. Якуб

Атонавіч тым не менш паднёс пласцінку з кандэнсаванай трубкай да яго цела і... Не можа быць?! Прысутнічалі разрады. Вельмі слабыя, праўда, але яны ўсё ж заўважаліся.

Не спяшаўся спыняць эксперымент, бо ўжо здагадваўся, што чакае наперадзе. Так і атрымалася. З кожнай новай праверкай разрады слабелі, аднак яны затухалі паступова. Не адна гадзіна спатрэбілася, каб ужо на чарговай пласцінцы зусім не засталося адбітка.

Пры дапамозе такой пласцінкі і трубкі — Якуб Атонавіч ужо ніколькі не сумняваўся ў гэтым — лёгка можна адрозніць клінічную смерць ад фізічнай... А пры клінічнай, магчыма, сяго-таго і ўдасца ўратаваць.

У мала каму вядомым маёнтку рабіліся доследы, якія па навуковай значнасці набліжаліся да тых, што праводзілі ў прэстыжных навуковых цэнтрах не толькі Расіі, а ўсяго свету. Адарваны ад сталіцы, Я. Наркевіч-Ёдка ніколі не адчуваў сябе перыферыйным, бо глядзеў на акаляючы свет вачыма чалавека, упэўненага ў значнасці ўласнай справы, бо валодаў не проста талентам, а талентам празорцы, а толькі такія людзі, як сведчыць гістарычны вопыт, і здатны на значныя адкрыцці. І зусім не важна ўжо, дзе пастаяннае прыстанішча гэтых даследчыкаў — вялікі горад ці такі вось радавы маёнтак, у якім жыў Якуб Атонавіч...

Яшчэ ў 1889 годзе, выступаючы на чарговым пасяджэнні Метэаралагічнай камісіі Рускага геаграфічнага таварыства (працаваў Я. Наркевіч у асноўным вясной і летам, а зімой наведваў Пецярбург, Маскву, выязджаў за мяжу, знаёмячы навуковую грамадскасць са сваімі новымі адкрыццямі, наладжваючы навуковыя сувязі), ён паказаў уласны прыбор «лізіметр», з дапамогай якога можна было вызначыць вільготнасць глебы на глыбіні да трох метраў. Пры тым, як аказалася, вынікі атрымліваліся вельмі дакладныя. Інакш і быць не магло. Перш чым везці «лізіметр» у сталіцу, Якуб Атонавіч апрабаваў яго на ўласных палетках.

Вынайшоў Я. Наркевіч-Ёдка і градаадвод. Менавіта — градаадвод, а не маланкаадвод. І зусім простай канструкцыі. На драўлянай вежы, вышынёй каля 12 метраў, замацоўваўся медны стрыжань, які злучаўся

дротам (ці нават саламянай вяроўкай!) з цынкавай пласцінай, закапанай у зямлю. Градаадводы размяшчаліся на палетках у шахматным парадку, так, каб адзін прыпадаў прыкладна на два гектары. Вынікі не прымусілі чакаць. Палі Я. Наркевіча-Ёдкі амаль ніколі не біў град, вырашчаны ўраджай цалкам захоўваўся.

Як спецыяліст, які цудоўна ведаў законы фізікі, ён не мог не звярнуць увагі на тое, што ў час навальніцы каля меднага стрыжня адбываюцца лёгкія электрычныя разрады і ўтвараецца пры гэтым азон. У самой жа глебе тым самым павінны з'яўляцца цыркулюючыя токі. Доследы ў лабараторыі пацвердзілі правільнасць такіх меркаванняў.

Якуб Атонавіч прачытаў у часопісных публікацыях, што ў свеце вядуцца доследы па вывучэнню ўплыву электрычнага току на жыццё раслін. Адразу і сам падключыўся да гэтых эксперыментаў, але вырашыў усё праверыць на практыцы. Стварыў на сваіх палетках спецыяльныя «электрычныя» палі. Спачатку адвёў на гэтыя мэты толькі дзесяць гектараў. А пасля плошчу для эксперыментаў павялічыў удвая. Вырошчваў жыта, ячмень, кукурузу, боб, гарох, тытунь, грэчку, бульбу і іншыя культуры.Разлікі аказаліся правільнымі. Расліны, апрацаваныя электрычным токам, лепш узыходзілі, хутчэй раслі, давалі большы ўраджай.

З лёгкай рукі парыжскіх газетчыкаў Я. Наркевіча-Ёдку і назвалі «электрычным чалавекам». Але Якуб Атонавіч не абмяжоўваўся электрычнасцю, а рабіў многае, што людзям ідзе на карысць. У тым жа санаторыі «Наднёман» для лячэння хворых выкарыстоўваў спецыяльную гімнастыку, праграму якой распрацаваў сам. На яго тэрыторыі знайшоў мінеральныя воды. Стварыў і кумысавую лячэбніцу, паслугамі якой карысталіся 20 чалавек. Пры тым за лета раздаваў да 2000 бутэлек кумысу бясплатна.

У Расіі Я. Наркевіча-Ёдку ведалі. Ведалі і шанавалі... Ён з'яўляўся членам-карэспандэнтам фізічнага аддзялення Рускага фізічна-хімічнага таварыства пры Пецярбургскім універсітэце. За заслугі ў галіне метэаралогіі яго ўзнагародзілі ордэнам св. Ганны 2-й ступені. І адбылося гэта дзякуючы захадам прэзідэнта Пе-

цярбургскай акадэміі навук. Рускае геаграфічнае таварыства прысудзіла Якубу Атонавічу сярэбраны медаль. Увогуле, на той час па папулярнасці яго параўноўвалі з папулярнасцю Л. Пастэра ў Францыі. І за мяжой была няменшая пашана. Член-карэспандэнт Парыжскага медыцынскага, фізічнага таварystваў, член Італьянскага медыка-псіхалагічнага таварыства, доктар Венскага медыцынскага таварыства...

Здароўе ж у Якуба Атонавіча было не такое і моцнае. Урачы папярэджвалі, каб менш працаваў, больш клапаціўся аб сабе. Ён жа, як звычайна, адмахваўся ад гэтага. Маўляў, колькі трэба, столькі і пражыву. Не прыняў усур'ёз і чарговае папярэджанне. І ўсё ж зімой 1905 года (на гэты раз з пляменнікам) сабраўся ў Італію. У Вене стала блага, пасля, праўда, палягчала, але каб ехаць далей і гаворкі быць не магло.

Мясцовыя ўрачы паўтаралі, што неабходны спакой і толькі спакой. Выклікалі Алену Адамаўну. Яе Якуб Атонавіч дачакаўся. На руках жонкі ён і памёр 19 лютага 1905 года, прасіў, каб пахавалі на Радзіме. Воля была выканана. Цела перавезлі ў Наднёман, дзе і лёг Я. Наркевіч-Ёдка на вечны спачын на родавым могільніку.

Разбураны сёння палац у Наднёмане, пазарасталі падступы да колішніх будынкаў. Але падыходзіш бліжэй і зусім не дух запусцення апаноўвае цябе. Міжволі хочацца схіліць галаву перад памяццю Якуба Атонавіча, прыгадаць яго, «электрычнага чалавека», святло адкрыццяў якога нарэшце дайшло і да нас. А яшчэ, калі надарыцца апынуцца тут летнім надвячоркам, часам здаецца, што з руінаў чуюцца гукі музыкі. Не той трашчотна-рокавай, якая разносіцца з Песачанскага Дома культуры — гэта ж непадалёку адсюль, усяго ў некалькіх сотнях метраў, на левым беразе Нёмана. А вальсавай, мазуркавай, паланезавай, той, якая вечарамі заўсёды гучала, калі ў Наднёмане жыў адзін з самых выдатных беларусаў на зямлі Я. Наркевіч-Ёдка, як прыгадваюць старажылы, любіў і сам пасядзець за фартэпіяна, з задавальненнем запрашаў у свой маёнтак летам вайсковы аркестр. І тады абуджала наваколле чароўная музыка...

Цішыня, толькі цвыркуны стрыножаць наваколле. Цішыня? Не, паланез гучыць! І не абы-які, а «Паланез Агінскага!» Хоць і называецца ён «Развітанне з Радзімай», ды пісаўся ён знакамітым кампазітарам, як водгук на сустрэчу з Бацькаўшчынай.

А хіба ж у Якуба Атонавіча не сустрэча?! Хіба не вярнуўся ён з небыцця?!

Пачакаем толькі, калі будзе яго маёнтак адноўлены.

Пачакаем...

## Алесь Махнач

# ЗАБАЛАЦКІ ДЗЕД ЯНКІ КУПАЛЫ

Уздзенскі радавод Янкі Купалы ідзе са Стаўбцоўшчыны. Яшчэ на пачатку XVII стагоддзя Станіслаў Луцэвіч меў там невялікі маёнтак Кукялёўшчына. Нараджаліся дзеці, а за імі ўнукі. Дзялілі гаспадарку. Дадзяліліся, што напрыканцы XVII стагоддзя на кожны двор амаль нічога не засталося.

У 1692 годзе Луцэвічам пашэнціла — Васіль Станіслававіч з братамі Іванам і Іванам 2-м атрымаў ад князя Радзівіла засценак Лазараўшчына. Праўда, не ва ўласнае карыстанне, а па чыншавым праве.

Так на Уздзеншчыне з'явілася яшчэ адно «дваранскае гняздо». Час ад часу праводзілася дзяржаўная рэвізія маёнткаў, складаліся інвентары. Дваранства Луцэвічаў зацвярджалася з агаворкай. Закавыкай быў той самы запіс: «па чыншавым праве».

Лазараўшчына мела яшчэ адну назву — «Пяскі». Зямля тут сапраўды пясчаная. Разбагацець на ёй цяжка. Засценак са сваімі ўрочышчамі ўваходзіў у маёнтак Святы Двор. Ён належаў Радзівілам.

Каб утрымацца ў «дваранстве», Луцэвічы ішлі арандатарамі фальваркаў да мясцовых уладальнікаў маёнткаў. Іх на той час на Уздзеншчыне было каля трох дзесяткаў.

Напярэдадні Айчыннай вайны 1812 года фальварак Забалацце бярэ ў Казіміра Завішы Дамінік Іванавіч Луцэвіч, які нарадзіўся ў 1788 годзе — будучы прадзед Янкі Купалы. Чалавек прыйшоў сюды ў пошуках шчасця: знайсці свой кут, купіць зямлю. Стараўся трымаць годнасць двараніна, не меў намеру нажыць сабе багацце за кошт прыгонных сялян.

Дый тым «багаццем» на той час не маглі пахваліцца ні фальварак, ні яго людзі. Адступала рускае войска пад націскам напалеонаўскай арміі і забірала ўсё «для патрэб ваенных». Тое ж самае рабілі і тыя, хто наступаў. Назад вайна каціласа па спустошанай зямлі. А пасля адзін за адным пайшлі неўраджайныя гады.

Не дабавіў сабе «багацця» Дамінік Луцэвіч у фальварку Забалацце, затое тут знайшоў сваё шчасце — пакахаў прыгожую дзяўчыну Тэрэсу. Яна з маленства дапамагала бацькам па гаспадарцы. З трынаццаці год нараўне з дарослымі спраўна адбывала прыгон.

У Дамініка і Тэрэсы 7-га чэрвеня 1814 года нарадзіўся першынец — будучы дзед Янкі Купалы. Імя хлопчыку далі Ануфрый. У сям'і дабавіліся яшчэ два сыны — Аляксандр і Іван. Яны, як падраслі, сталі арандаваць зямлю ў мясцовых памешчыкаў.

Ануфрый выбраў у жонкі Валерыю Зянковіч з засценка Зенькавічы, што паблізу Узды. Яны мелі пяць сыноў: Міхаіла, Дамініка (нар. 1846 года — будучы бацька Янкі Купалы), Адама, Антона, Юльяна, а таксама дачок: Марыю, Эмілію і Садалію.

Хлопцы пайшлі дарогай бацькі. Дамінік застаўся на сядзібе свайго дзеда Івана ў засценку Лазараўшчына. Аддзяліўся ад бацькі, стаў таксама арандаваць зямлю ў заможных дваран. Пабраўся з Бянігнай Іванаўнай Валасевіч з фальварка Няшота, што на Стаўбцоўшчыне. У гэтай сям'і Луцэвічаў у 1882 годзе нарадзіўся Іван — будучы народны паэт Беларусі Янка Купала, а таксама яго брат Казімір і сёстры: Ганна, Марыя, Леакадзія, Сабіна і Гэлена.

У 1862 годзе ўрадавы сенат Дэпартамента геральдыі не зацвярджае адну лінію радавода Луцэвічаў у дваранстве, пераводзіць у статус гарадскіх мяшчан. Трапляе сюды і сям'я Ануфрыя Дамінікавіча. Ён піша на імя

«Великого государя Александра Николаевича», хоча даказаць сваё права на дваранства.

23 лістапада 1866 года Мінская дваранская дэпутацкая зборня адмаўляе ў станоўчым вырашэнні гэтай справы: патрабуе пераканаўчыя доказы.

Ануфрый Дамінікавіч сабраў цэлы том дадатковых дакументаў — іх было сто адзінаццаць. Яны пачыналіся «Выпіскай аб прывілеях, выданых князем Радзівілам 1692 г. 9 снежня на зямлю ў Лазараўшчыне».

За адшуканне гэтых дакументаў у розных архівах, канцылярыях і за складанне іх Ануфрый Луцэвіч, паводле рэестра за № 2308, які быў прыкладзены да справы, павінен быў заплаціць 720 рублёў срэбрам. На той час грошы вялікія.

Па ўказе «Его императорского Величества» 31 кастрычніка 1868 года ў Мінскай дваранскай дэпутацкай зборні зноў слухаецца справа Луцэвічаў, дзе патрабуюць новыя пацвярджэнні.

На гэты раз Дамінік Ануфрыевіч звяртаецца ў Цэнтральны архіў старажытных актаў Віленскай, Гродзенскай, Мінскай і Ковенскай губерняў. Знаходзяць новыя даведкі. У 1873 годзе «по повелению Государя» зноў пачынаецца разгляд справы Луцэвічаў аб іх дваранстве. Аднак усё застаецца па-ранейшаму.

Неўзабаве прыходзіць павестка, а за ёю завітаў судовы прыстаў: Ануфрый Дамінікавіч павінен заплаціць усе выдаткі за разгляд яго спрвы, унесці пошліну.

Далей змагацца не было моцы. Гаспадарка апынулася на мяжы развалу. Яшчэ ў 1850-х гадах маёнтак Святы Двор з засценкам Лазараўшчына пераходзіць да князёў Вітгенштэйнаў. Яны ў 1870-х гадах выганяюць сям'ю Луцэвічаў з Лазараўшчыны.

Напрыканцы 1882 года Ануфрый Дамінікавіч памёр. Перад смерцю даў наказ сваім дзецям і ўнукам: дабівацца праўды, якую яму не ўдалося знайсці.

І яны працягвалі яе шукаць. 12 чэрвеня 1913 года ў Мінскай дваранскай дэпутацкай зборні разглядаецца справа Луцэвічаў з дадаткам да яе — «Пасведчаннем даным Мінскім губернатарам Івану, Аляксандру, Іосіфу, Юльяну і Стэфану Ігнатавічам Луцэвічам для прад'яўлення да справы аб залічэнні да дваранства ў сувязі з па-

даным імі прашэннем за № 1019 ад сакавіка 16 дня 1912 г.».

У 1913 годзе Янка Купала піша драму «Раскіданае гняздо». У яе аснове — рэальныя падзеі: лёс беззямельнай сям'і забалацкага арандатара Ануфрыя Дамінікавіча Луцэвіча. Яго вобраз у творы — Лявон Зяблік. Ён таксама арандатар, беззямельны. Мясцовы землеўласнік адбірае ў яго зямлю, разбурае сялянскае «гняздо». Бедны чалавек з дзецьмі і жонкай блукае па свеце ў пошуках праўды. Гэта даводзіць і без таго бедную гаспадарку да поўнай галечы і развалу, да трагічнай смерці чалавека.

Трагічная жыццёвая падзея знайшла сваё мастацкае ўвасабленне і ў паэме Янкі Купалы «За што?» Сёння можна толькі ўяўвіць, як бы склаўся творчы і жыццёвы лёс Янкі Купалы пасля 1917 года, каб ягоны забалацкі дзед Ануфрый Дамінікавіч Луцэвіч дамогся аднаўлення свайго роду ў дваранстве.

Усю гэту жыццёвую драму забалацкага дзеда Янкі Купалы Ануфрыя Дамінікавіча можна знайсці ў «Справе Мінскай дэпутацкай зборні аб дваранскім паходжанні роду Луцэвічаў», дзе пазначана: «Справа пачата: жнівень 2 дня 1862 г.» Яна захоўваецца ў фондах Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі.

## Паўлюк Трус

* * *

То не гул завірухі мяцежнай
І не рокаты ўпартага мора, —
Гэта Нёман разліўся бязмежна
На грудзях Беларусі прасторнай.
Чую песні стыхіі-разводдзя,
Не стрымаць твае вольнае плыні!
Упусціла старое паводдзе,
Калі вір маладога нахлынуў.
І шумяць аграмадзіны-крыгі,
Разганяюцца ўдаль безупынна!..

Анямелі мінулага ўздрыгі
Ў хвалях жыцця магутна-няспынных.
О, бурліва-кіпучыя хвалі!..
Вам не страшны пажар навальніцы,
У прыгожа люстраныя далі
Разам з вамі і мне не спыніцца.
Адпіхнуўшы ад берага човен
І махаючы прысам кляновым,
Я плыву, — і надзеяю повен,
Што спаткаю сусвет вольна-новы!

## ДЗЕСЯТЫ ПАДМУРАК

*(Урыўкі з паэмы)*

Падаюць сняжынкі —
дыяменты росы,
Падаюць бялюткі за маім акном...
Расчасалі вішні шоўкавыя косы
І ўранілі долу снегавы вянок.

Дзесьці у прасторах празвінелі бомы.
Дацвілі пялёсткі нейчае тугі...
І здаецца зноўку — еду я дадому
Пераведаць родных, блізкіх, дарагіх.

Адхінае вечар тонкія мярэжы,
На акне альвасы дагарэлі ў сне.
А ў вачах квяцістасць і такая свежасць,
І з вачэй усмешкі сыплюцца на снег.

* * *

Праходзяць эпохі, —
змагаемся мы,
дзесяты падмурак заклалі;
а Нёман гамоніць, сярдзіта шуміць,
і коцяцца грозныя хвалі.

Адна за другою напорна імкне, —
стыхію душою паслухай.
У ёй чуецца крыўда —
успенены гнеў,
людская адвечная скруха.

У ёй чуецца жудасць затоеных скарг, —
маўкліва-смяротныя сконы.
І ў муках крывавых чыясьці рука
крывавыя піша законы...

## Уладзімір Кісялёў

## КРАЙ ТВОРЦАЎ

Калыска Нёмана... А дзе ж, калі не над калыскай, ствараюцца самыя задушэўныя, цудоўныя песні?

Сярод уздзенцаў ходзіць такая легенда:

...Ідуць тры вандроўнікі, ідуць дзень, ідуць ноч, а песня не змаўкае. Хтосьці іграе, хтосьці спявае, а хто іграе і спявае — не відаць.

— Вецер у лясных барах гудзе, — сказаў адзін з іх.

— А можа, Нёман на перакатах булькоча? — засумняваўся другі.

— Не, гэта калоссе ў полі звініць, — паправіў трэці, самы малодшы.

Хто з іх меў рацыю? Напэўна, усе. Бо сапраўды, тут спявае ўся зямля, гамоняць лугі, лясы, пералескі.

Можа, і сапраўды таму разам з Нёманам так свабодна і шырока струменіцца і другая — песенная — рака. У звонкім яе патоку пераплялося амаль дзесятак галасоў.

Уздзенскія пісьменнікі вылучаюцца сярод іншых асабліва глыбокай павагай, сыноўняй любоўю і пяшчотнасцю да роднага краю, яго працавітых людзей. Часта наведваюцца яны на сустрэчы з землякамі, прыязджаюць у творчыя камандзіроўкі, а то і проста пагасцяваць да родных, паблукаць па сцежках юнацтва, па роднаму лесу, ля любай рачулкі.

Яны дзеляцца з землякамі сваімі планамі і задумамі, уражаннямі ад далёкіх, іншы раз заакіянскіх, падарожжаў. І такія сустрэчы ператвараюцца ў сапраўдныя святы.

На літаратурныя вечарыны ў раённы Дом культуры ці ў сельскі клуб збіраюцца сяляне нават з самых аддаленых вёсак: з Магільна, Лошы, Віркова. Цёпла і сардэчна вітаюць яны сваіх песняроў, з павагай аберагаюць потым кнігі з даравальнымі надпісамі. Такая ўжо ў уздзенцаў любоў да роднага слова, да паэзіі.

Поблізу Нёманца, на Усе, ляжыць вёска Нізок, вёска пісьменнікаў, паэтаў, артыстаў.

Кандрат Кандратавіч Крапіва (Кандрат Кандратавіч Атраховіч) (1896—1991) яшчэ да першай сусветнай вайны атрымаў званне народнага настаўніка. Пасля дэмабілізацыі працаваў у школах Уздзеншчыны, а затым пераехаў у Мінск, дзе скончыў літаратурнае аддзяленне педагагічнага факультэта БДУ.

Болей шасцідзесяці гадоў творчасць К. Крапівы папаўняла скарбніцу беларускай культуры. Яго вострая палітычная, ідэйна-накіраваная сатыра заўсёды карысталася вялікім поспехам, фармавала свядомасць людзей. Яго байкі засноўваліся на сялянскай мудрасці, на непаўторным народным гумары. Таму яго творы даходзілі да самых аддаленых беларускіх вёсак.

К. Крапіва аддаў большую частку свайго таленту беларускай вёсцы. Яго раман «Мядзведзічы» пра жыццё вёскі ў перыяд грамадзянскай вайны, узнаўленне разбуранай сельскай гаспадаркі, будні сялян перад калектывізацыяй быў зразумелы ўсім, бо ствараўся на жывым мясцовым матэрыяле.

Сваю літаратурную працу Кандрат Кандратавіч на працягу многіх гадоў спалучаў з навуковай, грамадскай і дзяржаўнай дзейнасцю. Як доктар філалагічных навук, акадэмік Акадэміі навук Беларусі і доўгія гады яе віцэ-прэзідэнт, аддаваў шмат часу пытанням арганізацыі навуковай дзейнасці інстытутаў акадэміі. Значную работу К. Крапіва праводзіў і як дэпутат Вярхоўнага Савета рэспублікі, член Беларускага камітэта абароны міру.

Творчасць народнага пісьменніка рэспублікі Кандрата Крапівы карыстаецца ўсенароднай любоўю і павагай мільёнаў удзячных чытачоў. З якой цеплынёй гаварылі аб К. Крапіве землякі на Уздзеншчыне пры жыцці ў дні яго юбілеяў. Яго імя прысвоена Уздзенскай сярэдняй школе № 2.

Дарагім брыльянтам бліснула творчасць нізоўскага паэта Паўлюка (Паўла Адамавіча) Труса (1904—1929). Тут, у краі «адвечных песень, казак», упершыню прагучалі яго вершы, непаўторныя, крыштальна чыстыя, як нёманскія хвалі.

Кароткае жыццё было наканавана паэту — на яго літаратурную дзейнасць прыйшлося ўсяго сем гадоў. Аднак ён паспеў пакінуць адметны след у беларускай літаратуры. Яго паэтычная фігура на рэдкасць велічная і прыцягальная.

Некаторыя нізоўцы і зараз памятаюць П. Труса, гавораць пра яго з вялікай цеплынёй. Невысокага росту, каржакаваты, з густой капой кучаравых валасоў, ён нагадваў коласаўскіх палешукоў, здатных на гумар, вясёлых, упартых і непакорных перад жыццёвымі нягодамі. Паэт вызначаўся імклівымі пачуццямі, пявучым голасам, звонкім смехам. Умеў захапляцца, добра маляваў. Здзіўляўся сонечным зайчыкам, зваў іх усмешкамі. Вятры ў яго плачуць у параненай дуброве, малатарня звініць гулкім рогатам. Яго бор «смуглабрывы», а цені купаюцца ў даліне, плаваюць на лузе абветраным чоўнам. Усё ў творчасці паэта авеяна пачуццём радасці і любові да роднага краю, свайго народа. П. Трус увесь пафас творчасці накіраваў на ўслаўленне свайго народа-будаўніка.

Пры жыцці выйшлі два яго зборнікі: «Вершы» (1925) і «Ветры буйныя» (1927). Найболей значны твор паэма «Дзесяты падмурак». Вершы паэта і зараз здзіўляюць сваёй чысцінёй і першароднасцю.

Кажуць, паэт пісаў занадта проста. Але ж так размаўляў і пеў яго любы народ, ад якога ён ніколі сябе не аддзяляў. Песенная прастата — адметная рыса творчасці П. Труса.

Край легенд,
крыжоў, магіл-курганаў,

край тугі —
бальзам жывых крыніц...

* * *

Край паэм,
адвечных песень-казак —
дарагая сэрцу
Беларусь...

Асабліва цёплыя, лепшыя вершы прысвячаліся маці і яго блізкім.

Узлёт паэта прыпаў на перыяд выпакутаванага ўзраджэння, пераўтварэння беларускай зямлі. Яго творы пранізвае заклік да абнаўлення жыцця. Светлыя фарбы, урачыста-прыўзнятыя інтанацыі, узнёслая настроенасць, імкненне ў «сусвет вольна-новы» добра спалучаюцца з жаданнем паэта паскорыць рытм жыцця, перамагчы старое, кепскае:

Чую песні стыхіі-разводдзя,
Не стрымаць твае вольнае плыні!
Упусціла старое паводдзе,
Калі вір маладога нахлынуў.

Вершы паэта апярэджвалі час. Невыпадкова ў іх гучалі і другія грозныя прадчуванні-папярэджанні:

І ў муках крывавых
чыясьці рука
крывавыя піша законы.

Паўлюка Труса вельмі любілі за яго адкрыты, імклівы, рамантычны склад. Такім ён застаўся назаўсёды пасля недарэчнай заўчаснай смерці ад тыфусу. Беларускі народ беражэ і ўшаноўвае яго памяць. Шмат разоў перавыдаваліся яго творы, яны ёсць у многіх беларускіх хатах.

Паэт часта наведваў Нізок разам з П. Глебкам, іншы раз з М. Лужаніным. Разам з сялянскімі актывістамі выязджаў у суседнія вёскі — Прысынак, Падсацкія, Кухцічы — з канцэртамі мастацкай самадзейнасці. У іх прымаў удзел і П. Шыдлоўскі.

...У зацені старых дрэў на Вайсковых могілках у Мінску стаіць сціплы помнік з барэльефам юнака работы Заіра Азгура. Ніжэй кароткі надпіс: «Паўлюк Трус.

1904—1929». Якое кароткае жыццё, але як многа пакінута людзям!

Імя П. Труса носіць сёння Уздзенская раённая бібліятэка.

З вёскі Нізок і Лідзія Львоўна Арабей, беларуская пісьменніца, кандыдат філалагічных навук. Цудоўная, гасцінная, спагадлівая, таварыская жанчына — яна заўсёды ў творчым пошуку. Піша апавяданні, аповесці, раманы. Пісьменніца належыць да пакалення, маладосць якога апаліла вайна. Гэтай тэме прысвечаны многія яе творы — раман «Іскры ў папялішчы», «Сузор'е Вялікай Мядзведзіцы» і зборнікі прозы «Мне трэба ехаць», «Паласа дажджу». Месца падзей — беларуска-польскае пагранічча, гэта значыць — край, які яна добра ведае.

Лідзія Львоўна амаль ці не першай прайшла нялёгкім шляхам генерала Дз. Карбышава ў Беларусі, сустракалася з яго сям'ёй у Маскве, з людзьмі, якія добра ведалі гэтага незвычайна мужнага патрыёта. Вынікі яе пошукаў выкладзены ў нарысе «Дзень добры вам...»

Як навуковец Л. Арабей даследавала ўсебакова творчасць Цёткі (Алаізы Пашкевіч) і Хвядоса Шынклера, выдала адпаведныя літаратурныя работы і дакументальныя аповесці.

У вёсцы Нізок нарадзіўся вядомы беларускі акцёр Анатоль Міхайлавіч Трус (1910—1989). Працаваў у Беларускім драматычным тэатры імя Я. Коласа, у якім у 1930 годзе пачаў свой творчы шлях пасля Віцебскага тэхнікума. Ён праўдзіва і пераканаўча ўвасобіў характары нашых сучаснікаў. Мастацтву акцёра былі ўласцівы мяккія лірычныя фарбы, гумар, жыццёвая пераканаўчасць.

Паўла Іванавіча Шыдлоўскага (1908—1992) у раёне ведалі ўсе — ад малога да старога, ведалі і за яго талент, творчасць, шчырасць, песні...

Ад сялянскага хлапчука з Вялікай Усы да вядомага паэта, пісьменніка, вучонага, акадэміка АН Беларусі, грамадскага дзеяча — такі слаўны шлях прайшоў Пятро Глебка (1905—1969).

Талент паэта прабудзіўся пад уплывам прачытаных у дзяцінстве вершаў, матуліных казак і маляўнічай

прыроды Уздзеншчыны. Якуб Колас пра яго пісаў: «Паэзія П. Глебкі простая, сціплая і мужная. Сапраўднае хваляванне не патрабуе ўпрыгожвання, яно ідзе ад сэрца, і ў гэтым магутная сіла ўздзеяння паэзіі...»

У дзяцінстве паэт пазнаў нялёгкае сялянскае жыццё. Пасля заканчэння сямігодкі працававаў сакратаром сельсавета ў Каменцы на Уздзеншчыне. Закончыўшы літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне БДУ, працаваў у рэдакцыях часопісаў, у час вайны — у франтавым друку.

Літаратурную дзейнасць пачаў у 1925 годзе, у перыяд вялікіх перамен у жыцці беларускай вёскі. Пісаў вершы пра воінаў Савецкай Арміі, партызан, калгаснікаў, рабочых, інтэлігентаў, адраджэнне жыцця на вызваленай зямлі. Яго паэзія светлая, натхнёная і незвычайна чалавечная.

*О, Беларусь, мая калыска,*
Жыццё маё, прытулак мой!
З гарачаю любоўю нізка
Схіляюся перад табой.

Ваенныя вершы прасякнуты лірызмам, філасофскім роздумам, напоўненым шчырым і глыбокім пачуццём любові да Айчыны.

П. Глебка, абапіраючыся ў творчасці на літаратурныя і фальклорныя традыцыі, рамантычна паказаў новую рэчаіснасць праз спалучэнне дакументальных матэрыялаў з мастацкім абагульненнем.

Паэт спрабаваў сілы ў розных жанрах. Ён напісаў лібрэта да оперы «Андрэй Касценя», сцэнарый для фільма, перакладаў творы рускіх паэтаў і пісьменнікаў на беларускую мову.

Артыкулы П. Глебкі па моваўнаўству, гісторыі, філасофіі, фалькларыстыцы, мастацтвазнаўству (ён узначальваў інстытуты АН Беларусі) — і сёння багаты матэрыял па гісторыі Беларусі. Яго лічылі энцыклапедыстам, бо валодаў ён рэдкасным дарам ахапіць з'яву, падзею, факт гісторыі, культуры не толькі розумам, але і сэрцам.

Пятро Глебка быў — і гэта адзначаюць усе даследчыкі аднадушна — чалавек вялікай інтэлектуальнай сілы, добрага сэрца і высокіх пачуццяў. Незвычайна

просты, сардэчны, ён сустракаў кожнага мяккай усмешкай і добразычлівым поглядам, гаварыў ціха, павольна ў добрай інтэлігентнай манеры.

Па сваёй натуры, характару быў мяккім і спагадлівым чалавекам. Людзі, якія акружалі Пятра Фёдаравіча, любілі яго за разважлівасць, сяброўскую цеплыню, сапраўдную чалавечнасць.

Імя Пятра Глебкі носіць школа ў вёсцы Ліцвяны.

Колькі разоў шкадаваў, што не пазнаёміўся раней з Алесем Махначом, пісьменнікам, у многім незвычайным.

«Алесь Махнач прыналежыць да таго пакалення пісьменнікаў, творчы і жыццёвы шлях якіх склаўся пад уражаннем нялёгкіх, але гераічных падзей мінулай вайны. Ён як удзельнік абароны Брэсцкай крэпасці не мог не напісаць суровую праўду аб юных абаронцах пагранічнай цвярдыні над Бугам» — гэта словы Васіля Быкава.

...У 1939 годзе А. Махнач разам з сябрам адыходзіў на вучобу ў ваеннае вучылішча. З гэтай нагоды ў клубе Прысынкаўскай хаты-чытальні адбыўся ўрачысты вечар з канцэртам. Завадатарам яго быў, як і заўсёды, Павел Шыдлоўскі. Хутка праляцелі два гады заняткаў.

Ці мог тады прадбачыць 19-гадовы юнак, выпускнік Калінкавіцкага пяхотнага ваеннага вучылішча, камандзір узвода 455-га стралковага палка 42-й стралковай дывізіі лейтэнант Алесь Махнач, які толькі што прыехаў у гарнізон Брэсцкай крэпасці, што ўсяго праз тры дні наступіць найвялікшы пералом у яго жыцці? Але так яму было наканавана лёсам. Пасля цяжкага ранення ў час абароны Брэсцкай крэпасці (некаторы час Алесь Іванавіч камандаваў ротай, 26 чэрвеня страціў прытомнасць і трапіў у фашысцкі палон.

Зразумела, што, перажыўшы драму другой сусветнай вайны, пісьменнік не мог не пісаць аб ёй. Праўда, аб некаторых абставінах трагедыі 1941-га да часу не прынята было гаварыць. Усё ж перамены падыходзілі, наступала і «адліга». Яна вылучыла пісьменніка С. С. Смірнова.

Многія яшчэ памятаюць той час, калі людзі пасля работы спяшаліся да нешматлікіх тады яшчэ тэле-

экранаў, каб паслухаць зноў і зноў гэтага трохі стомленага, але па-юнацку няўрымслівага чалавека.

Менавіта ён адкрыў для краіны неўміручы подзвіг абаронцаў Брэсцкай крэпасці. Першымі з жывых удзельнікаў тых цяжкіх баёў ён адшукаў Самвела Матэвасяна з Ерэвана, а затым у Мінску і Алеся Махнача. Гэта было ў жніўні 1954 года. Знаёмства перарастае ў дружбу, аб якой у кватэры Алеся Іванавіча нагадвае партрэт С. С. Смірнова з надпісам: «Майму дарагому Алесю Іванавічу, герою Брэста і добраму чалавеку, якога я вельмі люблю. 25.5.64. Мінск. Ваш С. Смірноў». Сяргея Сяргеевіча Алесь Махнач лічыць самым вялікім сваім сябрам і настаўнікам у літаратурнай працы.

Сяргей Сяргеевіч натхняў А. Махнача на мастацкае ўвасабленне неўміручага подзвігу брэсцкіх герояў. Неўзабаве з-пад пяра А. Махнача выйшаў шэраг твораў на тэму Айчыннай вайны: гераічныя драмы «Шпачок» і «Гаўрошы Брэсцкай крэпасці», дакументальныя аповесці «Дзеці крэпасці», «Камандзір усходняга форта» і іншыя.

Паўплывала на творчасць пісьменніка і наднёманская прырода — лагодная і вельмі паэтычная. Алесь Іванавіч лічыць, што Наднямонне — месца найболей яркага ўвасаблення беларускіх традыцый, бо сюды менш за ўсё пранікалі заходнія і ўсходнія ўплывы.

Найбольш значнай працай аўтара з'явіліся нарысы «Мой Нёман», «Цячэ рэчка» і «Ля родных крыніц». Гэта цудоўныя няспешлівыя апавяданні аб нечым вельмі блізкім — аб нашым славутым Нёмане, яго вытоках, аб людзях, якія знайшлі прытулак на яго берагах, і наогул, пра Бацькаўшчыну. Такое трапяткое пачуццё да роднай зямлі яму перадалося ад продкаў.

З Прусінава пачаўся жыццёвы шлях таленавітага беларускага празаіка Алеся Пальчэўскага. У 1931 годзе ён скончыў БДУ, працаваў у часопісах, пераважна дзіцячых, настаўнічаў.

Друкавацца пачаў з 1926 года. Але асноўныя яго творы былі выдадзены ў 50—60-х гадах. Таму былі свае прычыны.

Алеся Восіпавіча Пальчэўскага (1905—1979) не абмінуў цяжкі лёс рэпрэсіраванага. Ён быў сасланы і

працаваў у 1936—1946 гадах у Горкаўскай вобласці, а з 1948 па 1955 год — у Краснаярскім краі. Разам з такімі ж ён валіў лес, спаў бок пры боку на голых нарах, дзяліўся апошнім сухаром, цыбулінай і драбком цукру.

Там ён знайшоў сваё асабістае шчасце, аб'яднаў сваё жыццё з чалавекам не менш цяжкай долі — Тамарай Рыгораўнай Цулукідзе, былой артысткай тэатра імя Ш. Руставелі, потым членам Саюза пісьменнікаў Беларусі. Пасля рэабілітацыі Беларусь стала для гэтай жанчыны княжацкага паходжання новай радзімай.

У вельмі сціплых умовах яна трымала нешта блізкае да літаратурнага салона. Іх сумесны дом быў заўсёды адчынены, цёплы, светлы і гасцінны. Тут жыло мастацтва, паэзія, літаратура...

Творы А. Пальчэўскага нельга чытаць без хвалявання, бо яны адзначаны высокай змястоўнасцю. Ён добра ведаў сялянскі побыт, псіхалогію селяніна, яго жывую мову. Заяміна, Барок, Румок — вось тыя месцы, дзе разгортваюцца падзеі жыцця герояў яго твораў.

Пісьменнік сцвярджаў мастацкім словам любоў, дабрыню, справядлівасць. Усё, што выйшла з-пад яго пяра, — у вышэйшай ступені чалавечнае. Родная зямля была для яго гаючай крыніцай. «Чалавечнасць праглядваецца і ў характары А. Пальчэўскага. Ён быў уважлівым, даверлівым, з ім лёгка было сябраваць, — *пісаў аб ім Я. Скрыган.* — У яго была патрэба рабіць каму-небудзь дабро. Ён любіў простыя, усім вядомыя жарты. Не любіў ныцця, гледзячы на яго, хацелася жыць таксама, як ён, — жыццесцвярджальна, чалавечна, з адкрытым тварам».

У апошнія гады жыцця Алеся Восіпавіча пацягнула да бацькоўскай хаты. Ён уладкаваў і прывёў у парадак родны дом. Там жа ў Прусінаве на вясковых могілках і быў пахаваны побач з бацькамі.

Т. Цулукідзе апошняе дзесяцігоддзе прысвяціла ўшанаванню памяці Алеся Восіпавіча, стварэнню музея на яго радзіме, збору і публікацыі яго твораў.

Пісьменнік Алесь Якімовіч (1904—1979) — адзін з тых, хто прыняў актыўны ўдзел у станаўленні сучаснай беларускай літаратуры. Пачаўшы свой творчы шлях у

незабыўных дваццатых гадах, ён адразу ж вызначыў сваё высокае прызванне — тварыць для юнага чытача.

Яго шчодры талент падарыў розныя ў тэматычных і жанравых адносінах творы. Яны шырока вядомы маленькім чытачам.

А. Якімовіч унёс вялікі ўклад ў літаратурную апрацоўку і папулярызацыю беларускіх народных казак. Кнігі казак, выдадзеныя пры яго ўдзеле, высока ацэнены на вартасць знаўцамі і аматарамі фальклору. Пісьменнік стварыў цыкл твораў, прысвечаных мінуламу: «Адкуль ліха на свеце», «Кастусь Каліноўскі», «Канец сервітуту». За апошні твор пісьменніку ў 1974 годзе была прысуджана прэмія імя Я. Коласа. А. Якімовіч перакладаў вершы рускіх паэтаў.

З вялікай сыноўняй любоўю і павагай пісьменнік ставіўся да роднай зямлі, прыроды, жыцця. Радзіма А. Якімовіча — нічым не прыкметная вёска Чурылава на Уздзеншчыне, такіх многа на Беларусі. Валілі лес, вазілі калоды, ганялі плыты. Бацька часта адрываў яго ад вучобы і браў з сабой у лес ці на рум. Менавіта гэта вёсачка з прасторнымі лясамі і палямі за ваколіцай заставалася самым дарагім месцам для пісьменніка. Ён казаў: «Вядома, я не шкадую, што некалі прамяняў вёску на горад. Але нешта сялянскае, вясковае жыло ў мяне ўсе сорак апошніх гадоў. І я рады, што яно не пакінула мяне.

Усім вядома, што Уздзеншчына славіцца сваімі паэтамі і пісьменнікамі. Але адкуль яны бяруцца? — пытаюць многія. А і сапраўды — адкуль? Да рэвалюцыі пра пісьменнікаў мы і не чулі. Нават проста пісьменных было не густа. У нашым Чурылаве і школы не было амаль ці не да самай рэвалюцыі.

Пачыналася ўсё так. У 1916 годзе ў мястэчку Узда адкрылася вышэйшапачатковае вучылішча. Туды паступалі пераважна дзеці бяднейшых сялян, таму што заможныя вучылі сваіх дзяцей у гімназіі.

І што ж?

Гімназія не дала нашай літаратуры ніводнага пісьменніка. А з вучылішча, якое потым перайменавана было ў працоўную школу, выйшлі адразу тры: Паўлюк Трус, Пятро Глебка і я. Зацікавіў нас да творчасці, вядо-

ма, наш першы пісьменнік з Уздзеншчыны, нізоўскі настаўнік Кандрат Крапіва, які выступіў у друку са сваімі вершамі пасля вызвалення Беларусі ад белапалякаў. Свайго вучнёўскага захаплення літаратурай мы не пакінулі і далей».

Сваім сябрам і знаёмым гэты цікавы чалавек так рэкамендаваў Уздзеншчыну: «Будзе час, прыязджайце сюды, паглядзіце гэтую зямлю, і вы пабачыце, як станеце багацей і дабрэй».

Нямала прайшло часу з тых пор, калі Антон Пятровіч Бялевіч (1914—1978) з хатлянскай Дуброўкі, пачынаючы супрацоўнік раённай газеты, выступіў у друку са сваімі першымі вершамі. Ад самага пачатку ён спалучаў паэзію з журналістыкай, газетнай працай. У час Айчыннай вайны супрацоўнічаў у перыядычным друку, накіроўваўся ў партызанскі тыл.

У сваёй творчасці А. Бялевіч выкарыстоўваў вусную народную творчасць, яе прыёмы і вобразы. Песенныя народныя інтанацыі, традыцыйная фальклорная вобразнасць — характэрныя рысы паэзіі А. Бялевіча.

Каля трыццаці кніг выйшла з-пад яго пяра. У 1943 годзе ў Маскве была выдадзена першая кніга вершаў у перакладзе «Человек из Дубровы». Асноўны матыў лірыкі — жыццё вёскі. Па-сапраўднаму была песенна-шчодрай душа ў Антона Бялевіча, які з гонарам любіў паўтараць: «Я з Дуброўкі!». І лепшыя свае паэтычныя радкі ён прысвяціў менавіта ёй, Уздзеншчыне. Вось яго пранікнёныя словы аб Радзіме:

«Ціха гарыць агеньчык, а са смалістага хвойніку цёплае паветра плыве, а ў тым паветры густы настой верасу, багуну, жывіцы. З вёскі далятаюць гукі гармоніка, песні плывуць на ўзлессе да начлежнікаў. Хораша, радасна на сэрцы ў людзей.

Землякі мае! За вас я рады,
Рады за Уздзеншчыну маю!»

А. Бялевіч ахвотна сустракаўся з людзьмі, ездзіў у самыя аддаленыя куткі Беларусі. Першым настаўнікам у яго быў бацька-паляўнічы, з якім хадзіў па лясных сцежках. Гэта пачуццё прыроды, усяго жывога ўдала перадаецца ў яго творах праз говар лясоў і шэпат палёў,

прыгажосць кожнай кветкі і травінкі. У паэта прырода натхняе — яна жывая.

Беларусь мая!
Твае каліны,
Арабіны, ясені ў гаю —
Шолахам і песняй жураўлінай
Заплылі ў мой лёс,
Душу маю.

Ілья Данілавіч Гурскі (1899—1972) пісьменнік гісторыка-рэвалюцыйнай тэмы. Вялікія гістарычныя падзеі вывучаў не толькі па дакументах, ён сам быў актыўным байцом. У яго творчасці асобнае месца займае раман-хроніка «Вецер веку» з чатырох кніг. Ён прысвечаны гістарычным падзеям, звязаным з рэвалюцыяй у Петраградзе і на тэрыторыі Беларусі.

Заслужаны дзеяч культуры Беларусі Ілья Гурскі быў у 1935—1941 гадах рэдактарам газеты «Літаратура і мастацтва», у Айчынную вайну — газеты «За свабодную Беларусь», у 1944—1960 гадах — часопіса «Беларусь».

Ён аўтар шэрагу п'ес. У пасляваеннай творчасці асноўная тэма — барацьба з нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

Яго пляменнік Васіль Рыгоравіч Гурскі — член Саюза пісьменнікаў Беларусі. Ён прайшоў баявым шляхам партызана і на схіле гадоў узнавіў у шматлікіх публікацыях-успамінах сваё партызанскае мінулае. Яны аб'яднаны зараз у нядаўна выдадзенай «Беллітфондам» кнізе «Хмары над Міншчынай».

Васіль (Васіль Аляксандравіч) Шырко — адзіны прадстаўнік уздзенскіх пісьменнікаў сярэдняга пакалення — родам з Чурылава. Пачынаў як прафесійны журналіст. Працаваў у газетах, на тэлебачанні, затым у рэдакцыі часопіса «Полымя». Аўтар кніг «Зямлі бацькоўскай прыцягненне», «Дзед Манюкін не салжэ», аповесцей «Сцяжынка да людзей», «Хай людзі бачаць» і інш.

В. Шырко — пісьменнік з ярка выражанай вострасюжэтнасцю. Сфера яго прыцягнення — вёска. Героі твораў — землякі аўтара: чурылаўцы, зенькаўцы, боркаўцы. Паданні, казкі, анекдоты пераплятаюцца з суровай праўдай жыцця.

Зямля ўздзенская дала рэспубліцы многіх дзеячаў мастацтва. Мастак, удзельнік Айчыннай вайны Сцяпан Адамавіч Андруховіч (1909—1989) з вёскі Губіна. Яго карціны экспанаваліся ў Маскве ў 1940 годзе на дэкаднай беларускай выстаўцы. Палотны прысвечаны пераважна пасляваеннай вёсцы.

Графік і мастак Юзаф Вульфавіч Пучынскі з Узды. Аформіў ілюстрацыі да шэрагу кніг беларускіх і рускіх пісьменнікаў. Стварыў серыю каляровых лінагравюр, сюжэтна-тэматычныя палотны.

Мастак Іван Аляксандравіч Салавей нарадзіўся ў вёсцы Баравыя. Яго працы расказваюць аб духоўным і працоўным жыцці і побыце нашага сялянства, аб дзіўнай і велічнай уздзенскай прыродзе.

Чалавек нялёгкага асабістага лёсу мастак Міхась Вікенцьевіч Рагалевіч — аўтар многіх шчымліва-трывожных палоцен пра свой родны край. Адна з апошніх яго карцін «Наш славуты зямляк (Я. Наркевіч-Ёдка) зусім па-новаму высвятляе асобу нашага слыннага навукоўца.

Аляксандр Сямёнавіч Махнач адзін з вядучых беларускіх геолагаў, відны арганізатар навукі, акадэмік Акадэміі навук Беларусі, доктар геолага-мінералагічных навук, прафесар, заслужаны дзеяч навукі Беларусі нарадзіўся ў вёсцы Хатляны. Удзельнік Айчыннай вайны. Удзельнічаў у пошуках і адкрыцці радовішчаў калійнай і каменнай солі ў Беларусі. За адкрыццё і разведку нафты яму прысвоена Дзяржаўная прэмія Беларусі.

Аляксандр Махнач займаў доўгі час пасады галоўнага вучонага сакратара і віцэ-прэзідэнта АН Беларусі.

Вёска Сакольшчына — радзіма яшчэ аднаго вучонага, беларускага фізіка, акадэміка АН Беларусі, доктара фізіка-матэматычных навук, прафесара, заслужанага дзеяча навукі Беларусі Барыса Васільевіча Бокуця.

У час вайны ён актыўны ўдзельнік партызанскага руху на Беларусі, з 1955 года — навуковы супрацоўнік, загадчык навуковай лабараторыі Інстытута фізікі АН Беларусі. Доўгі час быў рэктарам Гомельскага дзяржаўнага універсітэта, які ён у асноўным і стварыў. Навуковыя працы вучонага датычылі крышталаоптыкі, узаемадзеяння магутнага выпраменьвання з крышталамі.

Канстанцін Іванавіч Шабуня — беларускі гісторык, член-карэспандэнт АН Беларусі, доктар гістарычных навук, прафесар. Нарадзіўся ў вёсцы Даўгінава. Удзельнік Айчыннай вайны. У Інстытуце гісторыі АН Беларусі даследаваў гісторыю сялянства і сельскай гаспадаркі перыяду капіталізму.

Адкуль жа яна ўсё-такі, гэта творчасць?

Антон Бялевіч пісаў: «Пад ціхі шолах сасновых бароў, пад працяглы шум лазы і ракітніку ды чароту над Нёманам складаліся легенды і быліны аб маім родным раёне, які стаіць між салаўіных гаёў і дуброў».

* * *

У знак слаўных перамог на адным з маскоўскіх дамоў — раней французскай ваеннай місіі — устаноўлена французскімі ўладамі мемарыяльная дошка ў памяць аб загінуўшых лётчыках авіяпалка.

Полк створаны быў у красавіку 1943 года. Спачатку *ён насіў назву «Нармандыя»*. Калі баі перайшлі на тэрыторыю Беларусі, Літвы, за паспяховыя дзеянні пры фарсіраванні савецкімі войскамі ракі Нёман авіяпалку была прысвоена назва «Нёманскі». Ён стаў з таго часу звацца «Нармандыя — Нёман». Кожны год да будынка французскай ваеннай місіі ў Маскве прыходзяць і рускія баявыя таварышы па былому злучэнню.

В небесах мы летали одних,
Мы теряли друзей боевых.
Ну а тем, кому выпало жить,
Нужно помнить о них и дружить.

## Анатоль Астрэйка

* * *

Звычайна, нібы к вадапою,
Збіраліся вёскі да рэк,
Што зваліся Лошай, Тур'ёю,
Здаецца, заўсёды, спрадвек.

Мне помніцца даўняе рэха
Пахмурых сялянскіх сяліб,
З саломы замшэлыя стрэхі,
Калодзежаў ранішні скрып.
З Пясочнага ў шлях незнаёмы
Пайшоў я малым хлапчуком
З табою у сэрцы, мой Нёман,
З табою, бацькоўскі мой дом.
І я не раскідаў па свеце
Ні гукаў, ні фарбаў тваіх,
Яны ў маіх вёснах і лецях,
У вершах славянскіх маіх.
Калі ж прыязджаў я дадому
Праведаць сваю старану,
На Нёмне згружаў сваю стому,
Бадзёрасць да сэрца гарнуў.
Насіў у душы я сумленна
Дым з коміна, пацеркі рос.
І воблік быў вёскі нязменна
Тужлівы між ліп і бяроз.
Прыгледзеўся ж зараз да вёскі —
Аселіцы не пазнаю,
Не тыя хаціны, бярозкі,
Нібы не ў сваім я краю.
Мы радасць у сёлы прынеслі,
Забыты дні цяжкіх пакут.
Старое ўяўленне я крэслю,
Стаў песняй мой нёманскі кут.

**Алесь Марціновіч**

## «ЛЯ НЁМНА СІНЯГА СПЫНЮСЯ...»

### (Паэт Анатоль Астрэйка)

На беразе Нёмана знаходзіліся шматлікія румы. Дзесяткі, сотні плытоў дзень за днём, найперш вясной, па вялікай вадзе, плылі і плылі па Нёмане. На пачатку XX

стагоддзя сплаву паменела, але Анатоль Астрэйка заспеў яго (нарадзіўся будучы паэт 24 ліпеня 1911 года ў вёсцы Пясочнае Капыльскага раёна.) Пра гэта прыгадвае ён у вершы «Прымі прывітанне»:

Быў рум калісьці ля ракі.
І ўдзень, і ўночы плытагоны
Сасны стрыжнёвай камлюкі
Ля берага вязалі ў згоны.

Сасна стрыжнёвая як звон
Мінала лес, мінала горы.
І не адзін мы з бацькам згон
Вялі па Нёмнавым прасторы.

А яшчэ Нёман — невады рыбы, духмянае сена, скошанае на прырэчных лугах. Сена засталося, рыбы паменела. Застаўся і ўспамін А. Астрэйкі: «Вясной не раз на Нёманцы мы нераты з суседам трэслі, а ўвосень гнуткія дубцы на новыя кашолкі неслі». Як і большасць паэтаў, вершы А. Астрэйка пачаў пісаць рана, а з першымі творамі ў друку выступіў у 1928 годзе, калі паступіў на двухгадовыя настаўніцкія курсы пры Мінскім педагагічным тэхнікуме. Апынуўшыся ў сталіцы, далучыўся да літаратурнага жыцця.

У 1932—1934 гадах вучыўся на літаратурным факультэце Мінскага педагагічнага інстытута, пазней супрацоўнічаў з рознымі газетамі. Паспеў у 1940 годзе выдаць першую кнігу «Слава жыццю». Падрыхтаваў і другую «Квецень», але рукапіс згарэў у вайну. Сам жа пайшоў на фронт. А неўзабаве стаў адказным сакратаром сатырычнай газеты-плаката «Раздавім фашысцкую гадзіну». Двойчы накіроўваўся на акупіраваную ворагам тэрыторыю. Давялося яму пабываць і ў партызан Случчыны. Пра іх баявыя справы расказаў і ў сваіх вершах.

Неяк завітаў у рэдакцыю міжраённай падпольнай газеты «Народны мсцівец». Яе рэдактар М. Дастанка «папрасіў даць верш у газету». Паэт адказаў: «А я не адзін верш, а цэлую кніжку хачу вам прапанаваць». Прапанова М. Дастанку зацікавіла, ухваліў яе і сакратар Слуцкага падпольнага райкома партыі І. Кананові́ч. Наборшчыцы Люба Куляшова і

Люба Шаўчук ахвотна згадзіліся набраць творы. Іх падтрымалі друкары Валодзя Кананович і Коля Тархаў.

Над афармленнем зборніка працавалі партызанскія мастакі Саша Залаты і Саша Бяляеў. М. Дастанка прапанаваў зрабіць да вершаў літары-застаўкі. Іх выразалі на кляновых кубіках. Вырашылася пытанне і з паперай — яе слуцкім падпольшчыкам удалося дастаць у мясцовай нямецкай друкарні. Як успамінаў М. Дастанка, «для друкавання вокладкі кніжкі партызаны раздабылі чырвонай фарбы, а для пераплёту знайшлі нержавеючага меднага дроту». Зборнік вершаў А. Астрэйкі «Слуцкі пояс» друкаваўся на працягу месяца. Экземпляры па меры гатоўнасці паступалі ў партызанскія атрады.

На гэтую кнігу, як на ўнікальнае выданне, звярнуў увагу ў сваім даследаванні «Савецкая літаратура» французскі пісьменнік-камуніст Луі Арагон, а нашу рэспубліку назваў «партызанскай краінай». Другое выданне «Слуцкага пояса» з'явілася ў выдавецтве «Беларусь» у 1964 годзе і адразу стала бібліяграфічнай рэдкасцю. Не кажучы ўжо пра «Слуцкі пояс» 1943-га — захаваліся толькі яго адзінкавыя экземпляры, у тым ліку і ў музеі Вялікай Айчыннай вайны.

Асабліва плённа працаваў А. Астрэйка ў пасляваенныя гады. Выйшлі кнігі паэзіі «Зямля мая», «Бацька мой, Нёман», «Цвіціце, верасы», «Зямная Случчына» і іншыя. Нямала напісаў і для дзяцей, а паэма «Прыгоды дзеда Міхеда», адрасаваная юным чытачам, перакладзена на многія мовы.

Анатоль Астрэйка — самы шчыры пясняр Нёмана і Наднямоння. Дзесяткі вершаў напісаў паэт пра цудоўную раку і ні ў адным не паўтарыўся. Заўсёды мог вымавіць радкі, якія станавіліся шчырым прызнаннем. Простым, без гучных слоў. Ды хіба патрэбны яны там, дзе сама душа гаворыць, чуваць яе самыя пранікнёныя, лірычныя струны:

Я зноў стаю каля ракі.
Варушыцца празрысты Нёман.
Вакол і лес, і хмызнякі
З малых мне год усе знаёмы.

Перачытваеш вершы, і быццам на самой справе блукаеш ля Нёмана, праходзіш ваколіцамі Пясочнага, любуешся хараством прыроды. Хочацца адкласці самыя пільныя справы, каб паспяшацца сюды, дзе — паэт у гэтым пераконвае — сапраўды зямны рай.

Нёману прысвечаны і верш, які стаў адной з самых папулярных у народзе песень.

На музыку верш А. Астрэйкі паклаў вядомы беларускі кампазітар, аўтар музыкі Дзяржаўнага гімна Рэспублікі Беларусь Нестар Сакалоўскі. Многія знакамітыя спевакі ўключылі песню «Нёман» у свой рэпертуар. А ўпершыню выканаў яе М. Ворвулеў у лютым 1955 года ў Маскве, калі праходзіла Дэкада беларускага мастацтва і літаратуры. Усім адразу запомніліся, запалі глыбока ў сэрца словы, якія так проста, задушэўна перадаюць любоў да ракі, што ўспрымаецца сімвалам Беларусі.

Матывы гэтыя, не паўтараючыся, а напаўняючыся новым зместам, пераходзяць з твора ў твор, паступова ператвараючыся ўжо не толькі ў песню роднаму Пясочнаму, а і робячыся гімнам усёй Капыльшчыны. І не толькі Капыльшчыны, а ў пэўнай ступені і роднай Беларусі.

Пра Нёман пісаў А. Астрэйка. Пра Нёман і пра лясы... І ў яго характары таксама было штосьці ад неўтаймаванай прыроднай стыхіі, калі цесна, немагчыма адчуваць сябе ў рамках звыклай штодзённасці. Сэрца ж рвецца туды, дзе ў наш тэхнічны век так адчувальны і ход гадоў, і вечнасць часу.

**Адам Русак**

## ЗАКРАСУЙСЯ, НЁМАН

Закрасуйся, Нёман,
Каласамі ніў,
Што вясновым ранкам
Росамі паіў.

Закрасуйся, Нёман,
Між лясоў і гор,
Панясі ты песню
Жніўную ў прастор.

Закрасуйся, Нёман,
Кронамі дубоў,
Хараством дзявочым,
Кветкамі лугоў.

Закрасуйся, Нёман,
Іскрамі крыніц,
Панясі духмяны
Водар медуніц.

Ты разліся, Нёман,
Між палёў, дарог,
У вясновых казках,
Песняй перамог.

## СТАЯЦЬ НАД НЁМАНАМ ДУБЫ

Стаяць над Нёманам дубы,
Асілкі-волаты стаяць,
Няма на свеце сілы той,
Каб іх спаліць, каб іх зламаць.

Растуць увысь, у сінь нябёс,
П'юць сокі нёманскіх крыніц.
І разбіваюцца аб іх
Маланкі грозных навальніц.

Зімой і летам, дзень і ноч
Дубы вартуюць родны край,
Над імі лётаюць буслы,
А каля іх квітнее гай.

А як збярэцца карагод,
Узыдзе месяц над ракой,
Тут песню слухаюць дубы
Вячэрняй ціхаю парой.

Вясна расквеціла сады,
І шэпча вяз каля прысад,
А на руках сваіх дубы
Калышуць белых буслянят.

## МОЙ НЁМАН

Краса мая, мой Нёман родны,
Мая любімая рака!
Люблю разліў твой шумнаводны
І ціхі бераг рыбака.

Люблю твае жывыя хвалі
І твой траскучы крыгаход,
На квецені расы каралі
І над табою сонца ўсход.

Люблю нарты твае крутыя,
Кіпучыя віры-кругі,
Дубы над кручай векавыя,
Твае мядовыя лугі.

Люблю, калі па-над вадою
Заснуць у лузе чараты,
А ў зорным небе над табою
Узыдзе месяц залаты.

Тады на крыллях узлятае
Ад сэрца песня аж да зор,
І чулая душа жадае
Абняць шырокі твой прастор.

Абняць, прайсці усе дарогі,
Дзе я радзіўся, дзе я рос,
Дзе я касіў твае разлогі
Пад спеў дзявочы ў сенакос.

Як берагам тваім прыходзіў
І слухаў шэпты кветак, траў.

Ты сны чароўныя наводзіў,
Ты казкі-чары мне шаптаў.

*Мяне віры твае паілі*
Вадой гаючаю крыніц,
Мяне лугі твае жывілі
Духмяным сокам медуніц.

І сілу даў ты мне такую,
Каб буры я перамагаў,
А сэрцу даў струну жывую,
Каб пра цябе я век спяваў.

Ты непакорны, ты свабодны,
Па-над табой шумяць бары,
Ад Беларусі нашай роднай
Нясеш паклон Літве-сястры.

О Нёман — песня майго сэрца,
Краса палёў, краса нізін!
Люблю твой спеў, што ўдаль нясецца,
Люблю цябе, як родны сын!

**Павел Шыдлоўскі**

## ПЕСНЯ АБ УЗДЗЕНШЧЫНЕ

Паміж бароў з квяцістымі лугамі
Красуе ў сонечным святле вясны
Мой родны край, што Уздзенскім названы.
З ім наша праца, думы, сны.

Зямля твая вядомая Радзіме,
Магутны Нёман з гордасцю бяжыць,
Вялікіх ты паэтаў нарадзіла
І людзям радасна тут жыць.
*Люблю твае калгасныя палеткі*

І горад твой, дзе ўздымаюцца муры,
І навакол садоў разлівы-кветкі,
І ціха песню шлюць табе бары.

## Кастусь Шавель

## РОДНАЕ

Вакол Узды
Маіх палёў абрусы,
Вакол Узды
Маіх лясоў віток,
Радзіма Крапівы майго
І Труса
Лагоды і паэзіі
Выток.
Як хараша
Шугае ў нас тут лета!
Які ж прыгожы май
І лістапад,
Завеі зім!
І я, з душой паэта,
Люблю свой кут,
Яму бязмежна рад.
Цвілі ў маленстве тут
Мае ўсмешкі,
Спявала ў наваколлі
Маладосць,
У будучыню
Пракладаў тут сцежкі,
Быў след мой чысты,
Чысты ён і ёсць.
Лагчыны, ўзгоркі —
Усё тут мне знаёма,
Мне, як браты, тут
Кожны дуб і клён.
Тут пачынае бег свой
Бацька-Нёман,
Што неба ўсё
Забраў сабе ў палон.

## Віктар Сабалеўскі

*(г. Узда)*

* * *

Туман па-над Нёмнам магнітам
Збірае з алешын расу.
У ціхім куточку, забытым
Здыму з плечука я касу.

Тут бусел старанна вартуе
Сваю і маю цішыню,
Але і яго разбуджу я,
Мянташкай спакой праганю.

Спяшайся хутчэй жа, цыбаты,
Са мной станавіся у рад.
Табе даручаю занятак —
Ганяць з-пад касы жабянят.

А конікі побач танцуюць,
Вітаючы сонца усход,
І чутна, як рэчка віруе,
Зрабіўшы круты паварот.

Зязюля пракосы палічыць,
І я не заўважу, калі
На рукі мае маляўніча
Прысядуць у рад мазалі.

І пеўні ў вёсцы гарланяць,
Сігналяць: сюды па расе
Матуля касцам на сняданне
Блінцоў цёплых горку нясе.

А сонца расу ўжо цалуе.
Папіўшы крынічнай вады,
Касу зноў у рукі бяру я,
Раблю я з пракосаў сляды.

## У ЛУЗЕ
## НАД НЁМАНАМ

Луг квяцісты, луг мурожны,
Незабыўны кветак пах...
Ну, хіба тут неяк можна
Утрымацца на нагах?
Апускаюся між кветак
На зялёную траву.
Пахне свежасцю і летам.
Я сабе рамонкі рву.
Навакол мяне — не травы,
А высокі лес, здаецца.
Да таго ўсё тут цікава,
Што спакой знаходзіць сэрца.
Доўга слухаю, як конік
Між званочкаў дзесь стракоча,
Ды відаць як жаваронак
У траве схавацца хоча.
Як аркестры, звоняць пчолкі,
Прысядаючы на кветкі,
І прыемны грай іх звонкі
Ападае на палеткі.
Сонца шар над галавою
Пазірае мне у твар.
Не дае шум-гам спакою —
Лета цёплага разгар...

**Іван Сурман**

*(г. Узда)*

## АДЛІГА

Яшчэ нядаўна маразы
У садзе перуном трашчалі,
Рыпелі з енкам палазы,
І пругкі след у снезе клалі.
А сёння дружна капяжы
Лінулі слёзы з-пад застрэшша,

І пацямнелі ўраз лаўжы,
І сонца бліснула усцешна.

У кронах сосен б'ецца шум
Вірлівай веснавой паводкі.
...Мне чуцен крыг счарнелы тлум
На Нёмне, каля замка Ёдкі.

## Клаўдзія Рогава

*(г. Узда)*

# ЛЯ РАКІ, ШТО НАЗВАЛІ УЗДЗЯНКАЙ

Гайдае вецер, цярушыць
Дрэў магутных лісцё,
Памяць вякоў варушыць
Усё, што сплыло ў небыццё.
Нібы сведкі сівой даўніны
Легенды па свеце блукаюць,
Здані продкаў, нібыта сны,
Усплываюць ізноў, ажываюць...
Змрок чорнай ночы.
Цокаюць коней капыты.
Кайдана-ворага вочы
Жвірам рачным закрыты.
Тут ён магілу знайшоў,
Ля рэчкі, якую назвалі
Уздзянкай.
Век ужо шосты пайшоў,
Ды татарка не стала славянкай.
Больш яна не кляне
Далёкіх продкаў сваіх,
Толькі ноччу ў сне
Коней лашчыць ліхіх.
Да ўсходу бяжыць

Сцежкай вузкай пад горку
На мізары* служыць
Малітву святую на золку.
І, заплюшчыўшы вочы,
Зноўку сябе ўбачыць —
Нібы птушкай уночы
На кані яна скача.
Хоча бег супыніць,
Тут яе радавод...
Ціха песня ляціць,
Сплывае з хвалямі вод.

**Павел Махнач**

*(в. Каменка)*

## НАША УЗДЗЕНШЧЫНА

Наш родны край, край Прынямоння.
Зямля працоўнай ратнай славы!
Табою, Уздзеншчына, сёння
Мы ганарыцца маем права.

Прайшла ў жыцці сваім нямала
Цярністых сцежак і дарог.
У тваім лёсе ўсё бывала:
І светлы час, і дні трывог.

Зямля мая, край маляўнічы,
Не раз у песнях ты апета:
Народных талентаў крыніца,
Даеш натхненне для паэтаў.

Тут пачынаўся шлях свядомы,
Для іншых знатных землякоў:
Для кампазітараў вядомых,
Вучоных, здольных мастакоў.

---

* Мізар — татарскія могілкі.

* * *

Маляўнічы куток Беларусі...
Тут усё ў непаўторнай красе:
Ціхахвальная рэчка Вуса
Бацьку Нёману воды нясе,

У люстэрка вады глядзіць голле
Вербалозін, алешын, ракіт...
А вакол — палёў нашых раздолле
І лугоў заліўных аксаміт.

Задуменна стаіць бор за вёскай,
Дзе калісьці збіраў ты грыбы,
Дзе паветра высокія сосны
Напаўняюць настоем смалы.

...Пачынаўся тут шлях твой
жыццёвы
І маленства тваё тут прайшло.
Для паэзіі тэмы і словы
Жыццё роднае вёскі дало.

## Аляксандр Гладкіх

*(в. Магільна)*

## РАЗЛІЎ НЁМАНА

Працягнулі дрэвы цені
Па вадзе, нібы масткі,
І цалуюць ім калені
Хвалі Нёмана-ракі.
Ды казычуць жартаўліва,
Як свавольнік той малы,
Нават вербы сарамліва
Падабралі падалы.
Над прынёманскай далінай
Шум і трэск усе дзянькі,

Чэшуць крыгі лугавінай,
Як на кросе, — нацянькі.
І з'явіўся Нёман госцем
(Што яму платоў слупы!),
Аж у самае Замосце, —
Хоча выверыць скляпы.
Абдарыў усе сядзібы, —
Каму ў двор, каму ў гумно —
Трошкі смецця, крышку рыбы,
Дошку, дровы, бервяно.
Калі ласка, не шкадую
Я ад радасці п'яны! —
Нёман так з людзьмі жартуе
Кожны год у час вясны.
Я люблю яго разлівы:
Больш вады — і больш травы
Гаспадар будзе шчаслівы,
Не панурыць галавы.
Неба сінь, птушыны гоман,
Растапіліся снягі...
Коціць, коціць воды Нёман,
Затапляе берагі.

## Анатоль Каралецкі

*(в. Прусінава)*

* * *

Як цябе не любіць, Прынямонне,
Бераг кветні дзяцінства майго?
У чаромсе твае наваколле,
Дзе жыццё свой вядзе карагод.

Як цябе не любіць, мая родная вёска,
Казка вечных жыццёвых шляхоў?
Век цябе не забыць, мой прытулак бацькоўскі,
Калі звязаны сэрцам, як з маці, з табой.

### Яўгенія Беразоўская

*(в. Суткі)*

## ЛЮБЛЮ СВОЙ КРАЙ НАД НЁМАНАМ

Люблю свой край над Нёманам,
Яго лугі, палі, лясы,
Дзе восень рассыпае ў промнях
Замест пралесак верасы.
Люблю блакітныя прасторы,
Туманы лёгкія ў палях.
Мой край у шчасці і у горы
Ў жыцці на верны стане шлях.
Тут сонца свеціць ярка,
І зоркі ў небе маладзей,
А месячык глядзіць з-за хмаркі
На родны край мой весялей.
Мы Нёман бацькам называем,
Найпрыгажэйшаю ракой,
Яго у песнях услаўляем,
Тут бачым радасць і спакой.

### Валянціна Рогач

*(в. Цялякава)*

## ПЕСНЯ ПРА РОДНУЮ СТАРОНКУ

Аб'едзь усю зямлю ад краю ў край
Ці з жаўрукамі ў небе пашукай —
Ты знойдзеш для душы сваёй спакой
У мясцінах тых, ляжаць што за Уздой.
Зямля мая, цудоўная старонка,
Ласкавы, незабыўны родны край!
З цялякаўскіх лясоў узнёсла, звонка
Гукну я нізаўскім музыкам: «Грай!»
З азёр лашанскіх веснавым світаннем,

Як матчыным бялюткім ручнікам,
Жаўрук над хатай шле сваё вітанне,
Махнуўшы па-сяброўску мне крылом.
Зямля мая, цудоўная старонка,
Ласкавы, незабыўны родны край!
З цялякаўскіх палёў узнёсла, звонка
Гукну я жаўруку: «Не адлятай!»
Прайдуся берагамі ціхіх рэк,
У чаратах сустрэну я заранку,
Дзяцінства нагадаю шчыры смех,
І над Яршамі — даўнюю буслянку.
Зямля мая, цудоўная старонка,
Ласкавы, незабыўны родны край!
З цялякаўскіх крыніц узнёсла, звонка
Я Нёману гукну: «Не забывай»!
Мне не пакінуць роднага парога.
Куточак мой! Ты, як і лёс, — адзін.
І назаўсёды грэе хай дарогу
Барвовы свет хатлянскіх журавін.
Зямля мая, цудоўная старонка,
Ласкавы, незабыўны родны край!
З цялякаўскіх лугоў узнёсла, звонка
Гукну я свету беламу: «Спявай!»

## Мікола Дзелянкоўскі

# СЫМОН БУДНЫ Ў НЯСВІЖЫ

Скупое зімовае сонца свеціць над Нясвіжам. У вянку старых клёнаў і ліп стаіць помнік. Павее ветрык, і белыя крышталікі інею асыпаюцца на бронзавага Сымона Буднага, ярка ўспыхваюць на сонцы. А Сымон Будны горда трымае ў адной руцэ кнігу «Катэхізіс», а другой нібы перагортвае яе старонкі, запрашае пачытаць.

Непадалёку ад помніка знаходзіцца друкарня імя Сымона Буднага. Побач — славуты Фарны касцёл, замак Радзівілаў, якім чатырыста гадоў, старыя мураваныя будынкі. Здаецца, на міг трапляеш у той час, калі жыў у Нясвіжы чалавек, які так многа зрабіў для нас, беларусаў.

Сымона Буднага справядліва называюць вялікім гуманістам, асветнікам, філосафам, філолагам, гісторыкам. Прадаўжальнік справы Францыска Скарыны, ён жыў у эпоху Адраджэння, калі вялася барацьба новых поглядаў і ідэй з тымі, што аджылі свой век. Сымон Будны выступаў супраць феадалаў, якія прыгняталі народ. Ён лічыў, што ўсе людзі, багатыя і бедныя, павінны быць роўнымі перад законам, перад судом. Каб шчасліва жыць, патрэбен мір. Войны падзяляў на справядлівыя, калі адстойваюць сваю Радзіму, і на заваёўніцкія, злачынныя.

У той далёкі час рэлігія моцна ўплывала на жыццё людзей. Сымон Будны бачыў шмат недарэчнага ў вучэнні багасловаў і смела выкрываў іх. Ён быў перакананы, што душа памірае разам з целам, што на тым свеце няма ні пекла, ні раю. Трэба, каб кожны чалавек у жыцці кіраваўся розумам і сумленнем, а не страхам перад боскай карай.

Распаўсюджваў свае перадавыя погляды Сымон Будны па-рознаму. Ён перапісваўся з вядомымі вучонымі, якія жылі ў Расіі, Польшчы, Англіі, Германіі і ў іншых краінах. Закончыўшы вучобу ў Кракаўскім універсітэце, працаваў настаўнікам у Вільні, быў пратэстанцкім прапаведнікам у Клецку. Затым пераехаў у Нясвіж, дзе заснаваў друкарню і выдаў у 1562 годзе «Катэхізіс» — першую на Беларусі кнігу на роднай мове. Гэта кніга надоўга стала падручнікам для тых, хто любіў і шанаваў сваю мову, сваю гісторыю і культуру, свой народ.

Памёр Сымон Будны ў вёсцы Вішнева, што пад Валожынам, пакінуўшы нам у спадчыну нямала сваіх твораў. Жыццё ён пражыў нялёгкае, поўнае трывог і клопатаў. Духавенства і ўлады праследавалі яго, зневажалі, а кнігі, выданыя ім, спальвалі. Аднак нішто не магло зламаць волю аднаго з самых мужных беларускіх першадрукароў.

У Нясвіж часта прыязджаюць госці, прыязджаюць зблізку і здалёку. І ўсе прыходзяць сюды, да старых клёнаў і ліп, каб пакланіцца Сымону Буднаму за ўсё, што зрабіў ён для людзей.

## Янка Рагоз

# НЯСВІЖ, 1562

Паліглот сярэднявечча
Выбірае мову продка:
Цісне літары дасвеццем —
«Катэхізіса» старонкі.

Спіць магнатаўская світа
Пасля гульбішчаў у замку,
Спяць апрычнікі ў Нясвіжы...
Ён — шчыруе ў працы зранку.

Ды яшчэ сябры шчыруюць —
Кавячынскі і Крышкоўскі,
Фарбу свежую рыхтуюць:
У друкарстве — пачаткоўцы.

Дзякуй, зразумелі Чорны
Радзівіл, Астаф Валовіч...
Ён прыдбаў сваю вучонасць,
Каб народа ўзнесці слова.

А яго ж пасля Скарыны
Не чуваць было паўвека.
Быццам гукі акарыны —
Мова родная асветніку.

Хай блукаюць хмарна цені —
Ён глядзіць далёка ўперад...
І жыве ўжо летуценнік
У Нясвіжы,
Леў Сапега...

Ён у школе пратэстанцкай
«Катэхізіс» той набудзе,
І пасля,
Як стане канцлерам, —
Увасобіць у Статуце

Словы вольныя, як пташкі...
Дык жа цісні іх, Сымоне:
Праз вякі твае нашчадкі
Словам тым жа цябе ўспомняць...

## Кастусь Жук

* * *

Зямля бацькоў!
О дай яшчэ мне раз
Прыпасці да цябе,
абняць аберуч,
Каб аніколі ў сэрцы не пагас —
Агонь любові,
радасці
і веры.

Каб кожным нервам быў прывязан я
Да тых мясцін,
дзе ты мяне ўзрасціла:
Да бальшака,
рачулкі,
ручая,
Да юнае бярозкі легкакрылай.

Каб зноў і зноў
наведваўся здалёк
У звонкі бор, у гай нессірацелы,
Дзе пырхае у травах
матылёк —
Дзяцінства матылёк празрыста-белы.

* * *

Свет стракаціцца і пярэсціцца.
Вецер мне пазычае крыл.
Эх! Хутчэй гаям напярэсцігі —
Не заманіць тады і Крым...
Беларускія, прынямонскія,
Светлалістыя паясы!

Даражэй вы за ўсе прыморскія,
Аблагоджаныя лясы.

Між бяроз захмялею здзіўлена.
Абрашуся у верасах.
Старана ты мая радзінная,
У птушыных уся галасах!

Ля Тур'і ці ля ціхай Ясельды —
Салаўёў не злічыць вакол.
З пераспелага сонца — ягады
На зялёны апалі дол...

Верасовачка!
Чабаровачка!
Дарагая зямля навек!
Ты для сэрца заўжды — гаёвачка,
Ва ўспамінах маіх — жытнёвачка,
Ад самоты ж — радовішча лек.

У стасунках з табой — карані мае.
Сок крыніц піць — за гонар мне.
Чарамшынай світай, радзімая,
Дней!

## СУВЯЗЬ

Які адметны шлях —
Наўкол ажыннік спее,
І Нёман — партупеяй
Ва ўзлеску на грудзях.

Забудзься на даўгі:
Пазыч зуброўкі ў лета —
І з песняй неадпетай
Плыві да той вяхі,

Дзе смолкаў дух руды,
Дзе смачны пах азону,
Дзе радасці і звону —
На ўсе стае гады.

Мудрэй!
А памудрэў —
Тады, як прашчур, нема
Чапай галіны дрэў,
Што п'юць зямлю і неба!

Хай кругам галава
Ідзе ад пахаў, зыкаў —
Ты слухай, як трава
Спявае, што музыка.

І зведвай гэты дзень.
І гэты бор адзіны.
Нічога саладзей
Няма,
Чым пах радзімы.

## РАКА

Я цябе, празрыстая, не выдумаў, —
Анямела рад: не ўпершыню
За пясчанай крутабокай выдмаю —
Гул грудзей хістае цішыню!

Хто там прагугнеў,
што неба хмарыцца
І гудзе ад ветру галава?!
Думаецца хораша і марыцца
Ля твайго ўтравелага ручва.

Шапаці аерам, балацянкаю,
Напінайся ў плыні цецівой.
Я з табой, гарэзаю-бяглянкаю,
Загублю і сум,
і неспакой.

Біся ў берагі, вірыся ў завіху,
Звесялела мкні свой вадаграй.
Аднаго прашу:
ў нягоду-засуху
Не пыні жыцця — не высыхай!

## Уладзіслаў Сыракомля

# НЁМАН АД ВЫТОКАЎ ДА ВУСЦЯ

### § 4

Праплыўшы мілю па простай лініі, ды зрабіўшы дугу на поўнач, такую ж па даўжыні, Нёман мінае мястэчка **Мікалаеўшчына**, таксама Радзівілаўскае. Тут варты ўвагі каталіцкі касцёл, адноўлены 20 гадоў таму.

### § 5

Пастаянна ў паўночна-заходнім кірунку, але ўсё болей схіляючыся на захад, прабягае некалькі міляў, трохі віляючы, Нёман даплывае да мястэчка **Свержань**, якое ў XVI стагоддзі належала Ужэлеўскім, Свірскім ды іншым. Потым яго купіў Мікалай Крыштаф Радзівіл, якога называлі Сіроткай, і дагэтуль яно належыць да нясвіжскага маярату. Тутэйшы парафіяльны касцёл мураваны, неабтынкаваны і непабелены, які пабываў у руках кальвіністаў і арынцаў той жа Сіротка ў 1588 годзе вярнуў католікам. Мясцовая царква пабудавана ў 1511 годзе. Сведчыць аб гэтым помнік на могілках, пра які ў сваіх нататках напісаў у 1857 г. А. Г. Кіркор.

Жыхары мястэчка насяляюць 185 дамоў. Гэта 350 хрысціянаў і 430 яўрэяў мужчынскага полу або разам каля паўтары тысячы душ.

Чвэртку мілі далей на Нёмане пабудаваны мост, ад якога рака пачынае быць сплаўнай, значыцца, па ёй могуць ісці віціны — судны гандлёвыя — адгэтуль у Крулявец. Бо ад вытокаў да гэтага месца Нёман, плывучы па нізіне сярод лясоў і балота, амаль сухі ўлетку і разліўны вясной і восенню, можа несці на сваіх хвалях толькі плыты з драўнінай у Крулявец або Мемль.

**Свержань** з’яўляецца складачным месцам тавараў, якімі тутэйшыя людзі гандлююць з Крулеўцам. На беразе Нёмана пабудаваны 14 складоў. Тутэйшыя яўрэі бедныя і не могуць гандляваць самастойна, таму яны працуюць у якасці пасрэднікаў купцоў з Мінска і Навагрудка. Асобныя, праўда, якія больш заможныя, гандлююць ад імя багатых або ў складчыну. Але абаротны іх капітал сціплы, бо з агульнай сумы 75000 сярэбраных рублёў на долю тутэйшых гандляроў прыходзіцца толькі 12000. Натуральна, што такую суму збіраюць з усёй яўрэйскай грамадскасці.

За Свержанем на ўзбярэжжы Нёмана канчаецца чарназём і пачынаюцца пяскі; расліннасць аднак даволі багатая, на выганах расце трава, хоць часам і балотная, але вялікая і карысная для жывёлы.

## § 6

Паўмілі за Свержанем ляжыць большае мястэчка **Стоўбцы**, дзе ў 287 дварах 664 чалавекі хрысціянскай веры і 1000 яўрэйскай. Акрамя касцёла, царквы і сінагогі ўсе будынкі драўляныя. Спярша гэтая зямля належала да Служкаў, потым да Чартарыскіх, а цяпер да дзяржавы.

Тутэйшы касцёл парафіяльны, пасля дамініканскі, багаты. Яго заснаваў Аляксандр Служка ў 1623 годзе. У падвалах касцёла спачываюць астанкі заснавальніка, ягонай жонкі Зофіі з Зяньковічаў з малым сынком Дэадатам*.

У іншым падвале гэтага касцёла знаходзяцца астанкі першага тутэйшага святара Фабіяна Малішэўскага, які памёр у першай палове семнаццатага стагоддзя. Народ яго лічыць благаслаўлёным і да яго труны прыходзяць шматлікія паломнікі. На скляпенні, дзе знахо-

---

* У сваім творы «Русія Фларыда...» вядомы геральдык, гісторык, дамініканец Шыман Акольскі на 133 с. пра закладку касцёла напісаў: «...не маглі пагадзіцца, дзе выбраць месца для пабудовы. Ды вось прыляцеў удот, сеў на малым узгорку і пачаў голасна ўсклікаць: «гік! гік!» Як быццам па-латыні: «тут! тут!» Заснавальнік палічыў гэта добрай прыкметай і загадаў там капаць зямлю пад фундамент.

дзяцца астанкі святара намаляваны цуды, якія яму прыпісваюць навакольныя людзі.

Гісторык Акольскі ў сваёй кнізе называе яго магутным прамоўцам, сведчыць, што ён быў магістрам тэалогіі і дадае, што пасля смерці свайго папярэдніка Цэлясціна яго абралі на ягонае месца, а прысланы з Рыму інспектар з гэтым выбарам не пагадзіўся, Фабіян пачаў бушаваць і нарабіў многа непрыемнасцей.

А вось некалькі статыстычных лічбаў пра стаўбцоўскі гандаль. Купцы тут — прыезджыя яўрэі, велікарусы і мясцовыя пасрэднікі, якія не плацяць падаткаў, а гандлююць пад фірмай Адальсона або Фейнберга. Акрамя мясцовых, прыезджых тут бывае 10—15 чалавек. Капіталы, якімі яны варочаюць, даволі вялікія. Прадметы гандлю: збожжа з суседскіх паветаў, каноплі, лён, льняное семя — з Беларусі; лой, масла, алей — з Украіны і Валыні; рагожы (цыноўкі), смала — з Палесся; акрамя таго пянька, лой, алей з вялікарасейскіх губерняў. Склады для гэтых тавараў пабудаваны на беразе Нёмана: 20 дзяржаўных і 17 прыватных.

Зімой і летам адусюль сюды прыходзяць транспарты. Зімой у гэтых складах ачышчаюць лён і пяньку; на гэтую працу збіраецца многа людзей, якія добра зарабляюць (да 10 злотых польскіх).

Тутэйшы гандаль, хоць яшчэ слаба развіты, можна лічыць знакамітым: у 1857 годзе са Стоўбцаў у Крулявец выплыла 125 віцін, груз кожнай з якіх ацэньваўся у 25000 сяр. рублёў, а ўся вартасць тавараў — 3125000 с. р.

Акрамя наяўных, купцы бяруць у Круляўцы наўзамен селядцы, соль, спіртныя, сталовы посуд, мэблю, вырабы з шоўку і бавоўны, што разыходзяцца па ўсёй краіне.

Аднак прыбыткі з гэтага гандлю не такія ўжо і вялікія, як можна было чакаць. Яўрэі гандлююць у складчыну, укладваючы дробныя сумы, або найчасцей за пазычаныя грошы. Віціны старасвецкай канструкцыі, цяжкія, непаваротлівыя, рэчышча Нёмана звілістае, нявыпраставанае, неачышчанае ад зваленых у ваду дубоў і ад злавесных ранаў — падводных валуноў. Усё гэта робіць суднаходства цяжкім, небяспечным,

# NIEMEN
# OD ŹRÓDEŁ DO UJŚCIA.

1). **MONOGRAFIJA**

## RZEKI NIEMNA

**od jego źródeł do Kowna**

PRZEZ

***Władysława Syrokomlę.***

2). **PAMIĘTNIK PODROŻY**

**żeglarza Litewską wiciną z Kowna do Królewca zredagowany i przerobiony, przez tegoż.**

WILNO.
NAKŁADEM A. ASSA.

*1861.*

павольным і дужа дарагім. Просты штурвальны слаба ведае суднаходства; а так званы купец звычны да дробных камбінацый, дрэнна арыентуецца ў сапраўдным гандлі; таму няма нічога дзіўнага, што плёнам нашай зямлі і вытворца і перакупшчык не дужа карыстаецца. Асобна ўзяты грамадзянін колькі разоў не браўся за гандаль, быў вымушаны разарыцца, а на супольную гандлёвую дзейнасць яшчэ ў нас не настаў час.

## § 7

У штораз больш заходнім напрамку, у невялікіх але безупынных паваротах, маючы з правага боку густы сасновы і ялінавы лес, а з левага — выган і безліч заліваў, даволі вузкі, ужо ідучы па літоўскай зямлі, Нёман даплывае да вёскі **Жукаў Барок** з цэркаўкай і млыном на рэчцы **Ячонка**, якая папаўняе нёманскія воды. Гэта радзівілаўская маёмасць, якая ўзгадваецца ў старых дакументах яшчэ ў XVI стагоддзі. У суседнім лесе шмат курганоў, якія людзі называюць шведскімі магіламі, што цалкам праўдападобна, бо яшчэ дагэтуль Нёман вымывае мноства дробных медных і сярэбраных манетак Густава Адольфа або Яна Казімежа.

У Жукавым Барку правёў дзіцячыя гады, ці нават тут нарадзіўся Саламон Майман, славуты іудзей, сын бедных яўрэяў, тутэйшых арандатараў, які праславіўся ў Берліне сярод нямецкіх філосафаў. У першым томе сваіх успамінаў на нямецкай мове ён апісаў многа цікавых падрабязнасцей пра тутэйшыя ваколіцы і сваю барацьбу з архаічнымі забабонамі аднаверцаў-талмудыстаў.

У Жукавым Барку ў свайго бацькі, шанаванага ляснічага, правёў дзіцячыя гады наш любімы пісьменнік Адам Плуг (Антоні Пяткевіч), які хоць і пакінуў гэтыя мясціны ў 1841 годзе, аднак захаваў жывую любоў да Нёмана і тутэйшага краю.

Палову мілі за Жукавым Барком, справа ад Нёмана, відаць дварок **Залуча**, дзе пражыў некалькі прыгожых юнацкіх гадоў той, хто гэта піша.

**Якуб Колас**

# *«ВОБРАЗЫ МІЛЫЯ РОДНАГА КРАЮ...»*

**(Нёман у творах народнага паэта)**

## РОДНЫЯ ВОБРАЗЫ

Вобразы мілыя роднага краю,
Смутак і радасць мая!
Што маё сэрца да вас парывае?
Чым так прыкованы я

К вам, мае ўзгорачкі роднага поля,
Рэчкі, курганы, лясы,
Поўныя смутку і жальбы нядолі,
Поўныя сумнай красы?

Толькі я лягу і вочы закрыю,
Бачу я вас прад сабой.
Ціха праходзіце вы, як жывыя,
Зззяючы мілай красой.

Чуецца гоман мне спелае нівы,
Ціхая жальба палёў,
Лесу высокага шум-гуд шчаслівы,
Песня магутных дубоў...

Вобразы мілыя, вобразы смутныя,
Родныя вёскі і люд,
Песні цягучыя, песні пакутныя!..
Бачу і чую вас тут.

## НЁМАН

Льецца Нёман паміж гораў,
Поўны сілы і красы,

У далёкія прасторы
Гоніць воду праз лясы.

Гой ты, Нёман, наша рэка!
Поіш ты і корміш нас,
Бедну чайку чалавека
Ты з сабой насіў не раз.

А вясною на прасторы
Дуб стары сярдзіта гнаў
І насіў ты крыгаў горы,
Луг і поле затапляў;

Разліваўся па ракітах
І займаў і лес, і гай...
Даўгавязы плыт за плытам
У далёкі нёс ты край.

Колькі раз рыбацкі човен
На грудзях тваіх гуляў!..
Гой ты, Нёман, быстры Нёман,
Колькі дум ты мне нагнаў!

Чуў ты смутак горкай долі
Свайго сына-мужыка,
Чуў не раз у чыстым полі
Плач і слёзы бедака.

Ў ціхі вечар над табою
Дудка плакала не раз,
І кацілася слязою
Песня ў ранні летні час.

А на беразе пад дубам,
Ў ночку цёмную, рыбак
Спаў не раз пад мокрым лубам.
Гнуўся з холаду, бядак.

А у буру вецер кветку
Да грудзей тваіх схіляў,

І ў табе касец улетку
Пот крывавы абмываў.

Над табою месяц круглы
Ў ясным небе ціха плыў,
І з табой высокі, смуглы
Лес ціхутка гаварыў.

Перарэзаў край ты родны
Беларуса-мужыка...
О, наш чысты, наш свабодны
Нёман, быстрая рака!

Ты цячэш далёка, знаю,
З веку ў век і з года ў год.
Раскажы ж другому краю,
Як у нас жыве народ.

## СТАРЫЯ ДУБЫ

Зноў я бачу, зноў вітаю
    Сілачоў вяльможных.
Па-над Нёманам у гаі
    Гурт дубоў разложных.

Сам не ведаю, чым мілы,
    Чым вы сэрцу любы,
Выхаванцы веку, сілы,
    Магутныя дубы.

Чымся мілым, чымся родным
    Ад вас павявае,
Аж мне сэрца ў спеў лагодны
    Штосьці ахінае.

Ўзварухнуцца думкі-песні,
    Як вашы лісцінкі,
І зноў станеш напрадвесні
    Жыццёвай пуцінкі.

Цешуся я, пазіраю
На вас, вежы-дрэвы,
Цьмяна сэрцам прачуваю
Вашы думкі-спевы.

Але шум не той я чую —
І вы парадзелі,
І вы не ўсе буру злую
Знеслі і здалелі.

Ой, асілкі ў ціхім гаі,
Дубы векавыя!
Я вітаю вас, вітаю,
Волаты любыя!

## ВЫСОКІ БЕРАГ

Высокі Бераг, родны, мілы!
Люблю я твой пясчаны скат
І хвоек нізкіх гурт пахілы,
Капцоў гранічных цэлы рад.

Люблю той лес, што над табою
Высока ўзняў свае камлі;
Яго ж карэнні над вадою
Нібы вянок табе сплялі...

Струменіць Нёман срэбраводны
Ў тваіх прыўдалых берагах,
А ў лозах ветрык вее згодны,
І ходзіць шум па чаратах.

Высокі Бераг, кут мой мілы!
Люблю я жоўць тваіх пяскоў,
Разложных хвоек гурт пахілы
І ціхі гоман лазнякоў.

## ПЛЫТНІКІ

Клунак за плячамі,
Згорбленыя спіны, —

Валіць чарадамі
Люд на сплаў, віціны.

Босыя іх ногі,
Твар іх загарэлы,
Вопратка убога,
Чуць прыкрыты целы.

Ззаду ледзь ступае,
Хлеб вязе кабыла.
Нокае, гукае
На яе Кірыла...

Жарыць-скварыць сонца,
Ліст не скалыхнецца,
Горача бясконца,
Ра́гамі пот льецца.

Срэбрам адлівае,
Як люстэрка, Нёман,
Зранку не сціхае
Над вадою гоман.

Ад крыку-лаянкі
Аж дрыжыць паветра:
— На «барбару», Янка!
— Гартоль бяры, Петра!

— Закідай шырыгу!
— Прысам папхні ўліва!
Варушыся! Мігам!
Не спі ў шапку! Жыва!

А заднік без толку
Бусаком махае.
Галаўнік Міколка
Бэсціць яго, лае.

Гнецца плыт дугою,
Прэ яго да гаку,
Быстраю вадою
Ломіць, як вужаку.

На мель узагнала.
Крык, сярдзіты голас.
Порткі паскідалі,
Ўсе ў вадзе па пояс.

Бомы ўсе пабралі:
— Рразам, хлопцы! рразам!
Ну, яшчэ! Што сталі?
Ну, яшчэ наляжам!

Вецер загуляе —
Хвойнік, лозы гнуцца.
Плытнік спачывае,
Як сабака ў будцы.

Плытнік гнецца ў полі,
Мерзне ён у холад,
Ведае нядолю,
Ведае і голад.

Што ж? Бядота гоніць,
Толькі сілы траціш,
Толькі косці ломіць,
Як хваробу схваціш.

## НОВАЯ ЗЯМЛЯ

*(Урыўкі з паэмы)*

### I. ЛЕСНІКОВА ПАСАДА

Каля пасады леснiковай
Цягнуўся гожаю падковай
Стары, высокі лес цяністы.
Тут верх асіны кругалісты
Сплятаўся з хвоямі, з дубамі,
А елкі хмурымі крыжамі
Высока ў небе выдзяляліcь,

Таемна з хвоямі шапталісь.
Заўсёды смутныя, бы ўдовы,
Яны найбольш адны стаялі,
І так маркотна пазіралі
Іх задуменныя галовы!
Лес наступаў і расступаўся,
Лужком зялёным разрываўся;
А дзе прыгожыя загібы
Так міла йшлі каля сядзібы,
Што проста імі б любаваўся,
А знізу гэты лес кашлаты
Меў зелянюсенькія шаты
Лазы, чаромхі ці крушыны,
Алешын ліпкіх, верабіны.
Глядзіш, бывала, і здаецца,
Што скрозь сцяну галін жывую,
Скрозь гэту тканку маладую
Ні мыш, ні пташка не праб'ецца.
Цякла тут з лесу невялічка
Травой заросшая крынічка,
Абодва берагі каторай
Лазняк, ракітнік абступалі;
Бруіліся ў цяньку іх хвалі
І ў луг чуць значнаю разорай
Ішлі спакойна між чаротаў,
Рабілі многа заваротаў,
Аж покі ў Нёман не ўцякалі.

Зялёны луг, як скінуць вокам,
Абрусам пышным і шырокім
Абапал Нёмна рассцілаўся —
За хатай зараз пачынаўся
Ды йшоў квяцістай раўніною
З мурожнай слаўнаю травою
І ззяў на сонцы ў пералівах
Пяшчотных тонаў. Як на нівах
Жыта збажынкі лёгка гнуцца
І людзям радасна смяюцца
Сваім прыемным, мілым спевам
Пад лёгкім ветрыку павевам, —
Так гнуцца, гойдаюцца травы,

Як пройме ветрык іх ласкавы,
І пойдуць хвалі травяныя
З прыемным спевам чарадою,
Зашэпчуць краскі між сабою,
Нібы дзяўчаткі маладыя.
Эх, луг шырокі! Як жывы ты,
Праменнем сонейка заліты,
Увесь стаіш перад вачыма,
Ты міл і смуцен, як радзіма,
Як наша ціхая старонка,
Дзе смугі сіняя пялёнка
У летні час дымком звісае
І даль задумай спавівае.
Хоць я няволяй цяжка змучан
І з родным берагам разлучан,
Ды я душою ажываю,
Як вокам мыслі азіраю
Цябе, мой луг і бераг родны,
Дзе льецца Нёман срэбраводны,
Дубы дзе дружнай чарадою
Стаяць, як вежы, над вадою
Даўнейшых спраў вартаўнікамі
І ззяюць грозна жараламі.
І толькі тут, пад іх чародкай,
Улетку, добраю пагодкай,
Касьбой утомлены, спачынеш
І думкі клопату пакінеш,
Заснуўшы крэпка і салодка.
Тут так прахладна, так прывольна!
А пташкі голасна і здольна
Смяюцца мілым шчабятаннем
І поўняць луг сваім спяваннем.
А на дубах, як шапкі тыя,
Чарнеюць гнёзды буславыя.
Буслы клякочуць, бусляняты
Пішчаць жалобна, як шчаняты,
Насы закідваюць угору
І просяць есці ў сваю пору.
А там, дзе буслікі ўздужалі,
Іх пачынаюць вабіць далі;
Яны пачулі ў сабе сілы,

Яны разводзяць ужо крылы,
Ўгару на локаць падлятаюць,
Паветра ловяць, заграбаюць
І неуклюднымі нагамі
Танцуюць смешна над дубамі.
Там, у падсуседзях з буслямі,
І вераб'і, шпакі вядуцца;
Клапотна шчэбеты нясуцца
І моўкнуць позна вечарамі.
Ў дубах крычаць сіваваронкі,
І свіст над лугам рэзкі, звонкі
Каршун маркотна так раняе
І нейкі смутак закідае.
Эх, луг шырокі! Як жывы ты,
Травой мурожнаю закрыты,
Стаіш зялёны прада мною
І ззяеш дзіўнаю красою!
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

## XVI. ВЕЧАРАМІ

Малюнкі родныя і з'явы!
Як вы мне любы, як цікавы!
Як часта мілай чарадою
Вы ўстаяце перада мною!
І так панадна смеяцеся
Жывою баграю на лесе,
І златаблескімі снапамі
Праменняў-стрэлаў над палямі,
І брыльянцістаю расою,
Калі гарачаю касою
Скрозь лісцяў сетачкі-аконцы
На ёй заззяе ціха сонца,
Яе так песціць, так кахае,
Па ёй вясёлкі рассыпае!
Я бачу роўныя пакаты
Палёў за Нёмнам і іх шаты —
Аўсоў палоскі, лавы жыта,
Што морам золата разліта;
І грэчак белыя абрусы,
І лесу два крылы, як вусы,

І цёмны роў, вадой прабіты,
Такі зацяты і сярдзіты;
Ялоўцаў цэлыя аблогі,
Дзе белы мох, сівец убогі
Пясочак жоўты засцілаюць
І дзе зайцы прыпынак маюць.
Я чую шум рознагалосы
Лясоў, лугоў, дзе звоняць косы
У часе дружнай касавіцы;
Я чую громы навальніцы,
І шум глухі буйных дажджоў,
І песні звонкія палёў,
І ціхі плач ускрай магілы.
Даўно заціх іх голас мілы,
Даўно ўсё змоўкла і прапала,
Іх толькі памяць захавала.

Але нявіднымі ніцямі
Я моцна-моцна звязан з вамі,
Малюнкі роднае краіны!
Эх, зараслі вы, пуцявіны,
У гэты мілы мой куточак,
Дзе ные жоўценькі пясочак
Пад летнім сонцам, пад спякотай
І ззяе смутнай пазалотай
Над самым Нёмнам срэбраводным,
Так сэрцу блізкім-блізкім, родным.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

## XXV. ЛЕТНІМ ЧАСАМ

За дзень, за два да касавіцы
Звіняць, гамоняць вакаліцы
На ўсе лады, на ўсе галосы —
Пайшлі кляпаць і ладзіць косы.

Настаў дзянёк, даўно чаканы.
Пакаты ўзгор'я і курганы
Уздзелі чырвані кароны,
І стрэхі сонцам пазлачоны;
Туманаў лёгкія паромы

Над рэчкай віснуць нерухома.
А ў люстры водаў гэтай рэчкі,
Як закаханая дзяўчына,
Глядзіцца пышная вярбіна.
Ў бліскучым лісцейку, як свечкі
На алтары ў часы малення,
Іскрацца сонейка праменні,
Бы смех бязгрэшны і шчаслівы.
А там, на ўсходзе, пералівы
Агністых фарбаў робяць дзівы
І сыплюць шчодра ад усходу
Зямлі і небу радасць, згоду.
І чуткі струны гэтай цішы!
Іх подых ветрыку ўскалыша,
І нават з дрэва лісцік кволы
Адб'е ў іх голас свой вясёлы.
Але паслухай, мілы дружа,
Эх, што за хваля і як дужа,
Разгонна, смела і агромна
Плыве па струнах тых з-пад Нёмна!
Ідуць касцы, звіняць іх косы,
Вітаюць іх буйныя росы,
А краскі ніжай гнуць галовы,
Пачуўшы косак звон сталёвы.
Касцы ідуць то грамадою,
То шнурам цягнуць чарадою,
То паасобку, то па пары;
Ідуць касцы, ідуць, як хмары,
І льецца смех іх разудалы.
Як веснавыя перавалы.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Эх, час касьбы, вясёлы час!
І я ім цешыўся не раз,
І з таго часу па сягоння
Мне сонцам свеціць Наднямонне.

. . . . . . . . . . . . . . . . .

А дзень гарыць, а дзень палае.
Ўсплывае хмарка і другая
Над сіне-дымным небасхілам

І ў задуменні смутна-мілым
З нябёс блакітных пазіраюць,
Як бы дарогу выбіраюць.
Раздолле ў лузе, эх, раздолле!
А колькі смеху і сваволля,
І жартаў, плюскату, штурхання
Над гэтым Нёмнам у купанне!
І хіба можна ўжо ўстрымацца,
У час касьбы не пакупацца?
І дзе на свеце ёсць такая,
Як Нёман, рэчанька другая?
Тут хвалі светлы, срэбралітны,
А беражкі — ну, аксамітны,
На дне пясочак жоўты, чысты,
Вадою згладжаны, зярністы.
У воду войдзеш — шчасце раю,
Я шчасця большага не знаю,
Ці знаць яго ўжо не прыйшлося,
Як толькі тут, на сенакосе.
А глянь на луг пад вечар, браце!
Увесь, як ёсць, ва ўсім ахваце,
Па ўсіх грудах аж за дарогу
Устаўлен копамі мурогу;
І так свяжуткі копкі тыя,
І так выразны, бы жывыя,
І выгляд кожнае адметны,
Але ўсе разам так прыветны!
Вазы шыбуюць важна, стала,
Бы тых вагонаў рад нагнала.
Павее ветрык — што за пахі!
Мёд разліваюць тыя гмахі,
Віно найлепшае і ром,
Як плата шчырая касцом.

## СЫМОН-МУЗЫКА

*(Урыўкі з паэмы)*

Ад роднае зямлі, ад гоману бароў,
    Ад казак вечароў,
    Ад песень дудароў,

Ад светлых воблікаў закінутых дзяцей,
Ад шолаху начэй,
Ад тысячы ніцей,
З якіх аснована і выткана жыццё
І злучана быццё і небыццё, —
Збіраўся скарб, струменіўся няспынна,
Вясёлкавым ірдзеннем мне спяваў,
І выхаду шукаў
Адбітак родных з'яў
У словах-вобразах, у песнях вольнаплынных.
І гэты скарб, пазычаны, адбіты,
У сэрцы перажыты
І росамі абмыты
Дзянніц маіх, дзянніц маіх мінулых,
Для вас, душою чулых,
Як доўг, як дар,
Дае пясняр.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

О, край родны, край прыгожы!
Мілы кут маіх дзядоў!
Што мілей у свеце божым
Гэтых светлых берагоў,
Дзе бруяцца срэбрам рэчкі,
Дзе бары-лясы гудуць,
Дзе мядамі пахнуць грэчкі,
Нівы гутаркі вядуць;
Гэтых гмахаў безгранічных
Балатоў тваіх, азёр,
Дзе пад гоман хваль крынічных
Думкі думае прастор;
Дзе увосень плачуць лозы,
Дзе вясной лугі цвітуць,
Дзе шляхом старым бярозы
Адзначаюць гожа пуць?

*О, як бы я хацеў спачатку*
*Дарогу жыцця па парадку*
*Прайсці яшчэ раз, азірнуцца,*
*Сабраць з дарог камені тыя,*
*Што губяць сілы маладыя, —*
*К вясне б маёй хацеў вярнуцца.*

«Новая зямля»

















# *Мой родны кут, як ты мне мілы !..*



# НА РОСТАНЯХ

*(Урыўкі з трылогіі)*

* * *

Мікуцічы — сяло вялікае, вядомае ва ўсёй акрузе. Стаіць на пясках каля Нёмана. Народ тут бедны, малазямельны. Жыць з гаспадаркі трудна, і мікуцічане перабіваюцца заработкамі. Але гэтых заработкаў мала. Зімою возяць калоды, вясною і летам ходзяць на сплаў — на згоны і на плыты. Жанкі і дзяўчаты збіраюць летам ягады і грыбы і гэтым трохі падзарабляюць на дамашні абыходак, а моладзь расходзіцца па свеце, каб выбіцца ў людзі, знайсці сабе кусок хлеба і бацькоў падтрымаць. Выб'ецца адзін, за ім цягнецца другі, памагаюць адзін другому. Чыгунка, тэлеграф, пошта, школы розных гатункаў, пачынаючы настаўніцкімі семінарыямі і канчаючы вышэйшаю школаю,маюць сваіх прадстаўнікоў з Мікуціч. Такім парадкам, Мікуцічы маюць сваю інтэлігенцыю, пераважная большасць якой прыходзіцца на настаўніцтва, і гэтая група найболей цесна звязвалася з родным сялом.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Каля самага сяла, падмываючы вуліцы, цячэ Нёман. Разложыстыя круглаверхія вербы, узняўшы над вадою карэнне, абступаюць адхонны пясчаны бераг. На мікуціцкіх вуліцах — сыпучы пясок. Гразі тут амаль не бывае ніколі, але калі падымецца вецер, дык цэлыя воблакі пылу стаяць у паветры.

Шумна і гучна ўлетку на беразе Нёмана. Зранку і да самага вечара галышамі качаюцца тут дзеці, то ў пяску, то ў вадзе. Сотнямі гукаў разносіцца над ракою плясканне пranікаў. Падаткнуўшы спадніцы і агаліўшы лыткі, выбіваюць палотны жанкі і дзяўчаты, беляць іх, рассцілаюць на беразе. У гэтым месцы Нёман мелкі і шырокі. І ездзяць, і ходзяць, і жывёлу ганяюць уброд. Цалюткі дзень снуюць тут людзі — старыя і малыя, хто за Нёман, хто з-за Нёмана. Перайсці ж уброд раку летам — адна асалода. І калі ў мужчын ёсць яшчэ сякі-та-

кі клопат — падкасацца або скінуць нагавіцы, калі вада прыбудзе, дык жанчыны ў гэтых адносінах зусім шчаслівы народ. Падымуцца на хаду, колькі трэба, і храбра рушацца ўброд, не зважаючы, ці ёсць тут хто, ці не, глядзяць на іх, ці не глядзяць. Часамі ж некаторыя смелыя і рызыкоўныя асобы, асабліва, калі на беразе ёсць гледачы, сумыслу нарыхтуюцца брысці так, як бы тут вельмі глыбока і можна падумаць, што вада зойме па самыя пахі, хоць вышэй калена яна не даходзіць. Бывала і жартамі перакінуцца ў такіх выпадках па сутнасці справы, а часам які-небудзь Гілерык, чалавек сталых год, і заўвагу зробіць, выняўшы люльку з зубоў: «Апусціла б хоць ніжэй спадніцу», — а сам пры гэтым сарамліва ўбок адвернецца. А калі яго закраналі смехам, то, каб у даўгу не быць, так адзавецца:

— Пацягнуць бы бясстыдніцу цыбуком, то шанавалася б. Казырыцца чорт ведае чым!

Па той бок Нёмана лугі ідуць, а за лугамі — лес і поле. Вярсты дзве будзе да поля. Ляжыць чорная грэбля ўпоперак лугу, адным канцом да ракі даходзіць, другім — у поле ўпіраецца. Вось гэта грэбля — бяда і гора мікуціцкае. Пакуль праедзеш яе — духі вытрасеш і кішкі збоўтаеш, а ў мокрае лета і каня ўгрузіш, і сам, як д'ябал, у гразі выкачаешся. І снасць ламалі тут, і жывёлу калечылі. Паганая грэбля, каб яе людзі не зналі, так жа ўелася яна ў косці.

Колісь тут, як расказваюць старыя людзі, праўда, самі яны не помняць, быў мост. І цяпер яшчэ сям-там па баках грэблі засталіся рэшткі паляў, і тырчаць яны з гразі, як згніўшыя зубы ў сківіцы. Мост гэты быў знішчаны ў часе Шведскага Палення. Жыве яшчэ ў памяці людзей вайна са шведамі. Нават імя сваё мае ў вуснах народа — Шведскае Паленне. Вось і спалілі тады шведы мост. Вялікія бойкі адбываліся тут. А над самым Нёманам, вышэй трохі сяла, ёсць курган-магіла. Размывае рака грудзі гэтай невядомай магілы, вымывае чалавечыя чарапы і старасвецкую зброю. І перадаюць мацяркі сваім дзецям аб гэтай страшнай часіне Шведскага Палення. Многа тады народу пабіта было, а будынкі папалілі. Людзі па лясах туляліся. І кідаліся шведы на хітрыкі. Гукалі ў лесе:

— Тацяна, Мар'яна! Выходзьце з лесу: шведы дадому паехалі.

І калі хто выходзіў на голас, таго забіралі і забівалі.

Тады і жывёла амаль уся перавялася. У Мікуцічах застаўся адзін толькі бык, а ў Сверынаве — карова. Сабралі гэтую пару людзі потым і аралі на ёй. Але, нарэшце, пакараў Бог шведаў за здзекі над людзьмі — асляпіў іх, і, збіраючыся ехаць верхам, яны садзіліся тварам да конскага заду. Тады іх пабілі.

Такая легенда звязвалася з грэбляю і з даўнейшым мастом, што быў на месцы яе.

Крайнім будынкам ад Нёмана супраць броду была старая карчма на высозным падмурку. Калісь гэта быў вір сялянскага жыцця, і не адна мікуціцкая душа захлынулася ў ім. З таго часу, як увялі манапольку, карчма занялала, а потым згарэла. Але па старой прывычцы збіраўся тут народ, як на старадаўняе веча, дзе вырашаліся сялянскія справы і разважалі аб розных пытаннях мікуціцкага побыту.

Мікуцічане — народ грамадскі, любяць пагутарыць аб розных рознасцях: аб замежнай палітыцы, аб вайне, аб заработках, аб цяжкасцях жыцця, аб тым, што нешта на свеце робіцца і нешта гатуецца і што павінна нешта адбыцца, бо далей так жыць нельга. Прагавіта прыслухоўваліся да розных чутак, часамі выдумлялі іх і на гэтай аснове ствралі такія рэчы, што самі пачыналі палохацца іх, а потым самі ж дапякалі сябе смехам. Стаіць, бывала, грамада, а перад ёю за Нёманам, як нейкая гадзюка, ляжыць праклятая чорная грэбля, дыхнуць вольна не дае. Многа было аб ёй гутарак і сварак, калі справа заходзіла аб тым, каб яе паправіць. Бывала, так-сяк і збяруцца і падправяць сям-там, але такая рапарацыя мала давала карысці, і грэбля як была, так і заставалася іх бядою.

Праўда, не заўсёды грэбля з аднакаю сілай бунтавала сялянскія душы. Часамі аб ёй зусім нават забывалі, і толькі ў часе касьбы і жніва, калі трэба было ездзіць з вазамі, аб ёй думалі, яе праклінаді, з-за яе сварыліся. Жыла гэта грэбля і ў думках грамады і паасобных членаў яе. Жыла, як стрэмка ў целе.

Лабановіч не раз чуў размовы аб грэблі і скаргі на яе як з боку дзядзькі Марціна, так і з боку грамады. Не раз і сам хадзіў па ёй пехатою і ездзіў. Не раз перадрыжаў ён тут, везучы снапы ці сена, каб не абярнуцца з возам. У яго памяці абуджаліся легенда і розныя пабаюшкі, створаныя напалоханай фантазіяй цёмнага чалавека. Было на ёй, казалі, і страшнае месца, адкуль часамі выбягаў нехта ў чырвоным, з пугаю ў руках і шалёстаў па вушах таго, хто позна ехаў з поля.

Дзіўным здавалася Лабановічу, што такое вялікае сяло, як Мікуцічы, не можа справіцца з грэбляю. Ну, што б значыла сялянам адвесці, ну, тыдзень-два часу, каб адвінуцца і збыць гэтую злыбеду? Няўжо так цяжка грамадою выкапаць абапал грэблі канавы, падвезці пяску і камення, падняць яе, насыпаць, зараўняць, утрамбаваць. Пяску ж, куды ні павярніся, цэлыя горы. Каменнем завалены межы. Цэлыя рэчкі каменняў, паскіданых з поля, цягнуцца побач дарогі. І рабочых рук стае, і матэрыял пад рукамі, няма толькі такой рукі, што паставіла б сяло на грамадскую работу.

* * *

Мястэчка Панямонь — прашу не змешваць яго з другою Панямонню — было ў трох вярстах ад станцыі, а можа, нават і меней. Гэта старадаўняе мястэчка. Стаіць яно ў прыгожым месцы над Нёманам, на шырокім гасцінцы, што ідзе з Нясвіжа на Мінск. Калі падняцца на вапельную гару, а яна тут жа, крыху на захад ад мястэчка, і зірнуць у бок Нёмана, то перад вамі разгорнецца найпрыгажэйшая панарама. Улева будзе чыгунка, мост над ракою. А як прыгожа выглядае адгэтуль Нёман! Як выцягнутае срэбнае вужышча з дзесяткамі, сотнямі, тысячамі прыгожа акругленых кален-нартоў, павіваецца, бы пасмейваецца на сонцы, стары наравісты Нёман у высокіх берагах, атуленых лозамі і пахучымі травамі-зеллем, далінамі-лугамі, палямі-ўзгоркамі з залатымі або беласнежнымі схіламі пяскоў... Смела кажу: мала дзе знойдзеце вы такія прыгожыя рэчкі, як Нёман.

Лявей чыгункі — другое мястэчка, большае за Панямонь, хоць і Панямонь мястэчка не малое. А вапельная гара! А Сіняўскі гай... Хіба толькі той не паддасца чарам іх хараства, хто ў харастве нічога не кеміць.

У мястэчку Панямонь многа розных выдатных будынкаў і ўстаноў. Тут ёсць цагляная лазня, царква св. Магдалены, два млыны, дзве школы, сінагога, касцёл і камяніца Базыля Трайчанскага. Але вы яго, напэўна, не ўсе ведаеце. А шкада: чалавек ён нішто сабе, настаўнік і грамадскі дзеяч. Адным словам, мястэчка вельмі выдатнае, і калі, бывала, уваходзіш у яго, дык несвядома пачынаеш прасякацца вялікаю павагаю і пашанаю.

Заслугоўваюць увагі і самі панямонцы. Гэта ўсё мілыя і добрыя людзі, і многа ў іх далікацтва. Калі іх моцна што здзівіць, то сваё здзіўленне, — а гавораць яны борздзенька, — выказваюць так:

— Ва! Ва!

Пры гэтым некаторыя дабаўляюць «браток ты мой». Але ў слове «браток» літару «а» вымаўляюць, як «ы», і такім чынам яны кажуць:

— Ва! Ва! Брыток ты мой.

Вось у гэтае мястэчка і накіраваліся нашы вандроўнікі — Лабановіч і Садовіч.

Прайшлі жалезны мост, спусціліся з высокага насыпу і пайшлі берагам. Чыстая вада, жоўценькі пясочак на дне, прыгожы беражок, — усё гэта вабіла такой спакусаю, што маладыя настаўнікі змушаны былі спыніцца. Сам Нёман, здавалася, казаў ім:

— А можа б, вы, хлопцы, пакупаліся?

І нягледзячы на тое, што час для купання быў заранні, бо каноплі былі яшчэ не настолькі высокія, каб у іх магла схавацца варона, настаўнікі з вялікаю прыемнасцю выкупаліся, папесціўшы голае цела на гарачым пяску прыбярэжжа, асвяжыліся і пачуліся як не трэба лепей, пасля чаго пайшлі ў Панямонь малайцы малайцамі.

* * *

— Э-э-э-вуу!

Росны луг страсянуўся вільготным паветрам, падхапіў гэтае «э-ву», панёс яго ў лес, што стаяў досыць далё-

ка за Нёманам. Краем лесу паляцела задорыстае водгулле, прыціхла, а потым павярнула назад, бегучы другім крылом лесу, і нарэшце зусім заціхла на яго заломе.

— Хораша выходзіць! — забыўшы ўсё на свеце, захоплены гулкасцю і выразнасцю водгулля, прамовіў Садовіч і гукнуў яшчэ раз.

— Ану, давай гукнем разам!

Некалькі разоў гукнулі разам і слухалі, як разлягалася рэха і будзіла ранічны спакой маўклівых ваколіц.

— Вось дзе, брат, хараство! Прастор! А якое здаровае паветра! Ну, проста як бы на свет нарадзіўся. Чуеш, як жыццё крыніцаю б'ецца ў кожнай тваёй жыле! — яшчэ ў большае захапленне прыходзіў Садовіч.

Мінуўшы масты, сябры павярнулі направа. Разуліся, бо дарога забірала ў лугі, а побач яе стаяла высокая росная трава. Басаною патрапалі далей, пахвальваючы і дарогу, і расу, і гэтую прыемнасць ступаць босымі нагамі па мяккай дарозе, і свежае ранічнае паветра.

Чым далей адыходзілі яны ад Панямоні, тым спакайней рабілася ў іх на сэрцы, тым з большаю сілаю паддаваліся яны чарам дарогі і яе малюнкаў. Адзін край лугу стыкаўся з лесам, уразаўся ў яго, адхопліваючы дугаватыя лукі і павялічваючы свае травяністыя прасторы. І ўдоўж і ўпоперак луг перасякаўся вузкімі, доўгімі і глыбокімі тонямі, заросшымі аерам, сітняком, чаротамі і мяккімі ніцымі лозамі, дзе хаваліся розныя лугавыя птушкі. Срэбнаю стужкаю вывіваўся Нёман, то падыходзячы пад самы лес, падразаючы карэнне дрэвам, то бегучы сярэдзінаю лугу, то падступаючы да поля, апяразваючы бліскучым жывым паскам яго пясчаныя схілы. Сям-там па лугавых грудах раскідаліся барадкі-кудзеркі астраўкоў, дзе буяў малады, сакавіты дубняк, кусты арэшніку, брызгліны, чаромхі і крушыны, а самая пoнізь засцілалася мяккаю лугавою канапелькаю, што зацвітае летам такімі прыгожымі сіненькімі кветачкамі...

Эх, як прывольны прасторы наднямонскіх лугоў! Часамі над прасторамі зялёнага мора, як вартаўнікі, узнімаліся пышныя постаці адзінокіх дрэў, пераважна дубоў, параскіданых дзе-нідзе сярод лугу, а месцамі і цэлыя дубовыя гаі. Многа тут для іх прастору і сонца.

Ёсць дзе разгарнуцца іх магутным карэнням, камлям і галінам.

Між гэтых дрэў асабліва кідалася ў вочы падарожнага старадрэвіна-хвоя, што стаяла зусім адна на высокім грудзе непадалёку ад Нёмана. Тоўсты, гладкі, бы вытачаны, камель з карою накшталт адмысловай чарапіцы высока ўзнімаў верхавіну, заламаўшы яе набок пад простым вуглом; на гэтым заломе змайстраваў сабе бусел даўгавечнае гняздо. Ад усяе адзінокае хвоі, ад гэтай пахіленай у бок лесу верхавіны павявала нейкім смуткам, як бы ўзлажыла яна цяжар на свае плечы і схіліла пад ім галаву.

У лузе было пуста і бязлюдна. Адны толькі драчы не ведалі супачынку і не шкадавалі горла. Адзін перад другім, схаваўшыся ў траве, дзерлі яны свае аднагучныя скрыпучыя песні, як бы ўвесь сэнс іх жыцця складаўся з таго, каб перакрычаць адзін другога.

— Драч-драч! Драч-драч! — і так без канца, і так без адпачынку.

Пачынала развідняцца.

Прыбярэжныя кусты ўсё больш і больш вырысоўваліся, выплывалі з ранічнага змроку, святлелі, развясельваліся, і шырэй разгортваліся прыгожыя краявіды, поўныя радаснага спакою і маўклівага задумення.

Дарога павярнула ўлева, пайшла грудамі, шчыльней тулячыся да Нёмана, дзе ён апісваў вельмі зграбную луку, падыходзячы да лесу. Уся гэта лука выглядала пышным старасвецкім садам, дзе замест пладовых дрэў раслі разложыстыя, дуплястыя, з асмаленымі жараламі дубы, убраныя чорнымі шапкамі буславых гнёздаў. Часамі гэтыя гнёзды, заціснутыя ў развіліны стромкіх аголеных шпянёў, высока ўзнятых над зялёнаю каронаю дуба, што пачынаў сохнуць зверху, здаваліся нейкімі дзіўнымі падвескамі над дубамі, бо самыя шпяні скрадваліся адлегласцю і губляліся ў празрыстых хвалях паветра.

Не даходзячы да лукі, выгнуўшыся яшчэ раз каля лесу вельмі прыгожаю дугою, Нёман забіраў управа, пралёгшы роўнаю, бліскучаю стужкаю паміж лугамі і полем. На адным канцы дугі стаялі кучаравыя пышныя

хвоі, звесіўшы над вадою махрыстыя галіны і аплёўшы пясчаны бераг цэлаю сеткаю смаляных карэнняў. За імі пачыналіся маладыя сакавітыя баравіны, перамешаныя са старым лесам. Там-сям з зялёнага мора маладога хвойніку высока ўзнімаліся парасоны-верхавіны хвой-старадрэвін, што як бы аглядалі зялёныя прасторы свае маладое змены, цешачыся яе размахам і сакавітаю жыццёвасцю. І гэты малады хвойнік, і гэты лес, і гэтыя хвоі зліваліся ў адну сцяну лесу, вырысоўваючы прыгожую вычварную лінію паваротаў, разгортваючы сваё цёмна-зялёнае крыло і ахватваючы пясчанае поле, дзе раскінуліся маўклівыя пагоркі. А над усім над гэтым ляжала цішыня і спакой раніцы.

* * *

Лабановіч узыходзіў на ўзгорак, самы большы па дарозе са Смалярні ў Стаўбуны. Па правую руку раскінуўся невялікі лясок, светлы і празрысты, як тонкая, лёгкая тканіна. Дарога крута падымалася ўгору праз жоўты сыпучы пясок. Даядаючы ёмкі, надзвычай смачны малінавы яблык — дар старога вартаўніка, — Лабановіч узышоў на самы высокі пункт пагорка. Шырокі, разнастайны краявід, што агароджваўся толькі бязмежным небам, расчыніўся перад падарожнікам. Гэта было так неспадзеўна, так прыгожа і ў той жа час так знаёма, што вандроўнік мімаволі спыніўся.

Новыя малюнкі!.. Не, не новыя: новае толькі тое, што паўсталі яны з другога боку і з другой пазіцыі. Так бывае і з чалавекам, калі пазнаеш яго ў новым праяўленні.

Акінуўшы вокам увесь краявід, Лабановіч стаў прыглядацца да паасобных, найбольш знаёмых яго частак. Вось станцыя з усімі збудаваннямі — вакзал, дэпо, возера за вакзалам, заросшае па краях густым, высокім сітняком і аерам. Правей — млын, дарога на Мікуцічы. Як гаманіла яна, калі не так даўно, улетку, шумная грамада настаўнікаў ішла ў школу Садовіча абмеркаваць пытанні палітыкі і заснаваць ядро рэвалюцыйнай настаўніцкай арганізацыі... І як гэта ўсё няўдала скончылася!

Не, дарога на Мікуцічы не вабіць зараз вока. Густы хвойнік і яловец з аднаго боку і альховы хмызняк з другога засланялі яе. Дарога знікала з вачэй, не дайшоўшы да гасцінца, абапал якога стаялі, як старэнькія бабулькі, парадзелыя бярозы. Лабановіч зірнуў правей вакзала. На высокай горцы стаяў прыземісты, добра адбудаваны, з замахам на хараство вятрак, адзінокі і нібы забыты. Лабановічу рэдка калі даводзілася бачыць, каб вятрак гэты махаў крыллямі, і таму ён рабіў сумнае ўражанне, як асірацелая будыніна. Зірнуўшы перад сабою, Лабановіч згледзеў стромкія вежы белай царквы мястэчка Стаўбуны. Само мястэчка і яшчэ адна, жоўтая, царква засланяліся другім пагоркам. Затое ж была добра відаць Панямонь і яе ваколіцы, хоць гэтае мястэчка вярсты на паўтары стаяла далей за Стаўбуны, па другі бок Нёмана. Сіняўскі гай, выцягнуты тонкаю палоскаю з прыўзнятым адным канцом, як заліхвацкі вус маладога зуха, прыкрываў Панямонь з паўночнага заходу. Лявей і бліжэй да мястэчка сурова ўзнімалася вапельная гара. Называлі яе Драздоваю — ад імя панямонскага жыхара Драздоўскага, які арандаваў гару і здабываў вапну.

Самымі высокімі будынкамі ў Панямоні былі — царква, касцёл і сінагога. Царква і касцёл стаялі ў цэнтры мястэчка і на самым высокім месцы, сінагога тулілася на задворках, воддаль. Калі Лабановіч яшчэ ў дзяцінстве першы раз пабачыў панямонскі касцёл здалёку, то сваёю формаю гэты будынак нагадаў малому Андрэю вялікага сядзячага ката з задраным угору носам. Так гэтае першае ўражанне назаўсёды і засталося ў памяці. Запомнілася таксама і маленькая рачулка, якая выцякала з-пад вапельнай гары, купчастыя вербачкі над ёю, Хаімава кузня над рачулкаю і сам Хаім, спрытны і здатны каваль з чорнаю барадою. Прыгадаўся і стары млын, гнілое возера каля яго, алешнік над возерам, густа затканы гнёздамі гракоў, і несціханы іх крык.

Лабановіч глядзіць туды. Вунь ён, той алешнік, кудзерка абцярэбленага гракамі гайка! А далей, крыху лявей, той самы старасвецкі гасцінец шыбуецца з панямонскай роўнядзі на больш высокую пляцоўку, беручы кірунак на Нясвіж. Знікшыя на некаторай адлегласці

бярозы, мінуўшы Панямонь, зноў ідуць побач гасцінца прыгожымі прысадамі, няясна вырысоўваючыся ў сінявятых хвалях далечыні. Як добра знаёмы ўсе гэтыя малюнкі, і як моцна яны звязваюць з дзяцінствам, шчаслівым і непаўторным!

«А можа, будзе такі час, — падумаў Лабановіч, — калі я і гэтыя дні свайго бяздомнага вандроўніцтва ўспомню з прыемнасцю і ўздыхну па іх».

Ён рушыў далей, спусціўся ў глыбокую і вузкую далінку паміж двума пагоркамі. І стромкія вежы белай царквы, і вятрак, і Панямонь засланіліся другім узгоркам. Калі Лабановіч мінуў яго, адразу вынікла перад вачамі ўсё мястэчка Стаўбуны з яго цэрквамі, з мураванымі будынкамі і з плошчаю, дзе звычайна адбываліся шумныя, мнагалюдныя кірмашы. Вузкая пясчаная вулачка, паабапал якой убога туліліся старасвецкія халупы местачковай бедныты, і кузня, дзе заўсёды стаяла некалькі сялянскіх фурманак і чуўся галасісты звон молата, вяла ў сярэдзіну мястэчка. Бліжэй да цэнтра часцей пападаліся акуратныя і з густам пабудаваныя домікі заможных жыхароў з пафарбаванымі аканіцамі, з разьбою над вокнамі і з прыгожа адштукаванымі высокімі ганкамі. Крыху далей пайшлі крамы розных гатункаў і з рознымі таварамі, пачынаючы дзёгцем і газаю і канчаючы іголкамі і ніткамі.

Малапрыметная спачатку вулачка чым далей, тым болей прымала выгляд сапраўднай вуліцы. Выводзіла яна на прасторную выбрукаваную плошчу ў цэнтры мястэчка, праходзячы непадалёку ад белай царквы і пакідаючы яе збоку ўлева. Дзень быў некірмашовы, і плошча амаль што пуставала, калі не лічыць адзіночных сялянскіх каламажак, дзвюх-трох гандлярак, якія цярпліва сядзелі каля просценькіх столікаў пад такімі ж убогімі, як і самі яны, стрэшкамі, ды коз, што вандравалі па плошчы ў пошуках спажывы. Найболей спрытныя з іх запыняліся каля вазоў і, стаўшы на заднія ногі, выбіралі сена з палукашкаў, а іншыя прымайстраваліся каля коней і памагалі ім хрумстаць смачную віку або канюшыну.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

«Валачобнікам» было весела ў дарозе не столькі ад жартлівай песні, колькі ад цеплыні і яснасці веснавога дня, калі ўсё, што трапляла на вочы, выглядала так ласкава, молада, утульна і хіліла да сябе. Асабліва было прыемна зірнуць з дзервянога моста на шырокую наднямонскую даліну ўгору па Нёмане. Рака ўжо амаль што ўвайшла ў берагі. На лугавых нізінах сям-там яшчэ стаяла вада, а над ёю лапушнымі кусцікамі жаўцела лотаць, рассцілаючы буйныя лісты. З лугу патыхала веснавою вільгаццю. Берагі Нёмана, багата напоеныя разводдзем, яшчэ не прасохлі. Там прабівалася густая жаўтавата-зялёная, яшчэ кволенькая мурожныя траўка, як сведка ажывання і аднаўлення зямлі. Над нёманскай далінай узвышалася поле з глыбокімі равамі, пракладзенымі снегавою і навальнічнаю вадою, з высокімі пагоркамі, зарослымі хмызам. Далёка на поўдні выступала блакітная вежа мікуціцкай царквы.

Колькі хвілін стаялі на мосце настаўнікі-«валачобнікі», любаваліся Нёманам, яшчэ мнагаводным і быстрым, лугамі, полем і лесам. Шмат разоў бачыў іх Лабановіч, але ніколі не дакучалі яны, бо выразна гаварылі, хоць без слоў, аб волі, аб вялікіх прасторах зямлі, аб маладым жыцці.

## НЁМАНАЎ ДАР

*(Урывак з апавядання)*

Страшэнны штукар і свавольнік гэты Нёман. Кожны год удзярэ ён якую-небудзь штуку: то выкаціць на чыйнебудзь шнур стары, мокшы вякамі ў вадзе, труп дрэва, то выхваціць цэлую луку ў адных і прыточыць другім або падрэжа грунт, на якім доўгімі вякамі стаяў асілак дуб у самай добрай згодзе з суседам Нёманам. Не знае стрымання ён, не ведае, куды дзець свае магутныя сілы. Але ніхто не жаліўся на яго свавольства. А ў нашым сяле яго надта любілі, бо ён для сяла быў, як родны бацька: і карміў, і паіў, і на сваіх плячах кожнага выносіў, і кожнага за лета разоў тры ў Коўна і Гродна вазіў ды яшчэ і на дарогу даваў грошы. Праўда, язда па Нёмане

на плытах не зусім лёгкая рэч. Ды што лёгка даецца на свеце простаму чалавеку? Нёман быў нервам сяла, які будзіў яго жыццё і прымушаў чутка прыслухоўвацца да таго, што робіцца вакол. І ўсе важнейшыя справы былі так ці іначай звязаны з Нёманам. Тут, на беразе, што так блізка падыходзіў да сяла, збіраліся сяляне і радзілі свае рады. Кожны крок Нёмана, кожны спад ці прыбыль вады ў ім не праходзілі незаўважанымі для сялян. А ў апошнія гады Нёман задумаў новую штуку: у тым месцы, дзе бераг датыкаўся аднаго канца сяла, ён пачаў рабіць заварот, пракладаць новую дарогу, адразаючы шырокую луку да сяла. Прабегшы дугою побач з сялом, ён падыходзіў ужо да другога яго канца і далей бег старою дарогаю.

— От бы каго паслаць у Думу дэпутатам! — жартавалі сяляне, цешачыся, як Нёман праразае ім шырокі разгон, — па крайняй меры быў бы дэпутат, бо стаіць за нас!

Адрэзаная лука борзда засцілалася зялёнаю травою, і коні з вялікаю ахвотаю ўжо скублі яе, а сяляне радаваліся, што цяпер быў хоць невялікі прыпынак для скаціны.

## У СТАРЫХ ДУБАХ

*(Урывак з апавядання)*

Было тут, у дубах, адно месца, дзе Базыль любіў сядзець, назіраць і думаць.

Там над абрывістым берагам Нёмана стаяў стары, прысадзісты, таўсты дуб. Ад доўгіх часаў бераг падмываўся вадою, паволі асоўваўся і агаляў тоўстыя карэнні старога дуба. Сам гэты дуб крыху пахіліўся на бок, як падгуляўшы гаспадар, а аголены і працягнуты над вадою яго корань здаваўся нагою, і выходзіла здалёк так, што дуб збіраўся перабрысці Нёман. Сеўшы на гэтым корані, Базыль пазіраў, як бегалі дробныя хвалі, як звівалася ў вадзе доўгая раска; вада то ўздымала яе, то апускала, то раскідала ва ўсе бакі і гуляла ёю, як вецер дымам.

Каля самага берага стаяў у вадзе голы лазовы ражон. Ён тое і рабіў, што борздзенька ківаўся пад напорам ва-

ды. І ніколі не меў спачыну гэты ражон: і ўдзень і ўночы ківаўся ён. Хіба, можа, зімою, як марозы скуюць лёдам ваду, адпачыне гэты пахілак-ражон.

Базыль пазіраў і думаў. А вакол было ціха. І Базылю здавалася, што ён чуе спевы гэтай цішыні. Доўга ён прыслухоўваўся, але спевы былі нейкія невясёлыя, і яму стала маркотна: усё ішло, здавалася яму, сваёю дарогаю і жыло сваім жыццём, сярод якога ён пачуў сябе чужым.

А Грышка тым часам бегаў каля ракі. Якраз па тым баку ішоў з вудамі рыбак. Пабегаўшы па беразе яшчэ колькі часу, Грышка пайшоў шукаць Базыля. Углыбіўшыся ў свае думкі, Базыль нічога не заўважаў і сядзеў усё на тым жа дубовым корані. Звесіўшы ногі над вадою, пазіраў ён уніз, як цёк Нёман. Тут было глыбока, і вада мела цёмны колер ад гэтай глыбіні. Аб чым жа думаў хлопчык? Відаць, аб чымсьці важным і сур'ёзным, бо губы яго былі шчыльна самкнуты, а вочы пазіралі кудысьці ўглыб. Схаваўшыся за куст, Грышка моўчкі наглядаў за сваім сябрам. І без усякай злой мыслі раптам вылецеў з-за куста і гукнуў на ўсю моц:

— Га-а!

Знячэўку Базыль так перапалохаўся, што ўвесь задрыжаў і падскочыў. Спужаўшыся, ён не мог ужо ўтрымацца і ссунуўся ўніз. На момант, зачапіўшыся лапцем за дубовы корань, павіс уніз галавою над гладдзю вады, а потым шугнуў... і прапаў з вачэй. Нёман злёгку здрыгануўся, вада расступілася і дала няшчаснаму хлопчыку месца ў халодных сваіх нетрах, ды колькі кругоў пабегла па вадзе ва ўсе бакі. Разы два ці тры паказалася яго галава; рука нязграбна і сударгава лавіла паветра; зрабіўшы паўкруг і захлёбваючыся, ён прапаў назусім...

## РАЗЛІЎ НЁМАНА

*З «Другога чытання
для дзетак беларусаў»*

Грымяць крыгі, шаруюцца, узбягаюць адна на адну і з глухім шумам разбіваюцца, крышацца. Выйшаў Нё-

ман з берагоў, заняў увесь луг. Вада і вада, як скінуць вокам. На адным беразе відны ўзгоркі, на другім — лес. Куча дубоў адрэзана вадою, і ўсе яны стаяць у вадзе. Вот плыве шырокая, доўгая крыга. На ёй стаіць крыж з лёду, той крыж, каторы высеклі зімою, дзе свянцілі ваду. Збоку, нахіліўшыся, стаіць ёлачка. Завярнулася крыга раз і другі, выбілася на прастор і паплыла. Вот яна саўсім схавалася, толькі ёлачка чуць-чуць чарнее каля другога берага. Вот і яна прапала з вачэй. Пасярэдзіне важна коціцца стары, сухі дуб. Яшчэ летась стаяў ён над самым Нёманам; размыла вада бераг; абваліўся ён разам з дубам у Нёман, і панесла старога вада. Упіраецца ён, чапляецца за кусты. Але быстра вада круціць яго ва ўсе стораны, як лёгкую трэску. Выплыў і ён на плёс і пакорна аддаўся на волю вады. Гоніць вада яго. Сустрачаюцца старыя дубы, што крэпка стаяць у вадзе. Бачаць — зямляк. Сюды, брат, ідзі! Адбяром цябе ад вады. Годзе ёй здзекавацца з цябе. Падплыў стары, упыніўся каля сваіх братоў. Моцна стаяць дубы, не даюць труп старога таварыша.

## Мікола Аўрамчык

# У ДОМЕ ЯКУБА КОЛАСА

Здаецца нават, што дзвярны праём тут павузеў,
Калі цяпер сюды ўваходзіш са двара...
Я не прывыкну ўсё ніяк, што тут цяпер музей
І што самога тут няма гаспадара.

А помніце, сябры, як некалі ў спякотны дзень
Сюды мы ў госці ім запрошаны былі,
Як бедаваў тады паэт, што зноў стаіць сухмень,
Што нівы нават ні расінкі не пілі?

Прайшлі дажджы... З двара чуваць людскія галасы...
Як быццам выйшаў ён падыхаць водарам сасны,
Палюбавацца, як закрасавалі каласы
Ім вырашчанага гатунку збажыны.

Барометр на стале прарочыць ясны дзень з начы...
Ліст не дапісан ім.. Я ў сэрцы ўсё збярог,
Як той юнак, якому жураўліныя ключы
Ён уручыў
І жураўлінае пяро.

## ЭКСПРОМТ

З гадоў дзіцячых пазнавалі мы
Паводле твораў Коласа і Гушчы,
Што толькі ў Нёмане растуць самы,
А цар-дубы —
У Налібоцкай пушчы.

Мы змалку ўмелі кіраваць канём,
Рабіць з ядлоўцу кульбы і кавенькі,
Лавіць язёў, яршоў і акунёў,
Збіраць баравікі, грузды, апенькі.

А Мікалаеўшчына і Ласток,
Альбуць і Смольня —
Гэта месцы тыя,
Што як любы Купалаўскі куток —
Для нас благаславенныя,
Святыя.

Не дзіўна, што з маленства родны край
Настойліва ўваходзіў у свядомасць,
Як на зямлі —
Адзіны боскі рай
З ракой свяшчэннай,
Што завецца Нёман.

## Генрых Далідовіч

# НАДНЁМАНСКАЯ СУСТРЭЧА

*Мой мілы Янка, мой Купала!*

*Якуб Колас*

Стары пасажырскі паравоз, сапучы і пускаючы клубы гаркавага белага дыму, цяжка дачухкаў да станцыі, моцна і раптоўна тармазнуў, лязгнуў жалезам.

Пасажыры, якія паспелі нагаварыцца, паспаць, стаміцца за дарогу, даўно ўжо чакалі гэтае хвіліны, пабралі цяпер свае валізкі, сумкі, клункі і падаліся да дзвярэй. Апошнім улегцы выходзіў з вагона малады і прыгожы, з моднай прычоскай і вусікамі мужчына.

Ён павольна выйшаў на перон, агледзеўся, пажмурыўся ад яркага сонца, мінуў двух вусатых стрэлачнікаў, што горача дзяліліся навінамі, і падаўся следам за пажылымі цёткамі, што, угнуўшыся, неслі за плячыма цяжкія сумкі з гарадской соллю.

Мястэчка падалося маленькім, пабітым на дробныя абгароджаныя агароды, цёмным і ціхім, нейкім надзвычай нізкім, драўляным, здавалася, намнога меншым за Вілейку і нават за Радашковічы.

«Стоўбцы! — падумаў малады мужчына. — Вось вы якія, Стоўбцы! Не дзіўна, што вас ніхто не ведае, у каго я толькі пра вас не пытаўся».

На маленькай пыльнай местачковай плошчы старыя кабеты прадавалі агуркі, памідоры, ля іх стаялі пасажыры, гандляваліся, побач балаголы — плячыстыя хмурыя дзядзькі — сядзелі на вазах, трымалі лейцы ў руках, смалілі цыгаркі і, ляніва размораныя ад сонца, паглядалі, што рабілася вакол. Відаць, яны лічылі сябе тут важнымі людзьмі, ганарыліся, што да іх падыходзілі добра апранутыя мужчыны і кабеты, ласкава прасілі падвезці ў тое ці іншае месца. Балаголы не спяшаліся згаджацца, цярпліва вырывалі большую плату; дабіўшыся свайго, памагалі садзіцца на вазок «кліентам», цмокалі на коней, сцёбалі іх доўгай пугай і, сарваўшы-

ся маланкаю з месца, тарахцелі коламі па бруку праз усё мястэчка.

«Я мушу адмовіцца ад гэтай раскошы, — падумаў малады мужчына, — і не таму, што не люблю праехацца на конях... У мяне засталося столькі грошай, каб толькі заплаціць за білет і вярнуцца адсюль назад дадому. Прыйдзецца цяпер ісці пехатою. Божа ты мой Божа, калі ўжо буду мець я якія грошы?»

Важна і ганарліва, як заможны гаспадар у сваім двары, выйшаў з-за вугла бліжэйшага дома нізкарослы паліцэйскі, выціраў хустачкай спацелы лоб, губы і бараду.

«Можа, у яго запытацца, як дайсці да Мікалаеўшчыны? Але не, лепш з імі не знацца. Пачне яшчэ дапытвацца: куды, да каго, чаго, а сам хто?» — разважаў незнаёмы ў мястэчку чалавек, падышоў да адной старэнькай, змучанай гадамі і жыццём, учарнелай ад работы бабулі і запытаў:

— Вы не скажаце, як мне прайсці да Смольні?

Старая жанчына паглядзела на яго, на старэнькі, але чысты, выпрасаваны, не такі ўжо танны, «панскі» касцюм, на белую свежую кашулю, на модны гальштук, на плашч, што ляжаў, згорнуты на яго руцэ, і сказала:

— Вы, пане, каляску найміце, яны ведаюць, як завезці. Пехатою вам дасца ісці. Гэта нашы мужыцкія ногі малыя і вялікія дарогі любяць.

— Хворы я, не магу на калясцы трэсціся, хачу сваёю хадою зайсці, ды люблю вельмі пешкам хадзіць, — хітравата ўсміхнуўся мужчына.

— Маладыя, а ўжо хворыя, — здзівілася старая, — калі не сакрэт, да каго вы хочаце трапіць?

— Да Міцкевіча Канстанціна.

— Там гэтых Міцкевічаў, панок, паўсяла.

— Ён настаўнік, піша вершы на тутэйшай мове, павашаму.

— А, пачакайце: гэта Васілёў Іван з Міцкевічаў ды Міхалаў Костусь — настаўнікі. Ну, Костусь недзе далёка, туды пад Польшчу дзяцей вучыў: у турме сядзеў за нешта. Кажуць, што ён піша, панам то ж хоча быць.

— Во мне гэтага «пана» і трэба ўбачыць.

Старая разгаварылася і прызналася, што сама да замужжа жыла непадалёку Альбуці, добра ведала бацькоў, радню Кастуся — Міхала, Ганну, Антося, дзяцей старэйшых; расказала нават, як некалі перад смерцю Міхал адпусціў ім колькі бярвенняў з панскага лесу, пасля падвяла крыху і паказала дарогу.

Мужчына падзякаваў і пайшоў паволі сваёю хадою, старая ўскінула на плечы свой клунак і, не азіраючыся, таксама патупала сваёю сцежкай, толькі здзівілася, што цікавымі бываюць гэтыя вяльможныя, чысценькія паны: любяць для пацехі пяшком хадзіць, па лесе са стрэльбамі ды сабакамі днямі гойсаць, па-дзіцячы радуюцца, шчаслівыя, калі ўдасца забіць зайца ці птушку якую... Але так жа, з усмешкай, могуць сцебануць бізуном, пасміхоўваюцца з якога «мужыцкага» слова... Дзіўныя яны, гэтыя паны!

За надзеламі зжатага і яшчэ не кранутага сярпом жыта пачаўся лес — спачатку малады сасоннік, пыльны, парыты дзікамі, са скошанаю, відаць, яшчэ ў чэрвені ці ліпені травою, а цяпер ужо рыжаю, высахлаю сухадзяроўкаю. Затым за лагчынамі пачало цямнець і душнець — лес падняўся, пастарэў, стаяў высокі, медны, ён засцілаў невысокае ўжо сонца, з-за яго амаль не было відаць высветленага вечаровага неба.

— Вось так, Янук. Янка Купала, — сказалася само сабою, — каб ты слухаў пані Анджыеўскую, такіх разумных паноў Каломінскіх ці «адукаваную» мадам Русакову, пісаў па-польску ці па-руску, а не па-мужыцку, хваліў мілага цара-бацюхну, «бацькоўскія, законныя» парадкі яго, то, напэўна, меў бы гучнае імя, тытулы, грошы і ордэны, і паліцэйскія былі б самымі лепшымі калегамі ды сябрамі... Як яны любяць дыфірамбы, оды, гэтыя цары, царкі і царочкі, і многія пішуць ва ўгоду, і як табе, Янук, праціўна ўсё гэта. І трэба гэтага вельмі не паказаць, бо не ацярэбішся ад даносаў, праборак ды павучэнняў. Ой, Божа мой ты Божа, як цяжка быць паэтам, ды яшчэ «мужыцкім»!

Янка Купала ішоў па вузкай, выезджанай калёсамі дарозе і думаў пра сябе. Ён заўсёды, адстаўшы ад людзей і застаўшыся сам-насам, любіў падумаць пра сябе, прыгадаць, што напісаў ужо, як адгукнуліся пра

гэта людзі, добрыя і нядобрыя, што трэба яшчэ напісаць.

Настрой быў добры, калі думаў пра сваю работу. Парадаваўся, што зусім нядаўна, у чэрвені, ён дапісаў «Паўлінку». І цяпер шчасліва, без вялікага гонару, але радасна падумаў, што не горшая яна за «Пінскую шляхту», што і ён, і ўсе беларусы могуць ганарыцца, што маюць такія п'есы на сваёй мове. Згадалася, як там, у Пецярбургу, будзе з яго паэмай «Сон на кургане», з трэцім зборнікам вершаў «Шляхам жыцця», можа, болей ужо не будуць прыдзірацца і прымушаць папраўляць, як папраўляюць часта ў «Нашай ніве», а то баяцца і зусім нішчаць, не друкуюць...

І які раз прыпомнілася, што задумалася новае, што трэба чым хутчэй напісаць ды не хапае часу, а то нестае і адукаванасці. Даўно яго мучыць і просіцца ў харошую паэму легенда пра ўкраінскую прыгажуню, яе няшчасную, як і жыццё ўсяго ўкраінскага, беларускага народаў, смерць ад лютага пана... Даўно хочацца сказаць пра сваю сям'ю, суседзяў, іх вечную беднасць, цягу да сваёй зямлі, пра гэта цяжка будзе разгарнуцца ў паэме, лепш, мусіць, будзе напісаць драму ў прозе. Ды і пра мужыкоў-дзівакоў, што пераблыталі сваіх жонак, даўно варта напісаць жартаўлівую п'есу, спатрэбіцца, можа, слаўнаму Ігнату Буйніцкаму, які паставіць яе і пацешыць людзей.

«Ды, Божа мой, колькі ёсць чаго напісаць! — думаў Янка Купала. — Дай мне толькі добрую страху над галавой, каб не думаць, дзе ноч сустрэць, кавалак хлеба, каб не сліну глытаць, гледзячы на гэтых Каломінскіх ды Русаковых, ды адсунуць к чорту гэтых тупых цэнзараў, рэдактараў, што анічагусенькі не разумеюць у літаратуры, зусім далёкія ад яе, глухія, але прысмакталіся да яе, як смаўжы, берагуць свае пасады і не даюць сказаць шчырай праўды... Але так панавучваліся апраўдвацца, бараніць «интересы царя и отечества», калі выкрэсліваюць самае жывое, балючае з тваіх радкоў, а то зусім бракуюць верш...» Пасля падумалася, які гэты Колас, ці такі ён сялянскі, «мужыцкі», як уяўляецца па сваіх вершах, апавяданнях, па пісьмах?

Паступова цямнела. Лес згушчаўся, гонка выносіўся верхавінамі, і не было яму канца. Акрамя ляснога, птушынага, больш не чуваць было галасоў, і Купала адчуў, што можна заблудзіцца. А спытаць дарогі — хіба ў гэтых нямых высокіх дрэў, пацямнелага чарнічніку з сабранымі людзьмі ці высахлымі ад сонца ягадамі спытаць?

Смактанула ў жываце, калі ўспомніў пра яду, так захацелася лустачкі хлеба, кусочка сала, што Купала глытнуў сліну, не вытрымаў, нагнуўся, сабраў колькі ягадак і з радасцю з'еў, але голаду гэтым не сцішыў, а яшчэ больш распаліў.

«Што ж, прыйдзецца, відаць, заначаваць у чужым лесе, — падумаў Купала, — дзе яму ні канца ні краю не відно».

Сонца ўжо зайшло: у лесе сцямнела, пачала брацца раса, па-начному здаравець: была пара, блізкая да восені. Збоку тонка, ледзь чутна пацягнула вільгаццю, сырым пахам лугу, сенам, рэдкім туманам.

«Ды гэта ж, відаць, Нёман, — узрадаваўся Купала. — Колас пісаў, што Мікалаеўшчына стаіць на яго беразе».

Купала пашчаслівеў, радасна збочыў з дарогі — раса пагусцела, акрапіла чаравікі; пах вады, асакі ўзмацніўся — праз колькі хвілін паказалася плыткая, спакойная, абраслая асакою, лазою ды алешнікам рака.

Купала пайшоў яе берагам, абыходзячы старыя гнілыя рэчышчы, густыя непралазныя кусты лазы, калі ўбачыў спутаных коней, што спакойна скублі траву, здагадаўся, што блізка вёска, што ён не заблудзіўся.

...Смольня, здаецца, была такая, як яму і апісваў Колас. Спачатку Купала прыблукаў да Мікалаеўшчыны, распытаўся ў людзей і пайшоў па вузкай палявой сцежцы. Нават вечарам было відаць, што лета ўжо збіралася адыходзіць: абкідвалася жоўтаю фарбаю, халаднела. Ля невысокай хаты яму насустрач выскачыў маленькі руды сабачка, кінуўся да ног, моцна і злосна забрахаў, але кідацца бліжэй баяўся, адступаў і гаўкаў. Калі Купала прыдумаў ужо, як адагнаць сабаку, з хаты выйшла пажылая жанчына, паклікала сабаку, махнула на яго галінаю — той сцяўся, віснуў і шуснуў кудысьці за гум-

но, а сама жанчына падышла да варотцаў і згледзела Купалу.

— Не бойцеся, — сказала яна, — ён толькі палохае, але не зачэпіць.

— Добры вечар, — прывітаўся госць. — Скажыце: тут жыве Якуб Колас? — пасля паправіўся: — Міцкевічы тут жывуць?

— Тут, — адказала жанчына. — Добры вечар! Праходзьце.

Запахла хлевам, сенам; Купала даўно не жыў у вёсцы, блытаўся па гарадах, але добра помніў усё вясковае, чуў яго, і цяпер знаёма адчуў, што гаспадары трымаюць карову, свіней, авечак; прайшоўшы бліжэй да хаты, ён убачыў за агародамі калёсы з сенам, відаць, яго прывезлі нядаўна, баяліся начнога дажджу і не распускалі.

Купала зайшоў у хату, нават зажмурыўся ад святла газоўкі, што дыміла на прыпеку.

— Пакліч Кастуся! — сказала гаспадыня, якая прытрымалася ў сенцах. — Ён, здаецца, у Васілёвых.

Тут жа пачулася, як зарыпела на двары бронька, і хтосьці молада пабег.

Гаспадыня зайшла ў хату, прысела на лаве, сказала:

— Кастусь зараз прыйдзе, я паслала па яго.

— Дзякую, — кіўнуў галавою Купала, захваляваўся, што зараз сустрэнецца са сваім сябрам.

Хутка пачуліся крокі, галасы, скрыпнулі дзверы — і зайшоў не вельмі высокі, барадаты, з шырокім вялікім ілбом селянін, пільна ўглядаўся, відаць, гэтаксама хваляваўся.

— Ну, здароў, Янка! — сказаў ён і працягнуў руку.

— Здароў, Якуб! — прамовіў Купала, моцна паціснуў дужую Коласаву руку, паглядзеў яму ў шырокія вочы, і абодва мужчыны ўсміхнуліся, радасна абняліся, не зусім умела, але моцна пацалаваліся.

— То, мама, Янка Купала, — сказаў пасля Колас, усміхнуўся.

Маці не назвалася, падышла і падала руку. Купала таксама падаў сваю, пасля схамянуўся і — пацалаваў. Жанчына разгубілася, відаць, не прывыкла да такога далікацтва; разгубіліся і мужчыны, разгублена па-

зыркалі вачыма па хаце. Першаю апамяталася гаспадыня, сказала: «Мяне завуць Ганнаю» — і запрасіла госця прысесці з дарогі.

— Вы ціха так пад'ехалі, што я і не чула, — сказала яна.

— Я пехатою са Стоўбцаў прытупаў.

— А Божа, ці нашых людзей, мікалаеўцаў, у мястэчку не было? — паспачувала гаспадыня. — Але, праўда, вы ж нікога не ведаеце, вас не ведаюць. Трэ было балагола тады ўзяць.

— Хацеў прайсціся, — усміхнуўся Купала, — у вас тут так пекна, што аж зайздросна. Грэх не паглядзець такога хараства.

Колас усміхнуўся, але нічога не прамовіў, відаць, здагадаўся, што Купала хітрыць.

— Праўда, хораша ў нас, — сказала Коласава маці, — любяць у нас і паны бываць: павывальваюцца на беразе Нёмана, ляжаць, купаюцца, па лясах з сабакамі гойсаюць.

— Думаў, што заблуджуся, заначую ў лесе, — сказаў Купала.

— Забраліся во, ды дзе мы ні былі — у Акінчыцах, Сухоншчыне, Альбуці, — гаварыла гаспадыня, — цяжка жыць на свеце беззямельнікам.

— Мы то ж раней паездзілі па свеце, — сказаў Купала, — шукалі зямлі, лепшай долі.

— Таксама не з багатай сям'і?

— Не.

— Цяжка жыць, калі бедны. Наш бацька памёр, а на гаспадарку сваю не ўзбіўся, — маці Коласа прыбрала стол і пачала тупаць ля паліцы. Колас маўчаў, толькі прыслухоўваўся да гутаркі; Купала сказаў усё, што можна сказаць пры першым знаёмстве, таксама прамаўчаў, абвёў позіркам сцены хаты, пасля зноў загаварыў:

— Маленькія вашы Стоўбцы.

— Маленькія, — адказаў Колас, апусціў вочы, і Купала зразумеў, што сябра яго не з гаваркіх, відаць, любіць больш прыслухоўвацца, разважаць з сабою; можа, гэтыя першыя хвіліны сустрэчы былі і абманлівыя: у пісьмах ды ў вершах Колас выдаваў разумным, удумлі-

вым чалавекам, які ва ўсім разбіраўся, умеў паразважаць, пасумаваць і тонка паджартаваць.

— Вы, можа, шчаслівейшыя па сваёй рабоце ды з вершыкамі сваімі? — спытала гаспадыня. — Бо як Костусь наш... — яна, мусіць, хацела яшчэ сказаць пра арышт, тры гады турмы сына, але прамаўчала.

— Якія там шчаслівейшы, цётка, — сказаў Купала, — часта таксама прыходзіцца сустракацца з паліцыяй, больш слухаць, чым гаварыць, ды і за кніжку першую ледзь не пасадзілі.

— Я цёмная, у вашым надта не разбіраюся, але, як пачне расказваць Костусь, цяжкую справу вы задумалі, дзеці. Не стаць вам панамі, не пажывяцё вы па-чалавечы.

— Нічога, цётка, — сказаў Купала, — але хіба вам добра, што вас за чалавека не лічаць, а мову вашу — горшай, мужыцкай?

— Дзе ж яно добра, — згадзілася гаспадыня, — бацькі нашы так жылі, і мы жывём, вы ўжо, вучоныя, узбіваліся б на лепшае.

— Мы не хочам такога «панства», — сказаў Купала, — мы дабіваемся, каб і вы паняю, усе роўнымі былі, і мова наша роўная сярод роўных была.

— Калі тое будзе, дзеткі. Я-то, мусіць, не дажыву да той часіны.

— Дажывём, цётка. Калі не мы, то нашы дзеці. Але само гэта не зробіцца, трэба цяпер старацца і пацярпець часамі крыху...

— Маці мне за настаўніцтва маё ды за вершы нямала дала, — азваўся нарэшце Колас.

— Я ж, дзіця маё, зла табе не жадаю, вучу, як трэба лепш жыць, не так, як мы: пражылі і нічога добрага не ўбачылі, — адказала на гэта маці, — мы цябе з астатняга вучылі, цяпер ты вучоны, не маладзёнак ужо, глядзі сам. Я не раз пазайздрошчу Каплёнку, то ж дзяцей вучыць, але добра жыве, сам поп, ураднікі з ім за руку вітаюцца.

— Гэта настаўнік тутэйшы, — сказаў Колас, — такі падліза ўжо, халуй царскі і шпіён.

— Яго-то людзі, праўда, вельмі не любяць, — згадзілася маці, — але па-панску жыве. Але ж вы стаміліся,

мусіць, за дарогу, а я, такая спагадлівая, стаю тут і талкую сабе!

— Ды, прызнацца, прагаладаўся, — усміхнуўся Купала.

— Праўда, прабачце, сала свайго не маем, кончылі сенакосам, — гаварыла гаспадыня, прынесла хлеб, агуркі, маленькі гліняны глячок, — выпіце во, ды я зараз мёду налью.

Колас моўчкі наліў па чарцы гарэлкі, падняў сваю, сказаў:

— Ну, давай, Янка, за тое, што ты прыехаў сюды.

— За сустрэчу нашу, Якубе, — сказаў Купала, стукнуўся, але не выпіў, пачакаў гаспадыню і запрасіў выпіць яе.

Агуркі, і свежыя, і маласольныя, былі вельмі смачныя, і Купалу здавалася, што нічога смачнейшага ён ніколі не еў. Адразу зашумела ад гарэлкі ў галаве, і так было добра, што ён прыехаў сюды, сядзіць во за гэтым сталом, глядзіць на свайго сябра. Ён усміхаўся сабе, і яму з кожнай хвілінай станавілася лепш, весялей, так лёгка забывалася ўсё благое і думалася толькі пра харошае.

Колас крыху прыкусіў і наліў яшчэ па адной чарцы.

— Дай, Кастусь, паесці чалавеку, — сказала маці, — вы ешце, Янка, агуркоў у нас хапае сёлета, дзякуй Богу.

Колас не стаў прымушаць госця выпіць, узяў агурок і пачаў таксама есці.

«Не гаваркі, як і беларускі селянін. Паглядае так разумна, вочы, здаецца, гавораць: «Я ўсё разумею, ведаю», — але сам маўчыць».

Маці прынесла яшчэ свежых агуркоў, палажыла іх на стол і палезла на печ. Купала і Колас засталіся, пагрызлі агуркоў, выпілі і пайшлі ў гумно. Ляжалі на сене, гаварылі, і так было добра, што іх ніхто не чуе, што можна сказаць, што думаеш, што набалела на душы, параіцца з сябрам, як жыць, рабіць далей.

Купала прачнуўся назаўтра позна ды і ад таго, што чуйна рыпела пяро; ён працёр сонныя вочы, міжволі зажмурыўся ад яркага ранішняга, але высокага і цёплага сонца. Адплюшчыўшы вочы, убачыў босага Коласа,

які сядзеў на калодзе і хутка, нізка апусціўшы галаву, пісаў. Купала сам ведаў, як задумаецца штосьці, то пішаш і нічога не чуеш, не разумееш, не бачыш другога на свеце і, калі адарвешся, зоймешся іншым — можа не быць такой хвіліны, лёгкасці і спору. Таму Купала ляжаў і маўчаў, баяўся нават павярнуцца, каб не скрыпнуць і не перабіць думкі.

На двары голасна заскуголіў сабака, закудахталі куры, і ля дзвярэй прайшла маці і штосьці несла ў прыполе. Колас адарваўся, абярнуўся, убачыў Купалу і вінавата, нават неяк сарамліва ўсміхнуўся, згарнуў паперу і прывітаўся.

Купала таксама ўсміхнуўся, усхапіўся з пасцелі, памыўся; гаспадыні адказаў, што смачна і моцна спаў ноччу, нават ні адзін сон не прыбіўся.

Паснедаўшы, Купала і Колас пайшлі пагуляць, паглядзець Смольню, схадзіць на Нёман, туды, дзе быў настаўніцкі з'езд.

— Дзе ты цяпер будзеш рабіць? — спытаў Купала.

— Мусіць, у Пінску, у трэцяй прыходскай школе, — адказаў Колас, — летась нікуды не хацелі браць без «свидетельства о благонадежности», каб не Філіповіч, даўні сябра мой, то туга мне прыйшлося б. Але, дзякуй Богу, добра пісалася, напісаў пяць раздзелаў «Казак жыцця», да дваццаць першага снежня скончыў першую частку. Цяпер-то ж няблага пішацца, задумалася многа, асабліва завабіў мяне Сымон-музыка, нават запусціў праз яго «Новую зямлю».

— Ну, а я закончу восенню свае курсы і, відаць, пайду ў «Нашу ніву», — сказаў Купала, — працаваў я там у восьмым і дзевятым, не вялікая солодзь, праўда, там рабіць, але не трэба выпускаць з нашых рук такую газету. Яна б магла харошую службу саслужыць, вялікія сілы вакол сябе згрупаваць, многа што даць, каб не гэты Часовы камітэт па справах друку. Без яго ніводзін твор не пойдзе, такія тупіцы, зусім далёкія і глухія да літаратуры людзі, і такая цяжкая і ў іх рука...

— Ды хто нам толькі не шкодзіць, — сказаў Колас, — ведае хто ці не ведае, але вучыць, як пісаць, хваліць «царя и отечество», душаць усё жывое, ствараюць прыемную атмасферу графаманам і падхалімам...

Колас змоўк: наперадзе паказаўся малады, інтэлігенцкага выгляду, мужчына.

— Каплёнак, — шапнуў Колас, — толькі ты не счэплівайся з ім, сволач ён, адразу данясе.

— Здравія жалаю, Канстанцін Міхайлавіч! — здалёку прывітаўся Каплёнак, сыценькі, з невялікім, але добра абазначаным жывоцікам. Купала элегантна пахіліў галаву і зняў капялюш.

— Знаёмцеся, Янка Купала, — сказаў Колас.

— А, беларускі Шаўчэнка! — усклікнуў Каплёнак, мусіць, па прывычцы лісліва, дабрадушна ўсміхнуўся, падаў руку, прадэкламаваў:

А хто там ідзе, а хто там ідзе
У агромністай такой грамадзе?
— Беларусы.

Стаяў, усміхаўся і чакаў, відаць, пахвалы свайму розуму, адукаванасці, але Колас і Купала прамаўчалі.

— Прыехалі пагасціць на радзіму Канстанціна Міхайлавіча ці рыхтуеце тут які пісьменніцкі з'езд?

— А вы гатовы прадухіліць «антигосударственное сборище»? — не выцерпеў і спакойна падкалоў Каплёнка Купала, хоць Колас употайкі і шчыпаў яго за руку, каб прамаўчаў лепш.

— Вы зневажаеце мяне, пан Купала, — пакрыўдзіўся, сціснуў тонкія вусны Каплёнак. — Дарэмна. Я сам беларус і шчыры сябра беларусаў. Вы вось, я так лічу, два самыя вялікія таленавітыя беларускія паэты, стараецеся адрадзіць беларускую пісьмовасць, стварыць беларускую літаратуру, якой ніколі не было, і некаторыя думаюць, што яе і не будзе. Толькі дазвольце спытаць вас, саміх пісьменнікаў: вы шчыра верыце, што яна калі-небудзь будзе, што і беларусы змогуць калі-небудзь падняцца як нацыя?

— Калі вы наш шчыры сябра, то магу сказаць вам па вялікаму сакрэту: верым і дабіваемся гэтага, — усміхнуўся Купала.

— Прашу не пакрыўдзіцца, пан Купала, — таптаўся Каплёнак, адводзіў вочы, — і многа беларусаў вас чытае, падтрымлівае?

— Трэба вам, як настаўніку, навучыць народ чытаць, тады ўсе будуць чытаць, калі мы будзем пісаць добра, — спакойна сказаў Купала.

— І вы лічыце, што ўсе беларусы хочуць беларускасці? — ледзь не пасміхоўваўся Каплёнак.

— Трэба не забіваць да рэшты гэтага пачуцця, а выхоўваць яго, даказваць, што і мы людзі, і мова наша як мова, — запальваўся Купала.

— Прашу прабачэння, які вы ні патрыёт, але вы — утапіст, і паэзія ваша, хоць і таленавітая, праз дваццаць ці трыццаць гадоў будзе вывучацца толькі этнографамі ды фалькларыстамі: агонь, які вы раздуваеце, хутка затухне, ды і ў вас саміх ненадоўга хопіць дыхання. Я шчыры ваш сябар, але... векавая забітасць, народ страціў сваё імя!

— Народ не страціў сваё імя і не забыў яго, — сказаў Купала.

— Вам, канечне, крыўдна, што стараецеся, але што зробіш, пан Купала, калі такая рэчаіснасць, — нібы паспачуваў Каплёнак, пасля спытаў: — Як ваша здароўе, Канстанцін Міхайлавіч?

— Дзякую, добра, — адказаў Колас.

— Маю чэсць, жадаю поспехаў на ніве беларускасці, — Каплёнак пакланіўся і адышоў.

— Ён штодня спраўляецца аб маім здароўі і перадае, мусіць, гэта ў паліцыю, — сказаў Колас, — нешта часта бачылі яго нашы людзі ў паліцэйскім участку.

— Пана можна пазнаць па халяўках, але ў адным ён мае рацыю: сапраўды цяжка нам, — сказаў Купала, — цёмны і забіты наш мужык, замучаны царом і панамі. Літоўцы ды ўкраінцы і то смялей неяк патрабуюць газет, кніг, школ на сваёй мове.

— Але абуджаецца і наша Беларусь, — сказаў Колас.

— Абудзіцца, — згадзіўся Купала, — крыніца не можа быць вякамі пад зямлёю, рана ці позна яна мусіць прабіцца.

— І мы паможам, — усміхнуўся Колас.

— Памагаем, — абняў сябра за плечы Купала, сціснуў іх.

Сябры выйшлі з лугу, прайшлі вузкаю, зарослаю калючай сухой, дзікай травою сцяжынкай і пайшлі поруч шырокай пыльнай дарогаю.

*1972 г.*

## Сяргей Панізьнік

# СУСТРЭЧА КОЛАСА І КУПАЛЫ

На парог узыходзілі,
нагінаючыся,
кланяючыся
цёмным сенцам.
І маціцы забрунелыя
угіналіся,
і скрыпела падлога,
зацярушаная
аерам і сенцам.
І Нёман лашчыўся
аб берагі расяныя,
і жыта слухала,
пра што бяседа...
Два дзецюкі
пад страхой саламянаю
на лавы,
за мужыцкім сталом
паселі.
...З пары той — што
засталося ў спадчыну?

Нёман-любоў
і любоў-палеткі,
мова-любоў —
бацькава, матчына,

дзяды,
    дзядзькі,
        дзецюкі,
            дзеткі...
І вера, што недзе
ў высокай святліцы
задуму спеліць
цішыня галасістая...
Зямля Купалкавая,
зямля каласістая,
на парог твой ступаючы,
нельга не пакланіцца.

## Іван Кананові

## КРЫНІЧКА

*Быль*

Лобік Лявон Сцяпанавіч (1871, в. Кукавічы Слуцкага пав. Мінскай губ. — сак. 1918), беларускі паэт і публіцыст. Чл. КПСС з 1905. Удзельнік трох рэвалюцый. З сялян. Скончыў Нясвіжскую наст. семінарыю. Аўтар вершаваных апавяд. «Залом у жыце» (1911), «Лекар-вядзьмар», «Калядны вечар» (1912) і іншых.

Бел СЭ. Т. 6. с 416

Той дзень улетку Кастусь з дзядзькам Антосем звозіў з лугавін-затонаў сена. Настоеная на разнастайных зёлках і хваёвым водары, разамлелае ад летняй спёкі, паветра дыхцела водарам сенажаці, парнай вільгаці ад ціха-запаволенай пры беразе і вірліва-неўтаймаванай пасярод рэчышча плыні Нёмана.

Духмянае, высушанае да ломкасці сена бралі з валкоў. Складзеныя нанач копы малодшыя браты Юзік і Міхась распусцілі на санцапёку і цяпер рупліва, як і ён,

Кастусь, ладавалі граблямі з валкоў пярэбіркі і падавалі дзядзьку на воз, стараючыся адзін аднаго апярэдзіць.

— Не спяшайцеся, мае саколікі, я не ў дзесяць рук кладу, як вы падаяцё, — жартаўліва сунімаў дзядзька Антось неўтаймаваную прыць пляменнікаў. — На Кастуся раўняйцеся, — з гонарам ён зірнуў на свайго старэйшага выхаванца-паэта, які не так даўно вызваліўся з астрога і прыехаў пераведаць родных.

— Дак Кастусь не раўня нам — вучоны, гарадскі, вершыкі складае і, пэўна, забыўся, як сена падаваць, — наперабой загаманілі ўзмакрэлыя ад спёкі і рупнасці, разгарачаныя работай хлопцы, не хаваючы сваёй радасці і гонару за брата.

Неўзабаве пасярод лясной паляны ўзвышаўся, нібы гумно, адштукаваны дзядзькам Антосем воз сена — высокі да неба і шырокі, траха не на ўвесь поплаў, шчыльна ўціснуты рублём і трывала ўвязаны вужышчам. Другі наладавалі яшчэ хутчэй, і дзядзька, шлёгнуўшы ляйчынай, рушыў паперадзе, а Кастусь — следам, кіруючыся ў пуню. Браты, ідучы за вазамі берагам ракі, на хаду раздзяваліся і адзін за адным давалі нырца ў заспакоеную плынь, расквечаную пры беразе белымі лілеямі.

Кастусю таксама карцела акунуцца ў асвяжальна-бадзёрую купель, каб пазбавіцца ад гарачыні і стомы, ды злезці з воза было як упасці з неба.

Думка пра купанне з братамі, гэтак жа як і з'явілася ў памяці, раптоўна аддалілася, успыхнуўшы той, не вельмі даўняй радасцю сустрэчы з сябрам у «Нашай ніве», калі ён прыехаў у Вільню і прывёз свае вершы. Перамовіліся, паспачувалі адзін аднаму і парадаваліся, што непадалёку жывуць — можна заўсёды сустрэцца. Лявон таго разу так і сказаў: «Я пры зямлі, дома, заўсёды цябе чакаю, а да маёй вёскі можна пехам прагуляцца табе маладзейшаму...»

Пасля той сустрэчы перапісваліся, хоць добра ведалі, што іх пісьмы чытае цэнзура, але вельмі хацелася пабачыцца. І ў гэтую хвіліну, едучы на спружыністым духмяным возе, Кастусь прыспешваў сам сябе, каб хутчэй дапяць у гумно і, пакуль не прыляцяць з купання браты, дамовіцца з дзядзькам Антосем наконт паездкі.

Дзядзька каля стоўпа спрытна ссунуўся з воза і пачаў рупліва расцуркоўваць вужышча. Кастусь скінуў пярэдню, сцягнуў на ток рубель і ўзяўся за арэхавыя вілы, нясмела пытаючыся:

— А што мы, дзядзька, будзем рабіць, як звозім сена?

— Бульбу трэба апалоць і абагнаць па другім разе.

— А пасля бульбы? — не супімаўся Кастусь, схіляючы дзядзькавы думкі да свайго клопату.

— Нечага ж табе, сынку, няймецца, — добрым, спагадлівым позіркам зірнуў ён на знакамітага пляменніка, ведаючы, што той не так сабе пытаецца.

Кастусю нічога не заставалася, як адкрыць сваю тайну:

— Непадалёк ад нас, у Слуцкім павеце, жыве мой даўні сябар паэт Лявон Лобік, даслаў некалькі лістоў, запрашае ў госці. Чалавек ён надзвычай шчыры, душэўны і таленавіты. Жыве ў Кукавічах — гэта не так і далёка: вёрст мо дваццаць пяць ці трыццаць. Ці чуў ты пра такую вёску?

Кастусь шчыруе віламі на стоўпе, глядзіць на свайго спагадлівага, мудрага і дасціпнага дзядзьку і чакае — што той скажа. А ў душы, як і некалі ў маленстве, цепліцца радасная надзея, што ён не адмовіць у просьбе.

— Дак мы ж некалі з тваім бацькам з кукавіцкага лесу дубы на калодзезь вазілі — надта ж багата іх там і кожны з небам гамоніць, — лагодна адказвае ён, згадваючы былое, і дадае: — і ў самім Слуцку не раз быў: карчмару Іцку селядцы ў бочках адтуль вазіў не раз.

Пакуль гаманілі віхурай з ракі прымчаліся браты, імгненна скінулі ў стоўп сена, селі на воз і рыссю падаліся на лясную пойму, як бы знарок пакінуўшы іх адных. Дарогаю дзядзька Антось, пэўна, зацікаўлены пляменнікавай прапановай, памаўчаў колькі хвілін і кажа:

— От, сынку, падходзімся з сенам, абгонім бульбу і можам скокнуць да твайго сябра ў тыя Кукавічы. Адно трэба драбчак падладзіць — на адным калясе шына целяпаецца. Каб быў спраўны, дык ляснічы не прадаў бы яго за такую мізэрную плату. — Па твары яго прабегла звыклая Кастусю змалку лагодна-жартаўлівая ўсмешка. — Не вязці ж мне знакамітага пляменніка ў госці на

драбінах. — Для большай перакананасці шлёгнуў лейцамі па аглабіне з рассохлымі лёсткамі.

Пакуль Кастусь з братамі абганяў бульбу, дзядзька грукаў у павеці, ладзячы ў дарогу драбчак. Пад вечар нарэшце падштукваў, памазаў каламаззю восі, пачэкаўся на спружынных рэсорах, запэўніў:

— Заўтра, сынку, можам ехаць.

Выехалі рана, як толькі выгналі на пашу кароў. Гняды жвава бег, лёгка коцячы драбчак па каляіністай грэблі. На ім сядзелі па-святочнаму прыбраныя дзядзька з пляменнікам, кіруючыся ў далёкія госці. Абапал грэблі цягнуліся лугі і балацявіны з лазовым кустоўем, з якіх патыхала ў твар парным паветрам, настоеным на духмяністых травах. На росных лугах рупліва ўвіхаліся касцы, спяшаючыся ўправіцца з работай да санцапёку.

Мінулі Мікалаеўшчыну і па лясной дарозе неўзабаве прыехалі ў Затур'ю. Пасля прамінулі Юшавічы, Грыбаўшчыну, Салтанаўшчыну. Каля Пляшчэвіч на высокім, у густой засені дрэў узгорку Кастусь убачыў панскі маёнтак з гаспадарчымі забудовамі.

Дзядзька Антось перахапіў зацікаўлены позірк пляменніка, растлумачыў:

— Гэта ўладанне пана Патразоліма. Сам ён тут не жыве, казалі, недзе ў Петраградзе, прыязджае толькі на адпачынак. Войт усім кіруе. І да Кукавіч адсюль — рукой падаць, вунь бачыш, яны за тымі клёнамі.

Пакуль ехалі, высока ўзнялося і дабравата прыгрэла сонца. Каля маёнтка скіравалі на абсаджаную цяністымі клёнамі алею. Тут, у кляновай засені, панавала прахалода і дзядзька, мулка варухнуўшыся на сядзенні, зазначыў:

— Ото ж, сынку, раскоша панству — нават цянёк персаналёвы. А бедняку палівай зямельку потам пад санцапёкам. Ты ж бачыў у вёсках, у якой бядоце жывуць нашы людзі. Хаты да вакон у зямлю паўрасталі, у якіх па некалькі сем'яў пакутуюць.

— Так, дзядзька, доўга працягвацца не будзе. Не дзеля таго я і мае паплечнікі сядзелі ў астрозе — змагаемся ж супраць гэтай бядоты, — адказвае сцішана Кастусь, быццам за клёнамі іх падслухоўваў царскі прыстаў.

Памаўчаўшы крыху, дзядзька зазначае:

— За царом сіла вялікая — цяжка вам, сынку, будзе скінуць яго.

— За намі, дзядзька, праўда і бедны люд. Супраць такой сілы ніхто не ўстоіць, — упэўнена кажа Кастусь.

Кляновыя прысады вывелі падрысораны драбчак з самавітымі гасцямі на шырокі луг, усланы пракосамі, копамі і валкамі, на якім увіхаліся касцы і жанкі з граблямі. Заўважыўшы на дарозе незнаёмую падводу, вяскоўцы пакінулі свой занятак, збіліся ў гурт і пачалі з цікавасцю ўзірацца на прыезджых. Са зрэбнага, басаногага натоўпу адлучыўся высокі статны мужчына ў клятчатай паркалёвай рубашцы і, злёгку накульгваючы, пайшоў насустрач.

— Гэта ж, дзядзька, мой даўні сябар Лявон, пра якога я табе не раз расказваў, — радасна ўскрыкнуў Кастусь, саскочыў з драбчака і кінуўся насустрач.

Сябры абняліся, пацалаваліся, доўга трымаючы адзін аднаго ў абдымках. Да іх нясмела падышлі Лявонавы браты Мікалай і Рыгор і сівы, згорблены ад старасці дзядок з кавенькаю — усе ўтрох у доўгіх кужэльных рубашках і шарачковых нагавіцах, закасаных па калені.

Лявонавы браты сарамліва стаялі непадалёк, а дзядок, іх бацька, адважна, як з даўнім знаёмым, павітаўся з дзядзькам Антосем і пачаў распавядаць пра свае геройскія ўчынкі на турэцкай вайне і па-вайсковаму адрапартаваў, што ён поўны Георгіеўскі кавалер. Былы грэнадзёр не прамінуў з гонарам пахваліцца і сваім сынам-паэтам, які і дзяцей сялянскіх грамаце вучыць, і зямлю абрабляе, і грошы за свае вершы атрымлівае, і супраць паноў выступае, за што на катарзе быў. Старыя яшчэ доўга гаманілі пра гаротнае сялянскае жыццё, нядобрым словам успаміналі сваіх паноў-дабрадзеяў. Нарэшце дзядок лагодна кажа:

— Няхай, чалавеча, хлопцы пагамоняць, ім ёсць пра што, а мы паедзем у сяло, да маёй хаты — я тут напрыканцы жыву, пасядзім у цяньку, пагамонім, пакуль на стол збяруць. Каторая пара ад ранку, — для пэўнасці ён прыклаў да лба далонь і зірнуў на сонца.

Дзядзька Антось з Лявонавым бацькам Сцяпанам селі ў драбчак, прагрукацелі коламі па драўляным мастку цераз ручай і падаліся ў вёску, да якой было рукой падаць.

— А твой стары хоць і ў гадах, але даволі жвавы, — зірнуў ім услед Кастусь.

— Дзве вайны прайшоў — крымскую і турэцкую, — некалькі разоў быў паранены, восемдзесят мінула, а як касілі нядаўна, дак нам, маладым, не ўгнацца было, — адказвае з усмешкаю Лявон.

Мінулі масток і міжволі прыпыніліся. Кастуся ўразіла крынічка-фантан, якая даволі высокім струменем пульсавала з-пад мастка і падала ўніз, ператвараючыся ў напорыстую вірлівую плынь. На жолабе вісеў драўляны карэц.

Заўважыўшы зацікаўлены позірк сябра, Лявон прапанаваў:

— Паспытай, дружа, нашай жыватворнай вадзіцы. Яе спрадвеку пілі нашы дзяды і прадзеды, і нам з табой наканавана ёю наталіць смагу. — Ачэрпаў карцом бруістай, адвечнай моцы і падаў сябру, запэўніўшы: — З гэтай хвіліны ты назаўжды застанешся бессмяротным, як наша гісторыя і зямля, як наш Нёман, у які спяшаецца святая вадзіца з гэтай і іншых шматлікіх крынічак.

— Вялікі ты фантазёр, Лявоне, як і ўсе паэты, таму не дарма такія цудоўныя вершы пішаш, — шчыра ўсміхнуўся Кастусь, паспытаўшы жыватворнай вадзіцы, і дадаў сур'ёзна: — Я неўзабаве збіраюся ў Вільню — перадам і твае творы ў «Нашу ніву».

— Дзякуй табе, Кастуська, за ласку і за сустрэчу, — расчулена адказвае той, — а то мне, браце, як бачыш, не адарвацца ад сялянскіх клопатаў. Пішу пакрысе прыхваткамі: то раніцай нацямочку, то поначы, бо душа прагне ўздыму і волі. Багата напісана, а колькі хочацца яшчэ напісаць?! — роспачна ўздыхнуў і нечакана павесялеў: — Пара, Кастуська, і паабедаць — сонца на паўдні, жанкі з поплава даўно пабеглі кароў даіць.

Пакуль ішлі з поплава да Лявонавай хаты, ён распавядаў пра літаратуру, якую любяць і разумеюць не над-

та пісьменныя вяскоўцы, пра рэвалюцыйную дзейнасць як падпольшчыка, пра радовішча ўрадлівай солі ў сваім павеце, якую, на яго думку, людзі павінны ў недалёкім часе выкарыстоўваць.

Кастусь уважліва слухаў свайго даўняга сябра і дзівіўся эрудыцыяй простага з выгляду вясковага настаўніка, шырокімі абсягамі яго неўтаймаванай душы і высокім палётам думкі.

На двары, у цяньку, пад разгалістай старасвецкай бэрай сядзелі на лаўцы Антось са Сцяпанам і пра нешта заўзята гаманілі, пэўна, працягвалі распачатую на поплаве размову. Насупраць іх на новым нядаўна вычасаным дубовым шуле прымасціліся Лявонавы браты — з цікавасцю слухалі старых.

— Мы вас, браткі мае, і зачакаліся — абедаць жа пара, — надзвычай рухава выпрастаўся з лаўкі Сцяпан, запрашаючы гасцей і перш-наперш Антося.

Невялікая новая хата ўразіла Кастуся сваёй чысцінёй і нейкай незвычайнай, казачнай утульнасцю. Падлога да жаўцізны вымытая, такі ж колер і чысціню мелі сцены, столь, лавы і ўслоны вакол стала, накрытага адбеленым у хлорцы, прыгожа вытканым кужэльным настольнікам.

Лявонава жонка, у белай паркалёвай кофце з кароткім рукавом, упрыгожаным узорнай вышыўкай, і доўгай, у хванды, крамнай спадніцы, падалася Кастусю надзвычай прыгожай і вабнай, быццам сышла з карціны невядомага прыгоннага мастака. Светлыя з буйнымі завіткамі валасы акуратна схаваны пад блакітнай у белыя гарохі касынкай; малады, загарэлы твар і бурштынавыя вочы свецяцца дабрынёй і непаўторнай пяшчотай. І голас яе, адпаведны знешнасці, гучыць ласкавачуйна, спагадліва:

— Сядайце, госцікі дарагія, за стол — мне Лявон пра вас часта расказваў. А цяпер пашчасціла і ўбачыцца.

На стале — у гліняных місках смачна зыходзіць парою смажаная бульба з мясам, каля яе — халаднік са свежых гуркоў з цыбуляю і кропам, кілбаса, паляндвіца, кумпяк, сала — нарэзаныя шчодрай рукой тоўстымі кавалкамі, як укусіць. У дадатак — толькі выняты з клінка сыр, галушка масла, а каля іх, як прынада да гэ-

тага, міска пахкага мёду з сотамі. А пасярод гэтай раскошы — з цёмнага шкла вінарка гарэлкі, пэўна, даўно прызапашаная прадбачлівым гаспадаром у кукавіцкага карчмара Ёселя.

Зірнуўшы на ўсю гэту сялянскую раскошу, Кастусю напачатку падалося, што яго сябар Лявон з таго часу, як запрасіў у госці, толькі тым і займаўся, што знарок рыхтаваўся да сустрэчы. Аднак, згадаўшы сваіх бацькоў, дзядзьку Антося і іншых руплівых аднавяскоўцаў, успомніў, што на касьбу, жніво і іншыя цяжкія работы, як на свята, заўсёды пакідалі самыя лепшыя прысмакі. Вядома, што і для гасцей пастараліся гаспадары.

У застоллі, пасля чаркі, міжволі зноў пайшла гамана. У дзядзькі Антося са Сцяпанам пра адвечныя сялянскія клопаты, у Лявона з Кастусём пра літаратуру і будучыню. А Лявонавым братам, як маладзейшым, не дазволена ўлетку доўга бавіцца за сталом. Яны жвава паабедалі, ад уладарнага позірку бацькі борздзенька перахрысціліся на абразы і непрыкметна зніклі — паджгалі на сенажаць.

У шчырай задушэўнай размове час прамільгнуў незаўважна-хутка, быццам прамень святла. Сонца ўжо схілялася да захаду, калі дзядзька Антось зірнуў у канец вёскі, куды яно непрыкметна скочвалася на спачын, заспяшаўся:

— Дзякуем, добрыя людцы, за ўсё, а нас яшчэ дарога чакае. Прыязджайце і вы ў госці, як падходзіцеся з сенам.

Развітваючыся, Лявон перадаў Кастусю сшытак з вершамі і з несхаваным сумам у вачах зазначыў:

— Да наступнай сустрэчы.

Той, як нейкую надзвычай вялікую каштоўнасць, асцярожна паклаў сябравы вершы ў свой, паношаны ў настаўніцкую бытнасць, старэнькі партфель, суцешыў:

— Я табе з Вільні абавязкова напішу. І да хуткай сустрэчы, у нас, на Нёмане...

Гняды, застаяўшыся ў гасцях, весела каціў драбчак дадому, і дзядзька часам напінаў лейцы, каб суняць гарэзу. А Кастусь, уражаны і расчулены сустрэчай з сябрам, думаў пра новую, будучую. Ды сустрэцца ім ужо не давялося...

## Мікола Маляўка

# ДЗЯДЗЬКА ЮЗІК

*Памяці брата Якуба Коласа*

Сцежка на падворку то вузее,
То зусім знікае ў снегапад:
Стала хата дзядзькава музеем,
А зайцы ўзялі ў арэнду сад.
Памяць, затуманеная скрухай,
Праясніцца, як вада ў рацэ.
Бачу дзядзьку з сеткаю-таптухай,
Бачу дзядзьку з вудай у руцэ.
Сэрца цешыць раніца святая,
Шчупакоў цягае —
І пытае:
*«Ці дзе на свеце ёсць такая,*
*Як Нёман, рэчанька другая?..»*
Ён і жыў пры Нёмане заўсёды,
Палюбіўшы змалку гэты кут,
І было ў ім штосьці ад прыроды,
Мудрай, шчодрай і прыгожай тут.
Захавальнік Коласавай спадчыны,
Дзядзька Юзік сам без слова смяг:
Ведаў ён паэмы ўсе на памяць,
Ведаў і агучваў іх, як маг.
Постаці герояў, ім разбуджаных,
Ціха набліжаліся здаля —
І кругом, у Смольні і ў Альбуці,
Ажывала «Новая зямля».
А дзяцей прыводзіла дарога —
Рады быў і тут, каля ракі,
Пра сябе, далёкага, малога,
Ён чытаў пацешныя радкі:
*«А гэты Юзік-шаляніца,*
*Малы яшчэ, зусім дурніца,*
*Так пад нагамі і таўчэцца*
*Або, як хвост той, валачэцца*
*І ад работы адрывае*
*І толькі сэрца ад'ядае...»*

Запрашаў гасцей і ў сад, і ў хату,
Частаваў ён, добрая душа,
Яблыкамі, з кроны неба знятымі,
Малаком блакітным з гладыша.
«Ці падобны вы хоць чуць на брата?» —
Хадакі пыталіся ўсур'ёз.
І ўсміхаўся дзядзька хітравата:
«Не ўтаю, такі ж вялікі нос!..»
Гаспадар разумны, моцны духам,
Дзядзька Юзік без работы сох.
Бачу, як ідзе яшчэ за плугам,
Бачу, як вяршыць у лузе стог.
Над яго магілай хвоі тужаць,
Кружыць бусел — ім любімы птах,
І не чорнай, а блакітнай стужкай
Нёман лёг навечна ў галавах.

## СПЯВАЮЦЬ МІКАЛАЎЦЫ

*Фальклорнаму калектыву*
*«Коласавы землякі»*

Наднямоння мілыя прасторы,
Што ні хата — спеўная сям'я.
Тут, у вёсак шматгалосым хоры,
Ёсць і Мікалаўшчына мая.

Чую шэпт калосся ў жытнім полі,
Чую звон пчаліных верасоў —
Чысты, не губляецца ніколі
Голас родны ў плыні галасоў.

Рэй вядзе Міхась Скарабагаты —
Запявала самабытны наш,
І чуваць, як падпяваюць хаты,
Вуліцы святочныя наўсцяж.

Некалі агучвалі вячоркі,
А цяпер для ўсіх пяюць яны,
Маці і бабулі — нашы зоркі
Тут, сярод палёў і збажыны.

Бераг, луг, паляна — сцэна тая,
Дзе пяе і кружыць карагод.
Суперажываючы, адтае
І душа халодная, як лёд.

Цешыць двухгалоссе, трохгалоссе,
А падхопяць мікалаўцы ўсе —
Сонцам наліваецца калоссе,
Даспяваюць яблыкі ў расе.

Песня тужыць, песня летуценіць,
Песня льецца шумнаю ракой
І ў Альбуці, на зялёнай сцэне,
І ў гасцях, на плошчы гарадской.

Слухаюць сучаснікі сягоння,
Слухаюць далёкія вякі,
Як лунае тут, у Наднямонні,
Голас ваш чароўны, землякі.

Песняй клічуць родныя прасторы,
І лячу, як жаваранак, я —
Рад, што ў вёсак шматгалосым хоры
Ёсць і Мікалаўшчына мая.

## Алесь Камароўскі

## ЗЯМЛЯ МАЯ...

*Якубу Коласу*

Усё змянілася з гадамі...
Яшчэ тады Вы разгадалі
Па буры той, па той маланцы,
Якімі стануць мікалаўцы.
Лясок узрос высокім борам,
Зялёнай цешыцца абновай.
Чало маршчыніць мудры Нёман.

І песня льецца дзіўным хорам...
Амброжык стане часам з возам
Каля акінчыцкіх бярозаў,
Паглядзіць, здыме шапку ціха:
«Якое ломіць яе ліха?»
Над пастарэлым кружыць зрубам
Дзяцінства добрая бусліха.
«Хэ-хэ, браток, няма Якуба,
Каб барану ўсцягнуў на голле...
І што яе дагэтуль коле?»
Ламае Нёман крыгі з трэскам,
Гады — раскіданыя трэскі —
Кідае ў вір з той добрай верай,
Што нехта зловіць і цяпельца
Складзе, пагрэе заўтра сэрца,
Што знойдуць добры яны бераг...
О вір жыцця і часу рэкі!
Да сёння шмат вы змылі з поля.
Карчмы няма. Не гоніць болей
Ламаніха сваёй гарэлкі.
Тарэся і Аўгеня — разам,
Не б'юцца больш у цяжкім горы.
А дождж грыбны, як з луба, спорны
Не так даўно па дахах бразгаў.
Дзе ліпы разышліся колам —
Ого, браткі, якая школа!
Навука тут ідзе не туга —
І сохне бацькава папруга.
А дзядзька «Юзік-шаляніца» —
Гатоў яму я пакланіцца —
Падкруціць хвацка свае вусы:
— Не ўсе звяліся беларусы! —
На вёску родную пакажа:
— Ды жыць тут — шчасце, а не гора,
А маладых вось цягне горад.
Яно, вядома, не прывяжаш...
Не любіць дзядзька наш вусаты,
Калі прыходзяць экскурсанты,
Каб паказаў з жыцця паперы...
Ён не дае паперам веры:
— О-ёй, браткі, ці ж хіба гэта

Музей народнага паэта?
Музей яго — той бераг з дубам,
Кароў там пасвілі з Якубам,
І гэты Нёман, стужкай сіняй
Які уплёўся ў косы луга:
Плыты мужчыны — кожны зухам! —
З Мікуціч гналі ў дождж і сівер.
А гэты лес, а гэта жыта?
Тут з імі ўсё жыццё пражыта.
Там — Бервянец, а там — Лядзіны...
Сваёй красой, уборам дзіўным
І нейкай рысай непрыкметнай
Цябе захопяць, як паэта...
Чытае дзядзька... І здаецца,
Што зараз Колас адгукнецца
І дачытае той урывак,
Што час адрэзаў смерцю крыва...
Вясна-красна... Зялёнай казкай
Прыходзіш ты, і я малю, каб
З той разнастайнасці малюнкаў
Ты паказала дуб высокі,
Што прагна п’е зямныя сокі.
Зямля мая! З тваёй крыніцы
Хачу я сёння прычасціцца
Зямною, прадзедаўскай сілай
І каля люднай стаць дарогі,
Як беларускі дуб-асілак.

## У МІКАЛАЕЎШЧЫНЕ

Касцам атаву давяршыць —
Вазы плывуць, як хмары...
Вяртае восень прагу жыць,
Людскія цешыць мары.

Народ натруджанай зямлі,
Дзе лес і жаўтапёсы,
Пажары тройчы не змялі,
Не выраклі нябёсы.

Калісь па вёсках на касьбе
Нішчымным спелым летам
Касцы апраўдвалі сябе:
«Затое ў нас паэты...»

І карчакоп, і плытагон,
Суняўшы смутак ціхі,
Уславяць песняй зноў таго,
Чые вякуюць кнігі.

Сягоння спеўна ў берагах
І Нёману старому —
Яго ж зямляк аберагаў,
Укленчыўшы на строму.

Ліпнёвы сонечны агонь...
Прыгнула ў росце колас —
Яму заўжды сваю далонь
Падклаў бы дзядзька Колас.

Пяро іржою не пакрыў
Няўмольны час разлукі...
Яго адвагу і парыў
Перанялі унукі.

## СМОЛЬНЯ

Сасоннік рэхам поўнячы,
Дубасіць дзяцел долатам.
І цішыня апоўначы...
Дубы стаяць, як волаты.

Бярозкі к ім прыгожыя
Прыбеглі пакланіцца...
А збоку падарожныя
Акружаны суніцамі.

Адзенуць ліпы золата —
За хмурымі лясамі
Грамы пудовым молатам
Зіме збіваюць сані.

А ціхае, напеўнае
Тут заспявай паўголасам —
Дагоніць рэха спелае,
Нашэптанае Коласам.

## АДПУСЦІЦЕ

*А. А. Сянкевічу*

Доктар,
пойдзем,
родны,
пойдзем
Пад барвовыя кляны...
Дайце глянуць, як на поўдзень
Журавоў ляцяць кліны.
Я не трызню...
Нёман мые
Берагоў крутых бакі,
Быццам помнікі нямыя,
Стынуць зранку рыбакі.
Пагляджу, як у дзяцінства:
У прадонні сінім дня
Чайкі
ў завадзі цяністай
Воду мераюць да дна.
Пабрыду
лясною глушай
У спакой,
дзе верасы
На палянах парных сушаць
Кроплі выспеўшай расы.
Адпусціце,
я збяруся...
Кінуць птушкі па пяру...
Палячу,
на Беларусі
З ціхай радасцю памру.

## Казімір Камейша

# ПРАЗ РОСТАНІ

*(У вянок Якубу Коласу)*

### І. УРОЧЫШЧА «ДУБЫ»

Пойдзем да Нёмна.
Ён тут не цячэ, а пяе.
І ў ладкі хваляў вясёла б'е,
Калі чытае вершы зямляк,
Калі яму птах падпявае,
спявак.

Пойдзем да Нёмна.
Ля дубоў пастаім,
Што шумелі яшчэ
Над дзедам тваім.
З хмарамі чубяцца
дубы-землякі,
А ў кронах маланак гараць
каснікі,
Шаснуў жолуд па мокрым лісці.
Ці крок паэта данесла ціш?
Дажджы ўсеўныя,
Грыбная пара.
Пойдзем.
І кошык кажа:
— Пара!
А самы лепшы грыбнік
Ён, паэт.
У гэта паверылі людзі і свет.
Паэты заўсёды былі грыбнікамі,
Нават тады, калі рыфмы шукалі.
А ён жа
грыбнік з грыбнікоў.
Ён дол гэты ўвесь перамацаў рукой.
І сабе за жыццё у далоні атрос
Цэлы Нёман празрыстых рос.

Ён кожную сцежку
ля пушчы у нас
Кіёчкам на шчасце паражагнаў.
Пойдзем да Нёмна...
Багатае лета прыйшло ў Дубы,
Сеўна на ягады і на грыбы,
І добры ўлоў, і багаты ўкос.
Высокі бераг...
Высокі лёс...

## II. АЛЬБУЦЬ

Сонца толькі што ў сілу ўвайшло,
І лета толькі што сілы набрала.
Многа дарог у жыцці было,
Усякіх дарог хапала.

Гэтак сэрцу жадаецца цішыні.
Тады яму будзе лягчэй грукатацца.
І пайшоў ён у лес,
аж у тыя дні,
У якія заўсёды так лёгка вяртацца.

Недзе ў гэтых дрэвах,
У гэтых ствалах
Ёсць ягоныя, пэўна, кругі і кружочкі.
Што гады.
Як узмах крыла...
Прамільгнулі,
прабеглі наўзбочкі.

Родны кут!..
Родны кут!..
Родны кут!..
Сэрца два толькі словы
ўвесь век паўтарае.
Ён даўно зразумеў,
дрэва кожнае тут
Па паэме, не меней, хавае.

Дарагая краса
ў бляску смол і расы,

Навальніца птушынага спеву.
І не трэба ніякае іншай красы
Сыну гэтай зямлі для сугрэву.

Не спыняйце яго,
Не самотна яму.
Для спаткання будзе яшчэ нагода.
Трэба паэту пабыць аднаму,
Каб быць разам з цэлым народам.

**Сяргей Законнікаў**

## ДАРОГА Ў АЛЬБУЦЬ

Святых мясцін на свеце многа,
Але і гэтай не міні...
Іду ў Альбуць лясной дарогай —
Ступня адчула карані.
І ў век ракетны, электронны
Урослай, сцішанай вярстой
Да Коласа ідуць з паклонам
Яго нашчадкі пехатой.
Шлях ціснецца паміж ствaламі,
Каб ведаў кожны без прынук —
Наш лёс,
            як дол,
                        прарос вузламі
Сялянскіх спрацаваных рук.
Шлях сведчыць,
                        што невыпадкова
Паэт жыў мазалём спярша,
Таму пад світкай шарачковай
І ўстрапянулася душа.
Мужык трывушчы ўваскрэснуў,
І скінуў ён ярмо нягод.
І слова крэўнае,
                        і песня
Сказалі: «Ёсць такі народ!»

Сюды пад небам незамглёным
Іду з надзеяй у вачах,
Дзе Коласа дубы над Нёмнам
Жыццё трымаюць на плячах.

## Уладзімір Карызна

## ЯДВІСЯ

Бабка
        ў вясковай
                        світцы
Успамінае ўголас:
— Колас
            іграў на скрыпцы...
— На скрыпцы іграў
Колас? —
Зорка ў сэрца
                    зляцела.
— Іграў, —
                і паказвае, —
                                во як!

Ад музыкі той
                    трымцела
Усё маладое,
                жывое!..

І сёння вясёлка
З неба
        ў душу
                заглядае,
Калі ўспамінаю
                        польку,
Якую Колас іграе...

Колас іграў
                і ў смутку —

Каціліся гукі,
як слёзы,
Ціхінечка-ціхутка,
Аж прабірала марозам…

Скрыпкай
у сэрца
жар сыпаў,
Душы
расхінаючы
сховы.
Гэта ж Сымон-музыка
У Коласа невыпадковы…

І бабка яшчэ ўспамінае,
Нібы
зрываецца
голас:
— А каб жа вы толькі знала,
Як спяваць
умеў
Колас!

Штось бабка яшчэ ўспамінае,
Як быццам гаворыць:
«Вярніся…»
А мне ўжо
голас спявае:
— Ядвіся!
Ядвіся!
Ядвіся!

Чаму ж ты
дзікаю грушкай
Настаўніка
укалола?
Гордая паляшучка,
Паехала —
і ні слова.

Чаму ты шчасця зраклася?
Настаўніку ж
было цяжка.

Цяпер ты,
        вось бачыш,
                знайшлася,
Ды яго ўжо
        нямашка...

## Мікола Мятліцкі

## ЗІМОВЫ ЭЦЮД

Рыпне чутна слізготкім полазам
На марозе разгон зімы.
На радзіму Якуба Коласа
Між снягоў лёг бальшак прамы.

Хрусне лапка хваіны смольная,
Гляне высака неба стынь.
Пад ільдамі бруіць свавольная,
Нескароная рэчкі плынь.

Спяць усцяж берагі аснежана,
Прымяраючы белы шаль.
Замарожана, закунежана,
Загушкана зарэчча даль.

Два дубы, два асілкі-волаты,
Ветру чуючы спеўны свіст,
Як магнаты трымаюць золата,
Не скідаюць пажоўклы ліст.

Між завеяў зімой хаўтурнаю
Пазастылі ва ўсёй красе.
Гнеўны Нёман паводкай бурнаю
Лісце жухлае іх знясе.

* * *

Новае песні спелае лета
Коласа краем прыйшло да ракі.

Плешчацца Нёман — калыска паэтаў.
Чую імёны, чытаю радкі.

Поплечкі сядуць — цесная лаўка,
Да землякоў у сябрыну не лезь:
Казік Камейша, Мікола Маляўка,
Жэня Хвалей, Камароўскі Алесь.

Выпала ехаць з сябрамі мне ў госці
Ў школу, дзе першых іх песень узлёт.
Цешыцца сэрца і светла зайздросціць:
Любіць паэтаў тутэйшы народ!

Ім у паходзе па славу не даўка,
Побач ступае яна, а не дзесь.
Поплечкі сядуць — цесная лаўка —
Казік Камейша, Мікола Маляўка,
Жэня Хвалей, Камароўскі Алесь.

## Іван Курбека

## СЫМОНКАВЫ НАШЧАДКІ

*(Песня беларускіх юных музыкантаў, удзельнікаў фестывалю «Сымон-Музыка» на радзіме Якуба Коласа)*

З гарадоў, пасёлкаў, сёлаў
У пяснярскі мілы край
На музычны злёт вясёлы
Нас паклікаў цёплы май.
Сымонкавы нашчадкі,
Гуляем, б'ём у ладкі,
Не паддаёмся скрусе —
Расцём для Беларусі.
Нам пяецца лёгка, звонка
І танцуецца не горш.
Пачынаўся тут Сымонка —
Мы прадоўжым спеў яго ж.

Хай музыкамі не станем,
Пойдзем шляхам мы другім —

Не забудзем мы ігранне
Ў гэтым краі дарагім.

Гэтым днём пагодным, веснім
Ладзім мы свой дружны баль —
Родніць музыка нас, песня,
Нас яднае фестываль.

## Сымон Белы

### ПРЫСТАНЬКА

Больш як 90 гадоў назад у гэтай мясціне над Нёманам, паблізу Мікалаеўшчыны, адбыўся настаўніцкі з'езд.

Нёман, Ёлава, Лядзіны,
Лес, дубровы і лугі —
Гэта Коласа мясціны,
Кут мне гэты дарагі.

Чысты Нёман, срэбразвонны
На плячах сваіх насіў
Тых, хто слухаў хваляў гоман
І вачамі піў іх сінь.

Сэрцам, Прыстанька, твой голас
Чую ў дрэвах і траве,
Дзе калісьці песню Колас
Выпускаў у новы век.

### БЕРВЯНЕЦ

Маляўніча лугавіна
Шаўкавістым дыванам
Легла блізенька ля Нёмна,
Каля волатаў-дубоў.
Нёман выгнуўся дугою —
Не адзін ён век бяжыць.
Баравінны лес, сасновы

Таямніцаю стаіць.
Падбадзёрыць бацька Нёман,
Дасць з жывой вадой ён сіл.
Тут дубы магутнай кронай
Падпіраюць небасхіл.
Хлапчуком Кастусь Міцкевіч,
З торбай зрэбнай на плячах,
Ранак сонечна-барвовы
Пад іх шатамі страчаў.
Дар вялікі меў ад Бога,
Слухаў песню ён зямлі.
Ля бацькоўскага парога
Крылы вольныя раслі...

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Пад шум дрэў, дубоў-асілкаў
Бервянец ажно гудзе...
Родны кут людзей паклікаў —
Свята Коласа ідзе!

**Алесь Рыбак**

## У МЯСТЭЧКУ

*(Урывак з апавядання)*

...Візіт мой на хутар помніўся доўга, вельмі доўга. Нешта як бы зрушылася ўва мне, я пачаў, незразумела чаму, недалюбліваць урокі фізікі, тады-сяды нават прапускаць іх. Мне цяпер як ніколі хацелася, каб Аўдзей Іванавіч перайначыўся да мяне, быў як з іншымі хлопцамі, і таму знарок часта не рыхтаваў заданняў. Аднак Ампер, нібы адчуўшы такі мой настрой, не выклікаў мяне ні да дошкі, ні адказваць вусна. Ён зноў колькі разоў, пераняўшы мяне аднаго на калідоры ці на двары, спрабаваў першы загаварыць, зноў агітаваў, каб я добра такі падумаў пра свой будучы лёс.

Лёс гэты, гэтае маё будучае шчасце ён звязваў, абавязкова звязваў з маім паступленнем на фізмат. Як до-

вад, казаў пра мае здольнасці па гэтым прадмеце, пра тое, што з мяне спакойна мог бы праз колькі гадоў атрымацца не горшы, чым ён сам, настаўнік, а можа, калі пашанцуе, і які вучоны-фізік.

Але мне ўжо чамусьці не хацелася, каб шанцавала. Хоць я цвёрда і не вырашыў яшчэ, куды падамся пасля сканчэння школы, аднак і фізіка больш не вабіла.

Тут жа было вялікае мястэчка, двароў, можа, на шэсцьсот—семсот, па-над Нёманам, спакойнай ракой, у падкове вясёлых сасновых бароў, узлескаў. Людзі, землякі слыннага паэта, песняра, славіліся як дбайныя гаспадары, рыбаловы, сплаўшчыкі лесу. І дзеці, змалку прывучаныя да працы на паветры, былі шырэйшыя ў касці, вышэйшыя, выдавалі сталейшымі. Дзяўчаты таксама — спраўныя, выгадна розніліся ад маіх ранейшых аднакласніц.

На той час кожны ў класе шмат гаварыў пра свае планы. Гэтага вымагала пара. Шчыравала ўжо вясна, дружная, напорыстая, з шырокім, ледзь акінуць вокам, разлівам Нёмана. Я на тыдзень-другі, пакуль не спадзе вада, папрасіўся ў хату да Валодзі Родзіка. Сястра дала харчоў, а Валодзева маці падрадзілася гатаваць і для мяне.

Жыццё ў мястэчку мне падабалася. Падабалася самастойнасць, незалежнасць, тое, што нікуды не трэба спяшацца пасля заняткаў. Пад'еў, зрабіў што трэба на заўтра — і воля вольная. Хочаш — блукай без дай прычыны па вуліцах, а то бяжы на школьны двор, які пад сонцам цалкам ачысціўся ад снегу, каб згуляць у валейбол, — старэйшыя школьнікі, а то і проста местачковыя хлопцы дацямна не вылазілі адтуль, кідалі праз сетку мяч. Аднак больш цягнула на мост, месца нашых заўсёдных зборышчаў.

Цяпер, у паводку, на мосце было асабліва цікава. За сваё жыццё я ніколі не бачыў гэткага мора вады. Перабрацца на сухое можна было толькі на лодцы, ды і то плысці не меней як гадзіну. Гэтымі перавозкамі, па вельмі пільнай каму патрэбе і, вядома, за немалыя грошы, займаўся местачковец Фанька Дзюба, нізенькі хударлявы, але дужы і ўвішны мужчынка з даўно няголенай рыжай бародкай, за што хлапчукі на мосце часта дражнілі яго «казлом». Фанька, смешна выкідваючы

наперад кароткія свае ногі, спрытна ганяўся з шастом за якім-небудзь шалапутам, але ці не хацеў, ці, можа, не ўдавалася, ніколі нікога не даганяў.

## Яўген Хвалей

## ПАНЯМОНЬ

Запыніся,
паслухай,
зямляк,
Між бяроз наднямонскіх і вербаў,
Як гудзе кацярынінскі шлях
Да Нясвіжа
з Акінчыц
праз Свержань...
Затаіся ...
Гукні: «Па-ня-монь!..»
І як рэха — гады адгукнуцца...
...Бацька з сынам на возе...
А конь —
Шлях раўнюткі, нібыта далонь —
Ды баіцца на ім спатыкнуцца.
Быццам ён разумее, што тракт
Радзівілаўскі, княжы —
не свойскі...
А ў Нясвіж жа паспець трэба так —
Як глядзіць на каня палясоўшчык!
Можа, зараз надзею з надзей
Ён, Міхал, на шляху гэтым цешыць:
Хоць адзін мо з тутэйшых людзей —
Сын Кастусь яго —
вырвецца з цемры.
А што здольны настаўнікам быць —
То пацвердзілі сынавы вершы,
І з рук бацькавых горда Альбуць
Ганарар яму выдала першы.
Колы лёгка бягуць па жвіры,
Тарахцяць... Гарадок недалёка...

Раптам брычка — адтуль, з-за гары...
На хлапца скасавурыўся лёкай.
Нібы штосьці у ім пазнаваў...
О, каб ведалі князевы служкі,
Хто дарогу сягоння пачаў
І якую з праменнямі злучыць?!

Загудзела шашы абалонь,
Замахала галінкай асіна...
Беларусь —
                    не адна Панямонь —
Выпраўляла у свет свайго сына.

## СЦЯЖЫНА ДЗЯДЗЬКІ ЯКУБА

### Шлях Коласа ў драўляных скульптурах на радзіме песняра

Акінчыцы... Выток... Пачатак...
«Мадонна-маці»...
Вечнасць часу,
Жыцця, што, як рака, сплывае
І ў вусце памяці ўпадае.
Мне за «Мадоннай» бачна Ганна,
Яе ўлюбёнасць, закаханасць,
Яе ахвярнасць і цярпенне,
За дзетак, за жыццё маленне.
І тая хатка пры гасцінцы
Здаецца помнікам ёй сціплым.
«Вытокі»...
Постацяў аблічча:
Цясляр-разьбяр, дудар, ткачыха —
У іх — народа дух высокі,
Таланных прашчураў вытокі.
Стары дзядуля над слупкамі —
Не «Старац», а жывая памяць,
Легенда змрочная пра Стоўбцы:
Быў манастыр, быў мор...
Тры «стоўбікі»...

Тут у сасне, бярозе, елцы
Сцяга жыцця «новазямельцаў».
«Падгляды пчол», «Касец», «Рыбак» —
Што ні скульптура — вечны знак.
«Дзень быў святы. Яшчэ ад рання
Блінцы пякліся на сняданне.
І ўжо пры печы з чапялою
Стаяла маці. Пад рукою
Таўкліся дзеці, záміналі,
Або смяяліся, спявалі» —
О гэты векавечны дзень той
Ў Альбуці: «Раніца ў нядзельку»!
«Званар» — як голас праўды, волі
І як той вобраз лепшай долі:
«Між званамі на званіцы
Быў адзін звон незвычайны.
Меў ён голас разнастайны,
Чараў дзіўныя крыніцы
І размовы нейкай тайны» —
Што ні радкі, то гукі-зыкі...
Ах, Сымоне, ах, Музыка!
Чароўнай музыкі «Пяшчота» —
І кветка-папараць употай
Цвіце ў бары, цвіце ў лагчынах,
Сарвуць яе юнак, дзяўчына.
Не здолелі Андрэй, Ядвіся
Загадкай-кветкай падзівіцца...
На бераг выйшаў «Бацька Нёман»
У вобразе, усім знаёмым,
Вадзяніка.
Рыбак і човен —
Ці не Антось?
Плыві, Антоні,
У час мой, будучыню вечна,
Пакуль жыве род чалавечы.
Гляджу пільней...
У «Бацьку Нёмне»
Міхала бачу — вусам цёмны.
Яго пастава сярод бору,
Яго тут радасць, боль і гора.
Ён быў ляснік, а сніў зямельку,
Зажыць з Антосем на ёй меўся...

Калі б у дзень мой завіталі,
Напэўна, фермерамі б сталі...
«Асветнік»...
Ён жа Лабановіч,
Глядзіць у даль, заўсёды новую...
Ліхтар ў руцэ... Дзяўчынка з кніжкай —
Яго надзея свеціць знічам.
«Дрэва жыцця» каля Мікуціч —
Вянец сцяжыны ў родным куце.
Дачка, унук, сама бабуля —
Выток жыцця, працяг і будучыня,
І вера, што тварыў не марна —
Святая Коласава мара.
Сучаснік мой, адчуй душою,
Прайшоўшы гэтаю зямлёю,
Радкі, падказаныя ёю:
«Ад роднае зямлі,
Ад гоману бароў,
Ад казак вечароў,
Ад песень дудароў,
Ад светлых воблікаў закінутых дзяцей,
Ад шолаху начэй,
Ад тысячы ніцей,
З якіх аснована і выткана жыццё
І злучана быццё і небыццё, —
Збіраўся скарб...»

## МОСТ ПАМЯЦІ «НЬЮ-ЙОРК — АЛЬБУЦЬ»

Антось Галіна — псеўданім Міхася Міхайлавіча Міцкевіча, малодшага брата Якуба Коласа. Першую палову жыцця ён пражыў на радзіме, паблізу вёскі Мікалаеўшчына, другую — вымушаны быў жыць за мяжой, у Заходняй Еўропе і Амерыцы.

Ты пабудзь са мной, ты пабудзь,
Леснічоўка мая Альбуць,
У развітальны астатні мой час...

Покуль лёс не закрыў мне павекі,
Бачу, Нёман, крынічка, я вас —
У душы настальгія паўвеку.
Калі я адарваным лістком
Ад альбуцкага прашчура-дуба
Быў пагнаны ліхім скразняком
За кардон...
Як ты выжыў, Якубе?
Прад вачыма — шматкроп'ем гады...
Бачу, Костусь, цябе маладым —
Прыязджаў ты са школак з Палесся:
Пазнаваў я здаля ўзмах рукі...
Ты вадзіў нас, малечу, па лесе,
На крамяныя баравікі.
Пэўна, з часу таго і ў мяне
Загарэлася іскра асветы:
І ў Нясвіж па слядах тваіх мкне
Маё сэрца, адкрытае свету.
Як мігцяць, як пульсуюць гады...
І пісаць я пачаў, як і ты...
Імя ўзяў я ад дзядзькі Антося,
Ну а прозвішча — ад родных дрэў.
Беларусі ўзрастала калоссе...
Адраджэнскі агонь мяне грэў.
Я пісаў пра сялян і пра рэчку,
Беларусаў дух, шчыры, святы.
І аднойчы заўважыць Гарэцкі,
Што «спадзейны» я «белетрыст».
Быццам воўчыя вочы — гады...
Хто наклікаў да нас злыбяды?
У далёкія саракавыя
Запалоняць мой край чужакі.
Найстрашнейшыя, ракавыя
Мне пакажуць свае кулакі.
Можа, хтосьці мяне асудзіць,
Можа, хтось пазайздросціць мне...
Я не здрадзіў зямельцы, людзі, —
Не хацеў я аддаць сатане
Свае мары, надзеі, світанкі,
Запалілі што ў сэрцы маім
Кастусі, Францішкі і Янкі...

Я служыў і ў Амерыцы ім.
Мой звінеў «Звон царкоўны» здалёку,
Толькі дома не чулі яго...
Што ж, чырвоныя злыдні і лёкаі
Там імшу спраўлялі шмат год...
Ты пабудзь са мной, ты пабудзь,
Лесні́чоўка мая Альбуць,
У развітальны астатні мой час...
Знічка падае...
Толькі след-пас...

## ДЗЕ ХВАЛІ НЁМНА ЗАЛАТЫЯ...

Прыйду на берагі крутыя,
Дзе хвалі Нёмна залатыя
Сплываюць спеўнымі радкамі,
З дубамі шэпчуць, чаратамі.
Яны ўзнёслыя, як неба,
Яны ў зямным акрайцы хлеба,
У звоне вечнае крыніцы,
З якой мне піць і не напіцца...
    Якуба Коласа радзіма —
    Край мой жытнёвы, край адзіны.
    Над Нёмнам — золак салаўіны
    І адвячорак мой бусліны.
    Якуба Коласа радзіма,
    Ты васільковымі вачыма
    Глядзіш у неба Белай Русі —
    З табой навекі застаюся.
Альбуць, Высокі Бераг, Смольня
Душу саборна мне замоляць.
Палёў, лугоў званкі-званочкі
Пакажуць шлях сюды і ўночы,
Каб я ніколі не зблудзіўся,
Зямлёй паэта прычасціўся:
«Мой родны кут, як ты мне мілы!
Забыць цябе не маю сілы!»

## Даніла Міцкевіч

# УШАНАВАННЕ ПАМЯЦІ ЯКУБА КОЛАСА НА ЯГО РАДЗІМЕ

Яшчэ пры жыцці народнага паэта яго імя было прысвоена Мікалаеўшчынскай сярэдняй школе, пабудаванай пры яго вялікай і дзейснай дапамозе. Мясцовы калгас атрымаў назву «Радзіма Якуба Коласа». Асабліва многа зроблена па ўвекавечанні памяці Якуба Коласа на Стаўбцоўшчыне пасля смерці песняра. Згодна з урадавым рашэннем створаны філіял Літаратурнага музея Якуба Коласа ў Мікалаеўшчыне (Смольні). Адкрыты мемарыяльныя дошкі на будынках, звязаных з яго жыццём і творчасцю: у Акінчыцах, Ластку, Альбуці і Смольні. У Мікалаеўшчыне пастаўлены помнік-бюст песняру.

Філіял музея быў урачыста адкрыты 8 чэрвеня 1967 года ў час тыдня ўзбекскай літаратуры і мастацтва ў БССР.

Пасля адкрыцця філіяла музея пачалася значная работа па збору матэрыялаў і дакументаў, запісаў успамінаў сучаснікаў.

Давялося правесці вялікую работу па капітальным рамонце або поўным аднаўленні жылых дамоў і гаспадарчых пабудоў у былых леснічоўках Акінчыцы, Ласток і Альбуць, на хутары Смольня. Мы імкнуліся надаць ім такі выгляд, які яны мелі пры жыцці там сям'і Міцкевічаў. Усяго адрэстаўраваны і адноўлены чатыры жылыя хаты, шэсць гумнаў і хлявоў, чатыры прыгрэбнікі, чатыры калодзежы, два парканы. У Смольні, Акінчыцах і Альбуці пабудаваны жылыя дамы для работнікаў філіялаў музея.

У Смольні побач з рэстаўраванай жылой хатай — часткай музейнага комплекса філіяла, збудаваны спецыяльны двухпавярховы дом, дзе размешчана экспазіцыя пра жыццё і творчасць Якуба Коласа з прывязкаю да родных мясцін. Праведзена добраўпарадкаванне наваколля музейных аб'ектаў. У Смольні і Акінчыцах зроблены агароджы тэрыторый, пасаджаны дэкаратыў-

ныя дрэвы, кусты, кветнікі. У Смольні і Ластку пасаджаны сады, чым здзейснілася яшчэ даўняя мара народнага паэта.

Усе памянёныя работы выкананы пры дапамозе рэспубліканскіх, абласных і раённых кіруючых устаноў, Саюза пісьменнікаў Беларусі, Акадэміі навук, Міністэрства культуры, будаўнічых міністэрстваў, многіх будаўнічых арганізацый розных ведамстваў, Міжкалгасбуда, спецыяльных навукова-рэстаўрацыйных вытворчых майстэрняў Міністэрства культуры, цесляроў і муляроў калгаса «Радзіма Якуба Коласа», сіламі супрацоўнікаў музея і філіяла музея Якуба Коласа.

Да 100-годдзя з дня нараджэння песняра быў урачыста адкрыты філіял музея ў Акінчыцах, там, дзе ён нарадзіўся, з 3 лістапада 1990 года — музей-сядзіба Альбуць, які па сутнасці з'яўляецца музеем «Новай зямлі», а затым быў адкрыты філіял у Ластку.

Такім чынам, цяпер на радзіме народнага паэта дзейнічаюць чатыры філіялы музея Якуба Коласа.

І змест і мастацкае афармленне экспазіцый філіялаў зроблены так, каб да мінімуму зменшыць паўторы. Кожная экспазіцыя павучальная і цікавая, філіялы знаходзяцца ў прыгожых мясцінах, разнастайных па сваёй красе.

Вялікую асалоду і захапленне, багатую інфармацыю атрымліваюць шматлікія наведвальнікі філіялаў музея і чароўнага наваколля.

На Коласавай радзіме праводзіліся і праводзяцца шматлікія масавыя мерапрыемствы. Помніцца ўрачыстае адкрыццё мемарыяльных дошак на сядзібах Акінчыцаў, Ластка, Альбуці і Смольні 24 верасня 1961 года, прыезд гасцей, нашых і замежных, у час адзначэння 80-годдзя песняра ў лістападзе 1962 года, святкавання 100-годдзя Мікалаеўшчынскай сярэдняй школы імя Якуба Коласа 9 ліпеня 1966 года, урачыстае адкрыццё філіяла музея ў Смольні разам з узбекскімі пісьменнікамі і артыстамі 8 чэрвеня 1967 года. Шырока адзначалася рэспубліканскае свята паэзіі на радзіме народнага паэта падчас яго 90-годдзя 17 верасня 1972 года, такія ж святы адбыліся ў 1974, 1978 га-

дах і ў час 100-годдзя Якуба Коласа 30 кастрычніка 1982 года.

У апошнія гады сталі традыцыйнымі такія святы, арганізаваныя аддзелам культуры Стаўбцоўскага раёна і Літаратурным музеем Якуба Коласа, як «Красуй, Беларусь!» (агляд мастацкай самадзейнасці творчых калектываў Стаўбцоўскага раёна), «Альбуцкая крынічка» (дзіцячае свята мастацтва), рэспубліканскія фестывалі юных музыкаў пад дэвізам «Сымон-музыка».

З 1985 года музеем праводзяцца святы, прымеркаваныя да дня нараджэння песняра. У музеі ў Мінску адбываецца навуковая канферэнцыя, ускладаюцца кветкі да помнікаў Коласу на плошчы яго імя і на Вайсковых могілках, а 3 лістапада, у дзень нараджэння паэта, музейцы, пісьменнікі, навукоўцы выязджаюць у Акінчыцы, на месца яго нараджэння, наведваюць другія філіялы, ускладаюць кветкі да помніка ў Мікалаеўшчыне, а пасля адбываюцца выступленні перад грамадскасцю Стаўбцоўскага раёна, жыхарамі Мікалаеўшчыны і іншых вёсак ў Палацах культуры калгасаў і Стоўбцаў. Такія святы атрымалі назву «Каласавіны».

У 1990 і 1991 гадах у коласаўскіх мясцінах устаноўлены каля 40 скульптурных работ з дрэва. Іх стварылі народныя ўмельцы, разьбяры па дрэве з Мінска, Гародні, Магілёва, Брэсцкай вобласці: Сяргей Кляшчук, Міхась Корабаў, Анатоль Маголін, Іван Супрунчык, Дзялендзік. На высокіх тоўстых дубовых калодах выразаны персанажы «Новай зямлі», «Сымона-музыкі», «На ростанях», іншых твораў Коласа, паказана яго асветніцкая дзейнасць.

Работы зроблены самадзейнымі разьбярамі з любоўю, узнёсла, з высокім майстэрствам. Яны складаюць цікавы мастацкі ансамбль, арганічна звязваюць паміж сабой музейныя аб'екты. У Беларусі ўпершыню ў такім маштабе зроблены комплекс скульптур з дрэва.

Гэты комплекс «Шлях Коласа» складаецца з «Сцяжыны новазямельцаў», размешчанай на падыходзе да Альбуці, «Дарогі Коласа» (паміж Акінчыцамі і Мікалаеўшчынай), мастацкай кампазіцыяй «Песняй вітаю я вас», што знаходзіцца на Высокім Беразе поруч з турбазай. У Смольні аналагічным чынам афармляецца ад-

люстраванне першай сустрэчы Якуба Коласа і Янкі Купалы ў 1912 годзе.

Ініцыятарамі і арганізатарамі стварэння такога велічнага мастацкага комплексу з'яўляюцца загадчык аддзела культуры Стаўбцоўскага райвыканкама Анатоль Грэкаў і дырэктар Літаратурнага музея Якуба Коласа Зінаіда Камароўская.

Для належнага афармлення роднага кута Коласа, прырода якога так па-майстэрску апета і апісана ў творчасці песняра, неабходна яшчэ многае зрабіць.

## Мікола Маляўка

# ВЯРНУЎСЯ З НЯБЫТУ

Кожны раз, калі еду ў родную вёску, думаю і пра яго, Язэпа Лёсіка. Думаю з любоўю і ўдзячнасцю, як пра сваяка. Уяўляю высокую постаць на беразе Нёмана, якому прысвяціў ён свае паэтычныя радкі:

Люблю глядзець, як месяц свеціць
І ўсё кругом мёртвым сном спіць,
А ён бяжыць, дарогу меціць
І ўсё навокал залаціць.

Быў час, калі я, студэнт універсітэта, не ведаў, што жыў на свеце такі чалавек — родам з маёй Мікалаеўшчыны, родны дзядзька Якуба Коласа, брат маці песняра. А ён жа быў акадэмікам, чытаў лекцыі ва універсітэце, складаў падручнікі па беларускай мове для школ.

Жыццёвыя выпрабаванні пачаліся для Язэпа Юр'евіча Лёсіка яшчэ пры цару. За рэвалюцыйную дзейнасць яго выслалі ў Сібір. Выслалі навечна. Крычыцьплача ліст, прысланы адтуль, з вымушанага выраю, дадому: «Сэрца заходзіцца ад жалю, калі, можа, ніколі не давядзецца хадзіць па родных сцежках, ніколі не пачуць тых мілых песень, што сам спяваў з маленства. Таварыш мой усхопіцца ўночы ды пачне заганяць гусей:

«Гыля, гыля!» Потым прачнецца, звернецца да мяне ды запытае: «Ці няма ў нас лустачкі хлеба?..»

Толькі ў семнаццатым годзе вяртаецца Язэп Лёсік з сібірскай ссылкі ў Мінск. І пачынае плённа працаваць на адраджэнне беларускай дзяржавы, мовы і культуры. Рэдагаваў газету «Вольная Беларусь». Пасля абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі каля года ўзначальваў яе Раду. Чалавек цвёрды і рашучы, ён клікаў беларусаў яднацца ў адну сям'ю, вольную і незалежную, каб не забыліся, хто яны, чые сыны, якіх бацькоў. «Годзе быць пашаю для чужынцаў, годзе карміць чужынцаў сабе на згубу і пастаянную пакуту, — звяртаўся Язэп Лёсік да сучаснікаў і да нас, нашчадкаў. — Мы павінны стаць на ўласныя ногі». Крамлёўскім бажкам, вядома, гэта не падабалася, і пад іх націскам-гнётам Язэп Лёсік вымушаны быў адысці ад палітыкі. Складаў падручнікі, пісаў артыкулы, вершы, апавяданні, чытаў лекцыі на педагагічных курсах. На яго лекцыі цяжка было трапіць, таму што аўдыторыя заўсёды была перапоўнена зацікаўленымі слухачамі.

Здавалася, жыццё нарэшце ўвайшло ў спакойную каляіну. Але гэта было не так. У адным з лістоў брат Антон пацікавіўся, як жыве Язэп. І той адказаў беларускай прыказкай: «Жыву як мыш пад мятлою». Улады не спускалі з яго вока, сачылі за кожным крокам, запаміналі кожнае смелае слова.

Мова — асаблівая любоў Язэпа Лёсіка. Ён прызнаваўся брату: «Калі я праходжу па вуліцах Мінска і чую беларускую мову, то слухаю яе, як музыку». Чужой мовай свайго гора не выкажаш, чужым словам сваёй радасці з душы не выплеснеш. Трэба вучыцца, мець свае беларускія школы, бо цёмнаму чалавеку не прынясе карысці ні зямля, ні воля. Гэтак думаў і гэтым жыў Язэп Лёсік.

Дзеля станаўлення і росквіту роднай мовы прыйшлося ахвяраваць літаратурным талентам. Апавяданні, што дайшлі да нас, — гэта ўспаміны з маленства і юнацтва, замалёўкі з жыцця дарагой сэрцу Мікалаеўшчыны.

«Лёсік дужа талентны апавяданнік, — пісаў Максім Гарэцкі. — Гэтага слаўнага пісьменніка чакае яшчэ

слаўнейшая будучына». На жаль, бальшавікі не паспрыялі, каб словы гэтыя збыліся. Язэпа Лёсіка кідалі з турмы ў ссылку, пасля— зноў у турму. І толькі за тое, што быў таленавіты, верыў у свой народ, шчыра любіў Беларусь.

Бачу смуглую постаць тваю,
Як абраз усялюдскай пакуты.
Табе песні складаю, вяршую, пяю —
К табе сэрцам навекі прыкуты.

Не выйшаў у свет зборнік апавяданняў «Родныя вобразы». На аўтара павесілі ярлык «нацдэма», ворага народа, арыштавалі і выслалі з Беларусі. Падчас вобыскаў асаблівая ўвага звярталася на рукапісы. Брат Антон згадваў: «Аднаго разу трэслі ўсю ноч, узялі столькі матэрыялу, што павезлі на кані». І павезлі ж, вядома, не ў выдавецтва, а на касцёр, каб рукапісы не сталі кніжкамі.

Мы не ведаем нават, дзе магіла Язэпа Лёсіка. З глухой саратаўскай турмы дайшла да дзяцей яго развітальная паштоўка: «Жывіце самі, без мяне. Ваш тата». А сабе самому, відаць, адрасаваны на этапных дарогах спавядальна-балючыя радкі:

Твой крыж з крыжоў —
Самы крыжаваты
Таму, што шмат разоў
На ім быў ты распяты.

Кажуць, душа пасля смерці чалавека ляціць на радзіму, да спадчынных хат і крыжоў. Калі гэта так, то душа Язэпа Лёсіка не далёка недзе, а ў блакітным небе над Мікалаеўшчынай. Савецкая ўлада ўкараціла яму жыццё, але не змагла выкрасліць з гісторыі яго імя. Як некалі з бестэрміновай ссылкі, вярнуўся ён да нас з нябыту, у адной асобе — асветнік, пісьменнік, вучоны, грамадскі і палітычны дзеяч. Вярнуўся, каб жыць у слове, вярнуўся, каб акрыліць нас сваёй верай і надзеяй: «Вецер павее ды хмары разгоне, неба праясніцца, сонца пакажацца і хутка развіднее над нашай краінай».

Вось чаму з любоўю і ўдзячнасцю думаю я пра Язэпа Лёсіка кожны раз, калі еду ў родную вёску.

## Язэп Лёсік

# НЁМАН

Ціха цячэ ў нас Нёман, ціха і сумна, як час па расстанню. Не імчыцца ён з рызыкай уперад, не шуміць, не гудзе і не пышыцца сілай, а паволі, ступою, моў, скуты журбою — льецца, як срэбра, па родным грунце. Чысты, як шкло, светлы, як дзень, сумны і пекны, як хараство ў задуме, ходзіць ён, смуклы юнак, ва ўсе бокі, цешыцца-песціцца на матчыных грудзях, льецца-нясецца, сумуе-журбуе і не можа расстацца з роднай краінай...

Міл яму ціхі гаёк каля лесу, любы зялёныя доўгія ніўкі; мілы лясы, пясчаныя выдзьмы, горы, вазёры, груды, сенажаці, люб яму й жоўты пясочак на ўласным беразе. Ды, як скованы думкай вечнай разлукі, пахаджае ён смутна па роднаму краю — усё разглядае, з усім размаўляе, усё ціха жагнае, моў, цяжка ўздыхае. Падыдзе, засмучаны, к цёмнаму лесу — сцішыцца, змоўкне, замрэ й абамлее, а потым завернецца — падасца ўперад ды знікне ў лесе. Там пагуляе, у цяньку сапачыне, пагамоніць задумліва з ёлкамі, соснамі, пазіхне, устрапянецца ды выбежыць у поле — заззяе, як срэбра, заблішчыць-засмяецца на сонцы ды разальецца ўстужкай паквяцістым лузе...

І куды б ні збег ён, дзе б ні разліўся — скрозь, як пачэсная варта вяльможнага пана, бяжыць за ім услед і мігціцца абапал зялёна-купчастая пушча. Лозы, алешнік, касацісты дзягіль, ажыннік, маліннік, аер з ачаротам — усё пазрасталась, зліпла, сплялося і стаіць над вадою разгатай сцяною. Сумны вярбняк, пастаўшы ў радок, моў, тыя пратэсы ў азнаку пашаны, параскідаў галлё ва ўсе бакі і нахіліўся на ваду, а тонкае вецце яго пазвісала ўніз, як матчыны косы над дзіцячай калыскай. Чырвона каліна ірдзіцца на сонцы, трапечацца лісце асіны ў паветры, з кустоў выглядае пурышка і глядзіцца ў ваду, як красна дзяўчына крыёма ў люстэрка, а па ўзгорках — магутна, як вежы, уздымаюцца ў неба дубы... Птушкі спяваюць, конікі граюць, і пчолкі гудуць, як арганы, у паветры...

І толькі вось там, дзе трапіцца плёса, дзе жоўтае поле пяску разляглося — толькі там гэта пушча, як чуйная варта нябогі, нібы расступаецца, застаецца пазаду як бы дзеля таго, каб Нёман пабегаў адзін, пагуляў на самоце ды каб потым ізноў абступіць, агарнуць, увабраць яго бокі ў зялёныя шаты...

Ужо ў самым пачатку, з першых крокаў свае падарожы, Нёман не волен ад жыццёвых турботаў. Толькі парвуцца кайданы зімовай няволі, як слабым грудзям яго трэба ўжо напружацца і несці ў чужыну багацце і пыху роднага краю.І ад самай вясны да халоднай восені плывуць ды ідуць жалобнай працэсіяй плыты: то нязграбныя, сухія і белыя, як чалавечыя косці, куртатыя згоны, то хмурныя і цёмныя, як моўчозна сінеючы навокала лес, дзябёлыя, лавак у трыццаць, важкія плыты. Ды толькі і чуеш, як з ранку да вечара магільнаю яхай раздаюцца выгукі каманды:

«Тарнуй на барбару-у! За-кідай шыры-гу-у!»

А то рахубны купец-скупяндзя махне, пасміхнуўшысь, рукой на забароны ды пусціць шарось[1]. Тагды чыстыя хвалі яго ўкрываюцца брудам, як чалавечыя грудзі каростай. А ўброд — ні прайсці ні праехаць; коні храпуць, рыкае ад страху жывёла, крычаць аж да поўначы качкі, гусі дамоў не прыходзяць, плача пастух, і чуюцца ўсюды праклёны...

А часам спрадвесня, у поўную ваду з мэтай бадання, прыімчыцца аднекуль жывец-параход, загудзе, залапоча чырвонымі крыллямі, чмыхне, як бы праканаўшыся, што:

«Квол яшчэ, браце, — не ўздымеш віціны!»

А штотыдня, у чацвер, у погоду й нягоду, узімку і ўлетку, варочае нетры Нямніска скарбовы рыбак. Закінуўшы волак і пабраўшы вяроўкі на плечы, ухаюць, пнуцца рыбакі-небаракі, стогнуць, ірвуцца з апошняе сілы, каб заможнае панства ў замку мела свежую рыбу да стала...

---

[1] Тут: сплаўны лес.

# СЯЛО МІКАЛАЕЎШЧЫНА МІНСКАГА ПАВЕТА

Сяло Мікалаеўшчына, або Мікалаўшчына — радзіма Якуба Коласа (Тараса Гушчы). Тут залажыўся ў 1905 г. настаўніцкі хаўрус Мінскага павета. Царская паліцыя шмат каго арыштавала з гэтага хаўрусу, шмат каго засудзіла ў вастрог і ссылку, а некаторыя з сябрукоў гэтага хаўрусу, уцякаючы ад царскага гневу, апынуліся ў Амерыцы і толькі цяпер варочаюцца ў свой родны кут. Гэта пра Мікалаўшчыну і яе ваколіцы Якуб Колас сказаў: «Мой родны кут, як ты мне мілы: забыць цябе не маю сілы!»

Ужо ў 1905 г. мікалаўцы свядома адносіліся да палітычных падзеяў, а цяперашнюю рэвалюцыю стрэлі як нешта даўно чаканае і добра знаёмае. Залажыўшы свой камітэт, мікалаўцы пагромаў не чыняць, а спакойна і лагодна вядуць свае справы. Да пагромаў і гвалту адносяцца з агідаю і, пачуўшы аб гэтым, кажуць: «Пусці свінню за стол, дык яна і ногі на стол», «Не дай Бог мужыку панства».

Некія, ім самім невядомыя, мабыць, гістарычныя традыцыі пазваляюць ім усіх ваколічных сялян называць «мужыкамі», а на запытанне, хто яны такія, адказваюць: «Мы? Мы — мікалаўцы». Назваць мікалаўца *мужыком* — дык ён не абразіцца, а толькі здзівіцца, як бы атрымаўшы znячэўку па патыліцы. Сваю асобнасць мікалавец падкрэслівае і ў песнях. Так, напрыклад, на вяселлі, як едуць з прыданкамі, у Мікалаўшчыне спяваюць: «Шчабячы, салавейка, шчабячы — нам дарожаньку пакажы: ці ў тое сяло крывое, ці ў тое мужыччо дурное?»

На сходах мікалаўцы, прамаўляючы, велічаюць сябе — «панове-брацця беларусы». На выбарах да Устаноўчага Сойму падавалі голас за беларускі спісак № 13 і другіх намаўлялі. Настаўнік, каторы стаў чытаць дзецям беларускія кніжкі і гаворыць па-беларуску, адразу прыдбаў сабе прыхільнасць. Сталай нацыянальнай свядомасці яшчэ не маюць, але востра пачуваюць сваю асобнасць ад расійцаў і палякаў. Разумеюць патрэбу бе-

ларускага войска і кажуць, што ад Масквы парадку не будзе. Свой край лічаць забраным і ахвотна згаджаюцца склікаць свой Устаноўчы Сойм у Мінску ці ў іншым сваём горадзе. Расійскіх салдатаў не любяць за тое, што яны лічаць наш край чужым. Украінцаў слухаюць уважна і сярдуюць, што добрым людзям аб'явілі вайну.

Перад Калядамі ўкраінцы, варочаючыся з фронту на Украіну, прымушаны былі пакідаць вінтоўкі ў вёсках, каб не чапляліся бальшавікі. Мікалаўцы забралі вінтоўкі ў камітэт і ўзброілі ўсіх, хто можа абходзіцца з вінтоўкаю. Устанавілі варту ў сяле дзеля таго, каб бараніцца ад пагромшчыкаў, а калі што, дык і ад немцаў.

Моладзь і салдаты, прыехаўшыя з фронту, распытваюцца, дзе можна запісацца ў беларускае войска. Усе сярдуюць, што ў Мінску.

«Ад чужога чалавека дабра не будзе, — кажуць мікалаўцы і рыхтуюцца склікаць дамоў усіх асвечаных людзей, што выйшлі з Мікалаўшчыны.

Хваляцца і рады, што з іх сяла выйшаў такі чалавек, як Якуб Колас. Ахвотна чытаюць беларускую літаратуру, але скардзяцца, што з непрывычкі кепска разбіраюць свой друк. Настаўніка хваляць за тое, што вучыць дзяцей «нашаму друку».

*1918 г.*

## Яўген Хвалей

# ЯЗЭП ЛЁСІК

Пракурор беларускае мовы...

Міхайла Грамыка

«Пракурор беларускае мовы»
Стаў ахвярай тэрор-пракурораў...
«Маскалізмы — не нашыя словы...» —
А таму ты — найпершы вораг.

А таму ты — павечны выгнаннік,
Пасяленец расейскай зямлі,

Каб «нацдэмства» твайго паганага
Больш не чулі ні тут, ні ў Крамлі.

Каб забыў ты сястру і брата,
Жонку мілую, дзетак сваіх...
Вось чаму — у Саратаве краты...
Тваe думкі аб родным між іх...

«...Усплываюць маленства і Нёман...
Беларускай зямелькі сыну,
Беражанкі, аўсянкі і жоўны
Мне давалі там першы свой «сынтакс».

Там і маці, і бацька, і Ганка,
Богам дадзеная сястрыца,
Словам родным шчыруюць адранку —
Гамана, як вадзіца, бруіцца.

Мовы там мае ўсе акадэміі —
Ад травінкі і да калосся.
Там я з вамі, нібыта ў Эдэме,
Лукашы, Тамашы і Антосі.

Там душа мая незабудкай
Свеціць ноччу, світанкам і днём.
Парадніў мяне лёс з Альбуцкімі,
Асабліва з адным — Кастусём.

Мець такога пляменніка кожны
Захацеў бы на роднай зямлі,
Калі з зерня малога Колас
Нам асветліць Радзімы палі.

А яшчэ мне жыццё даравала
Жонку, доньку Ядвігіна Ш.
Ах, мая шматпакутніца Ванда, —
Нібы ў кнігаўкі-птушкі душа.

Меў сяброў самых лепшых на свеце:
Ігнатоўскі, Ластоўскі, Гарун...
Іх таксама не лашчыў вецер,
А страляў навальнічны пярун.

Лёс — майго прозвішча корань...
Веру, нелітасцівы мой лёсе,
Зорна ўзыдзеш,
Але не паўторышся
У нашчадках,
Над нёманскім плёсам...»

## Мікола Маляўка

### НЁМАН

Пад сасной-антэнай
Я на кручы стыну.
Чэша Нёман з пенай
Донных траў чупрыну.

Ой, не выльюць словы
Ўсю любоў, пяшчоту...
Што ж ты хмурыш бровы
Рыжага чароту?

На чаўне пагушкай,
Хваляў мовай шчырай
Раскажы, як птушкі
Адляталі ў вырай.

Я ж вярнуўся, бачыш,
Пакланіўся нізка,
Дзён маіх дзіцячых
Цёплая калыска.

Добра, вось і рады,
Добра, вось і ўспомніў,
Засвяціўся раптам
Зморшчынкамі промняў.

Лягу — будзеш ліцца,
Родны мой, пявучы,
Лягу — будуць сніцца
Залатыя кручы.

## ВЕЧНАЯ РАКА

Я ў гасцях зажурыўся... Прабілася песня
Пра цябе, дарагі, за бяседным сталом.
І здалося: махаеш ты хваляй-крылом,
Быццам птушка, якой у гняздзе сваім цесна.

На прасторах душы разліваешся ўдзень,
Закалыхваеш вечарам, раніцай будзіш.
Дзе твае берагі? Упадаеш мне ў грудзі?
Ці пачатак бярэш, выцякаеш з грудзей?

Я выток невялічкі — прыкрыеш рукой,
Я і вусце тваё на зямлі беларускай:
Ты з грудзей выцякаеш крынічкаю вузкай,
А ўпадаеш мне ў грудзі — шырокай ракой.

Адкувае ў лясах тваіх светлых зязюля.
Закалышаш мяне... Аб адным я прашу:
Пераліся да кроплі ў жывую душу
Сінявокай дзяўчынкі па імені Юля.

## БАЦЬКА МОЙ НЁМАН

Славіў я ў гасцях і дома
Берагі твае, лугі:
*«О Нёман, о бацька мой, Нёман,*
*Як сонца, як дзень дарагі!..»*
А сягоння — безгалосы,
Смутак горкі не ачах —
Першы раз ты бачыш слёзы,
Нёман, у маіх вачах.
Светлым днём і ноччу цёмнай
Цяжка нам цяпер дваім:
Пахаваў я бацьку, Нёман,
Тут, на беразе тваім.
Знаю, ты таксама плакаў,
Не было бліжэй сяброў:
Разам вы лавілі ракаў,
Разам пасвілі кароў.

Падавалі пры сустрэчы
Ён — руку, а хвалю — ты.
Разам бралі прыс на плечы,
Разам гналі ў свет плыты.
Памагаў ты бацьку шчыра,
Спагадаў, як чалавек,
Вечны сам, не знаў, магчыма,
Што ў яго кароткі век.
Я твой хроснік, кажа маці,
Разам нам цяпер ісці.
Ты вучыў мяне трымацца
На вадзе і — у жыцці.
Слаўлю я ў гасцях і дома
Берагі твае, лугі:
*«О Нёман, о бацька мой, Нёман,*
*Як сонца, як дзень дарагі!..»*
Не падымуць, можа, лекі —
Тут, сярод бяроз і хвой,
Ты закрый і мне павекі,
Нёман — бацька хросны мой.

## ЦЁПЛАЕ ДЫХАННЕ

Нёман родны, Нёман мілы,
Даражэй ты з кожным годам —
І ў паводку, поўны сілы,
І зімою, скуты лёдам.

Пратаптаў я ў снезе сцежку.
І пад лёдам, як у спёку,
Бачу сонечную ўсмешку
У вачах тваіх глыбокіх.

Дарагі мой, прывітанне,
І ў мароз я, госць сталічны,
Чую цёплае дыханне,
Чую голас твой крынічны.

За зімы халоднай шыбай
Цешаць летнія ўспаміны:

Ты мяне частуеш рыбай,
Запрашаеш у ажыны.

То плывеш лагодна-ціхі,
То ўздымаеш хвалі строма.
Я шчаслівы, што з дзяцінства
Ёсць радня такая дома.

З берагоў ты, як вясною,
Заўтра выйдзеш, поўны сілы,
Паплывеш услед за мною,
Нёман родны, Нёман мілы.

Ты ў жыцці маім — апора,
Не разлучыць нас і далеч,
Бо ўпадаеш ты не ў мора,
А ў душу маю ўпадаеш.

## НАСТАЛЬГІЯ

Здалёк усміхніся вачыма,
Пакліч у дзяцінства здалёк,
Мой Нёман —
Малая радзіма,
Вялікай любові выток.
Усё, што далося нялёгка,
Аддам я, вандроўнік-хадок,
За белы вішнёвы пялёстак,
За жоўты кляновы лісток.
Я зноў вярнуся
На сваю зямлю,
Замру над нёманскаю кручай —
І настальгіі смагу наталю
Любоўю —
Сілаю гаючай.
Жалобны вянок распляцецца —
І кветкамі стане вянок,
А сэрца шчасліва заб'ецца
Ад слова жывога: «Сынок!..»
Спачатку пачнецца дарога

Ад мілых бароў і заток,
Не хопіць ёй шара зямнога —
Пяройдзе ў касмічны віток.
Я зноў вярнуся
На сваю зямлю,
Замру над нёманскаю кручай —
І настальгіі смагу наталю
Любоўю —
Сілаю гаючай.

## Аўген Хваля-Занёманскі

## НЁМАН

Рака мая,
Праз дні мае віротныя
Бяжыш —
Твой разумею спех...
Ды недзе там,
За выдмай, паваротам,
Прыпыніш, як і я,
На хвілю бег.

Нам ёсць над чым падумаць...
Бо стагоддзі
Плылі табой, нібы варагі ў грэкі...
Легенды, былі у маім народзе
Жывуць часцей, там,
Дзе крынічаць рэкі...

Ты рушыш зноў за далягляднымі часам,
Аддаўшы плынь гарэзу-быстраку.
І доўга буду я
З маімі днямі разам
Рукой махаць,
Праводзячы раку...

## СПЯКОТНАЕ ЛЕТА-99

Трава — як выгараны чуб
У хлапчука малога.
Па плаўнікі вады ляшчу
Ля берага крутога.
Дубы свае лісты
У кулачкі згарнулі.
Крушынніку кусты —
Сагнутыя бабулі.
Засмяг і сам чарот —
Па костачкі вадзіцы.
Змялчэў саміны норт —
Самам тут не сядзіцца...
На дыбачках аер
Ступае каля плёсу.
І лёс алешынаў і верб —
Ад матчынага лёсу...
Спыняе бег круты быстрак
На бродзе, небарача,
Як дзіцянё, і сяк, і так
Бездапаможна скача...
Зіхціць, свідруе і пячэ,
Нібыта лупа, сонца.
Здаецца, міг адзін яшчэ —
І Нёман высахне да донца...

## ЗАЦЬМЕННЕ СОНЦА НА НЁМАНЕ

*(11 жніўня)*

З нуля да двух адзінак
Схуднела сонца ў небе.
Яно — як напамінак,
Яно — як бохан хлеба,
Які мы можам зрэзаць
Да самага акрайца...

Між соснаў і бярэзін
Хто сонца мог так скрасці?

Дзіўлюся і палохае
Зацьмення сонца тайна —
А што з намі на зломе
Вякоў сустрэчных стане?
Бо кажуць жа ў народзе,
Што так было заўсёды:
Зацьменне у прыродзе —
А яснасць у народа...

І веру я ў далёкую
Планіду чалавечую.
Мне Нёман — за прарока,
А Нёмну бегчы вечна...

## ПРЫСТАНЬ ВІЦІНАЎ ЛЯ СТОЎБЦАЎ

*Абразок XIX ст.*

У 1848 годзе на стаўбцоўскай прыстані сабрана і выслана за мяжу прадуктаў вартасцю ў 273 969 рублёў срэбрам.

*У. Сыракомля. «Вандроўкі па маіх былых ваколіцах»*

Над суднамі тут — палатняныя крылы.
Заморскія купіш тут мыла ды вілы.
Тут гонкія мачты, што бачылі моры,
Сягаюць пад зоры.

*Я. Кляновіч. «Плытагон»*

На мутным Нёмане стаяць віціны...
Снуе рабочы люд, снуюць вяльможы.
З Наваградка, з-пад Слуцка селяніна
Вядуць сюды пянька, алей, рагожа...

Купецкіх свірнаў шэрагі на беразе,
Нібыта валуны ад ледніка.
— Куды дабро пакуецца?

Для Берасця
Ці для Гародні? —
Адкажы, рака.

— Для Круляўца...
Там, дзе жывуць прусіны...

Шлях дасць чужы гандляр дабру —
І паплывуць прыгонныя віціны,
Узняўшы крылы-ветразі ўгару.

Скажы, жыццё,
Ці ёсць тут справядлівасць —
Каноплі, збажыну, пяньку, мёд, лён,
Зямелькі роднай васільковай плён,
Мяняць на нейкі селядзец ці мыла?

— Адумайся, мой брат! —
Чуваць прарочы голас...
Ды не!
Вяслуе беларус штодня.
З-пад Круляўца
Ён вернецца паўголым,
Каб зноў туды
З яго дабром
Накіраваў чужы гандляр.

## Сяргей Галоўка

# «ПАНЯМОНЬ — МЯСТЭЧКА ВЕЛЬМІ ВЫДАТНАЕ»

### Новы Свержань у жыцці і творчасці Якуба Коласа

Тое, што кожнае паселішча, як і чалавек, мае свой твар, сваю адметнасць і гісторыю — агульнавядома. І наднёманскае мястэчка Новы Свержань таму не выклю-

чэнне. Больш таго, на тэрыторыі сягонняшняй Стаўпеччыны, у тэрытарыяльна-адміністрацыйны склад якой яно ўваходзіць, гэта паселішча, напэўна, мае найбагацейшую і найцікавейшую гістарычную спадчыну.

Ужо ў часы каменнага веку на тэрыторыі цяперашняга Новага Свержаня існавалі стаянкі старажытных людзей. У X—XI стагоддзях у гэтым месцы абасноўваюць сабе жытло прадстаўнікі плямён усходніх славян. Першыя ж пісьмовыя звесткі пра Новы Свержань, як сцвярджае гісторык і археолаг Валерый Шаблюк, адносяцца да 1568 года. Менавіта ў той час паселішча ўжо мела статус мястэчка і знаходзілася ва ўладанні аж трох яго гаспадароў — Андрэя Ужэлеўскага, Мікалая Служкі і Астафея Валовіча. Па сутнасці, як піша В. Шаблюк, менавіта ў тую пару Новы Свержань толькі і пачаў сфарміроўвацца. Аднак у ім ужо тады дзейнічала заснаваная Валовічамі царква, быў млын. Каля паселішча знаходзіўся перавоз праз Нёман, а на правым беразе гэтай ракі, насупраць мястэчка, размяшчаўся замак. У 1570 годзе ў Новым Свержані было толькі 14 двароў. Праз год палову паселішча і замак набыў ва Ужэлеўскіх Мікалай Крыштоф Радзівіл шляхам абмену і з даплатай 4 тысяч коп літоўскіх грошай. У 1578 годзе сваю частку мястэчка прадаў Радзівілам і Астафей Валовіч. А з 1582 года Новы Свержань цалкам становіцца радзівілаўскім — у выніку абмену да нясвіжскага князя адышла і тая тэрыторыя паселішча, што належала Служкам. У 1588 годзе Радзівілы ў Новым Свержані заснавалі Петрапаўлаўскі касцёл, а праз чатыры гады — уніяцкую царкву. Згодна з архіўнымі дадзенымі, у сярэдзіне XVII стагоддзя мястэчка Новы Свержань складалася з рынку і пяці вуліц — Мірскай, Слуцкай, Замкавай, Кажамяцкай і Закасцельнай. Падчас шматлікіх войнаў, якія праносіліся па беларускай зямлі, паселішча неаднойчы руйнавалася. Гэтак было ў вайну з Маскоўскай дзяржавай, пазней, у 1706 годзе, яго спалілі шведы, а ў 1812-м Новы Свержань моцна пацярпеў ад таго, што ў ім самім і ягоным наваколлі адбылася даволі жорсткая бітва паміж расійскімі і французскімі войскамі, у гонар 100-годдзя гэтай падзеі тут быў пастаўлены помнік загінуўшым рускім воінам, але ён, на жаль, да сённяшняга дня

«не дажыў», быў зруйнаваны пасля Вялікай Айчыннай вайны.

Значная частка гісторыі Новага Свержаня звязана з радзівілаўскай фарфоравай мануфактурай. Яе заснаваў Міхаіл Казімір Радзівіл у 1742 годзе. Праіснавала мануфактура больш як дваццаць гадоў. Вырабы навасвержаньскай «фарфорні» ўпрыгожвалі не толькі залы Нясвіжскага замка, але і палацы шмат якіх магнацкіх родаў Заходняй Еўропы. Наогул жа, мець іх ва ўласнай калекцыі лічылася ў тагачасных арыстакратаў вялікім гонарам і пацвярджэннем іх велічы і багацця.

У канцы XVIII і асабліва ў першай палове XIX стагоддзяў за Новым Сверканем замацавалася слава суднаходнага мястэчка. Бо менавіта ад яго пачынаўся ў тыя часы даволі зручны гандлёвы шлях на Нёмане, які злучаў заходнія і цэнтральныя часткі Расіі з Еўропай. З гэтай нагоды ў Новым Свержані былі пабудаваны спецыяльныя будынкі — спіхлеры. У іх захоўваліся розныя грузы і тавары, што завозілі сюды купцы зімой і летам. Вясною ці нават дажджлівай восенню ўсё гэта адпраўлялася на спецыяльных рачных пласкадонных караблях — віцінах — уніз па цячэнні Нёмана. Аднак з пачаткам будаўніцтва побліз паселішча чыгункі, што ў пачатку апошняй чвэрці XIX стагоддзя пралегла праз суседнія Стоўбцы, абышоўшы Новы Свержань з заходняга боку, партовая значнасць Новага Свержаня паступова пачала страчваць сваю славу.

Аднак акрамя сваёй багатай гістарычнай мінуўшчыны Новы Свержань мае яшчэ і шмат літаратурных стасункаў. Скажам, у розныя гады мінулага стагоддзя мястэчка наведвалі і пакінулі пра яго памяць у сваіх творах рускі пісьменнік Дзяніс Фанвізін, этнограф і краязнаўца Павел Шпілеўскі, беларускія і польскія пісьменнікі Уладзіслаў Сыракомля, Адам Плуг, Вінцэсь Каратынскі і паэт Янка Лучына. Гады вучобы ў Навасвержаньскім вышэйшым пачатковым вучылішчы (пазней — гімназіі) ужо ў нашым стагоддзі звязваюць з гэтым паселішчам і пісьменніка Алеся Пальчэўскага. З Новым Свержанем «пародніліся» і паэт-святар Андрэй Зязюля, які ў 1912 годзе служыў ксяндзом тамтэйшага Петрапаўлаўскага касцёла, і вядомы беларускі паэт са-

вецкай пары Аляксей Пысін, якому на пачатку 50-х гадоў давялося таксама пэўны час пажыць у гэтым мястэчку — ён працаваў рэдактарам газеты палітаддзела навасвержаньскай машынна-трактарнай станцыі «Уперад да камунізму». Да ўсяго ж Новы Свержань — радзіма беларускага крытыка і літаратуразнаўцы Аляксея Пяткевіча.

І ўсё ж у гэтым, далёка не поўным, пераліку літаратурных адметнасцяў Новага Свержаня асаблівае месца належыць менавіта слыннаму ўраджэнцу стаўпецкай зямлі народнаму паэту Беларусі Якубу Коласу.

У гады маленства назву гэтага наднёманскага мястэчка неаднойчы чуў будучы паэт: Новы Свержань быў недалёкім паселішчам і ад чарговага жыццёвага прытулку сям'і радзівілаўскага лесніка Міхала Міцкевіча — Альбуці. Таму зусім заканамерна, што Міцкевічы, жывучы ў альбуцкім лясным прыволлі, менавіта з Новым Свержанем найбольш актыўна падтрымлівалі свае гаспадарчыя стасункі. Асабліва часта наведваўся туды па самых розных справах і патрэбах дзядзька Антось.

Кожная дзядзькава вандроўка ў Новы Свержань была для дзяцей вялікай падзеяй. Ведаючы, што ён вернецца з мястэчка не з пустымі рукамі, а абавязкова з гасцінцам, малыя Міцкевічы чакалі свайго дзядзьку з вялікай нецярплівасцю:

І дзядзька майстар быў на штукі,
І быў механік на ўсе рукі:
І дудку скруціць вам, і стрэлку,
І нарысуе нават елку, —
Такую выштукуе цацку,
А ў Свержань пойдзе — купіць пляцку...
Дык і не дзіва, што любілі (дзеці. — С. Г.),
Што на руках яго насілі.

Калі Костусь Міцкевіч падрос, то ён і на свае вочы пабачыў мястэчка: неаднойчы наведваў Новы Свержань разам з дзядзькам Антосем. Гэты факт пацвярджаецца ў Коласавай трылогіі «На ростанях», што, як вядома, у многім мае аўтабіяграфічны характар.

Праз Новы Свержань ляжаў шлях Канстанціна Міцкевіча і ў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю. Бо мястэчка ляжыць у прыгожым месцы над Нёманам, на шырокім гасцінцы, што ідзе з Нясвіжа на Мінск. Таму зусім заканамерна, што Колас-семінарыст неаднойчы запыняўся тут, едучы на вучобу і па дарозе да бацькоў на вакацыі. Па сутнасці Новы Свержань у жыцці маленькага альбуцкага хлопчыка, а затым і юнака Костуся Міцкевіча быў першым буйным паселішчам, ад якога ў яго і пачалося пазнанне адначасова і жыццёвага хараства, і жыццёвых складанасцей, і людскіх узаемаадносін. Таму і нездарма Якуб Колас пазней вуснамі галоўнага героя трылогіі «На ростанях» зазначаў: «Адным словам, мястэчка вельмі выдатнае, і калі, бывала, уваходзіш у яго, дык несвядома пачынаеш прасякацца вялікаю павагаю і пашанаю».

У жніўні 1912 года Якуб Колас, падчас свайго першага знаёмства і сустрэчы з Янкам Купалам у Смольні, наведаў разам з госцем і Новы Свержань, дзе паэты сустрэліся з Коласавымі сябрамі. А іх тут у Канстанціна Міхайлавіча было багата. Прынамсі, у той дзень будучыя класікі беларускай літаратуры пабывалі ў навасвержаньскага ксяндза Аляксандра Астрамовіча, вядомага ў пазнейшы час паэта-святара Андрэя Зязюлі. Знаёмствы і сустрэчы ў Новым Свержані пакінулі даволі значны след у далейшых сяброўскіх і творчых стасунках паміж паэтамі. «Из Сверженя я проводил Купалу до станции Столбцы. Расстались мы с ним искренними друзьями, и эта наша дружба сохранилась на всю жизнь», — пісаў пазней Якуб Колас у сваім артыкуле «Памятные встречи».

Чарговае наведванне Якубам Коласам Новага Свержаня, якое адбылося ў чэрвені 1935 года, было, можна сказаць, завочным. Паэт у складзе дэлегацыі савецкіх пісьменнікаў накіроўваўся ў Парыж на Сусветны кангрэс абароны культуры. Ягоны шлях пралёг праз родныя мясціны, якія ў той час уваходзілі ў склад Польшчы.

Быў Якуб Колас у Новым Свержані і ў кастрычніку 1939 года, калі ён, зноў жа з Янкам Купалам, на чале брыгады беларускіх пісьменнікаў пабываў тут праездам

па дарозе ў Беласток. Менавіта ў гэтым горадзе вядомыя творцы беларускага мастацкага слова павінны былі прымаць удзел у творчых вечарах з мясцовым насельніцтвам, спрыяць падрыхтоўцы да выбараў у народны сход толькі што далучаных да СССР зямель Заходняй Беларусі.

У Новы Свержань Якуб Колас завітаў і на пачатку сакавіка 1940 года. На гэты раз ён тут запыніўся даўжэй, бо ў клубе мясцовага лесазавода ладзілася з ім сустрэча выбаршчыкаў, якім, відаць, было цікава пабачыць Коласа не столькі як кандыдата ў дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР па навасвержаньскай выбарчай акрузе, колькі як вядомага ў свеце паэта, ураджэнца гэтых мясцін.

Ну, а пра тое, што Якуб Колас добра ведаў Новы Свержань, яго гісторыю і традыцыі, сама за сябе гаворыць ягоная творчасць. Згадку пра «мястэчка вельмі выдатнае» мы знаходзім у шмат якіх творах паэта. Некалькі разоў яго назва сустракаецца ў паэме «Новая зямля». Але найбольш Новы Свержань абавязаны — і мы ў гэтым маглі ўжо пераканацца вышэй — Коласавай аўтабіяграфічнай трылогіі «На ростанях».

Чытаючы раздзелы гэтага твора, яшчэ раз пераконваешся, наколькі дакладна змог перадаць Якуб Колас не толькі аблічча гэтага паселішча, але і светапогляд, духоўны стан многіх яго жыхароў, з якімі быў ён асабіста знаёмы і якіх паказаў на старонках трылогіі пад змененымі імёнамі і прозвішчамі.

Знаходзім мы ў творы і дакладнае апісанне шмат якіх гістарычных і геаграфічных аб'ектаў паселішча. Напрыклад, магчыма, ужо мала хто з сягонняшніх навасвержаньцаў ужывае тэрмін «Трайчаны». У трылогіі ж мы яго сустракаем і даведваемся, што гэта назва той часткі мястэчка, дзе разыходзяцца тры вуліцы-дарогі: першая — прама, на Стоўбцы, другая, па цэнтры Новага Свержаня, — на Нясвіж і трэцяя, якая і сёння носіць назву Мірскай, — на Мір. Даведваемся мы таксама і пра тое, што ў гэтым месцы знаходзіўся дом Васіля Трайчанскага. Гэта пабудова, між іншым, захавалася і цяпер, праўда, у крыху змененым выглядзе. Параўноўваючы прозвішча навасвержаньскага настаўніка з назвай

той часткі мястэчка, дзе ён жыў, лёгка здагадацца, што прозвішча Трайчанскі — выдуманае. На самай жа справе правобразам Васіля Трайчанскага ў трылогіі «На ростанях» быў мясцовы настаўнік Васіль Антонавіч Шчорс, з якім Якуб Колас сябраваў, прычым як у маладыя, так ужо і ў больш сталыя гады.

З іншых, уведзеных Якубам Коласам у трылогію геаграфічных назваў Новага Сверджаня, варта адзначыць Вапельную, альбо Драздову гару — узвышша, якое размешчана на ўскрайку паселішча. З даўніх часоў тут дабывалі вапну і жвір. Адсюль і — Вапельная гара. Другая ж назва гэтага ўзвышша, якую і сёння яшчэ можна пачуць у Новым Сверджані, — Драздова гара, сваім паходжаннем абавязана мясцоваму жыхару па прозвішчы Драздоўскі, які за польскім часам арандаваў і распрацоўваў радовішчы вапны. Сёння пераважная большасць навасверджанцаў заве гэтае месца Мірская гара.

Якуб Колас у сваёй трылогіі «На ростанях» вымаляваў прывабнасць і шмат якіх іншых навасверджанскіх ваколіц. У творы мы знаходзім апісанне старога рэчышча Нёмана па дарозе з Акінчыц у Новы Свержань пад назвай Нямнішча. Невялікае пасяленне шляхціцаў Сянькевічаў паміж Новым Сверджанем і Нейгертавым (цяперашняй Кнотаўшчынай) падаецца Якубам Коласам пад назвай Фальварак (сёння Караліна — С. Г.). Местачковая кузня, якая згарэла ў апошнюю вайну і не аднавілася, як помніце, называлася ў Новым Сверджані Хаімавай, дзе заўсёды гуляла местачковая інтэлігенцыя, дзе часта граў духавы аркестр. Няма цяпер у той мясціне ні возера, не чуваць і аркестровых там мелодый. Наогул жа, усё, што захавалася ад той, усё ж, напэўна, вабнай мясціны, гэта — местачковы млын на невялічкай рачулцы, мураваныя сцены якога не адолеў час. Праўда, млын гэты недагледжаны, чакае гаспадарлівыя рукі.

Увогуле ж, зыходзячы з усяго намі вышэйсказанага, варта зазначыць, што мястэчка Новы Свержань трывала ўвайшло ў жыццё і творчасць народнага паэта Беларусі Якуба Коласа. Як мы мелі магчымасць перака-

нацца, гэтаму паселішчу ён абавязаны многім, і магчыма, не ў меншай ступені, чым блізкай да яго родных мясцін Мікалаеўшчыне.

## ЯК НАЗЫВАЦЬ ВАС, СТОЎБЦЫ?

Пра тое, адкуль Стоўбцы займелі сваю назву, ламала галаву не адно пакаленне даследчыкаў гісторыі Наднёманскага краю. Аднак да адзінай якой-небудзь канкрэтнай высновы яны так і не прыйшлі. Адпаведна, і маем мы сёння ажно некалькі гіпотэз наконт наймення гэтага паселішча. Прычым далёка не бясспрэчных.

Вядома, што ўсе дарогі абавязкова вядуць у Рым. Напэўна, гэта так і на самай справе. Аднак Рым Рымам, а і на нашай зямлі ёсць мясціны, куды абавязкова, хоць аднойчы ў жыцці, павінна пралегчы дарога сведамага беларуса. Налічыць іх на абсягах беларускай дзяржавы можна даволі шмат. І абавязкова ў гэтым спісе мусіць быць Стаўпеччына. Трэба на свае вочы пабачыць, які гэта цудоўны край! А трапіўшы сюды аднойчы, захочаш пасля наведацца ў тамтэйшыя мясціны зноў і зноў, бо яны прыварожваюць, зачароўваюць сваёй непаўторнасцю і хараством.

Неадрыўны ад славутасцей Наднёманскага краю і ягоны цэнтр, калі можна так сказаць, галоўнае пасяленне — горад Стоўбцы. Прайшоўшыся па стаўпецкіх вуліцах, абавязкова сутыкнешся з учарашнім і сягонняшнім днём гэтага паселішча: някідкая забудова, пераважна драўляных сядзібаў гараджан, вельмі цесна суседнічае з сучаснымі шматпавярхоўікамі новага гарадскога мікрараёна і вытворчымі збудаваннямі прамысловай зоны, дзе асноўнымі верхаводамі з'яўляюцца філіял Мінскага маторнага завода і рэспубліканская фірма «Аграмашзапчастка». Адзнакай сучаснасці ў Стоўбцах сталі і тры сярэднія гарадскія школы, сем дзіцячых садкоў, спартыўная школа з даволі неблагім стадыёнам (яго амаль штогод ранняй вясной аблюбоўваюць для гульняў футбольнага чэмпіянату краіны некаторыя мінскія каманды, у тым ліку і славутае «Дынама»), школа мастацтваў, выхаванцы якой прымаюць самы чынны ўдзел у рэспубліканскім фестывалі юных

музыкантаў «Сымон-музыка», які, пачынаючы з 1991 года, штогод праводзіцца тут жа — на стаўпецкай зямлі...

Размешчаны на беразе Нёмана, гэты гарадок сёння мае багатую гісторыка-культурную спадчыну, у тым ліку і літаратурную, з-за чаго набыў цяпер шырокую вядомасць. А між тым у даўнія часы Стоўбцы былі невялікім паселішчам. Прычым нават другарадным, бо куды большую грамадскую значнасць і вагу на працягу стагоддзяў мела ў Наднёманскім краі суседняе мястэчка Свержань (цяперашняя вёска Новы Свержань). Аднак, нягледзячы на гэту акалічнасць, гарадок жыў сваім жыццём. І, па ўсім відаць, справы тут ішлі няблага. Так, у 1632 годзе ўладальнік Стоўбцаў Аляксандр Служка заснаваў тут касцёл святога Казіміра. Гэты будынак стаў асноўнай прыкметай паселішча і ўслаўляў яго далёка за межамі Вялікага княства Літоўскага. Праз некаторы час у Стоўбцах была пабудавана і уніяцкая царква. Яна, праўда, цяпер ужо як праваслаўная святыня, у адрозненне ад касцёла, радуе вока падарожнікаў ды вернікаў арыгінальнасцю сваіх архітэктурных формаў і сёння.

Сцены адзінага ацалелага ў віхуры атэістычнага вандалізму хрысціянскага храма могуць нам расказаць пра шмат якія вехі гістарычнага мінулага Стоўбцаў. Памятаюць яны і пра навалу французаў у 1812 годзе, якія амаль дашчэнту зруйнавалі паселішча, памятаюць і аднаўленне, і росквіт Стоўбцаў у другой чвэрці XIX стагоддзя як буйнога гандлёва-партовага мястэчка: у стаўпецкім наваколлі будаваліся рачныя караблі — віціны, якія затым, узваліўшы на сябе на мясцовай прыстані ўвесь цяжар гандлёвага грузу купцоў з многіх расійскіх, украінскіх і ўсіх беларускіх губерняў царскай імперыі, дастаўлялі яго па Нёмане ў далёкі Крулявец — цяперашні прыбалтыйскі Калінінград. Менавіта з таго часу Стоўбцы і сталі абганяць у сваім развіцці Новы Свержань і нават становяцца цэнтрам воласці. Напэўна, з-за гэтай апошняй акалічнасці пазней і была аддадзена ім перавага ў размяшчэнні станцыі падчас будаўніцтва ў наднёманскім наваколлі Брэст-Літоўскай чыгункі. Дарэчы, чыгунка, якая прайшла праз Стоўбцы,

адыграла ў іх гісторыі і яшчэ значную ролю: зрабіла гэты горад... прыгранічным буйным чыгуначным вузлом. Як вядома, у 20—30 гады і да 17 верасня 1939 г. непадалёк ад гэтых мясцін праходзіла польска-савецкая дзяржаўная мяжа. Таму горад быў сведкам многіх падзей з гісторыі адносін дзвюх суседніх краін. У тым ліку і тых, якія маюць самае непасрэднае дачыненне да тэмы нашай гаворкі, — літаратурных.

Менавіта прымежная прыпіска Стоўбцаў абумовіла іх (а больш дакладней — тамтэйшай мытні, якая дзейнічала ў 1921—1940 гадах) наведванне даволі вялікай кагорты знакамітых у літаратурным свеце людзей. Так, тут запыняліся Аляксей Талстой, Аляксандр Фадзееў, Усевалад Вішнеўскі, Рамэн Ралан, Анры Барбюс, Юліус Фучык, Марыя Пуйманава, Уладзімір Маякоўскі... Дарэчы, апошні ажно некалькі разоў праязджаў праз Стоўбцы. І, паводле некаторых звестак, менавіта здарэнне на стаўпецкай мытні падштурхнула яго да напісання ў свой час шырокавядомага «Верша аб савецкім пашпарце». Рускі паэт у 1929 годзе падчас сваёй чарговай вандроўкі за мяжу праходзіў у Стоўбцах мытны агляд, і гэта працэдура яго вельмі абурыла, што нібыта і легла ў аснову вышэйзгаданага твора.

Згадку пра Стоўбцы — невялікі гарадок на Нёмане — знаходзім мы і ў кнізе дарожных нататак англійскай пісьменніцы Сесіль Чэстэртан, якая была выдадзена ў 1931 годзе адначасова ў Лондане, Бамбеі і Сіднеі пад назвай «Мае рускія прыгоды». Сесіль Чэстэртан першая з прадстаўнікоў англійскай літаратуры пабывала ў Савецкай Беларусі. Нязвыклы для заходняга чалавека лад жыцця савецкага беларуса пачатку 30-х гадоў знайшоў сваё адлюстраванне ў памянёных нататках, як, зрэшты, і апошні перад мяжой у так званы «савецкі рай» гарадок, праз які трапіла туды госця з Англіі.

16 чэрвеня 1935 года праз свае родныя мясціны праязджаў чыгункай і Якуб Колас, калі накіроўваўся ў складзе дэлегацыі грамадскіх дзеячаў СССР у Парыж на Міжнародны кангрэс абароны культуры і міру. Праўда, гэта сустрэча песняра з любымі сэрцу краявідамі была нядоўгай, — як і ўсе, ён праходзіў мытны агляд. Безумоўна, гэта паўплывала на настрой земляка гэтых мяс-

цін і паэта, спрычаснілася да напісання ім новых твораў пра хараство і непаўторнасць роднай старонкі.

Дарэчы, Стоўбцы ў жыцці Якуба Коласа займаюць даволі значнае месца. Ужо ў першыя дні свайго жыцця будучы народны пісьменнік меў пэўнае дачыненне да гэтага паселішча. Пазней так ці інакш праз Стоўбцы праходзілі жыццёвыя сцяжыны класіка нашай літаратуры, калі ён выпраўляўся на працу на Палессе, у Вільню. Менавіта на стаўпецкую чыгуначную станцыю прывёў ён летам 1912 года свайго сябра Янку Купалу пасля памятнай сустрэчы ў Смольні і пасадзіў яго на цягнік у накірунку да Вільні.

Шмат што з убачанага Якубам Коласам раней і ў той дзень як на самой станцыі, так і па дарозе да яе, было па-мастакоўску ўвасоблена ім затым у трылогіі «На ростанях», неўміручай «Новай зямлі» і некаторых іншых творах. Асабліва дакладнае паэтычнае апісанне Стоўбцаў знаходзім мы ў «новазямельскім» раздзеле «Па дарозе ў Вільню»:

Вось скончан лес, і Стоўбцы блізка.
Туман на возера лёг нізка,
Вада шумела каля млына.
Свістала голасна машына,
А там, за возерам, як струнка,
Пралегла роўненька чыгунка.
Вось пераезд, даўно знаёмы;
Правей вакзальныя харомы.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ўсё там кіпіць, бы ў час разрухі.
Снуюць служачыя, як мухі.
Гудуць, шумяць, бы ў вуллі пчолы.
І ходзяць шумна балаголы,
Каменяцёсы з малатамі,
У ліхтарах агні трапечуць!
А гандляры крычаць, шчабечуць
І б'юць у грудзі кулакамі...

Неаднойчы Стоўбцы згадваюцца Коласам і ў трылогіі «На ростанях», дзе яны, дарэчы, выведзены пад назвай Стаўбуны. Зрэшты, калі браць па вялікім рахунку, то сённяшнія Стоўбцы фактычна і ёсць радзіма Пес-

няра: колішні засценак Акінчыцы, дзе нарадзіўся Кастусь Міцкевіч, рашэннем мясцовых уладаў на пачатку 80-х гадоў быў уключаны ў рысу горада і адначасова стаў яго мікрараёнам. Аднак пра Коласавы Акінчыцы гаворка будзе ніжэй. Цяпер жа на заканчэнне, так бы мовіць, чыгуначнай тэмы, адзначым, што апісанне стаўпецкай станцыі знаходзім у аповесці Францішка Аляхновіча «У кіпцюрах ГПУ», а пасляваеннай пары — у рамане Генрыха Далідовіча «Заходнікі». Можна, праўда, пашукаць і яшчэ тых ці іншых тутэйшых альбо нетутэйшых творцаў, якія так ці інакш апісвалі Стоўбцы ў сваіх творах. Але галоўнае іншае: Стоўбцы здаўна засведчаныя і ў літаратуры. Як у паэзіі, так і ў прозе.

Што ж тычыцца ўласна горада Стоўбцы, то яго літаратурныя набыткі куды бяднейшыя, чым скажам, Стаўпеччыны, але і іх патрэбна адзначыць.

На працягу года, у 1911—1912 гг., у Стоўбцах, у мясцовым чатырохкласным гарадскім вучылішчы навучаўся будучы народны пісьменнік Беларусі Кандрат Крапіва (Атраховіч). Якія-небудзь падрабязныя звесткі ці ўспаміны пра гэты горад у жыцці Кандрата Кандратавіча адсутнічаюць, але сам па сабе гэты факт заслугоўвае памяці і ўвагі.

У 20-х гадах нашага стагоддзя Стоўбцы абраў на некаторы час сваім жыццёвым прытулкам беларускі грамадска-палітычны дзеяч Фабіян Акінчыц.

Пэўны час у Стоўбцах жыў і працаваў выкладчыкам латыні ў мясцовай польскай гімназіі (існавала за заходнебеларускім часам) Мікалай Анцукевіч. Гады жыцця ў наднёманскім гарадку не пазначыліся ў творчай біяграфіі гэтага чалавека якой-небудзь значнай падзеяй. Аднак у беларускую літаратуразнаўчую навуку ён увайшоў як адзін з даследчыкаў «Слова аб палку Ігаравым». Ён, у прыватнасці, прапанаваў сваё тлумачэнне асобных «цёмных» месцаў «Слова...» метадам супастаўлення з беларускімі гаворкамі. Яму ж належыць і адзін са шматлікіх перакладаў гэтага геніяльнага літаратурнага помніка на рускую мову.

Вядомы (найперш у беларускім эмігранцкім свеце) каталіцкі святар, рэлігійны і грамадскі дзеяч, даследчык рэлігіі і царквы на Беларусі, літаратар Леў Гарош-

ка сустрэў у Стоўбцах верасень 1939 года ў сане святара мясцовага касцёла. Ён быў ці не апошнім пробашчам гэтай (як памятаем, збудаванай аж у 1632 годзе і зруйнаванай бальшавікамі ў канцы 40-х пачатку 50-х) святыні. З'ехаўшы разам з адступаючымі немцамі на Захад, Леў Гарошка ў эміграцыі прадаўжаў сваю рэлігійную дзейнасць у многіх месцах свету.

У даваенны час у Стоўбцах прайшлі і некалькі гадоў маленства паэта Генадзя Кляўко.

Цесныя стасункі са Стоўбцамі меў у свой час і Уладзіслаў Сыракомля, — беларускі і польскі паэт сярэдзіны XIX стагоддзя. Гэты гарадок ён апісаў у шэрагу сваіх твораў, у тым ліку і ў актуальным для сённяшніх гісторыкаў з-за сваёй дакладнай апісальнасці краязнаўчым нарысе «Вандроўкі па маіх былых ваколіцах». Паэт неаднойчы наведваў Стоўбцы па самых розных сваіх гаспадарчых і творчых патрэбах, бо жыў ад іх недалёка, у наднёманскім фальварку Залуча. Зрэшты, дзесьці менавіта на стаўпецкіх каталіцкіх могілках спачываюць дзве яго малалетнія дачкі, раптоўна памерлыя ў адзін дзень ад якойсьці немачы, што вымусіла бацьку назаўсёды пакінуць любую яго сэрцу Стаўпеччыну.

На пачатку мінулага стагоддзя праездам наведаў Стоўбцы і рускі пісьменнік Дзяніс Фанвізін. Ён пазнаёміўся з мясцовымі славутасцямі, напэўна ж, захапляўся непаўторнасцю архітэктурных формаў стаўпецкіх царквы і касцёла, аднак гэта яму нікольki не замінала пасля ў сваіх дарожных нататках негатыўна паставіцца да тутэйшых вернікаў-каталікоў і іх святыні, якая, дарэчы, захоўвала да самага свайго знішчэння мошчы прападобнага айца Фабіяна Малішоўскага. Гэты святар-дамініканец быў надзвычай вядомы ў сярэдневяковым каталіцкім свеце. Вядомасць яго вызначалася тым, што ён сваімі малітвамі мог дапамагчы вярнуць здароўе нават невылечна хвораму. Апошнія гады свайго жыцця Фабіян Малішоўскі правёў у Стоўбцах, дзе і памёр. Пасля смерці ягонае цела было бальзаміравана і ў спецыяльнай дамавіне выстаўлена ў адной з каплічак, што знаходзіліся ў сутарэннях стаўпецкага касцёла. Вернікі з самых розных мясцовасцей не толькі Беларусі, Польшчы, Расіі, але і Еўропы сыходзіліся сюды ў надзеі

атрымаць паратунак ад сваіх хвароб. Вось менавіта карціну масавага пакланення «Святому Фабіяну» і застаў у час сваёй вандроўкі ў Стоўбцах Фанвізін.

А між тым жыццяпісу Ф. Малішоўскага прысвечана кніга «Прападобны айцец Фабіян Малішоўскі з Пшэмысля (1583—1643)», якая была выдадзена ў 1935 годзе ва Львове ў мясцовым дамініканскім выдавецтве. Аўтарам яе з'яўляецца ксёндз усё таго ж стаўпецкага касцёла святога Казіміра Канстанцін Жучкевіч.

Вось па сутнасці і ўсе літаратурныя старонкі невялікага наднёманскага гарадка Стоўбцы, назва якога, дарэчы, значыцца ў назове кнігі нарысаў і рэпартажаў польскага празаіка беларускага паходжання Мельхіёра Ваньковіча «Ад Стоўбцаў да Каіра». Выдадзена яна была ў 1969 годзе, а распавядаецца ў ёй пра падзеі 30-х гадоў нашага стагоддзя.

Аднак малюнак літаратурных Стоўбцаў быў бы няпоўным, калі б мы ў сваім аповедзе не запыніліся на дзейнасці літаратурнага аб'яднання, якое дзейнічае пры мясцовай раённай газеце «Прамень». За гады свайго існавання (а гэта 60 гадоў) стаўпецкая «раёнка» вывела ў свет даволі вялікую кагорту вядомых сёння беларускіх літаратараў. Сярод іх — Генрых Далідовіч, Алесь Камароўскі, Казімір Камейша, Мікола Маляўка, Уладзімір Мархель, Яўген Хвалей, Валерый Дранчук і іншыя. Ахвотна змяшчае і сёння рэдакцыя «Праменя» творы пачаткоўцаў, многія з якіх паступова, але ўпэўнена займаюць устойлівыя пазіцыі на літаратурнай ніве нашай Беларусі. У «Бібліятэчцы часопіса «Маладосць» у 1994 годзе выйшлі кніга фантастычных апавяданняў «Д'ябла ва мора» Алеся Гары, затым паэтычныя зборнікі Тамары Мазур «Спакуса траўня», Ніяны Загарэўскай «Хваля». Таксама ў друкарні г. п. Узда выдаў кнігу сваіх вершаў «Чабаровая паляна» Віктар Сабалеўскі — колішні кіраўнік «праменеўскага» літаб'яднання.

З «Праменем», між іншым, звязаны пэўны адрэзак творчага шляху і беларускага паэта даваеннай пары Алеся Мілюця. Са стаўпецкай «раёнкай» ён супрацоўнічаў з часу яе ўтварэння, з 1939 года: «Голас селяніна» — так тады зваўся сягонняшні «Прамень», —

ахвотна змяшчаў вершы пачынаючага паэта, чый талент так і не быў цалкам раскрыты, бо ягонае жыццё абарвала Вялікая Айчынная вайна.

## СТАЎПЕЦКІЯ КАРАНІ ЯНКІ КУПАЛЫ

Зразумела, кожны неабыякавы да нацыянальнай літаратуры і ўвогуле культуры беларусаў чалавек слова «Стаўпеччына» найперш будзе атаясамліваць з імем слыннага сына гэтай зямлі Якуба Коласа. І гэта — бясспрэчна: Акінчыцы, Ласток, Альбуць, Мікалаеўшчына — якраз тыя мясціны, што ўзгадавалі, далі паэтычны дар і вывелі ў вялікі свет паэзіі народнага Песняра. Аднак наднёманская зямля мае самыя непасрэдныя дачыненні і да другога волата беларускай літаратуры — Янкі Купалы.

Жывучы на тэрыторыі сучаснай Уздзеншчыны, у Лазараўшчыне, Луцэвічы маглі мець зносіны са стаўпецкай зямлёй. Прыязджалі яны, напэўна, па гаспадарчых справах у недалёкую Мікалаеўшчыну, на кірмашы ў Стоўбцы і Новы Свержань. Дарэчы, па некаторых звестках, метрычныя запісы Луцэвічаў вяліся ў мікалаеўшчынскім касцёле. Згодна іх жа, бацька паэта якраз быў і ахрышчаны ў гэтым касцёле.

Так што, верагодней за ўсё, наведваючы ў жніўні 1912 года ў Смольні Якуба Коласа, Янка Купала, можа, і сам таго добра не ведаючы, трапіў не ў чужыя, а ў знаёмыя яго продкам мясціны.

Зразумела, гэтыя факты «роднасці» Купалы са Стаўпеччынай не вычэрпваюць тэмы нашай гаворкі. З імем паэта і з яго продкамі па матчынай лініі звязаны і яшчэ адзін куточак тамтэйшай зямлі. Гэта невялічкая вёсачка Ручына побліз старадаўняга мястэчка Рубяжэвічы. Праўда, да 1949 за ёй была замацавана іншая назва — Няшота, альбо, калі больш дакладна, на мясцовай гаворцы — Няшэта. Сёння цяжка сказаць, чаму адбылося перайменаванне: ці то камусьці рэзала слых яе назва, ці то хтосьці атаясамліваў яе з «нищетой», але факт ёсць факт.

Аднак нас цікавяць іншыя звесткі з гісторыі гэтага паселішча. І найперш, вядома, тыя, што тычацца сям'і

Валасевічаў, якія жылі тут у мінулым стагоддзі. Праўда, дакладна сказаць, калі канкрэтна Валасевічы пасяліліся ў Няшоце, мы з-за адсутнасці адпаведных дакументаў сказаць не можам. Вядома толькі, што адзін з іх сыноў — Іван — ажаніўся недзе каля 1845 года з Кацярынай Шаблоўскай, якая паходзіла з мясцовай шляхты. Маладыя Валасевічы адразу завялі гаспадарку і, жывучы на тамтэйшай зямлі, займелі семярых дзяцей: Камілію, Антона, Бянігну, Францішка, Садалію, Міхала і Софію. Цяжка сказаць, ці атрымалі іх дзеці якую-небудзь «высокую» адукацыю. Магчыма, толькі па сённяшніх мерках — пачатковую, бо ўсе трое хлопцаў, ажаніўшыся, аселі ў Няшоце.

Лёс жа Бянігны, адной з дзвюх старэйшых дачок Валасевічаў, склаўся крыху інакш. У 1879 годзе супраць волі бацькоў яна выходзіць замуж за Даменіка Луцэвіча, будучага бацьку Янкі Купалы. Старыя Валасевічы парываюць усялякія адносіны з няўдзячнай дачкою і яе сям'ёй. Нягледзячы на гэта, маладыя жывуць шчасліва, у згодзе, спачатку ў Раговічах (сучасны Мінскі раён), затым арандуюць паблізу Ракава фальварак Паморшчыну, а ў 1881 годзе пераязджаюць у Вязынку, дзе праз год і нарадзіўся ў іх першынец. Назвалі хлопчыка Янкам у гонар старога Валасевіча (відаць, на той час бацькі даравалі дачцэ яе «неабдуманы» ўчынак).

Хлопчык рос. Зразумела, першым яго настаўнікам і дарадцам была маці. Бянігна Іванаўна, як згадваў пазней сам Янка Купала, аказала вялікі ўплыў на яго станаўленне як паэта. Яе легенды, паданні, казкі і песні (а гэта было якраз тым, што расказвалі і спявалі сяляне ў часы яе маладосці ў Няшоце) дапамагалі будучаму паэту пазнаваць свет, фарміраваць свой адметны светапогляд, паэтычны дар. Яскрава пра гэта сведчаць вось гэтыя радкі з ягонага верша «Мая навука»:

Мне мудрасці кніжнай не даў Бог спазнаці,
Мой бацька не мог даць раскошаў такіх, —
Наўчыўся я слоў беларускіх ад маці
І дум беларускіх без школы і кніг.

Шмат давялося Купалу за сваё жыццё пакалясіць па роднай Беларусі. Быў ён і ў Няшоце. Праўда, усяго толькі аднойчы. Было гэта ў жніўні 1913 года. Янка Ку-

пала прыязджаў сюды з сястрой Леакадзіяй з Радашковіч, дзе пасля забароны цэнзурай пастаноўкі ў Мінску, ставілася яго «Паўлінка». Паэт гасцяваў у бабулі, сваіх дзядзькоў, цікавіўся жыццём мясцовых сялян.

## Іван Рубін

### УСПАМІН

За Стоўбцамі на поўнач Наваполле.
Далей — сасновыя бары да Налібокаў.
Адсюль да Нёмна недалёка...
...А тут — павольна круціць млын Сула.
А з-пад птушынага крыла
Відаць мае прыціхлыя Раздоры.
Вятрам за абалонаю раздолле
Знаёмай лугавінаю да хат
Падкрасціся, як цыгану, да коней,
Дзе змрок дымамі ўвесь прапах.
Зноў шэры вечар, нібы кацяня,
Задрэмле ў маміных далонях,
Засвеціцца святло у родных вокнах,
Зацепляцца і падабрэюць вочы
У бацькі, што чаруе каля грубкі.
Бярозы мне насустрач купкай
Павольна выбегуць з-за павароткі
На шлях шчаслівы, шлях кароткі,
Што поўняю асветлен зімна.
Мой светлы лёс, мая радзіма,
Ты больш дала надзей, чым страт,
Каб зноў прыйсці да гэтых хат
І да цябе адзінай.

### СУЛА

«Ой, рэчанька, рэчанька...»
У чаўне ціхім плёсам
Непрыкметна, як белыя вёсны,

Звечарэлая песня сплыла.
Сула...

Чакае, сумуе паром,
Аціхае вясла лёгкі плёскат.
Першацвету спадаюць пялёсткі,
Хоць вішня яшчэ не цвіла...
Сула...

Няма ўжо тае пераправы,
А мне заставацца на левым, —
Табе заставацца на правым.
Між намі масты развяла
Сула...

«Ой, рэчанька, рэчанька...»
У чаўне ціхім плёсам
Непрыкметна, як белыя вёсны,
Звечарэлая песня сплыла.
Сула.

## Казімір Камейша

# ДУМА НАД НЁМАНАМ

Ой, Нёман, ой, бацька наш родны...

*А. Астрэйка*

Змялелага рэчышча ночвы
Трымцяцца пад навіссю грон.
Не будзіць мяне ўжо уночы
Бушуйства твайго крыгагром.
Каб сэрцам адрынуць лагоду,
Якой не было на душы.
З хвіліны каторай і года
Ты буйнасць сваю прыглушыў?
Ой, бацька, я нораў твой помню,

Як роўма у гневе ты роў,
Як сонца раскручваў і поўню
Вяроўкай гарачай віроў.
Хоць лёсу хісталася шаля,
Ды вораг згінаўся дугой,
Як помсты вірлівую шаблю
Вымаў ты з нажон берагоў.
Хто роднасць пакрыўдзіў,
хто годнасць,
Для ўсіх заваёўнікаў — скон!
У дудках касцей іх халодных
Вятры адсвісталі праклён.
Не роўма цячэш ты, а роўна.
І берагу страшны твой бег.
Ой, Нёман, ой, бацька наш родны,
Сыны твае крыўдзяць цябе.
Чаўнам яны зрынулі рыфы,
Цэнзуру далі салаўю.
І разам з апошняю рыбай
Душу аглушылі тваю.
Мы нішчым,
Мы потым шкадуем.
Такі ўжо характар у нас.
О, бацька, з табой я бядую,
Бяда ў нас з табою адна.
Сцяну можна з бед нашых скласці,
За ёю схавацца ад бед.
Усе мы адбілі напасці
І здрадзілі, бацька, табе!

## ЧАРАМША

Святкуе зноў мая душа,
Да Нёмана кіруецца.
Пайшла ў Лядзінах чарамша,
На сонцы аж каруніцца.

Сябры Мікола і Алесь,
Мы сёння сон адрынем.
Вясновай воляй лучыць лес

Нас у адну сябрыну.
Майстры кастроў
і вострых слоў,
Мы лесу не чужыя.
Не церпім мы
хлусні майстроў
І ўсіх яе служылых.

Старым ручвом цячэ рака,
Сваволіцца нібыта.
І чарка сіняга вірка
Па берагі наліта.

Каб жар вясновы не патух,
Бяры той глыт гасцібны.
Жыве-жыве часночны дух
У маладой лісціне.

Калі пачне ён бунтаваць,
І свет пачне кружыцца,
Ён будзе некага злаваць
У позняй электрычцы.

Узыдзе дзіўны той настой
Над Нёмнам і Ушою.
І пацалунак позні твой
Прапахне чарамшою.

Забыць бы ўсё ліхое нам
У гэтым дні вясновым,
І, як падказвае вясна,
Жыццё пачаць нанова.

Але і ўцешынкі адной,
Імгненнай,
выпадковай,
Душы маёй усё адно
Сягоння дастаткова.
Спраўляе сонца зноў імшу
У храме баравінным.
Дык што ж,

За май,
За чарамшу,
За абвяснелую душу,
За гэтых сосен звонкі шум
Спявай, мая сябрына!

## НЁМАНУ

Чаўны твае адчальваюць у памяць.
Стаміліся старыя рыбаловы.
Мне бачна, як кастры яны распальваюць,
Даносіць вецер да мяне іх словы.
Нібы твае віры, ўспаміны тузаюць,
І чую я трывожна, як віну,
Ля самага праліва Лаперуза
Тваю усхваляваную вясну.
Знішчаецца рашуча ўлада льдоў,
У пальцах плыні льдзіны, нібы цацкі.
Дзе чалавек, гавораць, там і дом.
Ды ёсць адзін, які належыць цалкам.
Не тую б хвалю ў вусны цалаваў,
Што сёння я задумліва цалую.
І кружыцца, як кола, галава,
І я у думках да цябе вяслую.
А заўтра пошту зноўку прынясуць,
І весткі ад цябе калі не будзе,
Я зноў на бераг свой адпраўлю сум,
І хай яго заўважаць людзі.
Нялёгка без тваёй мне глыбіні.
Штоноч твая мне сніцца хуткаплыннасць,
Бо душы ў нас з табой адны,
Адны у іх невады і льдзіны.

## КАСЦЁР ЛЯ НЁМАНА

*М. Маляўку*

Ах, і цурболіць дожджык-часцён,
Хоць бы спачыў на хвіліну.

Ды гарыць касцёр.
Касцёр хіцёр,
Схаваўся касцёр пад яліну.

Больш аніхто не падыдзе да нас,
Круг нам вялікі не трэба.
Пэўна, прасмольвала лодкі вясна —
Гэтак закурана неба.

Вось бы такую нам лодку цяпер,
Каб даплыла да юнацтва.
Там пакідалі калісьці цябе.
Ты не схацеў там застацца.

Садам здавалася райскім яно.
Ты не прыняў тыя пешчы.
Сын плытагона.
Сын, не сынок,
Не, не сядзеў ты на печы.

Зараз, напэўна, паплыў бы туды,
Ды і цяпер не застаўся б,
Толькі б украў у гадоў маладых
Тую Ганусю ці Стасю.

Бераг высокі ля Нёмана тут,
Свет разглядзець гэтак лёгка.
Вось паплыла, ды нябачна, адтуль
Штось не вяртаецца лодка.

Вечар дажджлівы.
Дык будзь жа здароў!
Кружыць нас моц аржаная.
Хай жа харошых і верных сяброў
Думка мая даганяе.

Можа, камусьці вам сёння, сябры,
Недзе ікнулася дома.
Ведайце, гэта мы тут, пры кастры,
Словам вас згадвалі добрым.

* * *

Зноў вяслом разгайданы
Чысты нёманскі шлях
Са стажкамі туману
На плячыстых плытах.
Кліча раніца снедаць.
Лёгкі пошчак хады...
І трава аж да неба
Узнімае сляды.
Хваляй хлыне з аблокаў,
Заіграе святло.
Для шчаслівага вока —
З траў і промняў сіло.
Край вясны і маліны,
Ад цябе я не збег,
Я прыдумаў малітву —
Пакланяцца табе.
Твой гушчар не ламаю
Непралазны, як стог.
Нават шапку здымаю
Перад вартай густой.
Шапку зняць мне не сорам.
Справядліва мяне
Ты аблашчыш расою
Ці галлём сцебанеш!

## Янка Рагоз

## КАСТРАВІЦКІ-КАГАНЕЦ-БУДЗІМІР

Гэтак зваўся беларускі паэт, мастак, адраджэнец пачатку XX ст. Ён разам з Якубам Коласам сядзеў у Мінскім астрозе, дзе аформіў яго першую паэтычную кнігу «Песні-жальбы». У Засуллі над Нёманам стаіць яму памятны знак-валун.

Сібір
Дасць імя Казімір,
А Беларусь,

Імя Карусь,
Яшчэ і клічку
Будзімір...
...Бывай, Табольск,
Дзе бацька-касінер
Адбухаў ссылку...
Галінкай памахае кедр
І хлапчуку,
Паўстанца сыну.
Матуляй стрэне іх
Сула,
Аблашчыць хваляй,
Каб толькі, як вада,
Сплыла
Уся навала...
Ячонка, Ячнае, Засулле...
Ах, селішчы вы мілыя,
Здаецца, на вякі заснулі —
Такія ўсе пахілыя...
А ў хлапчука бунтоўны дух,
Хоць прозвішча шляхетнае...
Род Кастравіцкіх свету двух
Паэтаў дасць адметных...
Ля рэчкі бацька сена косіць —
Цяпер касец, не касінер.
Сын верш нашэптвае, як колісь
Яго сваяк — Апалінэр.

## СЫН НАЛІБОЦКАЙ ПУШЧЫ

*Санет*

Паэт Юзюк Фарботка нарадзіўся ў вёсцы Налібокі цяперашняга Стаўбцоўскага раёна. Лёс яго цесна пераплёўся з лёсамі пісьменнікаў Альберта Паўловіча і Максіма Багдановіча. Ён аўтар кнігі «Беларусь у песнях», выдадзенай у 1920 годзе. Вершы пісаў пераважна санетам. Адзін з іх прысвяціў памяці Максіма Багдановіча.

Не пасынак — зялёнай пушчы сын,
Сын «Беларускай хаткі», «Нашай нівы».

Ці быў, як пушча, ты шчаслівы?
Для пушчы век — міг, некалькі хвілін...

Як лісце выстылых асін,
На пуцявінах, скрозь нелітасцівых,
Дрыжэлі беларусы палахліва,
Ды волаты былі, нібы Максім...

Ягоны дух і твой жа дух узносіў
Да адраджэнскіх высненых нябёсаў.
Сек градам час, ажно да горкіх слёз,

Кідаў па свеце сіратлівай птушкай,
Каб сёння зразумеў круты твой лёс
Удзячны спадкаемец з роднай пушчы...

## Уладзімір Мархель

## ФАЛЬВАРАК ЛЯ НЯСВІЖСКАГА ГАСЦІНЦА

Калі ехаць са Стоўбцаў праз Новы Свержань у Нясвіж, аддаляючыся ад Нёмана, то ў нейкім кіламетры ад старога гасцінца, справа натрапіцца вёска Мархачоўшчына. Тут, побач з калгасным клубам і мясцовай бібліятэкаю, быў закладзены і 4 лістапада 1999 года адкрыты памятны знак, прысвечаны беларускім паэтам XIX стагоддзя Уладзіславу Сыракомлю і Янку Лучыне.

Бацькі першага з іх Аляксандр Каятан Кандратовіч і Вікторыя Кандратовіч са Златкоўскіх у 1834—1840 гадах арандавалі ў князёў Радзівілаў фальварак Мархачоўшчына.

Але калі будучы паэт летам 1834 года прыехаў сюды з нясвіжскай школы на канікулы, панскі дом пасля змены некалькіх арандатараў без дастатковага дагляду пачаў занепадаць.

Маёнтак знаходзіўся на ўзгорку, адкуль адкрываўся прыгожы прынёманскі краявід: з аднаго боку — вёска,

з другога, у нізіне — зацененая алешнікам Жацераўка, левы прыток Нёмана. Тут будучы «лірнік вясковы» з сялянскімі хлопцамі ганяў коней на начлег. Сюды ў маладосці і ў сталым веку неаднойчы прыязджаў Ясь Неслухоўскі, вядомы ў гісторыі беларускай літаратуры пад псеўданімам Янка Лучына. Яго бацькі Люцыян Неслухоўскі і Антаніна Неслухоўская з Лукашэвічаў пачалі арандаваць фальварак у Мархачоўшчыне амаль праз чвэрць стагоддзя пасля Сыракомлевых бацькоў, з 1863 года. На гэтай арэндзе Неслухоўскія заставаліся доўга. Яшчэ ў дзевяностыя гады арэнднымі справамі Антаніны Неслухоўскай пасля смерці яе мужа нейкі час займаўся сын Юліян, аграном-лесавод па адукацыі. Таму, несумненна, Мархачоўшчына была для Янкі Лучыны, бадай, ці не роднай. Ён заўсёды прыязджаў сюды ў час летніх канікул, калі вучыўся ў Мінскай гімназіі (1865—1870) і ў Тэхналагічным інстытуце ў Пецярбургу (1871—1877), бываў і пасля, прытым не толькі летам, але, як сведчыць яго нарыс «Са святочнай паездкі», і зімою.

Мархачоўшчына, прынёманская Стаўбцоўшчына ўвайшлі ў жыццё і свядомасць паэта так глыбока, што ён, гараджанін і «тэхнар», у сваіх творах на беларускай мове арыентаваўся выключна на вясковую тэматыку. Акрамя таго, перакладаючы рускіх паэтаў на польскую мову, а польскіх — на рускую, Янка Лучына па-беларуску ўзнаўляў толькі вершы «лірніка вясковага» Уладзіслава Сыракомлі («Ямшчык», «Не я пяю...», «Надта салодкія думкі», «Горсць пшаніцы», «Бусел»).

Вобразы прынёманскага краю і самога Нёмана паўнапраўна ўвайшлі таксама і ў польскамоўныя творы беларускага паэта («Дзве зоркі», «Пышны малюнак», «Развітанне» і інш.). Захапляючыся горным шчытам Каўказа, Лучына, які нейкі час пасля сканчэння Тэхналагічнага інстытута працаваў у Тыфлісе, сваімі думкамі сягаў «да хаціны той замшэлай і пахілай» у родным краі, «дзе якіясь свае спевы...». Лучынава ўяўленне пра радзіму было глыбока асабістае і складвалася не толькі з канкрэтных жыццёвых рэаліяў, але і з такіх мастацкіх сімвалаў, як *яснае неба, вецер свой, вецер Немановы*.

# ПАМІЖ ВІЛЕНШЧЫНАЙ І ПРЫНЯМОННЕМ

## («Лірнік вясковы» Уладзіслаў Сыракомля)

Творчы плён Уладзіслава Сыракомлі (1823—1862), вядомага ў гісторыі беларускай і польскай літаратур пад тытулам «лірнік вясковы», надзвычай багаты. Беларускі чытач мог пазнаёміцца са спадчынай паэта праз яго кнігі «Выбраныя творы» (1966) і «Добрыя весці» (1993). У апошняй, акрамя вершаў, гутарак-гавэндаў і паэм, ёсць гістарычна-краязнаўчыя нарысы, публіцыстычныя артыкулы, нататкі і літаратурныя рэцэнзіі паэта, што дае ўяўленне пра разнастайнасць яго творчага набытку і дазваляе наблізіць мінулае. Яно было часам Сыракомлі, і яго творы — гэта яго мастацкае асэнсаванне жыцця ў сваім часе.

Уладзіслаў Сыракомля — гэта псеўданім, узяты ад родавага герба. Спадчыннае ж прозвішча паэта было Кандратовіч, а імёнаў, паводле каталіцкай традыцыі, яму далі тры — Людвік, Францішак, Уладзіслаў. Нарадзіўся ён 29 верасня 1823 года ў фальварку Смольгаў, што знаходзіўся ў межах сённяшняга Любанскага раёна. Бацька будучага паэта быў арандатарам дробных радзівілаўскіх маёнткаў, таму сям'і не выпадала падоўгу затрымлівацца на адным месцы. Са Смольгава Кандратовічы пераехалі ў Яськавічы, затым — у Кудзінавічы. Калі Людвік вучыўся ў павятовай школе дамініканаў у Нясвіжы, бацькі перабраліся ў Мархачоўшчыну. Тут ён праводзіў свае першыя канікулы, сюды вярнуўся, скончыўшы ў 1837 годзе пяты клас у школе наваградскіх дамініканаў.

Мяняючы арэндныя фальваркі, Кандратовічы рухаліся на поўнач, набліжаліся да Нёмана. З Мархачоўшчыны, якая ў трох кіламетрах ад Нёмана, яны трапілі ў Залуча, узяўшы ў арэнду фальварак, землі якога падыходзілі да самога Нёмана. Адсюль Людвік Кандратовіч, калі яму не было яшчэ поўных васемнаццаці гадоў, адправіўся ў Нясвіж на службу ў канцылярыі кіраўніцтва радзівілаўскімі маёнткамі, сюды ён, ажаніўшыся з Паўлінай Мітрашэўскай, вярнуўся ў красавіку 1844 года.

Суровы час даўно спарахніў драўляныя будовы фальварка, наклаў свой адбітак на агульны выгляд таго кута Прынямоння, што прытуліў Кандратовіча без малога на дзевяць гадоў, вывеў яго ў вялікую паэзію. Але сведчанні сучаснікаў паэта, зафіксаваныя на паперы, ашчадна даносяць да нас апісанні тадышняга Залуча, становячыся тым самым нашай гістарычнай памяццю. «Залуча, — распавядае ў нарысе «Карціны з берагоў Нёмана» Вінцэсь Каратынскі, — ляжыць на спадзе значнага, у некалькі сот футаў узвышша, нахіленага з поўначы на поўдзень, да рэчышча Нёмана, ад якога аддзяляе яго невялікі кавалак гразкага балота, зарослага старым алешнікам і лазою... З усходу цячэ невялікая, але па-сапраўднаму працавітая і хлебадайная — бо прыводзіць у рух два млынавыя камяні — рака Ячонка... На поўдні — сам Нёман, вузкі ў гэтым месцы і наўздзіў звілісты... З захаду ўпадае ў Нёман даволі значная рака Сула... Вось і ўвесь чатырохкутнік часовага Кандратовічавага Залуча: тры ракі, шмат пяску, трохі глею і незлічоная колькасць усякіх дзікіх раслін, за якія, паводле тэорыі Кандратовіча, развітай ім у «Хатцы ў лесе», «неблагія грошы можна ўзяць у аптэцы мірскай — калі пажадаюць купіць».

Аднойчы, вярнуўшыся з Міра, Людвік Кандратовіч запісаў вершам пачутую ў карчме ад старога фурмана пакутную споведзь у непазбытнасці яго віны за грахі маладосці: каб не парушыць выкананне службовага абавязку, ён у час лютай завеі не дапамог уратавацца чалавеку, як пасля высветлілася — сваёй каханай. Верш пад назвай «Паштальён» стаў друкаваным першынцам залучанскага паэта. А яго падзагаловак «народная гутарка» вызначыў галоўны літаратурны жанр у творчасці Сыракомлі. Расповед баладнага зместу надаў «Паштальёну» такія інтанацыі, якія спрыялі яго далучэнню да рускага меласу. Тэкст «Паштальёна», узноўлены па-руску праз чвэрць стагоддзя паэтам Трэфалевым, стаў папулярным рамансам «Когда я на почте служил ямщиком».

У ціхім прынёманскім Залучы Кандратовіч працаваў многа і плённа. З-пад яго пяра выйшлі гутаркі «Дабрародны Ян Дэмбарог», «Хадыка» і шмат цудоў-

ных вершаў, сярод якіх «Лірнік вясковы», «Немаўляці», «Прысвячэнне ліцвінам народных гутарак», «Пра маю старую хатку», «Гутарка пра бусла», «Заўчасна», «Добрыя весці». Акрамя таго, ён перакладаў лацінскіх паэтаў XVI—XVII стагоддзяў, пісаў «Гісторыю літаратуры Польшчы» (у дзвюх кнігах). Таму ў лісце да Адама Плуга, які вучыўся тады ў Кіеўскім універсітэце, Сыракомля меў усе падставы сказаць: «Ці паверыш, што ў Залучы я прагну паветра і сонца — так сплываюць мае дні між стосаў паперы ў цёмнай хаце». Гэтую цёмную хату, тыповае жыллё дробнай шляхты, паэт увекавечыў у вершы «Пра маю старую хатку».

Выдавецкія інтарэсы вымагалі частых паездак у Вільню. Аднак да канчатковага развітання з Залучам падштурхнула гора: паўміралі адна за адной дочкі-малалеткі. Даручыўшы памочніку-сакратару Вінцэсю Каратынскаму давесці да ладу гаспадарчыя справы, у верасні 1852 года Сыракомля, яго жонка і трохгадовы сын Уладзіслаў назаўсёды развіталіся з прынёманскай сядзібаю арандатара і накіраваліся ў Вільню. Аднак віленскі брук мог часова прыглушыць боль, а не загаіць рану, нанесеную лёсам. Горад стамляў мітуснёю, пазбаўляў зацішнасці. Таму Сыракомля ўзяў у арэнду прывіленскі фальварак Барэйкаўшчына і ў красавіку 1853 года перабраўся туды з сям'ёю. З таго часу ён дзяліў сябе паміж горадам і вёскаю, паміж Віленшчынай і Прынямоннем, выказваючы ў сваёй паэзіі і краязнаўчых працах сум па родных мясцінах.

У вершы «Пілігрым», напісаным неўзабаве пасля развітання з Залучам, Сыракомля выказаў тугу па мясцінах маладосці праз натуральны ў яго творчасці вобраз роднага ветру:

О старонка любові! Мой родны закутак!
Калі віхар жыцця мяне носіць па свеце,
То няхай ён паветрам тваім запасецца
І напоўніць ім грудзі мае да глыбіняў,
Каб я змог уздыхаць пакрысе на чужыне.

Набранае ў запас залучанскае паветра паскорыла напісанне гістарычна-краязнаўчай кнігі «Вандроўкі па маіх былых ваколіцах». Яна нібы вяртала паэта ў край

маладосці — Нясвіж, Стоўбцы, Мір і Залуча, якому прысвечаны першы раздзел пад назваю «Сядзіба Залуча». «Адзінокая, — пачынае сваю вандроўку-ўспамін Сыракомля, — са старым дамком, ані адным дрэвам не прыцененая наднёманская сядзіба, што бачыла маю раннюю маладосць, не багатая на падзеі, але поўная усякіх пачуццяў, уражанняў, памятак з малых і сталых гадоў майго жыцця; сядзіба, сама назва якой звязана са столькімі маімі ўспамінамі, якая прыняла мяне дзіцем, песціла, калі стаў хлопцам, а потым выхавала з мяне, мусіць, аж занадта сур'ёзнага чалавека — ад цябе пачынаю я сваю вандроўку, табе належыць першая старонка ў гэтай кніжцы!»

Пад канец 1853 года, на Каляды, Сыракомля адведаў сваіх бацькоў і сясцёр у недалёкай ад Залуча Тулёнцы. Там 22 снежня напісалася гутарка «Пан Марка ў пекле», узнікла задума стварыць вершы, заснаваныя, як і «Пан Марка...», на папулярных у маральна-бытавой і этычнай практыцы беларусаў выслоўях прытчавага плана — «Пілiп з Канапель», «Пра Заблоцкага і мыла».

Звяртаючыся ў думках да роднай старонкі, дзе ў маладыя гады ён урабляў зямлю, Сыракомля ў гутарцы «Кавалак хлеба» зазначаў, што тыя лугі ён пазнае па паху, а ваду з Нёмана — па смаку, што яму добра знаёмы пошум прынёманскіх лясоў і грудзьмі ён лёгка адчуе вецер з тых мясцін. Першае, чым хацеў падзяліцца паэт з чытачом, калі трапіў на тэрыторыю Польшчы, — гэта тое, што «тут, на польскім баку Нёмана, усё не такое, як у нас».

Нёману «лірнік вясковы» прысвяціў ажно чатыры вершаваныя творы. Тры з іх узніклі ў барэйкаўшчынска-віленскі перыяд, у час, калі паэт быў аддалены ад ракі сваёй маладосці. У 1861 годзе Сыракомля напісаў і выдаў «Манаграфію ракі Нёман» — яшчэ адно краязнаўчае ўвасабленне яго любові да беларускага краю. «Даследаваць нашу родную зямлю ў гістарычных, прыродных, этнаграфічных, археалагічных, геаграфічных адносінах, — пісаў ён, — гэта, здаецца, вельмі просты вынік таго, што прынята называць любасцю да радзімы». Менавіта вынікам гэтага і была ўся творчасць прынёманскага салаўя Уладзіслава Сыракомлі.

# САКРАТАР УЛАДЗІСЛАВА СЫРАКОМЛІ

Вінцэсь Каратынскі нарадзіўся 15 жніўня 1831 года ў вёсцы Селішча Наваградскага павета. Ён быў першынцам у маладой сям'і Аляксандра Каратынскага, раней — Каратая, які незадоўга перад жаніцьбаю з селішчанскай шляхцянкай-аднадворкай Юзафатай з Далідовічаў нейкім чынам здабыў вольную і перастаў быць прыгонным мясцовага памешчыка. Ды не зведаў як належыць Аляксандр Каратынскі хлеб «вольнага земляроба», не паставіў сам сваіх дзяцей на ногі — утапіўся ў Нёмане.

У школу Вінцэсь не хадзіў. Яго настаўнікам быў арганіст. Ён навучыў хлопчыка чытаць і пісаць папольску і па-руску, даў асновы арыфметыкі. Астатняе дабіралася самавукам. Потым, калі падраслі малодшыя браты — Міхал і Ян, Вінцэсь ужо сам вучыў іх. За гэтым рэпетытарствам пайшлі іншыя: у суседзяў, у шляхечых дварах на Наваградчыне. За Вінцэсем пастунова замацоўвалася ў ваколіцы слава юнака вялікай вучонасці. А веды здабываліся з-за сямі замкоў, па пазычаных кнігах. Прагу да святла Вінцэсь спатольваў напачатку перапісваннем кніг. Цалкам ён перапісаў «Гісторыю Польшчы» І. Лялевеля і «Дэмана» М. Лермантава.

Апошнім прыпынкам у вандроўках хатняга настаўніка Вінцэся Каратынскага быў дом Шастакоўскіх у вёсцы Сенная, размешчанай уздоўж левага прытока Нёмана Валоўкі. Тут малады настаўнік, можна сказаць, выпадкова пазнаёміўся з такім жа, як і сам, вандроўнікам, колішнім уніяцкім святаром Давідовічам, які, не маючы свайго прыходу, ездзіў па маёнтках і перакладаў старыя шляхецкія дакументы на рускую мову. Вінцэсь адкрыўся яму, што складае вершы, — і Давідовіч, які асабіста ведаў Уладзіслава Сыракомлю, узяў на сябе ініцыятыву пазнаёміць пачынаючага літаратара з прызнаным ужо паэтам. Летам 1850 года Вінцэсь Каратынскі адважыўся пераступіць парог дома ў ціхім прынёманскім фальварку Залуча, арандаваным Сыракомлем: ён пагадзіўся быць памочнікам-сакратаром паэта. Каратынскі перапісваў начыста гатовыя творы свайго апекуна, здаралася, браўся адказваць на лісты, якіх да-

сылалася Сыракомлю ўсё болей і болей, бо імкліва расла яго папулярнасць.

Непасрэднае далучэнне да такой з'явы, як творчасць таленавітага сучасніка, асвятляла самаадукацыю сялянскага сына мэтанакіраванасцю. Быў ён тытанічна працавіты і меў выключную памяць.

Арыгінальная паэзія У. Сыракомлі (гутаркі, заснаваныя на мясцовых паданнях, і вершы, сугучныя тутэйшым, прынёманскім песням, прасякнутыя балючай любасцю да радзімы і адмаўленнем прыгонніцтва), гісторыка-краязнаўчыя матэрыялы, звязаныя з наднёманскімі мясцінамі, надзвычай уражвалі здольнага юнака, абуджалі яго асабістыя творчыя інтарэсы і задумы. Двухгадовы залучанскі перыяд жыцця быў для Вінцэся Каратынскага сыракомлеўскім універсітэтам.

Вясной 1853 года Каратынскі пераехаў у падвіленскі фальварак Барэйкаўшчына, узяты ў арэнду «вясковым лірнікам» (так пад той час пачалі называць Сыракомлю чытачы). Памочнікам свайго літаратурнага настаўніка Каратынскі заставаўся і тады, калі, ажаніўшыся, жыў сваім домам і меў шмат журналісцкіх і грамадска-культурных абавязкаў. Ён супрацоўнічаў у «Тэцы Віленьскей», быў членам рэдкалегіі газеты «Кур'ер Віленьскі» і карэспандэнтам «Газэты Варшавскей», уваходзіў у склад Віленскай археалагічнай камісіі, лічыўся членам Статыстычнага камітэта ў Вільні, рыхтаваў матэрыялы ў «Слоўнік польскай мовы» і рэдагаваў яго.

Паэтычны дэбют Вінцэся Каратынскага — публікацыя верша «Над калыскай» у аўтарытэтным польскім часопісе «Бібліотэка Варшавска» (1856, т. 2) — суправаджаўся апякунскім выступленнем Сыракомлі ў «Газэце Варшавскей» (1856, № 149).

Тагачасныя крытыкі схільны былі бачыць у паэце перш за ўсё наследавальніка Сыракомлі, хоць больш правільна было б гаварыць пра творчы ўплыў «вясковага лірніка», што найбольш адчувальна адбіўся на вершаваных апрацоўках паданняў і некалькіх гутарках Каратынскага, якія ўвайшлі ў зборнік «Чым хата багата, тым рада», выдадзенай у 1856 годзе. «Колькі гадоў жывучы ў маім доме, з тых жа наднёманскіх вясковых крыніц, любові да народа, прыроды, кнігі, долі і нядолі

чэрпаў ён натхненне, што і мы самі, — пісаў папулярны паэт пра свайго малодшага паплечніка. — Надзелены ад нараджэння здольнасцю, ад нас, можа, пераняў ён ахвоту да песні, пры нас, можа, развіў яе, але развіў самабытна».

Усведамленне непаўнаты першага зборніка і аўтарскай недавыказанасці пачуцця аб родных прынёманскіх мясцінах, аб працавітых і тым не менш гарапашных насельніках гэтага маляўнічага кута Беларусі, аб нялюдскіх стасунках панскага двара і падданай вёскі, аб пачварнасці грамадства, якое здрабніла, знікчэмніла чалавечыя інтарэсы, падштурхнулі Каратынскага да стварэння паэмы «Таміла». Выдадзеная ў 1858 годзе, яна працягвала з чытачом гутарку, напоўненую тым жа клопатам, што і папярэдняя кніга, аднак з большым абсягам жыццёвых рэалій, канкрэтызаваных і ярка матэрыялізаваных у мастацкіх вобразах. Зацятае змаганне старога Таміла з неўраджаем і сялянскай нядоляю завяршаецца яго паражэннем: ён пазычыў насенне ў пана, а вярнуць не было з чаго, бо «гумно як падмецена, пуста ў каморы і хлеба апошні ўжо бохан пачаты». Каб разлічыцца з панам, Таміла прадае пярэстага коніка — і траціць апошнюю надзею на які-небудзь паратунак ад галечы.

Публіцыстыка, гісторыка-краязнаўчыя нарысы Каратынскага таксама сведчаць, што іх аўтар дбаў, як паўстануць перад публікай ягоныя думкі і тыя ці іншыя звесткі. Каратынскі надрукаваў два цікавыя нарысы пра свайго вялікага земляка Адама Міцкевіча, у якіх, апіраючыся на невядомыя тагачасным літаратуразнаўцам дакументы, удакладніў некаторыя дэталі ў біяграфіі паэта. Яго пяру належыць даследаванне «Саламон Рысінскі», здаецца, самае поўнае з усяго, што публікавалася раней пра гэтага прынёманскага збіральніка беларускіх прымавак XVII стагоддзя, які жыў у Любчы. Публіцыст напісаў творчыя партрэты Яўстаха і Канстанціна Тышкевічаў, заснавальнікаў навуковай археалогіі ў Беларусі, фалькларыста Рамуальда Зянькевіча, мноства артыкулаў пра беларускія гарады (Віцебск, Слуцк, Валожын, Стоўбцы і інш.) ва ўсеагульную польскую энцыклапедыю. Урэшце, Каратынскі —

аўтар аб'ёмістага нарыса «Карціны з берагоў Нёмана», які не страціў краязнаўчай цікавасці да нашых дзён.

Пасля выдання ў 1859 годзе кнігі «Выпіў Куба да Якуба» Каратынскі надзвычай рэдка выступаў у друку з вершамі.

Шасцідзесятыя гады складваліся для яго нешчасліва. Восенню 1862 года памёр Уладзіслаў Сыракомля. Надзеі, звязаныя з паўстаннем 1863 года, не спраўдзіліся. Жандарскія вобыскі, падазрэнні ў напісанні нелегальных агітацыйных брашур, абмежаваныя магчымасці друкавацца на радзіме, спустошанай мураўёўскай рэакцыяй, і матэрыяльная нястача вымусілі Каратынскага на пачатку 1866 года пакінуць Вільню. У Варшаве ён цалкам прысвяціў сябе польскай журналістыцы, супрацоўнічаючы ў «Газэце Варшавскей», а потым і ў часопісе «Тыгоднік Ілюстраваны» і толькі калінікалі вяртаючыся, як у памяць, у хату сваёй паэзіі. 7 лютага 1891 года Вінцэсь Каратынскі памёр.

З усёй беларускамоўнай спадчыны паэта-дэмакрата да нас дайшлі тры вершы — «Уставайма, братцы, да дзела, да дзела!», прысвячэнне А. Вярыгу-Дарэўскаму і «Туга на чужой старане». Сын паэта Бруна згадвае ў сваіх мемуарах пра напісаны бацькам цыкл агітацыйных антыўрадавых вершаў. Магчыма, ён меў на ўвазе «Гутарку старога дзеда» і «Гутаркі двух суседаў». Але ў іх гнеўныя словы ў адрас царызму былі кінуты ананімна.

## Уладзіслаў Сыракомля

### НЁМАН

З балаціны з-пад камення
Ручаёк малы струменіць.
Ён цячэ налева, ўправа
Між густых квяцістых траваў,
Глебу кроіць на часціны,
Сее другія ручаіны

І з напоўненага ложа
Хваляй пырскае прыгожа.
На сабе трымае чоўны,
Бераг спраміўшы няроўны,
Адкрывае шлях для плыні,
Для плытоў і для віціны
І нясе у падарожжа
Судна, гружанае збожжам.
А як дзе штурхае хваля,
Пана Бога людзі хваляць:
Багацее з ласкі Боскай
І мястэчка іх і вёска,
Зелянеюць побач дрэвы,
Весялеюць птушак спевы,
Неба добрае ў блакіце,
І вакол буяе жыцце,
Бо вада у нас рачная —
То краіны кроў жывая.

*1861 г.*

## ПРА МАЮ СТАРУЮ ХАТКУ

Бачу вербы роднай вёскі,
Берагі рачулкі бачу.
Тут пазнаў я шчасця росквіт,
Боль ад першае няўдачы.

*Мацісон*

### 1

За гарою за высокай
Леваруч дубы старыя.
Тут і Нёман цешыць вока,
Ён зялёны бераг мые.

А правей — як шляк, балота,
Вербалозы над дрыгвою.
А над імі і над слотай
На пяску гамоніць хвоя.

Паркановай трапіш вулкай
Да старой пахілай хаты.
Да зямлі яе прыгнула,
Мох страху закрыў і латы.

Цераз шчыліны ў драніцы
Можна немаль бачыць неба.
Гэта ўсё — мая святліца,
Лепшай мне нідзе не трэба.

Астракол, нібы на варце,
Каля весніц, перад ганкам.
А ў агрэдачцы, пры хаце,
Густалісты бэз альтанкай.

Перад вокнамі хаціны
Кветак, зёлак розных лешка.
Да агрэсту і маліны
Каля іх віецца сцежка.

Праз аградку бачыш поле,
Як плыве здалёку Нёман.
А пры шчытным астраколе
Ля вулля пчаліны гоман.

Тут маё ўсё ў агародзе,
Хоць убога ў ім і дзіка.
Тут я ў радасці, ў нягодзе
З рукапісам і матыкай.

Быццам сніцца сон цудоўны,
Так мне добра і вясёла.
Валатоўнай сілы поўны,
Пазіраю я наўкола.

Калі гляну на даліны
Ці на поплаў берагавы,
Ў захапленні вокам кіну
На шумлівы бор сасновы

Ці пушчу пагляд па хвалях,
Як рыбак на вёслах човен, —

Хараство прыносяць далі,
Пекнатою край мой повен.

Далягляд мой — нібы заля,
А рыбацкія хаціны,
А лясы, краса ўся ў далях —
Нібы ў залі той карціны.

Там аблокі над блакітам
Праплываюць ціхім статкам.
Покуль неба не закрыта —
Усё ж мая трывае хатка.

А як прыйдзе навальніца,
Абароніць дах наўдачу:
Цераз столь вада бруіцца,
Цераз сцены вецер плача...

**2**

З лесу звон сякеры чутны,
Вокал водгулле лунае.
Я вясёлы, я і смутны:
Хата будзе мне другая.

На старой маёй хаціне
Ўся страха амаль раскрыта.
У налеццi я павінен
Жыць у новай самавіта.

Ах! Старую збурацъ хатку,
Ўсе куточкі, столь і сцены.
Дзе ж старыя дзену згадкі,
Дзе свае ўспаміны дзену!

Ці, бывала, цісне сэрца
Хваляваннем, сумным страхам,
Мне найлепш было сагрэцца
Пад маім збуцвелым дахам.

Ці, бывала, прыйдзе шчасце —
Адгукнуцца сцены рэхам.

Так пазбудзешся напасці,
А слязу прагоніш смехам.

Вось і прызба, вось і ганак...
Тут я слухаў напрадвесні:
Каля Нёмна ў ціхі ранак
Салавей спяваў мне песні.

Часам песнямі сваімі
Абуджаў ён жаль на сэрцы,
Часам сум такі узніме,
Што сляза ў слязу ліецца.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

### 3

Спарахнееш, станеш тленам,
Хоць стаіш пакуль што, хата.
Як я ўрос у твае сцены,
Ты ў душу маю ўрасла так.

Што вазьму я са старое
На пярэбары да новай?
Будзе тое, ды не тое,
Хоць, мажліва, адмысловей.

Аднясу я ў хату тую
Стол, цыгары, узгалоўе.
Мо адновім быль старую,
А душу ўжо не адновім.

Цяжка ўражанняў шукаць мне
Заржавелымі вачыма.
Дзён мінулых новай хаце
Перадаць мне немагчыма.

Выгляд новы з новых вокан.
Тут на Нёман не зірну я
І лясоў, з другога боку,
Ціхі гоман не пачую.

А мой кветнік... Прэч сумоту!
Не вярнуць гадоў квяцістых...
Пра імпэт дарэмны клопат —
Трэба жыць цяпер статыстам...

Не вярнуць, не перайначыць!
Дай жыццю таму валету!
Па старому хай заплача...
Хвілька, хвілька... Дзе ты? Дзе ты?

*15 лютага 1847, Залуча*

## ПІЛІГРЫМ У КАНЦЫ ВАНДРОЎКІ

*(З кнігі «Вандроўкі па маіх былых ваколіцах»)*

Вось, нарэшце, і абышоў я, радзіма,
Гарады твае, вёскі з кіем пілігрыма.
Блізка бачыў я вежы касцёлаў, крыніцы,
Падзямельныя склепы твае, камяніцы,
І каб мне пахваліцца хоць чым было можна,
Ўзяў я памятак колькі у ранец дарожны:
Частку нёманскай хвалі, камень даўняе вежы,
Завушніцу з магілы, з дрэва лісцік свежы...
Ўдоўж і ўшыр абышоўшы ўсё Прынямонне,
Спачываю пад грушай развесістай сёння.
Перад тым як мне выйсці на новую каляіну,
Я той шлях, што прайшоў, сваім зрокам акіну.
Там над возерам замак глядзіцца у зоры,
На пагорку там бачу я бацькаўскі дворык.
Там і хатка, дзе шчасце мяне абмінула,
Там цвінтар, дзе дзятва — мая кроў — заснула.
Там святыні, там блізкія стрэхі з саломы,
Звоніць птаства маё, ходзіць вецер знаёмы.
Да мяне зноў вяртаюць нябачныя крыллі
Ўсе пачуцці, што некалі сэрца палілі,
Тыя думкі, што ўсё ў галаве віравалі...
О куткі мае мілыя! Родныя далі!
Калі ў свет мяне кіне нястрыманым ветрам,
Набяру сабе ў грудзі адгэтуль паветра,

Набяру яго шмат, каб надоўга хапіла,
Каб яно мае песні заўсёды жывіла.
Толькі чым, мае долы, ўзамен вам аддзячыць?
Можа, благаславеннем вандроўным, жабрачым,
Яго з ветрам пусціўшы па родным абшары,
Каб збыліся людзей нашых лепшыя мары;
Над лясамі, над Нёманам, на мужычым загоне
Хай жа лепшыя песенькі птушкі зазвоняць,
Закрасуюць хай збожжам пясчаныя нівы
І аратага сэрца ўстрапянецца шчасліва.
А вясною, ля Нёмана, ў ціхай затоцы,
Калі бусел, свет славячы, зноў заклякоча,
Паспяшае мой дух, каб пацешыцца з вамі,
Палунаць зноў над вёскамі, над цвінтарамі,
Дзе ваду піў з бруі, дзе меў хлеб я з пагоркаў,
Дзе ліў слёзы па дзецях пад згубнаю зоркай,
Адкуль з болем пусціўся я ў новую пуцявіну
І дзе памяць пра край свой у песні пакінуў!

## ДАБРАРОДНЫ ЯН ДЭМБАРОГ

*(Урывак з паэмы)*

Ціха Нёман хвалі гоніць уздоўж родных лугоў,
І струмень яго гладкі бяскрыўдны для спрытных
плыўцоў.
Летам носіць ён лодкі на хвалях сваіх,
А зімою ён дрэмле ў кайданах ледзяных,
Не раве з грознай сілай, не бушуе ён,
Паслухмяны, спакойны, як немаладзён.
Ды не вер хвалям скораным —
пачакай, як зіхне
Промень весні, ён путы зімы разарве.
Гоман з розных бакоў...
На ўзбярэжжы дрыжаць
хаты ўсіх рыбакоў.
Луг заліты... Разводдзе... Рэха ў блізкіх лясах...
Міг яшчэ... і ўсё згіне ў яго бурных нартах...
Ды не помніць ён зла доўга,
гнеў — як той птах...

## БУСЕЛ

Зімка надходзіць, звіслі туманы,
І вецер круціць і свішча,
На небе — цёмных хмар караваны.
Бусел узняўся і задуманы
Паплыў павольне на ржышча.

Сеў і клякоча, падняўшы ногу,
Дый жмурыць цёмнае вока.
Пэўне, ён думку ўздумаў глыбока,
Ужо выбірацца ў дарогу.

«Добра на вырай ляцець цяплейшы,
Пабачыць дзівы ў чужбіне,
Сонца над Нілам агонь яснейшы
І думаць думку пра край тутэйшы
На піраміды вяршыне.

А толькі... толькі ведама Богу,
Чы смерць у дарозе абміну!..
Пабачу жа Нёман і азярыну?!
Сяду ж на купцы мурогу?!

Я ж тут радзіўся, гдзе гэта хатка,
Шчасця знаў дзянькі нярэдкі:
Ось тут, гдзе выган і сенажатка,
Бывала, косіць касцоў грамадка,
Клякочуць жонка і дзеткі.

Добра ж тут была!.. Цяпер не знаю,
Чы не заплачу па згубе!
Чы, пpыляцеўшы вясною з выраю,
Гняздо застану на дубе!

Рад бы застацца ў гэтай старонцы,
Гдзе страх не страшыць, ні гора,
А толькі болей не грэе сонца,
Дый няма корму дзеткам ні жонцы,
Снег тут пасыпле ускора».

Так пажурыўшысь думкаю шчырай,
Бусел, узняўшысь паволі,
Паплыў па небе кудысь на вырай
Шукаць і шчасця і долі.

*1849 г.*

## Вінцэсь Каратынскі

# ТАМІЛА

*(Абразок з народнага жыцця)*

Дзякаваць Богу! Хоць клопат вярэдзіць,
Ды я ўсё ж вярнуўся да ніў прадзядоўскіх.
Вітай мяне, Нёман, стары мой суседзе!
Вітай жа мяне, прынямонская вёска!
Чужынай апёкшыся, зведаўшы беды,
Іду я спачыць пад страхою з саломы...
Нівы дабра! Ці ж мяне вам не ведаць?
Я прыяцель ваш, я ваш даўні знаёмы.
На лобе маім рала здоўжаных летаў
Барозны кладзе, як на вашых прасторах.
Вы ўжо не такія, і я не падлетак;
І мы толькі сэрцам пазнаемся скора.
І толькі у сэрцы, як з плоднага жніва
Ашчадна пакінуты колас на вёсны,
Застаўся ўспамін, што малюе мне жыва
І час маладосці, і родную вёску.
А з гэтага зерня ці вырасце збожжа?
Яно ж не красуе пад снегам скарэлым!
І што гэта робіцца, моцны мой Божа?
Ці свет мо змяніўся? Ці я састарэлы?

*1858 г.*

## БЯРОЗКА

Вецер нёс мяне зярняткам
І кружыў з нястомнай сілай,
Ды зямля мяне, як матка,
Прыгарнула, прытуліла.

Росы, буйныя на дзіва,
Аздаблялі мяне міла,
Сонца, наш мастак адзіны,
Лісце мне пазеляніла.

Я ўзрастала год за годам
Легкадумна, нетрывожна,
Нібы ўся мяне прырода
Блаславіла быць прыгожай.

Я сваволіла з ахвотай,
Не тужыла ані хвілі,
Ды салоўкі ў час залётаў
Марыць, марыць навучылі.

Птушка дробная — сініца
Пры сваёй маленькай хатцы
Шчабятала на галінцы,
Што пара мне закахацца.

Я прымоўкла на астатак,
Аж галінкі ўсе абвіслі...
Ад яго чакала сватаў,
Ад каханага з-над Віслы...

Ох, чакала і ад смутку
Паглядала ў люстра Нёмна!
Нёман вымавіў ціхутка:
«Ён кахае непрытомна!»

Май, ліслівец зеленюткі,
Мне расчэсваючы косы,
Гаварыў: «Не трэба смутку!
Бачны ясна госць даўлосы!»

Прамінула дзён багата;
Мой каханы, верны слову,
Выслаў вецер мне за свата,
Што прынёс пылок жыццёвы...

Усміхнуліся нябёсы:
Падрастаюць побач дзеткі,
Купкай зеленавалосай
На мяне глядзяць прыветна!

Спаважнела, як не тая,
Разумею добра, здэцца:
Што каханнем называем,
Тое шчэ й жыццём завецца.

Совы, дзеці цёмнай ночы,
Тут, у нас, не маюць спрату...
Чалавек мяне азмрочыў:
Ломіць розгі, б'е ён брата!

*1857 г.*

## Мікола Хмяльніцкі

# АДАМ ПЛУГ

У гісторыі беларуска-польскага культурнага сумежжа шмат пісьменнікаў, якія выраслі і сфарміраваліся на яго абшарах, увабралі ў сваю творчасць «сокі беларускасці», але выявілі яе на польскай мове. Сярод іх — і асоба Адама Плуга. Яго спадчына адлюстравала нацыянальна-мастацкі вопыт і культурныя асаблівасці ўзаемадзеяння дзвюх этнічных сістэм.

Адам Плуг (Антоні Пяткевіч) нарадзіўся 23 кастрычніка 1823 года ў в. Замосце тагачасных Слуцкага павета Мінскай губерні. Бацькі — Антон, з беларускага роду Пяткевічаў, і Сузана, з Рагазінскіх, — валодалі невялікім фальваркам. Праз сем гадоў бацька будучага

пісьменніка пераязджае ў фальварак Жукаў Барок, атрымаўшы пасаду падлоўчага князёў Радзівілаў. Пазней маляўнічае апісанне гэтых мясцін дасць Уладзіслаў Сыракомля ў вядомым артыкуле «Вандроўкі па маіх былых ваколіцах»: «Пясчаным насыпам уязджаем у вёску Жукаў Барок. Працавіты люд праз стагоддзі ўрабіў гэтыя бязлюдныя пяскі: збажына навокал кусціцца буйней, чым ва ўсёй ваколіцы. Тутэйшыя людзі, сярэдняга росту, лагоднага, славянскага выразу твару, у чорных, з дамашняй воўны сярмягах, заклапочана снуюць па сваіх шнурах... Вёска балоцістая, бо ў нізіне, і хоць малая (у ёй можна налічыць ледзьве дзесяць хат), але дзякуючы свайму гожаму месцу на беразе Нёмана славіцца кузняй, млынам, царквою, плябаніяй, лясніцтвам, прасторнай новай карчмою і паромам на Нёмане».

Менавіта на прыгожым улонні гэтай зямлі прайшлі дзіцячыя і юнацкія гады Адама Плуга, з яе пахаў і фарбаў чэрпаў будучы паэт сваё натхненне, пад яе уплывам фарміравалася яго творчая індывідуальнасць. А Нёман, як успамінае паэт, «з празрыстымі хвалямі», «з дном, высланым залатым пяском», на берагах якога ён любіў назіраць захад сонца, стане найвышэйшым увасабленнем роднага краю на чужыне.

З 1835 па 1842 гг. Адам Плуг вучыцца ў Слуцкай гімназіі. Падчас вакацый у 1840 годзе ён пазнаёміўся і пасябраваў з сынам арандатара суседняга Залуча Людвікам Кандратовічам (Уладзіславам Сыракомлем), пад абаяннем музы якога паўставала і фармавалася яго ўласная творчасць. Цёплыя, сардэчныя адносіны Адам Плуг і Ул. Сыракомля захаваюць надоўга. І зноў жа, у пацвярджэнне гэтых слоў, звернемся да думак «вясковага лірніка», выказаных значна пазней: «Ад берагоў Днястра, ад берагоў Віліі, куды параскідала нас доля, сэрцам вяртаемся на пясчаны бераг Нёмана, каб там падумаць і заплакаць і ў сяброўскім абдымку падбадзёрыцца, набраць новых сіл у бясконцай жыццёвай дарозе». Дарэчы, юнакі, цалкам у духу часу, прысвяцілі адзін аднаму лірычныя творы («Гара Замчышча» А. Плуга і «Залом» Ул. Сыракомлі).

Пасля заканчэння гімназіі Плуг працуе хатнім настаўнікам на Падоле (Украіна), а з 1845 па 1846 гг. вучыцца ў Кіеўскім універсітэце на філасофска-літаратурным факультэце. Пасля вучобы ён зноў вымушаны заняцца настаўніцкай практыкай у Джурыне. У 1847 г. надрукаваны верш Плуга «Неба» ў часопісе «Атэнэум», які рэдагаваў Ю. І. Крашэўскі. А ў 1849 г., як сведчаць матэрыялы, малады пісьменнік напісаў на беларускай мове чатыры апавяданні і адну легенду (захавалася толькі — «Кручаная баба»).

У 1854 годзе здзейснена першае выданне паэтычнага зборніка «Родны загон». 1856 год стаў для Адама Плуга знамянальным: ён наведаў Беларусь — Мінск, дзе пазнаёміўся з В. Дуніным-Марцінкевічам і тагачасным культурным асяродкам горада, Палессе, фальварак Барэйкаўшчыну, дзе жыў Ул. Сыракомля. Пасля падарожжа пісьменнік бярэ шлюб з Людвікай Сержпутоўскай, дачкой рэферэнта Урадавай камісіі справядлівасці Каралеўства Польскага. У хуткім часе ён адмаўляецца ад арэнды в. Паток і пераязджае ў Жытомір, дзе разам з жонкай заснаваў мужчынскую гімназію. Менавіта ў гэты перыяд Адам Плуг цесна зближаецца з літаратурным колам Жытоміра, ядро якога складалі Ян Прусіноўскі, Аляксандр Гроза, Апола Кажанеўскі і Юзаф Крашэўскі.

У перыяд з 1859 па 1863 гг. выходзяць асобнай кнігай першы раман пісьменніка «Дух і кроў», а таксама два тамы «Поўнага збору твораў» у Жытоміры (серыя 1) і Вільні (серыя 2). На 1864—1866 гг. прыпадае турэмнае заняволенне Адама Плуга ў Жытоміры і Кіеве (за падтрымку паўстання). Але нягледзячы на гэта, пісьменнік актыўна перакладае творы Шэкспіра і іншых англамоўных аўтараў. Пасля вызвалення Плуг друкуе ў часопісе «Клосы» раманы «Афіцыяліст», «Бакалаўры», зноў працуе хатнім настаўнікам на Украіне.

У перыяд з 1874 па 1903 гг. (год смерці) Адам Плуг, пераехаўшы ў Варшаву, становіцца значнай фігурай літаратурнага асяродка горада: працуе сурэдактарам, а пасля і рэдактарам культурна-літаратурнага часопіса «Клосы», кіруе аддзелам часопіса «Вандровец», выконвае абавязкі рэдактара «Вялікай усеа-

гульнай ілюстраванай энцыклапедыі», з'яўляецца членам рэдакцыі газеты «Варшаўскі веснік». На старонках гэтых выданняў раскрываецца яго талент публіцыста.

Такім чынам, па волі лёсу і абставін Адам Плуг правёў большую частку свайго жыцця за межамі этнаграфічнай Беларусі. Мелася, канечне, вялікае спакушэнне, кантактуючы з польскай культурнай элітай, вырачыся свайго паходжання. Але любоў да роднай старонкі ён пранёс праз усё доўгае і нялёгкае жыццё. «Паэт, — успамінае польскі даследчык В. Гамуліцкі, — не пазбавіўся нават да канца дзён сваіх пявучага акцэнту ў мове, які яго адрозніваў ад мазураў. А тым больш, калі гаварыць пра музыку душы, што гучала праз цэлае яго жыццё, ад дзён маладосці і аж да сівой старасці, заўсёды ў той самай танальнасці».

Як указваюць некаторыя даследчыкі (напрыклад, А. Мальдзіс), Адам Плуг быў непасрэдна далучаны да стварэння беларускага літаратурна-асветніцкага гуртка. На працягу ўсяго жыцця Плуг падтрымліваў асабліва цесную сувязь з пісьменнікамі беларускага паходжання, пра што яскрава сведчыць яго літаратурная спадчына, у якой раскрываецца ўся разнастайнасць яго культурных і грамадскіх інтарэсаў. Магчыма, тлумачэнне гэтаму трэба шукаць не толькі ў аб'ектыўных прычынах, але і на ўзроўні генетычным, падсвядомым. Сказанае вышэй у пэўнай ступені пацвярджаюць прысвячэнні Адама Плуга сваім «братам па паходжанні і творчасці»: раман «Дух і кроў» ён прысвячае Ю. І. Крашэўскаму, зборнік «Хатні ўспамін» — Ігнату Ходзьку, Ул. Сыракомлю — вершаваную гавэнду «Жукаў Барок». А на працягу многіх гадоў у розных тагачасных газетах і часопісах будуць з'яўляцца факталагічныя і літаратуразнаўчыя артыкулы, прысвечаныя жыццю і творчасці вядомых сыноў Беларусі, яе памятным мясцінам («Слонім», 1874, «Напалеон Орда і яго альбом відарысаў», 1875, «Смольгаў: Роднае месца Ул. Сыракомлі», 1877, «Руіны замка ў Міры», 1877, «Аляксандар Ходзька», 1881 і інш.).

Нарадзіўшыся на Беларусі, ведаючы жывую беларускую мову, Адам Плуг прыхільна паставіўся да

творчасці В. Дуніна-Марцінкевіча, які свядома пачаў пісаць свае вершы на роднай мове.

Антоні Пяткевіч, успамінаючы Стаўбцоўшчыну, дзе правёў свае маладыя гады, не вагаўся прызнацца:

Куды хочуць, хай буры валочаць.
Я карэннем усцяж прырослы
Да зямлі дарагой і роднай.

*(Пераклад А. Лойкі)]*

Пейзажныя замалёўкі часта звязаныя ў вершаваных гавэндах Адама Плуга са шматлікімі беларускімі рэкамі. Першынство тут належыць, канечне, Нёману, які апявалі і Міцкевіч, Сыракомля.

Нягледзячы ні на якія перашкоды і складаныя перыпетыі лёсу, пісьменніку ніщто не магло замяніць хараство родных мясцін: «Гаварыце сабе што хочаце: хваліце, услаўляйце ваша Падолле, разам з Украінай, вашы стэпы бясконцыя, вашы ўзгоркі, і Днестр, і Буг, і Днепр вашы; я не захапляюся, не ўзношу; і хоць бы гаварылі, што прырода вялікая да лесу цягне, я заўсёды буду ўздыхаць па Палессі і Літве, па тых адвечных пушчах, па балотах і пясках, па лугах і азёрах; і ні адной кроплі не аддам з Нёмана за ўсе воды Дняпра, Буга і Днястра...» Гэта прызнанне, зробленае Адамам Плугам на самым пачатку творчага шляху ў 1849 годзе, стала скразным лейтматывам жыцця і дзейнасці пісьменніка.

І Міцкевіч, і Сыракомля, і Плуг жылі і творча сфармаваліся якраз у наднёманскім краі, таму акаляючая прырода шмат у чым прадвызначыла будучыя пейзажныя замалёўкі іх твораў. Менавіта вось гэтае духоўнае уладдзе, гармонія з роднай прыродай адрознівае Адама Плуга ад некаторых іншых тагачасных аўтараў, якія таксама імкнуліся паказаць прыгажосць Панямоння.

## Уладзіслаў Сыракомля

# УСПАМІН ПРА СЯБРА

*З кнігі «Вандроўкі па маіх былых ваколіцах»*

У тым дамку, у тым садзе правёў свае дзіцячыя гады малады, прызнаны грамадствам пісьменнік, аўтар *«Споведзі»*, *«Дзетазабойцы»*, *«Заразы»* і іншых твораў Антоні Пяткевіч, вядомы пад імем Адама Плуга. Таварыш яго дзіцячых гадоў, я добра помню маладога паэта ў акружэнні прыстойнай шляхецкай сям'і, у абдымках братоў і добрай маткі; помню тыя сціплыя пакоі, той садок у квецені і тыя добрыя сэрцы жыхароў дамка, гледзячы на якіх чалавек з замілаваннем думаў пра сціплую прастату продкаў. У мяне сціскаецца сэрца, калі чытаю ў прысвечаным мне вершы Плуга ўспамін пра тыя прыгожыя хвілі нашага ранку і адначасна горкі і праўдзівы зварот да рэчаіснасці:

Вунь яна, сядзіба продкаў, —
З садам тым, з гняздом бусліным,
З шустрых ластавак чародкай,
З буркатаннем галубіным.
Родны кут. Стаю, застылы.
Во наш дом бацькоўскі мілы.
Пацямнелі, збляклі сцены.
Дзе ты, час наш летуценны?
Жураўлінымі ключамі
Адляцеў ад нас імкліва.
Дом акенкамі-вачамі
На мяне глядзіць тужліва.
З палыном глухім ля клеці
Сумна шэпчацца унь вецер.
І сабака ў будцы вые...
А ці помніш, як, бывала,
Дружа, ўсё тут шчасцем грала?
Пойдзем к хаце... Ах, мой браце:
Людзі іншыя, чужыя
Там цяпер гаспадарамі;
Могуць дзверы ў нашай хаце
Зачыніць яны прад намі.

Дзе ж цябе я прывітаю?
Хай кутка, мой друг, не маю,
Дзе б цябе я хоць часамі
З распасцёртымі рукамі
Мог сустрэць каля парогу
І абняць, мой любы дружа,
Ды я маю, дзякуй Богу,
Сэрца, што кахае дужа.
Ты у ім, калі ні зойдзеш,
Дом наш даўні, родны знойдзеш.

І праўда, малады паэце: яшчэ ў нашых сэрцах знойдзем сябе. Ад берагоў Днястра, ад берагоў Віліі, куды параскідала нас доля, мы, поўныя ўспамінаў, сэрцам вяртаемся на пясчаны бераг Нёмана, каб там падумаць і заплакаць і ў сяброўскім абдымку падбадзёрыцца, набраць новых сіл у бясконцай жыццёвай дарозе.

*1853 г.*

## Уладзімір Мароз

### СЦЯЖЫНКІ

А кола — скрып, а кола — круць,
Свой рэй вядзе неадмыслова.
Старыя сцежкі зарастуць,
Другія вытапчам нанова.

Адна да рэчкі па ваду
Калісь вяла праз шум лазовы.
Пайду знячэўку — не знайду
Пругменя з Нёмнам перазовы.

А тая ў вёску па мяжы
Ад хутара таптала проста.
Прапалі межы, не кажы,
Як і ля броду гульняў востраў.

І да калодзежа ішла...
Буцвее й тут — вада ж у хаце.
Знайсці б які аскепак шкла,
Дзяцінства каб убачыць, браце.

Цяпер яно тваіх дзяцей.
Для іх і свежая сцяжынка
Праз новы лес, бо так лацвей,
Бліжэй вада і азярынка.

І ўсё ж да Нёмана, і ўсё ж
Нязменны й звонкі спеў птушыны,
Без змен і ранак басаНож...
А каля хаты — след машыны.

## Фёдар Бандаровіч

*(г. Стоўбцы)*

## РАЗВАГА НА БЕРАЗЕ НЁМАНА

Магчыма, будзе непатольнай смага —
Жывой вады я не пайду шукаць,
Вярнуся да цябе, мая Развага,
Ручай, рачулка, рэчанька, рака.

Скажы, ну як маглі ў табе ўмясціцца,
Ну як маглі напоўніцца табой
Усё неба неабдымнае дзяцінства
І акіянскі велічны прыбой?

Хлапчук бялявы пільна хвалі лічыць,
На дне шукае знічкі жніўня ён.
А што яго ў далёкі шлях пакліча,
Ці кліч трубы, ці ціхі сонца звон?

Спяшаешся. Да Нёмана далёка,
І трэба не адзін зрабіць віток.

І я таксама мару стаць прытокам,
Бо ад крыніцы свой бяру выток.

І мне трывожна, каб не збіцца дзесьці,
Пераадолець грозную сцяну,
Не распляскаць, крышталЬнымі данесці
Усю дабрату крыніц і чысціню.

На поўдні вырастае навальніца —
Тваё крыло.
А я што нараджу,
Ці здолею гаючаю праліцца
Хаця б адзінай кропляю дажджу?

Маё дзяцінства, роздум мой і прага
Да светлага і ў справах, і ў радках,
Ціхуткая, нястомная Развага,
Ручай, рачулка, рэчанька, рака.

## КАСЦЕНЧЫК

Авенір Касценчык, камандзір самалёта «Ілья Мурамец», узнагароджаны ордэнам Святога Георгія за подзвіг у першай сусветнай вайне, апошнія гады жыцця правёў у Стоўбцах, дзе быў псаломшчыкам у царкве.

Настылыя царквы спусцелай сцены,
Святло лампады слодычна дрыжыць.
Пара, пара дамоў ужо, дзяк Касценчык,
Спачын патрэбен целу і душы.
Так велічна-недасягальна гонкі
Над горадам, над светам Божы Храм.
Схіліўся да бажніцы, да іконкі.
Пара, святар, нарэшце нам пара.
Малюся і хрышчуся, і пашчуся
За ўсіх міран, за іхнія грахі.
З узгорка ад царквы уніз спушчуся

Да вольнай плыні Нёмана-ракі.
Спынюся я, мо скруху ахалодзіць
Ля ног струмень халоднае вады.
І ў памяці яскрава зноў прыходзіць
Той добры час, калі быў малады.
І я лятаў вышэй за вольных птушак,
А зразумець не здолеў я, не змог:
Палёт — імкненне і крылатасць душаў,
А вышыня й бязмежнасць — гэта Бог.
Зрадніўся з небам сонечным і сінім,
Ды прымхі мо спакусліва звялі.
І стаў аблудным, недастойным сынам
На зблуджанай, зняверанай зямлі.
Упартым быў і ганарліва-гордым,
А ў сутнасці нікчэмным і сляпым.
Георгія далі за подзвіг ордэн.
За кроў і слёзы.
Дык чаму ж святы?
На ўсё ёсць суд і Боская ў тым воля.
А супраць праўды прагне цемры зло.
Як селяніну для работы поле,
Як кесару-правіцелю жазло,
Заведзены парадак быў спрадвеку,
Каб меўся на зямлі спакой і мір.
Ці ж грэшнаму патрэбны чалавеку,
Як птушцы вольнай, крылы, Авенір?
І соладка, і голасна, і ўзнёсла
Плыве царкоўны велічальны звон.
Спачын смяротны там, дзе Храм нябесны,
Жыццё ж няўцямны, недарэчны сон?
Ды шэпча ціха ў вербалозах вецер,
Рачная плынь пад промнямі дрыжыць:
Пакінуў добры след ты ў гэтым свеце,
Калі Радзіме, людзям ты служыў.
Угодна Богу, калі жыў сумленна,
І болем смерч вайны, а не віной,
І апраўданне ёсць, і ёсць збавенне,
І вырастаюць крылы за спіной.

## Мікола Дземідовіч

# НЁМАНСКІ РОЗДУМ

Над журавінавым світаннем —
Журба адлётных жураваў.
І так далёка да вяртання
Прапахлых квеценню вятроў.
Ды мы смуткуем не аб гэтым —
Не аб згасанні ўлоння, друг:
Усё ў пару — зіма ці лета —
На свой вяртаецца на круг.
Апалы жоўты ліст асенні
Зялёным вернецца лістком,
І птах, што песню жальбы сее,
Вясною знойдзе родны дом.
А мы і верасні, і маі
Праводзім, як за ветрам дым.
Як незваротна мы губляем
Свае хвіліны, дні, гады...
І часта з радасцю набыткаў
Сумленных дум і смелых спраў
Мы заўважаем, што нібыта
Сябе з нас кожны абакраў:
Што недзе баязліва здрадзіў
Юнацкай мары неўпапад,
Ці на пустое парастраціў
Пачуцці й сілы...
Страт зашмат:
Недакахаў, не дакрануўся
Ка мне працягнутай рукі.
Там над крынічкай не сагнуўся,
Тут не ступіў у плынь ракі...
Лістоты восеньскай залева
Шпурляе золата і медзь.
Жыццё ж, мой друг, такое дрэва,
Якому ўпарта зелянець.
Пакуль трывожыць роздум сэрца,
Мацуй надзеі карані.
І тое, што згубіў, здаецца,
Душэўнай працаю вярні.

## ВЯРТАЮЦЦА РЭКІ

Вяртаюцца рэкі да светлых вытокаў,
Каб іх наталіць навальнічным дажджом.
І кожнага з нас выглядае здалёку
І прагна чакае пакінуты дом.
Пад стрэхамі, дзе не бывала нам цесна,
Дзе пуста і ціха нязвыкла без нас,
Трывожацца ластаўкі матчыных песняў
І хмарацца бацькавы бровы не раз...
Вяртаемся мы.
Не затым, каб пазбыцца
З дарогі трывогі, нацешыцца сном,
Вяртаемся зноў мы і зноў,
каб натхніцца
Дабром і любоўю пачутых тут слоў.
І зноў пакідаем, іх праўды нашчадкі,
Свой родны, з якога мы выраслі, кут.
Тут нашых дарог незабыты пачатак,
Працяг неспакою,
трывог нашых — тут.

### Мікола Камароўскі

*(в. Мікалаеўшчына)*

## НЁМАН

Казалі, плытагонам быў мой дзед.
Памёр — было гадоў за дзевяноста.
Пражыў амаль паўвека на вадзе,
Так і сканаў на соснах тых выносных,
Што скрыгаталі грозна на вірах
І несліся па Нёмане не блізка:
Ад беларускіх пушчаў многа раз
Туды, да невядомага Балтыйскага.
Не Бога дзед, а Нёман свой прасіў,
Каб не шалеў, не страшыў мелкім гакам.

І Нёман прыкладаў нямала сіл,
Каб дзеці дзесь галодныя не плакалі.
Памахвалі купцы: — Ура, ура! —
Ўсміхаліся, падкручваючы вусы,
Што прыплылі на ссечаных барах
З далёкай Беларусі беларусы.
А Нёман паміж круч няспынна цёк,
Ламаў ільды, за берагі выходзіў,
Струменіў непакорна праз жыццё,
Нібыта браў вытокі ў народзе.
І сёння я стаю на круцізне.
Тут землякі ляжаць, гніюць чужынцы,
Што пабывалі ў нашай старане,
Каб з нёманскай вадой крыві напіцца.
Вакол да болю родная зямля,
Высокі бераг хвалі ціха песцяць,
Ізноў плыты плывуць у дальні шлях,
І над лугамі гукі родных песень,
І Нёман, нібы плынь сівых вякоў,
Іх мудрасць і глыбінная іх сіла,
Як напамінак прадзедаў, дзядоў,
Што Беларусь нас узрасціла.

## Паўлюк Міцкевіч

## МІКАЛАЎШЧЫНА

Ох, мікалаўская прырода!
Які абсяг! Ураз свабода
Апаноўвае табою.
Адпачнеш ты тут душою,
Як пабачыш гэта поле,
Лес спрадвечны, неба тое,
Дзе, узняўшы крылы вольна,
Бусел лётае павольна
Па-над Нёмнам, над узгоркам...

Але Нёман... Зноўку, зноўку
Ўспамінаю рэчку тую,
Гэту горачку крутую.
На яе, бывала, ўзлезеш
І вачам аж не паверыш:
Прыгажосць жа тут якая!
Бы малюнак — выглядае,
Між лугоў, палян уецца,
Сіняй стужкаю здаецца
Цудадзейны гэты Нёман,
Зліўся ў песню плыняў гоман,
Шум лясоў, вятроў свавольных,
Спеў ласкавы птушак вольных.
Гэты кут мне будзе сніцца...
Ну дык ці ж не нарадзіцца,
Каб апець прыроду гэту
Тут цудоўнаму паэту?!

І якраз у гэтым краі,
Каля Нёмна, каля гаю,
Мікалаўшчына ляжыць.
Праз раку тут мост вісіць.
Ты яго ўжо як мінаеш,
Ў Мікалаўшчыну трапляеш.
Тут прыгожа, ў вёсцы гэтай,
У будыніне прыкметнай
Шчэ ад Нёмна бачна школа.
Вуліцы, дамы наўкола.
І на вежы, што на ўзгорку,
Бусел белы надвячоркам.
А на Нёмане, ля моста,
Утварыўся ладны востраў.
Пекна ў нёманскай вадзіцы
Гэта выскачка глядзіцца.
Маляўнічы, дзіўны кут.
Як прыгожа ўлетку тут!

## Васіль Сухаверх

*(в. Мікалаеўшчына)*

### РЫБАК

Прасядзеў не мала,
Плоткі не клююць.
Рыбаковы мары
Хмаркамі плывуць.

Рыбы не налоўлена... —
Можа, гэта й лепш.
Месяц ноччу ў Нёмане
Плешчацца, як лешч.

## Зоя Калкоўская

*(в. Шашкі)*

### РОДНЫ КУТ

Мой родны кут, мая Стаўбцоўшчына —
Шашкі, Кляцішча, Мархачоўшчына...
А ў нас не горш, чым у Амерыцы,
Тут кожны словам сэрца грэецца:
Зайдзі ў кожную тут хату,
Яна на таленты багата.
Дзяўчаты водзяць карагоды —
І адступаюцца нягоды.
Тут мастакі жывуць, паэты,
Любоўю старасць абагрэта.
Нам Нёман падарыў натхненне,
Зямліца — мудрасць і цярпенне.
Тут і журлівая Сула
Праз нашы сэрцы працякла.
Ярчэй зарніцы нават свецяць.
Прайдзі паўсюль па белым свеце —
Другія дзе ты знойдзеш Дудкі?
Тут праўдай дыхаюць пагудкі.

А завітаеш у Ругаец —
Перабяжыць дарогу заяц.
Наўкола дзе дрымучы лес?
Вы адгадалі: так, Трылес.
Ёсць і Пяшчанец, і Трасянка...
А мова наша — не трасянка.
Тут памяць беражэ дзядоў:
Унукаў водзяць да кладоў.

**Алесь Мазур**

*(в. Стары Свержань)*

## ВЫТОКІ

Ты святая, зямля,
Ты святая, рака,
І святое ты, сонца!
Тут пачатак жыцця
І вытокі мае —
Храм дзівосна-жывы,
Дзе святое бясконца...

## У РОДНАЙ ВЁСЦЫ

Над маёю роднай вёскай Стары Свержань
Устае паволі новы дзень.
Павявае з поўдня ветрык свежы,
Мак чырвоны вабіць на градзе.

У гародчыку клубніцы спеюць,
Пахне мятай у настоі траў...
Зноў я дома, сэрцам лагаднею,
Бо спаткання гэтага чакаў.

Кут бацькоўскі, родная зямліца,
Хіба ж я магу без вас пражыць?!
Дай паветрам гэтым наталіцца,
Дай папіць з тваіх святых крыніц!

## Аркадзь Змачынскі

# НЁМАНА ХВАЛІ

Рана так, напрадвесні,
Нёман, ты абудзіўся.
Зняўшы панцыр лядовы,
Так шырока разліўся.
І зямельку так чыста
Веснавой мыў вадою,
Многа рознага бруду
Хвалі знеслі з сабою.
Уешся светлаю стужкай
Між палямі, лясамі
Па зямлі беларускай
З гулкімі берагамі.
Дзе пад промнямі сонца
У лугах дываны,
Я хадзіў па пракосе
Шаўкавістай травы.
І дзяўчаты гурбою
Грэблі там сенажаць.
Па-над срэбнай вадою
Згадкі-песні ляцяць.
Там ад стомы і спёкі
Ногі ў дол апускалі,
Іх празрыстай вадою
Твае лашчылі хвалі.
Так і я прытаміўся,
Захацеў прахалоды,
З галавой акунуцца
У крыштальныя воды.
Як прыемны абдымкі,
Столькі ў іх асалоды.
Ах ты Нёман, мой Нёман!
Лёгка стому здымалі
І як лашчылі сэрца
Твае родныя хвалі.
Хуткаплыннае лета
Адляціць, адгамоніць.
Новай песняй няспетай
Будзе радаваць Нёман.

**Эльвіра Ярчак**

## ПА СЦЕЖКАХ КОЛАСА ІДУ...

На схіле дня, перад змярканнем,
Гучыць мелодыяй расстання
Асенні сонечны матыў
У хвалях нёманскай вады.
О Нёман, як я ўдзячна лёсу,
Што ля тваіх блукаю плёсаў,
Па сцежках Коласа іду,
Што ў Смольню мілую вядуць.
Хадзіў калісь тут дзядзька Колас
І вершы тут чытаў уголас
Сваім цудоўным землякам,
І шліфавала рытм рака,
А рыфмы хвоі падказалі —
На кручах нёманскіх стаялі,
Спусціўшы ножкі да вады,
Стаяць і сёння, як тады...
А волаты-дубы над рэчкай!
А там — Ласток, Альбуць-Парэчча,
Яны хвалююць сэрца мне,
Я нават бачу іх у сне.
О край паэтаў — Наднямонне!
Каго народзіш ты сягоння?
Якое ж сэрца трэба мець,
Каб так зямлю сваю апець?
Схаваўся час той за гарою,
Калі тут Колас шчыраваў,
Шчаслівы быў ці гараваў,
Ды родны край любіў аддана,
Пісаў аб ім так закахана,
Што той паэзіі жыць вечна,
Бо ў ёй сам Нёман шумнацечны.

## Уладзіслаў Сыракомля

# НЁМАН АД ВЫТОКАЎ ДА ВУСЦЯ

### § 8

Па адкрытых сенажацях, сям-там з правага боку аздобленых зараснікамі бярозак і дубоў, Нёман пасля мілявой прамой дарогі падмывае і абсыпае пяском доўгую вёску **Бярэзьна,** усе мужчыны з якой займаюцца выключна сплавам. Па спрытнасці і веданні майстэрства тутэйшыя штурвальныя ўступаюць толькі **шчорсаўскім.** Перад вёскай Бярэзьна Нёман з правага боку прымае рэчку трэцяй катэгорыі **Сулу.**

Паўтары мілі Нёман плыве па лесе. Маючы з аднаго боку выган, з другога — узвышша, Нёман значна паварочвае на поўдзень і сустракае малое мястэчка **Ярэмічы,** з левага ж боку забірае рэчку **Ушу.**

### § 9

Вярнуўшы зноў паўночна-заходні кірунак, пасля некалькі міляў з левага боку, каля вёскі **Калейдзіна** ён прымае ў сваё ўлонне рэчку **Сервеч.** Гэта непадалёку ад гістарычных **Шчорсаў,** размешчаных на левым беразе. Я кажу гістарычных, бо так мае права называцца ўладанне польскага магната, дзе яшчэ перад падзелам Польшчы шчыра падумалі пра лёс мужыка: абклалі аброкам, з вялізных вёсак перасялілі на асобныя зямельныя надзелы, паадкрывалі школы, а ў маёнтку і сялянскіх сялібах адмовіліся ад старой руціны і ўвялі прагрэсіўную сельскую гаспадарку.

Усё гэта было справай добрай і разумнай волі Іяахіма Храптовіча, намесніка літоўскага канцлера, а потым яго сына Адама, які памёр у 1844 годзе.

Хто ж не чуў пра славутую **Шчорсаўскую бібліятэку,** у якой знаходзілася каля 10000 тамоў толькі польскіх твораў, у тым ліку мноства рэдкасных выданняў і рукапісаў, дзе неацэнныя скарбы ведаў чэрпалі нашыя найлепшыя даследчыкі літаратуры і гісторыі І. Лель, Даніловіч, А. Міцкевіч, Я. Ярашэвіч і многія іншыя.

Сярод навагрудскай шляхты Шчорсы славіліся таксама сваім **півам.** Патрэба вытворчасці гэтага напітку даказвае, што селянін адзвычайваўся тут ад шкоднай гарэлкі значна раней, чым настала імкненне духавенства прывіць людзям дабро, устрыманне ад шкодных звычак.

Выкарыстоўваючы блізкасць Нёмана, тутэйшыя жыхары працавалі на сплаве. Штурвальныя і плытагоны лічыліся майстрамі сваёй справы і карысталіся вялікім попытам. І нічога дзіўнага: свабода, трохі асветы, а ўслед за гэтым добры быт развілі ў селяніне інтэлігентнасць, фізічную моц.

Дзякуючы ўрадлівасці глебы і яе руплівай апрацоўцы тутэйшыя землі даюць вялікія ўраджаі, у той час, калі правы бераг Нёмана, што належыць да маёмасці **налібоцкіх** у **Радзівілаўшчыне,** пакрываюць лясы, пяскі ды балоты.

## § 10

Прабегшы за Шчорсамі дзве з паловай мілі па прамой лініі (калі ж улічыць усе выгіны, то будзе ўсе тры), прыняўшы з правага боку рэчкі: **Чорная, Буйная, Кроманіца,** якая выплывае з возера Кромань у налібоцкіх лясах, ды **Быстрая** або **Дудак,** а з левага — некалькі ручаёў, Нёман робіць паварот каля мястэчка **Любч.**

Славутая гэта ў літоўскай гісторыі мясціна, бо памятная яшчэ з часоў вялікага князя Міндоўга, які ў 1250 годзе, пажадаўшы прыняць хрысціянства, па даручэнні рымскага Папы пабудаваў тут першы ў Літве кафедральны касцёл. Першы тутэйшы епіскап Віт Дамінікавіч Поляк ахрысціў Міндоўга і яго падданых. Епіскап працаваў самааддана, аднак калі некалькі гадоў пазней Міндоўг адмовіўся ад хрысціянства, язычні-

кі пабілі і выгналі святара і ў 1269 годзе ён памёр у Кракаве.

У 1499 годзе кароль Аляксандр горад Любч аддаў літоўскаму скарбніку Фёдару Храптовічу. Потым гэтая маёмасць пераходзіла ў рукі Гаштольдаў, Кішкаў і Радзівілаў. Кішкі і Радзівілы веры рэфарматарскай, і таму тут знайшлі знакаміты прытулак кальвіністы: літоўскія арыянцы. Тутэйшы **дысыдэнцкі касцёл**, заснаваны Янам Кішкам і адораны Радзівіламі, праіснаваў да 1730 года, калі каталікі яго разбурылі і спалілі. Найболей вядомымі пастарамі тутэйшага касцёла былі: Марцін Няверскі, Адам Воўк, Самуіл Мінвід, Гржэгас з Жарноўца ды іншыя.

На працягу першай паловы семнаццатага стагоддзя тут квітнела друкарня, спярша ў фірме Пятра і яго сына Яна Бляс-Кмітаў, потым Яна Лянге. Найбольш вартымі творамі, выдадзенымі ў Кмітаў, з'яўляюцца: «Прыказкі» (1612) і «Псалтыр» Рысінскага (1614). Іншыя апублікаваныя тут творы ў сваёй большасці рэлігійныя, у духу арыянскім і кальвініскім. «Эксцытаж» (узбуджальнік) Юзафа Даманоўскага (1623), гумарыстычныя творы Беняша Буднага выйшлі ў Яна Кміты. Там жа — пропаведзі Шонфлісіуса і пропаведзі на пахаванні Кшыштафа Радзівіла, гетмана літоўскага Самуэля Мінвіда, Яна Астроўскага, Яна Бялкоўскага і Самуэля Тамашэўскага (1641); у кнігадрукарні Яна Лянге выйшаў між іншым **«Гадзіннік»** або памятка горкай пакуты Рана Езуса пад аўтарствам Яна Гласкоўскага (1683) і некалькі пропаведзяў Анджэя Шонфлісіуса.

Як Шчорсы півам, так Любч даўно славіўся сваім лакам. Гэтая вытворчасць сёння паменшылася, аднак **любчанскі лак,** які вандроўныя крамнікі разносяць па маёнтках, мае выдатную вадкавасць і эластычнасць — рысы добрай вытворчасці. Яму толькі не хапае больш яркага колеру, каб ён не ўступаў замежным.

Не маючы зараз пад рукой твора Бандке пра друкарні, поўны спіс Любчанскіх выданняў паведаміць не можам; таму абмяжоўваемся тым, што помнім альбо што ёсць у нашай бібліятэцы.

## § 11

Плывучы ўжо больш проста і паглынаючы па дарозе з правага боку рэчку **Парадніцу,** а з левага — тры або чатыры залівы ды рэчку **Хадосу,** пасля мілі ад Любча Нёман даходзіць да мястэчка **Дзелятычы.** Дзелятычы і Любч сталі ўласнасцю Радзівілаў пасля Яна Кішкі. Мясціна гэта нябогая. Аднак сумесна з Любчай яна вядзе невялікі гандаль на віцінах з Крулеўцам. Пасля мілявай вельмі пакручастай вандроўкі Нёман з правага боку прымае даволі вялікую рэчку **Іслач** і даплывае да мястэчка **Мікалаева,** а потым, праз некалькі міляў — да вёскі **Марынь,** дзе канчаецца Навагрудскі павет, і непадалёку сутыкаюцца граніцы губерняў Мінскай, Гродзенскай і Віленскай.

Прастору ад дзесяці да дванаццаці міляў можна акрэсліць у некалькіх словах: па правай руцэ цягнуцца вялікія лясы і бязмежныя балоты, з якіх выплывае некалькі рэчак. Сам Нёман пакручасты, бо шукае рэчышча паміж глеістым і балотным слоем зямлі, а берагі мае пясчаныя, у большасці вербалозам зарослыя. Ягоны левы бераг, дзе знаходзіцца Навагрудскі павет, гарысты, ураджайны, аздоблены прыгожымі дубамі, клёнам і бярозай. Народ тут статны, прыгожы, заможны, гаворыць па-русінску.

## § 12

Ад Мараня, ля якога ў Нёман упадае рака Пліса, ён, уступіўшы ў межы Віленскай губерні, павольна, вельмі пакручаста паварочваецца на поўдзень. Ад Марыня да вёскі **Дакудава,** ля якой Нёман плыве, налічваецца трохі болей дзвюх міляў. Калі ж палічыць усе 19 яго паваротаў, гэтая адлегласць складзе каля чатырох міляў. На гэтай прасторы ў Нёман упадаюць: з правага боку рака **Гаўя,** з левага невялікія рэчкі **Балайцы** і **Даламлянка.** На правым беразе Нёмана залягаюць далятыцкія і дакудаўскія лясы з выдатнай драўнінай і буйным зверам, здольныя яшчэ даць уяўленне аб старых пушчах літоўскіх. Левы ж бераг весялейшы і больш разнастайны, вызначаецца лепшай гле-

бай, аднак не на многа большай колькасцю насельніцтва. У Дакудаве была пратэстанцкая рэлігійная супол-ка, якая перастала існаваць у палове васемнаццатага стагоддзя.

## § 13

Ад Дакудава да мястэчка **Беліцы**, куды, калі па прамой лічыць, будзе тры мілі, з паваротамі ж, без сумнення, прыбудзе і чацвёртая. Дык вось тут у Нёман упадаюць: з правага боку рэчка **Дзітва**, непадалёку злучаная з **Лідояй**, з левага — спалучаныя з сабой **Кжамешаўка** і **Налібоўка**, а далей **Чорная**, **Ізва**, **Прудовая**, урэшце **Мульчанка** і **Нёманак**, якія злучаюцца з Нёманам у самой Беліцы.

Беліца, дзякуючы шчодрасці караля Зыгмунта-Аўгуста, дасталася Радзівілам біржанскай лініі, якія, як і ўсюды ў сваіх маёнтках, пабудавалі ды абсталявалі царкву з суполкай гельвецкай веры. Тут праводзілі славутыя сіноды кальвіністаў і служылі вядомыя тутэйшыя пастары: Гжэгаж з Жарноўца, Ян Краінскі, Гадэон і Якуб Рачынскіх ды іншыя.

## § 14

Ад Беліцы да мястэчка **Орлі** і далей да вусця Шчары Нёман, быццам вужака, круціцца ў бясконцых паваротах і рашуча нахіляецца на поўдзень. З правага боку ў яго ўпадае рака **Лябёдка**, з левага — **Вязовая**, а таксама з ім злучаецца мноства затокаў і азёры **Ландарэя**, **Звярынец**.

## § 15

У найболей высунутай на поўдзень лукавіне ўпадае ў Нёман рэчка **Шчара**, якая з дапамогай канала Агінскага злучае Чорнае мора з Балтыкай. Варта сказаць пару слоў і пра гэты канал.

Рэчкі **Прыпяць** і **Ясельда**, шырокія і здатныя для сплаву, выцякаюць з польскіх балотаў на Піншчыне. Злучыўшыся каля вёскі Вулька, яны працяг-

ваюць свой шлях праз Тураў, Петрыкаў і г. д. на Украіну, дзе ўпадаюць у Днепр і потым — у **Чорнае мора.**

Рэчка **Шчара** выплывае ў павеце Навагрудскім з возера **Калдычэва,** а прабегшы каля шасці міляў у многіх выкрунтасах, уваходзіць у Слуцкі павет, дзе лукавінай даўжынёй чатыры мілі паварочваецца на ўсход. Далей, прыбраўшы некалькі рачулак, ідзе крута на захад, размяжоўваючы Пінскі і Навагрудскі паветы. Потым яна ўваходзіць у Гродзенскую губерню: мінае Слонім, Бытэнь і многа іншых мясцін, а непадалёку ад мястэчка Масты трапляе ў Нёман і разам з ім плыве ў **Балтыйскае мора.**

Перадапошні літоўскі гетман Міхал Агінскі вырашыў злучыць гэтыя два моры пры пасрэдніцтве рэчкі Шчары з гэтай мэтай там, дзе Ясельда пачынае быць суднаходнай — дзве мілі ад Пінска, пачынаючы ад вёскі **Масевіч** — ён за свае сродкі загадаў капаць канал да Шчары даўжынёй дзевяць міляў, праз пінскую пустыню, уключаючы ў яго два возеры: **Тэлеханскае** і **Святніцкае.** Праца ішла хутка, бо ўжо ў 1768 годзе Сейм высока ацаніў дзейнасць Агінскага, вырашыўшы паставіць яму помнік, падарыць вёску Мышкаўцы і прызначыць даходы мястэчка Лагішына на ўтрыманне канала.

На Гродзеншчыне, дзе быў старастам, ён выпраставаў рэчышча Шчары.

У Слоніме, дзе ён пабудаваў палац, тэатр, рамесленыя прадпрыемствы і друкарню, Агінскі мог радавацца, калі бачыў сотні суднаў, што плылі з Піншчыны і ў Піншчыну, а таксама безліч драўляных плытоў, што цягнуліся да Нёмана і па ім плылі да Круляўца.

Трагічныя выпадкі ў краіне спынілі заканчэнне працы, але пасля падзелу Польшчы рускі ўрад завяршыў будаўніцтва канала ў 1802 годзе.

Прускі інжынер Вуцке сведчыць, што ў Круляўцы бачыў два пінскія судны, з якіх адно было памерам 63 футы ў даўжыню і 12 у шырыню, другое 60 х 11 футаў з заглыбленнем 3 футы. Гэтыя судны прыйшлі з Чорнага мора ў Балтыйскае па Дняпры, Прыпяці і канале Агінскага.

## Раман Тармола-Мірскі

# ДАРОГА ДАРОГ

О Нёман—
 дарога дарог
Прамая і пакручастая...
Яе будаваў сам Бог
Няпыльнаю і вачастаю.
А колькі прайшло людзей
Па ёй — нікім не падлічана...
Вяла і зараз вядзе
Да родных вёсак з крыніцамі,
З мястэчкамі па баках,
З шумнымі гарадамі,
Дзе шчасце цвіце і жах
Месціцца разам з намі.
І — ні слядочка ад ног
На гэтай дарозе стагоддзямі,
Ля самай вады мурог
Ды песні самотнай праводзіны.
Ля гэтага шляху не раз
Душа і мая пакутавала.
Не ўсё загойвае час,
А колькі туман захутвае...
Мой сын, калі ў сэрцы боль
За край у прыціхлым гомане,
Што сыпаць на раны соль,
Ты ж — беларускі нёманец,
Раўняйся не на народ
(Адзінку часцей абстрактную) —
Ламі над Айчынай лёд,
Як Нёман, хоць справа мо стратная...
Але ж мы прыходзім у свет,
Каб з годнасцю мець заручыны.
Вада пакідае след!
Скуль сілы — у Нёмна сакрэт,
Нікім ён і не прыручаны...
То разальецца да хат,
То звузіцца недзе да нітачкі,

Плыве праз роспач і гвалт
Паўзбоч гістарычных дат
І кідае выспы, як вытачкі...
Нам, людзям, у русле сваім
Так часта бывае няўлежна.
А Нёман заўжды незалежны!
Ніхто не камандуе ім.

## БАЦЬКАЎШЧЫНА

Ад Міра і да Карэліч
Ні лясоў табе, ні гор,
Днём хіба што сонца веліч,
Па начах — вялікасць зор.
Ды Пясочнае з пясочкам.
Ды не турак, а Турэц
Стаў з царквою на грудочку,
Як задзірысты хлапец.
Не звініць Уша на вуха,
Так разважліва плыве,
Што зусім нябачна руху,
Быццам спіць яна ў траве.
Чым тады мяне сагрэлі
Вёрсты?.. Хоць крычы «ура»
Ад Міра і да Карэліч,
Ад Карэліч да Міра.
Ці не тою стрэмкай вострай,
Што з маленства ў нас сядзіць
Незалежна ад узросту,
Як страла, трымціць, трымціць...
Слёзы просяцца на волю
З-пад прыжмураных павек...
БАЦЬКАЎШЧЫНА — гэта доля,
Гэта доля — чалавек.
БАЦЬКАЎШЧЫНА — гэта памяць,
Ля якой гавее час,
Радасць на душы ці замець
Кожны дзень... І кожны раз...

## Уладзіслаў Сыракомля

# ДАРОГА ДА МІРА

*З кнігі «Вандроўкі па маіх былых ваколіцах»*

Пераправіўшыся ў Жукавым Барку праз Нёман, мы трапляем на яго заходнім беразе ў нізіну, прывабную для вока, але вельмі небяспечную для вандроўніка, які змушаны перасякаць тут сухія і мокрыя канавы і ручаіны, кружыць удоўж і ўпоперак па гразкім балоце. Удосталь пакружыўшыся тут, мы ўрэшце выязджаем на шырокую пясчаную дарогу, што вядзе на паўднёвы захад, да Міра.

З гэтай нізіны цікаўнае вока, скіроўваючыся і назад, і ўперад, убачыць усю розніцу ў краявідзе краіны па двух баках Нёмана: там, за ракой, адкуль мы рухаемся, сінеюць хваёвыя лясы, ярчэй зелянеюць наднёманскія астраўкі дрэў і гэты *«ракітавы вянок»*, што аздабляе чало Нёмана. Адтуль, ад вады і з лясоў, даляталоць да нас спевы птаства, бо мы ездзім раніцай; а перад намі — голая пясчаная раўніна, высокія пясчаныя ўзгоркі, бедная расліннасць. Уся безабаронная краіна, аддадзеная ва ўладу віхур і спякоты, выклікае ўражанне нейкай паныласці. Направа ад нас цягнецца ў далечыні ўзбярэжжа Нёмана, налева пачынаюцца высокія ўзгоркі (на адным з іх — даўні шведскі акоп) — яны служаць як бы пераходам да больш урадлівых ваколіц, здольных карміць многія вялікія вёскі і засценкі. Дарога адкрывае перад нашымі вачамі стэп, дзе відаць толькі крыжы, дахі далёкіх сялянскіх хат і дзе-нідзе адзінокія купкі дрэў. Гэта адзіныя дэмаркацыйныя пункты, якія паказваюць дарогу таму, хто яе ведае і без іх; той жа, хто яе не ведае, пэўна, заблудзіцца сярод гэтых пясчаных палёў і ўзгоркаў, на гэтай сетцы дарог і дарожак, што вядуць немаведама куды.

* * *

З боку Жукавага Барка ўязджаеш у Мір: усе больш арыстакратычныя будынкі недзе пахаваліся, перад намі ж — вуліца мяшчанскіх дамоў і хлявоў, што нагадваюць вёску. Толькі карчма пры самым уездзе — гэтая пастка на сялян, якія прыязджаюць у горад, і купкі бруднага і лянівага яўрэйства напамінаюць мястэчка. Вязнучы ў гразі, якой Мір славіцца сярод іншых тутэйшых гарадоў, потым патрэсваючыся па выкладзеным нячастымі камянямі бруку, які, мусіць, помніць яшчэ паганскія часы — такі мае варварскі выгляд, — едзем на рынак, рухаемся міма ранейшай базыльянскай, а цяпер грэчаскай царквы і паміж крам, змураваных у два рады, паглядных знадворку, але пустых усярэдзіне, уцякаючы ад чарады крыклівых яўрэяў абодвага полу, якія расхвальваюць свае рэдкія тавары, сунімаемся нарэшце перад старасвецкім мураваным касцёлам са званіцай, таксама мураванай, толькі ўжо новай, у нейкім няпэўным архітэктурным стылі.

Калі паварочваем улева і едзем па вуліцы, што вядзе на Нясвіж, перад нашымі вачыма ўстае ва ўсёй веліччы сваіх руінаў Мірскі замак, да якога ад касцёла будзе з тысячу крокаў. Спяшаемся паглядзець на прыгожы помнік дойлідства першых гадоў шаснаццатага стагоддзя, узнесены над невялікім ручаём і абведзены валам, лёхам і ровам, рэшткі якіх яшчэ можна дзе-нідзе ўбачыць. Прыгожы гэта быў замак, шкода толькі, што ён не праславіўся ніводнай гістарычнай падзеяй. Брама ў форме паловы вала, над ёй і па кутах замка пяць прыгожай архітэктуры вежаў з пашкоджанымі байніцамі, яшчэ мураваныя сцены — вось і ўсё, што засталося ад велічнага гмаху. Руіны з чырвонай цэглы прыгожа глядзяцца на зялёным фоне даўніх валоў і блізкага саду. Гнёзды буслоў на вежах па-асабліваму і вельмі добра аздабляюць тое, што засталося ад замка...

*1853 г.*

В. Насевіч, М. Гайба

# МІР

У маляўнічым куточку беларускага Панямоння на беразе ракі Міранкі размешчана старажытнае мястэчка Мір, вядомае далёка за межамі Беларусі сваім мураваным замкам.

Назва паселішча, хутчэй за ўсё, паходзіць ад старажытнаславянскага слова «мір», якое абазначала сялянскую абшчыну-грамаду. У такім сэнсе гэтае слова сустракаецца ў «Рускай праўдзе», складзенай у XI—XII стагоддзях, а ў рускай мове яно дажыло да XX стагоддзя. Напэўна, на месцы Міра першапачаткова быў цэнтр такой абшчыны, куды жыхары раскіданых вакол дробных паселішчаў збіраліся для сумеснага вырашэння сваіх спраў. Пры гэтым людзі гаварылі: «Пайду ў мір», — гэтак жа, як сёння ў аналагічных выпадках кажуць: «Паеду ў раён, у вобласць». Нейкім чынам слова замацавалася як назва паселішча.

Пытанне аб тым, калі Мір упершыню з'явіўся на старонках гістарычных крыніц, даволі спрэчнае. З XIX стагоддзя павялося лічыць, што гэта адбылося падчас аднаго з крыжовых паходаў заходнееўрапейскіх рыцараў на землі Вялікага княства Літоўскага. Паход адбыўся ў студзені 1394 года і закрануў ваколіцы Навагародка (Навагрудка) і Ліды. Сярод спаленых паселішчаў крыжацкія летапісцы прыгадваюць адно, назва якога пераклікаецца з назвай Міра, але дакладнае яго месцазнаходжанне вызначыць цяжка, да таго ж многія назвы ў хроніках прыводзіліся ў скажонай форме і дапускаюць розную інтэрпрэтацыю. Тым не менш польскі гісторык Міхась Балінскі, а за ім Уладзіслаў Сыракомля, які ў 1853 г. прысвяціў Міру асобную главу сваёй кніжкі «Вандроўкі па маіх былых ваколіцах», без агаворак звязалі гэтую звестку з Мірам. Да таго ж яны памылкова датавалі паход не 1394, а 1395 годам. З таго і павялося лічыць гэты год першай датай упамінання пра Мір.

Больш надзейна гісторыя Міра прасочваецца з 1434 года, калі вялікі князь Жыгімонт Кейстутавіч выдаў прывілей аднаму са сваіх набліжаных баяр — Сямёну (Сеньку) Гедыгольдавічу, якому перадаў у вечнае карыстанне Мір з панскім дваром і вялікім незаселеным абшарам. Сярод яго жыхароў названы ўсяго адзін сялянін Дзямід са сваімі сынамі. Магчыма, сярод сучасных насельнікаў Міра ёсць яго далёкія нашчадкі.

Сенька Гедыгольдавіч, першы вядомы ўладальнік Міра, валодаў ім 17 гадоў, да сваёй смерці ў 1451 г. Напэўна, за гэты час ён прыняў і пасяліў у сваіх уладаннях нямала новых насельнікаў, але звестак пра гэта не захавалася. Ён не пакінуў дзяцей, таму яго маёнткі былі падзелены паміж жонкай Мілохнай Кезгайлаўнай і аддаленымі родзічамі. Мір дастаўся Ганне Бутрымаўне, якая была ці то сваячніцай, ці, паводле іншых звестак, прыёмнай дачкой Сенькі Гедыгольдавіча. Ганна перад сваёй смерцю ў 1476 г. завяшчала Мір у пажыццёвае карыстанне ўдаве Сенькі пані Мілохне, з тым, каб пасля смерці апошняй, маёнтак перайшоў да сваяка Ганны Юрыя Іванавіча Ільініча. Так і адбылося недзе паміж 1485 і 1490 гадамі, калі памерла Мілохна (дакладная дата яе смерці невядомая).

Юрый Іллініч, напэўна, атрымаў Мір ужо даволі значным паселішчам. Магчыма, яно ўжо карысталася статусам мястэчка. Гэта значыла, што яго жыхары мелі права займацца не толькі сельскай гаспадаркай, але і гандлёва-рамесніцкай дзейнасцю. Археолагі лічаць, што ўжо ў XV стагоддзі ў Міры быў наладжаны выраб кафлі і керамікі. Росту паселішча спрыяла зручнае месцазнаходжанне паблізу гандлёвай прыстані ў Свержані, адкуль пачынаўся водны шлях па Нёману, а таксама на разгалінаванні шляхоў з Навагародка ў Менск праз той жа Свержань і ў Слуцк, Клецк праз Нясвіж.

Недзе на пачатку XVI стагоддзя Юрый Ільініч, які быў на той час вялікакняжацкім маршалкам, атрымаў дазвол на будаўніцтва ў Міры абарончага замка. Можна меркаваць, што гэта было выклікана пагрозай татарскіх набегаў, якія з 1505 г. неаднаразова закраналі Верхняе Панямонне. Археалагічныя доследы сведчаць, што замак пачалі будаваць якраз пасля 1505 г. у пануюо-

чым на той час гатычным архітэктурным стылі. Магутныя муры ўтварылі замкнуты чатырохкутнік, з якога выступалі 5 вежаў, што дазваляла весці абстрэл не толькі прама, але і ўздоўж муроў. На той час гэта была самая прагрэсіўная схема абароны. Архітэктурнае аздабленне кожнай вежы — непаўторнае. У замку пабудавалі палац, вонкавая сцяна якога замыкала чатырохкутнік умацаванняў, а дзверы выходзілі ва ўнутраны дворык.

Пасля смерці Юрыя Ільініча ў 1527 г. саўладальнікамі замка і мястэчка сталі трое яго сыноў — Іван, Станіслаў і Шчасны (Фелікс). Усе яны ненадоўга перажылі бацьку: Станіслаў памёр у 1531, Іван — у 1536, а Шчасны — у 1542 г. У Шчаснага застаўся адзіны сын ад шлюбу з Соф'яй Радзівіл — Юрый, якому на момант смерці бацькі было каля сямі гадоў. Ён выхоўваўся ў доме свайго дзядзькі па маці — славутага магната Мікалая Радзівіла Чорнага, уладальніка суседняга Нясвіжа і вялізнай колькасці іншых маёнткаў.

У той час сярод беларуска-літоўскай знаці набылі моду княжацкія і графскія тытулы, якія надаваў Імператар Святой Рымскай імперыі. Сам Мікалай Радзівіл з 1547 г. насіў тытул князя на Алыцы і Нясвіжы. Ён паспрыяў таму, што і яго выхаванец Юрый Ільініч у 1555 г. атрымаў тытул імперскага графа на Міры, а сам маёнтак пачаў называцца Мірскім графствам.

Аднак Юрый Ільініч нядоўга карыстаўся графскім тытулам. У 1569 годзе, на чатыры гады перажыўшы свайго славутага апекуна, ён памёр, не паспеўшы нават ажаніцца, і на ім згас род Ільінічаў. Перад смерцю ён завяшчаў асноўную частку сваіх уладанняў, у тым ліку і Мір, не старэйшаму сыну Мікалая Чорнага, а свайму стрыечнаму брату — Мікалаю Крыштафу Радзівілу па мянушцы Сіротка. З гэтага часу на два з паловай стагоддзі Мір перайшоў у рукі нясвіжскай галіны Радзівілаў.

Мікалай Крыштаф Радзівіл дабудаваў і пашырыў замак, а мяшчанам у 1579 г. надаў прывілей на частковае самакіраванне, якое часам называюць малым магдэбургскім правам. Мястэчка было абнесена абарончым валам, а на ўездах у яго з'явіліся вежы з брамамі. У 1594 г. Сіротка заклаў першы камень у падмурак касцёла, які ў 1605 г. быў асвячоны. Пазней шырокую вядо-

масць набыў цудатворны абраз Св. Антонія, які меўся ў Мірскім касцёле і нібыта дапамагаў гаспадарам вярнуць згубленыя рэчы.

Пасля смерці Сіроткі ў 1616 г. Мір пераходзіў у родзе Радзівілаў у спадчыну разам з Нясвіжскай ардынацыяй, яе ўладальнікі карысталіся тытулам князя на Нясвіжы і графа на Міры. Сярод іх было шмат выдатных асоб, найбуйнейшых дзяржаўных дзеячаў Вялікага княства Літоўскага. Але ніводзін з іх не пажадаў зрабіць Мір сваёй рэзідэнцыяй. Дзякуючы таму замак не падвяргаўся значным перабудовам і захаваў сваё першапачатковае гатычнае аблічча. Ён толькі быў абнесены землянымі бастыёнамі ў адпаведнасці з новымі правіламі фартыфікацыі. Гэта, аднак, не ўберагло яго ў час вайны 1655 г. ад захопу спачатку рускімі войскамі, а потым шведамі. Цікавую і спецыфічную з'яву ўтваралі аседлыя цыганы, якія ў другой палове XVIII стагоддзя зрабілі мястэчка галоўным цэнтрам свайго рассялення на Беларусі. Таму спрыяў тагачасны ўладальнік Міра, вядомы сваёй эксцэнтрычнасцю і багатай фантазіяй князь Караль Станіслаў Радзівіл па мянушцы Пане Каханку. Ён схіляў цыганоў займацца ў Міры рамёствамі і гандлем і нават дазволіў ім мець свайго «караля». Пра гэтага цыганскага «караля» Марцінкевіча, яго сяброўства з Панам Каханкам, пра пышныя парады, што праводзілі цыганы ў Міры, засталося шмат паданняў. Цыганы ж усталявалі і традыцыю конскіх кірмашоў, якімі Мір доўга славіўся на ўсё наваколле.

У канцы XVIII стагоддзя Мір не абмінулі драматычныя падзеі, звязаныя са стратай сваёй незалежнасці Рэччу Паспалітай. У 1794 годзе паўстанцкі атрад з войскаў Касцюшкі выкарыстаў замак для абароны ад наступаючых расійскіх войскаў, але ўтрымацца ў ім не здолеў. Пераход пад расійскае падданства і ўведзеныя новымі ўладамі абмежаванні змусілі цыганоў пакінуць мястэчка і з'ехаць у Бесарабію.

Частка шляхты звязвала свае надзеі на аднаўленне незалежнасці з напалеонаўскай Францыяй. Да яе належыў і тагачасны ўладальнік Міра Дамінік Радзівіл, найбуйнейшы магнат на Беларусі, які стаў адным з военачальнікаў Напалеона ў час вайны 1812 года. У гэтай

вайне зноў моцна пацярпеў Мірскі замак. Падчас бою паміж ар'ергардам адыходзячай арміі Багратыёна і наступаючымі войскамі французскага маршала Даву ўзарваўся парахавы пограб у адной з вежаў замка, згарэў і палац. У канцы таго ж года пры адступленні французаў ля замкавых муроў зноў адбыўся бой паміж імі і рускімі.

Князь Дамінік быў апошнім Радзівілам, які валодаў Мірам. У 1813 годзе ён памёр ад ран, атрыманых на вайне. Расійскі цар захаваў спадчыннае права на маёнткі за чатырохгадовай дачкой Дамініка Стэфаніяй, якая выхоўвалася пры царскім двары. У 1828 годзе яна выйшла замуж за сына царскага военачальніка Льва Вітгенштэйна. Неўзабаве, у 1832 годзе, Стэфанія Радзівіл памерла, але Мір застаўся ва ўласнасці спярша яе мужа, а потым сына Пятра.

Да гэтага часу адносіцца апісанне Міра, пакінутае Уладзіславам Сыракомляй. Ён апісвае мястэчка з мураванымі царквой і крамамі пасярод рынку, драўлянымі аптэкай, паштовай станцыяй і прыкладна 300—400 мяшчанскімі дамкамі. Рамёствы і гандаль у сярэдзіне XIX стагоддзя прыйшлі ў заняпад у параўнанні з недалёкім мінулым. Сыракомля прыгадвае прымаўку часоў свайго дзяцінства, калі пра дзяўчыну на выданні казалі: «Паехала ўжо ў Мір». Гэта азначала, што яна пачынае рыхтаваць сабе пасаг, рэчы для якога набываліся звычайна на мірскім кірмашы альбо ў гандлёвых лаўках. Пазней у Міры было ўжо цяжка набыць якасную рэч, што нарадзіла іншую прымаўку: «Майстар з Міра, што ні цап, до дзіра».

Тым не менш Мір працягваў захоўваць сваё значэнне. Яшчэ доўга трымалася слава конскіх кірмашоў, якія праводзіліся да шасці ў год. Два вялікія агульныя кірмашы адбываліся двойчы на год — 9 мая і 6 снежня. У канцы XIX стагоддзя Мір налічваў звыш 5 тысяч жыхароў, каля 700 будынкаў, па ўзроўню прамысловасці, гандлю і народнай адукацыі перасягаючы некаторыя павятовыя гарады.

Пасля смерці ў 1887 годзе бяздзетнага Пятра Вітгенштэйна мястэчка перайшло ў спадчыну да яго сястры Марыі — жонкі германскага князя Хлодвіга Гогенлое, а

пазней было прададзена князю Святаполку, які пачаў ужываць прозвішча Святаполк-Мірскі. Ва ўласнасці Святаполк-Мірскіх мястэчка заставалася і ў час знаходжання ў складзе Польшчы ў 1921—39 гг.

Сёння Мір — гарадскі пасёлак Карэліцкага раёна Гродзенскай вобласці.

**Вольга Іпатава**

## ПРАЗ ШТОРМЫ ЧАСУ

Глыбокае хваляванне ахоплівае душу, калі сягаеш позіркам праз стагоддзі і ўглядаешся ў тое, што засталося ад іх, — храмы і замкі...

Пры храмах існавалі школы, але ўтрымліваліся часткова на царкоўныя альбо касцельныя грошы, часткова ж на грошы фундатараў. Так, у Шчорсах прыходская школка і настаўнік утрымліваліся на грошы падканцлера Вялікага княства Літоўскага Іяхіма Храптовіча, мецэната і бібліяфіла, чыя бібліятэка так і засталася ў стагоддзях як «бібліятэка Храптовіча».

У Міры таксама, са стагоддзя ў стагоддзе, стала працаваць дзве школы. Калі там быў пабудаваны кляштар базыльянаў, то пры ім была адчынена ўніяцкая школа.

Узровень адукацыі ў школах быў дастаткова высокім. Вядома, што ў Іўі, напрыклад, у школе, заснаванай вядомым магнатам Янам Кішкам, вучні вывучалі творы Цыцэрона, Вергілія, Гамэра, Цярэнція на лацінскай і грэчаскай мовах. Веданне лаціны давала магчымасць выходзіць на агульнаеўрапейскі ўзровень, бо менавіта лаціна — універсальная мова сярэднявечча — была шырока распаўсюджана ў Вялікім княстве Літоўскім. У той час жыхары ВКЛ маглі свабодна выязджаць у Еўропу, а моладзь — атрымліваць адукацыю ў лепшых універсітэтах, дзе нават былі спецыяльныя інтэрнаты алюмнаты для гэтай моладзі. Як вядома, адукацыю за мяжой атрымалі Ф. Скарына, В. Цяпінскі, С. Будны,

С. Майман — апошні з іх, сусветна вядомы філосаф, пісаў на нямецкай мове, але першасную адукацыю атрымаў у Міры, у яўрэйскай школе-ешыбоце, што існавала да пачатку гэтага стагоддзя.

У бібліятэках магната, шляхты, а таксама ў хатах адукаваных рамеснікаў былі кнігі, перакладзеныя з іншых моваў.

А вядомы пісьменнік Тэадор Еранім Абуховіч, мемуарыст, аўтар славутага «Дыярыуша»... З 1700 г. ён быў кашталянам наваградскім, старостам цырынскім.

Цырын, сёння маленькая вёска, меў у XVI ст. уласны герб — стаячы алень з залатым крыжам між рагамі на блакітным полі, і быў цэнтрам староства, безумоўна, меў сваю ратушу — першую і галоўную прыкмету самастойнасці.

Турэц ужо ў XIV ст. быў удзелам аднаго з Альгердавічаў, а ў канцы XVI ст. стаў уласнасцю Хадкевічаў.

У Лаўрышаве (вядома Евангелле, называемае Лаўрышаўскім, на якім, як лічаць, захавалася выява Войшалка) перад Брэсцкай уніяй была даволі вядомая семінарыя і манастыр, які недзе каля 1600 г. стаў базыльянскім, затым — уніяцкім, а пасля 1839 г. зноў стаў праваслаўным.

...Шкада, што мы не маем столькі разоў успомненай у фантастычных раманах «машыны часу» і не можам хаця б на кароткае імгненне зазірнуць у Мір, Цырын, Ваўнчу ці Любчу, якая цяпер адносіцца да Наваградчыны, на якое-небудзь свята, калі цэхі рамеснікаў, кожны са сваім сцягам, значкамі альбо іншымі адзнакамі прафесіі выходзілі на ўрачыстую працэсію ці наладжвалі абавязковае служэнне ў храме. Плошча Міра помніць многае, у тым ліку і славутыя Мірскія кірмашы, куды прыязджалі не толькі з усяго Вялікага княства Літоўскага, але і з Польшчы. Кірмашы былі падзеяй, праводзіліся ў розныя гады па-рознаму — нават да дзевяці разоў ў год, давалі шмат прыбытку.

Рамёствы мірскіх майстроў, а таксама вырабы ў навакольных мястэчках — асобная і вельмі важная тэма. Археолаг А. Трусаў шмат працаваў над узнаўленнем праўдзівай гісторыі нашага краю і з захапленнем піша ў

сваіх працах аб мірскім шкле, вядомым з XVI стагоддзя, мірскай кафлі і кераміцы, арыгінальных і досыць самабытных, што разыходзіліся па ўсёй дзяржаве, і выраб якіх пачынаецца ужо з XV ст. Слава аб габеленах, вытканых у Карэлічах, засталася да сённяшняга часу. Самыя славутыя з іх — з серыі, прысвечанай роду Радзівілаў. Калі ўзіраешся ў постаці на габелене «Бітва пры р. Славечна», міжволі ўяўляеш ткачоў, чые жыцці нібы перацяклі ў гэты высокамастацкі, натхнёны твор і засталіся там навечна. Габелены, як і слуцкія паясы, рабілі мужчыны — надта цяжкай і адказнай была гэтая праца. Рабілі іх не толькі ў самім Міры, Нясвіжы, Карэлічах, але і ў Бараціне і Паланоі. У Карэлічах, Нясвіжы і Слуцку выраблялі сукны. У Налібоках, Свержані, Смолкаве, Урэччы працавалі фарфурні, дзе рабілі прыгожы фаянс. Налібокі, Янкавічы, Пагарэлае і Урэчча давалі на кірмашы свае вырабы са шкла.

...Выстаўленыя ў музеях, а часцей вядомыя па здымках, рэдкасныя гэтыя экспанаты здаюцца нам нібыта нерэальнымі. Затым, калі прывыкаеш позіркам да блакітных келіхаў, празрыстых бутэлек ці чарак з вытанчанымі формамі, да дзівосных кветак на патрэсканых ад часу кафлях, да вазонаў і попельніц з ляпным дэкорам, зноў і зноў вяртаешся думкаю да продкаў, чые імёны гісторыя амаль не захавала, у адрозненне ад імёнаў каралёў ці заваёўнікаў. Але некаторыя ўсплываюць, адноўленыя рупліўцамі роднай гісторыі, — майстар Мартын Забароўскі, пра якога згадваецца ў грамаце князя М. Радзівіла ў 1594 г. і які мураваў мірскія і нясвіжскія пабудовы; гадзіннікавых спраў майстар Юцэвіч, сталяр Ярмаловіч, ганчар Дзядзічка, цеслі Мікалай, Юрка, Лаўрын Сцяпура — і яшчэ адзінкі, чые постаці паўстаюць з-за аскабалкаў бурлівага, няўмольнага да іх працы часу, чые рукі ткалі габелены, муравалі, габлявалі вырабы... з якіх нам засталіся таксама адзінкі...

Ды і на тыя глядзіш з пачцівым здзіўленнем — як вы засталіся, уцалелі? Раптоўныя войны, змена ўлад, палітыкі — і адно гарэла, другое вывозілі, уцякаючы, уласнікі, а трэцяе, што яшчэ заставалася, рабавалі заваёўнікі.

...Славутая песня «Когда я на почте служил ямщиком» была расказана ў Мірскай карчме маладым хлопцам паэту У. Сыракомлю. Верш, напісаны пасля гэтай сустрэчы, быў пасля перакладзены на рускую мову Л. Трэфалевым і настолькі палюбіўся ў Расіі, што стаў лічыцца рускай народнай песняй.

Многія сыны гэтай зямлі служылі суседнім народам, не знайшоўшы сваёй бацькаўшчыне месца ў сваім сэрцы. Наша зямля называецца месцам слаўных для іншых народаў падзей. Войскі атамана Платава атрымалі перамогу над уланамі ў 1812 г., па загаду князя Баграціёна затрымліваючы іх пад Мірам, але мы, мы можам задаць сабе пытанне: хіба не было сярод гэтых разбітых уланаў нашых продкаў? А слаўныя для палякаў змаганні пад Карэлічамі, калі войска канфедэратаў стаяла там абозам, — што была гэтая падзея для беларускай гісторыі? Перамогі, якія неслі нашай зямлі запусценне і вогнішчы, нічога не дадаючы для яе росквіту, — хіба гэта нашы перамогі? Брат паўставаў на брата — і ў часы войнаў з Масковіяй, і ў горкія гады Напалеона, і час ужо, з захапленнем пераказваючы тыя ці іншыя падзеі, задаваць сабе пытанне — а чым яны былі для нас?

...А замак у Міры стаіць. Апошняе пакаленне, якое знаходзіла ў яго сценах прытулак пасля пажарышчаў, гэта пакаленне маіх бацькоў. Пасля ўсіх перайначванняў усё ж захаваліся некаторыя гістарычныя назвы — напрыклад, вуліца Завальная, на якой я нарадзілася. Памяць мая яшчэ захоўвае касцёл св. Мікалая, адкуль знік цудадзейны абраз, яшчэ амаль цэлым — можа, яго яшчэ адродзяць, як адраджаюць цяпер многія храмы?

Стаіць капліца ля замка, і мазаічны Хрыстос глядзіць навокал задуменна і ўсепранікальна.

Гэтая зямля багатая не толькі на глебу, дзе расла пшаніца, не горшая за славутую садамірскую. Усё, што захавалася, сведчыць аб высокім майстэрстве продкаў.

О, як хочацца верыць, што нарэшце, ніхто з іх патомкаў не ўбачыць у агні і дыме цудоўных старажытных замкаў — жамчужын сярэднявечча, што нашы людзі зажывуць шчасліва і памяць іх не будзе зацемнена ніякім фальшам?

* * *

Распрамляе сагнутыя плечы,
Набіраючы сілы ў зары...
Вежы струнка паўсталі, як свечы,
Атуляючы замак ў Міры.

Іх запальвае сонейка ўранку —
Не задзьмулі б ліхія вятры!
Пяць стагоддзяў віецца Міранка,
Аздабляючы замак ў Міры.

Завяшчалі нам спадчыну продкі.
Госць замежны, прыйдзі і замры!
Затрапеча душа, быццам плотка,
Адкрываючы замак ў Міры.

Час страшэнныя раны залечыць,
Ён зямлі маёй прыме дары.
Як надзею народа, у Вечнасць
Адпраўляючы замак ў Міры.

## Янка Рагоз

## ЖЭГОТА

Жэгота — падпольная клічка Ігната Дамейкі, які нарадзіўся ў вёсцы Нядзведка, непадалёк ад Міра. Пазней стаў нацыянальным героем Чылі.

Ціха прамоўлю: Жэгота,
Пачуецца: Вітажэнец...
Ты чуеш, Ігнат,
Ты чуеш, Адам?
З клічкамі час усіх жэніць.

Строгая канспірацыя
У філаматаў і філарэтаў.

Толькі сябры, як Міцкевіч,
Ведаць могуць пра гэта.

Ды шчэ Марыля, сястра,
А для Адама — каханая:
З ёй пазнаёміў Ігнат
Друга, лёсам абранага.

Нават ссуседзілі камеры
Ім, сябрам, у астрозе,
Каб потым лёгка было
Ім на вандроўнай дарозе...

...Помнік Дамейку ў Сант-Яга...
Родныя гоні і ляды
Сын Беларусі праз вечнасць
Будзе самотна выглядваць...

Гісторыя мовіць паролямі:
Будзімір, Вітажэнец, Жэгота...
Няўжо сваіх лепшых сыноў
Айчыне пазбыцца ахвота?

## Пятро Ламан

* * *

Спляліся ў Панямонні
Зямля, Вада і Неба.
Дзіўлюся ў аняменні
На непаўторны свет.
Праз сон тысячагоддзяў
Радзіма па каменні
Плыве.

* * *

Ты не чула, як плачуць вячэрнія росы,
Урачыста пяюць адыходную дню.
Як удовы, панікліі над лугам бярозы.
Нібы свечку, запальвае ноч цішыню.

Ты не чула, як плача над берагам каня.
Быццам зоры, начныя лятуць матылі.
У змярканні
цвітуць кветкі першых спатканняў.
А матулі заснулі б, каб толькі маглі.

Спяць дубы над сціхотнымі стромамі Нёмна.
Паплаўнічы заснуў у духмянай капе.
Так салодка трывожна, так літасна цёмна,
І да смерці цябе не хапае... Цябе...

Ёсць далёкая песня,
аднекуль з-пад Шчорсаў.
Ёсць стаптаныя боты — ляжаць на зямлі.
Ёсць нямы небасхіл,
што ад часу працёрся.
Вочы ёсць, што цябе адшукаць не змаглі.

Гэтай ноччу спраўляюць заручыны здані.
Ноч, як звон, у якога сарвалі язык.
Дагарае купалле... Спаўняе жаданні...
Новы дзень наляціць, як паранены дзік.

## Уладзімір Калеснік

# НЁМАН МАЙГО МАЛЕНСТВА

*(Урыўкі з аповесці «Доўг памяці»)*

* * *

Мы ехалі на Усяночную ў Ярэмічы ў спрытнай, лёгкай яловай чайцы. Бацька, маці і я. Бацька, як перавозчык, заняў месца ў заднім носе, у руках яго было доў-

гае, прышыбкое вясло — яловае, а маці сядзела на лаўцы пасярэдзіне лодкі, я ж прыткнуўся на лавачцы ў пярэднім дзюбе, навідавоку маці.

Маці баялася, каб мы, дзеці, не патапіліся ў Нёмне, расказвала казкі пра Піліпку — сыночка рыбака, якога прывабіла да берага ведзьма і злавіла, пра воўка, які прымарозіў хвост у Нёмне, прыгаворваючы: «Лавіся, рыбка, вялікая і маленькая, лавіся, за хвост ляпіся». Воўк чакаў на дзяцей, якія самахоць ходзяць на лёд катацца на коньках і санках.

Але сама яна не баялася вады, хоць і не ведаю, ці ўмела яна плаваць (сіняўскія жанчыны былі сухапутнымі, плаванне сярод іх лічылася заняткам хлапечым, не надта прыстойным), але ганяць лодку маці магла не горш за мужчыну, таму сядзела ў лодцы ўпэўнена, глядзела ўперад, як штурман, не спускаючы вока з мяне, гатовая кінуцца і ратаваць разяваку ў любы момант.

Расставіўшы ногі ад борта да борта, перавозчык трымаў каленямі раўнавагу сваёй каравелы, не даваў пласкадонцы зыбацца, калі на яе набягала юркая бруя або каторы з пасажыраў неасцярожна рухаўся на сядзенні. Націскаючы голенню на той ці іншы борт, бацька збіваў гайданку. Вясло служыла яму не толькі вяслом, але і рычагом раўнавагі, і стырном. Ён праставаў шлях па абалонні, дзе вады было так, па пояс, апіраючыся вяслом у дно, — тут можна было лёгка гнаць чайку насупраць плыні. Гнаў ён яе рыўкамі. Упіраў акаваным пяром вясла ў дно акуратна, намацваючы яго. Адчуўшы тупкі грунт, ён замацоўваў пяро ў дне і, калі трэба было, падкіроўваў лодку, а тады прыпадымаўся, навальваўся ўсёю сілай на гамар: лодка спачатку прысядала, пярэдні нос задзіраўся ўгору, і рабіла рывок наперад, але стрэчная плынь не давала ёй разгону, збівала імпэт. Бацька тут жа шпарка выхопліваў вясло з вады, закідаў наперад і штурхаў лодку з новаю сілай. Калі ж на шляху натыкалася латачына ці азярынастарыца, тады ён пачынаў махаць вяслом то з аднаго боку лодкі разоў па тры, то з другога, яна віляла то ўлева, то ўправа і, як жывая, сунула наперад. А калі збівалася з курсу, перавозчык ставіў вясло рубам, і яно пера-

тваралася ў стырно, якім можна было паправіць кірунак. На глыбокіх мясцінах бацька папярэджваў сваіх пасажыраў: «Ну, сядзець мне ціхо! Не гайдацца, а то пойдзеце, як сякеры, на дно... Трымайся за чайку там, у носе!» — гэта ўжо мне асабіста на ўсякі выпадак.

Бацька любіў прыгадваць пабасенку пра цыганскае выхаванне дзяцей. Цыган, пасылаючы сына па ваду, спачатку яго лупцуе. Мужык, які быў сведкам, спытаў яго: «За што ж ты яго б'еш?» — «А каб збана не пабіў, — весела адказаў цыган. «Дык вунь жа збан цэлы...» — здзівіўся мужык. «А тады, як паб'е, то караць будзе позна».

Я яшчэ мацней сціскаў пальцамі борты, памятаючы бацькаў наказ, што як, не дай Бог, перакулімся, то, усплыўшы, трэба хапацца за лодку. Яна драўляная, лёгкая — не патоне. І ўсё ж, хаця я да знямення пальцаў учэпіста трымаўся за лодку, і страшна было глядзець у чорную, бяздонную ваду, асабліва, калі мы натыкаліся на старыя неманіны, усё ж я не мог стрымацца, каб не азірнуцца навокал.

Зрэшты і без аглядкі відаць было, як за намі і з бакоў плылі іншыя сіняўскія лодкі, якія можна была апазнаць у цемені па цыгарках курцоў. Агеньчыкі тыя нагадвалі мігаценне зорак у небе і на вадзе, толькі колер цыгаркавых агеньчыкаў быў гарачы, чырвоны. Маладыя хлопцы, апрабоўваючы галасы, зацягвалі валачобныя песні або расказвалі нешта смешнае і рагаталі. Нёман разносіў гэты рогат аж да небакраю і вяртаў назад неартыкуляваным рэхам. Я баяўся толькі азірацца, седзячы спіной наперад. Для гэтага трэба было павярнуць тулава і галаву на паўабарота, а бацька папярэджваў, што ад такога «круцяля» можа галава закружыцца і тады, напэўна, боўтнеш у ваду, як долата.

Усё ж спакуса была вялікая — глянуць наперад, ці відаць тыя Ярэмічы. Я скасабочыўся на сваім сядзенні і, асцярожна паварочваючы галаву, ахопліваў позіркам цёмную разлогу перад намі. Відовішча аказалася неверагодна захапляючым. Лодкі з сіняўскімі дзецюкамі і дасужымі жэўжыкамі — іх малодшымі братамі, недзе там, у далечыні, дасягнулі ўзроўню Ярэміч і паварочва-

лі з абалоння да нёмнавага рэчышча — самай небяспечнай часткі падарожжа. Каб аблягчыць працу перавозчыкаў, а іх звычайна было два — адзін у пярэднім, другі ў заднім носе — жэўжыкі запальвалі паходні і асвятлялі вадзяны прастор аж да небакраю. Зводдаль лодкі з паходнямі выглядалі таямніча і фантастычна, нібы каралі, што шыкаваліся да начнога бою за Ярэмічы. Там, у лодках, нешта моцна гаманілі, нібыта кідалі баявыя поклічы.

Неўзабаве і бацька ўзяў рубеж, адкуль трэба было перарэзаць Нёман насупраць Ярэміч. Галоўная плынь перлася і праглася, як апантаная, ажно раўла і бурліла вада абапал бартоў. Але на тое была ў бацькі сіла і спрыт, каб не дацца Нёмну сагнаць лодку ўніз. Ён працаваў вяслом так шпарка, што лодка, нягледзячы на гняўлівы напор бруі, пераразала рэчышча напрасткі. Мой дзюб ішоў проста на Лойкаў пляц. У хаце Лойкаў жыў у прымах Уладзік Бандарык, на яго сялібу, падтопленую з канца разводдзем, і накіроўваў бацька сваю чайку. Тут яе ніхто не кране, не спусціць. Уладзіка, вядомага плытніка, нябось, паважаюць «сухапутныя» ярэміцкія мешчанчукі. Бацька мог быць спакоен за чайку. Толькі вясло забіраў і прыносіў у хату. Заходзіў на хвілінку павітацца з гаспадаром, а потым мы ішлі пад царкву і кожны меў вольную волю. Бацька ішоў да гурту знаёмых мужчын на цвінтары, маці — у царкву, да жанчын, а я мог швэндацца, дзе хацеў, толькі не адыходзіць лішне далёка ад царквы, каб упоцемках не заблудзіцца.

Вось прыйшлі мы пад царкву, і я, атрымаўшы ад маці напамін — не заблудзіцца ў тлуме — пайшоў шукаць тое таямніцы, якая суправаджала надыход Вялікадня ад Вербніцы, да паходняў і вялікай вады, убачанай ноччу.

Я сапраўды баяўся згубіцца ў тлуме, таму стаў углядацца ў твары людзей, якія выхоплівалі з цемрадзі хібкія праменьчыкі святла з папяровых ліхтарыкаў з васковымі свечкамі, якія неслі ў руках многія ўдзельнікі Усяночнай. Але хібкі праменьчык не дазваляў апазнаць знаёмага, усе твары былі незвычайнымі, незямнымі. Толькі ля дзядоўскіх вазоў ліхтары гарэлі ўпэўнена, гэ-

та былі нафтавыя зашклёныя ліхтары «лятучая мыш», спецыяльна зробленыя для гаспадарскіх патрэб: ручной малацьбы ў гумнах зімовымі раніцамі, догляду кароў пры цяленні і іншых гаспадарскіх спраў. Ля дзядоў збіраліся гуртам: там былі і набожныя старыя бабулькі, і маладзіцы, і цікаўныя дзеўкі, а дзе тыя дзеўкі, там і зухаватыя дзецюкі. Я натрапіў ля аднаго бязногага дзеда на групку сіняўцаў. Жанчыны, як вадзілася, паміналі душы памёрлых родзічаў, даючы за кожную душу авансам велікоднае яйка.

* * *

Запаветным жаданнем сіняўскіх школьнікаў, якія хадзілі вучыцца ў Ярэмічы, за тры кіламетры, было, каб зіма замарозіла Нёман пры ціхай роўнай пагодзе і падарыла нам гладкі лядок. Часам доля ўважвала нашы маленні, лёд на Нёмне быў, як шыба, толькі пры берагах заставаліся лядовыя броўкі ад шарошу, які гнала сярэдзінай рэчышча, калі пры берагах зашэрхла і нарос ужо ніштаваты лядовы пояс. Гладкі лёд быў для нас цудоўным шляхам у школу на каньках. Канькі мы майстравалі самі. У каго быў старэйшы брат ці падатлівы на просьбы бацька, таму было проста — «прасіце і вам будзе дадзена», — як гаварыў айцец Віталі.

Я не рашыўся прасіць бацьку. Як гэта ён стане майстраваць мне забаўку, яму было не да таго: дзень у дзень бацька ведаў адну дарогу — у лес і з лесу. Уставаў а трэцяй гадзіне ночы і вяртаўся поцемкам. Прыязджаў зморany, ззяблы, часам злосны з паламанымі саньмі ці козачкай. Праўда, ніколі на печ не лез, як другія мужчыны, еў гарачы абед — свой любімы гарохавы суп або капусту з баранінай і браўся за рамонт вазацкіх снасцяў або адпраўляўся на пасядзенькі да Пазнякоў. Там абмяркоўваліся здарэнні сённяшняй вазацкай эпапеі, прыгадваліся ўсе ўдачы і няўдачы, вазакі раіліся з лесарубамі, куды лепш назаўтра паехаць, адкуль, з якога ўрочышча ці квартала можна ўхапіць «падхадзяшчага таварніка», такога, каб аднаго на цэлы воз і без тралёўкі, каб блізка пры дарозе.

Адным словам, у бацькі былі свае сур'ёзныя справы, а забаўкі павінен быў рабіць сабе я сам. Я і не прэтэндаваў на нешта іншае, абы мне не забаранялі. Спрыту ў мяне хапала. Пераймаючы старэйшых хлопцаў, я рана навучыўся майстраваць сабе драўляныя канькі. Аснову вычэсваў сякерай з цвёрдага дрэва — дубу, ясеню, абгладжваў нажом ці гэблікам і падкоўваў тоўстым дротам, якім спярша прапякаў, награваючы ў грубцы канец да белага, чатыры дзіркі для падвязкі і пятую на гэты самы дрот. У пятую ўторквалі яго гарачым і абгіналі спод канька ад пяты да носа.

Мяне цягнула ў нязведаныя далёкія краіны. Я захапляўся кнігай Януша Корчака «Мацюсь-першы, круль поветша», у якой расказвалася, як польскі хлопчык заляцеў на самалёце ў Афрыку і быў прызнаны тубыльцамі цудоўнаю істотай, каралём паветраных прастораў. Але ў нязведаным скопе плямён і народаў маё захапленне прыцягвалі тыя, каму жылося асабліва цяжка.

У краўца Аляксея Клаўсуця была руская кніжка пра лапландцаў. Я не толькі некалькі разоў прачытаў яе, дзівячыся з вынослівасці, прывязанасці да суровага краю, устойлівасцю іх дзікаватых звычаяў, дзе так многа значыла маладзецтва, спрыт. Дзівіла мяне апісанне майстэрскай язды лапландцаў на лыжах і нартах, санках, запрэжаных аленямі або сабакамі. Гэтым паўночным каржакаватым, скуластым, касавокім людзям не перашкаджала і гаматкая зімовая футраная адзежа. Яны стрымгалоў злятали з абледзянелых горных хрыбтоў у даліны, пераскоквалі цераз трэшчыны ў ледзяным покрыве.

Я сам узяўся вычасаць з ясяновых бёрнаў сабе лыжы. Наладзіў на загуменні майстэрню і часаў, спачатку бацькавай вазацкаю цяжкою сякерай, а потым склюдаваў сваёю лёгенькай лыжыны. Нават закручаныя насы не выгінаў, бо не ўмеў рабіць гэтага, а вычэсваў, урэшце выгабляваў лыжыны падшкрэбкам, і атрымаліся ніштаватыя.

Сябры хвалілі, зайздросцілі, вытыкалі хібы. Самай слабою рысай аказалася незапланаваная паўкругласць. Ледзь прыкметная на вока, яна аказвалася каварнай

пры яздзе з горкі, бо лыжніна нечакана заносіла паўкругам ўлева, як я ні стараўся трымацца простай лініі.

Бацька, убачыўшы маю работу, не пасмяяўся, а ўпікнуў, чаму гэта я не сказаў яму, а рабіў хаваючыся. Ён даў бы мне лепшыя ясяновыя плашкі і паказаў бы, як трэба было «адбіць» шнурком краі будучых лыжын, каб яны атрымаліся роўненькімі і гналі проста наперад. Я асмялеў ад такой размовы і аб'явіў, што гатовы часаць яшчэ адзін палепшаны варыянт. І вычасаў.

Косця Смалянка прыносіў у школу беларускі «Буквар» і на перапынках чытаў услых вершы. Бацька яго быў заядлы «грамадавец», рэвалюцыянер. Пра яго гаварылі ў ваколіцах як пра смельчака, што не захацеў пакорна корпацца ў зямлі ці ў лесе гнуць карак перад камлямі, кленчыць, а з панамі ўзагрудкі ўзяўся. Прыціснуты паліцыяй у часе расправы над Грамадой, туляўся па лясах і ўрэшце знік зусім, людзі поціху гаварылі, што ўцёк за граніцу, у Расію.

Косця насіў той «Буквар», як бацькаву памятку. Відаць, яшчэ да школы бацька навучыў яго чытаць па-беларуску, і сын цяпер ганарыўся перад намі, няўмекамі, якіх пан Цатэвіч толькі па-польску вучыць.

Мяне, праўда, навучыла «рускаму» алфавіту сястра Маруся, і я чытаў вершыкі з насценнага календара, больш ніякіх беларускіх кніг у нашай хаце не было. Таму я адчуваў сябе прыніжана-вінаватым перад Смалянкам, які вунь недзе ў глухім лесе, на Рудзьме, не толькі камароў корміць, а чытае сабе для прыемнасці беларускія кніжкі. Можа, са скрухі я адразу пасля першага ці другога праслухоўвання запамятаў два вершы Якуба Коласа.

* * *

Ціха на камінку
Смольны корч палае.
Бацька на калодцы
Лапаць падплятае.
Латае халацік
На зуслоне матка,
Пойдзе заўтра ў школу
Іх сынок Ігнатка...

* * *

Напішы мне, калі ласка,
Пісьмяцо дахаты,
Піша з дому мне Параска,
Што сын здан ў салдаты...

Ад гэтых вершаў веяла такой роднасцю, што ажно распірала грудзі. Гэта ж трэба: нашы простыя словы, як наша простае сялянскае жыццё, і раптам так усё складна, мілагучна выказана, нібы само ўсё склалася ў лад і сказала: вось я якое, чулі?

## Алесь Бажко

## ЛЕГЕНДА

Гналі дзяўчыну ў палон крыжаносцы
Пад строгім канвоем.
Вецер гуляў па разбуранай вёсцы
Над Нёмнам — ракою.
Ой, каб рака разлілася да лесу
Або паглыбела,
Слухалі б каты вячэрнюю месу
У саванах белых.
Людзі каламі збівалі б іх з коней
У мутную завадзь.
Хто ж да чужынцаў падступіцца сёння,
Сарве іх «выправу»?..
Сонца ад дыму счарнела тым летам —
Гарэлі хаціны.
Горкая доля, як кажуць паэты,
Спасцігла дзяўчыну.
Скінула б путы, ды сіл ужо мала —
Нагайкамі білі,
Ноччу на крок ад калоны адстала —
«Савой» ахрысцілі.
Кнехты задумкаю гэтай хацелі
Магістра расчуліць.

Выпеклі крыж паланянцы на целе,
А крыку не чулі...
Маці, нябожчыца маці у белым,
Шапнула ёй строга:
«Ты ж песень, дачушка, сваіх недапела,
Мацуйся, нябога!..»
«Добра, я ўстану», — сказала дзяўчына.
І з ціхай журбою
Шуміць на Палессі ля кожнага тына
Блакітнай вярбою.

## НАЛІБОКІ

Ад роднае зямлі, ад гоману бароў...

*Якуб Колас*

Налібокі! Налібокі!
Бор стаіць густы, высокі,
Бор заснежаны, калматы.
У бары у гэтым бацька
Елку мне на скрыпку сватаў.
Потым, выпрагшы Гнядога,
Уздыхаў:
— Карчоў тут многа,
А жывога лесу мала.
Дык навошта, каб спыталі,
Той ляснічы з самапалам?
Граб ад нас паплыў за мора,
Дуб купцы на мэблю морац,
Рэжуць — цешацца: як сажа!
Дрэва ж, чорнае ад гневу,
Пад смычок спяваць не ляжа.
Асталася нам яліна:
Пан-купец яе пакінуў.
Пень, маўляў, сыры, лядачы.
Але ты пастой, паслухай,
Як яна пяе і плача!
Струмант будзеш мець дзівосны.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

«Хто ты ёсць? — з надрывам, злосна
Шляхцюкі мне ў твар крычалі. —
Пшэстань, хаме, грацы!»
А гэта
Ў Налібоках елкі гралі.

## Віктар Хліманаў

# ІШЛІ Ў ЛЯСЫ ПАРТЫЗАНЫ...

Я сяджу на крутым беразе Нёмана і любуюся непаўторным пейзажам. На правым беразе, на колькі хапае вока, блакітныя далі ўскраін Налібоцкай пушчы, быццам разрэзанай на дзве часткі ракой. Тут, каля вёскі Сіняўская Слабада, Нёман зліваецца з Ушой, зноў робіцца шырэй, паўнаводней. Адсюль добра відаць уся пойма Нёмана, зялёная, прыбраная. За вёскай на адным з узгоркаў стаіць строгі абеліск. Да яго падножжа адна за другой пад'язджаюць аўтамашыны, упрыгожаныя кумачом і кветкамі. Сотні людзей прыехалі з калгасаў і саўгасаў раёна на сваё, ужо стаўшае традыцыйным, свята песні і працы. Урачыстасць пачнецца ў дванаццаць гадзін, калі прыбудуць шматлікія прадстаўнікі з усіх гаспадарак. Спачатку мінутай маўчання ўсе ўшануюць памяць загінуўшых у баях з акупантамі. Потым, па традыцыі, будуць названы і ўзнагароджаны каштоўнымі падарункамі і граматамі тыя, хто дабіўся лепшых паказчыкаў у працы. А потым прама на лузе выступяць калектывы мастацкай самадзейнасці, салісты, хоры, танцоры. І гэта сімвалічна, што ўсе: і тыя, хто не ведае, што такое вайна, і тыя, хто са зброяй у руках змагаўся з фашызмам у грозныя гады,— збіраюцца да месца вечнага спакою герояў-воінаў і партызан, спяваюць песні і весяляцца. У імя таго, каб на зямлі заўсёды было спакойна, змагаліся загінуўшыя ў агні Вялікай Айчыннай вайны.

Зноў цячэ спакойнае жыццё там, дзе яшчэ не так даўно фашысцкія забойцы здзяйснялі гітлераўскі план

«спаленай зямлі». І колькі будзе бегчы тут прыгажун Нёман, да таго часу не забудуць нашчадкі імёнаў герояў, тых, хто першым узяў у рукі зброю і пайшоў за Нёман, у лясы, Налібоцкую пушчу.

...Быў ліпень 1942-га. Чорнай лавінай рваліся на ўсход фашысцкія дывізіі. Там, дзе яны праходзілі, заставаліся пажарышчы, слёзы, шыбеніцы. Не пашкадавала вайна і гэты куток беларускай зямлі. Адны руіны засталіся ад вёсак Лядкі, Быкавічы, Новае Сяло, Пагарэлкі. Як галодныя ваўкі, насіліся па вёсках карнікі і пайшоўшыя на службу да ворагаў свайго народа вылюдкі з атрада Б. Рагулі, спальвалі, вешалі і забівалі ўсіх: дзяцей, старых, жанчын, ваеннапалонных. Але, нягледзячы на жорсткі тэрор, нягледзячы на тое, што фашысцкія полчышчы рухаліся на Усход, у першыя ж дні акупацыі Прынямоння народ стаў узнімацца на барацьбу з нязванымі прышэльцамі.

Першымі цёмнай чэрвеньскай ноччу пайшлі ў пушчу за Нёман дваццаць два хлопцы з Лядкоў і Пагарэлак. Гэта былі Іван Мацко, Іван Балабановіч, Анатоль Цабкала, Мікалай Жацко і іншыя. А хутка пачулі аб першай помсце байцоў. К восені Налібоцкая пушча прыняла тысячы тых, хто не задумваючыся ўстаў на абарону. Атрады ўсё раслі і раслі, рабіліся грознай сілай для фашыстаў, якія неслі ўсё большыя страты і ў тэхніцы, і ў жывой сіле. К часу вяртання Савецкай Арміі ў Прынямонне на паўднёвых ускраінах Налібоцкай пушчы ўжо дзейнічала цэлае партызанскае злучэнне, у якім было каля 33 тысяч мсціўцаў. Кіраваў ім выхадзец з вёскі Обрына Герой Савецага Саюза Уладзімір Царук. Імем яго названы цяпер калгас у Ярэмічах.

Беларускі народ мужна ўзняўся на барацьбу з захопнікамі. Гэта была святая помста за адабраную свабоду, за кроў народа, за знявагу зямлі Нёмана, за ўсё, што прынеслі з сабою карычневыя забойцы і іх памагатыя.

Вось некаторыя страшныя лічбы іх крывавых спраў у адным Карэліцкім раёне.

Фашысты і іх памагатыя з атрада Б. Рагулі забілі 1082 чалавекі, у тым ліку 417 жанчын і дзяцей. 54 з іх спалены жывымі ў вёсцы Новае Сяло.

Вывезена на катаргу ў Германію 1002 чалавекі. Спалена 870 дамоў, 10 школ і больш тысячы іншых збудаванняў.

## Мікола Бусько

### У НЁМНА НА ПЛЯЧАХ

Быстры Нёман пад ялінавым
Шатром
Закіпае успамінамі
Ля стром.
Дзеля новага разгоннага
Рыўка
Б'ецца сціснутая згонамі
Рака.
Вольны покліч роснай пушчаю
Імкне:
— Колькі ёй жыцця адпушчана
І мне?..
Сёння сціжма растрывожанай
Лазы
Нагадала не мурожныя
Вазы
І не з летніка рыбацкага
Вазак, —
Мне жывым чацвёрты бачыцца
Зямляк,
Там, дзе кружна вытанцоўваюць
Віры, —
Злосна вылі спрэс свінцовыя
Вятры.
Помснік гнаў пад кулямётамі
Чаўны —
Топлі ў дыме між чаротамі
Яны.
Стыне кроў з тае блакаднае
Пары.
Тут падстрыжаны снарадамі

Бары.
Дуб абвугленай паказвае
Рукой:
— Ты да прошласці прывязаны
Ракой...
Песня пушчы, росным гоманам
Дужэй!
Ты ўзнялася з бацькі Нёмана
Плячэй.

## ВОТЧЫНА

Вее
    цяпельцам на беразе
Быццам ад грубкі,
                        хацця
Шырыцца колерны верасень,
Свой развінаючы сцяг.

Глуш, цень —
Сябры адмысловыя
Птушцы, паэту, дзіку.
Вунь пазалота кляновая
Ўсю аздабляе раку.

Хваля яе гаварлівая
Трэцца ля ног.
Ад мяне
Кучка калючак імклівая —
Ша! — ўрассыпную стральне.

Бачыш, старая алешына,
Лес маіх грэшных гадоў
Сам Вадзянік занавешвае
Бела-сівой барадой.

Вось мая крэўная
Вотчына:
Нёман,
Сяло,
Касачы...

Гэтую казку так хочацца
Тым, хто за мной,
Зберагчы.

## НЁМАНСКІ ДОСВІТАК

Ледзь-ледзь кранаюць абалонь
Праменняў кволыя палоскі.
Навокал ціш.
Калёраў плёскат
Кладзецца хваляй на далонь.
Ды жураўляцца галасы
У прыгуменні за адрынай.
Хлапчук прастуе зелянінай,
Ступні пячэ агонь расы.
Усход!..
Жар-чырвань на вадзе.
Зязюля лічыць хвілі шчасця.
І сцежка —
          свет світальны насцеж! —
Малога з вудаю вядзе.

## Яўген Крамко

Яўген Ігнатавіч Крамко пражыў амаль усё жыццё ў вёсцы Беражнае Карэліцкага раёна, якая стаіць на ўзбярэжжы Нёмана, апраўдваючы сваю назву. Прыродалюб, пейзажыст, Я. Крамко ў розныя поры года назіраў за тым, як «паводзіць» сябе Нёман, і пакінуў аб ім каларытныя замалёўкі.

## НЁМАН, МОЙ НЁМАН!

### (Чатыры пары года)

Нёман! Колькі ў гэтай назве для мяне хвалюючага і таямнічага. Ды ці толькі для мяне. Ты, апеты ў вяках

вялікімі майстрамі слова. І Міцкевіч, і Ажэшка, і Колас апявалі цябе як роднага, блізкага, магутнага, гаротнага і спакойна ўдумлівага.

З табою звязана і маё жыццё. Кожны крок твайго берага на маёй радзіме мае самыя блізкія адносіны да майго жыцця. Мне, твайму сыну, на схіле дзён сваіх, хочацца аддаць табе сваё пачуццё, ласку, паклон. Ад дзіцячых год ты мне родны і любімы, як маці, як бацька, як мой народ.

І дзе я ні быў у воддалі, я сніў цябе, бо думаў аб табе. Я перакананы, што з усіх цудаў нашай прыроды, самая цудоўная, гэта музыка вясновага ранку над табою. Словамі нельга перадаць, што адчувае сэрца ў тыя гадзіны.

У раннім прадвесні незабыўна, як занямонне ачышчаецца ад сіне-бурага снегу, як каламутная вада ў спешцы гоніць яго плынь далей на захад. А потым плыве над табою вясна. Пасля пагодных дзён пойдзе пахучы дождж, напоўнены водарам вясны, першымі кветкамі, мяккімі лісточкамі, нясмелаю траўкаю, небам і вясёлкаю.

Нельга забыць як пад промнямі ранішняга сонца на тваім беразе чаромхі ў белым убранні выглядаюць пасвяточнаму, бы дзяўчаты прыбраліся на фэст, а навокал музыка ад мноства птушыных галасоў. У засені тваіх дрэў і машкары над лугавінаю усмешкі набухаючых пупышак і маладых лісточкаў. І заўсёды над табою вясновы ранак спакойны і ўдумліва натхняючы. Станеш над тваім плёсам і бачыш цябе зусім іншым: роўным, павольным, разважлівым і разумееш, што і табе трэба адпачыць пасля імклівага бегу ля крутых нартоў. Калі над табою спускаецца вечар, я люблю назіраць гульню яльцоў і язёў на гаках, паляванне шчупакоў на заграддзях, цікаўныя ўсплескі баброў ля лозаў і спартыўную імклівую гульную норак на перакатах, камарыную кудцю над празрыстаю плынню, а крыкі кнігавак і песні птушак чуюцца доўга, доўга...

Мне незабыўны твае мурожныя сенажаці, маладая атава, на якой ірдзяцца пахучыя росы. Я люблю над табою світанак. У аддаленні за лугамі і лясамі чуць-чуць пачынае свяціць зарніца, яе бляск зіхаціць у тваёй плыні і ціхутка кладзецца на нерухомую ваду нямнішч.

Не пакідаюць мяне твой водар, колер і шапаценне вады, гоман лозаў, цішыня нямнішч і вясёлыя ўсмешкі водных лілій пад ясным сонцам. Трымаюць у палоне і жнівеньскія ночы, мігаценне зорак і чаруючы подых адыходзячага лета.

## НАД БЛАКІТНАЙ ПЛЫННЮ

Наша лодка ціха плавала і толькі крыху гойдалася, калі я адпіхваўся вяслом. Пах лозаў і паводкавай вады ахопліваў нас. З поўдня ветрык падганяў цяпло, а над блакітнаю плынню Нёмана ўсход рассейваў світанак. Нёман быў удумлівы і ласкавы. Бледна-блакітная роўнядзь вады пераліваласяі зіхацела ад першых промняў сонца.

Луг заліты паводкавымі водамі аж да лесу, можа, на які кіламетр з гакам. Толькі сям-там на абалонні чарнеюць грудкі. Асабліва вызначаецца высокі груд, што каля лесу. Ён падобны на стажок сена.

Праляцеўшы над намі, ключы пералётных птушак зніжаліся і каля высокага груда садзіліся на ваду. З-за шырокага лазовага куста нам добра было відаць, як кучкамі асобна плаваюць крыжанкі, цыранкі, лысухі, вадзяныя курачкі, ныркі, гусі. Яны селі, каб пасля доўгай дарогі падсілкавацца. Глядзім, як то адна, то другая качка кульнецца ў ваду хвастом уверх і дастае з дна малюскаў, чарвячкоў, лічынкі. Усе адчуваюць сябе ў бяспецы, снедаюць ласкава, памяркоўна, без зайздрасці.

Паплаваўшы, падсілкаваўшыся, крыжанкі чародкамі выходзілі на груд і, гамонячы паміж сабою, парамі садзіліся адпачыць. Гусі, гагонячы, кіраваліся па вадзе, кнігаўкі і чайкі з крыкам імкліва лятавалі над воднаю прасторао. Навокал панаваў нязмоўклы гул, гоман, свіст, гогат.

Раптам з крыкам уся маса качак узнялася ў паветра. «Хто іх настрашыў?» — падумаў і глянуў на груд. З лесу паказаўся арол, ён высока плыў у небе. Імгненна пайшоў у піке на выбраную ім ахвяру. Дасягнуўшы яе, стукнуў сваёй моцнай дзюбай, і качка ўпала ў ваду. Арол узняўся, зрабіў невялікі круг, потым знізіўся

да вады, ухапіў лапамі сваю здабычу і накіраваўся ў лес.

Паступова спалох сціх, на розныя галасы прагучала ў паветры пераклічка, і гусі пачалі ўзнімацца ў паветра, будаваць ключ, які сваім вострым канцом накіроўваецца на поўнач. Ад іх ляцела манатоннае: га-га-га. Качкі адлятаді кучкамі ціха, некаторыя пары ўзнімаліся са спазненнем, нібы не хацелі пакідаць гэты цудоўны нёманскі куточак.

Над плынню лятаді, перакліканіся і пікіравалі ў плынь толькі чайкі і кнігаўкі, нібы ў іх не было іншых клопатаў.

«Каб усё гэта было вечна», — падумаў я, плывучы назад.

## СВІТАНАК НАД НЁМАНАМ

Лета сама разгаралася, чэрвень радаваў цёплымі днямі. І мне захацелася ўспомніць юнацкія гады — сустрэць світанак, паглядзець, як нараджаецца новы дзень.

Было яшчэ цемнавата, калі ўладкаваўся на стромкім беразе, звесіў ногі над вадою. Над галавой яшчэ драмалі старыя разложыстыя вербы і векавыя явары. Навокал — перадсвітальная шэрань і празрыстая цішыня, ад якой звініць у вушах, знікаюць думкі.

Непрыкметна на ўсходзе ледзь-ледзь пасвятлела неба. Лёгкі туман нясмела пачаў узнімацца ад вады і плысці на луг. Начная прахалода абдымала за плечы, цалавала шчокі. Здалося, што крыху хутчэй пабегла плынь ракі. За Нёманам у лозах парушыў цішыню першы голас салаўя. Яму адказалі ў вербах і на ліпах. Раз-пораз іх перасвіст гусцеў і затым зліўся ў неразрыўную мелодыю.

Шэра-жоўтая пляма на ўсходзе павялічылася на ўвесь гарызонт. Начная шэрань адыходзіла на захад. Туман пагусцеў і ўзняўся вышэй, ахутаў наднёманскія лозы. Відаць, згубіўшыся ў тумане, то тут, то там перакліканіся драчы: дра! дра! дра! Прашумеў імклівы пералёт кнігавак: кі-гі! кі-гі! кі-гі! Далёка на сенажаці падалі галасы дзікія качкі.

А ўсход усё ружавее і ружавее. Над вадою з'явілася машкара. Нёманская гладзь сям-там парушалася ўсплёскамі рыб — бульк! бульк! — і кружочкі хваляў адна за адною бягуць па вадзе і знікаюць.

На старой ліпе заклекаталі буслы, і іх галасы рэхам азваліся ў бары. Выгнуўшы шыю, павольна праляцела чапля і, мінуўшы мяне, падала скрыпучы голас. Я зірнуў на ўсход — з-за гарызонта выплываў вялізны край чырвонага дыска. На вербах зашамацела лісце, ускалыхнуліся лозы, прабег ветрык па траве, на розныя галасы адгукнуліся птушкі.

Ужо ярка-чырвонае сонца адарвалася ад лесу, асвяціла наваколле. На траве, куды ні глянь, бурштынам зіхацяць кроплі расы. Яны мільгацяць, пераліваюцца ў розныя колеры і калышуцца на высокіх ножках мятліцы і асакі.

На празрыстай вадзе заблішчалі першыя промні ранняга сонца, Нёман паскорыў свой бег, спяшаўся кудысьці. Знянацку над вадою з'явіліся імклівыя беражанкі — то ўзнімаліся ў вышыню, то кідаліся ўніз, крылом краналі ваду: штосьці чырыкнуць па свойму, па-беражанчынаму, і зноў узлятаюць.

А сонца ўжо над лесам. Знікла чырвань. Яркія промні грэюць мне твар. Вербы і явары прачнуліся і бадзёра ўзнялі голле да цёплых ласкавых промняў. Усё наваколле спявала, цешыла музыкай: Нёман манатонна нашэптваў свае адвечныя песні роднага краю; вербы шамацелі лісцем, спявалі славу сонцу і вадзе; птушкі пераліваліся на розныя галасы, услаўлялі лета, сонца, дрэвы; ад розных мух звінела ў паветры; мурашкі, спяшаючыся, але не абганяючы адна адну, паўзлі па шурпатым ствале вярбы.

Шчасце было слухаць гэты цудоўны шматгалосы гімн непераможнаму жыццю.

## КАСТРЫЧНІЦКІ СМУТАК

Мы выйшлі з лесу. Панаваў той незвычайны кастрычніцкі надвячорак, які бывае не часта і толькі ў нас над Нёманам. Сонца схавалася за дрэвамі, але было

яшчэ светла. На захадзе небасхіл разліўся чырванню на паўнеба, а над ім цёмнаю сцяною спакойна засынаў лес. Ён яшчэ клаў нерухомыя цені далёка на поле, дзе зелянела густая рунь.

З поля плыў памяркоўны ветрык і абдаваў твар трапяткім халадком, які не студзіць, а бадзёрыць. Ён злёгку калыхаў галінкі прыдарожных кустоў.

Якое гэта шчасце ісці па дарозе і трымаць за руку ўнука! Ідзеш, думаеш сваё, а ён шчабеча, шчабеча, і ніякай у яго стомленасці.

— Не гамані! Паслухай, — прапаную.

Мы затрымаліся. Ціха перагукаючыся, на поўдзень плыў даўжэзны ключ дзікіх гусей. Бачым, адзін гусь вылецеў з ланцуга, прыбавіў хуткасць і стаў наперадзе вугла. Уся гэтая перабудова не парушыла хуткасці палёту і сіметрычнасці ключа.

— Вось паглядзі, — кажу ўнуку, — гусь-галаўнік бярэ на сябе сілу сустрэчнага паветра і, вядома, стамляецца больш за тых, што за ім. Калі ён выб'ецца з сіл, яго заменіць іншы.

— Якія яны разумныя, — прамовіў мой унук, гледзячы ў неба.

Назіраем за імі. Ключ плыве, не мяняючы вышыні і хуткасці. Калі падляталі да Нёмана, па ключы прайшла больш частая гамонка.

— Чаго яны зашумелі? — пытае ўнук.

— Не ведаю. Магчыма, некаторыя прапанавалі тут адпачыць. «Бачыш, якая тут прыгожая рака», — сказалі яны. — «Не трэба. Мусім спяшацца. Не блізка яшчэ», — відаць, выказаліся іншыя.

Гусі павярнуліся, праляцелі над рэчышчам і зноў накіраваліся на поўдзень.

У аддаленні шнурок яшчэ быў відаць на чырвані небасхіла. Усё слабей і слабей чуліся іх галасы.

— Чаму, як адлятаюць птушкі ў вырай, на мяне находзяць смутак? — пытае ўнук.

— Відаць, таму, што наперадзе доўгая халодная зіма, а да вясны не скора. Але ведай: калі б не было смутку, не было б і радасці.

## ШАРОШ ІДЗЕ

Пад вечар сышлі снегавыя хмары, і неба на захадзе стала светла-ружовым. На некранутым белым пакрывале зазіхацелі сняжынкі.

«Будзе мароз і, відаць, добры», — падумаў я.

Нёман-прыгажун, як заўсёды, спяшаўся і подбегам нёс свае воды. Аднак я заўважыў і перамену: вада набыла стальны колер, і сям-там з яе ўсплываюць невялічкія белыя кружочкі.

«Ноччу пойдзе шарош, — зазначаю міжволі. — Ранічкай трэба наведацца».

Хто не ведае, што такое шарош, растлумачу: гэта дробны рыхлы лёд, які ідзе перад ледаставам, перад тым, як замерзне рэчышча.

Шарош — з'ява цудоўная, не кожны год надарыцца такое ўбачыць. Густая кашападобная маса шпарка рухаецца па рацэ. Ля берагоў мароз паспеў накрыць вадзяную паверхню лядовым абрусам, замацаваўшы яго за галінкі лазы. Аб лядок з шоргатам труцца шэра-свінцовыя камякі, запаўзаючы дзе-нідзе на край. На крутым павароце рэчышча, у стоўпішчы, праход такі вузкі, што вось-вось заклініцца. Назіраю за кучкамі шарашу і загадваю, якая з іх першая перагародзіць Нёман. Але мае меркаванні дарэмныя: цеснучыся адна да адной, яны лезлі пад лёд, іншыя праціскваліся ў вузкую шчыліну ў лёдзе...

Я ведаў: у наступную ноч, як памацнее мароз, шарош зробіцца яшчэ гусцейшы — і тады ўжо Нёман стане.

## Іван Вярбіцкі

*(г. Карэлічы)*

## НЁМАН У ЧАС РАЗВОДДЗЯ

Расшчодрыўся Нёман у гэтыя дні,
Плячыскі расправіў вячыста,
І сонца не ў сілах абняць з вышыні
Ягоных абсягаў срабрыстых.

Няма берагоў і шырокіх нізін,
Бясконцыя водаў прасторы,
І толькі дубцы ад высокіх лазін
Сям-там падымаюцца ўгору.

Вада не спяшаецца ўдаль пацячы,
Спакойная, ціхая ўсюды,
Цікаўная чапля парой пракрычыць,
Любуецца велічным цудам.

І зноў цішыня на прасцягах адна
Над ім уладарыць у згодзе,
А крылы разняўшы з блакіту вясна
Яго, як каханка, лагодзіць.

Такой прыгажосці нідзе не знайсці,
Хоць ты абыдзі ўсю планету.
О край дарагі, у штодзённым жыцці
Паказвай красу сваю свету.

## Янка Брыль

# БЫСТРЫ НЁМАН

Калі ўжо чалавек узяўся за таптуху, дык надзене, вядома, і вопратку адпаведную: самую ні на што непатрэбную старызну — порткі, ватоўку, шапку, якія потым і сохнуць на плоце, і зімуюць недзе разам з сеткай.

А мы з Андрэем, як выпадковыя сёння таптушнікі, лазім па-гарадскому — у трусах ды ў майках, з непакрытай галавою. І вада на нас цурчыць з паднятай сеткі не надта прыемна, і ногі мы даволі грунтоўна пааб-дзіралі ў асацэ ды карчэўі, і камары ўжо намі пачалі цікавіцца бліжэй...

На беразе, за аерам стаіць трэці наш кампаньён — трыццацігадовы, здаравенны Валодзя, прыгажун з амаль дзіцячай усмешкай дабраты і нібы вінаватасці. У адной руцэ ў яго неразлучная папяроса, у другой — звычайная авоська з неспакойнай драбнарыбіцай.

— А ўсё-такі, — гаворыць ён, — хараство тут якое, хлопцы, у вас! І рака, і луг, і лес...

Мы не спяшаемся з адказам, мы занятыя. Якраз Андрэй заходзіць, падводзіць свой бок таптухі да аеру, мы топчам ад зелля ў сетку, а тады — самы цудоўны момант! — паднімаем. І зноў хоць сціпла, але ўсё ж пацвярджаецца ўпартая народная праўда: «Рыба, браток, у Нёмане ёсць!» Гэтым разам у нас — не шалпатушкі-плоткі, не акунькі ці яршы, а сам ягомасць Шчупаковіч! Адцэджаны ў кулі, ён — зялёнай маланкай — замітусіўся па багавінні, па ніцяных клетачках, пакуль не квэкнуў у мокрай і прагнай руцэ. Толькі шпурнуўшы яго на бераг ды спусціўшы сетку ў ваду, Андрэй адказаў:

— Хараство, браце Валодзя. Зрэшты, так мы яго і рабілі, каб хараша... Сюды, сюды... Лявей. Пад гэты вось падазроны аерчык...

Нам ані крышку не холадна. І трэба было б гэтаму здзіўляцца, — позні вечар, палавіна жніўня, — але мы не здзіўляемся. Мы тут прымаем і цяпло і рыбу, як ад бацькі... Лезем па самыя ноздры ў ваду, здымаючы, між іншым, назол-камароў, падводзім, топчам, вымаем, кідаем на бераг — прагныя і шчаслівыя хоць цяпер, пасля няўдачлівага дня са спінінгам.

Не заўважаем, што і цямнее сёння не ў час, што і пагруквае з усіх бакоў... Ідзём мы ўздоўж другога ад прывалу берага, супраць вады, думаючы вось-вось вярнуцца на шырокі плёс, дзе ў водарасці нашаломім, вядома ж, нямала і плотак і шчупакоў... Гэта не толькі надзея, а нават упэўненасць.

Ды тут пачынаецца дажджавая прыстрэлка.

— Канец, відаць, ці яшчэ мо паходзім? — без ценю панікі ў голасе пытаецца з-за аеру наш сухапутны энтузіяст.

— Не, брат, усё ж такі канец!

І мы, тры Ермакі, плывём — адзін з узнятай авоськай, а двух, цягнучы сетку,— наўскасяк, на свой бераг, смеючыся пад буйнымі кроплямі, што ўжо малоцяць па вадзе і па нашых галовах зусім па-дажджавому густа, спорна.

«А ён і праўда — быстры Нёман», — думаю весела і з міжвольнай трывогай...

Пад густым, напорыстым ліўнем далятаем да нашай палянкі.

Сядзім у «Пабедзе», закрыўшы вокны і ветракі, і гэты наш, з усіх бакоў ашклёны, домік грыбам прыгорбіўся пад несусветным патопам. Маланкі ўжо не проста бліскаюць, а бесперапынку зыбаюцца ды зыбаюцца — у вокнах, у лесе, над лесам — бясконцым, таямнічым, ледзь не жудасным агнём. Бязлітасная, ураганная артпадрыхтоўка грому!..

Ну, пра гэтую ночку гаворка будзе, бясспрэчна, асобая! Як пра люты мароз і завею ў маім маленстве, калі суседскі конь прыйшоў ноччу з дровамі адзін, а самога дзядзьку Васіля толькі ўранні знайшлі на лузе ўдубянелага. Як пра тое жахлівае лета, калі збажына пасля граду была нібы пацягнута, з зямлёй змяшана вялізнай пружыноўкай. Як пра тую, другую, грымотную ноч, калі пярун ударыў на лузе ў будан, забіўшы адной стралою дванаццаць касцоў...

Ды наш «будан» — мы ўспамінаем пра гэта ўголас — ізаляваны ад зямлі гумавымі скатамі, да таго ж ён не працякае, і мы яшчэ — хоць і не вельмі — маладыя. Мы, вядома, не толькі маўчым ды курым: і смешнае ўспамінаецца, і песня просіцца з душы... Хоць гром лютуе, ірвучы на кавалкі неба, хоць не гаснуць маланкі, а лівень лажыцца на нас непрадзьмутай сцяною імклівай і шумнай вады, якой не будзе ні канца ні краю...

Так, ні канца ні краю. Пра гэта бесстаронна цікае нам, направа ад руля, гадзіннік з асветленым цыферблатам. Гадзіну адлічыў, другую... Хутка поўнач.

Тады толькі лівень пачаў аціхаць.

— Нехта ходзіць...

— Ды што ты?

— Ну, браце Валодзя, слых у цябе — ідэальны.

— А вы прыслухайцеся самі... Во!

Адчыняю пярэднія дзверцы і, высунуўшы галаву пад дождж, гляджу назад, дзе паляна і, пад абрывам, рака.

У зіхаценні апошніх маланак на фоне неба чорным мокрым рыцарам з'яўляецца закапюшонены коннік, а збоку, каля пярэдніх конскіх ног, купінаю чарнее куды больш празаічны і варты жалю «друг чалавека».

Гэта — Арцём, ляснік, і ягоны памочнік, калматы, маўклівы Званок.

— Э-гей! — крычу я, але «рыцар» ужо і сам пачынае злазіць з каня. Падыходзіць.

— Ну, як вас тут, не заліло? Лінуў дык лінуў, халерыя на яго! Дзірка прарвалася ў небе...

— Давай, Арцём, сюды ў церамок.

— Ды мне тут у маім балахоне сушэй, чым вам. А ўжо ж і дажджу во няма. Вылазьце.

І праўда — дажджу больш няма і, здаецца, не будзе.

Пацвярджаючы гэта, калматы Званок моўчкі прасунуўся ў наш кружок каля машыны і з асалодай, рыўком страсянуўся, сыпануўшы навокал процьмай халодных кропель.

— Пайшоў, халерыя!

— Вогнішча, хлопцы!

Паліва мы нарыхтавалі яшчэ ўдзень, ды вунь якую горбу. Але куды ты ткнешся да яго цяпер з запалкаю... Што ж, абліваем ламачча бензінам, і, насуперак усякай макрэчы, полымя выбухае радасцю перамогі.

Калі Андрэй адкаркоўваў бутэльку «сучка», Арцём, таксама прысеўшы каля раскладзенай на газеце закускі, сказаў:

— Ледва дастаў. Каб не Петрык, так і прыехаў бы я з пустымі рукамі. Усё падчысцілі — і соль, і мыла, і гарэлку. «Вайна!..» Ды што ты, браце, хочаш — людзі напалоханыя. Яно ўжо, скажам, гадоў колькі? Семнаццаць ад партызанкі прайшло, а многія — хто і дзіцем быў тады — памятаюць.

— Ну, Арцёме, бяры, брат, ды цюкнемся.

— Будзьце, хлопцы, здаровыя! Як там яно ні было, а во сядзім ды выпіваем...

Ён тыцнуў белую пластмасавую чарачку пад свой шырокі нас і аддаў яе мне пустую.

— Каму гэта, вядома, хочацца, — зноў пачаў тое самае, жуючы. — Ды яшчэ каб праз каго, а то ж ізноў праз таго самага шалудзьку. Аданавар гэты — ён жа тая самая халерыя, што і Гітлер...

— Нічога, Арцёме, — усміхнуўся Андрэй. — Трэба будзе, дык пойдзем.

— Яно, вядома, пойдзем, куды ж дзенемся.

— Ведаеш, Валодзя, — сказаў я. — Арцём Сцяпанавіч — адзін з першых у нашай ваколіцы партызан.

— Ат, першы, — нібы адмахнуўся Арцём. — Разбярэшся там, хто з нас быў першы. Тут першы я, там першы ён. У многіх тады іншых думак не было. А калі ўжо гаварыць пра першых, дык во яны, кансамольцы! — Ён тыцнуў шчопцямі з кавалачкам агурка ў Андрэя.

Андрэю было васемнаццаць, калі яны, група вясковых камсамольцаў, выйшлі вясною сорак другога года ў пушчу. Туды вунь, у гэтую мокрую цемру за Нёманам. А праз тыдзень пачалася першая прачоска. Эсэсаўцы, рэгулярныя карнікі — супроць сяк-так узброеных, неабстраляных дзецюкоў. Смяртэльны жах і бясконцая — калі лічыць яе не на мірныя дні, а на безліч ваенных гадзін, — без сну, без яды і вады мітусяніна, уцяканне. Пажары лясных хутароў і першыя трупы: на дрэвах, у прысаку родных хат... Тады быў і зацверджаны іх малады, паэтычна прыгожы патрыятызм, зацверджаны першымі стрэламі па ворагу, першымі пападаннямі, першымі ранамі і першай ахвярай...

Пра гэта я гаварыў Валодзю трохі раней. І мне цяпер двойчы прыемна... Наогул радасна — за Беларусь, за двух яе партызан-гвардзейцаў. Няхай любуецца мой сібірак, што там і нарадзіўся, што сюды прыязджае куды ахвятней, чым у Сочы якія ці ў Ялту. Дык вось табе, хлопча, зямля тваіх бацькоў, вось яна — наша лясная ды палявая старонка, наш бацька Нёман і наша вясёлае вогнішча!.. І Валодзя, якому ў вайну было дзесяць — чатырнаццаць год, начытаны з тонкаю душою Валодзя глядзіць і слухае з вельмі прыкметнай цікаўнасцю ў вачах.

— Таксама, браце, як цяпер падумаўшы, смеласці трэба было, — гаворыць Андрэй. — Вырашылі мы пусціць эшалон гэты якраз там, дзе яны менш за ўсё спадзяюцца: каля самага моста, каб з насыпу высокага кульнуўся. Паўзём. А восень — цёмна, гразка! Іван Капуста — хлопец быў! — паўзе спераду, я за ім... Душа, браце, пяе на найвышэйшым напружанні асцярожнасці. А потым я дагнаў Івана ды цап за бот, каб спыніўся. А ён, браце, са страху, ад нечаканасці — шануючы вас— калі вухне!.. Я, браце, ну хоць ты ўдушыся ад рогату — не магу... Ён у злосць... А ўжо насып вось-вось, перад намі...

— Тады ж цябе там, мусіць, і ранілі, і пабілі вас там нешта многа. Ці не там?

Арцём з другой, суседняй брыгады: за даўнасцю можна і пераблытаць.

— Не, браце, тады мы справіліся чыста. І эшалон той пусцілі, і вярнуліся. Хоць дыхту нам трохі далі таксама.

Паўза. А потым не вельмі каб ахвотная даведка:

— Ранілі мяне, Арцёме, каля Войнавага хутара, на днёўцы... Можа, хлопцы, яшчэ па адной?

Зноў паўза, трэск агню і вялае закусванне.

— Было, — гаворыць пасля Арцём. — Было, як ты кажаш, і страшна, было і весела. — Ён хрыпавата смяецца. — Раскажу я вам, хлопцы, бо і самому, бачыце, смешна!.. Паехаў я са сваім аддзяленнем у Бабровічы, млын той багаты разбамбіць, што немцам меле, халерыя на яго. Заведуючы там зладзюга, падла, ажно вочы круцяцца. «Напішыце мне, — кажа, — таварыш начальнік, што вы ў мяне не дзве тоны мукі ўзялі, а тры. Мне — для адчотнасці». Узялі мы там усё, што змолана было, — вазоў, здаецца, з сем... Не, браце, восем! І паехалі. А хлопцы мае, гляджу ў дарозе, як цюцькі, п'яныя, амаль усе. І сам я не разбяруся, варона, як ён іх там напаіў? Той халерыя — «для адчотнасці». Ну, браток, і намэнчыўся ж я з імі тады! Тут трэба ціха, а яны... Мала ім, што спяваюць, дык яшчэ дужацца, шчапіліся на дарозе. Сашку Тамашыку руку вывіхнулі. А ўжо сюды, да Нёмана пад'язджаючы, каля саменькіх Вербалозавіч, Рэдзька Хведар, гугніла,

убачыў, што нейкі дзядзька-пагарэлец вязе настрамак нажабраванай саломы. «Ці пацэлю я, — кажа, — яму ў дугу?..» Ну, тут ужо я яго прыпёр: «Такую тваю, растакую, застрэлю!..» Затвор ягоны ў кішэню сабе палажыў. А ён, халерыя, кажа: «Страляй! Я ракам на дарозе стану, а ты мне, — кажа, — пацэль!» От дзе мармоліна!.. «А не пацэліш, — кажа, — дык ты тады станавіся!..» Ну, я яму толькі па карку заехаў тады. Дзеці ж у цябе, дурыла ты, думаю, маці старая, жонка, дый сам ты хлопец як хлопец, калі не п'яны...

Мы смяёмся. Але мне і шкада адначасна, і крыўдна як быццам, што ўсё гэта сёння — так спрошчана, нават міжволі прыніжана, так не ў тон таму сапраўдна гераічнаму, пра што я нямала гаварыў Валодзю перад гэтай сустрэчай, сам-насам. Не такога хацелася б для яго — каб пачуў... Ну, хоць не толькі ўжо аднаго такога!

І таму я з прыемнасцю заўважаю, што і Андрэй таксама не вельмі здаволены нашай гаворкай. Бо вось ён звяртаецца да Арцёма:

— Ты, браце, раскажы, як вы Баравічка з нямецкай бальніцы ўкралі.

— Ага, ўкралі, — згаджаецца Арцём. — Трох нас паслаў тады камбрыг: Гоцку, Мяжэвіча і мяне. «Не дазволю, — кажа, — каб мой найлепшы разведчык у фрыца смерць пакутную прыняў...» Яны яго падстрэлілі і ўзялі. А там у нас, у гарнізоне, быў сувязны. Нават у бальніцы той самай рабіў. Дык ён выйшаў ажно да першай хаты, чакаў нас. І ноч такая адпаведная была — хоць пальцам у вока. Прыйшлі мы, вартавога цюкнулі, сувязнога гэтага для адводу звязалі, нават хустачку ў рот яму ўперлі. А самі — за Баравічка, да саней яго вынеслі ціхенька і — алёп!.. Халерыю ты зловіш, а не нас! Дый з кулямётам мы былі. Гоцка Косцік насіў тады «Дзегцярова».

Як гэта проста ўсё, як звычайна, Арцём!.. Штосьці сёння не клеіцца ў нас. Намякнуць, каб ты расказаў, як тут твой «кляты» ўзвод (ужо не аддзяленне, а конны ўзвод, якім ты пасля камандаваў) тры дні недалёка адгэтуль трымаў на Нёмане абарону, як немцы не прайшлі нягледзячы на мінамёты і танкеткі? Што ж, ты і з

гэтым таксама згодзішся: «Ага, не прайшлі... Мы іх тры дні трымалі і не пусцілі...»

Ёсць чалавеку пра што расказаць, ёсць што ўспомніць і чым, не прыхарошваючы, пахваліцца. А ён вось зусім празаічна гаворыць, прыўзнімаючыся на калені:

— Давайце, хлопцы, мо трохі паспім? А то будзем заўтра носам, халерыя на яго, клявацъ увесь дзень. Галля насцелем, ды ля агню... Ляжаць усё ж такі лепш, чым сядзець у машыне...

І мы рыхтуемся да сну. Бо ўжо навокал вогнішча сырая цемра пачынае так прыкметна шарэць, што заўважаюцца не толькі блізкія дрэвы, але і цярплівы леснікоў верхавік, які тым часам спіць па-свойму, на нагах, сяды-туды гайдаючы страмёны партызанскага, даўно старэнькага сядла.

Ляжым на лісцяной, раней падсушанай каля агню пасцелі. Рэбры прыходзяцца напоперак галін. Мулка, вядома, але ляжым. Гамоніць роўным, пругкім гулам полымя, часамі трэсне, нібы раскалоўшыся, сучок. Зверху — не-не дый ападзе з ліста якая-небудзь зусім лішняя кропля, лузгануўшы на плашчы або да злосці спалохаўшы тваё вуха.

«Ужо гэты дык мог бы, — нібы нават капрызна думаю я пра Андрэя. — У яго ж не толькі ёсць аб чым расказаць, але і можа ён, калі ў часіну ціхай шчырасці, удвох, утрох... А зрэшты, чаму яна, тая часіна, павінна была прыйсці да нас іменна сёння, цяпер? Таму, што я хацеў бы вельмі, каб Валодзя пачуў?.. Я раскажу табе многае сам. Бо мне наогул трэба вельмі многае і вельмі добра расказаць пра такіх вось, як гэтыя, шчырых работнікаў нашай вялікай справы. Каб не пайшло ў нябыт, каб не развеялася, пашумеўшы мясцовай легендай, каб не зацерлася ў памяці пакаленняў тое, як і тут, над нашым Нёманам, палымнела чырвонай стужкаю на аўчыннай кубанцы, грымела помстаю і маладым, пераможным смехам беларуская партызанская слава...

Не трэба толькі шумных слоў, не трэба імі абражаць непаказную, народную сціпласць сапраўдных людзей...»

Успамінаю, што было днём, як ён ляжыць на высокім абрывістым беразе — разам з намі, ды трохі наводшыбе — наш малады яшчэ Андрэй. Задуманы.

Усе мы маўчым, хто курачы, хто так. Глядзім на ціхую ў гэтай глыбокай завадзі ваду, у якой хвалююча, успамінам маленства адбіваецца нагрувашчанне белых аблокаў і мяккая, сакавітая просінь. Глядзім на луг за ракою, дзе стагі ўжо шарэюць, выгараючы на сонцы, а пакоша пацягнулася вясёленькай атавай. Глядзім час ад часу і на аблокі ўгары, на іхнім, як і належыцца, месцы... На фоне гэтай бела-лілова-блакітнай прыгажосці, лена планіруючы, перавальваюцца з крыла на крыло чатыры буслы. Не, больш. Далей яшчэ вунь. І лічыць не хочацца, — так многа. Пленум нейкі ці манеўры перад адлётам... У нас тут, за лесам, цянёк. А за ракою, на лузе, — яшчэ ўсё сонечна: недзе далёка за намі сонца толькі што пачынае ісці на пасадку. У велічным спакоі працавітых дзён, у плённай жнівеньскай спеласці.

«Пра што ён думае?» — гляджу я на Андрэя спадылба, падпёршы падбародак пастаўленымі адзін на адзін кулакамі.

На тым баку стаіць над самай вадою бярозка. Адна, нібыта выбегла з дзявочай чарады, каб паглядзецца ў такое вялікае, чыстае люстра. Маладая, а колькі на ёй залатога лісця!..

«Пра што ж ён думае?.. А, ведаю!»

Пытанне гэтае і мой адказ — цяпер ужо не поўнасцю такія, як былі тады, удзень. Я гавару фактычна: «Пра што ён думаў?» І да ранейшых здагадак, неразрыўна сплятаючыся з імі, далучаюцца новыя.

Успамінаю словы, сказаныя тут, пры вогнішчы: «Ранілі мяне, Арцёме, каля Войнавага хутара, на днёўцы».

За звычайным, нібы і сапраўды толькі даведачным гучаннем гэтых слоў мне цяпер уяўляецца не тое, як яны, хлопцы, прарываліся з варожага агнявога кальца, як чатыры жыцці абарваліся, кожнае жудасна і прыгожа па-свойму... Бачу чамусьці другое, — ужо аголены лістападам бярозава-пярэсценькі гушчар і дол, нібыта для прыхільнай цішыні, багата высцелены жоўтым ліс-

там. Тры буданы, у адным з якіх ляжыць паранены ў нагу дзяцюк. Два іншыя буданы — пустыя: атрад пайшоў на заданне. А з Андрэем астаўся кульгавы Петрык. І цяпер толькі ясна зрабілася, які гэта добры хлопец. І даглядае цябе, нібы маці, і ў душу не лезе. Нібыта вы тут удвох і нібыта адзін ты ляжыш на саломе, накрыты нядаўна чужым, а цяпер ужо толькі народным, ласкавым кажухом. І непрывычны боль першай, няўмелымі рукамі перавязанай раны не такі для цябе невыцерпны, як боль па сябрах...

На змярканні параненаму чуваць было, як недзе — то бліжэй, то зноў далей — шамацела лісце пад нагамі ў кагосьці... Можа, Петрык кульгае, так цяпер жаласна для цябе, а ўжо ж даўно, ад роду заграбаючы правай нагой? А можа, нават дзік, за ветрам не чуючы падышоў?..

Ды вось шамаценне тое пачулася бліжэй. І Петрык, якога дагэтуль нідзе не было, мужчынскім голасам крыкнуў: «Стой! Хто ідзе?»

Андрэева рука сама знайшла на саломе пакарбаваную ручку нагана. Дарэмна — галасы свае: Петрыка і яшчэ нечы, так трывожна знаёмы...

Вось зноў шамаціць лісце. У светлым трохкутніку выхаду з'яўляецца цёмны, гледзячы знізу, магутны сілуэт.

— Сынок, ты тут?

Эх, бацька, бацька!.. Няўжо гэта той самы ты, што, пілуючы на прыгуменні дошкі, стаяў на сталюгах і зверху пасмейваўся з сыноў? А потым, як Бульба, дужаўся з імі і рад быў, як сам казаў, у дзве столкі: што і хлопцы выраслі, дый ты яшчэ не ўломак, нават большага гэпнуў... А цяпер вось маўчыш, пазіраючы ў змроку на меншага. Што маўчыш — каб не плакаць?..

— Пайду я ўжо, мусіць, — глуха азваўся ён, пасядзеўшы побач. — А ты папраўляйся. Я мацеры так і скажу, што ўсё добра. А ты папраўляйся... — Пашамацеў саломай, устаў. — Прымаразкі бяруцца...

— Вы, можа, боты мае абуйце, — сказаў няпэўна сын. — У кутку вунь там. І анучы, здаецца, у ботах.

— Хэ, тожа мне салдат!.. Пайду. Ну, будзь здароў!..

Пайшоў. У чужую вёску, у чужую хату. Яшчэ ўсё босы, па пякучай шэрані. І без шапкі. Такі, як выбег з пажару...

І хада яго доўга, бясконца доўга шамацела ў бярэзніку насцілам лісту.

І сёння вось шамаціць — праз дзевятнаццаць год...

...Тады ж, калі мы ляжалі на беразе, Арцём спытаўся ў Валодзі:

— Дык вы з Сібіры? Ад белых, можа, мядзведзяў?

Той засмяяўся:

— Ну, ад мядзведзяў — не, а вось алені дык ад нас ужо недалёка, адзін чыгуначны перагон.

— Алені — яны, відаць, такія, як ласі?

Спытаўся Арцём не таму, што нібыта не ведае, а хочучы нешта сваё расказаць. І расказаў, як летась увосені сустрэўся на сцежцы з ласём. Сахаты пары шукаў якраз і быў, вядома, вельмі злосны...

— Гэты во выручыў, — паказаў Арцём на Званка. — Каб не ён, дык невядома, што і было б. То маўчыць усё, а то дык калі кінецца на гэтага лася?.. А лось — такая вунь, хлопчыкі, звярына! — унурыўся ды на яго! А конь мой — дарма, што ціхі, — на дыбы, крутнуўся на месцы, халерыя, ды ў гушчар. Як я там толькі рук ды галавы не адарваў, уцякаючы?.. І партызанку — хлопцы ж ведаюць — і фронт прайшоў, а дальбог жа ж, ніколі, здаецца, так не спалохаўся!..

Успамінаю, як быў забіты над Нёманам храбры нямецкі маёр. Трохі вышэй ад гэтага месца, на лузе.

Перад пачаткам блакады нейкі тройчы ардэнаносны франтавік яшчэ загадзя, напярэдадні падскочыў на матацыкле да той «фарфлюхтэр флюс»*, з намерам паглядзець, чаго тут і каго тут так баяцца тылавыя пацукі, адкормленыя зондэрфюрэры і розны неарыйскі паліцэйскі зброд. Пад'ехаў на матацыкле з каляскай, сам за ручным кулямётам, а фрыц у касцы — за рулём. Спыніўся на высокім беразе, глядзіць цераз бінокль на няскошаны луг за ракою, заліты нізенькім сонцам, на катлішчы і зямлянкі двойчы ўжо спаленай партызанскай

* Праклятае ракі (ням.).

«Масквы»... «Фарфлюхтэ вюстэ!»* Заўтра мы пройдзем у вашы бандыцкія логавы!..

Бінокль яшчэ быў ля вачэй, калі па абодвух ваяках паласнула аўтаматная чарга.

З кустоў на тым баку, толькі праз момант, патрэбны, каб распрануцца, выйшаў голы мужчына і, з пісталетам у зубах, сажонкамі пайшоў напоперак быстрай плыні... Жывы быў толькі матацыкл: ён усё тырчаў, гатовы зноў сарвацца з месца.

А ўжо адтуль, дзе маёра чакалі, у адказ на чаргу прыйшла першая міна — на выручку. Яна разарвалася, праўда, далёка на лузе, аднак і марудзіць нельга было. Упяўшыся, чалавек крануў з месца нагружаны шэразялёнай падлай матацыкл, дакаціў яго да абрыву: нырай!.. А сам — з трафейным кулямётам у левай руцэ, над сабою, і з пісталетам зноў у зубах — паплыў назад.

Другая міна разарвалася ў вадзе. Ды ён ужо вылез на бераг. Адтуль — з іх боку — пачуўся трэск матацыклаў... Трэці выбух узрыў лугавую макрэчу якраз на ягонай дарозе ў лес. Чацвёрты ахнуў правей... Ды чалавек ішоў — не бег. Нават і апрануцца збольшага паспеў — трохі адразу, у кустах, а то дык на хаду, пакуль схаваўся ў першым бярэзніку...

Так, гэта быў Арцём.

У тыя дні душа яго была ахоплена страшэнным болем...

Ціха ўстаю. Не разбудзіў нікога. Толькі Званок, не паднімаючыся, спакойна глядзіць на мяне і прыязна матлошыць па траве хвастом. Вогнішча хоча галля. Праношу з горбы абярэмак і кладу. Праз нейкі момант, сабраўшыся з духам, полымя прабівае яго, уздымаецца са здаволеным гоманам.

Днее. Нібы добрыя вочы з-пад злосных брывей, з-пад хмарнай навісі цёпла глядзіць зара. Хмары паднімуцца, сонца ўстане. Будзе яшчэ адзін ціхі, пагодлівы дзень. Як гэта проста ўсё — дзень пасля ночы — і як гэта радасна.

---

* Праклятая пустыня! (ням.)

Дзень пасля ночы. А ноч перад днём? Тая ваенная, навальнічная ноч...

Успамінаюцца словы: «Было і страшна, было і весела...» Гэта, Арцём, гучала ў цябе... ну, проста як адгавор. Бо страшнае тваё няможна часта згадваць уголас.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Новая хата ў адной з наднёманскіх вёсак. Садок на градах, у агародчыку кветкі. І часта тварык дзіцячы за чыстай, вялікай шыбінай, — як толькі хто стукне брамкай. У хаце на сцяне — выцвілы здымак пад шклом — партызанская конніца, цэлы ўзвод, і камандзір у кепачцы, Арцём Маляўка. Побач — тры ружы з лісцем — дзіцячая вышыўка, «ланцужком». А над усім гэтым — восем фотапартрэтаў. Цьмяных, з бязлітаснай рэтушшу, пераднятых ды павялічаных з маленькіх, пяцімінутных здымкаў мясцовага аматара ці валачашчага партача. Бацька і маці, таксама, як яны, старая цётка, малодшыя Арцёмавы сястра і брат, першая жонка з дзвюма дзяўчынкамі.

Усе яны загінулі тут, у роднай вёсцы.

Дзевятага фотапартрэта няма. Мішку яшчэ не здымалі, здаецца, ці, можа, прапаў яго здымак. Пяць год было сыну. Казалі, ён уцякаў. Таму і магіла яго была за гумнамі.

Была. Бо летась іх з чатырох магілаў перанеслі ў адну, над якою паставілі помнік. Дзвесце шаснаццаць чалавек. Так падлічылі раней, па памяці, кожны сваіх. А Мішку адкапалі аднаго.

Бацька сам яго пераносіў. І сам расказваў мне, што ў той магіле наводшыбе разам з астанкамі сына быў яго мячык.

«Чырвона-сіні, вялікі. Нібы сягоння помню, як я яго купляў... Палажыў яму мячык той зноў...»

Бачу самотную хату над возерам, безыменнага дзядзьку-палешука. «Такыі, таварышу, раны нэ хочуць гаіцца...»

Адны не хочуць, а другія і зусім не гояцца. Колькі іх прынесла нам вайна?.. А ўсё ж: «Як трэба будзе, дык пойдзем, нікуды не дзенемся». Гэта — шэра,

ды гэта затое не фраза. За ёю — вера, якую ўжо гартавалі...

Зноў Арцёмава дабрадушная ўсмешка: «Разбярэшся там, хто з нас быў першы...»

І сапраўды — што назваць пачаткам яго, Арцёмавай, партызанскай біяграфіі? Ці майскі вечар у сорак другім годзе, калі ён, пакінуўшы сям'ю, пайшоў з групай аднавяскоўцаў у гэты вось лес — ужо не з сякерай, без воза, а на вялікія гістарычныя справы? Ці тую восеньскую ноч сорак першага, калі ў акенца яго хаты пастукаў самы першы ў нашых ваколіцах партызан? Ці той чэрвеньскі дзень жахлівага, незразумелага ганебнага адступлення, калі ён, шэры ды ціхі бядняк, падняў на дарозе і, азірнуўшыся вакол сябе, панёс у зараснік першыя тры вінтоўкі?..

«У многіх тады іншых думак — не было».

Якія словы патрэбны, каб як след расказаць пра цябе, пра ўсіх такіх герояў — радавых і сапраўды незамянімых?

«У мяне ёсць таксама медалі, — казаў ён учора, зусім прастадушна здаволены. — Адзін «За адвагу», а другі партызанскі, жоўценькі. А ўжо за фронт нічога не далі. Я там шафёрам быў. На міну раз, халерыя, наскочыў. У Германіі. Толькі пыл і дым, слупам ахнула ўверх, — больш нічога не помню. І галава цяпер часта баліць...»

І ў параўнанні з суседзямі трохі больш сена карове — прывілегія лесніка.

Больш ты як быццам нічога не хочаш. А пра мінулае нават расказваць не любіш. «Што я — адзін такі?» Гэта — не словы твае, я такога не чуў, гэта — думка, і думка глыбока народная. Гордасць і боль прыкрываючы, ты нават смяешся і цягнеш наверх, каб весялей было, тую, не вельмі часам і прыгожую партызанскую будзённшчыну, якое яшчэ ўсё баяцца і тыя, што пішуць, і тыя, што вучаць пісаць...

— Сонца ўсходзіць.

— А, гэта ты, Арцём. Здароў!

Стаім на беразе, глядзім на ўсход, дзе — перад сонцам — учарашняя, «Андрэева», бярозка... А далей пу-

шча, думаю, дзе на лядах — рады сасонак. Толькі адну чамусьці бачу, буйным планам, з кроплямі серабрыстай расы, што вось-вось зазвоняць, як тыя мае, над Бярозай... У гушчары, над зараслаю рэчкай — цыбатае, бурае ласяня цягне губамі і плямкае, нібы жуе, аерыну, пакуль што толькі гуляючы. Хопіць яму і матчынага малака. А ласіха стаіць па чэрава ў вадзе. Напілася і, не спяшаючыся, угматвае, смачна жуе вялікія плывучыя лісты лілеі, разам з якімі да пысы яе асуджана гайдаецца-плыве пяшчотна белая, з сонечным «сэрцам» кветка. Хутка сонца паднімецца, і Нёмнава быстрая вада, у якую глядзіцца бярозка, заблішчыць, ажыве, зайграе...

Хораша, Валодзя, у нас — учора ты нездарма захапляўся!

Арцём закурвае.

— Ну, што? — пытаецца з падморгам і прыцішана. — Будзіць іх будзем, рыбу чысціць ды есці варыць, ці пойдзем, можа, закінем, пакуль яны спяць?

Паэтычная, родная проза!..

*1961 г.*

## Янка Рагоз

# ЛЮБЧАНСКІ ДРУКАР XVII СТАГОДДЗЯ

Любча...
Нёман...
Луг як аксамітны...
Недзе песню зачынае драч.
Блястусовіч —
Пётра Кміта
Ладзіць свой станок, як быццам ткач.
З Вільні ехаў,
Там, дзе дух Скарыны
Над князёвай вежай не ачах.
Наднямонне годна стрэла сына,
Бо не пан ён — бачна па руках.

Рукі чорныя, нібыта ў хлебасея.
Загрукоча прэс друкарскі тут,
І над Нёмнам зорна пасвятлее...
«Любча... Любча —
Ты ж любімы кут!»
Згэтуль недалёка да Нясвіжа,
Дзе нядаўна Будны шчыраваў.
Як глыток гаючай акавіты —
«Катэхізіс» першай кнігай стаў.
І таму адною думай апавіты —
Ля станка працуе, нібы ткач.
Любча...
Нёман...
Луг як аксамітны...
Недзе песню зачынае драч...

## Аляксей Сінілаў

## НОЎГАРОДАК, НАВАГАРОДАК, НАВАГРУДАК...

Уперадзе — Навагрудак, старажытны горад. Аб ім польскі гісторык XVI ст., аўтар «Хронікі польскай, літоўскай, жмудскай і ўсёй Русі», пісаў: «А калі яны (літоўцы) пераправіліся цераз Нёман, знайшлі яны за чатыры мілі адтуль гару, прыгожую і высокую, на якой раней знаходзіўся замак рускага князя, які называўся Навагрудкам і быў разбураны Батыем. Эрдзівіл заснаваў тут сваю сталіцу і аднавіў замак, а асеўшы тут і завалодаўшы вялікай прасторай рускай зямлі без кровапраліцця, бо не было каму яе абараняць, стаў называцца Вялікім князем навагрудскім».

У мінулыя часы Навагрудак вымаўляўся як Ноўгарадок і па задуме тых, хто даваў назву, быў нібы малодшым братам Вялікага Ноўгарада.

Позірку адкрылася тая гара, пра якую пісаў польскі гісторык. Вялікі парк і шматлікія сады ўпрыгожваюць яе схілы; часам праз зялёную сетку праглянуць белака-

менныя сцены гарадскіх будынкаў, высока ўзнесліся вежы храмаў, а на самым краю, дзе гара абрываецца страшэннай круцізной, відаць гордыя руіны некалі непрыступнага замка. У адным месцы высяцца рэшткі сцен з чырвонай цэглы, вышынёй у пяць паверхаў.

А вышэй за ўвесь Навагрудак, вышэй руін феадальнага замка насыпаны народам высокі курган у гонар вялікага польскага паэта Адама Міцкевіча.

Пры белапанскай акупацыі Навагрудак быў цэнтрам ваяводства і гэтым самым «абскакаў» іншыя, больш буйныя гарады, напрыклад, Гродна. Справа ў тым, што ён меў супраць іх пэўныя «перавагі» — быў невялікі, адрэзаны ад краіны (шырококалейная чыгунка праходзіць адсюль далёка), рабочых тут налічвалася зусім мала. І гэта адыграла рашаючую ролю пры выбары горада, дзе можна было б падзецца з ваяводскімі ўстановамі. Калі зямля гарыць пад нагамі — лепш за ўсё, меркавалі паны, размясціць ваяводскае начальства дзенебудзь у зацішным месцы. Такім яны хацелі бачыць Навагрудак, але не такім ён быў.

Навагрудак — галоўная вуліца ў жыцці Адама Міцкевіча. Калі ўспамінаем імя вялікага польскага паэта, ва ўяўленні паўстае ўвесь гэты паэтычны край, дзе расквітнеў геній паэта, край, які запаланіў яго сэрца, навучыў разумець і любіць прыгожае — прыгожае ва ўсім і ўсюды: у прыродзе, у людзях, у жыцці.

Па нацыянальнасці Адам Міцкевіч — паляк, родная яго мова — польская. Але ён ні разу ў жыцці не наведаў Варшавы, сваёй радзімай называў Літву, а народ, сярод якога ён вырас, чые пачуцці, імкненні, мары з маленства ўвабраў у сябе, — то быў беларускі народ.

Нядоўгая Замкавая вуліца вядзе на Замкавую гару. Тут,

На крутым плячы гары,
Стаіць замак Навагрудскі.

Уласна кажучы, цяпер замка няма. Усё, што засталося ад яго, — гэта рэшткі закураных ад пораху, счарнелых ад часу мураваных сцен, якія панура высяцца над наваколлем. Ды яшчэ дзе-нідзе змрочныя ўвахо-

ды ў скляпенні. Вось і ўсё. Крапасны роў даўно ўжо страціў свой грозны выгляд, і на яго крутых зялёных адхонах пасвяцца козы.

Геаграфічная карта кажа: Навагрудскае ўзвышша — самае высокае ў Заходняй Беларусі, яно дасягае 323 метраў над узроўнем мора. Самая высокая кропка ўзвышша — тут, дзе засталіся руіны замка.

Адсюль адкрываецца выдатны краявід. Прама ля ног — гарадскі парк, далей — палі і вёскі, яшчэ далей пайшла шырокая паласа лясоў, прыкрытая лёгкай смугой; у добрае надвор'е адсюль можна ўбачыць Любчу, што за дваццаць кіламетраў.

Навагрудак, Замкавая гара... Многае з таго, што бачыш навокал, звязана з памяццю Адама Міцкевіча.

Замкавая гара — пасярэдзіне. Справа ўнізе, ля падэшвы гары, — храм. Злева, на малым замчышчы, вышэй старажытнага замка, — высачэзны земляны курган.

## Уладзімір Мархель

# СЭНС СТРАТЫ РАДЗІМЫ, АБО ВЫПРАБАВАННЕ ПІЛІГРЫМСТВАМ

Жыццё Адама Міцкевіча, ад нараджэння (24 снежня 1798 г.) да скону (26 лістапада 1855 г.), напоўнена знакамі. Адны з іх мелі сімвалічнае значэнне і з часам раскрываліся, другія абрасталі легендамі, якія больш зацямнялі, чым прасвятлялі яго біяграфію. Да сённяшняга дня няма пэўнасці наконт месца нараджэння паэта, і не таму, што біёграфы не могуць дамовіцца на карысць той ці іншай версіі яго з'яўлення на свет, а таму, што няма дакументальных сведчанняў гэтага. Запіс у метрычнай кнізе наваградскага фарнага касцёла тычыцца хрышчэння двухіменнага Адама-Бярнарда, сына мінскага каморніка і наваградскага адваката Мікалая Міцкевіча і Барбары з Маеўскіх, якое адбылося

12 лютага 1799 года. І хоць запіс гэты мог быць, хутчэй за ўсё, вынікам нараджэння Адама Міцкевіча ў Наваградку, ён, нягледзячы на пераканаўчыя намаганні Вінцэся Каратынскага, не спыніў развіцця рамантычнай версіі пра месца і нават абставіны прыходу ў жыццё вялікага паэта.

Міцкевіч, паводле падання, якое зыходзіла ад яго старэйшага брата Францішка, нарадзіўся ў прыдарожнай карчме Выгада, дзе нібыта вымушана была спыніцца Барбара Міцкевічава з Маеўскіх, вяртаючыся з Завосся ў Наваградак. Другая ж версія, аўтарам якой трэба лічыць малодшага паэтавага брата Аляксандра, за месца нараджэння Адама падавала Завоссе, прытым з адной знакавай дэталлю: пупавіна немаўляці была адрэзана на кнізе.

І сямейная версія, і вуснае паданне былі арыентаваныя на неардынарнасць, выключнасць лёсу паэта, а з'яўленне яго на свет у дарозе, у прыдарожнай карчме нібыта прадвесціла яму шляхі вандроўніка, бясконцае пілігрымства. Паданне пра пачатак зямнога шляху Міцкевіча, заснаванае на рэальнай памяці і рамантычнай фантазіі, спрыяла стварэнню вобраза паэта, які радзіме належыць, а сабе — не. Аднак і з радзімаю ў паэта складваліся не простыя стасункі. Пра гэта як быццам здагадваецца, аб гэтым папярэджвае здарэнне-знак з часу маленства Адама: яшчэ немаўлём ён скінуўся з падаконніка бацькоўскага дома на вулічны брук, і яго, непрытомнага, здавалася, нежывога, маці заімчала ў касцёл і там на каленях вымольвала вяртанне да жыцця свайго дзіцяці. Пра гэта паэт згадваў пазней ва ўступе да паэмы «Пан Тадэвуш»:

Святая дзева, Ты бароніш Чанстахову
І ў Вострай браме свеціш. Ты ўзяла ў ахову
Наваградак наш слаўны з верным яго людам,
І мне жыццё ў маленстве Ты вярнула цудам
(Калі ў адчаі маці пад Тваю апеку
Мяне ўручыла, я ўзняў мёртвае павека
І мог ісці адразу да святынь парогу
За вернутыя сілы дзячыць Пану Богу).

*(Пераклад П. Бітэля)*

Міцкевіч удзячна памятаў пра цуд свайго вяртання да жыцця і звяртаўся да Божай Маці дзеля здзяйснення новага цуда — свайго вяртання на Бацькаўшчыну. Ён спадзяваўся на цуд творчы, і яго вымольванне гэтага цуда на пачатку паэмы нагадвае зачын старажытнага летапісца ці сярэднявечнага перапісчыка, якія распачыналі працу ў надзеі на боскую падтрымку. Меў надзею на поспех і Адам Міцкевіч, тым болей, што стаўка была высокая: радзіма і здароўе ўраўноўваліся («Litwo! Ojczyzno moja! Ty jesteś jak zdrowie — Літва! Мая айчына! Ты як здароўе)», страта бацькоўскага краю ўспрымалася, адчувалася паэтам, як страта здароўя, г. зн. боль расстання з роднымі мясцінамі станавіўся ўнутраным болем, і суняць яго можна было калі не наведваннем радзімы, то, прынамсі, ілюзіяй гэтага наведвання.

У 1815 годзе пасля сканчэння дамініканскай школы ў Навагрудку ён паступіў у Віленскі універсітэт і родныя мясціны наведваў толькі ў часе канікул; з 1819 года працаваў настаўнікам лацінскай мовы ў гімназіі ў Коўне, а ў кастрычніку 1824 года ў выніку следства па справе канспіратыўнага руху філаматаў быў назаўсёды разлучаны з радзімаю, апынуўшыся ў выгнанні ў Расіі, якое адбываў у Пецярбургу, Маскве, Адэсе і Крыме; у сярэдзіне мая 1829 года адплыў на караблі з Кранштата ў незваротную эміграцыю; у вандроўках па Еўропе, у Веймары, Дрэздэне, Жэневе, Рыме, Лазане, а таксама ў Парыжы, дзе выпала спыніцца на пастаяннае жыхарства, Міцкевіч думкамі і памяццю, усёй сваёй істотаю быў памкнёны ў бацькоўскі край, а ў жніўні 1831 года нелегальна прыехаў у Вялікапольшчу, наблізіўся да прускай мяжы з Расіяй, але так і не перайшоў яе, пахіснуўшы ў сабе надзею вярнуцца калі-небудзь у Наваградак і не аднавіўшы яе ў адчаі, які скіраваў яго энергію і аўтарытэт на стварэнне легіёнаў для вызвольнага паходу на тэрыторыю забранай радзімы; далёка ад роднай Наваградчыны застаўся Міцкевіч і пасля скону (нечаканую і загадкавую смерць напаткаў ён у Канстанцінопалі: у студзені 1856 года яго прах быў перавезены і пахаваны на могілках Манмарансі ў Парыжы, а на пачатку ліпеня 1890 года перанесены ў Кракаў на

ўганараваны вечны супачын у асобнай нішы старажытнага Вавеля — побач з каралямі, але далёка ад бацькоў).

Усе папярэднікі Адама Міцкевіча, якія далучаліся сваёй творчасцю да шматмоўнай літаратуры Беларусі, незалежна ад таго, цікавіліся яны беларускім фальклорам ці не, ставіліся да народнай паэзіі як да з'явы больш нізкай, чым літаратура пісьмовая, знаходзілі ў ёй грубасць і неўпарадкаванасць. Пераадольваючы гэта, Міцкевіч заглыбіўся ў такое асваенне беларускіх вераванняў і вуснай паэзіі, якое адкрыла перад ім сапраўднае бязмежжа мастацкага пазнання свету. Аднак у індывідуальным пераасэнсаванні фальклору свайго народа Міцкевіч не дайшоў да мовы носьбіта гэтага фальклору, а спыніўся на агульнапрынятай тады ў яго краі польскамоўнай форме засваення вусна-паэтычных скарбаў.

Санеты набылі для аўтара выратавальную літаратурную ўмоўнасць, якая драму глыбокага пачуцця — кахання да Марылі Верашчакі прыкрыла драматургіяй псіхалагічна разнастайнага, шчодра-змястоўнага інтымнага свету ў чалавечых стасунках. Вобраз Марылі, якая стала далёкай, як і радзіма, прысутнічае ў кожным санеце. Шчырасць перажыванняў і заглыбленасць душэўнага аналізу, багацце адценняў пачуццяў і натуральнасць іх раскрыцця складваюцца ў цыкле адэскіх санетаў у біяграфію інтымных узлётаў лірычнага героя і яго натхнёнага пасталення.

У гэты цыкл, складзены з 22 твораў, Міцкевіч увёў санет «Да Нёмна», які напісаў у прынаваградскіх Шчорсах летам 1821 года як рамантычнае прадчуванне расстання з радзімаю і ўжо ўсвядомленае, але яшчэ не перажытае расстанне з каханай Марыляю, прынёманскай Лаураю. Санет «Да Нёмна», несумненна, ключавы для выяўлення ўспамінальных стасункаў паэта з далёкай радзімай, хоць і астатнія санеты праз вобраз каханай, традыцыйна завуаляваны імем Лауры, таксама захоўваюць сувязь з роднымі мясцінамі.

Між тым у цыкле крымскіх санетаў духоўная лучнасць аўтара з пакінутай не па сваёй волі Літвою — Беларуссю адбываецца пры візуальным, навочным

успрыманні краявідаў Крыма. Блізкая, непасрэдна ўспрынятая чужына і далёкая, захаваная ў памяці радзіма суіснуюць у крымскіх санетах як дзве прасторы, адлегласць паміж якімі не скарачаецца па меры вобразна выяўленых контураў поўдня, а наадварот — павялічваецца. Экзатычныя і ярка-святочныя фарбы Крыма абвастраюць пачуццё настальгіі Міцкевіча і абумоўліваюць яго эмацыянальную апеляцыю да роднага краю.

Апынуўшыся ў эміграцыі, Міцкевіч імкнуўся запаўняць свой быт такімі атрыбутамі, якія нагадвалі б яму край маленства і маладосці. Старэйшая дачка паэта Марыя пазней прыгадвала: «У нашым садзіку было і дрэўка рабіны, якое сам бацька пасадзіў, і дзе б мы калі не мелі сад, ён заўсёды клапаціўся, каб у ім было дрэва, якое яму напамінала б Літву і горкія ягады якога дзеля памяці ён таксама любіў». Уносячы ліцвінска-беларускі стыль у сваё эмігранцкае жыццё і напаўняючы яго прыкметамі і дэталямі родных мясцін, Міцкевіч спрабаваў прыглушыць сум па мінулым, але не мог перанесці ў эміграцыю пакінутую радзіму. Міцкевіч няўхільна набліжаўся да таго, каб скарыстаць самы надзейны і даступны для яго — мастацкі спосаб вяртання дамоў. Зварот «Літва! Мая радзіма...», пастаўлены ў пачатак «Пана Тадэвуша», мае для паэта амаль рытуальнае значэнне. Гэта канкрэтны накірунак і канкрэтная сфера яго ўяўнага вяртання. Яны неадменныя і незаменныя. Вось чаму, калі Юліян Урсын Нямцэвіч прапанаваў Адаму Міцкевічу замяніць у першым радку «Пана Тадэвуша» слова **Літва** на **Польшча**, то ён абурыўся гэтай прапановаю.

Вяртанне Міцкевіча ў думках, ва ўяўленні на радзіму, рэалізаванае шчодрым узнаўленнем жыццяносных малюнкаў і эпізодаў у паэме «Пан Тадэвуш», не выключала рэальнага, фізічнага вяртання ў край маленства, дадому, захоўвала надзею на сустрэчу паэта з апетымі ім мясцінамі. Апошнія паэтычныя творы Міцкевіча, не прызначаныя для друку і названыя пазней лазанскай лірыкай, гэтай надзеі ўжо не неслі. У вершах «Над воднай прасторай чыстай», «Калі мой труп...», «Паліліся

мае слёзы...» паэт заглядвае ў такія глыбіні свае душы, якія адкрываюць яму сэнс страты радзімы і выпрабавання лёсу пілігрымствам.

## Адам Міцкевіч

# ПАН ТАДЭВУШ

*(Урывак з паэмы ў перакладзе В. Дуніна-Марцінкевіча)*

Панам і сялянам з-над Дняпра,
Дзвіны, Беразіны, Свіслачы,
Віліі і Нёмана гэту працу
ахвяруе

*Перакладчык*

Літва! — родна зямелька! Ты, маўляў, здароўе, —
Той цябе ашанцуе, каму безгалоўе!
Хто жыў калісь на ніўцы тваёй, як у раі,
І вось крывавы роніць слёзкі ў чужым краі!
Цяпер-то, як ты красна, я чую, я бачу
І апішу, бо горка ўсцяж па табе плачу!
Ты, панна, што сцеражэш яснай Чанстаховы,
Што свеціш у Вострай Браме, што горад замковы
Навагродскі бароніш, яго народ жылы,
Як мяне ты падняла, маўляў, з магілы.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Так нас дзівам павернеш у зямельку родну.
Пакуль жа блісне шчасце, хоць душу нягодну
Звярні да гор лясістых, шырокіх пракосаў,
Што дыванам пры Нёмне свецяць з-пад нябёсаў,
Да ніў родных, калоссем ярка маляваных,
Залочаных пшаніцай, жытам пасрабраных,
Дзе жоўта свірэпка, дзе грэчка бяленька,
Дзе дзяцеліна гарыць, як красна паненка;
А ўсё мяжой прыбіта, бачыцца устужкай,
Там-сям быццам к адзежцы прышпілена грушкай.

## Рыгор Барадулін

# ТРЫПЦІХ

*Адаму Міцкевічу*

I

Развітваўся з Марыляю Адам
І пасадзіў бярэзіну ў адчаі
У напамінак і дакор гадам,
Калі каханых шлюбам разлучалі.

Святлістую
Слязьмі тугі штодня
Марыля палівала, гадавала.
Бярозу ўпадабала вышыня
І вышыню бяроза ўпадабала.

Люляла Свіцязь пра Адама сон,
І толькі навальніца раўнавала
Марылю
Да былых шчаслівых дзён.
І ўрэшце навалілася навала.

І наляцеў віхор, як той груган.
І ўдарыла ў бярозу бліскавіца.
Агонь хацеў счарніць
Крамяны стан,
Але паспела ў небе паўтарыцца

Бяроза бліскавіцай,
І калі
Ударыць гром,
Падзе імгла густая,
У неба глянь —
Агністая ў галлі
Адамава бяроза расцвітае.

II

Туганавічы — туга начы,
Наваградак —

Усяночная мроі.
Саламяная страха.
Гулкі ганачак.
Журавель над студняй старою.

Часта сняцца яны ў Швейцарыі,
Дзе расце арабінка ля дому.
Даплываюць жніўныя арыі,
Каб гаіць пілігрымаву стому.

Там згубіліся сцежкі нейчыя.
Свіцязь —
Небам зашклёная рама,
І глыбеючы, і сінеючы,
Помніць
Позірк Марылі й Адама.

III

Як адзінокі птах, ляціць дадому.
Ўначэлі вочы і прыслабла крылле.
Ужо, відаць, не трэба ён нікому
І нават зорцы
З іменем Марыля.

У край юначых кроз кіруе стому.
А зорка ясніцца на небасхіле.
Перажагнае нёманскую строму
І ўкленчыць зорцы
З іменем Марыля...

## Ян Чачот

# РЫНГОЛЬТ АЛЬГІМУНТАВІЧ, ПЕРШЫ ВЯЛІКІ КНЯЗЬ ЛІТОЎСКІ, ЖМУДСКІ І РУСКІ

Час успомніць нам Рынгольта,
Альгімунта сына,

За якім славутай стала
Наша ўся краіна.

Зайздрасць, ведама, заўсёды
Бачыць толькі крыва.
Пазайздросцілі Літве ўсе,
Што жыве шчасліва.

Выйшаў з Кіева са зброяй
Святаслаў той горды,
З ім Леў, Дзмітрый, а таксама
Курдасовы орды.

Ды Рынгольт іх стрэў на Нёмне,
Дзе падходзіць Дзітва,
І ўсчалася ўмомант з тымі
Прыхаднямі бітва.

Кроў цякла ракой, ды йшла там
Зноў на сілу сіла.
Дзень сканаў — Літва ў той сечы
Ворага разбіла.

Бітвы той сляды ля Нёмна:
Сыпаныя шчыльна
Курганы. Ды вёскі імя
Даўняе — Магільна.

## ЛЮБЫМ СЯЛЯНАМ З-НАД НЁМАНА І ДЗВІНЫ

Калі ж вы чытаць ужо будзеце, брацця?
Вы ўведалі б з Божае ласкі,
Што вам неслі шчыра мы гэта багацце —
Ніў вашых калоссе і краскі.

Я з сэрцам удзячным дар шчодры во гэты
Кладу перад вамі мрою:
Калі і да вас блісне промень асветы,
Вы возьмеце дар мой з сабою.

А сёння хай знаюць вяльможныя людзі,
Хто працай узнёс іх у свеце.
Уклаў Бог адны нам пачуцці ў грудзі,
Мы ўсе — адной мацеры дзеці.

*1840 г.*

## Кастусь Цвірка

# ПУЦЯВОДНАЯ ЗОРКА

### (Ян Чачот)

Значэнне творчасці Яна Чачота цяжка перааценіць. Ян Чачот — гэта досвітак новай беларускай літаратуры, яе першыя крокі, прадвесне нашага нацыянальнага адраджэння. Ён быў сапраўднай пуцяводнай зоркай для многіх пакаленняў беларусаў, яркім прыкладам самаадданага служэння свайму народу.

Нарадзіўся Ян Чачот у вёсцы Малюшычы Наваградскага павета на самым схіле XVIII стагоддзя — 24 чэрвеня 1796 г., якраз на свята Яна Купалы — таму і атрымаў такое імя. Хрысцілі малога Яна, «сына радавітай шляхецкай сям`і Чачотаў — Тадэвуша і Клавы з дому Гаціскіх», як даводзяць метрыкі, ў парафіяльным касцёле ў Варончы. Прычым ён быў ахрышчаны двойчы — спачатку, 6 ліпеня, уніяцкім, а потым, 19 ліпеня, — каталіцкім святаром, які даў яму і другое імя — Антоні. З Малюшычаў Чачоты, якія арандавалі там фальварак, праз нейкі час перабраліся пад Баранавічы. Гаспадар сям`і Тадэвуш Чачот наняўся там да пана Тызенгаўза служыць аканомам у маёнтку Рэпіхава Навамышскай парафіі таго ж Наваградскага павета (цяпер — Ляхавіцкі раён). Тут, на берагах ракі Мышанкі, і «прамільгнуў ранак жыцця» Яна Чачота, як сведчыць яго балада «Мышанка».

Адсюль, з-пад Новай Мышы, Ян Чачот падаўся на вучобу ў павятовы горад Наваградак, у дамініканскую

школу, дзе шчыра, на ўсё жыццё пасябраваў са сваім аднакласнікам, таксама ўраджэнцам Наваградчыны, будучым вялікім паэтам з сусветным імем Адамам Міцкевічам. Пра пачатак гэтага сяброўства, пра гады вучобы ў Наваградскай школе святых дамініканцаў, ці «белакаптурных», як называлі іх вучні (ад адзення — белы каптур), паэтычна расказвае Адам Міцкевіч у вершы, напісаным 24 чэрвеня 1819 года ў час святкавання імянін Яна Чачота:

О Ян! Б`юцца музы за верш твой, каб быў адмысловы!
Мне ж не памагаюць! Але — сам спяваць я гатовы!
Са мной ты заўсёды — я дома ці дзесьці на волі.
Каго ж больш люблю я, хто змалку мілейшы мне болей?
Яшчэ на парозе жыццёвым, у галасе вуліц
Адны ў нас навукі былі, перапалкі і гулі...
Хаця пра чарцей мы спрачаліся да пасінення,
Хаця, пра душу маю дбаючы, ў часе малення
Мяне ты з аблокаў, куды я ўсё лётаў у марах,
Ізноўку вяртаў на зямлю, таўхануўшы мне ў карак.
Адны былі думкі ў нас, як і ў навуках рахуба,
Пакуль не ўхапіў цябе ў лапы свае Людвік Дзюба.
Пачаў ты тады ўжо ад стоіцкіх цнот ухіляцца...

## Валянцін Таўлай

# НАПРАДВЕСНІ

Уздыхнулі Нёмна грудзі:
— Вясна будзе! Вясна будзе! —
покліч скалыхнуў паветра,
адгукнуўся ў пушчы нетрах
і расплыўся, і загінуў...

Наўздагон — свой покліч кіну:
рэхам хай плыве шырокім,
несучы прывольна, лёгка
і мяне на гулкім крыллі...

Жаўрукі асерабрылі
сцежку сонечнаму ранку...
Жаўруковыя вяснянкі —
быццам звонкія праменні...

І стаю я ў захапленні,
неразгаданым і новым,
поўны цёплае любові,
і гатоў гарэць, загінуць
за вясну маёй краіны...

Радасна ўздыхнулі грудзі:
— Адчыняйце хаты, людзі!
— Адчыняйце сэрцы, людзі!
— Вясна будзе! Вясна будзе!

*Вільня, 1928 г.*

## РЫБАК

Фрыц у Нёмне рыбу вудзіць,
паплавок хістаецца,
а ці ўлоў шчаслівы будзе —
людзі сумняваюцца!..

Бункеры абапал моста,
але мост — развалены.
Пазірае немец скоса
на лясы, прагаліны...

Ой, рыбача, рыбалове,
рыбка тут — зубастая:
нават мост глынуць гатова
з рыбаком і снасцямі.

Калі хочаш Эму бачыць,
хоць калекай будучы, —
лепш у Нёмне кінь рыбачыць,
але скручвай вудачкі!

*1944 г.*

## Аляксей Сінілаў

# ПАЭТ-ЗМАГАР

Валянцін Таўлай... Калі прачытаеш невялікі томік яго твораў, дзе сабраны паэзія і проза, як жывы, паўстане перад вачыма вобраз таленавітага паэта і мужнага змагара.

У змаганні і загінуў гэты па-сапраўднаму мужны чалавек. Загінуў ён пасля таго, як наступіла вясна на заходнебеларускіх гонях, як Радзіма выйшла пераможнай у барацьбе з фашысцкай чумой, і толькі б жыць ды жыць... Што ж, казематы панскіх турмаў, атрыманыя там сухоты, падпольная работа на часова акупіраванай тэрыторыі, у тыле нямецка-фашысцкіх войск... Гэта каштавала многа здароўя.

У Рудаўцы ў гэты перадвячэрні час мала хто туліўся па хатах. Моладзь была там, адкуль даносіліся гукі гармоніка, пажылыя людзі сядзелі на лаўках, прызбах або проста пад плятнямі на траве.

Няма ўжо той хаты, але людзі добра ведаюць месца, дзе яна стаяла. Тут рос Валянцін, набіраўся сілы на маладой крапіве і рэдкай зацірцы. Адсюль з хлапчукамі бегаў у суседнюю вёску — у польскую школку. Вучыўся добра. Але жыццё, як гаварыў ён сам, вучыла лепш. Таму, хоць школка і польская была, а апалячвала слаба: «У школе — адны беларускія дзеці. Дзяржаўная мова дзіцячай рэспублікі — родная. Кругом беларускія вёскі. Па вёсках — бясконцыя чуткі і легенды пра «атамана Муху». У народных нетрах спее грамадаўскі ўздым. У рукі ўсё часцей трапляюцца беларускія газеты, кніжка.

У сваёй роднай вёсцы бацька арганізуе сялян на змаганне за сваю, беларускую школу... Пішуць адну за другой заявы. Ходзяць у Слонім. Даюць адпор усялякім націскам і манеўрам. Часта збіраюцца ў нашай хаце, гутараць».

Нарэшце пачала працаваць прыватная беларуская пачатковая школа. Дзяцей было поўна, школа знайшла прытулак у хаце бацькоў В. Таўлая, а настаўніцай была яго новая маці — Сцепаніда Паўлаўна (родная маці памерла ад халеры).

Дзверы не зачыняліся. Хата была цэнтрам грамадскага жыцця ўсёй ваколіцы. Адгамоняць, бывала, школьнікі — пачынаюць сходзіцца дзядзькі-грамадаўцы. І заўсёды з імі бацька Валянціна — арганізатар і сакратар грамадаўскага гуртка. Пасеўшы на школьныя лаўкі, барадатыя дзядзькі прагна ловяць газетныя навіны. Часамі тут употай чытаюцца нейкія тоненькія брашуркі, у якіх гучыць заклік да барацьбы.

Але ўлады панскай Польшчы ўжо былі гатовы нанесці Грамадзе ўдар. Вось як гэта адбывалася ў глухой, аддаленай вёсцы Рудаўка. Раніцай 15 студзеня 1927 года ў хату, якую можна было назваць і школай і клубам, уварвалася паліцыя. Прыступілі да вобыску, школьнікаў прагналі, і тыя панеслі па вёсцы хвалюючую вестку.

Народ узварухнуўся, абступіў хату, не дае паліцыі свайго вясковага важака — Таўлая. Рознымі хітрыкамі паліцыянтам удаецца захапіць яго, але ў акружэнні гнеўнага натоўпу мужчын і жанчын застаўся камендант пан Кузель. Яго адпусцілі толькі пасля таго, як ён даў слова гонару вызваліць арыштаванага...

У той дзень Валянцін зрабіў першы свой крок у канспірацыі. Ён утаіў ад паліцыі сшытачак з сваімі вершамі. Утаіў, каб праз год запісаць у ім:

Уздыхнулі Нёмна грудзі:
— Вясна будзе! Вясна будзе!..

Пятнаццаці год не было юнаку, калі склаў ён гэтыя палымяныя паэтычныя радкі, а яны на ўсё жыццё сталі яму пуцяводнай зоркай, клятвай, якую ён, баец вялікай арміі рэвалюцыянераў, стрымаў да канца.

Пад першымі вершамі Таўлая ёсць паметка: «Вёска Рудаўка». А затым — «Слонім, астрог», «Гродна, астрог», «Вільня, астрог Лукішкі». Сем год у агульнай колькасці пратрымалі яго каты ў турмах. Але не здаўся мужны змагар, а яшчэ больш закаліўся, знаходзіў новыя сілы для барацьбы. Мужнела і паэтычнае слова яго:

...шліфаваў радок, як сталь звяна;
ланцугі тады на мне звінелі, —
можа, й вершы ад таго звіняць.

Палымяныя словы паэта клікалі да барацьбы, хадзілі па руках тысяч людзей, а як траплялiся ў рукі панам, тыя зноў цягнулі яго да пракурора, і той ацэньваў: «За радок — гадок».

## ВАЎКАВЫСК — ГОРАД БЫЛІННЫ

Ваўкавыск не такі ўжо маленькі горад, каб адразу, выйшаўшы з гасцініцы, вызначыць, у якім кірунку базар. Апрача таго, летняю парою вельмі вялікімі базары не бываюць. Кароў ці цёлак цяпер ніхто не прадае, свiней таксама, а запасацца на зіму бульбай ды капустай гараджанам яшчэ ранавата. Вядома, і хлебаробы рэдка дазваляюць сабе такую раскошу, каб у гарачы жнiвеньскі час адрывацца ад справы, таму падвод на базар едзе мала.

Я выбраў для арыенціру чалавека, які нёс некалькі вязанак лазовых кашоў. Ён так абвесіўся імі, што самога не было бачна, віднеліся толькі боты. Кашы на базары мелі сваё сталае месца. Чалавек далучыўся да кампаніі двух другіх з такім жа таварам і скінуў з плеч сваю ношу. Майстра відаць па рабоце. Яго абступілі людзі, хутка ўсё раскупілі. Адны выбіралі кашы большыя — капаць бульбу, другія — меншыя — хадзіць па грыбы, а адна жанчына ўзяла зусім маленькі кошык з рознакаляровых дубчыкаў, высыпала туды з папяровага кулька ягады і аддала дачурцы. Тая скакала ад радасці.

Гаманлівы натоўп расцякаўся па радах, дзе прадавалі розную садавіну, агародніну, яйкі, сыры, грыбы, пахучыя лясныя ягады... А вялізная забрукаваная плошча пустуе. Там, дзе ў восеньскія базары тысячы людзей снуюць паміж паднятых угору аглобляў, конскіх хвастоў і вазоў, на якіх мірна пасапваюць сальныя вепрукі, гагочуць гусі, спрабуюць галасы маладыя пеўнікі, дзе адначасова адбываюцца сотні купляў-продажаў, — там цяпер шпацыруюць куры. Час вялікіх базараў наступіць пазней.

На ціхай вуліцы горада — старадаўні аднапавярховы дом. На ім, з аднаго боку дзвярэй, — мемарыяльная дошка: «У гэтым доме ў чэрвені 1812 года знаходзілася

штабкватэра 2-й заходняй рускай арміі пад камандаваннем П. І. Баграціёна». З другога боку — шыльда: «Ваенна-гістарычны музей імя П. І. Баграціёна».

У музеі ціха; пад шклом і проста так на вітрынах акуратна раскладзены маўклівыя сведкі старажытнасці. Усё на сваім месцы. Сякера абаронцы рускай зямлі не рассячэ з посвістам паветра, не бразнуць рыцарскія даспехі крыжаносцаў. Тут ж моўчкі вісяць карціны, на якіх адлюстраваны розныя моманты з жыцця народа, і толькі калі добра ўгледзішся, ажывуць, забурляць яны, закіпяць людскою страсцю. На цябе дыхне гераічнай быллю даўно мінуўшых дзён, і ты нібы зноў з хваляваннем перажывеш тое, што ў далёкай мінуўшчыне падымала людзей, патхняла на барацьбу за лепшае жыццё, за тое, каб патомкам пакінуць у спадчыну лепшую долю і вольную зямлю.

Калі Напалеон Банапарт пераходзіў з сваёй паўмільённай арміяй рускую граніцу на Нёмане, у гэтым доме размяшчаўся штаб 48-тысячнай рускай заходняй арміі. Ёю камандаваў Пётр Іванавіч Баграціён. У пачатку Айчыннай вайны казакі Платава тут білі прышэльцаў; летам давялося адступіць, а восенню — 2—3 лістапада таго ж 1812 года — Ваўкавыск быў вызвалены, і салдаты генералаў Раеўскага і Невяроўскага, як сведчаць матэрыялы музея, прайшлі тутэйшай дарогай на захад. Толькі не было сярод пераможцаў генерала Баграціёна: ён па-геройску абараняў Айчыну і памёр ад ран, атрыманых на Барадзінскім полі.

У суседняй зале сабраны экспанаты, якія апавядаюць аб далёкім мінулым Ваўкавыска — аднаго з гарадкоў так званай Чорнай Русі, у межах якой, апрача Ваўкавыска, былі Гродна, Слонім, Навагрудак (у геаграфічных адносінах цэнтральнае месца сярод іх займае Ваўкавыск).

Ужо ў XII — XIII вяках славіліся мясцовыя ўмельцы: з касцей вырэзвалі розныя ўпрыгожанні, грабянцы, шахматныя фігуркі. Былі таксама развіты апрацоўка янтару і ліцейная вытворчасць, аб чым сведчаць знойдзеныя ліцейныя формачкі, літы сярэбраны крыжык, бронзавыя спражкі, завушніцы. Шмат чаго яшчэ дасталі тут з-пад зямлі.

## ЖЫРОВІЦКІЯ СВЯТЫНІ

Як вядома, кожная царква, якая клапоціцца пра свой аўтарытэт, мае ўласную святыню. Яна належыць толькі гэтай царкве і больш нікому. Жыровіцкая царква лічыла сябе не абы-якой і на гэтай падставе мела ўласную сваю святыню. Над ёй высокай глухой брамай ззяў яе лік медным золатам. А ззяў таму, кажуць, што ікона абнавілася.

Аб узнікненні жыровіцкай царквы ўспамінаецца ў вельмі старой кніжцы «Гродненский православно-церковный календарь», якая была выдадзена ў 1889 годзе ў Варонежы, на Вялікай Дваранскай вуліцы. Называюць дату — 1470 год. У тым годзе пастухі аднаго магната са статкам забрылі ў лясную чашчобу, і раптам іх азарыла яркае святло — у галінах высокага дрэва ззяла ікона. І на тым месцы магнат пабудаваў царкву. Ікона была не простая, а цудатворная. Калі аднойчы ад маланкі згарэла царква, ікона выратавалася і яе знайшлі ў крапіве. На тым месцы зноў паставілі царкву, а ікону назвалі Свяцейшая Дзева Марыя Божая Маці Жыровіцкая.

У 1790 годзе тут быў пабудаваны манастыр. Дакументы сведчаць, што у 1839 годзе манахаў у манастыры было 5, а фундушавых сялян пры іх — 3906. У будынку манастыра адкрылі духоўную семінарыю. Яна, як і царква, дзейнічае да нашага часу.

**Мікола Арочка**

## ЗЯМЛЯ МІЦКЕВІЧАЎ

Зямля наднёманская!
Колькі сілы
Тваёй, знутры, прыйшло ў глыбінны рух.
Ты нарадзіла іх, тытанаў двух,
Іх творчы дух
магутна ўскаласіла.

Як сталася, што ў подзвігу святым
Дзве постаці грамамі пажагнаны
І ў місіі служэння паяднаны
І талентам, і прозвішчам адным?

З глыбінь іх паяднալі курганы,
Паданні, замчышчы, сівыя вежы,
І пушчы, і дубы на прыбярэжжы,
І песні наднямонскай стараны...

«Літва, ойчызна моя!» — як уздых.
На зломе лёсу — вернасць да магілы.
А ўслед:
«Мой родны кут, як ты мне мілы!»
Зямля, у цябе ўлюбёныя дваіх!

Зямля, гісторыяй не лашчаная.
Наваградчына — з нетраў карані.
Вялікі эпас памяці крані —
І адгукнецца
Мікалаеўшчына!

Нямала дзікіх крыўд, ліхіх нягод
У камянях стагоддзяў перамолата.
Міцкевічы —
ад волата да волата —
Пралегла колькі непакорных год!

Я на Русі спакон беларусін.
Нічога, што літвінам называлі.
Мяне дзялілі, паланізавалі,
Ды помню я —
якога роду сын!

З той памяццю — і крэўнасць удвая.
І ўлюбёнасць —
з болем, да бязмежнасці.
Каб не чуццё вось гэтай прыналежнасці,
Зямля Міцкевічаў,
кім быў бы я?

## НА КАНІКУЛАХ

Іду як заварожаны,
А спеў плыве з-за гаці:
«Ці ўсе лугі пакошаны,
Ці ўсе сенажаці?..»

Касьба за Шчараю пяе,
Звініць над паплавамі.
Лугі надрэчныя мае,
Даўно я ў дружбе з вамі!

Тут мы падносілі касцам
З крыніц ваду жывую,
Давалі з берага нырца
З разбегу ў плынь рачную.

А ўвосень кошыкі плялі
З ракіты на балотах
Або чмяліны мёд пілі
Саломінкамі з сотаў...

Мяне, як сябра тых гадоў,
Сягоння луг паклікаў.
І я на ўсіх дзяліць гатоў
Кароткі час канікул.

* * *

Недзе на зялёнай пойме Ніла
У адлёт сабраліся буслы...
Можа, птахам корму не хапіла?
Можа, ў іх быў выган замалы?

Пэўна, не.
У выраі далёкім
Аднаго для птахаў не стае:
Тых дубоў,
                    наднёманскіх, высокіх,
Дзе ім трэба гнёзды віць свае.

## Алег Лойка

# НАД ШЧАРАЙ

Я зноў над табой, твой плывец,
Як ты, — плынь, якой не адолець,
Лугоў неабсяжных касец,
Рыбак, непакрыўджаны доляй;

Даліны шырозны разгон,
Што вокам за раз не акінуць,
Я — колішні твой плытагон,
Што з Нёманам зліўся сінім;

Я — хваля твая, што ўдаль
Імкне ўсхвалявана, натхнёна,
Яе ціхі восеньскі жаль
І лёд — звонкі-звонкі, зялёны;

Паводка твая, што вясной
Пад сонцам, як срэбра жывое,
І кнігаўкі неспакой,
Што гнёзды ад нелюдзяў тоіць;

Я — ў квеце каліна твая,
І тая, што ягады студзіць,
І тая, што рэха ў гаях
Пра луг непакошаны будзіць;

Я — дуб твой, і той, што пяе
Над гуртам даверлівых рыбак,
І той, што ў глыбіні твае
Ступіў, каб стаць грыфамі скрыпак;

Дзень добры, калыска мая,
Нібы маладзік ў хвалях, човен, —
Я сам бы не ведаў, хто я,
Табою тут не зачарован;

Стаю пад высокай вярбой,
Зліваюся з плынню тваёю,

Становячыся вышынёй,
Становячыся глыбінёю;

Мой твар — у табе, а краса
Твая, нібы позірк дзявочы.
І радасці немай сляза
Мне зноў набягае на вочы,

І бачу, нібы праз крышталь,
Праз чыстасць яе і бязвіннасць
У дугах вясёлкавых — даль,
Тваю, Шчара, вечную плыннасць.

## Ларыса Геніюш

## КРАЮ МОЙ

Краю мой родны, краю мой мілы,
цудны, узорны, ад ніў залаты,
хто цябе ўквеціў пушыстай калінай,
краскамі, лесам засеяў густым?

Пушчы, палеткі, лугі, сенажаці,
быстрыя рэкі, прасторы азёр —
нехта рассыпаў вялікім багаццем
вечныя скарбы ў цудоўны узор.

Калі табе золатам сонца разлітым
магутныя грудзі асыпле кругом,
а неба атуліць туманам-блакітам,
як быццам бы а́нёл празорым крылом,

і вецер бяроз тваіх косы даўгія
расчэша, рассыпле па белых камлёх,
а грушы-красуні страсе снегавыя,
цвет белы пасее на зелень палёў,

а буйныя травы нагне, то падыме,
зазвоніць аб лісці задуманых дрэў,
акордамі ўдарыць, як май, маладымі,
пад Нёмна вясною бурлівы напеў, —

дык радасцю, шчасцем душа замірае,
і хочацца сэрцам, рукамі абняць
свой край наймілейшы, аквечаны маем,
дзе краскі, дзе Нёмана хвалі звіняць.

Сніцца ты будзеш, ўсё клікаць з чужыны,
вабіць ў свае сёлы, да хаты старой,
пахучым палеткам буйной канюшыны,
дзявочаю песняй, спавітай тугой.

Чало плуг жыцця, можа, ў барозны зрэжа,
мо голаву іней пакрые гадоў, —
у сэрцы ж не звянуць зялёныя межы,
туга не аслабне да родных кутоў.

*1941 г.*

## НЁМНЕ

Гэй, Нёмне шырокі, як лён галубы,
мой дружа з гадоў тых дзяцінных!
Вясёлы ля берага, срогі ўглыбі,
імклівы, ў бягу несупынны.

Праз срэбныя далі хвалюючых ніў
і зелень лугоў аксамітных
ты грудзі Краіне чароўна абвіў
шырокаю стужкай блакітнай.

Калі блiснеш хвалі сталёвай луской —
ў дзявочых, ў вясёлкавых мроях
ты быццам бы рыцар, бы казачны вой
ў жалезнай закованы зброі.

І часам здаецца, вось ў воблакаў сінь,
над соснаў стрункіх верхавіны,

бы волат, бы верны зямлі нашай сын,
на помач устанеш Краіне.

Калі ж задуменнасць агорне лугі
і змораны вецер спачыне, —
люструешся стройны, прыгожы, даўгі,
як вочы дзявочыя, сіні.

Начамі тужліва на неба глядзіш
ў сярэбраным бляску крыштальным,
а месяц прыходзіць к табе маладзік
купацца ў запененых хвалях.

І сосны, і вольхі, і дуб к табе стаў
на бераг круты і адлогі.
Бы ў люстры, бярозаў калышацца сталь,
б'е хваля аб белыя ногі.

Калі ж спаўюць шыза цябе туманы,
бы пачассем бераг авеюць, —
народныя ціха калышаш ты сны
ды вольныя думы лялееш.

Як дні, безупынна імклівы твой бег;
жыццё — твае звонкія хвалі.
Народнаю песняй калышам цябе,
як калісь дзяды калыхалі.

Гэй, Нёмне шырокі, як лён галубы!
Кроў сіняя любай Краіны!
Вясёлы ля берага, строгі ўглыбі,
як вочы дзявочыя, сіні!

*1939 г.*

## МАЙМУ СЫНОЧКУ

Павяду цябе, мілы мой сыну,
ў стары казачны край бацькоў,
там, дзе шырака Нёман расхінуў
стужку сінюю серад палёў.

Там, дзе пушчы калышуцца важна
ўсё чубамі дубоў векавых,
а курганы пасталі на стражы
нашай славы ў туманах сівых.

Між палеткаў ўсхвалёваных жыта
сёлы ў зелені тонуць вясной;
вокал людзі жывуць працавітай,
як адною, вялікай сям'ёй.

Дзе на гонях узорных нядзеляй
раскалышуцца з вежаў званы
і вясёлае сонца рассцеле
залатыя ў палях дываны.

Ды касулямі цудна пагладзіць
каляровыя хусткі дзяўчат,
што, як стройныя мальвы ў прысад,
палымнеюць на межах, бліщчаць.

Павяду цябе, дзе ты радзіўся,
дзе свой першы ўбачыў дзянёк,
калі восенню край залаціўся,
пралятаді дзесь гукі здалёк.

Павяду цябе, мілы мой сыну,
ў родны Край, на курганы дзядоў,
там, дзе шырака Нёман раскінуў
стужку сінюю серад палёў.

*1941 г.*

* * *

Вецер да Нёмнавай сіні прыпаў,
вод люстра у дробязі крышыць,
спакойныя хвалі разгойдаў, узняў
і ціха калыша, калыша.

Смела пасталі на бераг дубы,
шуміць і сасна, і альшыннік,

быццам купаюць густыя чубы
ў разгойданай нёманскай сіні.

З сецямі дружна ідуць рыбакі,
шуміць ім насустрач дуброва...
І вучацца хлопцы ад дрэваў стрункіх
не гнуць пад вятрамі галоваў.

*1964 г.*

## Міхась Скобла

# ЗЭЛЬВЕНСКІ КІРМАШ

*(Урывак з кнігі «Дзярэчынскі дыярыюш»)*

У XVIII стагоддзі суседняе з Дзярэчынам невялікае мястэчка Зэльва нечакана праславілася на ўсю Еўропу. Прычынай гэтага стаўся каралеўскі прывілей, які атрымаў у 1720 годзе Антоні Казімер Сапега на правядзенне ў мястэчку штогадовых «ярмонок или торгов». Ад таго часу пачынаецца гісторыя славутага зэльвенскага кірмашу, аднаго з найбуйнейшых у Рэчы Паспалітай. Кірмаш праводзіўся з 25 ліпеня да 25 жніўня, але задоўга да яго пачатку Зэльва прыкметна ажывала. Мясцовыя вознікі цэлы месяц не выпрагалі коней, па дарогах удзень і ўночы рухаліся вазы ў напрамку Слоніма і Гародні, Вільні і Рыгі, Бярдычава і Дубны. Адзін з самых пладавітых пісьменнікаў свету, аўтар каля шасці сотняў раманаў і аповесцяў, наш зямляк Юзаф Крашэўскі ўганараваў Зэльву эксклюзіўнай кнігібкай, з якой адзін сказ набыў афарыстычнае гучанне. Сказ той тычыўся зэльвенскага кірмашу: «З вельмі даўніх часоў Зэльва і яе жыхары падпарадкоўваюцца дзіўнаму правілу — адзінаццаць месяцаў кожнага году марнеюць і толькі месяц жывуць».

На час кірмашу насельніцтва мястэчка ўзрастала да трох тысячаў чалавек. Нягледзячы на тое, што паблізу

цэнтральнай гандлёвай плошчы быў пабудаваны заезны двор на дзвесце месцаў, тутэйшыя жыхары няблага зараблялі, прымаючы гандляроў у падгасподнікі. Так за адносна невялікую плату можна было атрымаць начлег і сталаванне ў местачкоўцаў.

Падлічыўшы дзённыя барышы, Зэльва не заціхала і ўночы. Пачаўшы замочваць удалую куплю вечарам у рэстарацыі, менаванай на заморскі лад кафэгаўзам, купец мог працягнуць гулянку ў начной карчме, трапна празванай «сабачаю горкай», дзе, трэба думаць, наведвальніка чакаў поўны набор начных забаваў.

Сённяшні зэльвенскі рэстаран «Зальвянка» можа толькі марыць пра поўнае альбо частковае спадкаемства ад свайго прыкірмашнага папярэдніка. Як і ўся прыціхлая Зэльва, можа толькі летуценна ўсміхнуцца, прыгадаўшы падзеі двухсотгадовай даўніны.

Прыняўшы пару кухляў з рук пані Валабрыньскай, захмялелы купец вылазіў на Божы свет і дзіву даваўся. Перад кірмашовым людам выступалі фокуснікі, жанглёры і акрабаты. Цыган вадзіў вучонага мядзведзя, і выхаванец Смаргонскай акадэміі вытвараў сапраўдныя цуды — гандляры лезлі пад вазы ад рогату. Хлопчыкі-клікуны запрашалі наведацца ў перасоўны тэатрык, каб паглядзець французскую меладраму «Трыццаць гадоў з жыцця гульца» альбо падняць настрой праглядам лёгкіх камэдыяў «Прыгожая гаспадыня» ці «Дзе швэндаюцца нашыя мужыкі».

Аднак паступова зэльвенскі кірмаш страчвае свой размах. З адкрыццём чыгункі Варшава — Санкт-Пецярбург патокі тавараў пачалі абмінаць Зэльву.

Гандлёвыя абароты зэльвенскага кірмашу ўвесь час меншалі. Замест паважных рыскіх ды турэцкіх купцоў у Зэльву сталі завітваць гандляры ніжэйшай маркі. Вось як іх ахарактарызаваў вядомы гісторык і статыстык, генерал расійскай арміі М. Без-Карніловіч: «Кто из русских отправляется сюда торговать? Записавшийся в гильдию сиделец или мелкий торговец с капиталом в несколько тысяч, накупив дрянного товара, а половину его взяв у купцов в долг, приезжает сюда для торгов — и за вещь, стоящую в Москве гривенник, берет 20—25 копеек, смотря по лицу, с кого можно взять, возьмет

непременно. Божба и присяга ему нипочем, его занимает нажива и барыш, чего старается достигнуть любыми путями».

Але ў жыцці дзярэчынскіх ваколіцаў кірмаш яшчэ доўга адыгрываў немалаважную ролю. Дзярэчынскія бандары, стэльмахі, кушняры яшчэ шмат гадоў вазілі ў Зэльву сваю прадукцыю. Ехалі на брычках, ішлі пешкі цераз Валькевіцкія горы вясёлыя дзярэчынцы. Вярталіся пачасту пад хмелем, мужчыны сыпалі жартамі...

## Юрка Голуб

## СТАРЫ ТОРГ У ЗЭЛЬВЕ

На тых дарогах і сляды,
І успаміны ў пыльным зеллі.
Здалёк купцоў склікала Зэльва:
З гарачай Турцыі,
Як з Ельні,
Абозы рыпалі сюды.

Наўкол пішчала і раўло,
І стража сытая сіпела,
Калі карэце на крыло
Ступаў размашыста Сапега.

Вушамі стрыглі жарабкі,
Ляцелі гузікі і лейцы.
А ён вірыў, уласны Лейпцыг,
Дзе свой тавар і жабракі.

А вока прагнае ў купца!
Еўропа ў скрынкі заглядала,
Тавар з прыцмокам выбірала —
Калі што вартае — то цап!

Падвальчык пані Валабрыньскай
Прымусіць пець — не гараваць,

Пакуль кішэнь у стане брынькаць
І ў стане ўзняцца галава.

І тлустай крамніцы даходна.
Ой, хітравокая карчма!
Каго выкідвала старчма,
Каго — выводзіла лагодна...

Ды торг да хмельнага канца,
І цыганы прапалі недзе.
І пад дугой вясёлкі едзе
Дастатак святам з-пад вянца.

Сядзіць мінулае на медзі,
Няўтульна кіпцікам арла:
То не ў прытулку гандляра,
Дзе жонка сквапная, як ведзьма.

І мы не хвалімся дарэмна:
Для нас і неба і нарог.
І хоць жа быў гандляр нядрэмным,
Мужык урэшце перамог.

## Уладзімір Мазго

## ЗЭЛЬВА

Яшчэ прабабкі, мусіць,
Шукалі лекі ў зеллі.
Лістотай захлынуся
У зяляніне:
— Зэль-ва...

Вятры вякоў заснулі
На сцішанай галінцы.
Не хлебам-соллю, —
Куляй
Прывеціла чужынцаў...

Размашыстая ўлада
Касы — не размінуцца.
На вербы азірнуцца —
Сівая, як балада...

Усім: душой і целам —
Ты з ім, касцом вясёлым.
Расшпілена нясмела
Двухшпілевым касцёлам.

## АМАЗОНКА

*(Урывак з паэмы)*

Ці не зноўку —
У дазоры —
Трубы трубяць звонка?..
На скаку каня прышпорыць
Спрытна амазонка.
Пранясецца, нібы вецер,
Грозна над травою, —
Рэхам спуджанае вецце
Адгукнецца вою
Каля Нёмана сівога,
Вобак юнай Шчары...
Шабляй вострая дарога
Рассячэ абшары,
За якімі люты вораг
Здзекліва чакае.
Паспытае рускі порах
І клінкі Тракая!..
Бо чаканне — перад бурай.
Толькі вецер енчыць.
Толькі неба хмарай хмурай
Аб пагрозе сведчыць.
А гасцей — паўсюль прывецім:
У Гародні, Росі...
Калі з мірам вы,
Суседзі, —
Чым багаты — просім!..

— Калі ласка!.. —
Скажам шчыра,
Стрэнем хлебам-соллю.
А нязваным кірасірам
Галаву — паголім
Вострай шабляй.
Доўгай дзідай
Чужаніц наколем.
Каб ім нашых краявідаў —
Не забыць ніколі.
Каб запомнілі: граніцы
Тут Радзімы-маці!..
Не дамо чарніць крыніцы
І жыты таптаці.
Многа набрыдзі было тут:
Печанегі, гуны...
Помняць нашыя балоты
Польскія драгуны,
Банапарта кірасіры,
Бітыя — ушчэнткі...
У Нясвіжы,
Крэве,
Міры —
За́мкі —
Часу сведкі.

* * *

Тут ява з казкаю мяжуе,
А згадка — сэрца апячэ.
На Нёман велічны гляджу я,
А ён цячэ,
Цячэ,
Цячэ...

Маўкліва з вечнасцю гаворыць
Між гонкіх сосен трапяткіх.
Услед за ім бягуць да мора,
Глыбінь шукаючы, радкі.

А дзень блакітны,
Дзень пагожы
Бярэ, чаруючы, ў палон...
Дзе гэта: ў сэрцы,
Ці ў Каложы
Прачнуўся звон?..

## Валеры Сліўкін

# БЕЛІЦА

### (Старажытнае пасяленне Лідчыны)

Беліца — магчыма, самае старажытнае пасяленне на Лідчыне. Каля 9 тысяч гадоў таму назад у 500 м на поўдзень ад сучаснай Беліцы, ніжай упадзення ў Нёман рэчкі Залатой (Златарэчкі) існавала мезалітычнае пасяленне. Археолагі выявілі тут прылады працы старажытнага чалавека з мезаліту па бронзавы век у паласе шырынёй 60—70 м працягласцю 1,5 км. З'явіўшыся, як стаянка мезалітычнага чалавека, Беліца захоўвала сваё месцазнаходжанне, як рыбалавецкае пасяленне, памежны пункт ліцвінаў, як зручнае месца пераправы цераз Нёман і гандлёвы цэнтр, у асобныя моманты, як рачны порт, і заўсёды, як земляробчае пасяленне.

У вядомых пісьмовых дакументах Беліца ўпершыню згадваецца ў 1486 годзе ў запісной кніжцы Вялікага князя і караля Казіміра Ягелончыка як цэнтр Беліцкай вялікакняскай воласці.

У першай палове XVI стагоддзя Беліцкая воласць аддавалася ў трыманне вялікакняскім намеснікам, якія ажыццяўлялі адміністрацыйнае, судовае, фінансавае і гаспадарчае кіраванне. Першым вядомым намеснікам быў князь Юры Аляксандравіч Гальшанскі, (пазней кіеўскі ваявода).

У ліпені — пачатку жніўня 1506 г. падчас набегу крымскіх татараў пад камандаваннем перакопскага царэвіча Махмет-Гірэя Беліца была спалена і разрабава-

на: «Тым часам татары паспелі пераправіцца на правы бераг Нёмана і пачалі рабаваць і паліць пасяленні паўднёвых воласцяў — Беліцу, Жалудок і інш.» «... вялікую шкоду ўчынілі, перайшоўшы Нёман у Літоўскія землі, з палоннымі і здабычай назад вярнуліся».

З 1507 г. намеснікам беліцкім стаў маршалак гаспадарскі, староста лідскі, берасцейскі, ковенскі, будаўнік Мірскага замка Юры Іванавіч Ільініч.

1 верасня і 23 снежня 1528 г. пры падпісанні ў Вільні каралём і Вялікім князем Жыгімонтам грамат прысутнічаў трэці вядомы гаспадар Беліцы «староста гарадзенскі, маршалак дворны, дзяржаўца лідскі і беліцкі пан Юры Мікалаевіч Радзівілавіч» — Юры Радзівіл.

Больш 80 гадоў збіраліся ў Беліцы кальвіністкія сіноды, дзякуючы чаму мястэчка стала вядомым у Еўропе.

Лепшыя гады Беліцы прыйшліся на першую палову XVII стагоддзя. Радзівілы пабудавалі тут на беразе Нёмана рэзідэнцыю. Двор быў абнесены частаколам з адзінымі варотамі, над якімі размяшчалася невялікая вежачка, пакрытая меднай страхой. У двор можна было прайсці толькі праз мост, гэтак жа, як і ў Нясвіжы. Палац пабудаваны быў у стылі рэнесанса, нічога ад яго не захавалася, нават малюнка.

На генеральнай карце Польшчы і Вялікага княства Літоўскага, выдадзенай у Варшаве ў 1770 г., Беліца абазначана, як буйное мястэчка на магістральным тракце з Масквы ў Гародню і далей у Заходнюю Еўропу.

Па гэтаму тракту прайшлі і пераправіліся праз Нёман амаль усе арміі XVIII—XX стагоддзяў: магутныя і непераможныя на ўсход, пашарпаныя, разбітыя, абмарожаныя — назад, на захад. Мноства каралёў, цароў, князёў, палкаводцаў і вялікіх падарожнікаў прамільгнулі каля Беліцы.

У другой палове снежня 1705 года праз Беліцу праімчаўся вялікі расійскі рэфарматар цар Пётр I. 21 снежня на працягу некалькіх гадзін у Мірскім замку яго ўрачыста прымаў князь Караль Станіслаў Радзівіл.

У сакавіку 1706 г. на левы бераг Нёмана праз Беліцу прайшлі шведскія войскі Карла XII, паколькі Беліца

належала Радзівілам, трэба меркаваць, што яна была спалена таксама, як Нягневічы, Карэлічы і іншыя паселішчы за тое, што Радзівіл быў на баку кааліцыі Пятра I і Аўгуста II.

У верасні 1784 г. польскі кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі праехаў праз Беліцу на сойм у Гародню, перад гэтым кароль і яго пачот правялі незабыўныя дні ў Нясвіжы і Міры, дзе князем Радзівілам Пане Каханку, былі наладжаны грандыёзныя ўрачыстасці.

У чэрвені 1792 года праз Беліцкую пераправу адступіў разбіты 11 чэрвеня пад Мірам Ліцвінскі корпус Ю. Юдзіцкага.

У першыя дні траўня 1794 года з Гародні на Беліцу і далей адступаў абцяжараны польскай кантрыбуцыяй корпус генерала князя П. Д. Цыцыянава. Па дарозе абоз церабілі часткі паспалітага рушэння лідскага старасты генерала Язэпа Сцыпіёна дэ Кампа. Польская кавалерыя пад камандаваннем С. Корсака зрабіла спробу атакаваць часткі корпуса пад Беліцай, але поспеху не мела. На працягу 10 гадзін намаганнямі капітана артылерыі Фока праз Нёман быў пабудаваны мост даўжынёю ў 38 сажаняў (80 метраў), па якому расійскі корпус перабраўся на правы бераг.

У чэрвені 1812 г. праз Беліцу ў Расію былі адпраўлены каля 3 тысяч фурманак са скарбовай маёмасцю, амуніцыяй, зброяй і харчамі. Пакідаючы Гародню генерал ад кавалерыі М. І. Платаў данosіў: «Апошні транспарт з перастрэлкаю з непрыяцелем мною вывезены, што называецца з рук непрыяцельскіх выкрадзены — і ўсё гэта адпраўлена праз Беліцу — на падводах у бок Менска». 15-тысячны казацкі корпус атамана Платава адступаў праз Ліду.

23—24 чэрвеня 1812 года праз Беліцу прайшла 80-тысячная французская група войскаў караля Вестфаліі Жарома Банапарта. Армія Напалеона наступала, расійскія арміі адступалі, стараючыся злучыцца. Першая сур'ёзная баявая сутычка адбылася пад Карэлічамі.

Назад значна парадзелыя часткі Арміі адступалі ў снежні 1812 года. Праз Беліцу адыходзілі часткі аўстрыйскай арміі генерала Шварцэнберга.

Пераносячы ваенныя дзеянні ў Заходнюю Еўропу і арганізуючы тылы для наступаючай арміі 3 лютага 1813 года імператар Аляксандр I выдаў указ аб арганізацыі шпіталяў і магазінаў на вайсковых дарогах. Дарога ад Менска праз Наваградак, Беліцу, Шчучын да Гародні атрымала нумар 7. Са студзеня 1813 г. па люты 1813 года ў Беліцы працавала камісарыяцкая камісія, у абавязкі якой уваходзіла забяспечанне рэзервовай арміі Д. І. Лабанава-Растоўскага вайсковымі грузамі: стрэльбамі, патронамі, порахам, свінцом, вопраткай. Кіраваў камісіяй Сяргей Львовіч Пушкін — бацька вялікага паэта. Ён прымаў з расійскіх губерняў партыі грузаў і адпраўляў іх у рэзервовую армію.

У 1817 годзе ў Беліцы дзейнічала парафіяльная школа.

12.02.1818 года дарога, якая праходзіла праз Беліцу, была вызначана, як тракт для перапраўкі арыштантаў у Сібір. У Беліцы была пабудавана невялікая турма (этапны дом) і паселена вайсковая каманда для канваявання арыштантаў. Праз Беліцу прайшлі на Сібір удзельнікі паўстанняў 1831 і 1863 гг.

Да 1832 года Беліца належала Радзівілам. Пасля смерці Сафіі Радзівіл на курорце ў Эмсе, перайшла да яе мужа — Лявона Вітгенштэйна. У гэты ж год быў зачынены Ельненскі кляштар дамініканцаў. У 1838 г. касцёл, які належаў кляштару, быў перададзены ў ведамства Літоўскай епархіі. У 1839 годзе ў Беліцы была арганізавана царква Святога Духа і пры ёй створана праваслаўная парафія.

У красавіку 1862 года нехта Эдвард Хлапіцаі ў сваіх запісках «Па дарозе з Наваградка ў Гародню» запісаў наступнае: «Трохмільная дарога з Беліцы да Жалудка прабягае сярод абшырных далінаў, якім надаюць разнастайнасць гаі і маляўнічыя вёскі. Гэтыя доўгія лініі мякка пасланых ніў, а сярод іх клумбы з бярозак, ліпы і каліны, ціха па квяцістых паплавах завітыя ручаі нагадвалі нам добра знаёмую Францыю, яе цудоўныя бургундскія раўніны».

У пачатку XX стагоддзя Беліца — самае буйное мястэчка Лідскага павета. На тэрыторыі Беларусі толькі 31

мястэчка мела насельніцтва звыш тысячы чалавек: у Беліцы жыло 1230 жыхароў.

Перад Другой сусветнай вайной у Беліцы жыло 2100 чалавек.

Назва вёскі губляецца ў глыбокай старажытнасці.

Можна думаць, што назва паходзіць ад слоў: белая, беліца, бяліць. Белая — чыстая, велькая, свабодная ад павіннасцяў. Беліца — міранка, якая жыве ў міры, свецкім, нёманскім жыццём... Бяліць — апрацоўваць, рабіць белым.

Мне больш за ўсё падабаецца варыянт: Беліца — вольная ад павіннасцяў і княскай улады, але, як было паказана, вёска з пад гэтай улады ніколі не выходзіла. Таму, улічваючы старажытнасць вёскі можна выказаць гіпотэзу, што першыя белічане былі прыхаднямі з-за Нёмана з хрысціянскай часткі краю, якія ў адрозненне ад навакольных няхрышчаных («чорных») паселішч назвалі сваю хрышчаную вёску Беліцай.

## Уладзімір Васько

*(г. Ліда)*

## ПАНЯМОНЦЫ

Непараўнальна ўваскрасае дзень,
аглядвае зямлю і неба сонца
і прыбаўляе веры і надзей,
што вечна будзе вёска Панямонцы.
З надворкаў ліпы цэляцца ў зеніт,
вядуць размову клёны з аблакамі,
і ў Нёмане, няхай сабе не кіт,
шчупак вяслуе плаўна плаўнікамі.

І славе партызанскай не старэць,
і новай славе нараджацца сёння,
дзяўчатам, нібы яблыням, квітнець,
і зіхацець крыніцам і вясёлкам.

Люблю я Панямонцы, як сваю
магутную і мужную краіну.
Тут людзі разам з птушкамі ўстаюць,
каб на зямлі і ў сэрцах след пакінуць.

* * *

Коні мае разбрыліся
У сцішаным полі,
Чайкі мае разляцеліся
У мроіве летняга дня.
Носіць мне зоркі
Рахманая ноч у прыполе,
Вецер не стукае ў дзверы,
Каб крыху трывогу суняць.
Памяць высвечвае сцежкі,
Ростані і сустрэчы,
Колькі было іх
Над нашай блакітнай вадой!
Восенню песні пасею
У сваім наднямонскім прырэччы, —
Дзесьці між Гаўяй і Шчарай,
Моўчадкай, Дзітвой, Лебядой.

## Алесь Стадуб

*(г. Ліда)*

## У ШАЛАШЫ НАД НЁМАНАМ

Сягоння тут, у шалашы,
Наш першы рай на дзве душы.

Між дрэў прыціхла цішыня
Нас падслухоўваць аж да дня.
Тужлівы месяц на спачын,
Як лодка, едзе ўдалячынь.

Здаецца нам:
Мы тут адны —
Не толькі тут — на ўсёй зямлі.
Мы нават зоркам не відны.

Ды раптам нехта запаліў
Дзве фары. Заіскрыў касцёр.
За Нёманам — высокі бор.
Ці то ім цемра не з рукі,
Ці то рыбачаць рыбакі.

Для нас хай ночыцца даўжэй,
Хай сэрцам будзецца бліжэй.
Наш першы рай на дзве душы
Сягоння тут, у шалашы.

* * *

Глядзяцца ў Нёман аблокі —
Кавалкі нябесных гардзін.
Пражытага веку абломкі
Перабіраю
Адзін.

**Названы ў гонар Нёмана**

## ЧАРАЎНІКІ ШКЛА

Гарадскі пасёлак Бярозаўка Лідскага раёна... Славуты шклозавод «Нёман», які стаіць на беразе аднайменнай ракі. Зусім нядаўна яму споўнілася 115 гадоў. Ён трэці па велічыні сярод такіх заводаў у сённяшнім СНД. Гэта складанае, аснашчанае сучаснай тэхнікай прадпрыемства, якое адыгрывае важную ролю ў эканоміцы і культуры рэспублікі.

А пачыналася яно з маленькай гуты мясцовага памешчыка Э. Ленскага, на якім выдзімаліся піўныя бутэлькі. Гуту ўзялі ў арэнду галоўны інжынер знакамітага

Дзядзькаўскага завода В. Красеўскі і кіраўнік мастацкай майстэрні Ю. Столле, якія прыехалі ў Бярозаўку. Яны заснавалі сваю фірму «Нёман» і хутка выйшлі на сусветныя рынкі сартавога шкла. У «нёманскім» прэйскуранце 1911 года пакупнікам прапаноўвалася 1828 відаў вырабаў — ад шыкоўных сервізаў і вазаў да гаспадарчага посуду, карасінавых лямпаў.

Бег час, мяняўся воблік завода, як і самога пасёлка, прыходзілі новыя кіраўнікі. Сёння кіруе «Нёманам» А. Л. Жыгала, ініцыятыўны, сімпатычны чалавек. Напярэдадні юбілею завод падвёў вынікі сваёй працы. Асноўныя вытворчыя фонды выраслі ў 11 разоў. Колькасць працаўнікоў — 5000 чалавек, на заводзе працуе палавіна жыхароў Бярозаўкі. У год выпускаецца 95500000 вырабаў. Гэта розныя сервізы, вазы, фужэры, чаркі, салатніцы, цукерачніцы, люстры, дэкаратыўныя ўпрыгожанні...

Завод — удзельнік шматлікіх выставак. Прызы міжнародных выставак, пачынаючы з бронзавага медаля «Экспо-58», які быў прысуджаны «Нёману» за прыбор Г. Ісаевіча, «Гран-Пры» Міжнароднага агляду мастацкага шкла і фарфора ў Яблацэ-на-Ніссе за набор посуду са знакамітай «нёманскай» ніткай» А. Федаркова і залатых медалёў за некаторыя працы В. Жохава і В. Мурахвера, медалі і дыпломы ВДНГ, Саюза мастакоў, Гандлёвай палаты — усё гэта падымала прэстыж аўтараў і завода, паказвала як значную з'яву сучаснай культуры Беларусі. Гонарам шклозавода з'яўляюцца прызы Арка Еўропы «Залатая зорка якасці — Мадрыд-95», Цэнтра даследавання Еўрапейскага рынка — Еўрамаркет «Брусель-98», Асацыяцыі-каардынатара праграмы «Партнёрства дзеля прагрэсу», 1998 г.

Экспарт завода склалі наступныя гарады і краіны: Будапешт, Варшава, Вена, Лондан, Парыж, Аўстрыя, Бельгія, Балгарыя, Данія, Германія, Галандыя, Грэцыя, Ізраіль, Італія, Францыя, Швецыя, Канада, ЗША, Расія, Латвія, Эстонія, краіны далёкага і блізкага Усходу.

Удзел у выстаўках і ярмарках: Берлін, Брусель, Будапешт, Варшава, Вена, Вільнюс, Дамаск, Дзюсельдорф, Загрэб, Кіеў, Лондан, Мадрыд, Мінск, Манрэаль,

Масква, Асака, Парыж, Пекін, Плоўдзіў, Познань, Прага, Рым, Салонікі, Сідней, Франкфурт-на-Майне, Эрфурт, Хельсінкі, Яблонец-на-Ніссе.

## Міхаіл Ламаносаў

## ЛІСТ АБ КАРЫСЦІ ШКЛА

*(Урывак)*

Няпраўду кажуць тыя, лгуць, Шувалаў,
Што Шкло ніжэй за Мінералы,
Хоць ганарыцца ім чым ёсць...
У Шкле не менш карысці, і дзіва-прыгажосць.
Нярэдка я спускаюся з Парнаса,
Каб з ёй пабыць хоць крышачку сам-насам.
Пяю перад табою оду я, хвалу
Не самацветам, золату, а Шклу.
Калі яго пахвальна ўспамінаю —
Не крохкае я шчасце уяўляю.
Бо не павінна тленам тое быць,
Што і ў агні пякельным не гарыць.
Агонь — знішчальнік рэчаў і багацця:
Шкло ж ім народжана; агонь жа яго бацька.

*1752 г.*

## Мікола Бусько

## «НЁМАНСКАЯ НІТКА»

«...Яшчэ Цэзар, каб захаваць таямніцу вырабу шкла, загадаў адсячы майстру галаву».

*З гісторыі*

Хто адгалоскі даўніны
Аспрэчыць: ці праўдзівыя?..

Сягоння Нёмана сыны
Схіляюцца над дзівамі.

Укрыта срэбра быстрых вод
Лісцём ракіты ціхае,
Дзе горача шкляны завод
На ўсе плавільні дыхае.

Не лета на далонь сцякло
Жывіцай у сасонніку —
У печах плаўленае шкло
Іскрыцца, нібы сонейка.

Як рэха сцішыцца ў бары
Арганнае, магутнае, —
У трубку, майстра, набяры
Дыханнем сонца гутнага.

Як пералівамі рака,
Як сінь-смугою далечы —
Глядзі! — дыханне мастака
У шарыку гайдаецца.

То з трубкі, быццам з ледзяша,
Звісае шкельца кропляю.
І аж заходзіцца душа,
Красой душа захоплена.

Як бы сцякаючы з пяра,
Агнёва-пакручастая
Сульфіднай нітачкі спіраль
Малюнак апаясвае.

Дыханне сунімі каля
Няўлоўнай аперацыі.
Не толькі край —
Уся зямля
Знаёма з нашай працаю.

Здзівіўшы цэлы шар зямны
З тыбетамі, каўказамі, —
Як цуд пушчанскай стараны,
Іскрыцца грань алмазная.

Хоць лютасць лепшую з планет
Кардонным дротам зрэзала,
Аббегла нітка з Нёмна свет.
...Шчыруе майстра, як паэт,
Забыўшы лютасць Цэзара.

У часе ты святло і цень,
Бярозаўка, адолела.
Крышталю сонечны прамень
Тваёю стаўся доляю.

## Аляксей Сінілаў

# ЗАСТУПНІЦА — ЛІПІЧАНСКАЯ ПУШЧА

Раніцай аднаго дня я ўваходзіў у вёску Зачэпічы. Гэта, калі можна так сказаць, — лясная сталіца. Тут размешчана кантора лясніцтва, сюды сыходзяцца ўсе дарогі і сцежкі, што працінаюць у розных напрамках Ліпічанскую пушчу.

Сталіца лесу ў час вайны была партызанскай сталіцай. У Зачэпічах знаходзілася база партызан. Многія пралілі тут сваю кроў, аддалі жыццё за вызваленне роднай зямлі. Над іх брацкай магілай пастаўлен помнік: воін і жанчына-партызанка стаяць у жалобе над прахам тых, хто не дажыў да радасных дзён перамогі. Навакол струменіць, кіпіць жыццё, ціха перашэптваецца лес аб тых гераічных днях, пяе славу сваім абаронцам рачулка Чарняўка, якая зарадзілася недзе там, дзе на партызанскі аэрадром садзіліся самалёты з Вялікай зямлі.

Для нас бор медны, неабсяжны
Шчытом надзейным быў і хатай, —

успомніліся мне словы паэта.

Ліпічанская пушча асабліва многа зрабіла для беларускага народа. Калі зазірнуць у мінулае, убачыш, як у нетрах яе, каля вогнішчаў, збіраліся тыя, каму нязноснымі былі ноч няволі і прыгнёту, катаванні інша-

земных захопнікаў, каралёў, езуітаў, магнатаў, царскіх сатрапаў, паноў і падпанкаў. Лес прыдаваў людзям сілы ў змаганні.

Тут збіраліся паўстанцкія сілы ў атрады Кастуся Каліноўскага — «чырвонага камісара» Гродзенскай губерні і выдаўца падпольнай газеты «Мужыцкая праўда»; адсюль ён вёў у бой сваіх землякоў-хлебаробаў. Вядома, што шлях К. Каліноўскага абарваўся на шыбеніцы, але яго зямляк і сябар па барацьбе, другі ўдзельнік народнага паўстання Валерый Врублеўскі падхапіў сцяг свабоды. Пасля разгрому паўстання, цяжка паранены, ён уцёк ад шыбеніцы за мяжу, стаў спачатку ліхтаршчыкам на вуліцах Парыжа, а потым — праслаўленым генералам Парыжскай камуны. Трэба зазначыць, што абодва рэвалюцыянеры нарадзіліся непадалёку адсюль. Помнік К. Каліноўскаму мы бачылі ў райцэнтры Свіслач, імем В. Врублеўскага названа вуліца ў пасёлку Жалудок.

* * *

Суцэльная сцяна высокіх елак, бяроз і асін нечакана насунулася на нас і засланіла сабой неба і сонца. Адразу зрабілася холадна і сыра. Ужо не чутна гоману птушак. Мы ўступілі пад шаты Ліпічанскай пушчы.

Мой праваднік, былы партызанскі сувязны Антон Андрэевіч Мармыш, моўчкі ідзе ўперадзе толькі аднаму яму вядомымі сцяжынкамі да былога партызанскага лагера.

Ціха, нават не чуваць уласных крокаў, пад нагамі мох і мінулагодняе лісце. Усё часцей сустракаюцца на дарозе невялікія балоцістыя ручайкі. Мы пераходзім іх уброд, крочым далей, далей, у змрочную цемру велізарных дрэў, вільготных папарацей і кволых, прыглушаных іншымі дрэвамі, бяроз.

Некалі тут праходзіла партызанская сцяжынка. Колькі прайшло па ёй у тыя грозныя гады, баявых хлопцаў са зброяй у руках!

Тысячы, дзесяткі тысяч!

Па гэтай сцяжынцы вярталіся з перамогамі, неслі параненых, моўчкі, глытаючы слёзы, праводзілі ў

апошні шлях загінуўшых. Па гэтай жа сцяжынцы вярталіся яны пасля канчатковай перамогі ў родныя вёскі, у Пясчанку, Задвор'е, Малую Волю, Курылавічы, Маскалі, Руду Ліпічанскую, да сем'яў, дзяцей, родных, калі засталіся жывымі пасля двух карных рэйдаў фашыстаў і іх памагатых па вёсках гэтага вялікага лясного краю, людзі якога так і не скарыліся ні на дзень акупантам, нягледзячы на масавыя расстрэлы, катаванні і здзекі.

Колькі іх тут, на берагах Шчары, у лясах, каля вёсак, брацкіх магілак гордых людзей, аб якіх ніколі не будзе забыта. Але ворагу гэта не абышлося беспакарана. Тысячы фашысцкіх галаварэзаў і іх памочнікаў знайшлі свой бясслаўны канец у Ліпічанскай пушчы. Сотні эшалонаў з варожай тэхнікай пусцілі пад адхон слаўныя партызаны гэтага кутка Прынёманскай зямлі.

## Гвідон Ждановіч

*(г. Шчучын)*

* * *

Душа збалелася па Нёмну.
Відаць, датуль не адбаліць,
Пакуль зачэпіцкія промні
Святло не змогуць пераліць.
Душа, як чуйная антэна,
Трапеча крылцамі надзей:
А вось — наступяць перамены
І прычакаем светлы дзень!
На салаўіны спеў дзівосны
Яна адклікнецца слязой,
Засвеціць чысцінёю роснай
Не раз, а тысячы разоў...
Душа збалелася па Нёмну,
І ты павінен там пабыць,
Дзе дух стагоддзяў векапомны
Стаілі волаты-дубы...

## ЗЯМЛЯ ЦЁТКІ

Зямля тут сапраўды для песняў
Зялёна-сіняе раздолле.
«Ку-ку» прадбачлівае ў лесе,
жывыя струны па-над полем.

Ці не былі запеўнай ноткай
яны ў дзявочым сэрцы чулым?
Ці не таму і голас Цёткі
абдаў душу вясновым гулам?

Яна, змяніўшыся ў прыроду,
з удумным позіркам і сёння
агністы верш свайму народу
чытае з кніжкі на далонях.

### Іван Пяшко

*(г. Шчучын)*

## «ВЕСКА ОРЛЯ НА НЁМАНЕ...»

У адзін летні дзень, калі краіна рыхтавалася адзначыць гадавіну вызвалення ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у рэдакцыю шчучынскай раённай газеты зайшоў старшыня Орлеўскага сельскага Савета. Павітаўшыся, дастаў з кішэні крыху памяты канверт. На канверце значылася: «Вёска Орля на Нёмане, старшыні...» І хоць надпіс нагадваў знакаміты адрас з апавядання Чэхава, пісьмо знайшло адрасата. Зваротны адрас быў дакладны. Напісала ліст жанчына з Расіі.

Старшыня даў мне прачытаць пісьмо. Зваротны адрас мне быў у чымсьці знаёмы. Яшчэ раз зірнуўшы на яго, я падумаў, што сапраўды свет цесны. Мне давялося некалькі гадоў жыць у Кузнецку — ліст прыйшоў адтуль, з горада Кузнецка Пензенскай вобласці. Жанчына паведамляла аб сваёй сям'і. У канцы ліста пісала, што будзе вельмі ўдзячна, калі хто-небудзь з вяскоўцаў напіша ёй.

Сярод вёсак, што раскінуліся на беразе Нёмана ў Шчучынскім раёне, Орля самая вялікая. Выдзяляецца яна непаўторнасцю сваіх краявідаў, сваёй гісторыяй, людзьмі. Менавіта ля Орлі ў Ліпічанскай пушчы была створана першая партызанская група ў часы Вялікай Айчыннай вайны. На Нёмане яна дала першы бой. З вёскай звязана дзейнасць партызанскага злучэння, якім кіраваў адзін з арганізатараў партызанскага руху ў Беларусі Сцяпан Пятровіч Шупеня. Яго імя носіць Орлеўская сярэдняя школа, на беразе Нёмана ўзведзена мемарыяльная партызанская зямлянка, дзе сабраны экспанаты і дакументы аб барацьбе народных мсціўцаў супраць ворага.

Мы змясцілі ў раённай газеце пісьмо жанчыны з Кузнецка пад назвай: «Дзякуй вам, беларусы!» На артыкул адгукнулася настаўніца Орлеўскай школы імя С. П. Шупені Галіна Ігнатаўна Рыжкевіч. Помніла татарскую жанчыну Марыя Трокель, маці Галіны Ігнатаўны.

Пісьмо з берагоў Нёмана пайшло ў Расію з весткай аб тым, што Марыю Шыганаўну Абузяраву памятаюць у Орлі і чакаюць...

...Муж Марыі — Зіновій Абузяраў служыў у Чырвонай Арміі інжынерам авіяцыйнай часці, якая ў 1941 годзе перадыслакавалася ў Жалудок. Кватэр у пасёлку Жалудок не хапала, і 30 сем'яў вайскоўцаў знайшлі прытулак у Орлі, вёсцы, якая дзесяць кіламетраў ад пасёлка. Сярод гэтых трыццаці была і сям'я інжынера Абузярава.

22 чэрвеня Зіновій Абузяраў быў падняты па трывозе, а назаўтра ў Марыі нарадзіўся сын Раман. Камандаванне часці прыняло рашэнне аб эвакуацыі сем'яў. Трыццаць жанчын з дзецьмі па дарозе на ўсход заехалі ў Жалудок, каб забраць парадзіху, але ўрач сказаў, што гэтага рабіць нельга. Цяжкім было расстанне...

Ноччу ў палату ўвайшла цётка Вера, у якой кватараваліся Абузяравы. Расказала, што робіцца ў вёсцы, наказала Марыі, калі падужэе, каб ішла толькі да яе. Доктар адпусціў Марыю з сынам на чацвёрты дзень. Трымаючы спавітае ў бальнічную бялізну немаўля, яна

раніцай выйшла за пасёлак. Абыходзіла нямецкія пасты. Доўгі шлях знясіліў жанчыну, хлопчык вёў сябе неспакойна.

Гаспадары дома, дзе кватаравалі Абузяравы, — Вера Фамінічна і Рыгор Сымонавіч Якімчыкі — чакалі Марыю. Тут, у Орлі, і засталася яна. Немцы некалькі разоў выклікалі яе на допыт, як жонку афіцэра, рабілі вобыскі, пагражалі, здзекаваліся. Разам з Марыяй ішла Вера Фамінічна, каб у цяжкі момант быць побач. Прасіла, умольвала, несла прадукты, каб задобрыць ворагаў.

З партызанскай вёскай Орля фашысты вырашылі расправіцца з дапамогай авіяцыі. Ад першага налёту загарэлася хата Якімчыкаў. Гаспадары і кватарантка былі ў полі, капалі бульбу. На дапамогу паспяшаліся суседскія дзеці. Дзяўчынка Ганна, калі ўспыхнула хата, схапіла Рамана і пабегла ў поле да дарослых. Засталася пасля таго налёту Марыя Абузярава без рэчаў, адзення, без прытулку, але зноў людзі Орлі прыйшлі на дапамогу.

Так прайшлі тры цяжкія ваенныя гады. І вось сустрэча з мужам, які вярнуўся з фронту і здолеў адшукаць жонку з сынам.

— Як цябе завуць? — чалавек у шынялі падняў хлапчука, што гуляў у пяску на двары.

— Ромусь. Пан Ромусь...

Потым не адзін раз бацька будзе здзіўляцца той мястачковай мове, на якой гаварыў яго сын, ужываючы ўперамешку рускія, беларускія, польскія, татарскія і нямецкія словы.

— А дзе мама твая?

— У хаце...

Тады па лясах і хутарах бадзяліся банды. З перасцярогай Абузяравы праз нейкі час пакінулі вёску Орлю...

...І нарэшце, Марыя Шыганаўна зноў у Беларусі. Прыехала разам з сынам. Шмат складаных пачуццяў ахапіла немаладую жанчыну пры пад'ездзе да Нёмана. Колькі ўспамінаў нагадала дарога! Яна прасіла вадзіцеля ехаць не так хутка, каб расказаць Раману, як калісьці па гэтай дарозе ішла з ім, немаўляткам, з Жалудка ў

Орлю. Шмат чаго змянілася за дзесяцігоддзі... Памерлі былыя гаспадары Якімчыкі. Адразу ж пайшла на клады, каб пакланіцца дарагім магілам. Потым былі сустрэчы з вяскоўцамі. Прыезд гасцей здалёку стаў падзеяй для ўсёй вёскі...

З Казані, дзе працуе ў навукова-даследчым інстытуце Раман Зіноўевіч Абузяраў, часта ішлі пісьмы ў Орлю. Ён пісаў у адным лісце: «Я многім расказваю аб незабыўнай сустрэчы з арлянамі, аб гасціннасці вашага народа, аб цудоўным вашым Нёмане... Я ўпэўнены, што гэта была не проста сустрэча, а сустрэча-памяць... з маімі землякамі...» У пашпарце татарына Рамана Абузярава ў графе месца нараджэння значыцца вёска Орля. Тая, што на беразе Нёмана. А дзень нараджэння — 23 чэрвеня 1941 года.

Шмат якімі людзьмі ганарацца жыхары Орлі. Раскажуць яны цікавыя факты, гісторыі, і абавязкова звязаныя са славутай ракой. Да прыкладу, як на пашу за Нёман кароў перавозяць на лодках. І каровы смірна стаяць на перавозе, таму што іх перавозілі яшчэ цялятамі, і яны прывыклі да пераправаў.

## Аляксей Сінілаў

# ВЯЛІКІ ФАЛЬКЛАРЫСТ

Ці то рачулцы далі імя вёскі, ці вёску назвалі яе імем — ніхто не ведае, толькі вёска тая называецца Лаша, а рачулка — Лашанка. Калісьці ў вёсцы стаяла трухлявая хатка. Тое месца можна і цяпер пазнаць па моцнаму яшчэ пню — гэта ўсё, што засталося ад вялікай грушы. Яна стаяла пад акном беднай хаткі, і сяляне празвалі яе «Карскай грушай» па прозвішчу настаўніка школы, які тут жыў. Настаўнік жыў небагата, плату атрымоўваў «гарцамі», і ў год адмены прыгоннага права ў яго нарадзіўся сын. Яўхімам назвалі. Праз колькі год яго імя стала сусветна вядомым. Яўхімій Фёдаравіч Карскі праславіўся як выдатны вучоны, аўтар

шматлікіх навуковых прац. Яшчэ ў студэнцкія гады пачаў ён збіраць беларускі фальклор. А «пробай пяра» былі нататкі, дзе ён абверг імкненне Н. Бардава давесці на падставе даных старажытнаяўрэйскай мовы, што слова «человек» па паходжанню блізкае да слова «теля». Першае навуковае даследаванне Я. Ф. Карскага — выдадзеныя ў 1884 г. «Беларускія песні сяла Бярозаўцы, Навагрудскага павета, Мінскай губерні».

Тут нельга нават коратка расказаць аб велізарнай і шматбаковай навуковай дзейнасці нашага вялікага земляка. Да апошняга дня свайго жыцця (ён памёр 29 красавіка 1931 года) акадэмік Я. Ф. Карскі працаваў. Толькі для таго, каб пералічыць усе яго навуковыя працы, спатрэбілася б шмат старонак кнігі.

Галоўным помнікам жыцця вучонага з'яўляецца шматтомная і грунтоўная праца «Беларусы». Гэта сапраўды тытанічны подзвіг чалавека з велізарным запасам ведаў і глыбокай эрудыцыяй. Яго моц і энергія вучонага жывіліся з невычэрпнай крыніцы любові да свайго народа і імкнення аддаць служэнню яму ўсе свае духоўныя сілы.

У «Беларусах» Я. Ф. Карскі даводзіць, што старажытная літаратура Русі з'яўляецца агульнай асновай у развіцці літаратур усіх трох братніх народаў — рускага, беларускага і ўкраінскага, што мова помнікаў старажытнай беларускай літаратуры з'яўляецца літаратурнай мовай, выпрацаванай у XIV—XVI стагоддзях на старажытна-рускай аснове пры дапамозе жывой народнай беларускай мовы.

Калісьці беларуская мова была афіцыйнай мовай Вялікага княства Літоўскага. Але ў 1696 годзе па асобаму ўказу польскага сейма беларуская мова была забаронена для карыстання. На Беларусі і ў Літве літаратурнай мовай стала польская.

Законам зверху мова беларусаў была забаронена, але яна жыла, развівалася, узбагачалася ў нетрах свайго народа. Беларускі народ, у той час прыгнечаны і заняволены, у вуснай народнай творчасці захоўваў і песціў сваю мову, бо мова — гэта яго жыццё.

Палітыка царскага самадзяржаўя таксама не спрыяла развіццю нацыянальнай мовы і літаратуры бе-

ларусаў. Якую ж трэба ўзяць на сябе адказнасць, якую грамадзянскую мужнасць і смеласць трэба праявіць, якім гарачым патрыятызмам павінна гарэць душа вучонага, каб у змрочныя часы царскай рэакцыі выпусціць з друку першую кніжку сваёй шматтомнай працы і на вокладцы яе напісаць адно вялікае слова: «Беларусы»!

**Віктар Шымук**

## ДОЧКІ НЁМАНА

І нясе ён,
Вольны і шырокі,
Ў Балтыку
Бурлівы свой паток.
Сіні Нёман наш
Не адзінокі —
Шмат, сябры,
У Нёмана дачок.

## УША

Нібы страла — на Брэст шаша...
Асфальт люстэркам ззяе.
Шашу прарэзала Уша,
Што лугам працякае.

Стаміўся за рулём шафёр,
Спыніўся на хвіліну.
Ён з твару кроплі поту сцёр
І напаіў машыну.

А ля яго звініць шаша,
Вада ж па-над капотам
Нібы шуміць: — У-ша, У-ша,
Цішэй на паваротах!

## БЕРАЗІНА

У нас ёсць дзве Беразіны,
У два бакі цякуць яны.
Адна — к Дняпру плыве здалёк,
Другая — Нёмана прыток.

І там, і тут была вайна...
Ад мін гула Беразіна.
Каля прынёманскай ракі
Знайшлі магілу чужакі.

Сягоння тут гараць кастры,
Ля іх сабраліся сябры.
Лунае песня над ракой,
Як тут грымеў калісьці бой,
Як ваявалі ў час вайны
На берагах Беразіны
Радзімы верныя сыны.

## ДЗІТВА

Падаравала нам Літва
Рачулку з назваю Дзітва.
Калісь з літоўскае зямлі
Па ёй да нас плыты плылі,
Каб потым Нёманам-ракой
Плысці да прыстані марской.
Цяпер жа — мелка на Дзітве,
І зрэдку лодка дзе плыве.
І вось нядаўна ля ракі
Сышліся людзі-дружбакі.
Тут экскаватараў каўшы
Раку скубуць і ўглыб, і ўшыр.
І з Беларусі, і з Літвы
Працуюць людзі ля Дзітвы.
Дзітва нам стане зноў служыць —
Па рэчцы баржы будуць плыць.

## ТРЫ РАЧУЛКІ

Выйду сонечным ранкам
За ваколіцу я.
Як жывеш ты, Ятранка,
Рачулка мая?

Ты шуміш напрадвесні
Між густых лазнякоў.
Гэту простую песню
Чую сёння я зноў.

Ты цячэш без аглядкі,
Шлях скіраваны твой
Да сястры, да Маўчадкі,
Да рачулкі другой.

А далей, між паніклых
Кучаравых ракіт,
Ўецца рэчка Паніква,
Ў хвалях — неба блакіт.

Вы — як цуд, як абнова,
Тры рачулкі-сястры.
...Сустракае вас Нёман
У зялёным бары.

## ШЧАРА

Паміж рэчкамі-прытокамі
Шчара — самая шырокая,
Шчара — самая даўжэйшая,
Ад усіх найпрыгажэйшая.

Над ракой — гаі дубовыя —
Веліканы стогадовыя.

Мы стаім, зачараваныя,
Пад дубамі-веліканамі.
А ў нізіне — Шчара быстрая,
Як сляза, вада ў ёй чыстая.

Ў Шчару Слонім заглядаецца,
Бы ў люстэрку адбіваецца,
Нібы дзеліцца са Шчараю
Сваёй радаснаю мараю.

## РОСЬ

Ля Росі —
Травы росныя,
Іскрыстыя,
Дзівосныя.
Пад сонцам
Кожнай раніцай
Гарацьь,
Пераліваюцца.
Над Россю —
Сосны звонкія,
Зялёныя
І стромкія,
Ад ветрыку
Схіляюцца,
У рэчку
Заглядаюцца.
Тут многа
Смеху, гоману:
З-пад Буга
І з-пад Нёмана
Усіх нас
На канікулы
Рачулка Рось
Паклікала.
Мы раніцаю
Кожнаю
Бяжым травой
Мурожнаю,
Бяжым да рэчкі
Сцежкамі,
Жартуючы,
З усмешкамі.
Мільгаем
Між палаткамі
Абветранымі
Пяткамі.
Тут лагер
Размяшчаецца,
Ён «Казкай»
Называецца.
Прыедзьце,
Калі ласка,
На Рось,
У нашу «Казку».
Шумяць тут
Сосны звонкія,
Зялёныя
І стромкія,
Блішчаць тут
Травы росныя
Брыльянтамі
Дзівоснымі.

## ЕЛЬНЯ

Ёсць над Нёманам
Горад Масты,
Можа, быў
У тым горадзе ты?

Праз Масты ціха-ціха
Здалёк
Плыве Ельня —
Малы ручаёк.

А ўздоўж Ельні
Ад краю у край,
Дзе ні глянеш, —
Яловы гай.

І за ім ціха-ціха
Здалёк
Плыве Ельня —
Малы ручаёк.

## КОТРА

Ці вясной, ці летам,
Той парой спякотнай,
Плешча хваляй звонкай,
Плешча рэчка Котра.

І плыве праз пушчу,
Праз бары і гаці,
А наўкол красуюць
Нівы, сенажаці.

На сцяжынках вузкіх,
Дзе гушчар-асіннік,
Можна след убачыць
Капытоў ласіных.

Да ракі касулі
Падыходзяць ночкай,
Каб вады напіцца
Каля беражочку.

Тупат іх пачуўшы,
Бягуць без аглядкі
Бабры-дрэварэзы
У рачныя хаткі.

...Летняю пароюю,
Восенню маркотнай
Плешча хваляй звонкай,
Плешча рэчка Котра.

## ЧОРНАЯ ГАНЬЧА

З братняе Польшчы,
З маленькай крыніцы
Чорная Ганьча
У Нёман імчыцца.

Коціцца полем,
Коціцца гаем,
Нашы народы
Рэчка яднае.

Хоць яна Чорнаю Ганьчай
Завецца,
Светла над Ганьчаю
Людзям жывецца.

Чуеш, над рэчкай,
Ля самай граніцы,
Песня, як птушка,
Удалеч імчыцца.

Гэта спяваюць
Польскія дзеці,
Мірнае сонца
Ім ласкава свеціць.



# «Рака наша слаўная Нёман...»

**Уладзіслаў Сыракомля**

# НЁМАН АД ВЫТОКАЎ ДА ВУСЦЯ

**§ 16**

У 70 мілях ад Гродна, каля мястэчка Масты, дзе ёсць касцёл, закладзены каралевай Бонай у 1539 годзе, Нёман зноў закругляецца і бярэ паўночна-заходні накірунак. Яго левы бераг гарысты, на правым больш лясоў і балотаў; абодва — пясчаныя. Аднак левы, — гэта Слонімскі павет — залічваецца да найбольш ураджайных на Літве. Гарадоў і мястэчак тут няма. Рэчкі больш значныя: з правага боку **Котра**, што ўключае ў сябе некалькі іншых: сярод іх рэчка **Пірра**, якая выплывае з возера **Рыбніца**, справа возера **Белага**, што цягнецца тры мілі на поўнач; з левага — **Зельва, Валкавія, Свіслач, Кастоўка** і малая рэчка **Гародніца**, якая папаўняе вадой Нёман у самым Гродне.

Ваколіцы Гродна часткова лясістыя, часткова ж адкрытыя, ураджайныя і людныя. Жывуць тут славяне, а мова ў іх русінская.

Зямля суглінскавага колеру, які часамі пераходзіць у светлы. Гэтыя мясціны багаты вапнай, вапенным туфам і мелам, які выкарыстоўваецца ў гандлі.

Нёман тут плыве ў звужаным рэчышчы і хуткая плынь праразае яры, найвялікшы з якіх дасягае 30 сажняў. Кожны з гэтых яраў парослы ліставымі альбо хваёвымі дрэвамі. У ваколіцы тут поўна малых насыпных узгоркаў. Адны з іх утварыліся ад нававу пяску, іншыя з'яўляюцца чалавечай рукой насыпанымі курганамі-магіламі даўніх дзеячаў, што тут загінулі, або помнікамі ў гонар вялікіх подзвігаў, здзейсненых у далёкім мінулым.

§ 17

Ад старасвецкіх руін царквы Каложы, сапраўды старажытных, бо яшчэ з трынаццатага стагоддзя Нёман набліжаецца да **Гродна** і туліцца да падножжа старога Замка Вітэнесаў, Вітольдаў і Баторых.

Гродна, горад пабудаваны на правым беразе Нёмана, на ўзвышанасці, размешчанай на 53°4′ паўночнай шырыні і 41°30′ усходняй даўжыні, з руінамі сваіх замкаў, з касцёламі і іх чароўнымі вежамі, са старасвецкімі мансардамі, мае права быць залічаны да найпрыгажэйшых у Літве, горад, якому, можа, не хапае толькі дрэў. На правым беразе ракі знаходзяцца свіраны, на левым — прадмесце з пераважна драўлянай забудовай, якое плывучым мастом злучаецца з горадам.

Усе гродзенскія **касцёлы** старажытныя і цудоўныя. Парафіяльны касцёл, які будаваў Вітольд і даабсталёўвалі наступныя каралі, вылучаецца паважнай старажытнасцю; касцёл пасляезуіцкі (сёння другі парафіяльны) вызначаецца велічынёй і багаццем. У ім была ложа, куды па галерэі над вуліцай да свайго трыбунальскага палаца прыходзіў на імшу Стэфан Баторы. Іншыя касцёлы: последамініканскі, послебернардынскі, паненак Брынідак і Бернардынак, а таксама грэка-рымскі сабор з'яўляюцца сапраўднай аздобай горада. Не столькі стары, колькі падобны да старажытнага касцёла Францішканаў на прадмесці — цемнаваты, вузкі, аздоблены старасвецкімі партрэтамі заснавальніка Еўстафія Курта і яго сям'і.

Але нягледзячы на гэта ўсё, нейкая фатальнасць загадала Гродну іграць злавесную ролю на працягу ўсёй бытнасці Польшчы. Не ведаю, ці быў хоць адзін радасны выпадак, але затое з яго назвай звязана некалькі балючых успамінаў. Канфлікты Вітольда з Ягелам і яго сувязі з крыжакамі, смерць Казімежа Ягелончыка (1492), смерць Стэфана Баторага ў 1586, урэшце, сейм 1793, другі падзел Польшчы і адрачэнне караля Станіслава — гэта здарэнні, якія чорнымі камянямі ў нашай гісторыі пазначаны.

Ці ж да бедстваў краіны, злучаных з імем Гродна не трэба залічыць заняпад Антона Тызенгаўза і ягоных вы-

датных для айчыннай прамысловасці і асветы перспектыў? Тут жа быў яго гандлёвы дом, які карыстаўся ў Еўропе вялізным крэдытам; тут быў батанічны сад, якім кіраваў славуты еўрапейскі вучоны Джыльберт; тут былі школы: ветэрынараў, будаўнікоў, землямераў, аграномаў і бухгалтараў. Запрошаныя з-за граніцы фабрыканты, у вялікай колькасці адкрывалі майстэрні: ткалі мусліны, сукно, палатно з мясцовых матэрыялаў, выпускалі шоўк і ткалі залатыя паясы. Бібліятэка, кабінет гісторыі, друкарня і словалітня павінны былі забяспечваць навуковыя патрэбы, а корпус кадэтаў — трэніраваць у рыцарскасці Літвінскую моладзь. Абрушыўся з фундаментаў гмах задум, заснаваных Тызенгаўзам, а Гродна і яго прадмесце Гародніца, сведкі выдатных часоў гэтага дзеяча, дыхаюць сірочай пустэчай.

У Гродне налічваецца 17257 жыхароў, дамоў — да тысячы. З іх палова мураваных. Фабрыкі і рамяство развіты слаба, гандаль, хоць побач Нёман, занядбаны. Некалькі мясцовых купцоў апярэджваюць прыезджыя, так што на 150 віцін, якія выплываюць адгэтуль, толькі 80 загружаюць у Гродне. Калі ацаніць кошт кожнай віціны на 25000 сяр. рублёў, як мы гэта зрабілі ў Стоўбцах, дык агульная вартасць грузаў складзе 3750000 сяр. руб.

## § 18

З Гродна, прайшоўшы не болей паловы мілі да вусця рэчкі **Ласосна**, Нёман рашуча пакіроўваецца на поўнач. Тут правы яго бераг належыць да Гродзенскай губерніі, а левы да Польскага Каралеўства, або да так званай кангрэсоўкі.

Ад вёскі **Ласосны** і вусця рэчкі з такой жа назвай да вёскі **Вялікая Баля** шырыня Нёмана 30 футаў, а ад гэтай мясцовасці, пасля прыёму рэчкі **Лабна**, ён расшыраецца да 50 футаў. Рэчка Лабна разразае на дзве часткі **Мелавую гару**. Плывучы сярод лясоў міма мястэчка **Пералом**, на яго левым беразе, дзе ў чатырнаццатым стагоддзі была невялікая Літоўская крэпасць, забірае з правага боку малыя рэчкі **Даўшоўку** і **Аранянку**,

якія ўліваюцца пры мястэчку **Гожа**. Тут ёсць касцёл, абсталяваны каралём Аляксандрам у 1494 годзе. Потым ён прымае рэчкі **Страхоўку**, **Верхмольніцу** і **Дуброву**.

Дно Нёмана засланае пяском, гравіем, слаямі гліны і каменнымі гарамі, дужа небяспечнымі для суднаходства.

§ 19

Нёман, прайшоўшы звыш чатырох міляў (з улікам яго фантастычных заваротаў), з левага, польскага боку прымае рэчкі **Чорную і Белую Ганьчу**, з правага — **Кубільніцу** (пры вёсцы Пераваль, калісьці Староства), урэшце **Ратнічанку**, у якую ўпадае рэчка Яскута. Ля рэчкі Ганьчы каралеўскі казначэй Тызенгаўз калісьці пабудаваў плаціну са спадам вады звыш чатыры футы, каб аблегчыць сплаў драўніны з лясоў і стварыць тут лесапільню.

Пры вусці Ратнічанкі дугой Нёман абыходзіць мястэчка **Друскенікі**, якое, дзякуючы сваёй лячэбнай вадзе, атрымала шырокую папулярнасць. Гэтую малую, раскінутую на прынямонскім пяску мясціну, ужо ў трынаццатым стагоддзі ведалі крыжаносцы, бо які ж закутак нашай зямлі мог застацца непрыкметным іх прагным вокам? Ужо тады быў збудаваны невялічкі драўляны замак для абароны ад іх нападаў.

Генрык Плоцке пры Вітэнесе (1312), а Тэадор Альнер пры Кейстуце наведалі гэтыя мясціны з агнём і мячом. Салёную ўласцівасць тутэйшай вады ведалі здаўных-даўна, што даказвае назва гэтага месца **Друскенікас**, панямецку Saltzenike, бо літоўскае слова Друскас і нямецкае Saltz азначаюць соль. Але доўгі час гэтыя мясціны знаходзіліся ў занядбанні, бо не было ў нас звычкі карыстацца сваімі дарамі прыроды. Мы аддавалі перавагу заграцічным.

Толькі ў 1826 годзе ўрад Польскага Каралеўства для навуковага высвятлення гэтай справы паслаў Ульмана, Вансовіча і Ляхніцкага. Але гаворка ішла пра здабыткі мінералагічныя, перш за ўсё — аб пошуках солі. Яны пакалупаліся ў зямлі, зрабілі аналіз тутэйшых крыніц,

знайшлі ў вадзе мізэрны працэнт солі, напісалі адмоўны для Друскенікаў даклад і паехалі.

На цэлебнасць гэтых водаў звярнулі ўвагу толькі трохі болей за дваццаць год таму. Вядомыя публікацыі тагачасных урачоў прыцягнулі сюды людзей. Спярша нямногія, а потым натоўпам пачалі прыязджаць сюды лячыцца ў летні час. Хворыя прыязджалі па палёгку, здаровыя — дзеля забавы і адпачынку пасля хатніх турбот.

У апошні час штогод тут бываюць сотні сем'яў з Літвы і Падоля, Валыні, Украіны і Польскага Каралеўства, і ўсе знаходзяць выгоднае месца ў драўляных прасторных будынках. З дзесяць гадоў таму тут пабудавалі прыгожы касцёл, каб задаволіць і патрэбы хрысціянскай душы. Некалькі дзесяткаў ваннаў з урадавым кантролем і выдатнай абслугай даюць магчымасць выкарыстаць лячэбныя даброты натуры. Ваду ў ванны пампуюць сіламі коней. Прыгожы, хоць драўляны, будынак з вялікай залай служыць у якасці клуба і для забаў, якія тут чатыры разы ў тыдні адбываюцца.

Выгодны тэатр дае магчымасць віленскім артыстам бываць тут са сваімі спектаклямі. Аптэка, рэстаран, кнігарня забяспечваюцца з Гродна. Добра арганізаваная пачтовая служба дастаўляе карэспандэнцыю. Паліцэйскі клапоціцца аб бяспецы і спакоі...

Для папулярызацыі Друскенікаў многа зрабіў доктар Пілецкі. Тут усюды відаць яго дзейсная рука, светлая галава, натхненне яго сэрца. Можна сказаць, што ствараючы Друскенікі, ён да іх гісторыі прывязаў сваё прозвішча. Патомкі з гордасцю будуць успамінаць яго карысную дзейнасць для краіны.

## Міхась Васілёк

# РОДНЫ КРАЙ

Інакш шуміць алешына,
У золаце лісты,

Жыццё, як ты палепшала,
Як харашэеш ты!

У звоне нашай восені —
Бадзёрасць, а не сум.
А песня мая — вось яна,
Ад сэрца я нясу.

Заглянь у люстра Нёмана,
Паслухай шэпат хваль.
З якім вясёлым гоманам
Плыве ён сёння ўдаль!

Калісь за грош аплаканы
У чужацкія краі
Сыны ў сярмягах латаных
Сплаўлялі лес па ім.

А сёння ў даль пагодную
За згонам новы згон
Для шчасця краю роднага
Праводзіць плытагон...

## Піліп Пестрак

## НЁМАН

Цябе вітаю, Нёман родны,
Тугі народнае рака,
Ў тваіх зялёных тонях водных
Струменіць скарга мужыка.

Па гладкай плыні ў даль гляджуся,
Ў тваю задуму берагоў,
Дзе замярлі ў лясістай глушы
Грамады-перавалы гор.

Знямелы, здзіўлены, трывожны
Стаю, заслуханы ў цябе,

Квяцісты луг — залом твой кожны
Жальбой расстання ў грудзі б'е.

Шчабечаш песняю птушынай,
Хвалюеш маладосці сон,
І льецца борам спеў дзяўчыны,
І грае рэха ў перагон!

Сыпнуўшы косы залатыя,
Блакіт на дне тваім заснуў,
Калыша ў сэрцы далі тыя —
Загонаў плужную вясну.

А дзе галотай свеціць вёска,
Страхой прыпала да цябе, —
Шуміш сіротлівай бярозкай,
Ракочаш ласкаю ў журбе.

Далёка ціхнеш адгалосам...
І там, дзе нізка над вірком
Ў тужлівых думах віснуць лозы,
Нячутна плачашся цурком...

І заціхаеш ў пушчы грознай,
Сніш сон бізуннай старыны,
Як мукі боль у долі слёзнай
Няслі сярмяжныя сыны.

А з пушчы выплыўшы, памкнуўся,
Як лебедзь белы з аблакоў,
Як вочы дзетак Беларусі,
Смяешся хваляй васількоў...

...Гляджу. А ў сэрцы штось глыбока
Шапоча, пеніцца, кіпіць,
Плыве з прастораў дум шырокіх,
З народных просіцца крыніц.

Ці з лугавых дзён салаўіных?
Ці з долі — мачыхі ліхой?

Ці з дзедаўскіх начэй лучынных
Імглістай восені глухой?

Ці з тых дарожак каляістых —
Тугі прыгоннае зямлі?
Ці з песні маці над калыскай
У вечар сцюжнае зімы?

Адкуль, адкуль плыве? А толькі
Сны ўюцца хмелем-дзеразой, —
Кіпіш мне, Нёман, быллю горкай,
Шуміш народнаю слязой!..

Цяпер спрагнёнымі вачыма
Ў душу бяру тваю красу,
З астрожнай ношкай за плячыма
Прывет байцоў табе нясу.

Калі ж у гулкім хваляў гудзе
Вялікі боль раскалышу?
Або на ўспененыя грудзі
Я галаву сваю зляжу?..

*Вільня. Астрог Лукішкі.*
*1936 г.*

## Алесь Белакоз

*(в. Гудзевічы, Мастоўскі раён)*

# У ПАДАННІ ТРЭБА ВЕРЫЦЬ...

Усё маё ранняе дзяцінства прайшло каля Нёмна: да шасці гадоў гадаваўся ў бабулі, у вёсцы Падбараны (так пішуць чыноўнікі, бо ў народзе называюць яе Радзівонаўцы). Пазней кожнае лета вакацыі праводзілі з сястрой Верай у цёці Мані, роднай мамінай сястры. І цяпер, як толькі бываю ў Радзівонаўцах, бягу да Нёмна. Гэтая славутая рака з кожным годам набліжаецца да вёскі. Выйдзеш з хаты — і вось ён, твой любы Нёман.

Вяртаўся я з арміі, а служыў у Джамбуле, Ленінабадзе, Тэрмезе. Пяцёра сутак хуткім цягнікам ехалі да Масквы. А вось і беларуская калісьці Смаленшчына, пачалася Магілёўшчына, але толькі пераязджаючы Нёман, я адчуў, што вярнуўся ў родны край: заныла ў грудзях, пацямнела ў вачах. Бачыў паўнаводную Няву, што амаль выплёсквалася з берагоў, Днепр у Магілёве і Волгу ў Астрахані, Аму-Дар'ю ў Тэрмезе, але толькі сустрэча з Нёмнам выклікала такія ж пачуцці, як абдымкі матулі, слёзы радасці сястры, поціск дужай далоні сябра.

Высокі маляўнічы левы бераг, спадзісты, амаль гарызантальны абсяг зялёнага правага, шэраг рыбацкіх чаек, гонкі і імклівы човен хлапца, які яшчэ не збіўся на сваю чайку, прыгожыя маладзіцы аджымаюць хусце (бялізну), дзеці, увесь чэрвень беляць кужаль, які пяцідзесяціметровымі белымі палосамі ўпрыгожвае ярказялёныя аселіцы, векавыя магутныя дубы, што падпіралі сваімі разгалістымі кронамі блакітнае неба. Лукаш Дзяшук апавядае, што яшчэ ў шасцідзесятых гадах яму ўдалося дастаць з нёманскага дна каля вёскі Дубна велізарны мораны дуб. Леснікі памералі і сцвердзілі, што гэты волат меў 28 кубічных метраў драўніны. Выцягнуў з Нёмна ж меншага моранага дуба муж цёткі Мані Яўген Хведаравіч Якубчык. Ён, як і дзядзька Антось з паэмы «Новая зямля», меў залатыя рукі і разумную галаву. Меў толькі пяць гектараў зямлі, але жыў не бедна. Ягоную сям'ю Нёман карміў, адзяваў і абаграваў. Запас рыбы ў дзядзькі быў амаль заўсёды. Шмат яе прадаваў і мог купіць сям'і адзенне і абутак. З Нёмна вылоўліваў напрадвесні бярвенні. Частку з іх пускаў на будаўнічы матэрыял, а крывое ды тонкае — на дровы. З моранага дубу напілаваў дошак. Яны былі цвёрдыя як косць, зрабіў прыгожую шафу з вялікім люстрам. Ён быў ашчадны і шчодры чалавек. Гэта пра яго склалі жарт, што запалак коле на тры часткі, каб адным тройчы запаліць, а літар гарэлкі — зара́з. Не, ён амаль не піў, але для суседа ці сваяка заўсёды меў бутэльку і смажаную рыбу ды сапраўдную, рыбацкую юшку. Рыбак з дзядоў-прадзедаў быў вядомы ва ўсім наваколлі. У нядзельку сядалі ўсёй сям'ёй у чайку і

плылі за Нёман. Там варылі юшку, лавілі і смажылі рыбу, гулялі, а насутонку слухалі спевы радзівонаўскіх дзяўчат. Такога прыгожага спеву я больш нідзе і ніколі не чуў. Вось гэта таленты! Заплылі мы раз на чайцы на сярэдзіну Тамаў (ціхая завадзь) — і ўбачылі незвычайную прыгажосць: на вадзе грэліся велізарныя лісткі гарлачыкаў, упрыгожаныя тысячамі белых лілеяў. Божа! Як гэта прыгожа!

Я не стрымаўся і вырваў адну кветку. Пазмрачнеў дзядзька Яўген. А калі я вырваў другую лілею, Яўген Якубчык прамовіў:

— А мы не рвем лілеяў і гарлачыкаў (у нас кажуць збаночкі).

— Чаму? — здзівіўся я.

— Казаў мне дзядуля, што кожная маладая дзяўчына, што ўтапілася ў Нёмне, глядзіць на свет Божы гэтай лілеяй. Калі ты вырваў кветку, то больш тая дзяўчына ніколі ўжо не ўбачыць сонейка, ні гэтых берагоў, ні родных Радзівонаўцаў. Нават уся расліна загіне.

Нічога жывога нельга калечыць. Нават сасну ці бярозу на дровы тата спускаў толькі зімою. «Яна цяпер сьпіць і нічого ні чуя, — казаў ён.— Нават як лісточак летам сарвеш з дрэва, та яму забаліць. Расліны безабаронныя. Грэх іх крыўдзіць».

Тады я зразумеў ганебнасць свайго ўчынку. Ніколі ў жыцці без вялікай патрэбы не вырваў лісточка, не зламаў галінкі. Вось гэта быў выхавацель!

Жыццё ягонае скончылася трагічна. Яўгена ў 1944 забралі на вайну. Вясной 1945 загінуў на фронце.

Як атрымала цёця Маня пахавальнае паведамленне, адразу захварэла, а ў 1946 памерла. Застаўся іхні сынок, трынаццацігадовы Кастусь. Мая матуля хацела забраць яго да нас, але дзядзькі вырашылі, што гэтага рабіць нельга, бо разбурыцца гаспадарка, а так яны, дзядзькі і цётка, будуць яму дапамагаць, і жыць ён будзе ў дастатку.

У 1948 годзе пачалі ў Падбаранах ствараць калгас. Дзядзькі разважылі так:

— Ты ў калгас не ідзі: мы табе зарэм, пасеем, сажнем, выберам бульбу. Ты будзеш гаспадаром. А як жа ты будзеш у калгасе? Можа, і заробіш там з пуд збожжа,

але хто карову падоіць, хто яе выганіць, сустрэне з поля днём, хто парасяткаў дагледзіць?

Пятнаццацігадовага хлапчука Кастуся Якубчыка, круглага сірату, зрабілі кулаком, абклалі цвёрдым, гэта значыць, вельмі вялікім падаткам. Запатрабавалі здаць усё ў сціслыя тэрміны.

З плачам хлопчык прыйшоў да нас. Я ўжо працаваў настаўнікам. Напісаў міністру сельскай гаспадаркі. Ліст трапіў у рукі да кагосьці разумнага. Ад падаткаў Кастуся вызвалілі.

Цяпер пытаюся ў Кастуся:

— Чаму няма гарлачыкаў у Тамах?

— Людзі сталі разумныя: у паданні не верацЬ. Пазрывалі лілеі. Расліны загінулі.

## Ірына Навуменка

*(г. Масты)*

* * *

За Мастамі,
за Нёманам стомленым,
За густой альшынай,
За травой
Ёсць куточак,
на зёлках настоены,
Дзе жыве маіх вершаў сувой.
Бачыць вершы начамі ён белыя,
Чуе ціш праз агонь навальніц.
І душа яго сёння збалелая,
Нібы звон ад высокіх званіц.

* * *

Ад Літоўскага Княства Вялікага
Засталіся ў палях камяні.
Абразы з жыватворнымі лікамі

І зямля, што не мае цаны.
Засталіся, як слаўныя віцязі,
Паўзабытыя словы-браты.
Каля Нёмана, Росі і Свіцязі
Дакраніся — і свецішся ты.
Край мой слаўны... Вярбою-матуляю
Ля гасцінцаў, як той успамін,
Ты шапочаш малітву нячутную,
Што пакінуў цябе верны сын.
І чакаеш яго паміж вёснамі,
Каб да сэрца прыціснуць, абняць.
Толькі час паўзабытымі кроснамі
Будзе вобразы родныя ткаць...

## Іван Карэнда

## ВЫТОКІ

Родны край, прыехаў зноў я
Прывітаць твой светлы дзень.
Тут жыцця майго высноўе,
Скрыжаванне ўсіх надзей.

На прынёманскай сцяжыне
Тут зрабіў свой першы крок,
*Першы след тут свой пакінуў,*
Першы вывучыў урок.

Дыхаў тут тваім паветрам,
Рваў на полі васількі
І навыперадкі з ветрам
Бегаў босы да ракі.

Тут юнацтва росным раннем
У пракосы палягло.
З ім і першае каханне
Адцвіло і адышло.

Колькі восеняў і вёснаў
Прамінула з той пары,
А прыеду — шматгалоссем
Адгукаюцца ў бары.

Тчэ ўспаміны летні вечар,
Водар траў духмяных п'ю,
І салоўка — лепшы фельчар —
Лечыць тут душу маю.

Школьных вёснаў адгалоскі,
Як бальзам жывой вады.
...Ад'язджаю з роднай вёскі,
Каб прыехаць зноў сюды.

## ПЕРШАЯ ПЕСНЯ ВЯСНЫ

Распусцілі вербы
Коцікі пушыстыя,
Лашчыць з асалодаю
Сонейка зямлю,
А высока ў небе —
Звонкая і чыстая,
Шчырая мелодыя:
«Я цябе люблю...»

Жаўруковым спевам,
Гукамі знаёмымі
Поўняцца прырэчныя
Гоні-берагі,
А ў адказ — прыпевам
Чуецца над Нёманам
Ласкава-сустрэчнае:
«Любы, дарагі...»

Хто пачуе ўвесну
Першую шчымлівую
Песню жаўруковую,
Песню пра любоў, —

Будзе з гэтай песняй,
Светлай і шчасліваю,
Сцежкамі жыццёвымі
Крочыць шмат гадоў.

* * *

*Л. К.*

Ты прабач: гэта вельмі балюча —
Не магу я з табой гаварыць...
Тэлефонная сувязь не лучыць,
Калі полымем сэрца гарыць.

Ты алёкаеш стрымана-звыкла,
Потым хутка, часцей і часцей
І, нарэшце, згубілася, знікла,
На мяне напусціўшы чарцей...

Не па-людску ўсё выйшла. Як быццам
Шмат у Нёмане збегла вады,
Ды ніяк не магу я забыцца,
Як цвітуць у Гародні сады.

Не было для расстання прычыны.
Мне цяпер так цябе не стае.
І дагэтуль у кожнай жанчыне
Бачу воблік і рысы твае.

Ці ж не нам сёння гімн урачысты
Зноў натхнёна пяюць салаўі?..
...Белай ліліяй, светла-прачыстай,
Заставайся ў сумоўі маім.

## Аляксей Сінілаў

# БАГАТЫРОВІЧЫ ЭЛІЗЫ АЖЭШКІ

Пакінуўшы за кармой нешырокае вусце Свіслачы, плывём далей. Высокія берагі пачалі крыху адступаць. Кручы пераканаліся, мабыць, што грубай сілай нічога не даб'ешся, і пайшлі на хітрыкі: зрабілі выгляд, нібы адступаюць, каб заманіць Нёман, прымусіць разліцца неглыбокай перакатнай плынню па ўсёй шыры ад кручы да кручы, а потым і пакарыць яго, бяссільнага... Але не! Нёман раздаўся крыху ў берагах, лёг спакойнай блакітнай роўняддзю, а лішняга не ўзяў і натуры не змяніў. Усё такі ж грозны, напорысты, нястрымны.

Але яшчэ дзесятак кіламетраў — і карціна мяняецца. Рака, якая да гэтага пятляла, крута выгіналася, раптам выроўніваецца, быццам хоча выпрастацца і адпачыць. Берагі адышліся адзін ад аднаго, рака разліваецца шырока і велічна. Яна пралягла між лугоў і палёў, амывае неаглядную пушчу, сасновыя бары, дубовыя і бярозавыя гаі.

Бясшумна струменіцца вада. Неба ўгары і ўнізе. І тут і там яно бясконцае, сіняе, з серабрыстымі воблачкамі. Дзе гэтым двум небам трэба сустрэцца, расце лазняк. І зусім не лазняк гэта, а шырокі зялёны пояс, які дзеліць неба папалам. Паглядзіш з сярэдзіны ракі на прыбярэжны дуб і не ўбачыш таго месца, дзе ён уваходзіць карэннямі ў зямлю. Зверху — вялікі зялёны шацёр і над ім сіняе неба, унізе — тая ж зялёная шапка, пад ёй тое ж сіняе неба.

Штосьці ад Гогаля? Ну і што ж. Сам ён, убачыўшы тут неаглядную шыр Нёмана, усклікнуў бы: рэдкая птушка даляціць да сярэдзіны яго.

Вось стаяць на беразе бярозкі-сяброўкі. Падбеглі яны да ракі з таго бярозавага гаю, што відаць сярод поля, каб паглядзецца ў люстэрка, ды так і засталіся на месцы, бо не ў сілах адарвацца ад хараства ракі. Стаяць на крок адна ад адной, шчыльна абняўшыся галінкамі, *аб чымсьці перашэптваюцца з ветрам.*

Прыходзяць сюды ў халадок дзяўчаты, доўга ўзіраюцца яны ў люстэрка бацькі Нёмана, і ён шчодра адзяляе іх тым, што сам бярэ ад неба, — поіць іх вочы нябеснаю сінявой. Адгэтуль і пайшло прыслоўе: сінявокі прынёманскі край.

Стаю на беразе. Месца гэтае падрабязна, да дэталяў, апісана Элізай Ажэшка. Цудоўны краявід перад вачыма. Па той бок Нёмана да самага гарызонту цягнуцца невялікія ўзгоркі, на іх цямнеюць хвойныя і ліставыя лясы. Пад нагамі, нібы вырастаючы з глыбокіх цёмных вод, падымаецца высокі бераг Нёмана. Ён вялізнай дугой апаясвае шырокую і гладкую раўніну, на якой дзенідзе відаць адзінокія дрэвы. Залітая ранішнім сонцам пясчаная сцяна з праслойкай чырвонага мергелю здаецца залатым абручом, перавязаным ружовай стужкай. Паўз бераг па адной лініі цягнецца доўгі рад вясковых дамоў. Гэта і ёсць Багатыровічы.

Пісьменніцы не трэба было фантазіраваць і выдумляць прыгажосці, апісваючы гэтыя мясціны. Усё бачыш такім, якім яго бачылі людзі ў мінулым стагоддзі, і ў той жа час крыху не такім. Па той бок глыбокага рова — абкружаны старымі соснамі помнік Яну і Цыцыліі, але па дне рова ўжо не журчыць ручай — высах, і няма таго спрадвечнага гушчару.

Ты пойдёшь горою,
А я — долиной.
Расцветёшь ты розой,
А я — калиной...

Гэтую песню прыводзіць Э. Ажэшка ў сваім рамане «Над Нёманам», у якім апісаны вёска Багатыровічы і яе жыхары.

## Юрка Голуб

## НАД НЁМАНАМ

Нечакана ўспомнены
У гаючых снах
Ля надброўя Нёмана
Зорка і сасна.

Сто разоў закручана
Хваля ў хвалю зноў.
Робяцца заручыны
Раз — не сто разоў.

На раллю шурпатую
Бусел кіне цень,
За стырном і партамі
І наступны дзень.

У каўшы Мядзведзіцы
Стыне маладзік.
Тэрмін жыць адведзены,
Ды, на жаль, адзін.

Сцежкі непратораны.
Воблакі. Парнас.
Будзе ўсё паўторана,
Толькі не пры нас.

Ды заўжды нязломныя,
Вея ці вясна,
Ля надброўя Нёмана
Зорка і сасна.

## НЁМАНСКАЯ МАТОРКА

На кіламетры якім, чыім,
Услухайся, як узнікае
Маторка ўдалечыні
За дрэвамі Друскінінкая.

Далёкі ў яе ваяж.
Забудзь пра свой нешанцунак,
Спагады аддай багаж
Вандроўніцы ў падарунак.

Нясмелая хваля, ты
Кланяйся гальцы ніцма.
Гаворыць з сабой між тым
Маторчыха-працаўніца.

У змоўніцкіх берагоў
Зблізіцца ёсць пражэкты,
Задуме шкодзіць благой
Адважны, як меч, пражэктар.

Маторка заціхла дзесь,
Аглухае наваколле
Не ведаю, дзе падзець
Цемру, што ў вока коле.

Прытулак для лодкі ёсць,
Дзе у лагодзе хвалі
Забылі у пене злосць
І ў вірах пахавалі.

Пасецца агню язык
У стойбішчы камарыным.
Прасіцца камар адвык
У вогненную адрыну.

Спачынак нядоўгім стаў.
Манаткі наноў сабраны.
І, выгнуўшы рыбай стан,
Маторцы — у шлях старанны.

На кіламетры якім, чыім,
Услухайся, як спяшае
Маторка з далечыні
З-за дрэваў Друскінінкая.

І з невядомых пор
Даведацца ёсць жаданне:
Ад Балтыкі ці ад зор
Маторчына буркаванне?

## ПАРОМ
## ЛЯ ВЁСКІ ГОЖА

Распаранай парой
Дзяўчына вельмі гожа
Ступіла на паром
За дзіўнай вёскай Гожай.

Наяве, а ці ў сне
Рыпеў паром не ў зморы.
А быў яе усмех
Для нас ці для прасторы?

У небе і вадзе
Аблок стаялі хвалі.
А ў дзеда ў барадзе
Дзве парушынкі спалі.

## АЛЯКСАНДР ТВАРДОЎСКІ
## Ў ГРОДНЕ

Тут немцаў выпіхнулі з горада, — але яны — вось яны за ракой, і нават утрымліваюць ускраіну. Б'юць артылерыя і мінамёты, пастрэльваюць аўтаматчыкі з гарышчаў і акон.

*А. Твардоўскі*
*«Паездка ў Гродна», 1944 г.*

Хлопцы падаюць ніцма
На крывавых дакосках.
...Гэта ўжо не прысніцца,
Падпалкоўнік Твардоўскі.

...Пад падэшвай салдата
Друз ахвярнае цэглы.
Русым чубам багаты
Ўваскрашэнец палеглых.

Сонца. Ліпень. Асколкі.
Барвавее папера.

Часу мелася колькі
Гора вершам памераць?

Вас, як сына, пазналі
Беларускія вёскі.
З імі слёзы спазналі,
Падпалкоўнік Твардоўскі.

Паглядаюць салюты
На паранены Нёман.
Май святла і пакуты
Быў пакуль невядомы.

Ляжа верш на абрусак,
Зачытаны да коскі.
Трэці фронт Беларускі.
Падпалкоўнік Твардоўскі.

## ГРОДЗЕНСКІ РАДДОМ

На бульвары каштаны заснулі,
зашклёныя холадам ночы.
Месяц завіс выпадкова
на рагах Казярога.
І Нёман прылёг
на рыбацкі лахман,
не паспеўшы з начлегам
да Балтыкі.
Доўга яшчэ да світання.
І свецяцца хіба што
толькі вокны
гродзенскага раддома.

### Аляксей Сінілаў

## НЁМАН ЛЯ ГРОДНА

Высокія лясістыя берагі наступаюць на раку, сціскаюць, звужваюць яе, і здаецца, уперадзе яны сышліся: вось падплывём да той зялёнай сцяны, што звісае прама

над носам цеплахода, і — паварочвай назад, шляху далей няма. Але ў самы апошні момант аказваецца, што ёсць яшчэ круты паварот направа ці налева, за якім рака зноў упіраецца ў кручу.

Нёман доўга не задумваўся над тым, дзе пракласці сабе дарогу, не шукаў лёгкай сцежкі, а пайшоў напрамкі. Узяўшы пачатак у гнілых дрыгвяных балотах, ён набраў сабе сілы багатырскай з незлічонага мноства рэк, рэчак, ручаёў, сцюдзёных крыніц і не захацеў пайсці ў абход, а ўдарыў проста па каменнай пліце Гродзенскага ўзвышша і разрэзаў яго напалам.

Гэта бясконцая вялікая бітва. Усюды бачым сляды адступлення, разгрому, сляды ярасных контратак, упартай барацьбы за кожны сантыметр.

Еду — і новымі вачыма гляджу на знаёмыя месцы, пазнаю і не пазнаю іх.

Нёман паўнаводны. Каля Гродна — вышэй і ніжэй ад яго — ён заціснуты з абодвух бакоў высокімі берагамі, яму цесна, і кожную зіму марозу ўдаецца закаваць яго ільдом. Рака бурліць і пеніцца, з разгону налятае на берагі, і там, дзе гэтыя берагі не ўмацаваны, яны апаўзаюць, падмытыя імклівай нёманскай хваляй, абрушваюцца разам з векавымі соснамі, што растуць на іх.

Нёман увесь у руху, у бясконцай цяжкай працы.

Мясцінамі яго цела напружваецца, пакрываецца вузламі стальных мускулаў, чарнее бяздоннымі вірамі і стромамі. Вада злосна круціць, свідруе дно. Трапіць сюды якая ламачына — і невядомая сіла адразу пацягне яе ўніз. А непадалёку нейкая другая сіла падымае з дна перамыты залацісты пясок.

Не дбае Нёман ні пра адпачынак, ні пра навядзенне хараства, а, як заўзяты працаўнік, адкладвае гэта на потым, на той час, калі будзе зроблена самая цяжкая работа, і ўсё з новай сілай кідаецца ўперад, сваімі шырокімі дужымі грудзьмі прабіваючы дарогу між высокіх круч і абрываў.

Калі ж Нёман вырвецца ў нізоўях з вузкіх каменных варот узвышша, ён дасць адпачыць натруджаным мускулам і велічна разліецца ў сваіх шырокіх берагах. Тады можна бачыць, як, напрыклад, у Друскінінкай су-

месна з тысячамі курортнікаў на выдатнейшым пляжы ён песціцца, зіхаціць мірыядамі сонечных праменняў і ўсім сваім бесклапотным святочным выглядам дае зразумець, што ён, як і тыя курортнікі, таксама адпачывае.

А тут яму не да прывольнага жыцця, тут кругом — скалы.

Уперліся яны, увайшлі па грудзі ў пясок — і ні з месца. А кругом расставілі сваіх разведчыкаў, сваю баявую ахову — меншыя ростам скалы: паваюй, маўляў, з нашымі малодшымі братамі. І Нёман ваюе.

То іх абдыме ў шуканні абходу,
То завіруе, грудзьмі на іх падзе;
Скалы ж стаяць нерухома, упарта,
Націск прымаючы хваляў і гоман:
Ні тыя скалы пазбавяцца гарту,
Ані саступіць ім рэчышча Нёман.

Гэтыя радкі належаць вялікаму польскаму паэту Адаму Міцкевічу.

Яшчэ тут — «маленькая Брэсцкая крэпасць». Гэтым гордым імем народ назваў пагранічную заставу на Чорнай Ганьчы за неўміручы подзвіг слаўных абаронцаў. У першы ж дзень Вялікай Айчыннай вайны на заставе, якой камандаваў лейтэнант Віктар Усаў, адбыліся падзеі, аб якіх расказваюць эпічныя радкі Максіма Танка:

...Пачынаўся дзень першы, дзень славы,
Славы адважных герояў заставы.
Вораг абрушыў агонь кулямётаў,
Залпы гармат сваіх і мінамётаў.
Можа, раз дваццаць ў атаку ірваўся,
Знішчыць, прарваць абарону стараўся.
Ды, пакідаючы след свой крывавы,
Кожны раз ён адступаў ад заставы,
К чорту адкінут агнём і штыкамі,
Усава пагранзаставы байцамі.

Гэты родны рубеж, круты бераг па-над Ганьчай байцы абаранялі да апошняга. Заставу вораг захапіў толькі пасля таго, як пераступіў цераз сотні трупаў сваіх салдат, як перастала біцца сэрца апошняга пагранічніка.

## Апанас Цыхун

*(г. Гродна)*

### МАГІЛА ПАЎСТАНЦАЎ

Усё знямела з гадамі дазвання
на слязьмі спаласканай гары.
Толькі чутна, бы ў час расставання,
глуха плачуць начамі вятры.

Тут паўстанцаў калісь пахавалі.
Чэзлы хмызняк. Каменне. Крыжы.
А з крыжоў тых імёны злізалі
праз стагоддзі вятры і дажджы.

І капліца, як склют... На званіцы
ў хілай вежы заснулі званы.
Гаспадараць тут сёння начніцы.
Узлятаюць з-пад хмар каршуны.

Ціха спяць тут браты Кастусёвы —
хлопцы з вёсак наднёманскіх, ніў...
Ўспамінаюць іх пушчы, дубровы.
Дуб, сівы старажыл, іх прысніў.

### ДУБ ЯНА ЧАЧОТА*

Застыла пушча ў жнівеньскай красе.
Рупліва ткуць свой шлях у вырай гусі.
Парэцкі дуб купаецца ў расе,
бы волат непакорнай Беларусі.

Яго мая кранулася рука,
а ён, як быццам кованы са сталі.
Прайшлі стагоддзі ў звоне жаўрука,
чуб перуны яму не раз часалі.

---

* Дуб у вёсцы Парэчча Гродзенскага раёна лічыцца старэйшым дрэвам былой Гродзенскай пушчы. Абвод пня — 7,20 м.

А дуб здаровы, быццам малады,
хоць год яму семсот, а можа, болей,
кранае шапкай зорак залатых.
Стагі калгасныя вартуе ў полі.

І Ян Чачот лічыў яго сваім,
пад ім складаў нам песні пра айчыну.
А волат-дуб схіляўся перад ім
і песняру наказ даваў, як сыну.

## Сяргей Тарасаў

# ГАРОДНЯ

У сутоках бруістай Гараднічанкі і вольнага Нёмана паўсталі муры старадаўняга горада. Цяжка цяпер сказаць, хто першы з прыезджых гандляроў панёс па свеце яго гордае імя. І кожны — на свой лад: Гарадзень, Горадня, Гродна, Гародня. Відаць, назва паходзіла ад слоў «гарадзіць», «агароджваць».

Няпроста складваўся лёс горада. Перш за ўсё таму, што паўстаў ён на сумежжы розных зямель-княстваў: *Літвы, Польшчы, Полацкай дзяржавы* і Галіцка-Валынскай Русі. Але ў гэтым быў і яго шчаслівы лёс. Гародня стала буйнейшым гандлёвым цэнтрам. Каго тут толькі не было! Найчасцей прыязджалі на кірмашы прадпрымальныя еўрапейцы. Яны прывозілі свае тавары, набывалі тавары ў Гародні, дзе жылі ўмелыя ліцейшчыкі, ганчары, кавалі, шаўцы, цеслі, збраяры, ювеліры, майстры дзіцячых цацак.

Пра горад над Нёманам хадзілі цэлыя паданні. Многім карцела пераканацца ў яго багацці сілай сталёвага мяча. Але горад мужна абараняўся. Адстойваючы яго незалежнасць, загінуў гарадзенскі князь Ізяслаў — унук знакамітага Усяслава Чарадзея. Гэта аб ім, Ізяславе, плача «Слова пра паход Ігаравы»:

Адзін толькі Ізяслаў, сын Васількаў,
на траве крывавай

быў прыбіты літоўскімі мечамі.
Зажурыліся галасы,
весялосць панікла, трубы
трубяць гарадзенскія.

Славу, як і незалежнасць, набыла Гародня ў часы князя Давыда. Нашым продкам пагражалі закаваныя ў жалезныя латы крыжакі. У абарону свайго народа і выступіў Давыд Гарадзенскі. Ён шмат зрабіў для згуртавання сіл супраць крыжацкай навалы. Створаны ім саюз узначаліў князь Вітаўт, які за сталіцу новай дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага — абраў Гародню. А каб усе ведалі, што гэта дзяржава моцная і незалежная, узяў герб: скача на кані ўзброены вершнік. Гэта — «Пагоня». Пагоня заўсёды імчала на захад, супраць крыжакоў, якія і былі разбіты пад Грунвальдам у 1410 годзе.

Праз вякі пранесла Гародня сваю непаўторную прыгажосць. Сярод нямногіх уцалелых на Беларусі помнікаў вылучаецца Барысаглебская Каложская царква. Адна яе сцяна абвалілася, але тое, што захавалася, здзіўляе шматколернасцю фарбаў, веліччу і ў той жа час — утульнай хатняй цеплынёю. На месцы старога гарадзішча ўзвышаецца замак, пабудаваны яшчэ каралём Рэчы Паспалітай Стэфанам Баторыем. Тут была каралеўская рэзідэнцыя, дзе праводзіліся з’езды-соймы вялікай дзяржавы, у склад якой уваходзілі беларускія, украінскія, польскія і літоўскія землі.

## Данута Бічэль

## НЁМАНУ

Трывожныя думкі дарог
заўсёды вядуць да Цябе.
А сёння з духмяных бароў
Ты сам насустрач прыбег.

Стаю з берагамі ў рост,
не ў сілах адвесці вачэй,
а Ты ўдалячынь наўпрост
праз сэрца маё цячэш.

І рук загарэлых узмах,
на хвалях-віхурах удар!
Я стану Табой сама —
пайду, паплыву я ўдаль!

## КРАЮ МОЙ НЁМАН

Край мой — світанне,
Нёманам выплыў з цямрэчы,
Ты на калені не станеш,
мудры і вечны.

Хай сабе плача рагоз,
хай сабе плачуць вярбіны.
Край чыстых слёз
з Нёмана да дамавіны.

Добрыя сэрцы
ледзьве трываюць ад здрады.
Добрыя сенцы
адчыняюцца словамі праўды...
Неба сагнуў у дугу
зрок бліскавіц Тваіх вострых.
Бурай дыхнуць на бягу
Нёмана конскія ноздры.

Стромай над вірам
стану, любоўю замглёна.
Выбрала вырай
і адляту ў Тваё лона...

Хмельны ад гулу паводкаў,
Ты не змялееш ніколі,
Край маіх продкаў,
шлях мой споўненай долі.

## ПРЫТОКІ

Бацька Нёман
з прытокамі Моўчадзь,
Гаўя, Вілія, Ведзьма, Дзітва...
Дайце чыстай вадзіцы,
каб змоўчваць,
як чаўпуць абы-што, як дзятва.

Як Бярэзіна, Іслач твая,
між сябровак пала́шчуся я,
жвір згарнуўшы ў капец ля шчакі,
бы малыя плыўцы-хлапчукі.

Так я марыла ўдалеч цячы,
Але з родных бароў не ўцячы.

І такія былі ў мяне мары
на прыгорках ля Свіслачы, Шчары,
Верацейкі, Краўлянкі ды Кляўкі
пасадзіць люд шчаслівы на лаўкі.

Абнімаючы Сіту ці Грыўду,
прасці шэрых дымоў верацёнцы
на клубок звечарэлага сонца,
покуль з поля кароўкі не прыйдуць.

Толькі Нёману шчыра здаюся —
Котра, Чорная Ганьча, Дануся.

## ПЕРАД НЁМАНАМ

Дужым, высокім, відушчым
дробныя справы закрэсь,
выйдзі ты з вольнае пушчы —
вольны, як Нёман увесь.

Нёман нікому не па калена —
сам неаднойчы памераў ужо.

Прадзед над Нёманам трушчыў каменне,
ды не з каменнай душой.

У крыгалом і ў сярэдзіне мая
Ў шчырыя ночы і дні
Нёман прыткі-дзяўчат абнімае,
каб прыгажэлі яны.

Ціха ў сумётах духмянага сена
з людствам сам-насам пабудзь.
Нашы бабулі тут безыменна
нам калыханкі пяюць.

Тут, на абрывістым беразе, з краю,
тут, дзе бузуюць ліні,
бачыш — стамлёная зорка згарае,
прагне душы, цеплыні.

## У ГАРОДНІ ВЯСНОЮ З ВАЛОДЗЕМ КАРАТКЕВІЧАМ

Прыляцеў самалётам Валодзя
у Гародню, нібы ў санаторый.
І мы сустракаліся з ім,
дзе прачынаўся Баторый.

Не варухнуліся сфінксы
на варотах Аўгуста Трэцяга.
Сустракаліся мы, размаўлялі
на руінах муроў, на хрыбеціне.

А з далёкіх стагоддзяў
зарыкаў незабіты тур.
Ланцуг крыжакоў прыходзіў —
іх у Нёман адкінуў мур.

У Касцёле нашым Апосталы
нас прымалі ў Святы свой Рад.
Да Святога з Вечнаю Кнігай
быў падобны Валодзя, мой Брат.

## Уладзімір Караткевіч

# ХРЫСТОС ПРЫЗЯМЛІЎСЯ Ў ГАРОДНІ

*(Урыўкі з рамана)*

* * *

Стары, Вітаўтаў яшчэ, гродзенскі замак быў страшны. Пабудаваны менш чым паўтара века назад, ён, нягледзячы на гэта, занепаў і не толькі стаў рабіцца лядашчым, але сям-там пачаў і руйнавацца. Сваіх майстроў у вялікага князя не было, а беларускія ці былі пабітыя пры ўзяцці горада, ці разбегліся. А хто застаўся, той будаваў, прама скажам, дрэнна: ведаў, што на ягоны век хопіць, а там хай бы і трава не расла. Дзеля каго было будаваць? Ён, князь, вядома, герой, дык лёгка ж быць героем на трупах пакораных. Спачатку гінулі ў войнах з ім, потым гінулі ў войнах за яго. Ды яшчэ каб бярог старыя звычаі ды веру, а то з лаціннікамі спеўся. То гары яно ясным гарам!

Такая ў той час абыякавасць напала на людзей! Дый майстэрства падупала, як заўсёды пры вечнай вайне. І вось з паўтарасажнёвых муроў выпадалі і каціліся ў Нёман камяніскі, трушчыліся пад цяжарам валунных слаёў слаі цэглы (муры былі, як слоены пірог: слой каменных брылаў — слой цэглы), вежы (чатыры квадратныя і адна круглая, па імю Зафея) былі запушчаныя, выраслі на іх малыя бярозкі, лебяда і іншая дрэнь. Сачылі, відаць, больш за замкавым палацам, чым за мурамі.

І ўсё ж цытадэль была страшная. Стральчатыя гатычныя вокны палаца, грыфельныя муры, вострыя дахі са свінцовай чарапіцы, зялёная і смярдзючая вада бяздонных равоў, вузкія, як шчыліны, байніцы верхняга і ніжняга бою. Ля Саляной вежы — камяністы, касталомны зрыў да ракі. А ля яе — узгорак, вышэйшая кропка Замчышча, гародненская Галгофа. Там зараз кружляла груганнё: зноў, відаць, кагосьці выкінулі на пажыву.

Людзі на Старым рынку, прыціснутым ледзь не да самых равоў, не звярталі на птушак ніякай увагі, дарма што крумкачы лямантавалі не толькі над Зітхальным Гарбом, а і над вежамі. Звыклі. Чаго ні даводзілася бачыць за апошні час. Трэба было жыць. Хаця трохі падаражэй прадаць сваё, ледзь не апошняе, хаця трохі падзешавей купіць збожжа... Мала народу варушылася ў той дзень на чатырохкутнай плошчы.

* * *

Увесь час думалася, а што будзе зімою, калі Нёман укрыецца лёдам, калі звяры адкачуюць у нечапаныя пушчы, а сляды будуць заставацца на снезе, а значыць, у кожны момант цябе могуць спаймаць панскія паюкі. Што будзе тады?

Зянон гнаў ад сябе гэтыя думкі. Усё адно нічога не зробіш. Ён прайшоў зарэчную частку з дамамі багатай замкавай шляхты і замкавых рамеснікаў, прайшоў драўляны мост і стаў падымацца па ўзвозе. Увесь час яго абганялі вазы з ільняным насеннем, соладам хмелем, бочкамі піва, вапнай, футрамі ў звязках, жалезнымі паробкамі і, галоўнае, хлебам. І мужык не мог не думаць, чаму гэта так, што вось у яго няма і бязмена хлеба, як амаль ва ўсіх, а вазы цягнуцца, цягнуцца, і ўсіх іх хутка паглыне нясытая зяпа Старога рынку, а потым — замежныя землі. Нешта тут усё было не тое.

Вялікі горад, тысячы людзей, моцныя муры, крамы, замак, з дзесятак цэркваў, ды яшчэ манастыры, ды капліцы, ды унь званіца курыі — глянеш — шапка валіцца, ды унь будуюць вялізны касцёл бернардынаў з кляштарам. А унь узвышаецца Святая Ганна. А там, далёка ўлева, зіхаціць, як вясёлка, Каложа, у імя Барыса і Глеба.

На ўсё хапае. А ў мужыкоў няма хлеба. Ды і ў мяшчан не лепей. Колькі іх?! Унь вуліца Кавальская, Мечная, Піўная, Калёсная, вуліца Стрыхалёў, вуліца Адвеса, Утэрфінавая, вуліца Абадранага Бабра, Страменная, Багамазная, Разьбярны кут, ды яшчэ і яшчэ, дваццаць сем вялізных вуліц, не лічачы завулкаў, тупікоў ды асобных выселкаў, слабодак і хат.

І ўсе гэтыя магершчыкі, кацельшчыкі, маляры, саладоўнікі, сталяры сядзяць і не маюць да чаго прыкласці рукі, і тымі ж вачыма, што і ён, Зянон, праводзяць кожны хлебны воз.

Ад нязвыклага гарадскога шуму ў мужыка дурэла галава. Спакойнымі, глыбока пасаджанымі шэрымі вачыма ён глядзеў, як круцяцца колы берагавых млыноў (Нёманава плынь адводзілася на іх плятнямі), як паўзуць па блоках у верхнія паверхі складаў цюкі з таварам, чуў, як гарлаюць гандляры, як вухаеваскабойка, як звіняць малаточкамі па сталі чаканшчыкі ў мечных майстэрнях.

Пахла шкурамі, гноем, невядомымі, нетутэйшымі пахамі, гарэлкай, мёдам, сенам, салёнай рыбай, дзёгцем, хмелем, рыбаю свежай, канаплямі, іншым, незнаёмым Зянону.

## Вольга Іпатава

### КАЛОЖА

Ад сонца засланіўшыся далоняй,
Хмурынай-хусткай атуліўшы плечы,
Стаіць здаўна над Нёманам Каложа,
Нібы мяжу пераступіла ў вечнасць.

Нібы калісьці дзеўчынай за горад
Насустрач бегла верасам калючым,
А потым, скамянелая ад гора,
Ўрасла навекі ў нёманскія кручы.

Над ёю — цёплых ліўняў агарожа,
За ёй — вякі, падзеі, далячыні.
Стаіць здаўна над Нёманам Каложа
Сівою беларускаю жанчынай.

***

Над Нёманам ранак разліў малако,
І пахне туман сырадоем наўкол,
І гулка б'ецца ў берагі
Зялёнае, гнуткае цела ракі.

А вунь, нацягнуўшы ланцуг кароткі,
Ірвецца ад берага нейкая лодка.
Здаецца, вось-вось свой ашэйнік адкіне —
І мы паплывём з ёй у ранак сіні...

***

Нёман пад ільдом крыштальна-сінім
Моц надзейна схована твая.
А вясной, паспрабаваўшы сілы,
Мусіць, разальешся утрая.

Мне ж — не раскаваць ніколі сэрца,
Мне ж — трымаць сябе усё жыццё.
А пад лёдам раўнадушна б'ецца
Ўпартае, жывое пачуццё...

## Алесь Чобат

## НА БЕРАЗЕ

Над чалавекам — Неба, Лёс і Рок.
Прырода адбірае слых і зрок,
і памяць, і свабоду, і надзею

так — як давала. Плакаць і любіць,
і захлынацца, і слязой маліць
не мае сэнсу. І таму нямею

на Нёмане, дзе вечная сасна
чапляецца за груду, дзе адна
адкрыецца бязлітасна і шчыра

зямля, што Богам дадзеная тут.
Тут, а не там. І некалькі мінут
яшчэ стаю над мокрым краем жвіра...

## МЯСТЭЧКА ЛУННА

Дарога цягнецца. Спякота дражніць громам.
Перапаўзае абмялелы Нёман
аўтобусам падняты ў неба пыл.

Царква. Тры крамы. Белая авечка.
Ці дажывае, ці то спіць мястэчка,
бялізну звесіўшы, як мах апошні крыл...

На аўтастанцыі мужчыны цягнуць піва
з літровых слоікаў, і цягнецца цярпліва
размова вечная, як гэтая зямля...

### Марыя Шаўчонак

## СЛЯДЫ ВЯКОЎ

Краінай замкаў называлі
твае, Прынёманне, вытокі.
хоць час той сплыў, як Нёмна хвалі, —
сляды яго на кожным кроку.

Сляды вякоў, сляды сівыя
у дзень далёкі пераносяць.
Адны маўчаць, нібы нямыя,
другія самі слова просяць.

Хоць ціха дрэмлюць над ракою...
Далёкі след замураваны.
Ды ледзь крані — няма спакою —
пад ім вякоў жывыя раны.

О, Гродна, Гродна, колькі болю
табе пакінулі стагоддзі,
каб не скарыўся ты ніколі,
а быў як песня у народзе.

## Зоська Верас

# СТАРОЕ ГРОДНА

Думаю — Гродна!
Бачу дзедаў парог
і чую тупат
сваіх дзіцячых ног.

Думаю — Гродна...
Адчуваю павеў маладосці.
Ці не паехаць мне
ў гэтае старое Гродна ў госці?

А ездзіць у госці пачала вельмі рана...

Першы раз павезла мяне маці ў Гродна, каб паказаць татавым бацькам, калі мне было шэсць месяцаў. Тады мяне першы раз сфатаграфавалі. Пасля ўжо з году ў год летам, прыязджаючы з далёкай Украіны, дзе мы з бацькам жылі — тата быў вайскоўцам, — я гасцявала ў дзядоў Сівіцкіх Міхала і Міхаліны.

Першыя чатыры гады слядоў у памяці не пакінулі. Але з пяці гадоў падарожжа з Альхоўнікаў, маленькага фальварка маміных бацькоў Садоўскіх, дзе мы праводзілі два, а то і тры летнія месяцы, помніцца жыва і ясна.

Ездзілі коньмі. З Альхоўнікаў вузкая конная дарога вяла да шашы, якая злучала форт Асавец з Гродна. Гладкая шаша праходзіла паміж палямі, а вялікі яе адрэзак ляжаў паміж старым густым яловым лесам. У адным месцы сярод лесу была палянка, якая выходзіла аж на шашу. Расказвалі, быццам калісь на гэтай палянцы стаяла вялікая карчма, а ў гэтай карчме начамі збіраліся разбойнікі і нападалі на падарожнікаў. Памя-

таю, калі мне было гадоў шэсць, на гэтым месцы я са страхам ціхенька, шэптам спыталася:

— А цяпер карчмы німа? А мо яе пераняслі глыбей у лес? А разбойнікаў німа?

Канчаўся лес — міналі страхі. Далей ізноў палі, сенажаці. Нарэшце здалёк відаць дамкі Фарштата — як з нямецкай называлі прадмесце Гродна. Шаша злівалася з вуліцай, якая рабілася штораз больш стромкай, бо спускалася да Нёмана. Але перад самым спускам на правым баку вуліцы быў заезд. Заезд, якіх поўна было на Беларусі. Праўда, не было тут карчмы, як усюды, а невялічкі чысты драўляны дамок, у якім першы ад увахода пакойчык — светлы, з фіранкамі на вокнах і нядрэннай мэбляй, — быў месцам адпачынку для падарожных. Нават можна было заказаць шклянку гарбаты і ваду, каб змыць дарожны пыл.

Але «заездам» называлі гэты дом таму, што да яго была прыбудавана вялікая будыніна: чатыры высокія сцяны, страха, таксама высокая, з гонтаў; столі не было, а замест дзвярэй — шырокія вароты, так што параконны воз ці брычка лёгка туды ўязджалі ці на некалькігадзінны адпачынак, ці на ноч. Найчасцей, адпачыўшы, пакарміўшы і папаіўшы коней, ехалі ў горад.

І тут было самае страшнае.

Стромкая вуліца спускалася да Нёмана на мост. Але мост быў пантонны. За кожным крокам каня, за кожным паваротам калёсаў пантоны калыхаліся, вада хвалявалася. Коні стрыглі вушамі, коса паглядалі на ваду. Таму праз мост фурманкі маглі ехаць толькі па адной, не больш. Часам па некалькі фурманак стаяла пры ўездзе — чакалі сваёй чаргі. Каб утрымаць належны парадак, пры ўездзе на мост жыў стражнік. Для яго быў збудаваны дамок — нешта падобнае да марской ліхтарні. На высокіх чатырох слупах невялікі дамок — адзін пакой.

Уваходзілася па сходах. У адной пярэдняй сцяне — дзверы, тры вялікія, амаль на ўсю сцяну, акны. Гэта, каб відаць было не толькі мост, але і Нёман з абодвух бакоў моста.

Стражнік пільнаваў парадку і «разводзіў» мост, калі з аднаго або другога боку з'яўляліся плытнікі. У гэтым

дамку я была ў дзесяцігадовым узросце. Маці тагачаснага стражніка Вішнеўскага шмат гадоў была хатняй памочніцай маёй бабулі Міхаліны Сівіцкай. Якраз улетку, калі я гасцявала ў Гродне, гэты стражнік памёр. Бабка мая пайшла наведаць нябожчыка і ўзяла мяне з сабой.

Едзем далей...

Мост шчасліва пераехалі, паварочваем налева, на вуліцу Падольную, якая праходзіла па беразе Нёмана. Яна вывела нас на вуліцу Мастовую. Можа, яна ў той час называлася інакш, а Мастовай назвалі, як пабудавалі сталы мост? Гэтага не помню. Ехалася гэтай шырокай вуліцай пад гару, побач Бернардынскага касцёла і далей аж да Фары. Гэта для мяне быў самы цэнтр горада, дзе цяперашняя вуліца Карла Маркса, а тады Купечаская. Яна не раз мяняла свой назоў, бо да Купечаскай называлася Брыгіцкай. Гэты апошні назоў зноў ужывалі з 1908 года. За Фарным касцёлам жылі мае дзяды Сівіцкія. Вялікія вароты амаль заўсёды зачынены, каля іх вузкая брамка.

Уваходзілася на брукаваны панадворак, уздоўж якога раслі дрэвы, а ў іх цяньку стаялі лаўкі. Каля самай брамы мураваны двухпавярховы дом. З правага боку — доўгі, праз цэлы панадворак, дом: ніз мураваны, верх драўляны. Наверх вялі вонкавыя сходкі. У мураванай частцы дома жылі мае дзяды.

Кватэра вялікая, светлая, мела адзін недахоп — была напалавіну сутарэннай. Дзяды перабраліся ў гэтую кватэру пасля апошняга вялікага пажару Гродна.

Насупраць, за дрэвамі, стаялі гаспадарчыя будынкі — складзікі, скляпы, якія служылі ўсім жыхарам.

Чацвёрты бок панадворка займаў высокі мур, за якім віднеўся апошні паверх астрога. Было непрыемна бачыць вокны з кратамі, за імі — часам змучаныя людскія твары...

Дамы, пра якія толькі што расказала, усе разам мелі назву «Дом саборнага духавенства». Захавалася паштоўка, адрасаваная дзеду ў 1905 годзе з такім адрасам.

Малой усё было цікава. Выйдзеш за браму — на супрцьлеглым баку вуліцы дом Аўгусевіча: унізе цукерня, на другім паверсе невялічкі гатэль. На рагу —

будынак з чырвонай цэглы — дом Стэфана Баторыя. Паміж сцяной Фарнага касцёла і невысокім мурам — вузкі будынак кнігарні Левандоўскага. Вокнаў у кнігарні не было, гарэлі лямпы. Апрача кніжак прадаваліся пісьмовыя прылады. Часта я там бывала са сваёй бабуляй. Пакуль не ўмела чытаць, куплялі мы там паперу і каляровыя алавікі, фарбы.

Але самае цікавае чакала перад уваходам у Фарны касцёл. Там, дзе цяпер сквер, быў пляц і, здаецца, некалькі дрэваў. Уздоўж пляца — вялікі драўляны будынак ратушы. На другім паверсе магістрат ці гарадская ўправа, унізе — цэлы рад маленькіх крамак. Калі ў такую краму ўвойдуць адразу тры асобы, павярнуцца цяжка.

У першай краме была галантарэя. Гаспадарыла там Гарбатая Бася. Чаго там не было! Дзіцячыя вочы разбягаліся, бо тут і caснікі розных колераў, карункі, гузікі, іголкі, шпількі, шнуркі да боцікаў.

Наступная крама — жалезныя тавары: сярпы, косы, сякеры, малаткі, а найцікавей — на доўгім услоне скрыні з цвікамі. Ад велізарных да такіх малюсенькіх, што цяжка было пальцамі захапіць.

Далей — крамка з мукой і крупамі. У апошняй краме стаяла аграмадная бочка з кранам. Праз кран налівалі газу. Тут былі жалезныя дзверы, а ў сярэдзіне і сцены, і падлога, і столь, абабітыя бляхай.

Каля ратушы ў рынкавыя дні збіраліся сяляне.

За пляцам з ратушай узвышаўся Дамініканскі касцёл. Пасля паўстання 1863 года царскі ўрад касцёл ператварыў у гарнізонны сабор. Пасля першай сусветнай вайны ён зноў стаў касцёлам. Направа ад яго ішла Дамініканская вуліца, назва якой змянялася разам з назвай касцёла — то Дамініканская, то Саборная. Гэта была галоўная вуліца ў горадзе. У суботу вечарам і ў нядзелю на ёй было месца спатканняў і шпацыраў гродзенскай моладзі. Ходнік, асабліва правага боку, быў так шчыльна запоўнены, немагчыма ні абмінуць, ні размінуцца. Так да позняга вечара адны другім наступалі на пяткі...

На пачатку гэтай вуліцы, калі лічыць ад Дамініканскага касцёла, адзіны ў Гродне універсальны магазін

рускага купца Мухіна. Прадаваліся тульскія самавары, дарагія футры, ільняное палатно, і дарагія сукны, і ядвабы, і сярэбраныя лыжкі, лыжачкі, відэльцы, нават элегантны абутак. Прадаваў сам гаспадар. Кліентаў было мала, але магазін існаваў доўга.

У 1898 годзе бацька мой, афіцэр пяхоты, атрымаў трохтыднёвы адпачынак, і мы ўсёй сям'ёй прыехалі ў Гродна. Тады я пабачыла ўвесь горад. Бацька любіў родны горад і яго ваколіцы. Перад усім павёў мяне на Каложу ды на Замак. Сцежачкай каля Замка сышлі на бераг вольнага, не закаванага ў бетон, Нёмана...

Процілеглы бераг быў нізкі, пясчаны. Пад старымі, схіліўшыміся над вадой вербамі рыбакі ў цяньку трымалі свае лодкі. Заўсёды нехта быў каля лодкаў. Даволі было паклікаць, як хто-небудзь спяшаўся павазіць жадаючых па Нёмане. Вось і вазіў мяне бацька да Крэйдавых гораў або ў процілеглы бок, аж за чыгуначны мост. У наступныя гады не раз плавала я са сваім дзедам.

Так ішлі гады.

Мы ўжо жылі ў Кіеве. Я вучылася ў гандлёвай школе. У 1907 годзе раптоўна памёр бацька. Не хацелася заставацца там, і мы з мамай пастанавілі ехаць да сваіх у Гродна. 1909 год застаў мяне ў Гродне вучаніцай шостага класа прыватнай гімназіі Кацярыны Баркоўскай, якая мясцілася ў камяніцы Стэфана Баторыя. Гэтай самай восенню зарганізавалі гродзенскі гурток беларускай моладзі. Мяне выбралі бібліятэкарам. Праца ў гуртку развівалася плённа. Сходы, лекцыі, арганізацыя хору. Жылі з мамай амаль насупраць Брыгіцкага касцёла. У кватэры было піяніна, рэпетыцыі хору адбываліся ў нас. Так пражылі толькі адну зіму.

Цяжка было праіснаваць на невялікую пенсію па бацьку, таму мама атрымала дазвол у школьных уладаў арганізаваць у нас «вучнёўскую кватэру». Трэба было шукаць адпаведнае памяшканне. Знайшлі ў знаёмай бабулі Будрыкавай па Гараднічанскай вуліцы, нумар чатырнаццаць. Пяць пакояў, кухня, перадпакой, балкон. Праўда, у мансардзе. На панадворку стаялі дрэвы, расла трава. Балкон выходзіў на панадворак. Вучняў набралася восем чалавек — усе беларусы, сябры гуртка. Бібліятэку перанеслі сюды. Наш дом стаў кватэрай

гуртка. Тут адбываліся рэпетыцыі хору, спектакляў, лекцыі і вечарынкі для малодшай секцыі. Заўсёды былі ў нас сябры з гуртка.

Як толькі прыходзіла вясна, не сядзелася ў горадзе. У першую цёплую нядзелю ішлі ў поле спатыкаць вясну. Ішлі аж пад прыстанак Ласосна або і далей. Восенню хадзілі на бераг ракі насупраць Францішканскага касцёла. Ціха стаялі цеснай групкай і чакалі, пакуль туман не падымецца настолькі, каб закрыць ніжнюю частку касцёла. Тады вежы, здавалася, плылі ў небе высока, нібы адарваныя ад зямлі. Як у казцы...

Але не заўсёды былі ў такім рамантычным настроі. Прыходзілі ў галаву і вясёлыя выдумкі.

Быў у нас у гуртку Казюк Калышка з-пад Ваўкавыска. Сярэдняга росту, твар круглы. Апранулі мы яго ў беларускі жаночы касцюм, завязалі на галаву шаляноўку, дзве дзяўчыны ўзялі яго пад рукі і павялі ў самую гушчу спацыруючых па Саборнай вуліцы. Гаварылі паміж сабой, як заўсёды, па-беларуску, але на гэты раз спецыяльна гучна, каб звярнуць на сябе ўвагу. Зразумела, пачалі на нас аглядацца, ісці за намі. Так дайшлі амаль да самай мужчынскай гімназіі. Але тут спахапіліся, што можам трапіць каму на вочы з настаўнікаў гімназіі, якія час ад часу сачылі за паводзінамі гімназістаў на вуліцы. Хуценька павярнулі ў першы папаўшыся завулак і пайшлі дамоў.

Апошняй падзеяй гуртка быў выдадзены на шапірографе ў 1913 годзе зборнічак «Колас беларускай нівы». Ішоў апошні год майго жыцця ў Гродне. Восенню выехала ў Варшаву на курсы. Пажагнала Гродна назаўсёды.

У памяці захавалася яшчэ адна падзея. У 1910 годзе цяжка захварэла Эліза Ажэшка. Вуліца перад яе домам была заслана тоўстым пластом саломы, каб грукат колаў фурманак не трывожыў хворай. Горад перажываў моцна штораз горшыя весткі аб стане здароўя пісьменніцы. Паправы не было. Прыйшла смерць.

Адчынены дзверы. Чорныя заслоны ў вокнах. З-за іх відаць запаленыя свечкі. Гродзенская інтэлігенцыя стварыла камітэт, які ўтрымліваў парадак і ладзіў хаўтуры. Нехта пісаў, што ўлады забаранілі моладзі з гім-

назій прымаць удзел у хаўтурах. Можа, мелася на ўвазе моладзь з дзяржаўных гімназій. Дзяўчаты з прыватных школ былі ўсе, пачынаючы ад пятага класа. Мы ведалі творы пісьменніцы, любілі іх. Узяўшыся моцна пад рукі, мы зрабілі ланцуг, які стрымліваў натоўп, што сабраўся на ходніках, каб не сыходзіў на вуліцу, сярэдзінай якой няслі на руках труну. Маса людзей розных нацыянальнасцей не зважала, што ў ланцугу пераважна дзяўчаты, націскалі моцна. Але мы неяк вытрымалі.

На трэці дзень пасля хаўтур дом пісьменніцы быў адчынены. Можна было ўвайсці, агледзець кватэру, дзе столькі гадоў яна жыла, працавала. Мяне найбольш здзівілі прымацаваныя на сценах кампазіцыі з засушанага лісця і кветак, зробленыя рукамі Элізы Ажэшка.

Як жа я шкадавала, што мая нясмеласць не дазволіла зайсці да яе. І магчымасць была. Сваячка маёй бабулі была з Элізай Ажэшка не толькі знаёмай, а і сталай спадарожніцай у шуканні тыпаў, жыццёвых фактаў для творчасці паміж гродзенскіх бедных рамеснікаў.

## Сяргей Бандарэнка

*(г. Гродна)*

## НАД НЁМАНАМ

Мяккі бляск вячэрняе зары
Забруіўся на люстраных водах.
Я стаю на Замкавай гары.
Дыхаю прырэчнай прахалодай.
    Прад вачыма нікнуць берагі,
    Плёс шырокі патануў у змроку.
    — Добры вечар, Нёман, дарагі,
    Дружа мой, імклівы і глыбокі.
Я прыйшоў сюды пабыць з табой,
Як паэт і чалавек рабочы,
І табе над стромаю крутой
Пажадаць спакойнай, добрай ночы.

Толькі знаю: не задрэмлеш ты,
Бо не любіш спачываць ніколі.
Плынь твая між берагоў крутых
Прагне руху, прагне вечнай волі.
А сягоння льюцца на прастор
Нашы песні, шчыра і свабодна.
Чуеш, Нёман, малады задзёр
У маім у старажытным Гродна?
Я стаю на Замкавай гары,
Думкі мкнуць на вольныя абшары.
Веру я, што аб такой пары
Каліноўскі тут калісьці марыў.

## Васіль Гайда

*(г. Гродна)*

### НЁМАН

Бы грываю, пазарасталі
Травой густою берагі.
Масты з бетону і са сталі
Глядзяць у глыбіню ракі.

І пад мастом, бы пад дугою,
Імчыцца Нёман шпарка ўдаль.
І так мне хочацца парою
У лодку сесці — і гайда!

## Міхась Губернатараў

*(г. Гродна)*

### НА НЁМАНЕ

Заранкам душой малады
Пайду я да вольхаў цяністых,
Дзе ночка забыла маністы

Прад чарамі цёмнай вады.
Пад сонца ружовым рамонкам
Гарыць трапяткі ясакар.
Ды рыбы заплёскалі звонка,
А я — бесклапотны вудар.
Ва ўладзе душэўных эмоцый
Да вольхаў, зялёных ракіт
Плыве паплавок па затоцы —
Вачэй маіх зыркіх магніт.
Нырне ці заскача на золку —
Як з неба блакітнага гром —
На тоненькай лёсцы вясёлка
Трапеча жывым серабром.

## Аляксей Дземідовіч

*(г. Гродна)*

## СПАТКАННЕ

Дзяўчынка сцежкай светлай
Да ракі ідзе.
Сама наскрозь ад сонца й шчасця
Свеціцца...
І не згадаць,
Хто ёй спатканне тут назначыў:
Дуб малады,
Што на палянку выйшаў з гаю,
Ці той, што да берагу вяслуе хлопец,
Ці сам дзяцюк —
Блакітнавокі Нёман?

## Уладзімір Шурпа

*(г. Гродна)*

### ЛЁС

У Біскупцах шчыруюць жаўрукі,
Заранкі асыпаюцца ў Гародні.
Ён быў і ёсць і будзе век такі
Куток Айчыны любай — краю родны.
З дзяцінства былі ўдзячны дабрыні
Вяскоўцаў шчырасць і матулі вочы:
Імкнуліся заўжды абараніць
Ад ліхалеццяў розных лёс дзявочы.
І перагуды ласкі ўсёй тае
Прыняў лагодна сіні бацька Нёман —
І з тых часоў у крыўду не дае
Ад году ў год і нават кожны момант.
Дае натхненне ўсмешка земляка
І непаўторнасць цуда-краявідаў,
Мацуе неруш, нібы мёд з гляка,
Чаруе ззянне, што прамень раскідаў.

## Віктар Кудлачоў

*(г. Гродна)*

### НА ЗАМКАВАЙ ГАРЫ

Ранкам раннім, на зары, —
Зразумеў я многа:
Тут, на Замкавай гары, —
Ёсць прытулак Бога.

Перад пекнасцю гары —
Ранак чырванню гарыць.

Адчуваю сэрцам я:
Плынь ракі — святая.
Спеўна Нёмана бруя
З Богам размаўляе.

## ПРЫЦЯГНЕННЕ РАКІ

Зноўку Нёман мой са мной
Прыгажосцю днюецца,
Сонца крочыць за спіной
Па рачной завулінцы.

Лес кашлаты ля ракі —
Поруч з крыкам кнігаўкі.
Хвалі Нёмана — радкі.
Дык чытайце, кніжнікі!

## РАНАК НАД НЁМАНАМ

Стогнуць знясілена
Нёмана хвалі.
Хлопчыкам —
Я назіраю за гэтым.
Ранак ружовы
Рассыпаў каралі
Над
Неспазнана-спакуслівым летам.
Гоячы свежым паветрам, —
Каложа
Нас зацалоўвае
Сінім туманам.
А на душы —
І прыгожа і гожа.
І ад яе пацалункаў я — п'яны.

## Аляксей Сінілаў

# ГРОДНА — СЁННЯ

Расказаць пра Гродна — нялёгкая задача, асабліва для яго жыхара. Калі вадзіць чытача па сотнях вуліц старой і новай частак горада, па плошчах, скверах і парках, па прадпрыемствах, па шматлікіх навучальных установах, — не хопіць і тыдня.

Каб зберагчы час, узнімемся на Замкавую гару. Тут заўсёды людна і не толькі таму, што гэта традыцыйнае месца спатканняў і прагулак гараджан. Кожны, хто на дзень-другі прыедзе ў Гродна, пастараецца хоць гадзіну выкраіць ад сваіх неадкладных спраў і пабываць на Замкавай гары, што стромкай сцяною высіцца над хуткацечным Нёманам.

Тут, на гары, — сама гісторыя, далёкая сівая старажытнасць. Вось вялікі двухпавярховы будынак сярэдневяковага замка. У ім цяпер гісторыка-археалагічны музей. Шматлікія экскурсіі працоўных здалёку прыязджаюць сюды, каб агледзець цікавыя калекцыі музея. Многія экспанаты трапілі на стэнды з тоўшч самой Замкавай гары, здабытыя ў выніку раскопак.

Пад гарою Нёман — адвечны абаронца рускай зямлі. На памяць міжволі прыходзяць натхнёныя словы Ф. І. Цютчава:

Ты ль это, Неман величавый?
Твоя ль струя передо мной?
Ты, столько лет, с такою славой
России верный часовой!

Нёман тут вельмі прыгожы, ім ганарацца жыхары горада, дыханне яго адчуваецца ўсюды.

«Нёман» — лепшы на рацэ цеплаход.

«Нёман» — гэтае імя з гонарам носіць не адзін калгас.

«Нёман» — так называюць зборнікі сваіх твораў пісьменнікі Гродзеншчыны.

«Над Нёманам» — назвала свой раман вядомая польская пісьменніца Эліза Ажэшка, помнік якой стаіць у цэнтры горада.

Многа добрых песень падарыў народ любімай рацэ. «Ты разліся, Нёман» — адна з такіх песень. Яна прывольная і свабодная, задумлівая і шырокая, як сам Нёман.

Паглядзіш за раку — і позірку адкрываюцца новыя кварталы жылых дамоў, карпусы нядаўна пабудаваных прадпрыемстваў. Бачыш таксама вежавыя краны. Іх многа, яны даўно ўжо выйшлі за старыя гарадскія граніцы і, стоячы на рэйкавых пуцях, прасоўваюцца ўсё далей — на новыя будаўнічыя пляцоўкі.

Хутка нясе свае воды сінявокі Нёман. І гэтак жа нястрымна і нязменна, не супыняючыся ні на гадзіну, з глыбіні вякоў цячэ рака часу. З сабою яна знесла многа народных няшчасцяў і пакут, незлічоныя беды, поўныя да краёў ручаіны слёз людскіх і скупа, вельмі скупа дарыла яна працоўнаму люду шчасце і радасць, рэдка прыносіла сюды звонкія песні.

Першыя весткі аб Гродна дайшлі да нас з старажытнага Іпацьеўскага летапісу. Там сказана, што ў 1128 годзе сабралася гродзенская рацць і рушыла ў далёкі паход... Значыць, у той час горад меў ужо сілу, меў немалое насельніцтва.

А хто былі тыя людзі з старажытнага племя дрыгавічоў, што расчысцілі ад лесу аблюбаваныя імі цяжкадаступныя мясціны над Нёманам і першымі паставілі тут свае хаты? І калі было гэта?

Магчыма, горад заклалі ў 1015 годзе ці ў 987, калі ў Прынёманне прыходзілі з дружынамі кіеўскія князі. Яны прыйшлі сюды — старажытныя росы, — пасяліліся тут і, апрача Гродна, які на зары свайго існавання называўся Гарадзень, Гарадня, заклалі другія гарады, далі краіне сваё імя — Русь і назвалі Россю адну з рэчак — прыток Нёмана.

На долю Гродна выпаў цяжкі лёс. Уся яго шматвяковая пісаная гісторыя — гэта гісторыя бесперапыннай барацьбы супраць чужаземных нашэсцяў, за свабоду і незалежнасць.

З чым ішлі сюды іншаземцы? Ясна ўявіш гэта, калі пабачыш у Гродзенскім музеі адзін толькі экспанат — цяжкі меч, на якім лацінскімі літарамі выбіта: «Пі кроў».

Гэта памяць аб тых далёкіх часах, калі з мячом ішлі на рускія землі тэўтонскія псы-рыцары. Але руская мова з тых пор узбагацілася кароткім, выразным словам: «апешыў». Так гаварылі пра рыцара, скінутага з каня.

Орды заваёўнікаў, якія са «святога» благаславення рымскага Папы забівалі, грабілі, палілі ўсё, што траплялася на шляху, былі канчаткова разбіты ў Грунвальдскай бітве. Гістарычныя хронікі сведчаць, што ў той бітве народаў асаблівую стойкасць і гераізм праявілі рускія. Яны стаялі ў цэнтры баявога парадку, па флангах — літоўцы і палякі. Сярод рускіх былі і Смаленскія палкі, і палкі з Нёмана — Гродзенскі, Лідскі, Ваўкавыскі.

Адначасова з тэўтонскімі сюды ішлі татарскія заваёўнікі, пасля — шведскія і французскія, кайзераўскія і нямецка-фашысцкія. І ўсіх іх напаткаў адзін лёс, усе яны, як і крыважэрныя псы-рыцары, апешылі, інакш кажучы, былі пабіты.

У Беларусі многа старажытных гарадоў. Ёсць гарады больш старыя за Гродна. І тым не менш Гродна выдзяляецца сярод іх сваім асаблівым каларытам, іменна тут у вялікай меры прыкметныя сляды глыбокай старыны.

Шмат аб чым гаворыць нам Барысаглебская, інакш — Каложская, царква, што добрыя сем стагоддзяў стаіць над нёманскай быстрынёй. Стройныя архітэктурныя формы, цэгла, падобная знешне на сучасную, толькі крыху большых памераў, цэмент, які і цяпер яшчэ ўсюды мацуе сцены, замураваныя ў сцены галаснікі, зробленыя ўмелымі рукамі старажытных майстроў-умельцаў, крыжы на сценах, што пакрыты неверагоднай трываласці рознакаляровай эмаллю, — усё здзіўляе дасканаласцю архітэктурнай задумы і выканання, ва ўсім бачым вялікае майстэрства нашых далёкіх продкаў, невядомых майстроў цагляных, чарапічных, будаўнічых спраў.

Стагоддзямі даводзілася Гродна быць і сталіцай Літоўскай дзяржавы, і губернскім горадам Расіі. У час белапольскай акупацыі яно было паніжана ў рангу і аказалася павятовым гарадком.

У народзе існуе прымаўка: моцныя тыя гарады, якія стаяць на крыві. Гродна — такі горад. Многа крыві праліта за Гродна і ў Гродна. Яму здаралася на доўгі час быць адарваным ад маці-Радзімы. І кожны раз зранены, абяскроўлены, разрабаваны, але не скораны горад вяртаўся ў абдымкі Айчыны як яе мужны і верны сын.

Гродна з'яўляецца зараз абласным цэнтрам Беларусі. Ён ператварыўся ў добраўпарадкаваны горад з шырокімі вуліцамі, прыгожымі палацамі культуры, тысячамі выдатных кватэр. У горадзе працуюць вышэйшыя навучальныя ўстановы — педагагічны, аграрны, медыцынскі універсітэты, якія рыхтуюць настаўнікаў, аграномаў, заатэхнікаў, урачоў. Ёсць тут і шэраг сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў.

Гродна стаіць на крайнім захадзе Беларусі, але тут дакладна б'ецца пульс жыцця.

Азотнатукавы завод — гігант вялікай хіміі...

Завод аўтамабільных частак...

Абутковая фабрыка...

Мэблевая фабрыка...

Завод «Электрасвет»...

Тытунёвая фабрыка «Нёман»...

Тут жа размешчаны Гродзенскі абласны драматычны тэатр.

Адкрыты музеі Максіма Багдановіча і Элізы Ажэшкі, у горадзе стаяць іх помнікі.

## Віктар Хліманаў

## ШУМІ, НЁМАН!

Непадалёку ад Гродна, каля вёскі Гожа, цеплаход, які падпарадкоўваецца волі ракі, крута паварочвае на паўночны захад. Лясоў тут няма, але берагі прыгожыя і вельмі своеасаблівыя. Карэнны бераг стаіць на некалькі сот метраў ад рэчышча і абрываецца ўступамі. Нізкая пясчаная пойма ўся ўсеяна галькай і дробнымі ракавінкамі.

Нёман шуміць, ускіпае на глыбокіх месцах вірамі, спяшаецца да мора.

Потым раптам адкрываюцца за чарговым паваротам сасновыя лясы. Хутка лясы ўступаюць месца палям, праплывае ў баку вёска на высокім беразе, і ўжо зноў цягнуцца палі, сасняĸі, палі...

А вось і Прывалкі. Нёман зноў змяніў напрамак і павярнуў на ўсход. Той бок — ужо літоўская зямля, зямля народа, які таксама любіць гэту магутную раку, што прынесла свае воды з далёкіх-далёкіх уздзенскіх лясоў.

Прывалкі — сяло старое, вядомае на Нёмане. Тут некалі адпачывалі плытагоны, рамантавалі плыты перад далёкай дарогай да мора. Вёска стаіць на старым высокім беразе, а рэчка адступіла ад яго ўбок, пакінуўшы замест сябе доўгае двухкіламетровае серпавіднае возера з плакучымі вербамі.

Нёман ідзе да літоўскіх сяброў. У яго яшчэ доўгі шлях, яму трэба спяшацца, несці радасць усім, хто жыве на яго берагах.

**Янка Рагоз**

## ДЗУКІЯ

Дзукі́я — частка Літвы на Нёмане. Дзе б я ні быў, аб чым ні пісаў — заўсёды са мной Дзукія.

*Альбінас Жукаўскас*

Дзумкаюць
Пчолы ў квеце чаромхі
Заблытаўся ў травах чмель.
Нямунас хваляю
Дзынькае,
Быццам ільдзінкай,
Дзе мель.
У рэчкі славяна-балтыйскі
Аўтарытэт.

Бачу: бульбу садзяць суседкі —
Зося і Марытэ.
Дзэкае Зося па-беларуску,
Дзэкае і Марытэ па-дзукску,
Лёсам, зямлёю, світаннем
Зраднёны
(Памяць — падковы,
Памяць — страмёны),
Венаю крэўнаю —
Нямунас-Нёманам.



*«Хто мар*
*не ўплятаў*
*у твой гоман,*
*табе хто*
*пашаны*
*не нёс?»*

## Канстанцін Бацюшкаў

*(Расія)*

# ПЕРАХОД РУСКІХ ВОЙСКАЎ ЦЕРАЗ НЁМАН 1 СТУДЗЕНЯ 1813 ГОДА

Пад снежным покрывам пануры Нёман спіць.
На ледзяную роўнядзь, крутабокі бераг,
Пустыя сёлы, дзе туман і шэрань,
Святло ад месяца імжыць.
Замерла ўсё... Сям-там з-пад снегу труп чарнее,
І рэшткі вогнішчаў яшчэ дымяць і тлеюць,
А вунь скалеў лахмач,
Адзін сярод дарогі
Сядзіць задумлівы ўцякач,
Талопіць позірк мутны ў нежывыя ногі.

Змярцвела цішыня... Ды раптам у цішы
Пачулася: зямля прамёрзлая дрыжыць.
Лес коп'яў, сцягі, ратнікі і коні,
І грозна ў далечы начной
Грымяць шчыты, мячы пагібельнай пагоні.
Палкі славян ідуць, і кожны з іх герой.
Дайшлі да Нёмана — і коп'і ў дол убілі.
Са снегу пастаўлялі — не злічыць — шатры,
Па беразе расклалі скрозь кастры
І неба зарывам барвовым аблажылі.

*1813 г.*

## Фёдар Цютчаў

*(Расія)*

## НЁМАН

Ці гэта, Нёман, ты, рухавы?
Ці твой струмень паміж травы?
Ты столькі год, з такою славай,
Расіі верны вартавы?..
Аднойчы толькі, з воляй Бога,
Ты супастата нам падаў —
І ўсё-ткі нашага парога
Ты непарушнасць захаваў...

Ці помніш ты былое, Нёман?
Той дзень, авеяны журбой,
Калі стаяў Ён над табой,
З пранонсам чуў ты яго гоман.
І ты, як сёння, порстка бег,
Бурліў пад цёмнымі мастамі,
І лашчыў ён тады цябе
Сваімі дзіўнымі вачамі?..

Наперад вёў свае палкі,
Харугвы весела шумелі,
На сонцы бліскалі штыкі,
Гарматы, быццам гром, грымелі —
І ў вышыні, як нейкі Бог,
Лунаў ён днямі і начамі,
Глядзеў удаль, усіх бярог
Сваімі дзіўнымі вачамі...

Ды толькі аднаго не знаў,
Не да канца ён ведаў сутнасць,
Што там, на беразе насупраць,
Стаяў Другі — стаяў, чакаў...
Ішла наперад войска рацць —
Скрозь грозна-баявыя твары,
Яны былі яго ахвяры,
Не зналі, з кім ім ваяваць!..

Ішлі з надзеяю палкі,
Харугвы ў небе шлях прасілі,
Маланкай бліскалі штыкі,
І барабаны гучна білі...
Ваякаў безліч тут было...
Але пасля ў зваротным гуле
Ці хоць дзесятае чало
Кляйма ганебнага мінула?..

*1853 г.*

## Адам Міцкевіч

# ДА НЁМНА

Мой Нёман родны, дзе сягоння тыя воды,
Якія чэрпаў я ў дзіцячыя далоні
І заплываў з якімі ў дзікія затоні,
Калі шукаў для сэрца сцішнай прахалоды?

Лаура горда ў іх глядзелася заўсёды,
Касу любіла заплятаць, уквечваць скроні,
І вобраз там яе, адбіты ў хвалі лоне,
Не раз я замуціў слязьмі ў былыя годы.

Мой Нёман, родная рака, дзе хвалі тыя,
А з імі столькі шчасця, і надзей і мараў?
Дзе весялосць, маленства мілае без хмараў?

Дзе век бурлівы, леты нашы маладыя?
Лаура дзе? Сяброў не бачу, любых твараў,
Усё прайшло, а слёзы памяці жывыя.

## Уладзіслаў Сыракомля

# ПАМЯЦІ АЦЭРНА (КЛЯНОВІЧА), АЎТАРА ПАЭМЫ «ФЛІС»

Наш вечны Нёман хутка і ўдала
У пашчу Балтыкі шле свае хвалі.
Вось і нашы плады флісацкая рацьь
Мае на чым сплаўляць.

Цясляр жа з сякерай з калоды цэлай
Слаўную віціну зробіць умела.
І вытча дзяўчына з сялянскай хаты
Свой ветразь крылаты.

Вопытны рулявы кіруе на золку,
Дзейнічае стырном, нібыта пёркам.
Удала ходзяць вёслы альбо прысы
У кожнага фліса.

Хлеб наш усе немцы выхваляюць згодна.
Таму мы возім, кормім галодных.
А на працягу цэлага паўгода
Нас цешыць прырода.

Калі вецер пахілы ды дно глыбока,
Ёсць час насыціць у дарозе вока,
Бо каля Нёмна Бог параскідваў
Красу краявідаў.

Тут ён, як быццам вужака блакітны,
Там, у цёмным бары знікае скрытна,
Альбо плыве між духмяных пракосаў,
Ірвецца прэч з заносаў.

То пад цяністым алешнікаў дахам
Павольна цячэ старасвецкім шляхам.
То бурна ірвецца праз камні-парогі
Да лепшай дарогі.

Калі ж валун заступае дарогу,
Б'ецца грудзямі ды пеніцца строга,
Альбо на пяску, калі злосць мінае,
    Ціха спачывае.

На яго беразе крыжык драўляны
Стрэнеш, каплічку немаляваную,
Ціхую вёску ці дворык забіты,
    Саломай пакрыты.

Часамі на дзіўнай назвы мясціне
Тырчаць старога замчышча руіны,
Альбо курган, дзе ляжаць вартавыя,
    Рыцары старыя.

А якія ж тут ён мінае двары!
Вось Любча — дзед сівабароды, стары.
Абмыў тут верай у правага Бога
    Галаву Міндоўга.

Вось ён абплывае ў вірах скорых
Вечнае Гродна Вітольдаў, Баторых.
Да іх замкаў пакорна прыпадае,
    Веліч сузірае.

Там Коўна старое — рай паляўнічы —
Духам Кейстутаў яшчэ насычана,
Дзе сцераглі з вялікай ахвотай
    Агонь Вайдалоты.

А вось Вельна, малая мясціна,
Дзе храбры Гедымін раптам загінуў,
І дзе ў жалобе над яго магілай
    Літва ўся тужыла.

Ды хто палічыць двары і гарады,
Дзе Нёман мацнее, як конь малады,
Нясе да мора плыты і віціны
    На хвалях сініх.

Такую «Флісоўку» (хоць не спяваю),
Табе, песняру «Фліса», прысвячаю.
Ты ж, пэўна, ў небе — блізкі да Бога,
    Прасі нам падмогу.

Мазур на баржы, літвін на віціне
Даплывуць хай шчасліва, ды не загінуць...
На нашых мачтах хай зорка яснее —
    Прыкмета надзеі.

*1861 г.*

## Янка Лучына

## РАСКОША НАТХНЕННЯ

О песня мая ты, простая песня!
Дзіця роднай вёскі з-над берага Нёмна,
Калі ты са мною, аточыць балесна
Радасць таемная, сум задумёны.
Сыдзе агонь на душу і цела,
Стануць пачуцці, як жар раздзьмуханы,
А думкі так скора, як пругкія стрэлы,
Адна за адною лятуць несціхана.
І гэтых пачуццяў і думак навалу
Нат сівер чужы замарозіць не можа:
Рвуся да пекнасці, да ідэалу,
Агніста люблю ўсё людское, о Божа!
Люблю цябе, край мой, радзіма,
Лясныя пагоркі і луг зялёны,
Хвалі, што Нёман у гневе уздыме,
Зоркі ў небе распрамянёным.
Люблю вас, ціхія сосны пагосту,
Крыж пры дарозе стары, пахілы,
Дары ў ахвярнях з аздобай простай.
Люблю цябе, люд мой, убогі браце,
І думкі твае, невясёлыя мары,
Мне дарагі хмурыя вашы пастаці

З глыбокай барознай трывог на твары...
О песня, са мной будзь заўсёды натхнёнай
Ціхім пачуццем, сардэчным болем.
Распальвай глыбока агонь майго ўлоння,
Збожжам расці, не расці куколем.
Калі табе трэба, песенька ціхая,
Раз'ятрыць змея болю і гора
І піць са мной разам з мукаў келіха...
О песня мая, да канца выпі горыч!

*1886 г.*

## НА ПЕРАВОЗЕ

«Стой, перавознік! Няхай на пароме
Натхненне мяне запалоніць!»

Сонца ўзышло. Залацістыя промні
На хвалях Нёмана звоняць.
Воды ўздымаюцца і на каберац,
Усланы з каменнага жвіру,
Падаюць з шумам, сыплюць на бераг
Золата водсветаў віру.
Твар перавозніка, пёры аблокаў
Гулліва іграюць на тоні.
Адбітак то ўзнікне на хвалі ломкай,
То знікне — грэбень заслоніць.
З ранішніх высяў спеў жаваронка
Падае ўніз пераліўна.
Чайка заплача над ціхай затокай,
Драч зарыпіць з лугавіны.
Ластаўка ў лёце імклівым, як куля,
Грудкаю хвалю кранае,
Дзесьці далёка кувае зязюля
Ў шатах цяністага гаю.
Нёман блакітны! Святляным бляскам
Ты не захопіш нікога.
Адзін твой бераг — у іле гразкім,
Зіхціць жаўтапёс у другога.
Ды тыя ланы, жыта палосы,

Бярозы над шляхам у скрусе,
Дыван квяцісты, які ад плёсу
Шырока раскінуты ў лузе,
Лясы густыя, сасонкі, яліны,
На ўзлеску самотная дзічка —
Увесь гэты ўбор нашай беднай краіны
Мацней у стократ нас кліча.

Спытайце ў таго, хто ў далёкіх краінах
Спазнаўся з вандроўным лёсам,
Ці ён адшукаў сярод плыняў слынных
Блакітней, чым Нёмана плёсы?
Над крутым Іртышом, над Тыбрам ці Рэйнам,
Над Сенай ці сінім Дунаем —
Кожны там прыхаднем чуўся, карэнне
Ад свайго адарваўшы краю.

Сын нёманскіх водаў і беднага поля
У сціпласці і ў задуменні
На людзях не пусціцца ў скокі ніколі
І песняй уразіць не ўмее.
Бачна, што бедны, бачна, што цёмны,
Ён з вёскаю вечна ў полі
Крывава працуе на хлеб свой надзённы,
Змагаецца з смуткам нядолі.

Ды ён не змяняе на вуліц тлумнасць,
На бляск і шык пазалоты
Волю сваю, клапатлівую ўдумнасць,
На твары барозны турботы.

Твой плён небагаты, бедны мой людзе,
Хоць потам акропіш поле.
Але з каменістае глебы здабудзе
Хлеб чорны праца і воля.
І голаду відма ў постаці сцятай
У сне цябе, рольнік, не страшыць.
Хлеб жытні маем — тым і багаты.
Хапае лясоў нам і пашы.

*1888 г.*

## Францішак Багушэвіч

* * *

Сабраўшыся на тры чоўна,
Веславалі мы да Коўна.
Праз тры дні і праз тры ночы
Дождж мачыў, а вецер ў вочы!
Усе нашы панічыкі
Зрабіліся як бічыкі:
На далоньках мазолікі
Чырванелі, як волікі,
Забалеліся жывоцікі,
Прамачыліся іх боцікі,
Ржа пабіла шкарпэтачкі...
Ох! бедныя ж вы дзетачкі!
Ноч зімная, дзень жаркі:
Папаліла чыста тваркі!
Пачарнелі, змаркатнелі:
Праз тры дні мясца́ не елі!..
Песні гудзець перасталі.
Усе чыста ўжо прысталі!
Але ў Коўне памаленьку,
Як хто глянуў на паненку, —
Ачуняў і боль забыўся,
Кожны б з кожнай ажаніўся:
Кожна міла і васола!
Прапаў смутак весь укола!
Як хто хоча быць ў гасціне,
То едзь ў Коўна на віціне,
Ці на плыце, ці на чоўне;
Дапытайся толькі ў Коўне,
Гдзе Пятровічава хата:
Там сям'я уся багата
У гасціннасць, у шчыроту,
Людску міласць і даброту.
Там накормяць, развасэляць
І твой смутак тут раздзеляць.

*Коўна, 1897 г.*

## Цётка

### (Алаіза Пашкевіч)

* * *

Скора прыйдзе вясна,
Панясецца «ку-ку»
Праз лясы, праз палі,
Праз наш Нёман раку;
Па Вілле па сястры
На плытах паплыве
Аж пад вокны да хат
І вясёла гукне:
«Дзецюкі, гу-гу-гу!!!
Ўжо вясна на двары!
Ужо трава на лугу,
Ўжо кветкі ў траве!
Гэй! хутчэй за саху,
Ды араць, ды араць...
Ды усім у спяху
Засяваць, засяваць...
Ды глыбей, ўсё глыбей
Зерне сыпаць ў зямлю...
Ды хутчэй, ўсё хутчэй
Упраўляці раллю...
Каб драсны не цвілі,
Каб асот не тырчаў,
Каб ячмені зляглі,
Каб авёс аж драмаў;
Каб вам бульба была,
Як той яблык ў саду;
Каб капуста зрасла
Велізной з галаву!
Тады будзе крапчэй
З горам стаць да вайны
Ды скарэй і лягчэй
Рваць ланцуг цемнаты»...

## Янка Купала

# НАД НЁМАНАМ

Ціха і плаўна ў даль коцяцца воды
Вольнага Нёмана, ў цёмную даль,
Толькі у часе глухой непагоды
З берага Нёман не выйдзе амаль.
Вербы і вольхі калышуцца глуха,
Сінія хвалі шумяць і бурляць.
Чуткай душою ў такі час паслухай, —
Здасца, там гэтакі голас чуваць:
«Гэй, не дзівуйся, мой дружа нядбалы,
Што я сягоння так злосна шумлю:
Грудзі здавілі мне хмары навалай,
Пошасць уелася ў матку-зямлю.
Сумна мне, сумна, што ўсё тут іначай
Некалі бераг мой бачыў і знаў;
Іншы меў выгляд — не гэткі жабрачы,
Іншы я плыт на плячах сваіх гнаў.
Край, дзе жыццё я сваё пачынаю,
Шмат прыгажэй прыглядаўся на свет,
Песні і казкі інакшыя баіў,
Шчасце цвіло ў ім, як макавы цвет.
Буйным жыццём усё чыста кіпела,
Слава далёка за мора ішла,
Ворага кожны за плечы браў смела,
Цемра чужынцаў не страшнай была...»
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Гэтак у часе глухой непагоды
Чуецца ў Нёмнавай гутарцы жаль.
Сціхне, і плаўна зноў коцяцца воды
Вольнага Нёмана ў цёмную даль.

* * *

Гэй жа, брацці, ўсе мы разам
Песню запяём,

Дружна, смела, на свет цэлы
Аб жыцці сваём!

Хай імчыцца наша песня
Птушкай па-над гай,
Дзе бяжыць бурлівы Нёман,
Дзе наш родны край!

Хлопец стройны коні пое
Тамака ў браду,
А прыгожая дзяўчынка
Чэрпае ваду.

І адно так на другое
Міленька глядзяць,
Аж іх вочкі, быццам зоркі,
Ясна мігацяць.

### Якуб Колас

## РОДНЫЯ ПЕСНІ

Вісне скарга уздоўж Нёмна,
Беларусі сына.
Як ты бедна, як ты цёмна,
Родная краіна!

Збіты ў кучу твае вёскі,
Стрэхі ў дол уходзяць.
Смутнай песні адгалоскі
Лес, курганы родзяць.

Крыж збуцвелы, знак пакуты,
Тут і там чарнее.
Даль паўнютка ціхай смуты —
Жаль на душу вее!

Ўсё ў табе, мой родны краю,
    Апавіта горам:
І той вецер, што дзьме з гаю,
    Што шуміць над борам;

Тыя песні, што на полі
    Жнеі запяваюць;
Тыя думкі, што да болю
    Сэрца калыхаюць.

Ва мне смутак, гора гэта
    Водгулле знаходзіць,
Сэрца, жалем абагрэта,
    Песні смутку родзіць.

Няхай плачам у тэй далі
    Песня разальецца,
Каб усе на свеце знали,
    Як нам тут жывецца.

*1909 г.*

**Максім Багдановіч**

## ПЕРАД ПАВОДКАЙ

Праясняецца пагода,
Бо вярнулася вясна.
Усё чакаеш, што прырода
Устрапянецца ада сна.

І пад птушы крык і гоман,
Даўшы хвалям вольны ход,
Прыпадыме бацька-Нёман
На хрыбце магутны лёд.

Зазвіняць жалобна крыгі,
І бурлівая вада
Снег, размоклы ў час адлігі,
Змые з лугу без сляда.

Дык разлійся жа раздольна
У чыстым полі і гаю
І красой паводкі вольнай
Душу выпрастай маю!

## ЭМІГРАНЦКАЯ ПЕСНЯ

Ёсць на свеце такія бадзягі,
Што не верaць ні ў Бога, ні ў чорта,
Ім прыемны стракатыя сцягі
Караблёў акіянскага порта.

І няма ім каго тут пакінуць,
Бо нікога на свеце не маюць.
Усё ім роўна: ці жыць, ці загінуць, —
Аднаго яны моцна жадаюць:

Пабываць у краёх незнаёмых,
Ды зазнаць там і шчасця, і гора,
І загінуць у хвалях салёных
Белапеннага сіняга мора.

Але мы — не таго мы шукаем,
Не таго на чужыне нам трэба.
Не рассталіся б мы з нашым краем,
Каб было дзеля нас у ім хлеба.

І на вуліцы пад грукат, пад гоман,
Дзе натоўп закруціўся рухавы,
Нам маячыцца вёсачка, Нёман
І агні партавыя Лібавы.

## Канстанцыя Буйло

* * *

Дзе Вілія ў Нёман ліе свае хвалі,
    Я ў сумнай задуме стаю;
Купаецца месяц ў вод чыстым крыштале,
Яны ж з ціхім шумам плывуць усё далей,
    Душу к сабе цягнуць маю.

Здаецца, штось шэпча у цёмнай глыбіне,
    Здаецца, штось маніць, заве;
— Хадзі, — ў нашай глыбі ціхай спачынеш,
Журба ўжо ліхая навекі загіне, —
    Тут толькі ўцячэш ад яе.

Хадзі, — мы у нашы сярэбраны хвалі
    Спаўём, як дзіцятка, цябе,
І рыбак адгонім, каб сну не зганялі,
І скажам, каб вербы шумелі, пяялі —
    Сны-байкі шапталі табе!..

## Эліза Ажэшка

### Над Нёманам

*(Урыўкі з рамана)*

Быў летні святочны дзень. Усё на свеце ззяла, квітнела, духмянілася і спявала. Цеплыню і радасць выпраменьвалі сіняе неба і залатое сонца, радасцю і пяшчотай дыхалі зялёныя нівы, радасць і шчаслівую свабоду славілі хоры птушак і насякомых, якія звінелі ў спякотным паветры раўніны і над узгоркамі, у іх зялёных шатах.

З аднаго боку гарызонта цягнуліся невялікія ўзгоркі, з хвойнымі і лісцевымі лясамі, з другога — ні-

бы вырастаючы з зелянiны лугоў, пясчанай сцяной падымаўся высокi бераг Нёмана. Перасякаючы сiнi купал неба, што цёмнай паласой пакрываў дрымучы бор, ён вялiзнай дугой агiнаў шырокую i гладкую раўнiну, на якой дзе-нiдзе былi вiдаць шурпатыя ствалы дзiкай грушы, старыя, крывыя вербы i адзiнокiя таполi. У гэты дзень, залiтая сонцам пясчаная сцяна з праслойкай чырвонага мергеля здавалася залатым абручом, перавязаным пунсовай стужкай.

Удалечынi на гэтым пышным фоне цьмяна вымалёўвалiся абрысы вялiкай панскай сядзiбы i крыху далей, на адной з ёй лiнii, доўгi рад вясковых хат. Акружаныя вялiкiмi i малымi садамi, з гушчэчы якiх выглядвалi iх шэрыя сцены, яны цягнулiся ўздоўж ракi, паралельна яе лукавiне, ствараючы зялёны паўкруг. У празрыстым i нерухомым паветры сям-там над дахамi ўзнiмалiся ўверх тонкiя струменьчыкi дыму, быццам вялiзныя iскры палымнелi на сонцы вокны, золата саламяных стрэх злiвалася з блакiтам неба i зелянiнай садоў.

Раўнiну перасякалi белыя дарогi, якiя ледзьве зеленелi рэдкай траўкай; да iх, нiбы ручаi да рэк, сцякалiся з палёў межы, што месцамi сiнелi васiлькамi, а месцамi жоўтыя цi ружовыя ад баркуну, канюшыны i светнiку. На абочынах дарог шырокай паласой бялелi рамонкi, гарэлi жоўтымi зорачкамi дзiкiя сланечнiкi i кураслеп, лiловыя скабiёзы выпраменьвалi са сваiх сталiстых венчыкаў мядовы пах, калыхаўся цэлы лес крохкай i далiкатнай мятлiцы, кудлатыя кветкi трыпутнiку тырчэлi на высокiх сцяблiнах, сваiм зухаватым выглядам i чырвоным колерам цалкам апраўдваючы прысвоеную iм назву казакоў.

За гэтымi зараснiкамi дзiкай травы цiха драмалi ўробленыя палi. Зялёныя яшчэ каласы жыта i пшанiцы былi ўжо абсыпаны дрыготкiмi вусiкамi, што абяцала багаты ўраджай; нiзка слалiся па зямлi, густа ўсеяныя ружовымi кветкамi, сцяблiны канюшыны, малады лён радаваў погляд пяшчотай зеленаватага пуху, жоўтая свiрэпа вясёлымi ручайкамi расцякалася па нiвах над невысокiмi яшчэ ўсходамi аўсу i ячменю.

* * *

...Спачатку спакойны, ён, здавалася, да самага дна адлюстроўваў цяжкія хмары, і ластаўкі, якія луналі над яго ўспыхваючай асляпляльнымі агнямі роўняддзю, краналіся яе крыламі; потым ён змрочна бушаваў, і па яго белапенных, усхадзіўшыхся хвалях пад бурным ліўнем паволі паўзлі жоўтыя платы і імкліва імчалася чарада чорных чоўнаў; а яшчэ пазней, калі навальніца пранеслася, ён упрыгожыўся залатымі дымкамі, а над яго люстраной роўняддзю, што пераліваласся золатам і блакітам, кружыліся ва ўрачыстым хараводзе беласнежныя марскія чайкі і спалохана мітусіліся крыжанкі; а цяпер ён нерухома застыў, рассцілаючыся доўгай стужкай, разрэзанай на дзве паласы: сінявата-чорную ў цяні бора і колеру цёмнай сталі на другім баку.

Гэта паласа расплаўленай сталі не адлюстроўвала мігцення зорак, злёгку зацягнутых мутнымі разарванымі воблакамі; яна цьмяна паблісквала, калі ўдалечыні загараліся круглыя, ярка-чырвоныя агеньчыкі. Яны выплывалі то тут, то там з-за высокай гары і, прыбліжаючыся, расцягнуліся ў адну лінію ўздоўж ракі. Цяпер ужо можна было разглядзець маленькія лодкі і людзей, якія распальвалі ў іх кастры.

Усіх лодак было каля дваццаці. Быццам чароўныя прывіды, яны паволі слізгалі па нерухомай рацэ глыбока ўнізе; і таксама паволі калыхаліся іх адлюстраванні ў цёмнай бездані, а твары і фігуры людзей, азораныя чырванаватым святлом, са скульптурнай выразнасцю вылучаліся на цёмным фоне неба і вады.

Але яшчэ больш дзіўнай, амаль што фантастычнай з'явай здавалася густая імгла, якая ахутала лодкі з людзьмі мірыядамі дробных, як сняжынкі, камячкамі і засцілала белай дымкай яркія кастры. Ні ў паветры, ні ў прамежках паміж лодкамі камячкоў гэтых не было, і нельга было зразумець, адкуль яны. Неўзабаве, аднак, усе ўбачылі, што гэта малюсенькія матылькі, якія вылятали з вады, трапечучы беласнежнымі крыльцамі. Іх было незлічонае мноства, як пясчынак на дне Нёмана, у глыбінях якога яны нараджаліся. Пакінуўшы родную стыхію, яны ў няспынным парыве ляцелі да асляп-

ляльных агнёў. Каварныя рыбакі, спрытна ўзмахваючы рукамі, зграбалі ў мяхі гэтую крылатую завіруху, якая заносіла беласнежнымі камякамі іх саміх і іх лодкі.

Каб не ўспудзіць баязлівае вадзяное стварэнне нават самым ціхім шоргатам, рыбацкія лодкі слізгалі павалі і бясшумна, нават не ўсплёскваючы вёсламі. Уздоўж усёй ракі, наколькі бачыла вока, мільгалі ў цемры чырвоныя агеньчыкі, а каля іх чырванаватыя сілуэты сядзячых людзей.

Ціха было ўсюды — і ў небе і ў паветры, на зямлі і ў вадзе; толькі дзесьці ўверсе над дрэвамі гудзелі, кружачыся ў вышыні, раі нёманскіх матылькоў. Здавалася, што гэтае аднастайнае металічнае гудзенне выпускала дрыжачая струна, нацягнутая паміж цёмнай стужкай ракі, якую ўсеялі вогненныя кропкі, і небам, дзе віселі воблакі, падобныя на лёгкі дым або на шматкі разарванага крэпу.

## Максім Танк

* * *

Як ішлі дзяўчаты рана
Праз дубровы, праз паляны,
Маладыя кветкі рвалі
І вянкі сабе сплялі,
    Як вясной бывае.

З іх адна вянком удала
Галаву сабе прыбрала
І запела, як пяецца,
Калі радасна на сэрцы,
    Калі свеціць сонца.

А другая — ў хвалі Нёмна
Кінула вянок чароўны,
Паглядае і варожыць:
Ці даплыць ён хутка зможа
    Да яе надзеі.

Трэцяя — вянок духмяны
Палажыла на кургане
І заплакала, як плачуць
Па цяжкой няўцешнай страце —
Па сваім каханні.

* * *

Цішыня наўкола. Дрэмле голле
Дрэў, якія атуляе змрок,
Ды мігціць далёка ў чыстым полі
Аганёк.

Што там? Можа, плытагоны Нёмна
Азарылі вогнішчам прывал
Або нехта некаму умоўны
Падае сігнал?..

## М. Арол

## НАД НЁМАНАМ

*Янку Купалу*

Ўсюды ясна, ціха...
Месяц ў вышыне
То нырне за хмарку,
То зноў усплыве.
Во сустрэўся з хмаркай,
Ўсю святлом абліў,
Затрымаўся крыху
І далей паплыў.
Лес, бы ў сне чароўным,
Стаў і задрамаў...
Там дзесь сыч паўночны
Сумна застагнаў...
Ша... скуль гэта песня

Хваляю плыве,
Тонам нудным, доўгім
Ў сэрцы аддае?
Нават быстры Нёман
Плыць бы перастаў
І той зык маркотны
У сабе схаваў.
Многа гэтых тонаў
Жальбы і нуды
Ён схаваў у хвалях
Быстрае вады.
Толькі нам не кажа,
Што ў сабе таіць.
Мо ўсяго баіцца
Людзям гаварыць,
Мо людское сэрца
Не знясе таго,
Што ён чуў і бачыў
З веку сваяго?
Толькі мора можа
Тое ўсё абняць,
Аб чым ён баіцца
Людзям расказаць.
І глядзіць у Нёман
Месяц з вышыны,
Наклікае ў сэрца
Аб мінулым сны.
І нуда агорне,
Сцісне сэрца жаль,
І за хваляй Нёмна
Ўюцца думкі ўдаль.

*«Наша ніва», 1910 г.*

## Сяргей Гарадзецкі

*(Расія)*

# НА АД'ЕЗД ЯКУБА КОЛАСА Ў СЯРЭДНЮЮ АЗІЮ

Бывай, мой друг, мой любы Колас!
Лятуць з табой душа і голас.

Датлеў твой дом, згарэў твой горад,
Ды не сагнуўся ты ад гора.

Адчай людскі і гнеў суровы
Пераплаўляў ты мужна ў словы.

Ты ад'язджаеш, а з табою
Згарэлы бор ідзе з журбою.

Я ведаю, як ты ў пакутах
Гукаў свой край, што ў лютых путах.

У хвалях Нёмана й Бярозы
Зліліся стогны, кроў і слёзы.

Ды зноўку край твой уваскрэсне,
Тваёю ахінуты песняй.

І вернецца засеяць гоні
Народ, не зломлены ў палоне.

Лён гляне з сіняй варажбою,
Мы зноў сустрэнемся з табою.

Ты дом паставіш светлавокі,
Дзе вершы ўскалыхнуць аблокі.

І зноў я да цябе прыеду —
Да брата песні, да суседа.

*1941 г.*

## Аляксандр Пракоф’еў

*(Расія)*

### НЁМАН ВЯСНОЮ

Вясною ты — само здзіўленне
З тваімі белымі садамі.
Нябачна мне тваё цвіценне —
Ты за узгоркамі, лясамі.

Ты за дубамі, за кустамі,
Дзе бальшакі і сцежкі вузкія.
Бяжыш з блакітнымі вачамі,
Такімі беларускімі.

Яны бываюць — не зманю —
Цямнейшымі там, дзе глыбей...
Здалёку я цябе люблю,
А гэта ў шмат разоў цяжэй!

## Максім Рыльскі

*(Украіна)*

### БЕЛАРУСКІМ СЯБРАМ

Для вас — над плёсам, над ракою,
Дзе хваля, як струна, пяе,
Яе пакратаўшы рукою,
Задумаў вершы я свае.

Як добра, што бруіцца Нёман,
Дняпро звініць сярод палёў.
Мне ўсё тут блізка і знаёма,
Бо я заўжды сярод сяброў.

У дождж, у сонца, снегавею
Народ тут ветлівы жыве.

Над Нёманам — густыя вербы,
І над Дняпром — шмат тых жа верб.

І звон высокіх медных соснаў,
І радасць весніх, летніх дзён.
І неба — быццам коўдра з кроснаў:
Узор усім сябрам відзён.

І снасць рыбацкая ў затоне,
Шпакоў чародка там, дзе брод...
А ў сэрцы — памяць пра ваш Нёман
І пра шырокае Дняпро...

*1958 г.*

## Хута Берулава

*(Грузія)*

## НАД НЁМАНАМ

Пад небам ясным блізка ўспыхнуў Нёман,
Раней па песнях толькі мне знаёмы,
Як гаспадар, з усмешкаю страчае.
Збіраўся доўга ў госці я, на жаль,
І першаадкрывальніка вачамі
Углядваюся ў сонечную даль.

Я не адзін, Кура за мной без стомы
Імкне пад ветрам... Шлях сюды вядомы.
Я вам прынёс далёкі гул Энгуры,
Вясёлку, што народжана ў гарах.
Адкуль прыйшоў я, радасны ці хмурны,
Ты, Нёман, прачытаеш у вачах.

Я не адзін прыйшоў, а разам з сынам,
Каб пакланіцца пушчам, рэкам сінім.
І вось галовы моўчкі мы схілілі:
Усхваляваў, глыбока ўразіў нас

Край подзвігаў і легендарных быляў,
Дзе смутак грозных дзён яшчэ не згас.

Часцінку сэрца тут, на гэтых стромах,
Аддам табе я, ціхаплынны Нёман,
Бязмежным нівам, плошчам людным, светлым,
Зялёным астраўкам гаёў, дуброў —
Твайго жыцця бязвоблачнага сведкам,
О беларускі край, о край сяброў!..

## Аўрэліу Бусуёк

*(Малдова)*

### ДУБ

*Якубу Коласу*

Там, дзе пачатак неба,
Ў смужнай далі
Чарнее дуб
Праз навальнічны дым.
Яго сякерай продкі не краналі,
Згіналася жалеза перад ім.

Унукі іх асвоілі машыны,
Ды на паклон ішлі да аднаго.
Стаіць, убіты ў дол,
Шуміць былінны,
Каб я прывязваў думы да яго.
О думы!
Кветкі стылыя на шыбах!
І я хацеў таксама б у жыцці,
Як ён,
Сустрэўшы перуновы выбух,
І мёртвым жыць,
І з месца не сысці!

## Юрка Віцьбіч

*(Беларусь — ЗША)*

# ПЛЫВЕ З-ПАД СВЯТОЕ ГАРЫ НЁМАН

*(Урыўкі з нарыса)*

На мяжы Случчыны і Наваградчыны, там дзе ў Нёман уцякае рэчка Турчанка, шырака разляглося калісьці мястэчка, а потым сяло Мікалаеўшчына. Па адных дадзеных назоў гэты паходзіць ад царквы і ўмя святога Мікалая Мірлікійскага, па другіх ад колішняга гаспадара сяла Мікалая Радзівіла. Спярша прыгадваецца, што Мікалаяў Радзівілаў было тры — Сіротка, Чорны і Руды і пэўне ж Чорны спрычыніўся да назову, але потым засланяюць усіх трох у свядомасці два вялікія Беларусы, якія паходзяць з Мікалаеўшчыны — Язэп Лёсік і Якуб Колас. Дзядзька і старэйшы за яго на два гады пляменнік, царскі палітычны катаржнік і царскі палітычны астрожнік, народны трыбун і народны паэта. Мікалаеўшчына дала Беларусі выдатнага Язэпа Лёсіка, які пазней сказаў сваім спадкаемцам-вучням:

«Вашыя свечкі запаленыя і вы становіцеся апосталамі беларускае справы. Цяпер, як ясныя зоркі, разыдзіцеся вы па Беларусі, каб панесці за сабою вялікую радасць уваскрашэння Беларусі».

І гэта тут у Мікалаеўшчыне:

Збіраўся скарб, струменіўся няспынна,
Вясёлкавым ірдзеннем мне спяваў
  І выхаду шукаў
  Адбітак родных з'яў
У словах-вобразах, у песнях вольнаплынных,

— што Якуб Колас збіраў не для сябе асабіста, а для свайго народу:

Для вас, душою чулых,
Як доўг, як дар
Дае пясняр.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Дарма, што светлы Нёман меншы па сваёй даўжыні за шырокі Дняпро і хуткую Дзвіну. Дарма, што за даўнія часы ён не стаўся гэткім гістарычным шляхам, як яны. Затое пазней стаўся ён сымбалям нашага нацыянальнага адраджэння, знайшоўшы адпаведны адбітак і ў народных паданнях і ў мастацкай літаратуры. Аднак калі вядома, што Дняпро пачынаецца з Клёцавае імшары, а Дзвіна паблізу ад калыскі Дняпра з возера Дзвінец, дык скуль пачынаецца Нёман, дагэтуль дакладна невядома.

Бальшыня навуковых даследванняў і народных паданняў даводзяць, што цяперашняя рэчка Вуса, якая цячэ з-пад Святое Гары і прачула апяяная паэтам Алесем Салаўём, калісьці менавалася Нёман, другія тое ж самае сцвярджаюць наконт рэчкі Вуздзянкі, што пачынаецца ў пяці кіламетрах ад мястэчка Вузды, трэція сведчаць, што гэта мястэчка Лоша спрычынілася да перайменавання Нёману ў рэчку Лошу, і нарэшце чацвертыя прыпушчаюць, што рэчкі Вуса і Лоша, спалучыўшыся разам каля мястэчка Пясочнага, нараджаюць Нёман.

Паміж шматлікімі народнымі паданнямі ёсць адно, якое сведчыць, што цячэ Нёман з-пад альховага карчу. Між тым у нашым фальклоры альха належыць да «юдашавых дрэваў». Калі дубы, бярозы, ліпы, хвоі, яліны і г. д. для Беларуса святыя ці бадай святыя, дык з крывавых слёзаў выгнанае з раю Евы нарадзілася рабіна, з слёзаў скінутага з неба д'ябла крушына, на асіне Юда павесіўся, а на алешыну «кроў пусціў» — таму ў асіны горкі смак, а ў свежай драўніне алешыны крывавы колер. Не, не з-пад альховага карчу распачынаецца Нёман. Сам народ заўсёды самае дарагое для сябе шанаваў, як святое.

Мы, Беларусы, незалежна ад таго, скуль мы — ці з-пад Дзвіны, ці з-пад Прыпяці, ці з-пад Дняпра, ці з-пад Бугу ведаем, як цячэ Нёман праз Налібокі і Дакудаўскія дубовыя лясы, перахапіўшы ў дарозе Бярэзань і Шчару, мы чуем, як, пракапваючыся праз Горадзенскае ўзгор'е, грыміць ён у сваіх парогах — Швец ды

Кравец, Калатоўка ды Бічы. Нёман для ўсіх нас адзіны і непаўторны. І калі нашыя нашаніўцы сумна зазначалі:

Вісне скарга ўздоўж Нёмна
Беларусі сына,

— дык мы яшчэ пабачым, як нарэшце і назаўсёды:

Даўшы хвалям вольны ход,
Прыпадыме бацька Нёман
На хрыбце магутным лёд.

І няхай хтосьці ды дзесьці спрачаецца аб тым — скуль паходзіць Нёман. Плыве з-пад Святое Гары Нёман.

*Мюнхен, 1956 г.*

## Генадзь Аўласенка

# НЁМАН

Птушак гоман…
Штосьці шэпча патаемна асака…
Гэта Нёман,
беларуская магутная рака…
Тут начамі
туманы ўстаюць, як здань сівых вякоў…
Тут мячамі нашы продкі сустракалі крыжакоў,
І ліліся ручаі крыві пад лязгат, бляск мячоў…
Тут спляліся карані яцвягаў, прусаў, крывічоў…
Бацька Нёман…
Беларуская магутная рака…
Птушак гоман…
Штосьці шэпча патаемна асака…
Рыбы ўсплёскі…
Астраўкі… Густы трыснёг… Пясчаны плёс…
Гэта — лёс мой…
Гэта наш агульны край…
Агульны лёс…

## Рыгор Барадулін

# ТАМ, ДЗЕ НЁМАН Б'Е ХВАСТОМ

І сапраўды, як хатняя рака,
Тутэйшы Нёман —
Б'е хвастом ля ганка,
І вусны песцяць казку-інтрыганку,
І пражу грэе цёплая рука.

У рэшаце падскоквае клубок,
І дзед-штукар дапамагае бабе,
Славутасць у падпечкавым маштабе,
Каток, вядома ж, залаты лабок
Зацягвае маркотную курню,
Марцовай кошцы
Дзён да марца мала.

І песня,
Што на момант прыдрамала,
Адчула:
Цісне столь высачыню.
І паплыла,
На Нёман павяла
Ад ступы, ад красён, ад памяла
Спякотны голас
На марознай ноце:

Сядзела Купалка на плоце,
Яе ўся галоўка ў залоце,
Ды прасіла ў Бога пагоды:
Ой, дай пагоду на ўсю ноч,
Ой, дай сонейка на ўвесь дзень...

А казка нахінула гарлачок,
Дзе з сыру печ,
Дзе з масла лавы.
А баба з казкі
Просіць пень трухлявы:

Вышэй, вышэй, пеньчучок,
Бо ўжо выбег ваўчучок!

А я прашу,
Як сон забытых сноў:
Ручай гаворкі беларускай,
Булькай
У цераме спадарыні Цыбульскай
У вёсцы,
Што завуць Магільным зноў.

## НАД НЁМАНАМ

Дубоў плячыстых
Тугое вецце
Сплятае з ценяў
Прывідны невад.
Адны з табою
Мы ў цэлым свеце.
Пад намі — Нёман,
Над намі — неба.

Твой позірк ціхі,
Як бераг сонны.
Віры прыціхлі
На дне дрымотным.
Ты пахнеш блізкім,
Даспелым сонцам,
Я чую
Сэрца твайго грымоты.

Ты ўся —
Пушынкаю дзьмухаўцовай.
А локці пахнуць
Травой прымятай.
Тваёй касынкі
Рог паркалёвы
Аб лета б'ецца,
Як лёткі мятлік...

**Станіслаў Валодзька**

*(г. Даўгаўпілс)*

## СУСТРЭЧА З НЁМАНАМ

Праз мітусню бясконцую дарог
з табой сустрэчы мару я збярог.
І вось табе я навярнуўся зноў
слязой, мой Нёман, дзе даўным-даўно
сказаць жаданне бераг падмывала
аб той, што і па мне тут сумавала,
што верна у ваду глядзець любіла
і свой адбітак ля вярбы забыла...
Тут словам я ў душу яе ўпадаў.
Да шчасця мне было — рукой падаць.
А зараз — на адлегласці такой,
што не дастаць мне нават і ракой...
Ды ёкнуў сом ля берага дрыготка!
Мяне мой Нёман прыгаршчамі лодкі
узяў
і лёгка ўдаль мяне панёс.
І ціхі плёс пазалаціў мне лёс!
І я антэнкай чулаю вудзільна
злавіў гадоў наступных голас дзіўны.
І мой адчай — яго як не было.
І мой адчай нібы ракой зняло!

**Віктар Гардзей**

## НАД НЁМАНАМ СІНІМ

Над Нёманам сінім
Ільны разліліся,
І сосны гамоняць
Над Нёманам сінім.

Палёў гераіням
Ззяй, сонца, у высях,
І, песня, складзіся —
Палёў гераіням.

Спяваюць дзяўчаты
Пра светлыя мары,
Пра мужнасць героя ў
Спяваюць дзяўчаты.
На ласку багаты
Лясныя абшары,
І сэрцы людскія
На ласку багаты.

Па ўсёй Беларусі
Ляцець звонкай песні,
І радасці ліцца
Па ўсёй Беларусі.
Не быць нам у скрусе —
Бяда не ўваскрэсне,
Забудуцца слёзы —
Не быць нам у скрусе.

Блакітным разлівам
Яснеецца поле,
І неба світае
Блакітным разлівам.
І жыць нам шчасліва,
Не знаючы болю.
Ні гора, ні ліха —
І жыць нам шчасліва.

Мы след свой пакінем —
Душой пакляліся,
У справах вялікіх
Мы след свой пакінем.
Над Нёманам сінім
Ільны разліліся,
І звоняць крыніцы
Над Нёманам сінім.

## Пятро Гарэцкі

*(Украіна)*

## НАД НЁМАНАМ

Як быццам хто нябачнаю рукою
У гэты рай акно прыадчыніў.
Здаецца,
Што паветра ўсё наўкола
У струнах мройных
Грае і звініць.
Прыслухаешся — кліча перапёлка...
Дубы высока сонца прыўзнялі,
Дрыжыць травінка лёгкая,
Як пёрка,
І краскі гнуць бухматыя чмялі.
З травы зайчыха
Кінецца наўцёкі,
Аглухлая ад хмельнай цішыні.
Закружыць вір
І сонца, і аблокі,
У вербаў аж нямеюць карані.
З лугоў пацягне цёплым сырадоем...
Жыцця прасцяг,
Як Нёмана працяг.
Зямля мая,
Святой тваёй красою
Я ўсцешан зноў да самазабыцця.

## Андрэй Гуцаў

## СОННАСЦЬ

Там, цераз прыцемкі доўгіх змяркаванняў,
Рэжучы плошчу пакосных лугоў,
Нёман плыве і плыве безустання,
Часам ныраючы ў брамы мастоў.

Дзе ён апынецца? Гродна і Коўна;
У безліч вёсак, што славяць свой кут...
Дзе, адкажы мне, твой клопат галоўны?
Дзе ты схаваў знак сышоўшы пакут?

Усё адыходзіць, з вадою сплывае.
Сіла на дне камянямі ляжыць...
Выкаці ж, Нёман, Дняпро, іх аддай нам:
Бо камянямі — нам ворагаў біць!

**Яўген Гучок**

## ЖЫВАЯ ПАЛІТРА НЁМАНА

* * *

Мне Нёман — і бацька, і маці,
І брат, і сястра,
І я сам.

* * *

З-пад самага сэрца зямлі беларускай,
Па самай яго сярэдзіне
Яго светласць Нёман цячэ.

* * *

Блакіт беларускіх льняных палёў
Нясе ў вольны свет
Наш Нёман.

* * *

І Нёман прадзе сваю пражу,
А з пражы той зіхатлівай
Якая шыкоўная хустка Балтыкі!

* * *

І сёння бясконцаю чарадою
Па Нёмне плывуць і плывуць
Сонечныя плыты.

* * *

Вясёлы і добры,
Не баіцца нічога Нёман
І сам не пужае нічым.

* * *

Два берагі, дзве краіны у Нёмна,
А мова й душа, як і Бог, —
У яго адна.

* * *

Як калісьці Сакрат цыкуту,
Сёння Нёман прымае
Тэхнічны праргрэс.

* * *

І чым да Нёмна людзі бліжэй,
Тым больш яго дно
Агаляецца.

* * *

Нёман знікае яшчэ і таму,
Што душы людскія
Сябе не купаюць у ім.

* * *

Аблокі і зоркі
Могуць сабе і здрамнуць над Нёмнам,
А ён не прыжмурыць і вока.

* * *

О Нёман! — Жывая палітра!
Фарбаў нябесных дзе болей
За ўсё!

* * *

Вербалоз — нібыта грэбень,
Што прычэсвае грыву
Нёмна.

* * *

Навекі сплывае і навек застаецца
Нёман на нашай
Зямлі.

* * *

Таму, хто кажа: «Нёман — мой!»
Заўжды пярэчу:
«Наш!»

## Сяргей Давідовіч

## УСЕ МЫ — ДЗЕЦІ ПРЫНЯМОННЯ

І век назад, і два, і сёння
Славуты Нёман цешыць нас...
Усе мы — дзеці Прынямоння,
Хто бачыў гэту плынь хоць раз.

Праз лёс Радзімы шматпакутны,
Праз кожны асабісты лёс
Цячэш ты велічны, магутны,
Пад небам мар, тугі і слёз.

Якая моц, якая вера
Імкне цябе за далягляд?
Ты не спыніўся, ты — наперад,
А мы стаім, а мы — назад.

Няўжо мы зломкі ці калекі?..
Забыліся пра родны дом,
Забыліся, што нават рэкі
Цякуць, бруяць і пад ільдом.

Так ёсць і будзе ва ўсім свеце:
Надзеі плынь не спыніць час!..
Усе мы — Прынямоння дзеці —
Будзі, згуртоўвай, Нёман, нас!

## Віктар Жыбуль

## ПАЛІНДРОМ* ПРА РАКУ НЁМАН

О, Нёман! Сага снам ён!
Нёмана мутны смак,
а сам —
у крамяны рышток рамонкавы ліся,
і нам дары, тытан,
і лад, і лёс, і арку марам,
хаду цуда-хмарам
у краі сёл і далін.
А ты... Ты рад:
манія сілы, вакно маркот, шырыня мар!
Кум асакам,
сын туманам ён, Нёман, —
сага снам ён.
О!

---

* Паліндром — старажытны від магічнай паэзіі; суцэльны паэтычны тэкст, які аднолькава чытаецца як з пачатку ў канец, так і з канца ў пачатак.

## Сяргей Законнікаў

# КАЛЯ ПЛЯЧА КАЛОЖЫ ДУМНАЙ

Яшчэ я неаднойчы ўспомню
Той дзень, нястрымны бег ракі.
Сплывалі крыгі ўніз па Нёмне,
Нібы купальскія вянкі.

Каля пляча Каложы думнай,
Што пільнавала вечны рух,
Было і нам зусім не сумна
На беразе стаяць удвух.

Чаму дзівосным круглым крыгам
Мы доўга пазіралі ўслед?
Трывожыў сэрцы не адлігай,
А крэўнасцю балючай свет.

І неба дыхала спакоем,
І смехам цешыла дзятва,
А спела пачуццё такое —
Не выказаць і не стрываць,

Бо снегавы абшар айчыны
Нам душы прасвятліў да дна.
Яе зрачыся немагчыма...
Жыццё адно, зямля адна...

Іду ў той дзень, нібы па промню,
Ці будзе дзень яшчэ такі?..
Сплываюць крыгі ўніз па Нёмне,
Нібы купальскія вянкі.

## Зофія Ільінская

*(Польшча)*

# ВЕЧАР НАД НЁМНАМ

Дзе востры выгін рэчкі каля сасны сагнутай —
Ёй вада, віхуры карэнне павырывалі, —
З вечарам думаць люблю,
Глядзець самотна ў далі —
Сумныя спевы плывуць непачутай пакутай
Па лугавінах, аточаных борам.
О, усмешка вады, што ў сне неўзабаве пагасне, —
То вольная рыбіна плаўнікoм вострым плясне,
То вясло рыбакова. Незвычайным калёрам
Аксамітным, а ці апалам, што сцёрлі хвалі,
Вечар на дол сплывае, хілячыся да рэчкі,
На паром, што ад беражыны ў бяссоным запале,
Адплывае, цягне змрок за сабой, без вуздэчкі...
Гукае сава ўжо сваю зводніцу жалю.
Рэчка запаліць зоркі — пазычаныя свечкі...

## Аўгіння Кавалюк

*(г. Пецярбург)*

# ГРОДНА

Вяртаеш ты мяне ў дзяцінства,
мой горад.
Дыханне вечнага адзінства
гаворыць:
ты вечны, ты вечны,
як погляд, як песня, сардэчны.
Шумлівы і ціхі, як Нёман,
мой самы найлепшы знаёмы.

## Міхась Кавыль

*(Слуцк — ЗША)*

## ЖУРАЎЛІ

Ля далёкай заморскай зямлі,
Дзе сады зелянеюць узіму,
Без трывогі ляцяць жураўлі
На сваю дарагую радзіму.

Каля Нёмана, лесу наўскрай,
Абкурлычуць прыгожае лета,
А увосень у сонечны край
Зноў у вырай ляцяць паміж дзетак.

А куды мне падацца, куды?
Ці ж навек прысмактала чужына?
Дзе ж напіцца «жывое вады»,
Камень цяжкі каб з сэрца нізрынуў?

Жураўлі, мае сёстры, браты,
Як не выстаю, сум мо задушыць,
Па дарозе ў Святую Святых
Захапеце з сабой маю душу.

## Мацей Юзаф Кананові́ч

*(Польшча)*

## НАД НЁМНАМ

Выспа пяску,
Сапхнутая хваляю ў росны луг,
Капытоў негатывы зафіксавала.

Бярозы, што цені свае пасуць,
Спіхваюць яе з адхону
Да вадапою.

Конь
Цалуе пысу сваю
Праз шкло вады
І глядзіць са дна азярыны
На стэп небакраю,
На цьмяна-срэбраную падкову,
Якую ў галопе згубіў
Пегас.

Крывавае вока сонца,
Узгоркам прымружанае,
Падглядвае голых дзяўчат,
Што ўваходзяць у плаўкае золата,
У цішу вады,
У маўчанне аеру.

А я
З вокан высокіх гляджу
На ўсход гарадскіх неонаў —
Можа, сны
Павядуць мяне да вадапою,
Каб смагу спатоліць мог
Трывожным золатам.

## Юліян Корсак

## ДА НЁМНА

Мой Нёман ваданосны, рэк ліцвінскіх княжа!
Твае крыніцы не ўтапіліся ў балоты!
Ды слынныя твае дзе сёння вайдалоты?
Хто словы, вартыя цябе, у песню звяжа?
Дык дзе ж яны, хіба яны цябе забылі?
Дзе той пясняр-салоўка з курганка Марылі,
Што праслаўляў твае і воды, і даліны?
І ён цяпер у свеце, за мяжой краіны!
Мой Нёман, дзе на берагах тваіх русалкі,
Цнатлівыя, нібы нарцысы і фіялкі?
Бо колькі не відаць пры бляску поўні зораў

І колькі перлін збелена ў пяску пры моры,
То столькі і дзяўчат ля Нёмана свяціла.
Куды, якая вас адсюль прагнала сіла?
На кім спыніць мне сёння сплаканае вока?
Вас тут няма — мая ж адсюль ужо далёка!

Мой Нёман, родная рака, дзе тыя воды,
Дзе рыцар рваўся на турнір з якойсь нагоды?
Дзе замкі ўсе твае, што, ўзняўшыся шыкоўна,
Страчалі ворага з пагрозай рызыкоўна?
Сягоння курганы руіны іх схавалі,
Засыпаўшы й даспехі чужакоў глыбока.
Мястэчкі, замкі ўсе цябе папакідалі,
Даўно твой бераг дуб вартуе адзінока.
О, дуб, напэўна, шчасны на далінах Нёмна!
Ці ранак шле святло, ці ноч імгліцца цёмна,
Зямлі ён дзячыць, дзе старэў і чуў свабоду,
Зялёным ценем аздабляе месца роду.
І хоць ад перуна ён часам палымнее,
Зіма раздзене лісце — зноў зазелянее.
Стары зімой — юнець увесну пачынае,
Зноў зелянінаю скронь голую вянчае.
Не ўсім такое час кладзе на лёсу шалі!
Даецца раз з паходняю жыцця надзея:
Не ўстануць мур і замак, раз яны упалі,
Гніе жалеза — чалавек не маладзее.
Літвы люстэрка ты, мой Нёман крышталёвы,
Ў цябе ліцвінская зямля, лугі, дубровы
Глядзяцца, бы ў люстэрка гладкае дзяўчаты,
Калі йдуць на бяседу ў радасныя святы.
Мой Нёман, бачыў я: цяжкія лодкі лёгка
Плылі па воднай роўнядзі тваёй далёка,
І бачыў, як ты ў непраходным лесе гінуў,
І дзе Маўчадка аддае табе даніну,
Дзе Вілію ў абдымках пазбаўляеш волі.
Так горача цябе я не вітаў ніколі!

Мой Нёман, і які ж ты ціхі — здэцца, водам
Здрамалася, здарожаным сваім паходам.
Як люба на цябе глядзець мне вечарамі:

У павалоцы мглістай пацямнелі хвалі,
Чарнеюць берагі цяністымі барамі;
Меланхалічна салавей выводзіць жалі,
І галасы прыроды з ціхім водным шумам
Суладна ўтораць так маім вячэрнім думам!
Табе я ўдзячны —
ды тут зайздрасць прымяшана:
Ты сябра лепшага забраў неспадзявана!
Бо з дапамогай рупных вёслаў барка
Мяне на бераг іншы перанесла шпарка.
На тым — дні лепшыя мае ўжо засталіся,
На тым — салодкіх слёз крыніцы праліліся,
Там піў нектар я райскі дружбы і кахання.
Усё прайшло, як мрояў сны прайшлі зарання.
Здалёк блішчыш мне ўночы хваляю сваёю.
Блішчыць за мной мінуласць — прышласць прада
мною.
Страчай мяне, страчай тым часам, краю новы!
Бывай, мінуласць! Нёман мой, бывай здаровы!

*1825 г.*

**Юсцінас Марцінкявічус**

*(Літва)*

## ТУМАН НАД НЁМАНАМ

Ці ёсць дзе яшчэ той бераг,
Ці ўсё замыкаецца кручай,
Дзе падаюць сны, што верацъ
Яе вышыні падучай...

І дзіўна дайсці да краю,
Куды ты дайсці не марыў.
Варонняя каркае зграя,
Нібыта чакае кары.

Сэрца, прыціхні, замоўкні,
Табе яшчэ трэба трымацца —

Ляцець праз туману валокны,
Падаць і ўвысь уздымацца.

Чуеш — парушыў цярпенне,
Гудок парахода за кручай,
Ступілі ў ваду каменні —
І стала адразу балюча.

Кропля ў тумане глыбокім
Выблісне, як крышталік.
Здаецца Нёман здалёку —
То велікан, то карлік.

Сэрца, прыціхні, замоўкні,
Табе яшчэ трэба трымацца —
Ляцець праз туману валокны,
Падаць і ўвысь уздымацца.

## Эўгеніюс Матузявічус

*(Літва)*

## БРАТАМ-БЕЛАРУСАМ

Хай гэтыя сціплыя словы
Ляцяць да сяброў напраксткі,
Ў даліны, дзе Сожам вясновым
Разліўся нябесны блакіт;

Дзе Нёман у шлях яшчэ вузкі
Між ніў і балотаў бяжыць;
Дзе ў хатах сяброў беларускіх
Заўсёды гасціннасці жыць;

Дзе спяць курганы у абдымках
Стагоддзяў, і сцелецца лён.
Так часта спяшаюся ў думках
У край ваш, браты, на паклон.

Ніяк не магу надзівіцца
На клёнаў зялёныя сны,
На холад крынічнай вадзіцы
І восені пах аржаны.

Вас клічам! У холад і ў спёку
Між намі сяброўства жыве.
І чуе Літва, як здалёку
Па Нёмане песня плыве.

## Эдуардас Межэлайціс

*(Літва)*

# ПЕСНЯ ПРА НЁМАН

Ціха, ціха Нёман коціць воды...
З даўняй народнай песні

Ціха, ціха Нёман коціць воды,
Помніць ён: араты ля вады
Горбіцца за плугам год ад году
І не можа заараць бяды.

Зрэбная кашуля ў шэрых латах,
Твар ад поту цёмны, як радно...
А каму паскардзіцца араты?
Хіба бацьку Нёману адно.

Нёман чуў: зямля яго стагнала,
Змучаная бурамі наўсцяж,
І ўздыхаў ён сам тады, бывала,
Сам ён гнеўна плакаў, бацька наш.

Акрыяў ён, Нёман невясёлы,
Вырваўся з гнятлівага ярма:
Тых палосак, што душылі сёлы
Тут, на берагах яго, няма.

Шлях свой доўжыць у палях бяскрайніх,
Чуе ён з-за ўзгоркаў і дуброў
І жалезную хаду камбайна,
І стальную песню трактароў.

Краявіды нашы цешаць вока,
Ён раней не бачыў сапраўды,
Каб квітнела так усё навокал:
Сенажаці, нівы і сады.

Цвет вішнёвы, пах пладоў і хлеба
Сіні Нёман Балтыцы нясе,
Сіні Нёман, як зямля і неба,
Ззяе сам у велічнай красе.

У дачкі старэйшай ён пытае:
«Што, Нярыс, з дарогі скажаш ты?» —
«Родны край наш, бацька, расцвітае,
Больш няма галечы і бяды».

Нёман сына прывітаў, пытае:
«Што, скажы, Нявежыс, бачыў ты?» —
«Родны край наш, бацька, расцвітае,
Больш няма галечы і бяды».

Нёман у дачкі другой пытае:
«Што пабачыла, Дубіса, ты?» —
«Родны край наш, бацька, расцвітае,
Больш няма галечы і бяды».

Рады небу, светламу заўсёды,
Па зямлі прыгожай, як кілім,
Коцяць воды, ціха коцяць воды
Брат і сёстры з бацюхнам сівым.

## Мікола Мятліцкі

# НЁМАН

Чаруеш слых бруёй гуллівай, Нёман,
Вартуючы стагоддзяў чараду.
На бераг, сэрцу з юні дзён знаёмы,
І я, вандроўнік сцішаны, іду.

Тут захаваны між лясін, курганняў
Душа адкрые знаны ўсім куток.
У хвалях — гул легендаў і паданняў.
У іх, мой Нёман, светлы твой выток.

Як здані продкаў, белыя аблокі.
Дубы-асілкі абступілі плёс.
Ты воды коціш, плыткі і глыбокі,
Люструючы майго народа лёс.

Не раз аседлы клопат чалавечы
Вайна змывала хваляй агнявой,
І плёс рачны у часе грознай сечы
Барвяна граў, бо заплываў крывёй.

Ды ў пору жыццядайнае пуціны
Па срэбры небна чыстай зіхаты
Пагналі русачубыя ліцьвіны
З тужлівай песняй смольныя плыты.

У скрутах дзён суровых не надломан
Жыве народ над вечнаю ракой.
Душы яго збалелай дорыш, Нёман,
Па вечарах спатольны супакой.

Табе грымець паводкай на прадвесні,
І ведаю дакладна, што, буян,
Не Балтыку — а Коласавай песні
Магутна поіш вечны акіян.

## КАНВАЛІІ

Лісцвяна май царуе на зямлі,
Сугрэўна млее ў слодычнай утоме.
Канваліі ў бярэзніку на строме
Над Нёманам бялютка зацвілі.

Званочкі іх залоцяцца ў расе
У зумка струннай музыкі ў палоне.
На прахалодна сцішанай далоні
Таемны цуд вясна душы нясе.

Канваліі! Іх свежасць дорыць мне
Узрушанасці велічнае свята.
У новых вёснах вусцішная страта,
Мне верыцца, іх згубна не кране.

Віруе Нёман, дарачы спакой,
Купае ў плёсе сонца агнявое.
Той крохкі цуд, святло яго жывое,
Над плынню часу, быццам над ракой.

Нясуць душу аблокаў караблі
У белы гай з бетонных стром Нямігі
Туды, на Нёман. Там з Чырвонай кнігі
На мокры дол канваліі сышлі.

**Генадзь Пашкоў**

## АД РАДЗІМЫ НЯСТОМНАГА СЭРЦА

За Уздой ля Магільнага
Нёман — малы,
ды адсюль набірае разбег
адмыслoвы,
і пра тое пасведчыць
высока ўгары

пад нябесным скляпеннем
касяк журавовы.

Вербалоз і альхоўнік
па голле ў вадзе.
Разышлася паводка,
кіпіць па аеры.
Заквітнелася лотаць.
Пчалінка гудзе...
І такая сінеча
                    без краю і меры!

Круцяць пенныя колы
вакола
віры,
жыватворнасць нясуць
ад зямлі і ад неба.
І чуваць на пагорку
і чутна ў бары,
як трывогай развесненай
дыхае глеба.

— Нё-ман! Нё-ман! —
                    гукаю.
Падхопіць рака
і ад хмары грымотай
                    здалёк адгукнецца.
Не загінь!
Не згубіся!
Пульсуй у вяках
Ад Радзімы нястомнага сэрца!

## ГУДЗЕВІЧЫ:
## МАЙ, ТУМАН АД БЭЗУ

Заблудзіся ў бэзавым тумане
і пачуеш ля прыціхлых хат,
як звініць,
            звініць — не перастане —
вечаровым звонам саду сад.

Ацішэў,
залёг пасля паводкі
загуляка Нёман у траве.
На зямлі радзімай дым салодкі,
і туман шчаслівы ў галаве.

З жытняй песняй хлебасольна прымуць —
кожны госцю ў Гудзевічах рад —
дзядзька Белакоз і дзядзька Клімуць,
і яшчэ ёсць дзядзька —
дэпутат.

Як нашэсцяў лютыя навалы
дарагога знішчыць не змаглі,
як такія песні захавалі
і душу такую зберaглі?!

Тут да продкаў блізкія дарогі,
тут пралёг у будучыню шлях,
бо усіх эпохаў перамогі
апявае вецер у палях.

Тут хлапчына, чарамі абняты,
як усе паэты, па начах
падымае ў млечны космас хаты
з глыбінёю Нёмана ў вачах.
Салаўю жалейка падпявае, —
і такі у песні гэтай клёк,
што да слёз пяшчотаю кранае
уватканы ў пояс
васілёк.

Ад любві не раздзімай пажару,
а схілі ціхмяна галаву,
пакланіся ў пояс хлебадару,
пакланіся нізка салаўю.

І прасі ў апошні дзень…
Як літасць,
як глыток апошні,
папрашу:

не з нагоды нейкай
урачыстасць —
гэты май хай вернецца
ў душу...

## Язэп Пушча

## СВЕТЛЫ НЁМАН-ЧАРАДЗЕЙ

Бор шумлівы, не маўклівы,
Сосны ў тлумнай чарадзе,
І плыве, плыве імклівы
Светлы Нёман-чарадзей.

Сінявокі і глыбокі,
Сілу хваль нясе у даль.
Вербы п'юць жывыя сокі,
Ловяць сонечны крышталь.

І не гасне ў лоне ясны,
І не вылавіць нічым.
Казку-песню дзён сучасных
Аклікае далячынь.

Заначую і пачую,
Казка-песня, голас твой.
Заспяваць з табой хачу я
Перад зоркай залатой.

Золак зоранькі вясёлай
У невад ловяць рыбакі.
І ліецца ў песні слова
Хваляй казачнай ракі.

І чаруе, і хвалюе
Вольны Нёман-чарадзей,
Абнімае і цалуе,
Моцна туліць да грудзей.

## Алесь Салавей

*(Койданава — Аўстралія)*

### ВУСА — ПРЫТОК НЁМАНА

Вось і яны, мурожныя лугі,
што хараством нязгасным вабяць вока.
Ля іх, у сценях лозаў, — берагі
ракі Вусы — дзе плыткай, дзе глыбокай.
Бягуць да берагоў тых праз лагі
крыніцы, поўныя зямнога клёку.
А з неба ў люстры водаў, як багі,
адсвечваюцца белыя аблокі.
Вуса, Вуса! Ці помніш, як вясной
тваім я захапляўся ледаходам?
А ўлетку у абдымкі плынных водаў
ныраў і дна кранаўся галавой?
Ці помніш, як па коўзкай гладзі лёду
на спрытных коўзнях бегаў я зімой?

## Сяргей Сокалаў-Воюш

*(Беларусь—Прага)*

### ДОЖДЖ НАД НЁМАНАМ

Ад халоднага ветру
Затрымцела лістота.
Вецер ногі ублытаў
У кусты ля вады.
А па Нёмане скача
Дождж у гумавых ботах,
Патанаюць у хвалях
Перуновы сляды.
Плыт, сутоннем спавіты,
Плыт, заліты вадою,
Смокча вільгаць вяхотка
Пад нагой ля кармы.

І нікога навокал,
Толькі гэтыя трое
На прамежку адзінства:
Нёман, неба і мы...
Слепне дождж паступова,
Дзікі шал яго стыне,
І дажджынкі на травах,
Як празрысты гарох.
А Ярылавы коні
Цягнуць пысы да плыні,
Лашчаць грывай-вясёлкай
Узбярэжны мурог.

## Юрась Свірка

## ЗА МАСТАМІ

Мяне Нёман сустрэў, як свайго,
Адазваўся з-пад берага глуха.
Першы раз я прыйшоў да яго
Плёскат хваляў паслухаць.

Нёман ціха на бераг паўзе:
Прытаміўся за лета.
Прадчувае, што там, у лазе,
Падслухоўвае нехта.

І хоць птушка нідзе не крычыць,
Ён угледзіцца ў цішу начную,
А тады доўга смокча карчы
І каменне цалуе.

Вымывае карэнне дубоў
І са дна часам выкаціць каску.
Ён да мора бяжыць, як дамоў:
Мабыць, хочацца ласкі.

## Якаў Хелемскі

*(Расія)*

* * *

Неман, Нямунас, Нёман —
Гэта назвы ракі,
Сосен стрыманы гоман,
Плёскат хваль ды пяскі.

Тры суседнія мовы
Тут сябруюць здаўна.
Тры падобныя словы
Плынь злучыла адна.

Праз палі-нівы ўдалеч
Люба, радасна плыць!
Ці то музыка хваляў,
Ці то мова гучыць?

Тут рака ў сонцы веснім,
Ці сустрэча дарог,
Дзе, як спадчыну, песні
Кожны бераг збярог?

Тут паэзіі тайна
У кожным сіні віры —
І літоўская дайна,
І «Лявоніхі» рытм.

Як хвалюе світаннем
Гоман хваляў і лоз
Кожны ўсплёск, быццам танец,
Ціхі, песенны плёс...

То задумна, задорна
Адзавецца струна,
То па-руску, раздольна
Зазвініць быстрыня.

Неман, Нямунас, Нёман,
Верны друг наш і брат,
Цябе любім усе мы,
Кожны родзічу рад.

Назвы тры ў адно зліты
З трох сугуччаў і моў
Спалучэннем блакіту
Трох народаў-братоў.

## Ганад Чарказян

## НЁМАН-АХА

Нёс я, Нёман-аха*, паклон
Ад замроеных стромаў Сіпана,
Каб прыняць твой зялёны палон
І пакорліва і ўсхвалявана.

Пра цябе мне шумеў Араз
На смуглявай маёй радзіме.
Той, хто ўбачыў цябе хоць раз,
Толькі й выдыхнуць зможа:

— Разі́мэ!**

Нёман,
Ты плывене праз вякі
З-пад рукі ў лагодлівых даляў.
І ў паглядзе маёй дачкі
Чую водплеск нястомных хваляў.

---

* Аха (курдск.) — спадар, пан
** Разімэ (курдск.) — дзякуй.

## Віктар Шніп

* * *

Тут, дзе Нёман цячэ,
Тут Айчына мая.
Тут ля Нёмана гай,
Нібы Храм салаўя,
Што яшчэ тут жыве,
Як жыве мой народ,
Не згубіўся які
Між лясоў і балот.

І пакуль я жыву,
І пакуль я хаджу,
Я ў рачныя віры,
Як у вечнасць, гляджу,
І там бачу свой Край,
І там бачу зямлю,
Без якой я нішто
І якую люблю,
Так як волю люблю,
Без якой нам не жыць
Тут, дзе Нёман цячэ,
Дзе бярэзнік шуміць...

* * *

На хвалях Нёмана
гайдаюцца
чаўны.
Нібыта рыбы невядомыя, яны
На веснім сонцы грэюць чорныя бакі
Пакуль да Нёмана спяшаюць рыбакі.
І вецер
над чаўнамі
разганяе сон,
Дзе снег яшчэ пад дрэвамі, нібы Харон,
Які забыўся хто ён і адкуль прыйшоў,

I ўспамінаючы,
знікае з берагоў...
На хвалях Нёмана
гайдаюцца
чаўны,
Нібыта гнёзды нёманскай вясны.

## Павел Шруб

## ЛІЦВІНЫ

Дубы каля Нёмана
помняць
(павінны!),
як біліся з ворагам
калісь ліцвіны...
Помняць у генах
рахманыя коні
подых гарачы
шалёнай пагоні...
Дзе ж вы, ліцвіны,
дзе вы?

Зашамацелі дрэвы,
заіржалі коні:
яны помняць —
народ
не помніць...

## Анатоль Шушко

## НЁМАНУ

Вось і сустрэліся з табою,
бацька Нёман, —
Тваіх абдымкаў ласку пазнаю...
І мне здаецца: мы даўно знаёмы,
Бо хвалі расцалоўваюць мяне.

Дык дзякуй!
Хоць не дома я,
Ды — дома,
У беларускай роднай старане.

## Мікола Шабовіч

* * *

Хачу на Нёман,
да дубоў тваіх —
Ты часта мне
расказвала пра іх.
Пра тыя сцежкі,
тыя лазнякі,
Што ткуцца-ўюцца
густа ля ракі.
Хачу пачуць,
што жаўранак пяе –
Мо ў песні
словы чуюцца твае:
«Ты да мяне
на Нёман прыязджай,
Там нас чакае
дзядзька Мікалай,
Чакаюць тата,
мама,
дзве сястры.
А там, дзе поплаў
жмурыцца ў смузе,
Стаіць наш бусел
на адной назе...»
Хачу на Нёман,
да дубоў тваіх,
Дзе нам не быць
ніколі
удваіх...

## Аляксей Пяткевіч

# МОЙ НЁМАН ПРАЗ ГАДЫ

З маленства люблю рэчку, жывую плынь яе вады. Ёсць у гэтай з'яве нешта таемна-роднае, што грэе душу і будзіць светлы смутак...

Невялікая рэчка цячэ зусім блізка перад нашаю хатаю ў Новым Свержні, і мы з сястрою, малыя, седзячы падоўгу на лаўцы ля палісадніка, глядзелі на ваду. Гэта, калі бацькоў не было дома, і нам дазвалялася выходзіць за веснічкі, толькі каб пасядзець на лаўцы. Я яшчэ любіў класціся на лаўку бокам і ў такім становішчы назіраць за рэчкаю. Яна тады здавалася казачна шырокаю, малазнаёмаю. Хаця наша рэчка, што выцякала непадалёк праз застаўкі млына з невялікай таксама Жацераўкі і мела прызначэнне круціць драўлянае кола млына, была вузкаю і мелкаю. Але з гадамі яна вырабіла прыемнае жвірыстае дно, перад нашаю хатаю шыракавата расцякалася і была для нас, навакольных хлапчукоў, найлепшым месцам, дзе бавілі час ад вясны да восені. Тут мы няспынна плюхаліся ці лавілі рыбу, найбольш калюшак у глыбейшых месцах (на дубец-нітку з чарвяком і ў ваду), шукалі і затым калекцыянавалі розныя па колеры і форме каменьчыкі, ляпілі з шэра-сіняга рачнога глею фігуркі звяроў і жывёл. Любілі рэчку ўсе, нават наш стары кот, які цярпліва хадзіў за мною, па беразе, калі я лавіў калюшак. Нярэдка ж у добрае сонечнае надвор'е, асабліва ціхім падвячоркам ён сам выходзіў на промысел. Асцярожна перабіраўся па каменьчыках, што выступалі з вады, да сярэдзіны плыні, выбіраў месца на мелкаводдзі-перакаце, дзе рыба рухалася марудна, усаджваўся на маленькім камені, умяшчаючы на сухой яго частцы кончыкі чатырох лапаў, і застываў у чаканні. Часам пачынаў працяжна мяўкаць ад адчаю, што ласунак не паяўляецца. Калі ж рыба наближалася, імгненна выкідваў уперад лапу і, не зважаючы на прыкрую для катоў водную працэдуру, чапляў кіпцюрамі здабычу.

Рэчка перад хатаю вабіла і таму, што ўлівалася ў вялікі і мала даступны тады Нёман. Ён, праўда, знаходзіўся досыць блізка. Дастаткова было, падскокваючы, прабегчыся вулачкаю, што пятляла па беразе рэчкі, уніз па яе цячэнні, мінуць апошнія хаты і спыніцца ля канцавой на гэтай ускраіне сядзібы Кандыбовічаў, як перад табою адкрывалася шырокая лугавіна, блізкі бераг Нёмана, бялюткія пясчаныя горкі старажытнага замчышча на тым баку ракі і далей цёмна-зялёная загадкавая паласа лесу. Але гэта было для малых забароненая зона. Рэальны Нёман з яго пявучай паэтычнай назваю жыў пакуль у хатніх гаворках дарослых, якія ўспаміналі яго вельмі часта, што не дзіўна, бо мястэчка Новы Свержань раскінулася літаральна на яго беразе. Таму самыя розныя гаспадарскія клопаты звязаны былі з Нёманам. Мы, малеча, сустракаліся з ім твар у твар хіба што толькі падчас ранняга крыгаходу, калі мацяркі прыводзілі нас на грэблю каля моста, які вёў на Акінчыцы, каб палюбавацца на стыхію. Цікава і страшнавата было глядзець, як напаўзаюць на ледарэзы, ахоўнікі моста, велізарныя крыгі, як, ломячыся на кавалкі, прарываюцца да яго апораў, як дробненька дрыжыць гэты стары драўляны высокі мост, як імкліва рвуцца ўперад струмені вады, пераварочваючы ільдзіны з умерзлымі ў іх часам кустамі і купінамі, пакідаючы на беразе падушкі бела-рудаватай пены, што няспынна варушылася, нібы жывая. Нашы маладыя мамы пужліва тулілі нас да сябе, аберагаючы ці то ад золкага подыху ледзяных глыбаў, ці то ад усякай напасці, што міжволі нагадвала зараз пра сябе. А неўзабаве ішла вялікая вада — разліваўся Нёман. Яна залівала і лугавую пойму, і цэлыя вуліцы з падворкамі і агародамі, у тым ліку і нашу вулачку. Прыходзіла ў двор, нават мінала ганак, і тата загадзя рабіў масткі, што вялі з ганка глыбей у двор, на вышэйшае месца. У хату вада прыходзіла рэдка. Распавядалі толькі, што калі я нарадзіўся, мама паспела спаласнуць пялёнкі ў хатняй вадзе, пакуль сям'я перабралася да суседзяў Чабатарэвічаў. У паводку міма нашай хаты плылі на чайках тыя суседзі, якія жылі на нашай вулачцы бліжэй да Нёмана — Карпоцкія, Чыневічы, Сабалеўскія. Іх хаты

стаялі на пагорку і цяпер апынуліся на выспе. На чайцы я з татам не раз наведваў бабулю, хата якой была ў канцы вуліцы Румовай і зараз таксама стаяла на выспе. Дзіўнавата было глядзець з чайкі на зеленавата-жоўтую ваду і бачыць праз яе тоўшчу знаёмую пясчаную дарогу, па якой летам не раз бегаў да бабулінай хаты.

Падросшы, пайшоўшы ў школу, мы зведвалі Нёман зблізку. Яшчэ вясною, калі сплывала вялікая вада, Нёман уваходзіў у свае берагі, а на лузе ў нізінах заставаліся велізарныя азёры, мы кідаліся ў гэтыя азёры, падымаючы фантаны пырскаў. Так прыемна было пабегаць па мелкай стаячай вадзе, сагрэтай веснавым сонцам. І само гэта доўгачаканае сонца, і шырокі водны прастор, бліскучая жаўцізна лотаці, якая цягнула з вады свае галоўкі-кветкі і ўтварала на яе паверхні суцэльныя дываны, што пахлі непаўторным водарам вясны, — усё цешыла, як магла толькі цешыць утульная і лагодная цяплынь роднае мясціны.

Мы рана навучыліся плаваць, ныраць, затрымліваць падоўгу пад вадою дыханне, вывучаць адкрытымі вачыма рачное дно. Зведалі да драбніц геаграфію і тапаграфію Нёмана і яго берагоў і зусім не задумваліся над тым, што ж абазначаюць розныя дзіўныя нёманаскія тапонімы. Напрыклад, уверх па рэчцы, калі выбегчы з нашай вулачкі, цягнулася паласа рэчышча з назваю «Тамаванне». Тут было калісьці асабліва глыбока з левага берага, і глыбіня была змрочна-чорнаю ад тарфянога цёмнага дна. Тут купаліся дарослыя. Вышэй за паваротам ракі — «Галубятнік», дзе больш лавілі рыбу, але таксама купаліся. Бераг быў высокі, і з яго так зручна было даваць нырца. Але найбольш быў абжыты намі Нёман на «Гарманаўцы», насупраць старых, зарослых хвойнікам яўрэйскіх могілкаў (назва — ад прозвішча «пана Германа» віленскага гараднічага, дзяржаўцы мясцовага двара, які ў 1495 годзе набыў Літавор Храптовіч). Гэта ўжо быў час, калі маё пакаленне незаможных местачкоўцаў узяло ў рукі пастушковую пугу, а на плячо палатняную торбачку з паўлітэркам малака і кавалкам хлеба і мела неўзабаве пад апекаю цэлыя статкі, каб зарабіць на зіму жыта і дакласці свой сціплы ўнёсак у сямейны бюджэт.

Я стаю сёння тут, на беразе Нёмана, і бачу сябе і сваіх сяброў у летнюю гарачыню, калі плыве-пераліваецца ў паветры спякотнае марыва, калі кароў на гэтым аб'едзеным ужо лузе цяжка ўтрымаць тым больш, што іх даймаюць сляпні і авадні. А нам ніяк не хочацца вылазіць з вады. І мы плаваем-боўтаемся да пасінення, пакуль не рашымся перагнаць сваіх рагуль праз бліжэйшы Фарфурніцкі брод на той бок (тут была ў 2-ой пал. XVIII ст. мануфактура Радзівілаў па вырабе фарфоравага пасуду), каб прыпасвіць на чужой, старасвяржэнскай сенажаці, а самім паесці да аскомы на зубах яшчэ няспелых, але такіх буйных і смачных парэчак, што хаваліся тут у прыбярэжных зарасніках. Я сёння бачу, як уцякаем мы ад раптоўнага дажджу ў Нёман, папярэдне схаваўшы адзенне ў берагавую нішу, і вада здаецца цяпер, калі дождж палівае толькі галаву, на дзіва цёплай і ласкавай. Я бачу, як сядзім мы на гэтым беразе раніцаю. Каровы дружна скубуць росную, хаця і маленькую, нібы састрыжаную траву, а мы, сціснуўшыся ад холаду і недаспанай ночы, забаўляемся рознымі гісторыямі. Часцей я пераказваю, каторы ўжо раз, М. Гогаля («Вій», «Страшная помста», «Тарас Бульба») з адной з першых і любімых маіх кніг, што былі ў нашай хаце.

Я доўга стаю на Гарманаўцы каля Фарфурніцкага броду, гляджу на ваду, узіраюся ў бераг, нібы шукаю свае даўнія сляды... Дзе ты, чарнагаловы худзенькі хлопчык з парэпанымі, збітымі да чарнаты нагамі? Дзе ты дзеўся? Дзе ты, мой Нёман? Рака звузілася і моцна змялела. Там, дзе калісьці плылі нашы каровы, а мы з імі (зноў жа, каб папасвіць хоць крыху на чужой дагледжанай сенажаці), падграбаючы адной рукой, бо ў другой быў скрутачак з адзеннем, там я зараз лёгка пераходжу на другі бок, і вада дастае мне толькі вышэй калена. Іду берагам вышэй цячэння, бо мая рака і там, дзе Галавенчыцкі брод, дзе Высокі востраў і за ім Нізкі востраў, аж да Дворнага вострава. Далей ужо былі ўладанні хлопцаў з Мікалаеўшчыны, з якімі мы не раз уступалі ў баявыя канфлікты. У гэтых мясцінах Нёман асабліва звілісты і суровы, хуткая тут яго плынь, глыбокія віры. Але і тут, далёка ад Свержна, у кожнай мяс-

ціне мы купаліся, збіралі ажыны ў лазовых хмызняках, зразалі жаўтаватую і мяккую ўвосень ракіту на кашы, якія выштукоўвалі на розныя гаспадарчыя і дэкарацыйныя патрэбы. Праўда, цяжка пазнаць гэтыя берагі, так заралі яны кустоўем і непрывычна вялікаю асакою. А за Высокім востравам, на якім калісьці многа было арэхаў, тырчыць недарэчны тут комін нейкай установы — турысцкай базы ці прафілакторыя. Я не пайду туды ніколі, не пайду паглядзець на гэты чужы мне будынак. Я іду берагам свае ракі і зноў, як зачараваны, гляджу на ваду. Змяніўся ты, мой Нёман. Але мусіць таму, што змяніўся і я, мы змяняліся разам. А калі казаць шчыра, то найбольш змяніўся я сам. Пастарэў і не пабягу, падкідаючы пяткі, як калісьці, па гэтай вось сцежцы каля вады.

Я іду і думаю, што мінае лета, і пара мне вяртацца ў Гродна, туды, дзе прайшлі дзесяцігоддзі жыцця, дзе мая сям'я, праца, сябры і... Нёман. Так, Нёман, таксама блізкі, зведаны, але зусім іншы — шырокі, хуткаплынны, з высокімі крутымі берагамі, праз якія перакінуты ў межах горада чатыры масты. У часы мае маладосці мы сям'ёй любілі прыходзіць на высокі бераг яшчэ чыстай тады ракі. Тут, у прыгарадным лясным масіве Пышкі можна было сустрэць у выхадны дзень шмат знаёмых. Купаліся, загаралі, адпачывалі. Я любіў паплаваць. Аднойчы нават рашыўся пераплысці на другі бок, і цячэнне знесла мяне далёка. Прыемна было часам, адарваўшыся ад штодзённых клопатаў на пачатку лета, пад'ехаць сюды аднаму, каб паляжаць на сонцы: не хадзіць жа летам па горадзе з белай шыяй і белымі рукамі. У такія часіны адзіноты, калі заставаўся сам-насам з Нёманам, калі цішыню парушаў толькі лёгкі шум соснаў над галавою, далёкае кукарэканне пеўняў з прырэчнай вёскі на тым беразе ды зрэдку гул бела-блакітнага, нібы цацачнага цеплахода або цягавітай баржы, што везла горы пяску і жвіру, начэрпаных з рачнога дна, тады думалася, што гэтая вада прыплыла адтуль, зверху, яна абдымала мой Свержан, яна — працяг таго Нёмана...

Даўно не хаджу я ў Пышкі, на высокі бераг ракі, за які ўчапіліся магутнымі каранямі выносістыя сосны.

Даўно не езджу там, паўз бераг на лыжах, не злятаю з берагавой круцізны ўніз, на рачны лёд, укрыты снегавым футрам. Ды і снегу цяпер у Гродне амаль няма. Толькі калі праязджаю ў тралейбусе цераз мост у любую пару года, абавязкова паварочваюся так, каб убачыць Нёман. Яна патрэбна мне заўсёды, рака майго лёсу. Так дзіўна і так стала трымае мяне жыццё на яе берагах. Нёман для мяне адзіны — той свяржэнскі і гэты гродзенскі. Але яны розныя, як розныя юнацтва і старасць. Вядома ж, мяне мацней кліча той Нёман. І я прыязджаю і буду прыязджаць, пакуль трымаюць ногі, да яго на сустрэчы.

Вось сёння стаю ля самай вады на Гарманаўцы, і няяснае пачуццё жалю, дабрыні і ўдзячнасці агортвае мяне. Гэтак жа пахне травяністы бераг ракі, гэтак, як калісьці, гайдаюцца пад вадою водарасці, гэтакі ж смак вады, хаця яна стала і не такою чыстаю нават тут. Галоўнае, што плынь вады ў гэтай мясціне так многа гаворыць мне пра жыццё, пра яго вечны рух. Я буду вяртацца да цябе, Нёман. Спачатку пастаю каля сваёе свяржэнскае хаты, у якой ужо няма каму жыць, каля маленькае сваё рэчкі. А затым вулачкаю, якая моцна разбудавалася, выйду на твой бераг і доўга буду глядзець на спакойную плынь вады. Мне падасца, што Нёман нячутна мяне прывітаў.

# ЗМЕСТ

## САЛАЎІНАЕ НАДНЯМОННЕ

## «ОЙ, НЁМАН, І СЛАВА, І ПЕСНЯ...»

## «РАКА НАША СЛАЎНАЯ НЁМАН...»

## «ХТО МАР НЕ ЎПЛЯТАЎ У ТВОЙ ГОМАН, ТАБЕ ХТО ПАШАНЫ НЕ НЁС?..»

Літаратурна-мастацкае
выданне

**БАЦЬКА
НАШ
НЁМАН**

**Вершы, апавяданні,
нарысы, эсэ**

Укладальнік
***ХВАЛЕЙ
Яўген Іванавіч***

Рэдактар *А. М. Каляда*
Мастацкі рэдактар *К. С. Ракіцкі*
Тэхнічны рэдактар *Г. Ф. Дуброўская*
Карэктар *М. Ч. Пермякова*

Здадзена ў набор 18.04.2000. Падпісана да друку 10.11.2000. Фармат 84×108 $^1/_{32}$. Папера афсетная. Гарнітура школьная. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 26,88. Ул.-выд. арк. 26,44. Тыраж 2000 экз. Зак. 1084.

Падатковая льгота — Агульнадзяржаўны класіфікатар Рэспублікі Беларусь АКРБ 007-98, ч. 1; 22.11.20.200

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Юнацтва» Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку. Ліцэнзія ЛВ № 7, 20.12.1997 г. 220600, Мінск, Машэрава, 11.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.

Б 31 **Бацька наш Нёман:** Вершы, апавяданні, нарысы, эсэ: Для ст. шк. узросту / Уклад. Я. І. Хвалей; Маст. В. П. Свентахоўскі. — Мн.: Юнацтва, 2001. — 510 с. л. іл.: іл.

ISBN 985-05-0363-7

Гэты зборнік — гімн славутай рацэ Нёман.

Змест складаюць творы розных жанраў, у якіх услаўляецца не толькі наднёманская прырода, але і расказваецца пра вядомых людзей, што выраслі на берагах Нёмана, падаецца іх творчасць.

Чытача зацікавяць упершыню надрукаваны на беларускай мове краязнаўчы экскурс пісьменніка Уладзіслава Сыракомлі «Нёман ад вытокаў да вусця», гістарычныя эсэ Уладзіміра Кісялёва і Сяргея Галоўкі, творы паэтаў свету пра Нёман.

**УДК 882.6-93**
**ББК 84 (4Беи) 6**

## *МОЙ РОДНЫ КУТ*

Музыка *Ігара Лучанка*
Словы *Якуба Коласа*

*Мой родны кут, як ты мне мілы!*
*Забыць цябе не маю сілы!*
*Не раз, утомлены дарогай,*
*Жыццём вясны мае убогай,*
*К табе я ў думках залятаю*
*І там душою спачываю,*
*І там душою спачываю.*

*Вось як цяпер, перада мною*
*Ўстае куточак той прыгожа,*
*Крынічкі вузенькае ложа*
*І елка ў пары з хваіною,*
*Абняўшысь цесна над вадою,*
*Як маладыя ў час кахання,*
*Ў апошні вечар расставання.*

*Люблю цябе, мой бераг родны,*
*Дзе льецца Нёман срэбраводны,*
*Дубы дзе дружнай чарадою*
*Стаяць, як вежы, над вадою...*
*Мой родны кут, як ты мне мілы!*
*Забыць цябе не маю сілы!*
*Забыць цябе не маю сілы...*

